

Антон Адамовіч зь сястрой

ліставаньня, паводле якога магчыма было б убачыць, чым насамрэч жылі тыя людзі, якімі праблемамі й надзеямі, як ацэньвалі сябе й сучасныя падзеі, заўсёды бракавала.

Захаваныя ў архівах БІНіМу лісты Антона Адамовіча да Натальлі Арсеньневай якраз і зьяўляюцца тымі важнымі матэрыяламі-сьведчаньнямі пра жыцьцё й памкненьні прадстаўнікоў інтэлігенцыі ў час вайны. Шаснаццаць лістоў, напісаных у пэрыяд з 14 сакавіка 1944 г. да 2 студзеня 1945 г. ахопліваюць, бадай, самы драматычны пэрыяд для беларускага руху ваеннага часу — своеасаблівы „пэрыяд страты надзеяў“. Магчыма менавіта таму згаданыя эпісталярыі ўяўляюць сабою надзвычайную каштоўнасьць.

Напэўна, няма патрэбы падрабязна спыняцца на даваенных біяграфіях Антона Адамовіча й Натальлі Арсеньневай. Інфармацыю пра іх лёгка знайсьці ў адпаведных выданьнях. Найбольш істотна, што на момант пачатку зьмешчанага далей ліставаньня гэта былі асобы, якія ўжо зрабілі сабе імя ў беларускім культурным кантэксьце, асобы з шэрагу беларускай інтэлектуальнай эліты, што ў свой час пацярпелі ад савецкай улады, а таму праца ў беларускім выдавецтве ў акупаваным Менску была іх натуральным сьвядомым выбарам.

У верасьні 1943 г. Антон Адамовіч быў вымушаны зьехаць зь Менску і ўладкавацца на працу ў невялікім нямецкім гарадку Фрэйбурзе недалёка ад Бэрліну. Гэтую працу, паводле сьведчаньняў самога былога працаўніка „Беларускай газэты“, складана назваць вельмі прэстыжнай, уплывовай: асноўны яе зьмест — пераклады. І сам Адамовіч ня мог успрымаць яе як нейкае падвышэньне па кар'ернай лесьвіцы, бо зьяжджаў зь Менску вымушана. Прынята лічыць, што прычынаю ад'езду стала знойдзеная ў ягоным стале міна, аднак у сваёй аўтабіяграфіі, што захоўваецца ў архіве БІНіМу, Адамовіч згадваў: *„У 1943 г., пасьля выдрукаваньня мною ў „Беларускае Газэце“ тэксту „Беларускае Марсэльезы“ паэты Ю. Сяргіевіча, словы якога, сьціраваныя супраць „прыблудаў“ акупантаў, немцы прынялі на свой адрыс, я атрымоўваю ад нямецкіх уладаў прапанову выехаць на працу ў Нямеччыну, бо мая праца ў Менску іх „не здавальняе“. Пакуль я думаў дзень над гэтаю прапановаю, у маім стале знайшлася міна, толькі выпадкам выкрытая адным супрацоўнікам за 20 мінут да выбуху. Пасьля такіх выразных „папярэджваньняў“ давялося згадзіцца на прапанову выезду ў Нямеччыну“*[1]. Такім чынам, і зь лістоў гэта выразна відаць, Антон Адамовіч зьехаў у Нямеччыну яшчэ й моцна пакрыўджаны на менскае нямецкае й беларускае кіраўніцтва, незадаволенае ягонай працаю й ім самім. Пра гэта, між іншага, піша й Арсеньнева ў сваім „Аўтабіяграфічным нарысе“[2].

Знаходзячыся ў Нямеччыне, Антон Адамовіч, паводле ягоных уласных словаў, меў даволі шырокае ліставаньне (17 адрасатаў), аднак самыя даўгія й шчырыя лісты ён пісаў менавіта Натальлі Арсеньневай. Пісаў ёй шмат, пісаў часам па некалькі дзён адзін ліст. Чаму? За часы працы ў рэдакцыі ў Менску абое адчулі блізкасьць сваіх творчых і чалавечых памкненьняў і пачуцьцяў, але ня толькі... Ужо самыя першыя лісты адкрываюць таямніцу асаблівага стаўленьня Антона Адамовіча да паэткі — ён быў закаханы ў яе яшчэ з маладых гадоў... Пачуцьцё юнацкай закаханасьці перарасло з часам у вялікую павагу, у адчуваньне духоўнага сваяцтва, роднасьці творцаў... І разам з тым праявы сапраўднага каханьня ў часе супольнай працы ў Менску заціскаліся, ня мелі магчымасьці для разьвіцьця, аб чым дзеяч, здаецца, шчыра пашкадаваў, апынуўшыся ў Нямеччыне.

Натальля Арсеньнева — на той час саракагадовая кабета з працяглым досьведам шлюбнага жыцьця. Мала вядома, як яна ставілася да маладзейшага за яе, 34-гадовага Антона Адамовіча. У яе аўтабіяграфіі ёсьць згадкі пра знаёмства ды працу ў рэдакцыі „Беларускай газэты“, калі яна *„баялася Адамовіча. Ён, як некалі Гарэцкі, здаваўся мне нечым вышэйшым, нейкім жыхаром Алімпу, ці што“*[3].

[1] Цалкам тэкст аўтабіяграфіі Адамовіча можна знайсьці тут: http://vidymus.livejournal.com/14410.html.

[2] Арсеньнева пісала: *„У хуткім часе пасля здарэння зь мінай сп. Адамовіча выслалі на працу ў Нямеччыну. Відаць, ён пачаў рабіцца невыгодным акупантам“* (Арсеньнева, Натальля. Аўтабіяграфічны нарыс // Юрэвіч, Лявон. Беларуская мэмуарыстыка на эміграцыі. Нью Ёрк, 1999. С. 240—241).

[3] Арсеньнева, Натальля. Аўтабіяграфічны нарыс... С. 486.




Вокладка й тытульны ліст зборніка паэзіі Натальлі Арсеньневай „Сягоньня“




Асобнік Антона Адамовіча з пэрсанальным прысьвячэньнем

Крыху больш пра адносіны Натальлі Арсеньневай да свайго рэдактара можа засьведчыць дарчы надпіс на яе паэтычным зборніку „Сягоньня“, што пабачыў сьвет ў траўні 1944 г. у Менску і першы ж асобнік якога быў адразу дасланы ў Фрэйбург. На тытульнай старонцы занатавана: *„Любаму сябры, на памяць аб супольна перажытых, у благім і добрым, днёх, адлюстраваных у гэтай сьціплай кнізе пад назваю „Сягоньня“. Аўтар. Абы давялося яшчэ перажыць іх нам побач шмат, стрэціцца і цешыцца, і працаваць разам. Н. Арсеньнева. Менск 5 траўня 1944 г.“*[4].

Пажаданьні Арсеньневай спраўдзіліся, яны сапраўды сустрэліся ў хуткім часе, але ня ў Менску, а ў Бэрліне, і бачыліся далей даволі часта. Ці не адна з такіх сустрэчаў нарадзіла наступны, здаецца, не зусім тыповы для паэткі, верш?

*Забудземся*

*У ночвах завулкаў вечар*
*марознай імглы намясіў...*

[4] Асобнік зборніка з надпісам захоўваецца ў архіве БІНіМу.





*Цалуе ў твар мяне вецер,*
*згарнуўшы набок валасы.*
*Прыемны мне сьмелы дотык*
*ягоных сьцюдзёных губ.*
*Хай будзе, што будзе, потым —*
*дап'ём наш п'яны багун!*
*Забудземся хоць на ймгненьне,*
*што сочыць, як той ганчак,*
*сьмерць нашы сьляды і сьцені,*
*што шмат хто — ужо зачах,*
*што трэба ісьці наперад,*
*хоць сяньня*
*і гэным — ноч,*
*праз сілу, бяз смаку й меры*
*крывавае піць віно...*
*У ночвах завулкаў вечар*
*марознай імглы намясіў...*
*Да рук маіх туліцца вецер,*
*згартае набок валасы.*
*Абвій жа мне шыю,*
*варта*
*даткнуць маіх цёплых губ.*
*Хай будзе, што будзе заўтра, —*
*дап'ём наш п'яны багун!*

*1945, Бэрлін*

У той жорсткі ваенны „час страчаных надзеяў“ некаторыя жаданьні ўсё ж спраўджваліся: людзі разьвітваліся й сустракаліся, кахалі й ненавідзелі, крыўдавалі й прабачалі, і галоўнае — жылі. І ўсё гэта выдатна адчуваецца ў лістах.

Зь лістоў Антона Адамовіча відаць, што ягоныя адносіны да паэткі — гэта вельмі блізкае сяброўства, сяброўства на мяжы закаханасьці. Магчыма, абвастрэньню пачуцьцяў паспрыялі абставіны ваеннай няпэўнасьці ды само па сабе расстаньне дзьвюх асобаў, якія занадта добра разумелі адна адну. І таму Адамовіч мог пісаць Арсеньневай абсалютна пра ўсё: і пра падзеі ў Нямеччыне, і пра чуткі, што даходзілі зь іншых месцаў, і пра мінулае, і пра сучаснасьць, і пра асобаў, і пра літаратуру, публіцыстыку, і пра свае пляны, і надзеі, і пра бацькоў, і нават пра пакінутую ў Менску „дзяўчынку“, да якой ён меў зусім іншае, мужчынскае пачуцьцё.



Ала Федаровіч

Імя гэтай „дзяўчынкі“ ў ліставаньні не называецца, бо зразумела, што Натальля Арсеньнева яе ведала. Зь іншых крыніцаў інфармацыі вядома, што Антон Адамовіч меў у Менску сувязь з скрыпачкай аркестру Менскага тэатру Алай Федаровіч. Падрабязнасьці гэтага раману сёньня застаюцца невядомыя. Аднак сярод папераў Антона Адамовіча захаваўся адзін ягоны ліст да „дзяўчынкі“ якраз з траўня 1944 г. Рускамоўны тэкст выразна адлюстроўвае характар дачыненьняў дзьвюх асобаў.

*„Дорогая, хорошая Аллочка!*

*Простите, что пишу так мало и на таком клочке, но тороплюсь, чтобы использовать оказию. Ваши оба письмеца получил, Вам тоже послал, получите, если еще не получили. Сейчас я только хочу предложить Вам использовать эту же, вполне надежную оказию, ибо с этим человеком Вы можете послать все, что только можно доверить бумаге — даже то, чего почте нельзя доверить. Из Ваших писем я догадываюсь (может быть, ошибочно), что у Вас есть на душе что-то такое, чем Вам хотелось бы поделиться со мною, но чего почте нельзя доверить. По-прежнему усиленно стараюсь приехать и увидеться с Вами, но малая надежда. Они не хотят пустить меня в Минск даже на час, боятся моего контакта с друзьями, оставшимися там. Так что приехать можно будет только или буквально вырвав у них разрешение, или нелегально даже от них. Оба эти выхода не совсем невозможны, но почти. Буду усиленно действовать в обоих направлениях, и может быть...*

*Аллочка, и мне очень скверно на душе, и я мог бы сказать о себе — не знаю, живу или не живу. Но знаю — жить надо, надо держаться! И Вам тоже!*

*Пока должен кончить. Пишите, милая, хорошая, любимая Аллочка!*

*Всегда Ваш Ант...*

*13.05.44*“





У лістах да Натальлі Арсеньневай Адамовіч час ад часу зьвяртаўся да тэмы пакінутай у Менску „дзяўчынкі“. Аднак зь іх вынікае, што ў закаханых было больш адрознага, як супольнага: розьніца ва ўзросьце, бадай, і ў інтарэсах... Таксама варта заўважыць, і гэта цікава: Адамовіч не да канца давяраў „сваёй дзяўчынцы“. Згадка пра ўражаньне, што лісты за яе піша нехта іншы, адметная ў гэтай сытуацыі, нават нягледзячы на магчымыя выдаткі падазронасьці ваеннага часу... І тым ня менш, Адамовіч шчыра прызнаецца, што гісторыя з той „дзяўчынкай“, якую ён можа й сам сабе „прыдумаў“ і якая ня выехала ўлетку 1944 г. на Захад, у нечым таксама праз Адамовіча, будзе заўсёды яму балець...

Яшчэ недзе ў 1943 г. на старонках „Беларускай газэты“ быў апублікаваны верш, які настроем перагукаецца з пазьнейшымі лістамі Антона Адамовіча. Хоць „Верасень“ і падпісаны „В. Застрома“, можа, рэдактар насамрэч меў дачыненьне да гэтага твору?

*Верасень*

*Жнівень жане журбу,*
*Верасень — возьме верне.*
*— Сядзь, ля мяне пабудзь —*
*Знаеш, што значыць — вернасьць?*
*Знаеш, што значыць — туга,*
*Туга спавітага болю?*
*— Можна маніць і лгаць,*
*Толькі — ня перад сабою.*
*Знаеш, што значыць — маўчаць,*
*Словам скруціўшы галовы?*
*— Можна здушыць і адчай,*
*Толькі — не верасьнёвы.*
*Знаеш — ня знаеш — маўчы,*
*Дружна маўчэм абое.*
*— Хутка навала начы*
*З тылу і з боку абойдзе.*
*— Пойдзеш і ты, скуль прыйшла,*
*Што табе роспач і вусьціш?*
*— Хутка асядзе імгла,*
*Хутка асядзе і згусьне.*
*Жнівень жане журбу,*
*Верасень — возьме верне,*
*— Як там ні стань, ні будзь —*
*Скрозь пранясу сваю вернасьць.*

Няма пэўнасьці, што верш дакладна належыць Адамовічу, таксама як і немагчыма сказаць, пачуцьці да каго менавіта тут адлюстроўваюцца: ці да Алы Федаровіч, ці нерэалізаванае каханьне да Арсеньневай? Як складана адказаць і на пытаньне, праз каторую зь іх, або праз каго іншага, і ў паваенны час дзеяч так і не ажаніўся.

Пры ўсім багацьці інфармацыі пра прыватнае жыцьцё Адамовіча, ягоныя лісты з Фрэйбургу каштоўныя й шмат чым іншым. Найперш, яны зьяўляюцца адлюстраваньнем жыцьця беларускіх нацыянальных колаў напярэдадні ды адразу пасьля эвакуацыі зь Менску 1944 г. Спэцыфічныя міжасабовыя дачыненьні, пляны, выдавецкія праекты, што рэалізоўваліся ў Менску й Бэрліне — усё гэта паўстае з пажоўклых старонак, напісаных вельмі спэцыфічным почыркам. Тут можна зразумець, як рыхтаваўся й як успрымаўся той альманах „Узвышша“, што выйшаў у 1944 г. Цікавыя дэталі падае Адамовіч і пра рэдакцыйную кухню бэрлінскае „Раніцы“, у тым ліку пра фінансаваньне й распаўсюд газэты.

Шмат інфармацыі ў лістах і да творчай біяграфіі самога Антона Адамовіча. Тут і ягоныя рэфлексіі з „узвышэнскага“ часу, што могуць быць цікавыя гісторыкам літаратуры, і думкі адносна ўласных тэкстаў, апублікаваных ці толькі падрыхтаваных да друку, а таксама меркаваньні што да твораў іншых асобаў і найперш самой Натальлі Арсеньневай. Выдатны мовазнаўца, Адамовіч правіў тэксты й Ларысы Геніюш, і Масея Сяднёва, і Ўладзімера Дудзіцкага. У лістах прапаноўваюцца канкрэтныя выпраўленьні да вершаў Натальлі Арсеньневай, што самі па сабе могуць зрабіцца падставаю для дасьледаваньня літаратуразнаўцамі й мовазнаўцамі.

Чалавек, на меркаваньне некаторых сучасьнікаў, „складаны“, „сварлівы“, але пры тым пры ўсім з энцыкляпэдычнымі ведамі й прынцыповы, Антон Адамовіч шмат дае ў сваім ліставаньні характарыстык іншым дзеячам беларускай культуры таго часу. Тут можна даведацца пра ягонае стаўленьне да Хведара Ільляшэвіча, Станіслава Станкевіча, Вітаўта Тумаша, Кастуся Езавітава, Юркі Віцьбіча, Масея Сяднёва й іншых. І ацэнкі ягоныя часам вострыя, непрыемныя, можна нават сказаць злыя. Але гэта погляд як бы знутры тагачаснага беларускага „бамонду“, погляд чалавека заангажаванага і таго, які меў права ды не баяўся „судзіць“ іншых, бо гэтаксама ж быў „суджаны“ ў адказ.

Нягледзячы на выразнае адчуваньне таго стану адзіноты, у якім апынуўся Антон Адамовіч у Нямеччыне, у лістах магчыма заўважыць і зародкі тае ідэі місійнасьці беларускай паваеннай эміграцыі, якая





сфармулявалася больш выразна пазьней, ужо пасьля вайны. Ідэя працы дзеля Бацькаўшчыны, на карысьць беларускай культуры, нацыянальнага разьвіцьця нават за мяжой, нават зь Нямеччыны (а пазьней і з-за акіяну) — тое, што палягае ў аснове сьветапогляду Адамовіча. Магчыма, ён не зусім пасьлядоўны ў сваім стаўленьні да немцаў. Ён крыўдзіцца на дзеяньні канкрэтных асобаў, таго ж славутага менскага „цэнзара“ Ёжэфа Сівіцы, але дзякуе за добрыя адносіны да сябе з боку фрэйбурскага кіраўніцтва, наракае на няўважлівасьць да беларускіх „остаў“ і адначасова сьцьвярджае, што толькі зь немцамі ў беларусаў можа нешта атрымацца ў будучыні. Наагул, лісты Антона Адамовіча адметныя тымі жывымі пачуцьцямі, што ў іх выказваюцца, той надзеяй да канца, што Менск ня будзе зноў аддадзены Саветам, што ў другой палове 1944 г. вайна яшчэ можа павярнуць у іншы бок і ён зможа зноў вярнуцца ў Менск. Надзеі, надзеі, надзеі… Шмат надзеяў… страчаных надзеяў…

На старонках лістоў паўстаюць яскравыя малюнкі жыцьця Нямеччыны часоў вайны. З аднаго боку, Адамовіч хваліць нямецкія чыгункі й іх добрую працу, плянуе на вакацыях зрабіць падарожжа па краіне. Зь іншага, неад'емнай часткай жыцьця сталі рэгулярныя налёты й бамбардаваньні. Аўтар рэгулярна бачыць зруйнаваны Бэрлін і галечу тамтэйшых жыхароў. З вуснаў чалавека, які па колькі разоў на дзень мог праседжваць гадзіны ў бамбасховішчы, выглядаюць зусім зразумелымі спадзяваньні на тое, што нехта за гэта мусіць заплаціць, няхай нават дзякуючы распрацоўцы новай нямецкай зброі.

Акрамя Адамовіча-творцы, у часы выпрабаваньняў аўтар ліставаньня паўстае яшчэ й як клапатлівы сын. Лісты вясны 1944 г. поўныя просьбамі да Натальлі Арсеньневай не забывацца на ягоных бацькоў, не хваляваць іх аповедамі пра ягонае рэальнае жыцьцё ў Нямеччыне, і ня кінуць іх пры неабходнасьці эвакуацыі ў будучыні. Другая палова 1944 г., калі лісты ідуць ужо не зь Нямеччыны ў Менск, а толькі ў межах самой Нямеччыны (бо і Арсеньнева апынулася тут), адзначаная аповедамі Адамовіча пра спробы ўладкаваньня бацькоў ужо ў адным зь ім горадзе. І тут таксама зьяўляюцца цікавыя малюнкі побыту беларускіх уцекачоў часоў вайны.

Пра гэтыя ваенныя лісты Антона Адамовіча можна шмат разважаць. Яны поўныя цікавых дэталяў, апісаньняў, адносінаў. У іх адчуваецца смак таго часу, часу складанага й няпэўнага, калі чалавечае жыцьцё ацэньвалася па-іншаму… У гэтых лістах „з таго боку“, як некалі ў працах Юрыя Туронка, выразна паўстае зусім іншая вайна — вайна й

Беларусь вачыма інтэлігента, які мае яскравую ўласную пазыцыю, які нязгодны на кампрамісы ні са „сваімі“, ні з „чужымі“.

Эпісталярыі Антона Адамовіча, адметныя сваім стылем і мовай, якая, між іншага, можа быць вельмі цікавай для мовазнаўцаў, як і ягоныя моўныя заўвагі скрозь па тэкстах, — выдатныя сьведчаньні свайго часу. Гэта таксама й дакумэнты, што шмат дадаюць да разуменьня самога дзеяча, ягонага сьветапогляду, гісторыі ягонага жыцьця. Калі грунтавацца на ідэі перадвызначанасьці, дык, відаць, дзеля чагосьці было надзвычай важна й патрэбна, каб менавіта гэтыя лісты Антона Адамовіча захаваліся й зараз былі апублікаваныя. Можа, яны стануць нагодаю, для больш пільнай увагі ня толькі да ягонай творчасьці, але й да жыцьця, і мы некалі дачакаемся паўнавартаснай біяграфіі гэтага неардынарнага чалавека.



*Тэма нумару: эпісталярыі*

***Антон Адамовіч***

# ЛІСТЫ ДА НАТАЛЬЛІ АРСЕНЬНЕВАЙ 1944—1945 ГГ.

Даражэнькая сяброўка!

Нарэшце!

Гэтыя дні так багатыя для мяне на радасьці. На лісты — як мех прадраўся. Першы прыйшоў ад Вас, пісаны пасьля атрыманьня пісулькі праз Саўчука[1]. А тады — два Вашыя разам (што праз Спадара Наўчонага-Касульнага[2] і зь Вільні), перасланыя з „Раніцы“[3]. Адначасна прыйшлі лісты ад Саўчука, з дому, ад Глебчыхі[4] з Кенігсбэргу, яшчэ ад некага — самі ведаеце ад каго... Адным словам — цэлае багацьце, адным словам — Жыве Беларусь — жыву й я!

Вашыя лісты былі найчаканейшымі й аказаліся найцікавейшымі. Значыцца, з высланых Вамі лістоў, аб якіх пішаце, не дайшоў толькі той, што праз прапагандыстага-Каткавічанку[5]. Ну, ён мусіць і ляснуў. І дужа шкода, што ці ня ляснулі і мае, пасыланыя Вам — і „Каханы горад“, і іншае. І ці ні ёсьць навет між гэтым сувязь. Бо, апрача прыем-

[1] **Сяргей Саўчук**, беларускі дзеяч у Бэрліне падчас вайны, актор.

[2] Маецца на ўвазе Янка Станкевіч (1891—1976).

[3] „Раніца“ выдавалася ў Бэрліне з 3 сьнежня 1939-га да 21 сакавіка 1945 г. У розны час яе рэдагавалі Фабіян Акінчыц, Вітаўт Тумаш, Мікола Шкялёнак, Станіслаў Грынкевіч-малодшы. Пэрыядычнасьць звычайна раз на тыдзень. Наклад — да 12 тыс. асобнікаў, выйшла 233 нумары, распаўсюджвалася пераважна на тэрыторыі Нямеччыны, Польшчы, Чэхіі, Прыбалтыкі, у Беларусь паступала ў абмежаванай колькасьці.

[4] Ідзецца пра Ніну Глебку, жонку Петруся Глебкі, якая падчас нямецкай акупацыі працавала на радыё ў Менску, а не паехала ў эвакуацыю з мужам. Пасьля вайны пазьбегла рэпрэсіяў, бо, паводле адной з вэрсіяў, у акупаваным Менску яна засталася на заданьне партызанаў.

[5] Маецца на ўвазе адна зь сясьцёр Катковіч — ці Анеля, што працавала перакладніцай, ці Вераніка — намесьніца кіраўнічкі СБМ Надзеі Абрамавай на Менскую акругу.

насьцяў, меў гэтымі самымі днямі й невялікую непрыемнасьць. Выклікала мяне маё начальства і паказала паперку, у якой зь Менску пішуць, быццам я жаліўся некаму ў Менск, што ў мяне няма работы тут. Да гэтага Бэрлінскае начальства прапануе ці „нагрузіць“ мяне работай на месцы ці перадаць у Бэрлін т. зв. „Вінэце“[6], дзе для мяне працы знойдзецца. Але начальства маё вельмі сымпатычнае, мы зь ім паразумеліся добра, і ўсё застанецца па-старому (праўда, гэта не пашкодзіла яму падкінуць мне работкі на месцы, так што й гэты ліст пішу дома, а раней пісаў бы ў установе. Ну, але гэта яшчэ дарма, зусім ня страшна).

Значыцца, у Менску нехта чытаў лісты і хутчэй за ўсё — нашыя з Вамі, бо я ж пісаў Вам, што для мяне тут не было зусім работы, якая б спэцыяльна клікала мяне сюды зь Менску, як гэта там малявалі (дый цяпер яе няма і пры ўсякіх абставінах быць ня можа). Думаю, што гэтае сьвінства круціцца нейдзе каля Сівіцы[7], магчыма, каля Шрэтэра[8], а мо нейдзе і каля мілейшае Каткавічанкі — мы ж ведаем яе крыху такія нахілы да, можа й міжвольнага, удаваньня нас перад ейнымі сымпатыкамі (успомніце раней Ермачэнку, ну, пэўне ж, д-р Рыхель[9] і той самы Шрэтар, якога яна дужа шануе як свайго апекуна). Ці ні ў Сівіцы рукі трапіў і „Каханы горад“, і тады — яму канцы. Там у першым жа разьдзеле ёсьць крыху яго самога й пад даволі празрыстай мянушкай („Макрыца“), далей ёсьць і ягоныя пратэжэ — Калубовіч[10], Кіпель[11] і таксама

[6] **„Вінэта“**, арганізацыя пры Міністэрстве ўсходніх акупаваных тэрыторыяў і Імпэрскім міністэрстве прапаганды. Была таксама і асобная беларуская рэдакцыя. У складзе „Вінэты“ ў розны час працавалі Вінцэнт Гадлеўскі, Ян Пятроўскі, Андрэй Бароўскі, Юльляна Дубейкаўская-Мэнке, Мікола Байкоў, Валянціна Жукоўская.

[7] **Ёжэф Сівіца**, сылескі немец, які з кастрычніка 1941 г. узначальваў Школьны інспэктарат у Генэральным камісарыяце Беларусі, а з кастрычніка 1942 г. таксама кіраваў Выдавецтвам школьных падручнікаў і літаратуры для моладзі ды фактычна выконваў функцыю цэнзара друкаваных кніг.

[8] **Ганс-Ёган Шрэтэр**, кіраўнік аддзелу прэсы пры Генэральным камісарыяце Беларусі.

[9] **Альбэрт Рыхэль**, службовец нямецкай цывільнай адміністрацыі ў Менску. Загінуў вясной 1945 г. у баях пад Бэрлінам.

[10] Аўген Калубовіч (1912—1987) у той час быў працаўнікам Выдавецтва школьных падручнікаў і літаратуры для моладзі, у 1944 г. узначальваў Беларускае культурнае згуртаваньне.

[11] Яўхім Кіпель з другой паловы 1942 г. працаваў у навуковым аддзеле Школьнага інспэктарату, затым рэдагаваў газэту „Голас вёскі“.







Антон Адамовіч

празрыста (Лабуніч, Кіпець). Сьвінства, асабліва падобнае да Сівіцы — наваліць мяне працай так, каб для Менску нічога ня мог пісаць, каб там наагул пра мяне забыліся, „паставілі крыжык і перайшлі да парадку дня“, як пішаце Вы пра Ізыдара[12] (ці навет Ізыдараў). І яшчэ лепш — вярнуць мяне назад у Бэрлін, зусім пад бомбы. Якія высновы зрабіць з усяго гэтага? Першае — ліставацца найлепш праз радыё. Усе лісты мае й да мяне гэтым шляхам ідуць акуратна й куды хутчэй. Тыя зь іх, што высланыя адначасна з „Каханым горадам“ і навет пазьней за яго, ужо дайшлі. Думаю, што Вам, паколькі Вы працуеце на радыё, можна таксама слаць і лісты празь яго, як гэта робіць мая дзяўчынка[13]. Калі ж не — можна праз Саўчука, як робяць бацькі[14]. Пагаварыце пра гэта з Саўчуком („радыё“ — я разумею, пэўна ж, як пошту радыёстанцыі, а не самое радыё-хвалі). Пішэце, пэўна ж, на просты адрыс (*Freyburg a.d. Unstrut* — на канцы *t*, а Вы напісалі *r*). Мая асьцярожнасьць зь ім — ня мой асабісты вынаход, а намаганьні Стася Грынкевіча[15] й Караленкі[16], часткава й Саўчука. Але цяпер я наважыў іх ня слухацца, хоць ім не кажу гэтага, патаемна ад іх раблю. На гэты адрыс можна было б і „Беларускую газэту“ слаць. Як хацелася б мець яе ад ад'езду ці хоць ад новага году (за ўвесь час даво-

[12] Верагодна, маецце на ўвазе Ізыдар Плашчынскі (на эміграцыі Язэп Гуткоўскі, 1908—1986).

[13] Маецца на ўвазе скрыпачка аркестру Менскага тэатру Ала Федаровіч, у якую Адамовіч быў закаханы.

[14] Бацькі Антона Адамовіча: айчым Аляксандар Івашкевіч (1881—1968) і маці Паліна Івашкевіч (1874—1959) да канца чэрвеня 1944 г. заставаліся ў Менску.

[15] Станіслаў Грынкевіч (1913—1966) быў сакратаром Беларускага камітэту Самапомачы ў Бэрліне, у 1943 г. узначальваў яе бэрлінскі філіял. Увосень 1943 г. быў зьмешчаны з пасады. Ад 3 студзеня 1944 г. да канца жніўня 1944 г. — рэдактар бэрлінскай газэты „Раніца“. У 1943—1944 гг. таксама рэдагаваў газэту „Беларускі работнік“.

[16] **Мікола Караленка**, журналіст, рэдактар менскай газэты „Голас вёскі“.

дзілася бачыць усяго два-тры нумары яе). Хацелася б таксама мець і іншыя выданьні, кажны беларускі радок тут бязь меры дарагі мне. Але толькі, калі ласка, не перагружайце гэтым, я ведаю заўсёды ж вельмі занятога Herr Kuschel'а — малодшага[17].

Другое. Усе рукапісы, пасланыя Вам, за выняткам „Каханага гораду", у мяне ёсьць у дублікатах і цяпер пасылаюцца Вам разам з гэтым праз таго ж Саўчука. Рабеце зь імі, што хочаце, Вы ж цяпер, як пішэце, „рэдактар усіх газэт". Праўда, цяпер яны часткава надрукаваліся ў „Раніцы" (адзін навет пасылаю ў вадбітках зь яе — як заўсёды, нарабілі шмат памылак, яны папраўленыя). Распараджэньне друкаваць іх у „Раніцы" было дадзенае тады, калі была страчаная ўсялякая надзея, што яны трапяць да Вас, і яны пакрысе старэлі й трацілі сьвежасьць, войстрасьць і актуальнасьць. Аднак, думаю, што ўсё гэта ня шкодзіць ім цяпер надрукавацца і ў Менску. Гэта было б мне пажадана із шмат якіх меркаваньняў. Па-першае, „Раніца" ў Менск масава ня йдзе, а артыкулы маюць куды большую цікавасьць і вартасьць для Беларусі, як для беларусаў у Нямеччыне. Усе яны — рэзка антыбальшавіцкія. „Яны на беларускай зямлі" і антыпартызанскі, можа быў бы цікавы і для „Беларуса на варце"[18], ці як там называецца той часапіс, у якім Вы, як самі пішаце, за „наймічку" Вашага бацькі[19]. Наагул дазваляю Вам друкаваць іх у якім-хаця выданьні на Беларусі (толькі, крый Божа, ня ў новасьпечаным „Узвышшы": гэта быў бы яшчэ большы жах, каб яны ўздумалі там публіцыстыку друкаваць. Ну, але аб гэтым усім крыху ніжэй). Не апошнія мае меркаваньні — ганарар, які маглі б атрымаць мае бацькі, якім мне перасылаць грошы адсюль цяжкавата. З „Раніцы" я за іх ні капейкі не атрымаў, як і за іншыя працы і журналістычныя, і рэдактарскія, якіх раблю для яе ці мала. Каб Вы ведалі, які ў гэтай „Раніцы" ўва ўсім балаган, як пакутуе там бедны Караленка! Стась Грынкевіч — добры хлопец, але — *„gute menschen, aber schlechte Musikanten"*[20], як той нейкі нямецкі Шчаглоў пра сваіх аркестрантаў казаў, намагаючыся апошні раз абудзіць іх музычнае сумленьне. Адміністратар зь яго яшчэ

[17] Маецца на ўвазе сын Натальлі Арсеньневай і Франца Кушаля Ўладзімер.

[18] „Беларус на варце" выдаваўся ў Менску з лістапада 1943 г. да чэрвеня 1944 г. Быў адрасаваны жаўнерам, што служылі ў паліцыі й вайсковых фармаваньнях. Адказным за выданьне быў Франц Кушаль.

[19] „Бацькам" Натальлі Арсеньневай у лістах Адамовіч называе Франца Кушаля.

[20] *„Gute menschen, aber schlechte Musikanten"* (ням.) — „Добрыя людзі, але дрэнныя музыкі".





горшы, як зь мяне, так што можаце ўявіць сабе, як распусьціў усіх — ніхто нічога ня робіць, адзін Караленка (што праўда, і налёты памагаюць, але апошнім часам зь імі пацішэла). Ну, але ў мяне быў які-неякі, а Дудка, а ён сам мусіць і ў фінансавую дудку дзьмуць, і вось Караленка піша — на конто ўсяго 100 марак... Газэту рассылаюць у бальшыні дармовым „пачэсным" падпішчыкам, як гэта рабілі, кажуць, беларускія газэты за польскіх часоў у Вільні. Ну, але мне асабіста ад „Раніцы" і ня трэба ні капейкі — мне асабіста таго, што зарабляю, аж надта — усё роўна тут не разгонішся з грашыма, а ў маім гарадку жыцьцё зусім таннае, езьдзіць, як у Бэрліне, ня трэба, і ўсё таньней. Бяда толькі з бацькамі. Між іншага, лічуся тут у высокай годнасьці... перакладчыка, зь ветласьці велічаюць мяне часам „рэфэрэнтам", але грошы атрымваю, як перакладчык (500 рм зь вялікімі вылічэньнямі, але затое — 100 з гакам марак дадатку за тое, што эвакуяваны з Бэрліну і раблю ласку жыць тут, у маленькім гарадку, у параўнальнай бясьпецы ад бомбаў). Ну, але я дужа задаволены і з грошай і, з шмат якіх меркаваньняў, — із свайго высокага тытулу. Дык, барані Божа, не кажэце нікому нічога ў Менску, каб які Сівіца не дачуўся й не пачаў зноў якія сьвінствы рабіць, а бацькі мае каб ня грызьліся, што вельмі ж я бедненькі й пакрыўджаны.

Так, яшчэ каб скончыць ізь сьвінствамі. Калі Караленка запрапанаваў маю кандыдатуру на часапіс моладзі[21], які меў і, здаецца, мае яшчэ выходзіць тут, яму сказалі, што ў *Ostministerium*[22] супраць мяне ёсьць важкія засьцярогі, паходжаньня зь Менску (аб гэтым, здаецца, я ўжо Вам пісаў. Часапіс мае абняць такі баранаветы акіньчык Барановіч[23] — ведаеце, здаецца, бачылі яго). Але гэта быў толькі №1. Цяпер — №2. Я ўжо, здаецца, таксама пісаў Вам, што мне заказалі брашуру пра Беларусь у гістарычным разрэзе, у сувязі з Радай. Калі я прадставіў зажаданы імі плян, дык на яго ад шаноўнейшага д-ра Курца прыйшла да майго начальства паперка, у якой перасьцерагалася, што я — вельмі ж

[21] Ідзецца пра часопіс „Малады змагар", які пачаў выдавацца ў траўні 1944 г. у Бэрліне і быў адрасаны працоўнай моладзі ў Нямеччыне.

[22] *Ostministerium* — Міністэрства ўсходніх акупаваных тэрыторыяў.

[23] Генрык Барановіч (1916—2002) як жаўнер польскага войска ў 1939 г. трапіў у нямецкі палон. Скончыў курс беларускіх прапагандыстаў, арганізаваны Фабіянам Акінчыцам у Вустраве. Потым сам працаваў як арганізатар і лектар школы прапагандыстаў. Падрыхтаваў праект Статуту СБМ. У 1943 г. — супрацоўнік аддзелу моладзі ў Міністэрстве акупаваных усходніх тэрыторыяў. У лістападзе 1943 г. прызначаны кіраўніком Працоўнай групы СБМ у Нямеччыне.

нацыяналісты і каб як мага менш у брашуры было гэтага нацыяналізму, асабліва вакол гісторыі Беларусі і найбольш — 25-га сакавіка, дзе мне трэба як мага сьціснуцца, а больш расьпісваць тое, што зроблена для Беларусі цяпер. Начальства паказала мне гэтую паперку, з чаго можаце бачыць ізноў ягонае сымпатычнае для мяне настаўленьне (наагул, сваім начальствам я вельмі здаволены ў самым запраўдным і шчырым сэнсе, без усялякіх засьцярогаў). Я сказаў, што „сьціскацца“ не зьбіраюся і хай ужо яны рэжуць, як хочуць, ды гэтак і зрабіў. Цяпер брашура ўжо скончаная і перапісаная мною асабіста на машынцы, што пэўне ж, заняло нямала часу пры маёй тэхніцы, але ж нічога ня зробіш, перапісаць па-беларуску тут ня было каму (дый тэхніка ў мяне крыху ўдасканалілася, хоць ціхенька, усё яшчэ адным пальцам і так яно, мусіць, і навек застанецца). Ад заўтра пачынаю расейскі пераклад, тут будзе хутчэй — буду дыктаваць адразу на машынку добрай машыністцы. З расейскага перакладу будуць рабіць нямецкі, тады — цэнзура, рэцэнзіі, „засьцярогі“... Адчуваю, што пакуль усё гэта пройдзе, брашура састарэе, зьнеактуаліцца, а можа й зусім адпадзе патрэба ў ёй. Зрэшты, гэткі шлях усяе працы мае шаноўнае ўстановы, і мала што выходзіць зь ейных нетраў на сьвет Божы, па дарозе старэючы й мусячы ляцець у Лету. Ну, але Бог із гэтым усім — малая шкода, а што праца ўложана — дык і самому ж прыямней было працаваць, чымся адседжваць бяз працы даўгі дзень ад 8 да 6.

Вось гэткія былі „засьцярогі“ №2. А №3, самыя апошнія, я апісаў упачатку — тая інтэрвэнцыя зь Менску. Дык, ці дзіва, што ня маючы доўга ад Вас ні радка, я ўжо гатовы быў падумаць, што й на Вас якія „засьцярогі“ падзеілі й хочаце „перайсьці нада мною да парадку дня й паставіць крыжык“. Дык калі часам із майго боку была нейкая нэрвовасьць у дачыненьні да чаканых лістоў ад Вас, нараканьні, жаданьне атрымаць „адказ“ і ня пісаць самому, пакуль яго ня будзе — Вам трэба зразумець усё гэта, уявіць наагул усё маё палажэньне тут і наагул, і не крыўдаваць. Тым больш, што я цяпер так усьцешаны Вашымі лістамі, і, праўдачка ж — болей ня буду, буду і цярплівым, і добрым зусім хлопчыкам...

Некаторыя мясьціны Вашых лістоў змусілі мяне моцна задумацца. Вось тыя самыя „Ізыдары“, над якімі „беларускае грамадзянства паставіла крыжык і перайшло да парадку дня“. Бачыце, ужо трэйці раз, здаецца, варочаюся да гэтага — даняло, значыцца. Галоўнае, што мяне тут даймае, гэта магчымая мая прыналежнасьць да катэгоры „Ізыдараў“ у ваччу некаторых. Думаю, што ў Вашых хіба не, а можа? Аднак, нейкі „крыжык“ над сабою і „парадак дня“ за сабою адчуваю. Ну, калі іх ста-





вяць Калубовічы, Кіпелі, Чабатарэвічы[24], дык уяўляю сабе, як ім хочацца гэтага, як быў я ім упоперак. Ды для мяне гэтыя, даруйце, халуі, — ніякае не „беларускае грамадзянства“, больш баліць, што за імі, вольна ці міжвольна, могуць пайсьці і іншыя людзі, людзі, якіх я цаню і ўважаю за запраўднае беларускае грамадзянства. Да іх алежыце найперш Вы і людзі, што каля Вас, каля газэты — Ваш бацька, Шкялёнак[25], навет Шчаглоў[26] і іншыя. Няўжо і гэтым я быў упоперак?

Што я ніколі ня быў „Ізыдарам“ у сэнсе *„трусоват был Ваня бедный“* — гэта Вы, хіба, ведаеце, і гэта засьветчана цэлым лікам фактаў. Наадварот, у маёй натуры хутчэй тое, што называецца „перці на ражон“. Ці не яно ж і выперла мяне сюды? Бясспрэчна, яно, яно і ставіць мяне ўпоперак шмат каму. Ратаваньне свае скуры, чапляньне за матар'яльны дабрабыт — гэтым я ніколі не адзначаўся, і гэта ўсе ведаюць.

А вось вы пішаце — *„нельга так баяцца“*, *„ісьці бальшавіком на руку“*. Ну, наконт адрысу я ўжо вытлумачыў вышэй. Баяцца ж я нічога не баюся, але пытаньне, што значыць больш *„ісьці бальшавіком на руку“* — пручыся ім проста ў пастку, каб схрумкалі адразу, ці седзячы тут і маючы магчымасьць хоць часам, а дастаць гэтых бальшавікоў самому й часам сёе-тое можа стварыць пазытыўнага для Беларусі?

Памятаеце, самі ж Вы пісалі ў першых лістох: *„Як добра, што Вы пасьпелі выехаць[27], напэўна, забілі б Вас, прызналіся, што мелі такое заданьне, Казлоўскі паў толькі ахвяраю[28]“*. Перад гэтым, яшчэ як я

[24] Віктар Чабатарэвіч (1907—1963), у 1941—1943 гг. працаваў у Галоўным школьным інспэктарыяце, перакладчыкам пры генэральным камісарыяце. З сакавіка 1944 г. — кіраўнік афіцэрскіх курсаў БКА, затым — Менскай афіцэрскай школы.

[25] Мікалай Шкялёнак (1899—1946), пасьля забойства ў лістападзе 1943 г. Уладзіслава Казлоўскага — рэдактар „Беларускай газэты“, таксама са студзеня 1944 г. — першы віцэ-прэзыдэнт БЦР, адзін з арганізатараў Другога Ўсебеларускага кангрэсу.

[26] Мікола Шчаглоў (на эміграцыі Куліковіч, 1896—1969) у гады акупацыі пісаў музыку для менскага тэатру, быў супрацоўнікам Выдавецтва школьных падручнікаў і літаратуры для моладзі, пісаў на музычныя тэмы для „Беларускай Газэты“ й „Новага Шляху“.

[27] Адамовіч выехаў зь Менску ў Бэрлін у верасьні 1943 г. Адной з прычынаў, што падштурнулі да выезду, была знойдзеная ў працоўным стале ў рэдакцыі міна, падкладзеная савецкімі партызанамі. Адамовіч і супрацоўнікі рэдакцыі ацалелі, але быў забіты паліцэйскі, які выносіў міну.

[28] Уладзіслава Казлоўскага забілі непасрэдна ў рэдакцыі „Беларускай газэты“ 13 лістапада 1943 г.

быў у Менску, Вы, наадварот, угаворвалі ня ехаць. Цяпер ізноў клічаце варочацца...

Гэты заклік варочацца ўсхваляваў мяне найбольш... Праўда, я ведаю, што навет захацеўшы, мне ня так проста яго зьдзейсьніць. Калі я заікнуўся нядаўна навет аб звычайнай паездцы дадому ў часе Urlaub'у[29] — мне станоўка далі зразумець, што мне аб гэтым няма чаго думаць пакуль. Ну, але я ўжо, пад уражаньнем Вашых лістоў, бадай гатовы быў стаць на галаву, паперці зноў на ражон і дамагчыся — ня Urlaub'у, а зусім. Аднак, учора атрымаў ад Караленкі весткі: забіты Аляхновіч[30], забіта сям'я Шкялёнка на Дзісеншчыне (няведама толькі, ягоныя бацькі ці жанчыны)[31], яшчэ цэлы шэраг ахвяраў... Мой пыл адразу астыг. Не, варочацца мне нельга. Тым больш, што й не магу падзяліць Вашае філёзофіі: ці ня ўсё роўна, калі памерці. Па-мойму, ня ўсё роўна. У дачыненьні да сябе асабіста проста адчуваю, што ня маю права паміраць, не давёўшы да канца некаторых рэчаў, якія сталіся даўно ўжо справаю жыцьця, а ў пэўнай меры — і спадчынай дый запаветамі сяброў, што самі ці памерлі, ці ў лапах сьмерці. У сьмерці таксама павінен быць сэнс, як і ў жыцьці. Часта прыгадваецца мне Ігнатоўскі, які зробленай самому сьмерцяй уратаваў ад ганьбы і сябе, і цэлую вялікую групу людзей, і адцягнуў яшчэ на колькі год station... 

Ці праўда, што ў Менску для мяне няма небясьпекі? „Раскрытая цэнтраля мінаў“, шмат пасаджана, пацішэла. Ці надоўга? У гэтага ж цмока хутка адрастаюць адсяканыя галовы (вобраз нябожчыка Казлоўскага). Было ж і пры мне, што „раскрывалі“, „садзілі“, „цішэла“ — на колькі дзён... Што з таго, што цяпер — не на колькі дзён, а даўжэй? Калі

[29] *Urlaub* (ням.) — адпачынак.

[30] Драматурга, рэдактара „Bielaruskaha holasa“ Франца Аляхновіча (1883—1944) забілі ў ягонай віленскай кватэры 3 сакавіка 1944 г. Да канца ня высьветлена, хто спрычыніўся да нападу — савецкія ці польскія партызаны.

[31] Бацька Міколы Шкялёнка Восіп памёр, калі таму было 13 гадоў, а маці Аляксандра — у 1966 г. Брат Пятро вясной 1945 г. штурмаваў Бэрлін. Падрабязьней пра сям'ю Міколы Шкялёнка — у артыкуле Сяргея Чыгрына „Аляксандра Шкялёнак усё жыццё чакала сына...“ ( Народная воля. 20 студзеня 2009).





забілі Аляхновіча ў Вільні, ці ж ня могуць забіць каго іншага ў Менску? Тое, што яго забілі ў Вільні, можа паказваць на той натуральны факт, што з пасоўваннем фронту пасоўваецца і перадфронтавая паласа, і цяпер, відаць, ейны цэнтар перанёсься зь Менску ў Вільню. Можа, таму ў Менску часова пацішэла.

Бальшавікоў ня трэба баяцца, але нельга іх недаацэньваць, ня могуць дастаць у Нямеччыне, хоць бы ў гэтым маім гарадку? Яшчэ і як могуць, цяжэй, праўда, але могуць. Цяпер я, аціраючыся крыху каля некаторых, казаў той, „крынічных“ матар'ялаў, яшчэ больш пазнаў, чымся ведаў. Дагэтуль не было так, каб бальшавікі, наважыўшы каго зьнішчыць, адступаліся ад гэтага, пакуль не давядуць да канца. І тут навет справа не ў маштабе, велічыні асобы — справа ў прынятай пастанове. І я зусім сьведамы таго, што калі іх ня зьнішчаць, яны мяне рана ці позна зьвядуць. Мая задача — зрабіць, каб „позна“, адцягнуць. Гэта вымагае пэўнае развагі, асьцярожнасьці. Таму аб тым, каб варочацца ў Менск, пакуль ня можа быць і мовы, як бы не балела гэта, як бы не хацелася, як бы проста — шчыра скажу — зайздросна не было на вашую ўсіхную працу там. Тым больш і апошняе: яшчэ ня ведама, ці не давядзецца нам спаткацца хутчэй тут, чым давялося б спаткацца ў Менску, калі б я зараз пачаў ходацца аб звароце. Я, праўда, і цяпер моцна веру, што Менск не павінен пайсьці ў разьмен і перайсьці да бальшавікоў, што ўрэшце — і можа хутка — на бальшавікоў ізноў усё павернецца, але згадзіцеся самі, што ўсё можа быць, і што магчымасьць пераходу і Менску, і цэлай Беларусі ў іхныя рукі сёлета, сяньня — куды большая, чымся была летась, учора...

...Вы ўспомнілі Вільню, нашае падарожжа туды. Я таксама часта ўспамінаю яго. Так, няма ўжо Казлоўскага, Маракова[32], ня стала цяпер і Аляхновіча. Засталіся і мы з Вамі, ці ж няпраўда? Хто ж із нас наступны?

Вы, хіба, можаце ўявіць, як уразіла мяне сьмерць Аляхновіча, Вы ж ведаеце, як я любіў яго, свайго хроснага бацьку ў беларушчыне. Ця-

[32] Маецца на ўвазе Леанід Маракоў (1914—1943), настаўнік, брат пісьменьніка Валер'я Маракова. Быў у нямецкім палоне, уцёк. Пасьля легалізацыі працаваў у менскай адміністрацыі, займаўся аднаўленьнем разбураных гарадзкіх будынкаў. Узначальваў акруговую ўправу Беларускай народнай самапомачы. Вясной 1943 г. пасьля разгону БНС звольнены з пасады й адпраўлены на Лідчыну. 13 чэрвеня 1943 г. разам зь Юліянам Саковічам сьмяротна паранены ў Васілішках акоўцамі. 27 чэрвеня 1943 г. у Менску адбылася паніхіда па забітых. Антон Адамовіч адгукнуўся на гэтую падзею артыкулам „Паніхіда па свежых ахвярах“ (Беларуская газэта. 30 чэрвеня 1943).

пер — пасьля войстрага болю першага ўражаньня — тупы боль, і хіба можаце адчуваць яго з гэтай другой часткі майго ліста, што пішацца сяньня. Пішацца ўсё ня так, як хочацца, хаотычна, бо перад вачыма тобо-то і ўсплывае — Аляхновіч...

Ну, але трэба пісаць. Даруйце, што ўжо мо й ня будзе патрэбанага парадку й выразнасьці.

Працу Рады сочым мы тут зь цікавасьцяй і здавальненьнем, што Астроўскі[33] тым часам апраўдвае надзеі ўсіх беларусаў. Думаецца, што і апраўдае да канца. Я ўжо ці раз памыкаўся напісаць яму, але з розных меркаваньняў паўстрымліваюся. Не апошнім зь іх і тое — каб гэта не здалося каму рэвэрансам ці халуйствам, чаго я цярпець не магу і ніколі ў жыцьці не дапушчаў і не дапушчу. Дый пры сяньняшніх абставінах — ці да мяне яму? Усё ж, калі будзе вам нагода — перакажэце яму маё шчырае прывітаньне і найлепшыя пажаданьні ды гатовасьць паставіцца пад ягоную руку, калі трэба будзе й дзе трэба будзе. Чуў ад Караленкі, што яны з Шкялёнкам маюць быць у Бэрліне, тады мне паведамяць хлопцы і можа ўдасца пабачыцца і пагаварыць. Між іншага, ці робіцца што, каб нашым тут зьнялі OST-ы? Казакам зьнялі, паўночным каўказцам зьнялі, а нашым, хоць і ўсякія Рады ёсьць, і мабілізацыя — тым часам нічога. Яшчэ між іншага: OST-ы пакрысе робяцца базай бальшавізму. Немцы ізноў глядзяць на гэта праз пальцы, із звыклай сваёй бясьпечнасьцю, а пасьля — хопяцца ды пачнуць касьціць направа й налева. А тут ужо выразна адчуваюцца і агітацыя, і навет ячэйкі. Ёсьць і факты, аб якіх пераказваюць людзі, і нічога ня робіцца, каб выступіць супраць гэтага. А вы кажаце — у Нямеччыне не дастануць. Я выразна прадчуваю, што хутка гэта выявіцца яшчэ выразьней. Між іншага, і бальшавіцкім тэрорам рукамі гэтых остаў. Дык як важна было б, хоць частку нашых вырваць з-пад гэтага. Гэта ж, можа, значная частка таго, што застанецца ад нашага народу ў будучыні (ці думалі Вы калі аб тым, як мала, катастрафічна мала народу можа застацца ў нас?).

Добра, што і „Згуртаваньне“ нарэшце нарадзілася[34]. Там, відаць, шмат каму не хацелася даваць гэтага, проста як із горла выдзіралася.

[33] Радаслаў Астроўскі (1887—1976) узначаліў БЦР у сьнежні 1943 г. і кіраваў ёй да 1976 г. Адамовіч у лісьце мае на ўвазе першыя крокі Астроўскага на пасадзе прэзыдэнта БЦР, што шырока прапагандаваліся й рэклямаваліся ў Беларусі як новая хваля беларусізацыі.

[34] Маецца на ўвазе створанае ў 1944 г. Беларускае культурнае згуртаваньне, якое ўзначальваў Аўген Калубовіч. Статут зацьвердзіў Радаслаў Астроўскім 25 лютага 1944 г.





Ня зусім добра, што на чале — бледная пасярэднасьць, халуй тыпу *„Jawohl“*, ну, але можа як удасца іншым апанаваць яго і кіраваць ім. За выняткам гэтых — на жаль, асноўных — рысаў (яшчэ сюды даходзіць і кар'ерызм ды інтрыганства, палітычная і асабліва беларуская бясхрыбетнасьць) — ён, можа й нічога чалавек. Паверце толькі, што ў гэтых ацэнках не прагаворвае нічога асабістага, толькі прадумваньне фактаў і назіраньняў.

Ну, нарэшце з Паніным разьвітваецеся! Мне дык аж цяпер ня верыцца, што гэта станецца, цікава, які будзе ягоны далейшы шлях? Селяху[35] — мае найлепшыя прывітаньні й пажаданьні. Спадзяюся, што за гэты час[36] ня выявілася ў ім нічога паганага (ато неяк прывыклася, што спачатку як бы здаецца й добры чалавек, а пасьля аказваецца — кажучы па-гогалеўску — *„свинья в ермолке“*) і ня выявіцца.

Цешыць, што „Ўсяслаў“ ідзе наперад. Праўда, аб тэмпах падрыхтоўваньня маю зь іншых крыніцаў крыху іншыя весткі, чым тыя, што даяцё Вы. Вось цытата зь ліста (пэўне ж, ведаеце, ад каго): *„Шчаглоў рэпэтыруе сваю новую опэру „Ўсяслаў Чарадзей“ (у дзень па лісьціку) назначаюць у 10 г., пачынаюць працаваць у 11, а канчаюць у палове дванаццатай. Гора таму, хто прыходзіць да назначанага часу — замерзьне канчальна. Таксама гора і таму, хто захоча паслухаць гэтую рэпэтыцыю. „Усяслаў Чарадзей“ гучыць так, што можна вытлумачыць толькі на музыканцкай мове: „Ні адной жывой ноты“. Вось як мы цяпер працуем. Шчаглоў дырыгуе ў цьвярозым стане, што асабліва дзіўна. Відаць, ён крыху зьмяніў сваё расьпісаньне. Але для нас усіх лепей, калі ён выпіўшы, бо тады ў яго зусім іншыя адносіны да ўсіх і настрой, хоць яму і прыходзіцца трошкі прытрымліваца за бар'ер рукой...“*

Калі мае быць выпушчаны „Ўсяслаў“? Хочацца ведаць, каб можа што даць тут у „Раніцы“ ці Вам прыслаць. Наконт наступнае опэры — пэўне ж, добра было б і „Скарыну“, а ці ня лепш і актуальней „Каліноўскага“? Хоць і наагул мне здаецца, што з галіной гісторыі (асабліва далейшай) у опэры трэ было б крыху перадыхнуць, як і з фальклёрнай

[35] Вячаслаў Селях (Сэлях, на эміграцыі Сэлях-Качанскі, 1885—1976) у 1943 г. быў кіраўніком аддзелу культуры й мастацтва Беларускай народнай самапомачы. Пасьля стварэньня БЦР — кіраўнік аддзелу культуры. З студзеня 1944 г. — таксама сябра БЦР.

[36] Вячаслаў Сэлях пераехаў у Менск толькі ў 1943 г., дагэтуль пасьля рэпрэсіяў ён жыў у Ленінградзкай вобласьці, што трапіла пад нямецкую акупацыю.

тыпу „Купальля“ ці фальклёрна-сялянскай тыпу „З выраю“. Я ўжо, здаецца, казаў Вам, што хацелася б бачыць — і на часе было б у разьвіцьці мастацтва — нешта тыпу „Аўгена Анегіна“ ці „Пікавае дамы“ — з галіны інтэлігенцыі, а найлепш пры гэтым — і нацыянальна-сьведамай, нацыяналістычнай інтэлігенцыі. Ну, але гэта — проста так, Вам жа відней.

Шчаглову — вялізазнае прывітаньне! А як там із маім „Рэвізорам“? Як із драмай наагул? Можа яшчэ што перакладнога ім трэ было б — я б мог тут перакладаць пакрысе між іншай працай у зацішку.

Ці ня думаеце надрукаваць „Затонуты звон“[37]? Па-мойму — варта было б, у тым часапісе, назваць які тут баюся (аб ім скажу ніжэй). Я б не ад таго, каб надрукаваць і „Рэвізора“ — вось Іваноўскі[38] калісь перакладаў, не надрукавалі, загінуў і сам, і пераклад яшчэ тады прапаў. Каб тут ізноў не паўтарылася.

Рады, што „Сягоньня“[39] пасоўваецца і „Жоўтая восень“[40] выплыла нарэшце. Тут зь ёю справа была б безнадзейная (ды яна й зусім тут згарэла ў Тумаша[41], як я Вам, пэўна, пісаў). Тую вокладку „Драмы“ памятаю, бачыў у Тумаша, нішто. А якая вокладка ў „Сягоньня“? Спадзяюся, што як выйдзе — атрымаю хутка, праўда?

Што вершаў ня пішаце — дрэнь. Хоць, мусіць, ня можа быць, каб гэта было зусім так. Будучы апошні раз (30.01) у Бэрліне, бачыў крыху Вашых у „Беларускай газэце“ — вельмі спадабаліся, мо яшчэ й таму, што даўно вершаў ня чытаў і асабліва Вашых. Уражаньне засталося добрае, хоць толькі ўражаньне, бо меў магчымасьць толькі раз хуценька прабегчы іх.

А ў „Раніцу“ — ні радка, хоць абяцаліся. Ня бойцеся, не папраўлю ні слоўца, хіба наборшчыкі з карэктарамі што сажуюць, яны тут такія.

[37] **„Затонуты Звон“** — п'еса (1896) ляўрэата Нобэлеўскай прэміі Гергарда Гаўптмана, якую пераклала на беларускую мову Натальля Арсеньнева.

[38] Вацлаў Іваноўскі (1880—1943) у 1941—1943 гг. быў бурмістрам Менску. Вядомы таксама як асьветнік, публіцыст, пісьменьнік, перакладнік.

[39] Зборнік вершаў Натальлі Арсеньневай 1941—1943 гг. „Сягоньня“ пабачыў сьвет у траўні 1944 г. у Вільні накладам 5 тыс. асобнікаў. Адамовіч адгукнуўся на зборнік рэцэнзіяй у „Раніцы“ пад назвай „Беларускага слова жніво“ (Раніца. 30 ліпеня 1944).

[40] **„Жоўтая восень“** — зборнік вершаў 1928—1935 гг., які так і не пабачыў сьвету асобным выданьнем, а падрыхтаваныя ў яго вершы ўвайшлі ў пазьнейшае выданьне „Між берагамі“ (1979).

[41] Магчыма, маецца на ўвазе час, калі Вітаўт Тумаш быў рэдактарам „Раніцы“.





Нябожчык Казлоўскі казаў, што раз, калі ён быў у Вас і бацька Ваш быццам бы вельмі нападаў на „маю“ мову (ох, гэтая „мая мова“! Галоўны мой ражон. Ды ўжо нічога ня зробіш — буду перці на яго да канца), Вы быццам бы таксама не баранілі, а навет сказалі: *„Калі ён (г. зн. я) мне паправіць, я потым ціхенька сама адвярну назад і так па-мойму будзе“.* Казлоўскі, майстар выдаваць і перадаваць гаворкі, пэўна ж не хлусіў, і гэта, мусіць, так і было. Тады я колькі дзён перажываў гэта, як страшэнную непрыемнасьць для сябе з Вашага боку. Тым больш, што я ніколі ў Вашых вершах дыктатарска нічога не папраўляў, а толькі раіў Вам тое ці іншае, і Вы ж не заўсёды прыймалі, і заставалася па-вашаму. Калі ж часам праўда прыймалі „для вока“, а потым адмянялі (здаецца, гэтак бывала, я заўважаў, але думаў, што гэта ці машыністкі нядобра передрукавалі, ці забыўшыся „адставілі“, ці наборшчыкі...) — навошта было гэтак рабіць? І сяньня ўспамінаць гэта мне вельмі непрыемна, бо гэта — адзінае, што было і засталося „кошкаю“ між нас, хоць я Вам нічога дагэтуль не казаў. І цяпер кажу толькі ў надзеі — а мо гэтак не было, ня так было? Ды не, ведаю. Было так, і Казлоўскі ня хлусіў, і маеназіраньні потым пацьвердзілі.

Хачу яшчэ сказаць нешта, што мо будзе крыху не зусім прыемным для Вас. Нядаўна Караленка прыслаў мне адзін нумар „Беларускае Газэты“ — той, дзе статут „Культурнага Згуртаваньня“. Я ня мог спакойна чытаць яго дзеля шмат якіх прычынаў. Аднэй зь іх: ад мовы ранейшае „Беларускае Газэты“ — гэтае славутае „мае мовы“ — засталося ня больш як 20%. Навете тыя рэчы ў правапісе, што прыняў і Антон Лёсік[42], і газэта, друкуючыся ягоным правапісам, мусіла б праводзіць (скажам, пісаць „паводля“, а не „паводле“) — і тыя пайшлі ў Лету. Што ж, да лепшага пайшло? Не, кажны моваевед скажа — да жаргону. Усё тое, пра што пісала „Культура мовы“, як быццам пра цьвёрдую лінію газэты (скажам, „сільнейшы“, „адносіны“ — заміж — дальбог, не „маіх“, а народна-беларускіх і да мяне літаратурнай моваю прынятых „дужэйшы“, „дачыненьне“) — бадай, усё гэта выкінута ў кошык. Я неяк хапіўся і хацеў быў Вам напісаць, паказаць, параіць, і тут жа, успомніўшы тую „кошку“ — астыг... Няхай будзе гэтак. Навет супакаеньне знайшоў: добра, што хоць 20% засталося. Добра, што ня слухаў у свой час Гадлеўска-

[42] **Антон Лёсік** (1879—1946), мовазнавец, настаўнік, брат Язэпа Лёсіка. Падчас нямецкай акупацыі працаваў у Выдавецтве школьных падручнікаў і літаратуры для моладзі, у 1943 г. выдаў „Беларускі правапіс“ (кірыліцай і лацінкай).

га[43] і іншых і праводзіў 80% свае праграмы, калі яны раілі мінімальнасьць, паступовасьць, так працэнцікаў 30. Што б тады засталося? Яшчэ дурны — трэ было на ўсе 100% гнуць, яшчэ больш засталося б.

Дый вось тымчасам дзякуй Вам за захаваньне гэтых 20%. Можа ж на ніжэйшую цыфру ня сыйдзе.

Божа мой, я пэўна, несправядлівы да Вас. Я ведаю, што ў Вас гібель працы, і ня думаю, каб гэта была злая воля. Але зразумейце — і Вы павінны б ведаць гэта, разам, можа ж, ужо зь які пуд солі зьелі на тых лёрдаўскіх страўнях БНС, маглі пазнаць адзін аднаго — гэта ж мае балючае месца. Але я думаю, што лепш выказаць гэта адразу і ў вочы Вам, чым казаць гэта іншаму каму бяз Вас. Дык хіба ня крыўдуйце, бо і тут я — болей ня буду і буду добрым зусім хлопчыкам...

Але як дарвуся яшчэ калі-небудзь да мовы — сьцеражыцеся ўсе! Ужо на 150% гнуць буду! Дык не прасеце, каб варочаўся назад!

Гэта я пішу яшчэ й таму, што, здаецца, і на тыя 20%, што засталіся, зараз канцы прыйдуць. У Менск паехаў, ужо пэўна прыехаў і *„вступил в роль и должность“ господин Цыбулькин (к сожалению, почему-то не Луковицын)*. Я яго мала знаю, і можа, зноў жа, грэх гаварыць гэтак, дык зацытую толькі тое, што сяньня піша мне Караленка: *„Ага! У „Беларускай газэце“ з „шапкі“ зьнялі вежу нашай ратушы ў Менску й гэрб „Пагоні“. Чыя гэта справа — ня ведаю, але факт, што шапка голенькая, „без ненужных эмблемов“. Вось дык што, браток! <u>Паколькі на рэдактара „Беларускае газэты“ паехаў Цыбулькін, дык чакай новых неспадзевак. Можа, пабачым хутка на шапцы „Бел. газэты“ двухгаловага арла!</u> Так! Цыбулькіна раскусіў! Маскальскі халуй. Масквой сьмярдзіць. Мяшчанская душа. Але іншых ім і ня трэба. Бясхрыбетная жывёла будзе служыць ім верна, як сабака. Прыедзеш, раскажу лепш. Калега ён добры, таксама сябра ў кампаніі, нядрэнны чалавек, ну але аб „матушке мечтает“. Ды гэтая справа вылезла зь мяшка, калі мы зь ім па-сяброўску ўдвух выпівалі (між іншага, гаворыць ён тады толькі па-расейску). Ён жа таксама выступіў адзін раз з войстрай крытыкай, даслоўна зь пенай на вуснах супроць твайго артыкулу „Яны на беларускай зямлі“...“*

Даруйце за такую даўгую цытату, але думаю, што яна не пашкодзіць Вам дзеля арыентацыі. Між іншага, цікава, чаму і на самой рэчы зьнікла „Пагоня“ зь „Бел. газэты“? Я думаю, мо што тэхнічнае?

[43] Кс. Вінцэнт Гадлеўскі (1888—1942) у 1941—1942 гг. працаваў галоўным школьным інспэктарам у Менску, кіраваў працай у рыхтаваньні праграмаў навучаньня — у тым ліку й па мове — для пачатковых школаў.





Для сябе я раблю з гэтага такія высновы: мусіць, у „Беларускай газэце“ мне больш ня суджана друкавацца, як гэта ня хочацца. Усё ж пасылаю Вам матар'ялы і, калі Вы не зазлуяцё на мяне за тое, што вышэй напісана (але калі напісана — няхай застаецца), — пастарайцеся іх як прапхнуць. Можа ж Цыбулькін не на галоўнага едзе? Каб яго адразу не дражніць, можна было б тое „Яны на беларускай зямлі“[44] куды ў іншае месца здаць, хоць бы ў часапіс Вашага бацькі (ён жа хіба толькі ў „маёй мове“ супраць мяне, а ня ў духу, як Цыбулькін). Мне хацелася, паўтараю яшчэ раз, каб ён усё ж дайшоў да чытача на Беларусі, бо ён і антыпартызанскі, і антыбальшавіцкі, і антымаскальскі (апошняе, відаць, найбольш дапякло Цыбулькіну), і абаперты на фактычным матар'яле, на савецкіх газэтах.

Ага, што рабіць із „Каханым горадам“? Так хацелася б, каб ён надрукаваўся і абавязкава ў „Беларускай газэце“. Але я так сьпяшаўся адаслаць яго Вам, што не хацеў затрымвацца перадрукам на машынцы, і цяпер у мяне засталіся толькі чарнавікі, у якія я, перапісваючы набела, уносіў шмат папраў, не застаўляючы копіі іх у сябе. Дык другі раз перапісваць — якая была б пакута! Можа, яшчэ дойдзе? Можа, паспрабуеце як асьцярожна даведацца, ці не забадзяўся дзе ў якіх Сівіцаў, Гляйкснэраў[45] ці Шрэтэраў? Калі ж канчальна высьветліцца, што няма, — пішэце мне адразу. Усё роўна, на злосьць усім, вазьмуся перапісваць. У гэтым, можа, паможа і Глебчыха (прасіў яе аб гэтым), перапіша на машынцы, і часткамі хоць буду высылаць. Калі ж у „Беларускай газэце“ нельга будзе друкаваць, а рукапіс, скажам, прыйшоў — адашлеце мне яго назад, усё роўна, на злосьць, хоць дзе ды надрукую! (калі будзеце адсылаць — найлепш заказным, *Einschreben*).

Між іншага, як цяпер палажэньне „Беларускай газэты“ з цэнзураю і з залежнасьцю ад Шрэтэра? Адчуваю, што апошні (пэўна ж, з нагавораў Сівіцы) ніколі не дапусьціць мяне да працы ня толькі ў „Беларускай газэце“, але і ў якой-небудзь іншай беларускай газэце. У „Раніцы“, фактычна, працую кантрабандай. Гэткае дзеяньне „засьцярогаў“ Сівіцы, сплеценых пры дапамозе шаноўных спадароў Калубовічаў і Кіпеляў.

[44] Артыкул „Яны на беларускай зямлі“ быў падпісаны „В. Крыцкі“ і надрукаваны ў „Раніцы“ (№8 (170) — 10 (172).

[45] **Гляйкснэр** — адзін з кіраўнікоў выдавецтва „Менск“. У прыватнасьці, быў выдаўцом „Беларускай карэспандэнцыі для палітыкі, эканомікі і культуры зь беларускімі весткамі“, што выдавалася з красавіка 1943 г. да чэрвеня 1944 г.

Як там із выдавецтвам? Мне хацелася б выдаць дзьве рэчы: зборнік апавяданьняў („Усяночная“[46], „Трывога“[47], „Каханы горад“[48] — гэта, свайго роду, трылёгія майго трохгадовага жыцьця-пераажываньняў у Менску), які мог бы называцца „З таго берагу“, і зборнік антыбальшавіцкіх артыкулаў „Зусім інакшыя бальшавікі“[49] (сюды ўвайшлі б апошнія і некаторыя ранейшыя артыкулы). Запраўды, чым я горшы за якога Глыбіннага[50]? Гэта ж такая пустэча, такая вада і лабуда, поўная і фактычных памылак, і зусім ня „глыбіннага“, а такога „павярхоўнага“, „верхагладнага“ падыходу, чыста абывацельскага — як, прыкладам, цяперашнія ягоныя падвалы ў „Беларускай газэце“ пра тэатар, як у тым нумары, што трапіў быў мне праз Караленку.

Баюся толькі, што празь Менск Юстапчыкавы[51] апавяданьні ня пройдуць. Цікава, як із раманам Зубко — выдае той латыш[52] ці не (і як сама Зубко маецца? Часам прыпамінаецца яе кволая хада і той „Добры дзень“)? Можа, яму можна было б усуручаць?

[46] Апавяданьне „Усяночная“ за подпісам С. Юстапчыка апублікавала „Беларуская газэта“ (№30 (148) — 34 (152). Красавік—травень 1943) і газэта „Раніца“ (№15 (177) — 19 (181). Красавік—травень 1944). Пазьней выйшла таксама асобным выданьнем у Выдавецтве Беларускага дапамаговага камітэту ў Ватэнштэце (1946).

[47] Апавяданьне „Трывога“ (С. Юстапчыка) друкавалася ў „Беларускай газэце“ (№№37—45, 47—49, 51—53. Травень—ліпень 1943).

[48] Твор „Каханы горад“ (С. Юстапчыка) друкаваўся ў бэрлінскім „Беларускім работніку“ (№№ 38, 40—44. Верасень—кастрычнік 1944). Пазьней, у 1948 г., у Остэргофэне быў выдадзены асобна з назваю „Казаны горад: завязка раману“.

[49] Артыкул „Зусім інакшыя бальшавікі“ быў выдрукаваны ў „Беларускай газэце“ за подпісам В. Крыцкі (№79 (99). 25 кастрычніка 1942.). Менавіта ён, відаць, мусіў даць назву зборніку, які так і не ўбачыў сьвету.

[50] Уладзімер Глыбінны (сапр. Сядура, 1910—1995) у гады акупацыі быў рэдактарам часопісу „Новы шлях“, актыўна друкаваўся на старонках „Беларускай газэты“. У гэтым выпадку Адамовіч, магчыма, мае на ўвазе падрыхтаваныя Сядурам у 1942—1944 гг. кнігі „Беларускае мастацтва“, „Беларускі тэатар“, зборнік артыкулаў „Жыве Беларусь“, якія, праўда, тады так і не пабачылі сьвету. Юры Туронак у сваёй кнізе „Беларуская кніга пад нямецкім кантролем“ (Менск, 2002) піша, што, напрыклад, кніга „Жыве Беларусь“, нягледзячы на гучную назву, не зацікавіла нікога з патэнцыйных выдаўцоў з прычыны сваёй слабасьці. Відаць, Адамовіч мае на ўвазе якраз гэтую кнігу.

[51] С. Юстапчык — псэўданім Антона Адамовіча.

[52] Маецца на ўвазе друкарня ў Рызе „Картаграфічны інстытут П. Мантнекса“, у якой друкаваліся беларускія кнігі.





Так, цяпер пра тое „Ўзвышша“[53]. Калі я прачытаў гэта ў газэце — кроў ударыла мне ў галаву. Якая прафанацыя! „Узвышша“, у якім, хоць колькасна, а галоўнае месца займаць будуць вершы Цымбальскага[54] і Лебяды[55] ды артыкулы — у гэтым найбольшы жах! — Глыбіннага... Я з палёгкаю ўздыхнуў, калі прачытаў у Вашых лістах, што гэта — бяз Вас і навет супроць Вас. Дык хачу толькі падзякаваць Вам за Вашую пазыцыю ў гэтым пытаньні. Пэўна, каб быў я — на галаву стаў бы, каб гэтага назову не дапусьціць. Прапанаваны Вамі „Да ўзвышшаў“ быў бы як найлепшы і для тых традыцыяў, і для сьведамасьці свайго месца і сілы. Шкода, што Віцьбіч[56] аказаўся такім недалёкім (ці гаворыць ён усё яшчэ па-расейску?). Што ён упарты — гэта не бяда, і мы ж з Вамі абое ня лепшыя. Можа, варта было б мне напісаць яму, можа, паслухаў бы, каб яшчэ большае прафанацыі не дапусьціцца? Калі ўважаеце, што варта — дык якім шляхам, каб не абцяжваць Вас перадачай, бо, як бачу, у Вас зь ім ня вельмі?

Зрэшты, хоць бы зь ветласьці гэтаму „Ўзвышшу“ ня шкодзіла б успомніць, што апрача Віцьбіча, які стаўся сябром згуртаваньня пасьля арышту й выгнаньня ўзвышэнскага ядра, ёсьць і яшчэ адзін узвышэнец па гэты бок мяжы і якраз із таго ядра. Можна было б, хоць і зь ветласьці, напісаць яму пару слоў пра магчымае супрацоўніцтва. Ну, але чаму гэта

[53] Маецца на ўвазе часопіс „Узвышша“, выдадзены ў Менску ў 1944 г.

[54] Верагодна, Антон Адамовіч зашыфраваў пад імем Цымбальскага пісьменьніка Ўладзімера Дудзіцкага (Гуцьку), што за немцамі курыраваў пытаньні культуры пры Менскай гарадской управе, рэдагаваў „Беларус на варце“, уваходзіў у Беларускае культурнае згуртаваньне, меў наўпроставае дачыненьне да аднаўленьня „Ўзвышша“ й выданьня першага нумару аднаўленага часопісу.

Адзінае месца, дзе фігуруе імя Цымбальскага, — сатырычны раман Лявона Савёнка „Дзёньнік Ів. Ів. Чужанінава“, у якім аўтар пад іншымі імёнамі вывеў дзеячаў менскай інтэлігенцыі часоў акупацыі. Гэты раман друкаваўся на старонках „Беларускай газэты“. У Савёнка Цымбальскі быў схільны да п’янства й праяваў маніі перасьледу.

[55] Тодар Лебяда (сапр. Пятро Шырокаў, 1914—1970) у 1943—1944 г. быў рэдактарам віцебскай газэты „Беларускае слова“. Напісаў п’есу пра сталінскія рэпрэсіі „Загубленае жыцьцё“, якую паставіў на сцэне менскага тэатру Вячаслаў Сэлях. У 1944 г. у Менску выйшаў ягоны паэтычны зборнік „Песьні выгнаньня“. Пасьля вайны паўторна рэпрэсаваны Саветамі.

[56] Юрка Віцьбіч (1906—1975) стаў старшынём аднаўленага „Ўзвышша“ й рэдактарам першага нумару.

ня здарылася, зусім ясна. Калубовічам і іншым гэты ўзвышэнец *„не ко двору“*. Бог зь імі, і тут трэба задаволіцца хоць бы тым, што як і ў мове тыя 20%, прайшло ўзвышэнскае паняцьце „згуртаваньня“, а навет можа і гэтае традыцыі ў самым назове „Ўзвышша“ ня так ужо спрафанююцца.

А вось Вам новае сьвінства. Толькі што мусіў перапыніць пісаньне ліста Вам, бо выклікала начальства. Зь Менску зноў паперка. Шрэтэр піша, каб я зьвярнуў яму ўсё тое, што выплацілі маім бацьком. І я, і начальства пастаўленае ў тупік. Найгорш — маральнае адчуваньне: няўжо за сваю працу ў газэце я ня мог заслужыць на тое, каб гэтыя няшчасныя 200 марак выплачваліся маім бацьком хоць бы за тое, што мяне гвалтам адарвалі ад іх, адарвалі ад тае газэты, якую я зарганізаваў і паставіў на ногі, над якой гэтулькі працы палажыў (колькі — Вам гэта цяпер як найлепш відаць, калі самі робіце тую працу).

Можа льга было б у Менску як націснуць на гэтых Шрэтэраў? Давесьці іх да сумленьня? Нарэшце, можа, калі б друкаваліся мае рукапісы ў Вас, можна было б пакрыць із майго ганарару тую маю „завінавачанасьць“ ім, а ў далейшым я пасылаў бы адсюль бязь іхнае ласкі, сяк так пражыў бы на гэтыя 250 марак, якія заставаліся б мне пасьля гэтае пасылкі й вылічэньняў.

Вось якія паперы. Даруйце, што прашу Вас аб гэтым пасьля таго, як вышэй нагаварыў Вам, пэўна ж, несправядлівасьцяў. Але і цяпер вычыркваць, затойваць што-небудзь, хай сабе й несправядлівае, але набалелае й яшчэ неперабалелае — не, няхай...

Ну, што ж яшчэ? Сьсябраваўся цяпер із Караленкам. Думаю цяпер, што да яго мы ўвесь час былі несправядлівыя. Апошні раз ён сам расказаў мне пра тую ў хустцы, што, памятаеце, прыходзіла тады да яго, а ён схлусіў, што ад Жука[57]. Ён вельмі палітычна адвадзіў яе тады, заявіўшы ёй, што яна правакатарка з другога боку.

Бедныя гэтыя Караленкі, зьвяліся зусім — ночы праседжваюць у бункеры (бамбасховішчы), удзень таму часам прасыпаюць абед, з грашыма таксама тугавата. У кватэры вокны забітыя дошкаю, шыбаў няма, было, што і печ не гарэла. А яшчэ ж і працаваць трэба.

На 25-га красавіка буду зноў у Бэрліне. Маю навет у Камітэце рабіць даклад аб гэтым 25-м сакавіка. У Вас, пэўне ж, будзе ўрачыстасьць, і хацелася б там быць, ды што зробіш?

[57] Магчыма, маецца на ўвазе менскі дзеяч Піліп Жук, якога 29 лютага 1944 г. прызначылі намесьнікам прэзыдэнта БЦР на Менскую акругу.





Але пакідаць зусім Бэрлін, як Вы пішаце, нельга, трэба быць і тут, і тут шмат работы для Бацькаўшчыны. Цяпер, як паехаў Цыбулькін, „Беларускі работнік“[58] таксама пераходзіць да Караленкі. Думаю, што ўдасца павесьці празь яго нацыянальнае ўзгадаваньне нашых работнікаў тут. Ізноў паўтараю, гэта можа аказацца ў будучыні ладнай часткай із таго, што ўцалее ад нашага народу.

„Раніца“ таксама ў Караленкавых руках. Ён, як можа, надае ёй лепшага выгляду. Стась Грынкевіч, аб якім я пісаў, хоць добры хлопец, але ніякі ня толькі фінансысты, але й журналісты, і бяда, што да апошняга мае прэтэнзіі. А з моваю ў яго — проста скандал, ня тое, што мяне, а й Караленку з душы верне.

Учора атрымалі зь Менску паперку, каб устанавіць дакладную дату сьмерці Купалы. Аб факце яе ўжо ня йдзе, добра хоць гэта. Але пра дату ў нас нічога няма. Я падаў 28-га чырвеня, што падалі мне Вы, і начальства казала, што паслала гэта. Можа, яшчэ паможа. І тое частковае аднаўленьне яго, пра якое пішаце, — ужо вялікая рэч.

Да мяне зьвярнулася кінатаварыства Остлянду, каб перакладаць подпісы да фільмаў па-беларуску. Даў згоду. Паглядзім, што далей будзе.

Навіны з савецкіх газэтаў. Узнагароджаныя (апроч Матусэвіча[59], аб чым, здаецца, пісаў Вам) Міровіч, Шырма, артыстыя Саньнікаў, Ільлінскі (брат таго, што Вы зналі ў Менску). У часапісе „Беларусь“, №1 якой выйшаў у Гомелі, ёсьць нарыс Клімковіча. Здаецца, ці не зрабілі яшчэ рэформу ў правапісе (здаецца, пішуць щ, „іншеі“, заміж „іншае“, як украінцы), і здаецца, ці не прабуе Танк па-расейску пісаць.

Аб некаторых із гэтых рэчаў пішу цяпер у новым артыкуле з тае самае сэрыі „Яны на беларускай зямлі“ (думаю весьці яе стала). Мае называцца: „Дзед Талаш навучае, Айзік Кучар памагае“. Як скончу, пашлю й Вам.

Задумаў апавяданьне „Пяты акт“ (на думку навяла адна з прамоваў Астроўскага). На фоне бэрлінскіх пераажываньняў ад налётаў. Друкаваць думаю толькі ў „Раніцы“, для Менску ня будзе мець цікавасьці.

[58] „Беларускі работнік“ — штотыднёвая газэта для беларусаў, што жылі ў Нямеччыне добраахвотна або былі вывезеныя прымусова — выдаваўся з чэрвеня 1943 да лістапада 1944 г. Затым быў аб’яднаны з „Раніцай“.

[59] Відаць, ідзецца пра журналіста „Беларускай газэты“ Алеся Матусевіча, які забіў лідэра беларускіх нацыянал-сацыялістаў Фабіяна Акінчыца.

Як Вам падабаюцца „Слуцкія песьняры“[60]? Я яшчэ толькі атрымаў, але ўжо ад абеглага прагляду бадай што захоплены. Буду пісаць у „Раніцы“ перш рэцэнзію, а потым, можа, і артыкулы пра паасобных случчакоў (можа, у прысьвечаных ім спэцыяльна балонах). Цікава, што Клішэвіч[61] захаваў усе тыя нашыя папраўкі, за якія тады такі гвалт узьняў (за выняткам, здаецца, аднае). Апошнія ягоныя вершы, прысланыя ў „Раніцу“, часткава ўжо друкаваліся — зусім добрыя.

У „Раніцы“ цяпер даю сыстэматычна адказы паэтам. Апрацоўваю іхныя вершы. Бяда зноў з гэтымі памылкамі друку, а тут — дык найгорш: іх можна прыняць за папраўкі рэдакцыі... Адна ўлезла і ў верш Клішэвіча, баюся, наробіць гвалту.

На гэтай глебе выйшла сутычка з „Новай дарогай“[62], з М. Дальным (здаецца, Ільляшэвіч[63]). Яму не спадабалася, і ён „выдаў мне порцыю“ „Аглобляй па галаве“, але дужа няўдольна. Я даў здачы — „Пугаю па вадзе“, падпісана „Н. Блізкі“. Бэрлінскім хлопцам дужа спадабалася, падабаецца навет і мне.

У гэтым жа памфлетычным стылі „выдаў порцыю“ маскальскаму агенту епіскапу Апанасу[64] за ягоны выбрык супраць слова „сьвятар“ і Ластоўскага. Называецца „Крыху аб рызах і падрызьніках, „сьвятарох“ і „цемнярох“, подпіс менскі яшчэ — „С. Хізма“. Караленка із Стасем проста ў захапленьні. Караленка кажа, што гэта лепшае з усяго, што я напісаў за ўвесь час. Падабаецца і мне. Мае друкавацца, хоць баюся, каб не засела ў вапошні мамэнт. Гэты Апанас страшэнна мяне ўзьюшыў. А пісаць памфлеты, „выдаваць порцыі“ — здаўна мая наймілейшая справа, за яе і ў бальшавікоў у няласку трапіў.

[60] Маецца на ўвазе зборнік вершаў „Песьняры Случчыны“, выдадзены ў 1943 г. у Слуцку пры ўдзеле Лявона Случаніна, Арыстарха Крота, Палікарпа Манькова і пад рэдакцыяй Уладзімера Клішэвіча.

[61] Уладзімер Клішэвіч (1914—1978) у часе вайны працаваў у рэдакцыі „Газэты Случчыны“.

[62] „Новая дарога“ выдавалася ў Беластоку ў 1942—1944 гг.

[63] Хведар Ільляшэвіч зь вясны 1943 г. быў старшынём Беларускага аб'еднаньня ў Беластоку й рэдактарам штотыднёвіка „Новая дарога“. У ліпені 1944 г. выехаў у Бэрлін.

[64] Апанас (Антон Мартас, 1904—1983), япіскап Віцебскі і Полацкі Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы, беларускі патрыёт. Не прымаў радыкалізму ў здабыцьці незалежнасьці Беларускай царквы. Змаганьне з Апанасам Адамовіч працягнуў і пасьля вайны. У 1948 г. выдаў жорсткі памфлет „Здрада“ пад псэўданімам Максім Зьніч, што спрычыніўся да канчатковага царкоўнага падзелу на беларускай эміграцыі.





Шкада, што прапаў той Ваш вялікі ліст, пасыланы праз прапагандыстага. Бо адказаў на некаторыя свае пытаньні ў пазьнейшых Вашых лістох ня маю. Упаасобку — пра Лявонаў старога й маладога (Караленка пісаў, быццам стары ціснуў нейкі фэльетон у „Беларускай газэце“, а які лёс маладога?)[65], пра Зору[66]. Ёй асобнае прывітаньне на гэтым месцы (хай бы напісала мне калі пару радкоў, як жыве).

Чуў ад Караленкі, быццам Ганьку[67] — адстаўка, Родзька[68] заварочвае. Цікава! А як Абрамава[69]?

Той, пра каго пішаце, што ладзіў забойства Іваноўскага, быў у вялікай ласцы ў „Спадара Навучонага“ Касульнага. Ён навет пасьвячаў яго ў розныя свае шаптаныя справы. Я ж знаў таго яшчэ з савецкіх часоў, ведаў, што запраўднае беларускае сьведамасьці й шчырасьці няма, папярэджваў аб гэтым і Спадара[70], і Прафэсара[71]. Што ж, бясьпечнасьць, а мне ня верылі, думалі — западозрысты, запрычэплівы. Вось і маеце.

Ну, здаецца і ўсё. Вух, хоць выгаварыўся. Цяпер усё ж чарод за Вамі. Хоць „адказу“, як прынцып, чакаць ня буду, і як будзе што новае, час і „хэньць“, як казаў той Ізыдар, — напішу, але ўсё ж крыху пачакаю.

Хаотычны ліст і найбольш непакоіць мяне ў ім, каб Вы не пакрыўдзіліся. Але думаю, што гэта трэ было выказаць хоць раз, каб больш здань навет тае „кошкі“ між намі ня бегала. І спадзяюся, што Вы так гэта і прымеце, і сяброўства між намі — дарма, што адлежнасьць — толькі ўзрасьце. Праўда ж, гэтак павінна быць, бо Вы былі заўсёды блізкая мне — яшчэ калі знаў Вас з адных толькі вершаў — і заўсёды такім, адным з найбліжэйшых людзей, застанецёся, як бы самі да мяне ня ставіліся.

[65] Відаць, размова пра Лявона Савёнка (1897—1974), які працаваў у „Беларускай газэце“, а таксама, магчыма, маецца на ўвазе Лявон Радзіміч (Цімох Рублёў, 1910—?), які часам друкаваўся ў „Беларускай газэце“.

[66] Маецца на ўвазе Зора Кіпель (1927—2003), дачка Лявона Савёнка, што ў Менску ў той час вучылася ў школе.

[67] Міхась Ганько быў кіраўніком СБМ, прабыў на сваёй пасадзе да самага канца вайны.

[68] Усевалад Родзька (1920—1946) вясной 1944 г. быў начальнікам прапаганды Галоўнага кіраўніцтва Беларускай краёвай абароны, з 20 траўня 1944 г. — камандзір 15-га батальёну БКА.

[69] Надзея Абрамава (1907—1979) была кіраўнічкай юначак у СБМ.

[70] Г. зн. Янку Станкевіча, які прыдумаў зварот „спадар“.

[71] Г. зн. Вацлава Іваноўскага.

Канчаю. Вітайце ад мяне Вашага бацьку і наагул, і зь сяброўствам у Радзе[72], і з маёрствам[73] (аб гэтым пісаў Караленка). Вітайце сынка, Шкялёнка і ўсіх-усіх іншых, хто яшчэ „не паставіў крыжыка“ нада мною, ды навет і тых, хто паставіў.

Адрыс пішэце так:

*10 Freyburg a.d.Unstrut*

*Hotel Weintraube.*

І бывайце здаровенькі, усяго-ўсяго Вам найлепшага ў жыцьці і ў працы, не забывайцеся й на сяброў ды галоўнае — ня крыўдуйце...

Заўсёды Ваш Ант Адамовіч

14.03.1944

Даражэнькая сяброўка!

Атрымаў цераз (як сп. Спадар кажа) Саўчука Ваш падзелены надвая ліст, і было мне гэта як *„разрешение от грехов“*, і пачуваю цяпер сябе якраз добра, да Вялікадня — зусім чыстым, і так добра на душы, так што адразу павінен падзякаваць Вам за тое, што Вы так па-сяброўску, запраўды па-сяброўску, паставіліся да ўсяго таго сьвінства (дальбог, цяпер не магу назваць гэта іначай), якое наваробчаў я на Вас у тым лісьце. Ужо напісаўшы і падпісаўшы яго, я колькі разоў памыкаўся падзерці й не адсылаць Вам, і ў самым лісьце тым колькі круціўся, каб як зьмякчыць тую пілюлю, але ўсё нешта карцела, каб ткі хоць раз выказаць гэта ды зрабіць канцы гэтаму назаўсёды. А калі ўрэшце адаслаў, дык меў яшчэ большы непакой, чакаючы на адказ, як на прысуд, хоць у глыбі душы й верыў, што нашае сяброўства ня можа ня вытрымаць гэтага экзамэну. І, дзякуй Богу, мае надзеі й спраўдзіліся, і сам я пачуваюся цяпер куды бліжэй да Вас, як было, і бясконца рады, што выйшла так, як я спадзяваўся — прынамся з майго боку сяброўскае пачуцьцё да Вас яшчэ ўздужэла. За гэта Вам яшчэ і яшчэ дзякуй! Цяпер я магу напісаць Вам ізноў — даўжэзазны ліст — трымайцеся (але загадзя папярэджваю — ня бойцеся: ужо ніякага сьвінства ня будзе). Бо — і гэта Вы самі можаце ведаць — сярод маіх карэспандэнтаў (дарэчы, 17-ць і ня шмат) няма больш нікога, каму я пішу й мог бы наагул пісаць такія даўгія лісты.

[72] Як начальнік Галоўнага кіраўніцтва Беларускай краёвай абароны Франц Кушаль увайшоў у склад Прэзыдыюму БЦР.

[73] Ранг маёра БКА надаў Францу Кушалю сваім загадам прэзыдэнт БЦР Радаслаў Астроўскі 5 сакавіка 1944 г. 28 чэрвеня 1944 г. Кушалю прысвоілі званьне падпалкоўніка.





Цяпер, калі гэта ўсё мінула (і, спадзяюся, не пакіне ні ў воднага з нас ніякага „асадку“), магу добра вытлумачыць і сабе, і Вам, як да гэтага дайшло. Адразу, адна па аднэй, валіліся розныя прыкрасьці і на працы (аб чым Вам пісаў, здаецца, у тым лісьце), і той № „Бел. газэты“ з тымі 20% (папраўдзе, паглядзеўшы цяпер, дык і там іх было куды больш, гэтых %%, толькі што паасобныя выпадкі — накшталт гэтага ненавіднага „сільны“ — вельмі ж пракудныя былі). І вось апанавала мяне часта знаёмае мне ў жыцьці адчуваньне: нейкае кола змыкаецца вакол мяне, і ў ім я зусім адзін-адзінокі, такі беспатрэбны, бяз жадных вынікаў працы свае, без нашчадкаў, без пакінутае спадчыны, без аднадумцаў, толькі ворагі ці раўнадушныя вакол... У такія часіны мне заўсёды прыходзяць на думу Есенінскія радкі *„и нет за гробом ни жены, ни друга“*. Вам, мусіць, незнаёмае гэтае жудаснае хаўтурнае адчуваньне. Апошні, за каго я мог хапацца (і, пэўна ж, сьмела мог учапіцца), былі Вы. Але, растручаны ўсім, я пачаў упарта вышукваць на Вас якія-небудзь „плямы“ ў дачыненьні да мяне. І — хто шукае, той знаходзіць — знайшоў-ткі тую „кошку“. Папраўдзе, дык тады, калі гэта было, адчувалася яно ня зусім ужо так балюча, як гэта я Вам стараўся апісаць. Было гэта хутчэй зусім маленькае кацянётка, якое падрапала крыху і зусім на яго забыўся чалавек, і зусім не памятаваў ды не ўспамінаў аб ім пазьней, і тады, як давялося разьвітацца з Вамі (так што, калі Вы пішаце, што каб ведалі, дык не чакалі б на тое разьвітаньне, а пайшлі б дахаты — дык цяпер можаце не шкадаваць, што не зрабілі гэтак, разьвітаючыся з Вамі, я ня памятаваў аб ніякіх „кошках“). Прынамся, пэрыяд нашага змаганьня вакол „Затонутага звону“ быў для мяне куды больш балючым. Але тое змаганьне дарэшты разьвязалася перад намі абаімі, і таму ад яго нічога не засталося, а гэтае малое сядзела, затаіўшы свае капцюркі, ува мне адным, і таму цяпер і вылезла. Растручаны ўсім (а найбольш — поўнаю адзінотаю тут), я пачаў сам сябе растручваць, па-расейску кажучы *„растравлять и взвинчивать“*. Тады, як Казлоўскі мне казаў тое, хоць і было прыкра, але адразу падумалася, што ён або перабольшыў, або перакруціў, або і ўсё выдумаў. Цяпер жа я пачаў пераконваць і сябе самога, і Вас, што не, Казлоўскі ў такіх разох не хлусіў, і ўсё было так. Цяпер — якраз цяпер, а не тады — пачаў выдумваць, быццам нешта заўважаў у Вашых вершах, „адпраўленае назад“ пасьля маіх правак, тымчасам як папраўдзе ніколі не заўважаў гэтага (апрача звычайных карэктарскіх памылак) ані раней, перад тым, ані пазьней не прыглядаўся. І гэтак *„растравив и взвинтив“* сябе, вылажыў гэта ўсё Вам на паперу. Але і напісаўшы, і адаслаўшы, увесь час хацеў толькі аднаго: ня

стольки, каб Вы даравалі, але каб пераканалі, што гэта ня так. І тое, і тое цяпер маю, і гэты камень, фактычна, мною самім на сябе ўзвалены, зьляцеў далоў бязь сьледу. І калі паўторыцца зноў калі такое адчуваньне „кола, якое змыкаецца“, — будзе ўжо лягчэй, бо пра Вас можна будзе думаць сьмела як пра чалавека, які думкамі й душою будзе са мной. Праўда ж? Будзе, бо й заўсёды быў, бязь ніякіх „кошак“.

І што да мовы і тых працэнтаў — дык і ў тым нумары, што бяз Вас выходзіў (як цяпер даведаўся, дый яшчэ палягчэла), як я ўжо напісаў, таксама ня так ужо страшна было. І запраўды, трэ было б быць пасьвінску няўдзячным, каб паважна, а не ў *„растравленном и взвинченном“* стане дакараць Вам за гэта. І калі я тады, як Вы пішаце, *„так нядобра дзякаваў“* за тое, дык цяпер хачу падзякаваць ужо добранька-добранька і шчыра, што Вы запраўды, пры наяўных абставінах і перадумовах, робіце навет больш, чым можна ў гэтым дачыненьні. І на самой рэчы тут ня так справа ў колькасьці, у тых %%, як у некаторых „опусах“, якія прарываюцца часам, бо, ліхенька, надта ж мусіць „сільныя“. Калі з часам буду атрымваць „Беларускую газэту“ (а яшчэ ня трачу надзеі, што з часам гэта будзе, і можа ўвесь складаны апарат, які ў васноўным мае за сталыя велічыні *Herr Kuschell*-сынок, страшэнна заняты і перагружаны + пошта, мой даўны й заўсёдны, бадай, вораг — пачне-ткі нарэшце прапушчаць нешта празь сябе) — дык тады буду Вам вытыкаць такія „опусы“, ухіленьня якіх, дальбог, аніякі Сабалеўскі[74] ці Родзька не заўважыць, і ведаю, што Вы, праўда ж, будзеце слухаць гэтага, як і тады, калі ў кутку сядзелі, слухалі? І гэта будзе рабіцца — пэўна ж, не зь якіх асабістых меркаваньняў, а ў імя тае ідэі, якой мы абое ж служым і якую ўсе тыя Сабародзькі (скарочанае абазначэньне) разумеюць вельмі ж плытка, зь вельмі блізкім прыцэлам. А калі я толькі што й дзякаваў Вам добранька-добранька — дык ізноў жа не ад сябе, а ад тае ж ідэі (пры гэтай падзяцы мог бы навет у руку пацалаваць, хоць нікому й ніколі не рабіў гэтага — і каб ведаў, што гэта запраўды магло б быць прынята Вамі, як знак падзякі, а ня звычайная *„светская любезность“*).

Каб скончыць з усім гэтым, яшчэ трэба сказаць пра тое, дзе Вы раіце „ўдарыцца ў грудзі“ мне. Далібог, і „ўдарыўся“ б, і на калені стаў бы, каб было ў чым. Тое, што Вы пішаце пра „Сталёвы зьвяз“[75] — самі ж

[74] Юры Сабалеўскі (1889—1957) з студзеня 1944 г. быў віцэ-прэзыдэнтам БЦР. Да таго ж — кіраўніком Беларускай самапомачы.

[75] **„Сталёвы зьвяз“** — верш Натальлі Арсеньневай, напісаны ў 1942 г.





павінны ведаць, што не магло быць. Я ж уважаў заўсёды яго за адзін зь лепшых вершаў Вашых, і цяпер уважаю, няраз цытаваў, пішучы пра Вас, і так, і ў прамовах. Ці магло б гэта быць, каб я наконт гэтага вершу хоць у чым згаджаўся б з Вашым бацькам, ці з Казлоўскім, ці з Ізыдарам (дый ня ўспомню, каб і гэты апошні якраз проці „Сталёвага зьвязу“ нешта меў — наадварот, мясьціны зь яго яму якраз, здаецца, навет падабаліся). Так што й тут так бязбожна перакруціў нябожчык Уладзік[76] (няхай яму лёгка на тым сьвеце ікнецца), было зусім іначай і, з большага, як успамінаю, гэтак. Тое, на што абураўся й звычайна абураецца Ваш бацька, Ізыдар пераводзіў у іншую роўніцу, і чыркаў, як гэта заўсёды робіць у вабурэньні ці падпіўшы, што Вы раней пісалі лепш, а цяпер падпалі пад уплыў *„горшага, што было ў маладнякоўцаў і ўзвышэнцаў і што яны ў сябе даўно выжылі“*. Для мяне ж у ўзвышэнцаў (Дубоўкі, Пушчы) ніколі ня было нічога горшага, а толькі адно — узвышэньне. Кожнаму ўзвышэнцкаму ўплыву, які я бачыў у Вас, я толькі цешыўся, бо заўсёды ўважаў, што Вы й былі ўзвышэнкаю (гэта ўважаў і Дубоўка, здаецца, я Вам казаў аб гэтым: ён казаў заўсёды, што ў Заходняй Беларусі ёсьць двое „нашых“: Жылка і Арсеньнева — Жылка тады яшчэ жыў за мяжою), і калі цяпер як бы й пераймаеце сёе-тое ад каго-небудзь з узвышэнцаў, дык гэтым толькі знаходзіце самую сябе, сваю запраўдную дарогу. І ўважаў, што гэтага якраз ня трэба Вам казаць, каб не спалохаць словам „уплыў“, і каб Вы не шарахнуліся высьцерагацца гэтых „уплываў“ і, значыцца, траціць самую сябе, сыходзіць із правільнае сьцежкі. І Ізыдару, памятаю, ня раз на гэты ягоны закід да Вас, казаў, што калі навет уважаць, як ён, што Вы берацё ад узвышэнцаў *„горшае, што яны ў сябе даўно выжылі“* — дык чаму ён думае, што і Вы гэтага ня выжывеце, калі яно запраўды „горшае“? Чаму ня даць Вам арганічна перажыць гэтую стадыю самой, нічога аб гэтым ня кажучы, нічым ня зьбіваючы й не палохаючы — ці ня трэба, каб кажны прайшоў праз „горшае“, а не праз адно голае „лепшае“. На гэтым Ізыдар як бы пагаджаўся, прынамся, пакідаў чыркаць.

Вось яно як было збольшага — каб захацелі, маглі б у Ізыдара праверыць, ці хоць запытацца ў яго — казаў я калі-небудзь, што *„Вашыя вершы дрэнныя, толькі ня трэба Вам аб гэтым войстра казаць“*. Думаю, што ня можа быць, каб ён тут схлусіў.

А повадам, як цяпер успамінаю, быў не „Сталёвы зьвяз“ зусім, а паасобныя вобразы, здаецца, той *„сырадой зялёны ночы“* і напэўна

[76] Маецца на ўвазе Ўладзіслаў Казлоўскі.

*„песьня, якая капае“* — бо апошні вобраз Ізыдара вельмі брыдзіў, выклікаючы ў ягоным сапсаваным, заўсёды настроеным на сэксуальны й нецэнзурны лад уяўленьні, няпрыгожыя асацыяцыі: *„Чаму ўжо зусім ня сц..., а толькі капае“*, — казаў ён (даруйце за перадачу гэтае нецэнзурнасьці) і пачынаў размазваць гэта, прыцягваючы сюды розныя вэнэрычныя хваробы. А мне якраз гэты вобраз падабаўся вельмі, і я яго вельмі бараніў, як вобраз, хоць Ізыдаравымі асацыяцыямі не абураўся так, як трэ было б, прызнаю, — бо звык да гэтага, вельмі ўзвычаенага сярод мужчынаў брыдкаслоўя, адвучыўся рэагаваць на яго войстра, а можа навет і сьмяяўся — толькі ня з Вашага вобразу, а з творчасьці Ізыдаравае нецэнзурнае фантазіі.

Вось гэта ўсё, у чым мог бы быць грэшны я перад Вамі. Гатоў бы і *„ўдарыцца ў грудзі“*, каб Вы прызналі. Прачытаўшы гэта, што павінен „ўдарыцца“. Думаю, толькі, што Вы гэта зразумееце й прымеце так, як трэба, без накіданьня на мяне чужых вінаў.

Што ж да „Затонутага звону“ — дык тут і зусім ня было ніякае няшчырасьці. Я казаў усім тое, што й Вам і за што мы сварыліся з Вамі, ды высьветліўшыся, здаецца, ня мелі больш патрэбы варочацца да гэтага. Але й цяпер я, усё роўна, як тое галілееўскае „а ўсё-ткі круціцца“, паўтараю тое самае: а ўсё-ткі лепш было, каб перакласьці пяцістопным ямбам! Думаю, што Вы хоць калі-небудзь, а прызнаеце мне рацыю (а мо і ўжо прызналі, ды толькі з таксама „галілееўскае“ ўпартасьці прызнавацца ня хочаце?). Што ж тут няшчырага?

Ну, здаецца, усё з гэтым. Вы пішаце, што ня ўмееце доўга злаваць. А ці не пазналі Вы і ўва мне тое самае гэтулькі праседзеўшы ў куточку, але блізка? Я таксама ня ўмею доўга злаваць, праўда, часам варочаецца ў мяне злаваньне, але толькі пры паўторных выпадках, ці калі „кола змыкаецца“ і зноў жа ненадоўга. На Вас жа па-праўдзе, ніколі не злаваў. І як за „Звон“ сварыліся — было толькі вельмі балюча. А ў вапошнім лісьце — толькі вынік накручваньня сябе, а ня злосьці. Тут перапрасіўшыся за гэта, хачу крыху пра свае дачыненьні да Вас пагаварыць.

Некалі, як першыя Вашыя вершы зьявіліся ў нас у нейкім календары (з рук Максіма Гарэцкага) — я быў яшчэ зусім хлапчуком (гэта было яшчэ ў сямігодцы, ня ў тэхнікуме, мусіць у годзе 1923—24, значыцца, як было мне 14—15 год). І я адразу закахаўся ў іх і, пэўне ж, у Вас... Быў у мяне сшытачак, куды я перапісваў усе вершы, што мне падабаліся, і туды былі перапісаныя ўсе Вашыя (бальшавікі забралі пры першым арышце). Я заўсёды чытаў іх і стараўся ўявіць, якая Вы. І, ведаеце, адразу была ня толькі закаханасьць, але й нямінучая спадарожніца ягоная — зайздрасьць. Сярод тых вершаў быў і прысьвечаны Ф. К. (здаецца, пачынаўся *„Лес вітаў нас нячутнымі словамі“*). Я перапісаў яго без гэтых словаў прысьвячэньня, але заўсёды як чытаў яго, вельмі балела. Пазьней я распытаўся і шмат даведаўся пра Вас ад Максіма Гарэцкага й ягонае жонкі. Таксама і пра Ф. К. Дзіцячая закаханасьць і зайздрасьць, пэўне ж, мінулі, але пазьней як я пазнаў Вас асабіста, узрасло новае пачуцьцё — пачуцьцё добрага сяброўства. Але я заўсёды баяўся, каб яно не аб'ядналася з тым юнацкім, каб не праскочыла нейкая іскра праз гэтую гару гадоў і веку, каб не загарэлася... Іскра праскочыла — Вы гэта памятаеце, гарэць узялося, але адразу загасіў (на дварэ было шмат сьнегу, я навет убіўся ў яго і назаўтра расказваў Вам, памятаеце?). Як праскочыла другі раз — на разьвітаньні — было ўжо ня так страшна й цяпер — праз такую адлежнасьць, як між намі — між Менскам і Фрэйбургам — не загарыцца. Але каб давялося яшчэ калі сустрэцца блізка і праскочыла б — можа й ня браўся б гасіць (і часам шкадую цяпер, што тады гасіў).

Ад першага знаёмства з Вашым бацькам заўсёды пачуваўся як бы нечым вінаватым перад ім. Хоць чым? Думкамі, дый яшчэ юнацкімі? Таму часам неяк цяжка бывае зірнуць яму ў вочы, хоць пазнаўшы яго, як чалавека й беларуса, вельмі люблю яго (пазыцыі ў мове і ў паэзіі гэтаму не перашкаджаюць — яны зусім зразумелыя і ня могуць быць інакшымі). Часам мне здавалася, што й ён да мяне нешта мае. Можа якія „намёкі“ тыпу тых Шкялёнкавых, аб якіх пішаце, ці гадкіх Касячковых да мяне (аб чым, здаецца, пераказваў Вам сваім часам) даходзілі да яго? Ці сам што дагледжваў?

А між нас жа ніколі нічога гэткага ня было, дый ніколі ня будзе, навет калі б і сяброўства было яшчэ цясьнейшым. Таму ўрэшце і я стаўлюся да ўсіх тых „намёкаў“ як Вы — мне ўсё роўна, *„в высшей степени наплевать“*. Тут у гэтай правінцыйнай дзіры Фрэйбургу, дзе людзям няма чаго рабіць, як толькі языкі чухаць, я, стаючы збоку ад усяго гэтага „грамадзкага жыцьця“ — толькі з нутраной усьмешкай сачу, як кажная бадай гаворка мужчыны з жанчынай адразу дае „грамадзкую апінію“: „нешта ёсьць“. І гэта я бачыў заўсёды і ўсюды, і найчасьцей якраз тады, калі якраз „нічога няма“. Дык, як казаў Дубоўка — *„хай гавораць людзі“*, толькі што я ўжо адвучыўся ўспрыймаць *„словы іх, як палыновы воцат“* — проста так, нейкая трава...

Перачытаў напісанае, і зноў баюся — мо зноў будзе Вам дзе-нідзе прыкра, хоць ужо з другога боку. Бо тут жа ўжо нічога благога няма, і ўсё — як найшчырэй (толькі што — „незадаволенае“)...

Яшчэ маю адзін сакрэт перад Вамі таго ж парадку, але хай сакрэтам хіба й застанецца тымчасам. Хіба, як праваліцца канчальна тое, што ў ім „засакрэчана“, ці й так мо як сустрэнемся калі (здаецца, што праваліцца, а што сустрэнемся яшчэ калі-небудзь — дык напэўна) — раскажу. Толькі не палохайцеся — ніякае „кошкі“ ў ім няма, адно толькі страхаваньне на выпадак пажару ад тых іскраў (ну, здаецца, ужо ўвесь „сакрэт“ выдаў, што лёгка здагадацца, хоць не — мусіць лёгка толькі мне, ведаючы).

Ну і досыць ужо аб усім гэтым інтымным і толькі нас дваіх датычным, шмат трэба пра іншае, агульнае напісаць.

Так, мусіць, і не дайду да таго агульнага й іншага — мусіў перапыніць ліст, бо прыйшло крыху пошты, у ёй — „цераз“ Саўчука пара „Бел. газэты“ і сёе-тое „цераз“ Караленку. Адразу ж прачытаў вершы, між іх і Ваш „О, родны край“. Верш добры, я ў ім зрабіў бы толькі адну папраўку: „абаўю“ на „абвію“. Гэта не „мая мова“, а гэткім формам — вію, лію — аддавалі перавагу больш чуткія на вуха Багдановіч, Купала, усе ўзвышэнцы з Дубоўкам на чале, тымчасам як Колас, Цішка Гартны ды іншыя, каму „мядзьведзь на вуха наступіў“, трымаліся ўпэўніўшыся, да [...] Дубоўка, аднак, ніяк цярпець ня мог гэтага „ую“, „ўю“. Перавага „вію“, „лію“ чуваць (навуха — „лію“ проста „ліецца“, а ў „льлецца“ ці „льецца“ навет чуваць, што плыня нечага затрымваецца, нейкімі запрудамі. І тэарэтычна тут таксама поўная перавага — „вію“, „лію“ маюць вышэйшы паказальнік гармоніі галосных і зычных („вію“ = „війу“ = два галосных гукі на два негалосныя, „ую“ = „уйу“ = два галосныя на адзін паўгалосны, а „ўю“ = „ўйу“ = яшчэ горш: два паўгалосныя на адзін адзінюткі галосны!).

Кульгае правапіс у „Беларускай газэце“. У Вашым вершы аж два разы па-бальшавіцку „не стрымаць“ заміж „ня стрымаць“ (першы склад перад націскам!)

У іншым месцы ў нейкім падзагалоўку кінулася ў вочы „розшукі“ заміж „росшукі“. Пра тое ж, што пачалі зноў пісаць „паводле“ заміж „паводля“, хоць Лёсікаўскага правапісу не адмянілі (а ў гэтым пункце ён якраз мае рацыю), я ўжо, здаецца, пісаў Вам. Таксама часта ня выконваюць правіла прыстаўнога „в“ — пішуць „у адным“, „у апошнім“ — заміж „у вадным“, „у вапошнім“ — як трэба паводля ўсякага правапісу — і Тарашкевіцкага, і Лёсікаўскага, за выняткам аднаго бальшавіцкага.

Ну, але досыць пра мову. Адно яшчэ толькі — ці не заўважылі Вы, што мы з Вамі ў ваднолькавым палажэньні: гэтую „маю мову“ ненавідзяць таксама й тыя самыя асобы, што і Вашыя вершы. Чаму — для





мяне ясна. Бо і гэтая „мая мова“ і Вашыя вершы — элемэнты таго самага, імя якому — узвышэнства. А ўзвышэнства заўсёды было наватарскім ува ўсім, і заўсёды яго ненавідзелі прадстаўнікі тупое масы сабародзькаў. Гэтак было за саветамі, гэтак і цяпер, гэтак будзе заўсёды, пакуль будуць яны. Але мы ніколі не здаваліся перад гэтым, і ў выніку нашае ўпорыстае працы — як шмат узвышэнскага ўжо прышчапілася! І ў мове, і ў паэзіі — у вапошняй навет у савецкіх трубадураў. Ад магутнае Дубоўкавае рукі дагэтуль ня могуць вызваліцца ўсякія савецкія глебкі дый навет буйнейшыя рыбіны.

Дык гэтак будзем і надалей рабіць. *„Што загіне — то загіне“*, казаў Дубоўка, а нешта ж і застанецца. І калі я, як пішаце Вы, *„нядобра дзякаваў“* за 20%, дык ня зусім „нядобра“ [...].

Дык жа не, аказваецца, пра мову ня досыць. Папалуднаваўшы, крыху адпачываў і пераглядаў прысланую бацькамі зь Менску „Беларускую газэту“ — тры нумары маю, за 22, 25 і 29 сакавіка (як бачу, паранейшаму выходзіць двойчы на тыдзень — значыцца з трыма разамі нічога ня выйшла — ну, пэўна, яно й бадай немагчыма было б, пры тэй умове, што працуеце, бадай, Вы адна). Ну, дзякуй Богу, Пагоня й вежа зьявіліся зноў, толькі чаму такі стары, зацьвілы, вэгэтэрыянска-бяззубы лёзунг — [...]?

Правапіс — трэба „Касына“, а не „Касіна“. Граматыка — трэба „У гэтым дні“, а ня „дню“ (між іншага, „спадарызм“ проці Тарашкевіча). „У гэтым годзе“, „прыймайце ўдзел“ — як жыўцом зьлеплена з расейскага, трэба „сёлета“, „бярэце ўдзел“. Правапіс: „Бухарэст“ — з расейскага, трэба з арыгіналу — з румынскага „Букарэшт“. Насьмешкай гучыць „геройскі чын нямецкіх лётнікаў“ заміж „гэраічны („геройскія чыны“ былі ў славутага Кузьмы Кручкова або барона Мюнгаўзэна). Ну, пэўне ж — „Злучаныя штаты“ заміж „Задзіночаныя“ — гэта ж можа й Сабалеўскі заўважыць (тымчасам як колькі выясьнілася сваім часам, што „злучанымі“ могуць быць толькі мэханічныя, мёртвыя рэчы — „Задзіночаныя штаты“ — гэта ж ня „злучаныя хаты“ ці „пакоі“). Ну, а за што імасьць біць трэба, дык гэта за верш Кавыля[77] — гэта ж Вашая дзялянка! Як можна было прапусьціць жыўцом маскальскае: „У вакна адна сяджу“, калі можа быць толькі „ля вакна“? І „тою“, калі трэба „тэю“, і „не адна“, калі трэба „ці адна“. А так жа зусім ніштаваты, бойкі вершык, пад „Мяцеліцу“ (народную і Гаруна).

[77] Міхась Кавыль (Язэп Лешчанка, нар. 1915) у 1943—1944 гг. працаваў у аддзеле прапаганды пры Генэральным камісарыяце ў Менску.

А як абурае бальшавіцкая „аб'ява", тым больш, што яно не зусім яшчэ выцясніла нашую „абвестку", хоць усё болей цісьне. Трэба ж сачыць адзінства!

Скандал! Бальшавіцкае „ў днях" — калі трэба „у днёх" (гэта ўжо сьвяточны нумар). А што за скандал з гэтаю „вольнасьцю" — гэта ўсё Шкялёнак прэ, ён і раней *„страдал этим расстройством желудка"* (бо нашае „вольнасьць" — гэта ёсьць расейскае *„расстройство желудка"*, польскае здаецца [...].

Цяпер усюды пайшло „англа-амэрыканскі", калі трэба „ангельскаам..." Мо й да Англіі ўжо дайшло? Ды не, „Вугоршчына", дзякуй Богу, трымаецца, і „Ангельшчыну" Бог шануе! Во і „Задзіночанае" ёсьць — настрой пачынае папраўляцца ў мяне! Толькі — адзінства, адзінства!

Цьфу, і ў Радзюка[78] ды яшчэ ў вершы — „вольнасьць"! Што гэта іх усіх, даруйце, „Аляксей спанаваў"?

А вось наўздагон (пэўна ён, бо „віленская хроніка") — *„таксама і другіх беларускіх школаў"*. А чаму ня трэйціх, чацьвертых і s. w.? І дальбог жа, каб на „іншых" замянілі — ніводзін Сабалеўскі не заўважыў бы, а калі й заўважыў бы, дык што мог бы сказаць?

Цяпер, што я паправіў бы ў Вашым „Усяславе". Найбольшыя скандалы ў рэмарках — дый, бадай, вылучна толькі там. Ну як Вам ня сорам — „рашыўшыся"! Па-беларуску калі й можна было б зразумець, дык хіба ў сэнсе „звар'яцеўшы"! Ёсьць жа „наважыўшыся" — і народнае, і апрабаванае літаратураю, і прыгожае, і выразістае. І навошта Вам гэтая ўкраінска-маскальская „барацьба", калі сваіх гэтулькі — і „змаганьне", і „ходаньне", і „доленьне", і „дужаньне" — падбірайце тое адценьне, якое трэба!

Ну а ў тэксьце найбольш рэзнула вуха тое месца, дзе Лада рыфмуе „ноч" і „проч". І ня толькі гэтаю, вельмі таннаю, рыфмаю ці няпэўнасьцю гэтага „проч", але такой нейкай нясмачнай прозай усяго гэтага *„лепш хадзем адгэтуль проч"*.

Наагул, калі гэта Шкялёнак намогся друкаваць „Усяслава" ў такім выглядзе, як Вы пішаце, дык ці не зрабіў Вам нешта накшталт „мядзьвежае паслугі". Канечне ж лібрэта мае вартасьць толькі разам із музыкай, а калі й друкаваць яго, дык ці ў спэцыяльных выданьнях, ці ў форме г. зв. „літаратурнага тэксту", г. зн. спэцыяльна перапрацаванага для чытача, пераробленага ў чыста літаратурны твор. Шырокая публіка нідзе ніколі не чытала такіх не-літаратурных лібрэта, прыме яго за літаратурны твор,

[78] Маецца на ўвазе пісьменьнік Алесь Салавей (Альфрэд Радзюк, 1922—1978).





і будуць розныя *„злосьнікі бразгатаць бубнамі"*, як пісаў Дубоўка. Мо першы зь іх будзе які-небудзь Чабатарэвіч ці аўтар тае п'есы пра Ўсяслава, якую, памятаеце, ён хацеў некалі паставіць (Коўш[79], здаецца). Ну, а пэўне ж, розныя Родзькі, вершаваныя практыкаваньні якіх не праходзяць праз маё (а, здаецца, і Вашае) сіта. Куды лепш было б надрукаваць „Звон" (хоць, яшчэ скажу — каб яшчэ дый пяцістопным ямбам!)

А цяпер яшчэ крыху каля музыкі, якую Карповіч[80] у Вас разводзіць. Ці чытаеце Вы тое, што ён друкуе пад шапкай „Культура і веда"? Гэта ж таксама скандал, і больш, чымся тэатральныя глыбіні Глыбіннага. Бо там толькі *„по глупости и недоразвитию"*, а тут, па-мойму, выразна *„по злому умыслу"* ці, прынамся, з мэтаю страхаваньня ў бок „таварышаў". Калі я чытаў пра опэру, дык проста ня ведаў, зь якое гэта опэры? Пра Равенскага[81], заснавальніка беларускае опэры, пра ягоную „Браніславу" — ані ўспаміну, хоць я даў яму ўсе патрэбныя даведкі (між іншага, як із Равенскім — меліся ж сьцягнуць яго з Чэрвеня?). Затое колькі пра ўсякіх „Міхасёў Падгорных" і Багатыровых, хоць сам жа піша, што ў *„оного советского богатыря"* — скрозь *„расейская опэрная клясыка"* і, бадай, нічога ад *„беларускай народнай песеннасьці"*. А далейболей і горай: тут і „Кон-Сагыз", і „Як гартавалася сталь" і „Пісьмо беларускага народу Вялікаму Сталіну". Аж валасы дуба стаюць — гэта ўсё — беларуская музыка, ейнае „арганічнае разьвіцьцё", калі кажны смаркач скажа, што створаныя вакол гэтых рэчаў музычныя творы маглі быць толькі мёртванароджанымі ад дырэктывы ці заказу зусім чужароднымі наростамі на ёй, дый найчасьцей робленымі чужацкімі рукамі.

Дальбог, пачынаюць свае рукі сьвярбець „выдаць порцыю" гэтаму панінскаму *„последышу"* на балонках „Раніцы" хоць!

Так, між іншага, як жа *„Милейший Сергей Александрович" — „где он, что с ним?"* Ці выжылі-ткі? Баюся, што не, бо, як даведваюся з хронікі, тэатар усё яшчэ „мае адчыніцца"... А з Шчаглоўскага артыкулу дазнаюся, што *„самі сябе адсунулі ў бок"* Сімачка, Купцэвіч, Лапацін, Шчаціхін... Што ж *„протестируют"* ці мо жалоба? І *„пукст запарыц-*

[79] Сьвятаслаў Коўш (1917—1997) падчас нямецкай акупацыі быў бурмістрам Клецкага раёну, займаўся літаратурнай творчасьцю: аўтар балядаў, апавяданьняў, аповесьцяў.

[80] Маецца на ўвазе кампазытар і музычны крытык Алесь Карповіч.

[81] Кампазытар Мікола Равенскі (1886—1953) падчас нямецкай акупацыі жыў у Чэрвені, кіраваў царкоўным хорам. Равенскі напісаў музыку да вершу Натальлі Арсеньневай „Магутны Божа".

*ца і хутка ахаладзее"*... А Ачыцовіч ці не *„перестроилась"*, бо ў Шчаглова на першае месца вылезла? Можа знойдзеце калі час, дык крыху чырканіце пра ўсю гэтую халяйштру.

Дужа цешыць, што нарэшце вуліцы хоць некаторыя добра назвалі (у васноўным паводля майго калішняга праекту). Толькі што ж, бедная нашая Рагнедачка[82] ўсё яшчэ незаконна-кантрабанднай застаецца? І чаму Комар[83] падпісваецца аж праз два „м" — ня хоча да інсэктаў належыць, а выводзіцца ад „Komma"[84]?

Ну, 25-га, відаць, у Вас добра адсьвяткавалі. Навет і я крыху сьвяткаваў — зьезьдзіў у Бэрлін (як мне заўсёды шанцуе: пасьля вялікага налёту, трапіў у наступны, праўда, крыху меншы, праседзелі з Караленкамі ў бункеры). Зрабіў даклад у Камітэце на ўрачыстым сходзе, на які зьехаліся прадстаўнікі Камітэтаў з усяе Нямеччыны. Дакладам задаволены сам, што рэдка са мной бывае. Але цяпер, так даўно не аратарствуючы, гэтак хацелася „рэкнуць", і ткі „рэкнуў" — з паўгоду сьмела маўчаць можна.

Засьпеў Караленкаў сярод кучы шкла і тынкаваньня са столі — пасьля налёту. Нічога, зноў пазабівалі вокны дыктаю, падмялі — жывуць! Выглядаюць абое блага. Караленчыха, наверх, аказваецца цяжарная. Пры кажным алярме лятуць у бункер, якраз можна пасьпець (апошні раз Караленчыха ляцела, несучы чаравікі ў руках, толькі ў трэпках). Там хоць зацішна. Ато як раней сядзелі ў кэлеры, дык трэсьліся разам зь ім, і Караленка мусіў яшчэ разам зь іншымі мужчынамі надзяваць каску й выходзіць у часе налёту, глядзець, ці не гарыць, ато й гасіць. Цяпер я навучыў іх гэтых „палётаў".

Тумаш жыве ў падобным да майго маленькім гарадку, толькі бліжэй да Бэрліну, але зьбіраецца перабірацца (ці яго хочуць перабіраць) у нейкі іншы. Расьцяпы з Камітэту запозна паведамілі яму, і ён ня мог пад'ехаць на 25-га сакавіка, і мне не ўдалося зь ім цяпер бачыцца. Здаецца, нешта піша, але тымчасам для сябе, бо не друкуе.

Ці ведама ў Вас гэтая навіна — Ермачэнка[85] сядзіць і прытым, як крыміналіста. Нарэшце! Гэта весткі ад Геніюшыхі з Прагі. Кажуць,

[82] Маецца на ўвазе вуліца Рагнеды, дзе месьцілася рэдакцыя „Беларускай газэты" (Рагнеды, 2), сёньня — вуліца Рэвалюцыйная.

[83] Анатоль Комар (1902—1992), інжынэр, да вайны дацэнт Політэхнічнага інстытуту, бурмістар Менску зь сьнежня 1943 г. пасьля забойства Вацлава Іваноўскага. На эміграцыі жыў у Кўэбэку. Зьмяніў прозьвішча на Ромар.

[84] *Komma* (ням.) — коска.

[85] Іван Ермачэнка (1894—1970) з кастрычніка 1941 г. да красавіка 1943 г. — старшыня Беларускай народнай самапомачы. У красавіку 1943 г. у выніку⇨





быццам і Шкурнікаў у Менску сеў, ці праўда? У Бэрліне працуе Бакач[86], вельмі сымпатычны чалавек — Ермачэнка нацягнуў яму такі хвост „засьцярогаў", што яшчэ больш, як мне мае *„доброжелатели"* — аж у лягеры сядзеў!

Ага, вось якраз надумаў сабе яшчэ адзін псэўданім — „Засьцярога" ці „Засьцярожаны" — трэба будзе як выкарыстаць!

І дальбог — сьмех із панскіх ботаў з гэтаю поштаю: толькі што атрымаў Ваш ліст, стары-стары, дзе пішаце яшчэ пра Раду, як яна творыцца, пачынаеце ад навагодніх пажаданьняў... Мусіць, той, што праз прапагандыстага пасылаўся. Ён, мусіць, меў кучу лістоў да мяне, і цяпер нехта аднекуль пакрысе цыркае іх. Так, на 25-га сакавіка — якраз, як сьвяточны падарунак — ліст ад Каткавічанкі (пры нагодзе, перадайце ёй прывітаньне і скажэце, што ліст атрымаў аж цяпер, мо як зьбяруся адпісаць — гэта ня ліст, а хутчэй маленькая пісулька). Дзён колькі таму прыйшоў ліст ад Шэфа-праваднікa[87] — прывітайце й яго пры нагодзе. Гэты вялікі муж просіць, каб яму пісаць, а пры ўласьцівай усім вялікім людзям *„рассеянности"* свайго адрысу не падае. Ну, як ён, асабліва з Родзькам? Пэўне, Родзьку я цаню вышэй, але ж таксама павярхоўнасьць і, як па-расейску кажуць, *„пылевглазапускатель"*. Да мяне таксама, мусіць, засьцярогі мае — галоўна, што верш не аценіў і не пусьціў, а для людзей — пэўна ж, мова ці што яшчэ. Ганько з апошняга боку бліжэй мне — навет і ў мове заўсёды стараўся, і цяпер, відаць, стараецца, навет у лісьце пра гэта піша.

Цікава, што за данос зрабіў на Вас Віцьбіч? І як ягоная расейская мова і *„общеславянские"* з папоўскім адценьнем сымпатыі?

Што ж да Калубовіча — усё ж не магу зноў з Вамі зусім згадзіцца. Думаю, і ў дачыненьні да мяне ягоныя словы аб „незаменнасьці" маёй няшчырыя, і безь мяне адчуваецца яму лягчэй, якраз мая „незаменнасьць" яго гняла і гняла б, бо ён баяўся б якраз „заменнасьці" сябе празь мяне. Прынамся, факт, што ён добра руку прыклаў да ўсякіх „засьцярогаў", і думаю, хутчэй „вольна", чым „міжвольна". Зрэшты,

⇨рэпрэсіяў з боку нямецкіх уладаў зьмешчаны са сваёй пасады й адпраўлены пад нагляд гестапа ў Прагу, дзе жыў у 1920—1930-х гг. Неаднаразова потым арыштоўваўся гестапа, у тым ліку й пасьля забойства Кубэ.

[86] Пётра Бакач пры канцы 1943 г. узначаліў бэрлінскі філіял Беларускага камітэту самапомачы, працаваў у беларускім аддзеле Міністэрства прапаганды.

[87] Маецца на ўвазе Міхась Ганько.

ніякага „зуба“ на яго ня маю, толькі што такія кар’ерыстычна-падхалімажныя тыпы заўсёды былі й будуць мне чужыя.

І чаму ж, калі я такі для яго „незаменны“, ён ні ачарніў, ні абяліў, калі тварылася Згуртаваньне і, асабліва, „Узвышша“ — каб хоць ізь ветласьці запрапанаваць супрацоўніцтва ці што падобнае, хоць бы сабе і з адлежнасьці?

Я згаджаюся, што ўсе можа й куды лепшыя, нішто сабе людзі, як Вы пішаце. Можа, навет і тое *„gute Menschen, aber schlechte Musikanten“* не да ўсіх іх прыстасаваць можна, можа й музыкі ніштаватыя, кажны на сваім інструмэнце. Сакрэт увесь, відаць, ува мне самым. Кажу гэта Вам зусім шчыра, без усякае гіроніі ці адценьня *„ущемленности“*. Запраўды ж сам я заўважаў, асабліва апошнімі гадамі, што ёсьць ува мне нейкая ўласьцівасьць, якая робіць мяне навонкі аб’ектыўна тым, што называюць „цяжкім чалавекам“, хоць суб’ектыўна такім сябе ніколі не адчуваў і прызнаць не магу. Нейкая ўласьцівасьць гнясьці сабой іншых. І што асабліва прыкра, гэта тое, што „прыгнечаныя“ мною бадай ніколі ня маюць адвагі паўстаць ці агрызнуцца мне ў вочы, хоць якраз мелі б у гэтым як найбольшую ўдачу і лёгка маглі б дамагчыся бадай ці ня поўнай здачы тых ці іншых пазыцыяў мною, бо як толькі я адчуваю, што некага „прыгнёў“ ад яго самога — гатоў ледзь не адразу „прылашчыць“ яго, і так далёка, аж да здачы пазыцыяў (гэта таксама дрэнна). Але „прыгнечаныя“ адступаюць заўсёды ціхенька, так затойваючы сваю „прыгнечанасьць“, што мне яе зусім ня відаць, і затое даюць ёй волю за вочы, найчасьцей снуючы тыя „засьцярогі“. *„Печально, но факт“*.

Пэўна, я не кажу пра звычайныя пасярэднасьці й павярхоўнасьці — гэтых ня шкода і зусім разгнейсьці, мне часам трапляюцца й людзі, якіх цэніш, навет любіш можа, і хацеў бы зь імі працаваць. Вось Вы пішаце *„Дзіўна, што Шкялёнак не запаліўся ад майго звароту, а наадварот, пачаў выказваць, што добра і гэтак...“* А тымчасам як я ад’яжджаў, памятаеце ж, бадай, гаварыў адваротнае.

Праўда, аб’ектыўна я мушу быць яму ўдзячны, і можа гэта якраз вельмі прыязная й сяброўская лінія, жаданьне мне бясьпекі... А ў глыбі — шчыміць: ці ня „ўгнёў“ і яго чым-небудзь, што й яму безь мяне лягчэй?

А вось Астроўскі. Здаецца ж, я яму ніколі ні на які мазоль ня ўступіў і ня зьбіраюся ўступаць, цаніў і цаню, адразу, памятаеце, пісаў Вам, што ягоная фігура на чале Рады толькі й падтрымвае маю надзею, што гэта будзе або-або: або нешта вартае чаго-небудзь, або зусім нічога, бо Астроўскі ў выпадку чаго і дзьвярыма бразнуць можа, умее. І дагэтуль трымаюся гэтага погляду. Ніколі не зважаў надта, што казалі і нябожчык Казлоўскі, і іншыя пра ўсе ягоныя мінулыя „грахі“, пра *„любовь к накоплению имущества“*, асабліва таго, што ня вельмі добра ляжыць і каля чаго, казалі, ён добра папахадзіў, будучы на Браншчыне, на Смаленшчыне дый яшчэ ў Менску[88]. Не зважаў, хоць пэўны, што ў гэтым — шмат праўды, калі ня ўся яна. Няхай сабе, мне асабіста гэтая рыса глыбока чужая, як ведаеце самі, але ж яна можа зусім не перашкаджаць чалавеку быць добрым дзяржаўным мужам і беларусам. І заўсёды меў вялікую прыемнасьць гутарыць зь ім, калі ён прыяжджаў у Менск. І ніколі ён мне ў вочы ні ачарніў, ні абяліў пра тую „мову“. А цяпер Вы пішаце, што навет ён, пасьля Сабалеўскіх і Родзькаў, нешта мае да гэтага... Ізноў жа, цяпер даведваюся, што ён канструяваў Раду сам, каго хацеў, таго й называў, як Вы пішаце. Бязумоўна, каб я быў на Беларусі, я ніколі не прэтэндаваў бы на месца хоць якое-небудзь у гэтай Радзе, надварот, адбіваўся б, як мага — Вы ж ведаеце, як не люблю я ўсіх гэтых гаворак, паседжаньняў, усяе гэтае „грамадзкае працы“. Але прызнаюся толькі Вам — калі я даведаўся, што Астроўскі канструюе Раду, дык спадзяваўся, што ён выкарыстае гэта, каб зьвярнуць мяне на Беларусь, чаго мне тады вельмі-вельмі хацелася. І дагэтуль я думаў, што можа ён і спрабаваў гэта, ды яму выткнулі з афіцыйнага боку тыя „засьцярогі“, далі „адводы“... Цяпер даведваюся, што навет і не спрабаваў. Значыцца, для яго мне або грош цана (ці, ува ўсякім разе, цана куды ніжэйшая за Сабалеўскага, Калубовіча), або зусім — перашкода...

А можа, ізноў жа, як і ў выпадку із Шкялёнкам, асабістае, прыяцельскае жаданьне мае бясьпекі? Ня выглядае, бо зрэшты, хто я яму?

Мусіць на яго яшчэ Шавелевы „засьцярогі“ моц маюць? І дзіўная рэч, што якраз тады, на тым сходзе[89], дзе Шавель[90] выскачыў супраць

[88] У ліпені 1941 г. Астроўскі ўзначаліў Менскае намесьніцтва, якое аб’ядноўвала 21 раён, пасьля ўсталяваньня цывільнай адміністрацыі выехаў разам з вайсковым камандаваньнем на ўсход, арганізоўваў беларускую адміністрацыю ў Бранскай і Смаленскай акругах.

[89] Відаць, маецца на ўвазе сход беларускага актыву летам 1941 г. у Менску, на якім абмяркоўвалася пытаньне стварэньня беларускай падпольнай арганізацыі.

[90] **Уладзімер Шавель** (1915—1942/3?), вучань Віленскай беларускай гімназіі (Радаслава Астроўскага). Скончыў юрыдычны факультэт Віленскага ўнівэрсытэту. У 1941 г. стварыў аддзелы беларускай паліцыі на Меншчыне, блізкі паплечнік Астроўскага летам 1941 г., калі той узначальваў Менскае намесьніцтва. Астроўскі й Шавель жылі на адной кватэры. Пасьля⇨

мяне, я гаварыў пасьля Астроўскага, зусім у ягоным дусе, і ён у часе майго выступленьня ківаў мне галавою і навет казаў, быццам радасна, сваё такое нейкае асаблівае „але, але...“ А тады выскачыў Шавель і пачаў рабіць зь мяне... бальшавіка. І Астроўскі адразу зьвяў, *„заскучал“*, як Зошчэнка кажа, а ўжо на мяне зусім ня тое, што нуда, а проста жуда найшла. Я аж сваім вушам ня мог даць веры...

Пазьней я гэта зразумеў, ці прынамся стараўся зразумець і, здаецца, правільна. Шавель тады адразу ўзяў тон на „правадыра“, ледзь не Напалеона. А тут выткнуўся я, і ён пабачыў, што ў мяне язык гладка ходзіць (ніколі не ўважаючы сябе за „выдатнага аратара“, як часта даводзілася чуць камплімэнты — можа, зноў жа, толькі ў вочы? — усё ж адмовіцца ад таго, што магу пушчаць язык у ход, не магу). Відаць, яму здалося, што й я магу (навет хачу ці не хачу) па тэй самай лініі падацца (хоць ніколі *„оного я и в мечтах не лелеял“*). Ну, і адразу ж наважыў зрабіць станоўчае „тпру“. Дурань, мог зусім не баяцца ўва мне ніякага „канкурэнта“, бо я ніколі на тую лінію не пайшоў бы, навет каб мяне на яе стыхійна выносіла. І вось адразу налажыў мне шэраг „засьцярогаў“. Праўда, пад канец ужо як бы й зьмяніў свой погляд і, шчыра ці не, як бы адрабіць стараўся, ды позна было: ачарніць заўсёды лягчэй, як абяліць, па чорным як белым ні квэцай, заўсёды той, хто раней бачыў ці хоць чуў, як чарнілі, пакіне пры сабе тое „нешта ёсьць“, *„дыму без агню ня бывае“*. Гэтак і было.

Нябожчык Іваноўскі (зусім згодзен з тым, што аб ім пішаце, і адчуваю гэта ўсё больш і больш, наагул, толькі ад яго часам і адчуваў запраўды цёплае пачуцьце да сябе, як і ад нябожчыка Аляхновіча — ад гэтага дык ужо бяз усякіх „засьцярогаў“), якому, памятаеце, Шавель, як і Астроўскаму, так імпанаваў, таксама на тыя „засьцярогі“ настаўляў вуха.

А Спадар ці Наўчоны... Той дык, пераняўшыся гэтымі „засьцярогамі“, угаворваў мяне зусім па-энкавэдоўску: *„Вам лепш прызнацца, калі што было ці ёсьць...“* І сьмех, і грэх...

Між іншага, і з Наўчоным у нас расхайдас цяпер. Мусіць, пакрыўдзіўся, што я ня даў свайго подпісу на той фразэалёгічны слоўнік[91] (дарэчы, выходзіць ён ці не?). Бо даўно напісаў яму, і ніякага адказу.

⇨ўсталяваньня ў Менску цывільнай адміністрацыі выехаў на Бярэзіншчыну. Удзельнік і арганізатар беларускага падпольля. Стварыў партызанскі атрад, што змагаўся супраць немцаў на Барысаўшчыне й Бягомльшчыне. Паводле няпэўных зьвестак, загінуў у 1943 г.

[91] Слоўнік выйшаў на пачатку лета 1944 г. (інфармацыя пра яго зьявілася ў „Беларускай газэце“ 10 чэрвеня 1944 г.) у Менску ў выдавецтве ВШПЛМ і⇨





І вось здаецца мне цяпер, ці ня меў рацыю нябожчык Казлоўскі, калі, злуючы часам, казаў, што я — той самы Спадар, такі самы Спадар... Агульна прызнана, што Спадар цяжкі чалавек. А ці шмат „лягчэйшы“ я?

І калі я ад'яжджаў зь Менску, дык адчуваў, як шмат-шмат хто ўздыхае з палёгкаю. Першы — той самы Казлоўскі. І ніхто ж зь іх — памятаеце, ніхто — палец аб палец ня стукнуў, каб затрымаць, пайсьці некуды. А папхнуць — ці адзін перад тым ня тое, каб палец, а цэлую лапу прылажыў.

І калі цяпер Калубовіч із Вамі хадзіў да нейкага шэфа, дык я пэўны, што перад гэтым ці пасьля гэтага ён казаў гэтаму шэфу ці свайму заўсёднаму шэфу Сівіцу (бо я пэўны, што й цяпер ён застаецца ягоным верным агентам і інфарматарам, дарма, што парваліся сувязі службовае субардынацыі) зусім-зусім у другі бок (дарэчы, цяпер бачу, што гэтая Вашая інтэрвэнцыя выклікала тую нагонку на мяне тут, за тое, што „жаліўся“, і нагрузку ў працы. Тыя, вельмі важныя надпісы на фільмах яшчэ не пачаў рабіць, гэта ўжо будзе звыш (і за звышаплату — на 150 марак за фільм, мае быць адзін фільм на месяц), а так усялякае драбязы начальства стараецца напіхаць як мага).

Не падумайце, што я нешта маю да Вас, што Вы міжвольна, але прычыніліся да мае нагонкі! Наадварот, я ведаю, што Вы — адзіны, можа, чалавек, які шчыра хацеў, каб я не ад'яжджаў зь Беларусі, а пазьней — каб зьвярнуўся. Гэта было так ясна для мяне, што аж дзіва, і вось таму я й шукаў тых „чорных кошак“, што проста неверагодна было, што іх няма, а найшоўшы, разьдзьмухаў, каб канчальна пераканацца — ёсьць ці няма.

Мяне моцна крануў той Ваш „арышт“ „Раніцы“ для Шкялёнка, аб якім Вы пішаце. Толькі запраўднае сяброўства можа змусіць зрабіць такую рэч, якая, аб'ектыўна беручы, зусім належыць да таго, што называецца „махінацыямі“. І на гэтым месцы мне зноў робіцца прыкра і брыдка за ўсе тыя „чорныя кошкі“ да Вас, якія каб і былі навет неразьдзьмутыя, усе касаваліся б адным Вашым учынкам.

Але ў далейшым я па-сяброўску прашу Вас не рабіць нічога такога, што хай сабе і памагала б мне, але магло б кінуць хаця які-небудзь цень на Вас. Апошняе было б мне вельмі балюча.

⇨ меў наступны тытул: *„Станкевіч Я. пры ўчасьці Ант. Адамовіча. Маленькі маскоўска-беларускі (крывіцкі) слоўнічак фразэолёгічны і прыказкаў ды прывітаньні, зычэньні ды інш.“*. Слоўнік меў 151 старонку. У сярэдзіне 1990-х яго перавыдалі.

І не старайцеся больш таксама, каб зьвярнуць мяне на Беларусь, усё роўна [...] няхай лепш безь мяне...

І не старайцесь пераканаць мяне, што гэта ня так, што *„ўсе ўспамінаюць добра“* і г. д. Такіх „усіх“ шчырых — вельмі мала быць можа.

Ну, зусім зьехаў, здаецца, на Есенінскае „Письмо матери“:

> *И молиться не учи — не надо,*
> *К прошлому возврата больше нет...*

Два наступныя радкі баюся дачытаваць — калі ведаеце, дацытуйце самі.

Між іншага, аказваецца, я меў слушнасьць, калі пісаў тым разам, што супакаеньне зь мінамі ў Менску — уяўнае й часовае. Цяпер жа й самі пішаце зноў — „ня соладка“. Таксама пацьвярджаецца й тое, што хваля іхнага тэрору пасоўваецца далей на Захад. Ня толькі Аляхновіч пацьвярджае аб гэтым, але й бомба ў Беларускім Аб'яднаньні ў Беластоку (ці чулі пра гэта? У мяне гэта апошняя навіна ад Караленкі. На шчасьце — без ахвяраў). І хто можа гарантаваць, што яна ня пойдзе й далей на Захад, аж сюды, тут жа такая ўдзячная база для гэтага ў выглядзе „остаў“, якім усё ніяк знакаў зьняць не адважацца, аж пакуль яны пачнуць самі іншых „значыць“ (яшчэ раз пытаюся! Ці робіцца што ў гэтым кірунку? І што зь меркаваным прыездам сюды Астроўскага й Шкялёнка ў сувязі з гэтым, аб якім чуваць было тут?). „Раніца“ ўжо атрымала два пагражальныя лісты ад некага з Кенігсбэргу...

Так што ў гэтых абставінах вяртацца на Беларусь — усё ж рызыкаваць галавой. І чорт яе бяры, я ўжо ня так даражуся ёю й мог бы прадаць яе, але мінімальнай цаной было б — пераход выдавецтва ў беларускія рукі. Навет не ў мае асабіста, а толькі ў беларускія (Найдзюк[92] здаваўся б мне найбольш адпаведнай асобай для ўзначаленьня гэтае справы).

І Вы добра разумее справу з гэтай дзяўчынай і ейнымі таямнічымі ўцёкамі, калі ставіце яе пад пытаньне. Мэта тут вельмі простая — супакаеньне Вас, так што супакаеньне ідзе тут, як відаць, ня так зьнізу, ад запраўднага стану рэчаў, як зьверху...

Атрымаў ліст ад Глебчыхі. Таксама піша, што ўцякла ад *„чорнае хмары, што сабралася над ейнай галавою“*. І навет на адпачынак у Менск не паедзе, і бацькі просяць, каб ня ехала... Нам із Вамі лёгка

[92] Язэп Найдзюк (1909—1984) падчас нямецкай акупацыі быў працаўніком Школьнага інспэктарату, кіраўніком ВШПЛМ, у 1944 г. выйшла ягоная гісторыка-папулярная кніга „Беларусь учора і сяньня“.





зразумець, што ўсё гэта можа значыць (перш я думаў, ці няма якой сувязі зь ёй у тых пагражальных лістох із Кенігсбэргу, але цяпер, бадай, даводзіцца адмовіцца ад гэтага падозраньня...).

Вы пішаце, што і Цэлеш[93] выехаў (аб такім ягоным намеры й чым ён выкліканы мне ўжо пісаў Караленка), і Цымбальскі[94] выехаў (можа толькі выяжджаў?). Я ня хачу больш намаўляць Вас, бо зусім згодны з Вамі, што некаму трэба, а ў Вас можа й абставіны бясьпечнасьці крыху лепшыя. Тое ж сьвінства, што Вам за працу, у вабсягу, запраўды, большую за тую, што я рабіў, толькі ранейшыя сто марачак *„жалуют“* — зусім зразумелае для таго, хто добра пазнаў дабрадзействы ўсіх гэтых Шрэтэраў (між іншага, Караленка нядаўна бачыў у Бэрліне Гляйкснэра. Сядзіць у Мюнхэне, хварэе. Нагаворваў, каб мы варочаліся на Беларусь, але навет Караленка пры ўсіх прыемнасьцях цяперашняга бэрлінскага жыцьця — ні блізка... А каб Вы бачылі цяперашні Бэрлін! Бадай, што перайшоў ужо Менск. Руіны, руіны...[95] Рэдкія прахожыя на вуліцах. І дамоў, і людзей паменшала — проста страшна падумаць, у колькі разоў — ага, успомніў, што „Бел. газэта“ піша з расейскага — „колькі раз“). Дык вось, зусім зь Беларусі можа й не ўцякайце, але як хацелася б пабачыцца з Вамі хоць... Можа, як хоць улетку ўрвалі б тыдзень-другі? Я ўлетку ў свой адпачынак думаю павандраваць па Нямеччыне — па цікавых гарадох і дзе менш бамбяць (Дрэздэн, Ваймар, Вена). Між іншага, ад мяне дужа блізка і Ваймар, і Ляйпцыг (апошні — усяго толькі гадзіна язды... Але цяпер гэта толькі куча руінаў... І ў іх яшчэ кідаюць часам — толькі не кажэце маім бацьком, што так блізка кідаюць, асабліва, што нядаўна за 3 клм. паветраную міну шуснулі — усё закалацілася... Як лятуць — заўсёды чуваць, быццам, над галавой, хоць гэта найбліжэй за 3—5 клм. Ну, але егеры разганяюць, і часам якая цаца на галаву зваліцца можа... Ага, між іншага, дзе цяпер Вашая братавая, што ў Ляйпцыгу жыла[96]? І ці не сваяк Вам нейкі праф. Арсеньнеў, які жыве тут даўно на эміграцыі?). Так хацелася б зноў, як добра пішаце, *„пагаварыць і памаўчаць“*.

[93] Пісьменьнік Мікола Цэлеш (1900 — пасьля 1976?) у 1943 г. у Менску выдаў зборнік апавяданьняў „На крыжы“ пад псэўданімам М. Лясун.

[94] Верагодна, Уладзімер Гуцька (Дудзіцкі).

[95] Адсылка да вершу Натальлі Арсеньневай „Хоць усюды руіны“ (Менск, 1941): *„Падыду незнарок да акна, / гляну — ўсюды руіны, руіны)“*.

[96] Брат Натальлі Арсеньневай да вайны жыў у Вільні, аднак у 1940 г. выехаў у Нямеччыну, жыў у Ляйпцыгу, дзе й памёр ад хваробы ў 1942 г. Натальля Арсеньнева згадвае пра сваё разьвітаньне з братам ва ўспамінах.

Вы пішаце, што шкадуеце свайго кутка, што замала прыслухоўваліся, седзячы там, да справаў мовы, замала ўваходзілі ў курс. Ну, праўда, Вашага кутка цяпер няма (ці далі Вам пакой у Радзе, як Вы спадзяваліся?), але затое застаўся мой куток — у газэце „Культура мовы“! Мне так хацелася б, каб Вы хоць цяпер зазірнулі ў гэты куток (бо здаецца мне, сваім часам, мала ім цікавіліся), каб проста па дзьве-тры зацемкі на дзень пераглядзелі — можа дзе й памагло б Вам увайсьці ў курс справы цяпер, было б карысна і Вам, і справе, і мове газэты? Праўда ж, можа, ахвяраваліся б хоць на колькі часткаў уварваўшы часу, а я ўжо ня ведаю, які зарок із свайго боку мог бы даць Вам — усё, што хочаце, бадай аж да шасьцістопнага ямбу ў „Звоне“…

Пра Ізыдара, бадай, тое самае, што Вы, пісаў бацька. Ну, мне нек ня верыцца, каб ён сьлядамі папярэднікаў пайшоў — занадта баязьлівы, навет са страху. Як Вы пішаце, на большы страх ня пойдзе. Хоць — на кім мы ўжо не заракаліся… Успамінаю, што за колькі дзён перад тою мінаю Саўчук расказаў мне свой сон, быццам гэты *„чалавек з цэмэнтаванымі мазгамі“* хацеў забіць мяне, а Саўчук — бараніў. Пасьля міны Саўчук успамінаў гэта і выказваў падозраньне, але я станоўка адкінуў. Зрэшты, паводля абставінаў, здаецца, Ізыдараў удзел у гэтай справе выключаны. Хоць, хто яго там наагул ведае.

Цікава, чаму не ўдалося выкарыстаць Зубко? Хоць, з другога боку, можа й добра — хоць крыху мо Кіпелеву „сугубую хэмію“ ў „вёсцы“[97] нэўтралізуе. Ці не яна гэта — „Дуброва“, аўтар рэцэнзіі на „Рагнеду“ Случчаніна ў „Бел. газ.“? Бэрлінскі Камітэт хоча выдаць гэтую „Рагнеду“ хоць на ратагары (спачатку папрабуюць з матрыцаў — будзе друкавацца ў „Работніку“. Ініцыятыва выходзіць ад Караленкі). Я мушу напісаць прадмову[98].

Між іншага, пішу пра „Слуцкіх песьняроў“. Выходзіць шматавата. Як скончу — прышлю Вам. Будзе называцца „Нашчадкі й спадкаемцы творцаў красы“[99] і закранаць наагул пытаньні нашае літаратурнае сучаснасьці, асабліва — пытаньне эпігонства. Для „Раніцы“ і зашмат (зраблю для яе выцяг-рэцэнзію), і задалёка для ейных чытачоў, тут трэба бліжэй да Менску і да Слуцку. Можа навет найбольш надавалася б да таго „Нэо-Ўзвышша“, але з шмат якіх меркаваньняў (навет і простай рэальнасьці, бо ўсё ж ніяк гэты часапіс выйсьці ня можа) — хацелася б друкаваць у „Бел. газ.“. Ну, але гэта яшчэ будзе за тыдзень-другі.

Ці чыталі С. Хізму ў „Раніцы“? Тут нарабілі вялікага гвалту. Праз цэнзуру прапхнулі, а тады пачыталі расейскую й нарабілі гвалт. Стась Грынкевіч ад страху ўзяў аўтарства на сябе, каб мне чым не нашкодзіць (так што не кажэце ў Менску лішне, што ведаеце гэтага схізматычнага аўтара). Цяпер, здаецца, абышлось. Езавітаў[100] прыслаў абураны, але бясьсільна-недалужны артыкул *contra*. Але зь яго мы зрабілі зноў фактычную даведку проці Апанаса, выкінуўшы ўсю палеміку, у якой былі й даволі брыдкія выпады супраць „Бел. газэты“, хоць, здавалася б, пры чым яна тут (Езавіт вынюхаў, хто пісаў). Цікава, што й Езавітаў пачуўся *„ущемленным в лучших православных и общеславянских чувствах“*. Тое, што Вы пішаце пра цяжкасьць адрозьніць, дзе пачынаецца бальшавік і канчаецца маскаль, асабліва добра відаць тут, а выпадак зь Езавітавым дазваляе дапоўніць формулу яшчэ адной вялічынёю — ведамай адметнасьцю „рыскага беларуса“[101].

Ну, а тутэйшыя расейскія эмігранты бальшавізуюць у масе ўва ўсю — *„уверовали“* ў эвалюцыю Сталіна да *„Великой Руси“*, зусім забыўшыся на той час, як перлі сюды безвач з лахамі пад пахамі. Страшэнная поскудзь і цьвіль. Усе рыхтык як Малевіч. А калі Малевіч кажа, што Казлоўскага й Іваноўскага забілі за частае ўжываньне слова „маскаль“, дык гэта таксама спроба, казаў той, прафіляктычнага тэрору ці тэрарыстычнае прафіляктыкі. А калі ўзяць яе паважна, дык шмат каму з нас яны жадалі б налажыць галавой і, пэўне ж, будуць старацца ў гэтым кірунку.

Сяньня Караленка прыслаў „Biełaruski Hołas“[102], які я прачытаў з задавальненьнем — поўнае падтрыманьне пазыцыяў С. Хізмы. Цікава,

---

[97] Гутарка пра газэту „Голас вёскі“.

[98] Паэма Лявона Случаніна „Рагнеда“ выйшла ў траўні 1944 г., надрукаваная ў Вільні накладам 5 тыс. асобнікаў.

[99] Праўдападобна, рэцэнзіі так і не надрукавалі ў „Беларускай газэце“, апошні нумар якой выйшаў 28 чэрвеня 1944 г., аднак яна ўбачыла сьвет пазьней — пад назваю „Нашчадкі і спадкаемцы. Крыху думак каля „Слуцкіх песьняроў і нашае літаратурнае сучаснасьці“ за подпісам „Глеб Альгердзіч“ у часопісе „Шыпшына“ у Міхэльсдорфе (№2. 1946. С. 30—40).

[100] Канстанцін Езавітаў (1893—1946) у часе вайны жыў у Рызе, дзе заснаваў уласнае выдавецтва, ствараў беларускія школы. Пасьля эвакуацыі ў Бэрлін — міністар вайсковых справаў пры БЦР.

[101] Пасаж супраць Езавітава ў лісьце да Арсеньневай яшчэ цікавы тым, што Езавітаў і Франц Кушаль у 1944 г. моцна канфліктавалі, у тым ліку й праз пытаньне, хто будзе кіраваць беларускім войскам на эміграцыі.

[102] **„Biełaruski Hołas“** — газэта, што выдавалася ў Вільні з 1 сакавіка 1942-га да чэрвеня 1944 г. раз на тыдзень, усяго выйшла 122 нумары. Да сакавіка 1944 г. (забойства) яе рэдагаваў Францішак Аляхновіч.

што ён спасылаецца і на „Беларускую газэту“ — можа й яна чым падтрымала? Наагул, як паставілася да Схізмы Рада (у паасобку — Сьвірыд[103], прыкладам), а таксама самі Апанасы *„и иже с ними“*? А як Шкялёнак і Ваш бацька? Ці не шакіруе „людзей заходняй культуры“ крыху „неінтэлігентная“ лаянка, як гэта стараецца зрабіць выгляд Езавітаў, ківаючы на „ўсходніцкую“ „неінтэлігентнасьць“ аўтара? Але ж, дальбог, мне так хацелася ад абурэньня ня толькі лаяцца, а проста біцца й спляжыць гэтага Апанаса на горкую порхаўку. Такое ж пачуцьцё было й у Караленкі — варта было б паглядзець хоць бы на почыркі нашыя ў тых лістах, дзе мы аб гэтым пісалі. Караленка кажа, што гэты памфлет — лепшае, што я напісаў за ўсе апошнія гады, я зь ім, бадай, згодзен (прынамся, у публіцыстычным жанры лепшае). Цяпер у мяне рукі сьвярбяць на Езавіта, але ж гэта як-ніяк хоць „рыскі“, а свой. Хоць Караленка падзуджвае й па ім „паніхіду справіць“. — Напішэце шчыра, як Вам самім і іншым гэты Схізма выдаўся (толькі шчыра!).

Пху, нарэшце ледзь да галоўнага — да „Каханага гораду“ дабраўся. Рады бясконца, што ён да Вас даехаў (наагул, гісторыя пошты апошніх гадоў яшчэ больш пераконвае мяне ў справядлівасьці адвечнага закону захаваньня матэрыі: у прыродзе нічога ня траціцца, не прападае — таксама і на пошце! Ато мяне ўжо агорвала вусьціш перад пэрспэктываю перапісваць другі раз, хоць Глебчыха й дакляравала сваю дапамогу машыністкі). Яшчэ больш рады, што Вам у васноўным падабаецца. Толькі вось гэта „неасноўнае“... Роіцца мне нешта, што хлапцоў і Качку з жонкаю Вы раіце выкінуць не зь меркаваньняў драматызму й наагул мастацкіх, а зь некаторых іншых... Наводзіць мяне на гэтую думку і Вашая фраза: *„Макрыца мог бы застацца“,* — тут, здаецца, Вы ці не прагаварыліся. Дык тады лепш проста скажэце. Мне вельмі шкода было б выкідаць гэта ўсё (між іншага, сяньня пра гэта піша й Караленка, які чытаў рэч і якому я паведаміў пра прапанаваныя зьмены. Пэўне ж, ён мне ніякі не аўтарытэт, і Вашаму голасу я прыслухаў бы больш непараўнальна, каб толькі быў перакананы, што мастацкія меркаваньні тут прамаўляюць, а ня іншыя якія). Хлапчукі мне ці не найбольш з усяго падабаюцца, і — ведаеце што — гэтая сцэнка якраз блізу даслоўна сьпісаная з натуры (за выняткам асобы парашутыстага, а так усё — і хлапчукі, і лес, і ноч, і бацькі ў зямлянках, і партызаны, і навет самая гаворка й галоўнае собскае імя. Можа, калі, як сустрэнемся, раскажу, як гэта было — цяпер і няма дзе, і няма як), а Вам здаецца, што непраўдападобна. Больш так блізка з натуры сьпісанага там, бадай, нічога й няма, хоць, пэўна ж, ёсьць асобныя рысы знаёмых. Найбольш выдуманыя Юрка і Валік, хоць кажнаму зь іх прыпісаў крыху рысаў з самога сябе. Качка — складаная асоба — ня толькі сучасны рэдактар „Голасу вёскі“[104], але й Рыгор Казак[105], і сямейная гісторыя Левановіча[106], і крышачку Чабатарэвіча (крышачку яго й на ягонага цёску Віктара пайшло, але зусім мала — асноўнае там, пэўна ж, той знаёмы, пра якога Вы цьвердзіце, што ён „лепшы, як думалася“, а я ўсё больш знаходжу, што ці ня горшы яшчэ). Дык вось, калі ўжо трэба выкідаць, дык можа хіба якія паасобныя мясьцінкі, а ня ўсе гэтыя дзьве лініі? Дальбог, цалкам мне іх шкода. Паслабленьне драматызму, па-мойму, там патрэбнае якраз, а таксама патрэбнае й некаторае завяршэньне вобразу Юркі, і пэўная пэрспэктыва ідэйная, якая там даецца — а так гэта паляціць усё. Друкаваць пачынайце, як і думалі, і пішэце толькі хутчэй, як наважылі (па-мойму, у роўніцы немастацкай тут няма чаго баяцца, у крайнасьці можа толькі дзьве-тры дробныя мясьцінкі вон, а ў мастацкай — няхай ужо хіба на шкоду рэчы йдзе). Можа хоць з пачаткам друку „Каханага гораду“ пачну газэту атрымваць (проста ня ведаю, як і чым *„ублаготворить“* мне *Herr Kuschell*-сынка, Караленка таксама жаліцца). Цяпер два нумары зь „Яны на бел. зямлі“ прыслаў бацька. Перадайце пры гэтай нагодзе маю ўдзячнасьць машыністкам, якія перадрукоўвалі — блізу ніводнай памылачкі, а ў „Раніцы“ гэтулькі насадзілі! Аж цешыць, што мае ранейшыя супрацоўнікі такія малайцы — запраўды ж, такіх машыністак, як у „Бел. газ.“ (я не забываюся й таго, хто па гэтых машыністках чытае!) — іншыя ня маюць.

Вам спадабалася навет „Вараты скрыпяць“, а мне ня вельмі. Асабліва пасьля таго, як „Раніца“ насадзіла такіх жудасных памылак (прыкл., заміж *„да самых Калядаў ня было сьнегу“* — *„ад самых Калядаў...“* і інш.) А сюжэт — з магчымага разьвіцьця падзеяў, якога я і баяўся, а Саўчук і цяпер баіцца (а нябожчык Казлоўскі „пільнаваў“) — такжа магло быць.

[103] **Павал Сьвірыд** (1888—1948), вядомы беларускі юрыст, адзін з архітэктараў абвешчаньня аўтакефаліі Беларускай царквы. Адамовіч намякае на тое, што Сьвірыд мусіў бараніць беларускіх япіскапаў ад нападаў.

[104] У 1944 г. газэту „Голас вёскі“ рэдагаваў Яўхім Кіпель.

[105] Маецца на ўвазе пісьменьнік і грамадзкі дзеяч Рыгор Казак (Рыгор Крушына, 1907—1979), з 1943 г. — адказны рэдактар „Газэты Случчыны“.

[106] Левановіч — журналіст „Беларускай газэты“.

З публіцыстыкі пасылаю тут „Пасварыліся й прагаварыліся“ — невялікае і, здаецца, актуальнае якраз для Беларусі („Раніца“ яшчэ ня так хутка надрукуе, так што сьпяшайцеся. Зрэшты, здаецца, што гэтага і перадрук не пашкодзіў бы).

Хочацца зноў брацца за мастацкае, але ня ведаю, калі здолею — падсыпалі і на працы, і Караленка з „Раніцы“. Між іншага, „Раніца“ пераходзіць да газэтнага канцэрну, куды перайшло ўжо „Новое Слово“ (раней было прыватнай собскасьцю рэдактара Дэспатулі). І Караленка, і я думаем, што мо будзе лепш, хоць каб самастойнасьць не пацярпела яшчэ. Ато нарабілі доўгу 20 000 марак, у касе ні фэніга, апошні нумар друкар ужо не хацеў друкаваць. Стась зусім распусьціў усіх і зрабіў яшчэ горшую *„богадельню“*, як некалі „Бел. газэта“ была, між іншага, наняў даволі вялікае памешканьне і дарагое (там і зьбіраліся на 25-га сакавіка, ня так далёка ад Камітэту).

А што цяпер у рэдакцыі на гары, дзе мы сядзелі й Казлоўскі жыў? Пра Сьпягальскую (?) бацька мне пісаў. Як „заўхоз“ — не апраўдаў яшчэ нашых спадзяваньняў хоць у каторы-небудзь бок (бо спадзяваліся ж, што або міну падложыць, або жулік будзе, або добры працаўнік)? І колькі разоў ужо пытаўся ў Вас пра Зору, а Вы ўсё забываецеся. Наагул, на бальшыню маіх пытаньняў забываецеся адказваць, імасьць — *„ставлю на вид“*. Праўда, гэта нахальства з майго боку ня толькі змушаць Вас чытаць такія даўжэзныя лісты, але яшчэ й вымагаць адказу на пытаньні. Ды калі ж так хочацца ведаць пра ўсё. Дык, можа, зрабілі б так, як мой бацька робіць — выпісалі б (хоць з гэтага й папярэдняга даўжэзных лістоў), як ён кажа, „сінодзік“ усіх пытаньняў і тады хоць караценька на кажнае. Ой, як быў бы ўдзячны!

Між іншага, у Караленкі было вельмі туга з матар'ялам на вялікодны нумар „Раніцы“ — мусіў падвойным выйсьці — дык я знайшоў у сваім архіве „Усяночную“ (якраз добра, што ўзяў з сабою), цяпер друкуецца, аднавіў тое „евентуельне“ і яшчэ сёе-тое — цяпер ня страшна. Успамінаю, што мясьціны з „Усяночнае“ Вам падабаліся — тыя, дзе „ён“ і „яна“. Гэта й мне падабаецца. А „Яна“, пішаце, ходзіць вясёлая, *„prima“*[107]? А чаго ж бы ёй плакаць? Зь лістоў выглядае разумнай, глыбокай і чулай дзяўчынай. Але ўсё ж розьніца такая вялізарная між намі, што наўдачу, каб больш як сюжэт (ці шэраг сюжэтаў) з усяго гэтага калі-небудзь было. (Часам, пры навале ўсякіх „чорных кошак“, усплываюць у мяне думкі аб магчымасьцях такога разьвіцьця, як у

[107] Маецца на ўвазе скрыпачка Ала Федаровіч.





„Вароты скрыпяць“, і навет пачынае здавацца, ці ня хто іншы лісты ейныя піша).

Божа мой, здаецца, ніколі ня скончу я гэтага ліста. То ж пішу ўсе сьвяты — ад пятніцы аж да сяньняшняга панядзелка (хоць і *post festum* — сьвяточныя вялікодныя прывітаньні!). Вось ізноў ліст ад Караленкі прыйшоў, у ім восем Генюшыных вершаў, перададзеных Тумашам (крыху апрацаваў, але больш, кажа, часу няма). Ёсьць нішто радкі, як заўсёды ў Генюш, але ўсё запраўды патрабуе шмат працы. Паспрабую (вось каб Вы тутака былі!). Караленка піша, што і Тумашу вельмі спадабаўся С. Хізма, ён узяў мой адрыс, дык, пэўне, буду мець зь ім сувязь.

Бедная, няшчасная „Жоўтая восень“! (Успомнілася пры нагодзе Тумаша...)

Ну, ды ўсё ж — *„пора и честь знать“*. Дык — „апошнія распараджэньні“. Грошы бацьком плаціць, там будзе відаць (дарэчы, за што сядзеў Дудка? Бацька пісаў мне аб гэтым). Газэты слаць, калі і як мага, калі трэба аплаціць падпіску — вылічыць із ганарару.

За цёплую ўвагу да бацькоў, аб чым яны пішуць — вялікі й цёплы дзякуй. Ім усё эвакуацыя мроіцца. Але, здаецца, што бальшавікі будуць ціснуць цяпер усё на паўдня (румынская нафта, *„подать руку помощи товарищу Тито“*), а там ці не наложаць галавою, дый саюзьнічкі бедныя на гэта ўжо крыху скрыва пазіраюць. Можа, Менск і ня пойдзе ў разьмен (дарэчы, як на самой справе выглядае памыснасьць мабілізацыі і ўсе пэрспэктывы БКА?)

Ну, зусім вочы ліпнуць — спаткі хочацца. Вам тымчасам — дабранач! На пошты здам заўтра, дык яшчэ кавалачак белага месца пакіну — ану ж яшчэ што накруціцца. А на сяньня — бывайце здаровенькі, вітайце ўсіх, ня злуйце (ні доўга, ні каротка) і ня крыўдуйце на мяне. Заўсёды Ваш Ан...

*7.05.44*

Даражэнькая сяброўка!

Зь лістоў ад Саўчука і бацькоў відаць, што Вы ўжо атрымалі мой даўжэзазны ліст. Але пішу, не чакаючы Вашага адказу, бо раз што й Вы самі выгаворвалі мне за „чаканьне адказу“, два, што можна будзе напісаць і „адказ на адказ“, і тры, што хутка мае ехаць у Менск на колькі дзён Стась Грынкевіч, дык праз яго й напісаць, і нагаварыць можна будзе колькі хаця як мне, так і Вам, дык некаторыя пільнейшыя рэчы хай ня боўтаюцца аж датуль, ато й зусім забыцца ці затраціцца могуць.



Сяргей Саўчук зь сям'ёй

Зь ліста бацькоў можна зразумець, што друкаваньне „Каханага гораду" затрымваецца чаканьнем на маю згоду на цэнзуру, як бацькі пішуць. Значыцца, я-ткі меў рацыю, што тут справа ў цэнзуры, а не ў мастацкіх меркаваньнях. Дык маё апошняе слова — рабеце так, як па-Вашаму трэба, пры як магчымым захаваньні таго, што я прасіў у папярэднім лісьце, і друкуйце (я думаў, што ўжо друкуецца, бо перш Вы пісалі, што пачняцё, а тады мо як раз і ад мяне згода будзе, пакуль да таго разьдзелу дойдзе). Бо цяпер мяне цікавяць грошы — здаецца, што давядзецца сплачваць ганарарам зь „Беларускае газэты" ўсё тое, што сп. Шрэтэр быў ласкаў выплаціць маім бацьком дагэтуль (ад красавіка зь мяне ўжо вылічаюць па 250 м., але йдзе аб тое, што да красавіка). А тут яшчэ і бацьком трэба — выдаткі ў сувязі з прыватызацыяй хаты. Адно прасіў бы — мой рукапіс „Каханага гораду", а калі можна — і адзін паасобнік передрукаванага на машынцы (па магчымасьці — нескарочанага, майго тэксту) падрыхтаваць так, каб Стась Грынкевіч мог забраць іх із сабою й прывезьці мне.

Рыхтую для „Бел. газ." вялікі артыкул пра „Слуцкіх песьняроў" і нашую літаратурную сучаснасьць наагул, аб чым ужо, здаецца, пісаў Вам. Ужо няшмат і да канца засталося, адно бяда, што то тое, то тое замінае. А апошнім часам усе пляны (і гэтага артыкулу, і навэлі „Пяты акт", пра якую пісаў таксама, здаецца) пакрыжавала пільная патрэба (высокім стылем кажучы — „натхненьне") пісаць зусім новую аповесьць — „Безруч"[108], у васнове якой будзе гісторыя з Апанасам,

[108] Апавяданьне С. Юстапчыка „Безруч" апублікавалі ўжо пасьля вайны: першыя разьдзелы ў часопісе „Шыпшына" (1946. №1. С. 17—21; №3. С. 20—23), а потым цалкам у остэргофэнскім часопісе „Сакавік" (№2 (3). 1948. С. 18—26).





С. Хізмам і іншымі аж да Езавітава. Ужо пачаў пісаць. Друкавацца будзе хутчэй за ўсё і з шмат якіх меркаваньняў у „Раніцы".

Цяпер пра Вашыя рэчы крыху. Караленка *„затеял"* выдавецтва на гектографе, як раней Абрамчык цінуў „Гісторыю Беларусі ў картах", „Беларусь у песьнях" і іншыя[109]. Ужо падрыхтаваны „Тэстамэнт" Жылкі[110], „Рагнеда" Случчаніна (апошнюю, можа, удасца яшчэ надрукаваць і ў выглядзе ўкладкі ў газэту). Абедзьве з маімі прадмовамі, а Случчаніна я грунтоўна адрэдагаваў (баюся толькі, каб не было, як некалі з Клішэвічам). Караленка вельмі намагаецца выдаць гэтак і „Затонуты звон". Дык я думаю навет і не чакаючы на Вашую згоду, калі толькі гэта пачнецца, даць яго. Ня бойцеся, правіць нічога ня буду, апрача яўных памылак. Пішэце ўсё ж, як Вы на гэта глядзіце.

Вялікае прывітаньне Вам ад д-ра Тумаша. Пад 1-га траўня я зноў быў у Бэрліне, і ён спэцыяльна яшчэ затрымаўся там, ды мы яшчэ і з Караленкам прагаварылі два дні і, бадай, дзьве ночы. Згадзіліся з Тумашам, што ў сяньняшняй нашай пазыцыі на першым месцы і адзіная — Вы. У Генюшысе ён крыху расчараваўся ўжо[111]. Я апрацаваў да друку тыя ейныя вершы, якія перадаў Тумаш, аб чым, здаецца, я Вам ужо пісаў. Зь нейкім задавальненьнем канстатаваў на ёй Вашыя ўплывы. А наагул — *furchtbar*[112], пачынаючы ад почырку (Ваш проці яе — проста каліграфічны, а памятаеце, што і машыністкі, і я ня вельмі Вас за Ваш *„жаловали"*) і правапісу („ў" не прызнае нідзе, толькі „у", піша „гуляя" — „гуляе", „у вялікуй" — „у вялікай" і г. д.). Мусіць, чыталі ўжо „Ў буру". Майго там што найменш 1/3 (а як прачытаў друкаваны, дык угледзеў, што яшчэ ня ўсё як сьлед і трэ было б яшчэ часаць і гладзіць). Тумаш цяпер „беспрацоўны" і, здаецца, вернецца часткова ў „Раніцу", хоць падпісваць па-ранейшаму будзе Стась. Ну больш пра Тумаша напішу як другім разам.

Не падабаецца мне вельмі, што бацькі й Саўчук пішуць пра акопы ў Менску... Праўда, нек ня верыцца, каб Менск ішоў у разьмен, і мэта бальшавікоў ціснуць на поўдні на Балканы, як і тое, што яны ўжо вытк-

[109] Маецца на ўвазе выдавецкая дзейнасьць Міколы Абрамчыка (1903—1970) у часе ягонай працы ў Беларускім камітэце самапомачы ў Бэрліне ў 1941—1943 гг.

[110] „Тастамэнт" Уладзімера Жылкі выйшаў асобным выданьнем у Бэрліне ў ліпені 1944 г.

[111] Менавіта Вітаўт Тумаш выдаў у 1942 г. у Празе зборнік Ларысы Генюш „Ад родных ніў".

[112] *Furchtbar* (ням.) — жахлівая.

нуліся нагэтулькі, што ня могуць весьці наступ на ўсім фроньце, як раней — зусім ясныя рэчы. Але, калі, ня дай Божа, што якое — бедныя мае бацькі! (Якраз днямі што атрымалі „грамату“ на хату). Адна надзея, што добрыя людзі й сябры — да Вас тут найбольшая просьба — не пакінуць іх і як-небудзь памогуць уратавацца ад гэтае жудасьці.

З савецкіх навінаў: Колас — заступнік старшыні Вярхоўнага Савету БССР. Танк выступаў на „ўсеславянскім сходзе“ памяці Тадэуша Касьцюшкі. Ордэны маюць Броўка і Пестрак. Праф. Прылежаеў[113] *„рассказывает о зверствах фашистов в Минске“* — аказваецца, запраўднага хлеба пакаштаваў толькі ў партызанаў (мусіць, так званага „салдацкага“).

Ну, тымчасам усё. Пішэце, не чакаючы адказаў і аказіяў. Як тэатар, „Усяслаў“ Шчаглоў? „Узвышша“? Між іншага, ці захавалася ў тэатры дырэктарская лёжа (сьніў яе нядаўна). Найлепш, пішэце *Einsehreiben*[114] — ідуць хутчэй (апошні — 4 дні толькі). Вітайце ўсіх хатніх і знаёмых, бывайце здаровенькія. Заўсёды Ваш Ант...

Даражэнькая сяброўка!

Кароткі ліст поштаю (не „адказ“) праз Саўчука паслаў Вам, але, мусіць, яшчэ не дайшоў. Цяпер хапаючыся пішу праз Стася, і шмат пісаць не зьбіраюся, бо раз што й Вы яшчэ маеце пісаць, два, што Стась сёе-тое можа й вусна расказаць, а галоўнае — сьпяшацца трэба. Якраз толькі што атрымаў Ваш ліст і прачытаў яшчэ толькі адзін раз, так што й гэта ня зусім тое. Але хоць крыху і хаатычна і алоўкам хачу напісаць (і ўжо бачу, што прадмовы зашмат зрабіў, калі якраз сьпяшацца трэба). Дык навет проста па пунктах жарну.

1. На ямбах у „Звоне“ згода — паставім кропку. Маеце рацыю, што я запозна схапіўся (аглядзеўся, як ня толькі палавіна, як у таго Юркі, а ўсё згарэла). Але й задаволены, што цяпер ужо Вы хоць ня цьвердзіце, што 6-ці стопным трэба было. —Караленка захапіўся быў выдаць „Звон“, але нешта сяньня піша, што ў Менску будзе друкавацца. Зараз пабачу яго, пагавару. А „Рагнеду“ давядзецца, значыцца, спыніць, калі ў Вільні выйшла — шкода, гэтулькі працы я палажыў...

2. Зборнік Ваш[115] яшчэ не атрымаў, і ня хутка, пэўне, атрымаю — кніжкі йдуць наўзьдзіў марудна (Караленка выслаў раз мне з Бэрліну,

[113] **Мікалай Прыляжаеў** (1877—1944), навуковец, хімік-арганік, акадэмік АН БССР. Падчас вайны быў у акупаваным Менску, выведзены ў партызанскую зону і перапраўлены ў Маскву.

[114] *Einschreiben* (ням.) — заказным лістом.

[115] Маецца на ўвазе зборнік „Сягоньня: Вершы: 1941—1943“ (Менск, 1944).





дык і то ледзь ня месяц цягліся). Дый дзякую авансам і асабліва за тое, што мне першаму, і за „рэдакцыю“, якая б яна там ня была (думаю ж, што ня „клясава варожая“ якая). Пісаць буду, але калі? Усё з „Слуцкімі“ ніяк рады даць не магу. І ўсё то тое, то гэта накручваецца, зьбівае з толку.

3. Наконт знаёмых — хачу згадзіцца з Вамі, асабліва, што Калубовіч закасаваў. Ува ўсякім разе — дай Божа! Ну, а пра Астроўскага ж я наконт блага ня думаў, і Вам жа пісаў, адзінае, што мне баліць — гэта, што, відаць, і ён да мяне „засьцярожаны“, калі я якраз наадварот. А наконт „ня судзеце“ — дык судзіць не баюся (асабліва перад Вамі), бо не баюся (і ніколі не баяўся) быць суджаным. Ну, а пэўна, усім вам належыцца належнае за працу ў такіх абставінах. Ня думайце аднак, што й тут мёд. Навет у маім Фрэйбургу (учора, прыкладам, сярод белага дня — каля 1000 самалётаў рабілі налёт на раён Ляйпцыг-Гале, ляцелі памялютку, некаторыя вельмі нізка, над самымі намі. Хавацца няма дзе зусім — навет кэлераў[116] ніякіх. На шчасьце, пашкадавалі. Не кажэце толькі ўсяго гэтага бацьком).

4. За што Вам галоўны, шчыры-шчыры дзякуй — за сабатаж Езавіта (дзякуй, пэўна ж, ад С. Хізмы; гэта Сяргей Хізма, ён ужо напісаў ліст у беластоцкую „Новую Дарогу“, вялікі — *„к сведению редактора“* й маленькі — для друку; малая надзея, што й гэты маленькі выдрукуюць). Падрабязьней Вам раскажа Стась. Але дагэтуль я ня ведаю, кажучы „навучоным“ стылем, „як Ваша на гэта“? Караленка ад Схізма *„без ума“* проста, зьбіраецца ў будучай незалежнай Беларусі выдаць ордэн (на што яму быў дадзены „адвод“, што хутчэй замест „ордэна“ трэйцяя ссылка можа быць). Тумашу таксама падабаецца, мне — толькі крышку (таго, чаго Езавіту і іншым здаецца зашмат — мне здаецца замала. Найлепш было б наагул — кій у рукі і „па кумпалу“ гэтаму маскальскаму рабіну[117]. З гэткай злосьцяй і пісалася, аж спаць ня мог і нічога больш рабіць). — Цяпер на матар'яле Схізма—Апанас—Езавіт пішацца Юстыпчыкам апавяданьне „Безруч“ (для „Раніцы“, бо „Бел. газ.“ раз што яшчэ з „Каханым горадам“ не дала толку, два — што „палітычна ўзгадняць“ будзе, тры — што ў „Раніцы“ хутчэй прачытаюць тыя, каму трэба). Бяда, што так шмат усялякае бузы замінае пісаць гэта (і на службе, і для „Раніцы“ розныя праўкі). А рукі сьвярбяць проста так, што не

[116] *Keller* (ням.) — склеп.

[117] Магчыма, Адамовіч адзначае тое, што ў 1918 г., падчас фармаваньня Першага беларускага палка ў Горадні, Езавітаў, сын капітана царскай арміі, ініцыяваў стварэньне пры ім габрэйскай нацыянальнай роты.

даюць спакою, і пішу ўсё ж, на шкоду і таму, што пішацца (з затлумленай ужо галавой) і сабе самому (ужо з тыдзень, як „злаўчэўся“ спаць толькі па 3 гадзіны ў суткі — і нічога! Балазе, Саўчук махоркі падаслаў).

5. Тумашаў адрыс: Геніюшысін (на ўсялякі выпадак)
V. Tumasch Larysa Geniušove
3 Neubrandenburg 116 Prag VII
Adolf Hitler Str. 14 Hermannstrasse 7

6. Дзіву даюся, што Дуброва — Ізыдзёр (хоць і думаў на аднаго з 2-х — ён ці Зубко, бо адна школа ў іх) — для яго замала. Хоць і ня думаю, каб у лес падаўся (грошы мае ад спэкуляцыі, Караленка казаў, што і раней ягоная жонка разгортала вялізарную працу ў гэтым кірунку), але на ўсялякі выпадак папярэдзіў бацькоў, каб у хату ня вельмі пушчалі (як гэта і ў Вас робіцца).

7. Ах, якая шкода, што Зора тутака была й нельга было зь ёю пабачыцца! За тое хоць прывітаньне ёй адмысловае перадайце.

8. Дзе будзе зьезд пісьменьнікаў? Можа з нас каго рызыкнулі б запрасіць (я б прыехаў, бадай). Ну, але пра ўсё гэта больш Стась вусна скажа. Прыехаць у Менск хоць на пару дзён вельмі хочацца, аж бачыце, не пасаромеўся напрошвацца тут.

Ну, і мушу канчаць, бо ўжо зараз і на цягнік у Бэрлін трэба.

Пэўны, што дасьцё Стасю ўсялякую дапамогу ў кірунку зносінаў з маймі бацькамі і да г. п. і абавязкова напішаце (а калі не — перакажаце) пра ўсё так, як не заўсёды для пошты можна. Чакаю гэтага зь нецярплівасьцяй, а тымчасам — *Schluss*[118], бывайце здаровенькі, дзякуй за ўсё, вітаньне вялікае (па дарозе ў цягніку перачытаю яшчэ Ваш ліст, мо на гэтым кавалачку яшчэ што дапішу).

Ага! Глядзеце фільм „Габрыеля Дамброн“ — мой пераклад (тая „важная праца“) і скажэце, ці зразумелы, фільму ня бачыў, і нямаведама як перакладаць *verheiraten* — жаніцца ці выходзіць замуж, *kam* — прыйшоў ці прыйшла і да г. п. Дык цікава, ці шмат пальцам у неба напоркаў.

Тымчасам яшчэ раз — бывайце,
Заўсёды Ваш Ан...
13.05.44

[118] *Schluss* (ням.) — канец, заканчэньне.





Даражэнькая, любая сяброўка!

Атрымаў Вашыя два лісты й зборнік, за што вельмі дзякую, пастараюся расплаціцца й больш канкрэтна (за мною, пэўна ж, рэцэнзія і можа не адна — і для „Раніцы“, і для „Бел. газ.“). Дарэмна Вы нешта мелі на „рэдакцыю надпісу“ — і шчырага і добрага, у ім, напэўна, куды больш, чымся я, можа, заслугоўваю. Дык яшчэ раз і за яго дзякуй!

Адзін ліст, напісаны Вам, ужо ляжыць у Стася (пісаны ён пасьля Вашага першага ліста, але да атрыманьня зборніка). Гэты ліст таксама мо павязе ён, а мо й поштаю пашлецца, бо зь ягоным ад'ездам выйшла маленькая няўпраўка: якраз за пару дзён перад ім, калі й я пад'ехаў у Бэрлін, зрабілі мы ўсе „вылазку“ за горад і там, хоць гарэлкі не было ні кроплі, але блазенства хапіла, і Стась пачаў барукацца з адным такім Барткевічам[119] і празь нехлямажасьць ды неасьцярожнасьць абодвух іх у Стася ўзяла і зламалася рука, і аж у двух месцах. Гэта й затрымала яго. Але сяньня Караленка піша, што ўжо вось-вось мае выехаць. Магчыма, што заўтра я яшчэ падскочу ў Бэрлін і, можа, залаўлю яшчэ яго ды аддам і гэты ліст, а не — дык пашлецца поштаю.

У тым лісьце я яшчэ напрошваўся, каб як запрасілі мяне ў Менск, на той ваш пісьменьніцкі зьезд. Цяпер жа з другога Вашага ліста даведваюся, што гэта й так маюцца зрабіць. Калі гэта будзе зроблена, бадай што прыеду. Хоць баюся, што ўсю справу сапсуюць „засьцярогі“ і не з майго, а з супрацьмайго боку. Праўда, не зусім падабаецца час зьезду — акурат юбілейны, а і яны ж, пэўна, пастараюцца падрыхтавацца да гэтага юбілею й нешта *„провернуть“* (калі летась тэатар узарвалі, дык сёлета мо яшчэ на што гадасьнейшае здабудуцца), і месца (лепш мо было б на якой „незапартызаненай“ тэрыторыі, скажам, у Рызе — гэта ж, як-ніяк — сталіца Остлянду, значыцца, часткава сталіца Беларусі, ды іншыя традыцыі, апрача хіба аднае — Езавітаўскае, да якое ўсё больш і больш набіраю агіды). І наагул, нешта мала верыцца ў гэты зьезд — гэтульki разоў ён і назначаўся, і падрыхтоўваўся, і ўсё ні зь месца... Ну, але можа й выйдзе што. Тумаша таксама запрашайце, хоць і ў мяне мала пэўнасьці, што паедзе. Геніюшыху таксама трэба, хоць напэўна, бадай, і не паедзе[120]. Калі б ладзіўся б зьезд на шырокую нагу, варта

[119] **Баляслаў Барткевіч** (1909—1945?), сакратар БКС у Бэрліне. Ілюстраваў кнігі, што выдавалі Мікола і Ніна Абрамчыкі ў Бэрліне. Па вайне быў прымусова вывезены ў СССР.

[120] Ларыса Геніюш прыяжджала ў чэрвені 1944 г. у Менск, начавала ў Натальлі Арсеньневай, якая ў сваіх успамінах вельмі цёпла апісала гэтую сустрэчу-вечар.

было б запрасіць з пару маладых з Бэрліну, скажам, празаіка Юр'я Андзялевіча (псэўдонім, запраўднае прозьвішча Стась павінен ведаць), вершапісца М. Вольху (запраўднае прозьвішча М. Пірожнікаў). Гэта магло б узьняць, заахвоціць хлопцаў, у якіх ёсьць сякія-такія здольнасьці. Наагул, што значыць „зьезд пісьменьніцкі і інш.“ — што за „інш.“? Думаю, што тая зьбіраніна ўсіх мастацтваў, якую прапанавалі калісь, як яшчэ Ермачэнка зь Сівіцам браліся за гэтую справу. Ці якое іншае „інш.“?

Па-мойму, варта было б правесьці ўсю гэтую справу пад знакам 135-годзьдзя беларускай літаратуры (адначасна — і музыкі). Справа ў тым, што ў 1809 г., г. зн.135 год таму быў напісаны першы верш у беларускай мове — „А чым жа твая дзеванька, галоўка занята“ Яна Баршчэўскага. Да яго была даробленая музыка кампазытарам Антонам Абрамовічам. Я буду яшчэ пісаць пра гэта для „Раніцы“, я мо і для „Беларускае газэты“. Мог бы на тым зьезьдзе зрабіць даклад „135 год беларускае літаратуры“ (толькі ніякіх тэзаў загадзя прыслаць не магу — калі не захочуць даверыць мне гаварыць без папярэдняе апрабаты Сівіцаў, дык абыйдзецца бяз гэтага. Толькі дурань ці гад можа цьвердзіць, што я і такую тэму магу сказаць нешта антынямецкае ці падобнае). Добра было б, каб і Шчаглоў ці які Карповіч раскапалі што пра таго Абрамовіча (у Вільні мо што магло і знайсьціся, Галкоўскі[121] можа ведаць), і зрабілі б падобны агляд музыкі за 135 год. Дакладнейшае даты, апроч году (г. зн. месяца і дня), здаецца, няма, дык прыпасоўваць можна да якога-хаця часу, абы сёлета.

Ну вось што да гэтага зьезду. Тумашаў адрыс даў Вам у папярэднім лісьце, але тады ж ён яго зьмяніў на новы, новы павінен быў дапісаць Караленка (калі буду цяпер у Бэрліне — зраблю гэта). Геніюшысін адрыс даў там таксама, той застаецца непарушным. Рады, што мелі ўдачу ў Вільні[122]. І кіньце Вы пра гэтую „незразумеласьць“ Вашых вершаў навет думаць. Гэта самае казалася калісь і на маладнякоўцаў, і на ўзвышэнцаў, а пасьля прывыклі і навучыліся цаніць. Гэтак і з Вашай паэзіяй будучыня і навет сучаснасьць ужо — за ёю, а што будуць пырскаць

[121] Маецца на ўвазе Канстанцін Галкоўскі (1875—1993), кампазытар, пэдагог, жыў у Вільні.

[122] Маецца на ўвазе сьвяткаваньне 25-х угодкаў Віленскай беларускай гімназіі, на якое прыехала прадстаўнічая дэлегацыя зь Менску, у тым ліку з былых навучэнцаў, як Натальля Арсеньнева, ці выкладчыкаў, як Радаслаў Астроўскі.





розныя Старыя камярдзёлкі з закарэлымі мазгамі ці „паэты“-няўдачнікі тыпу Родзькі — на гэта навет чхаць за вялікі для іх быў бы гонар. Праўда, гэта балюча, што нас так адштурхнула назад гісторыя, так абнізіўся ўзровень нашага грамадзянства, што ізноў усплывае тая справа „незразумеласьці“, якая ўжо за нашых, будзем казаць цяпер — стараўзвышэнскіх часоў адышла была ў нябыт. Дарма, трэба глядзець наперад і абмінаць тое, што гісторыя ўжо была абмінула і зноў абміне, абы толькі на нармальныя часы.

І яшчэ — дарма Вы крыўдзіце мяне, быццам я „зганіў“ Вашае лібрэта „Ўсяслава“, быццам яно „дрэннае“. Зусім не. Паўтараю яшчэ раз, як лібрэта — яно вельмі добрае. Але ж лібрэта — ніякі не самастойны літаратурны жанр, а толькі вузка-дапаможны (да музыкі). Друкаваць і разглядаць лібрэта як самастойны літаратурны твор ніколі нельга, і толькі. Найлепшае лібрэта ніколі ня будзе адначасна самастойным літаратурным творам і наадварот. Дзе хто друкаваў ці чытаў „Аўгена Анегіна“ Чайкоўскага пасьля „Аўгена Анегіна“ Пушкіна? Навэлю Мэрымэ чыталі і чытаюць, а лібрэта бізэтаўскае „Кармэн“ ніхто ніколі не друкаваў і не чытаў. І ці можна гэтыя рэчы ставіць на адну дошку? І я толькі пісаў Вам, што для друку „Ўсяслава“ трэ было зрабіць зь яго літаратурны твор, літаратурны тэкст лібрэта, бо „рабочы тэкст“ можа цікавіць толькі вузкія колы спэцыялістых, а чытача, які возьме яго за літаратурны твор, толькі саб'е й зьбянтэжыць.

Рады таксама, што ўдаецца і хочацца Вам працаваць над „З выраю“[123]. Калі ўспомніце, дык мне лібрэта ў тым выглядзе, як было, падабалася больш, чымся каму іншаму (і, навет, здаецца, больш, чымся Вам самім). Дык працуйце, пэўна ж, што трэба прабаваць сябе ў розных жанрах, асабліва на сучасным бязьлюдзьдзі. Ці ж бы я раней калі, у тыя „стараўзвышэнскія часы“ браўся за публіцыстыку, ці за Юстапчыка? А цяпер бяруся, і таксама мо яшчэ да драмы дайду. Ня думайце, што толькі Вы ўжо адна такая даходная.

Бяда адно, што часу няма да ўсяго гэтага даходзіць. Вось дакончыць пра Случчакоў — і то рукі не даходзяць. А тут яшчэ трэба рэцэнзіі, а яшчэ тое „135 год бел. літаратуры“, а яшчэ „Шляхі разьвіцьця беларускае літаратурнае мовы“. А Юстапчык „Безруч“ пачаў, першы разьдзел напісаў і тпру, хоць у галаве ўсё й бадай да канца ясна стаіць. Яшчэ дужа сьвярбяць рукі стукнуць нарэшце па Езавіце. С. Хізма напісаў прыват-

[123] „З выраю“ — апэрэта Міколы Шчаглова, да якой Арсеньнева напісала лібрэта.

ны ліст рэдактару „Новае дарогі“, хоча пісаць такі самы прыватны „незакрыты“ ліст і Езавіту (мае пачынацца: *„раней паважаны сп. Езавітаў“*). Дый у друку па ім стукнуць трэба было б, надта ўжо пачынае праваслаўная маскальшчына зь яго вылазіць. У „Тарасе на Парнасе“ (друкаваў у „Віленскім голасе“) даводзіць, што для беларусаў *„карацейшы шлях на захад“* ляжаў праз... Санкт-Петербург! У сувязі з Багдановічам такога наплёў, што яшчэ ніводная газэта надрукаваць не наважылася, хоць, пэўне ж, усюды парассылаў (цікава, ці ёсьць у партфэлі „Бел. газэты“ гэты пэрл ягонае музы?). Там навальваецца на беднага Леўчыка[124] за тое, што каталік, а пра Багдановіча проста піша, што яго нашаніўцы цкавалі за тое, што быў праваслаўны, а не каталік (тым часам як супраць Багдановіча былі якраз на груньце тэй самай „незразумеласьці“, „недаступнасьці для масаў“, „ненароднасьці“, як пазьней супраць узвышэнцаў і цяпер супроць Вас. Багдановіч тут запраўды толькі першая ахвяра, бо ніхто з нашаніўцаў ніколі не падумаў „цкаваць“ праваслаўнага Коласа ці такую бездар, як Цішка Гартны — наадварот, яшчэ насіліся зь імі, як на веніку). Здаецца, што найбольшае, укусіла Езавіта і кінула яго ў гэтае чорнасоценства, гэта (як і сваім часам акадэміка Карскага) — так сказаць, „непрызнаньне“. Як жа, творыцца Рада, асабліва — армія і на чале яе ня ставяць палкоўніка Езавітава, а нейкага капітана-каталіка *ergo* паляка. Адсюль і пырскаць на ўсё пачаў, як на „польскую інтрыгу“. Ягоны пырск з поваду С. Хізмы — такі бяздарны, няўдольны, а скіраваны проста ў „Беларускую газэту“ і ў таго, хто раней у ёй „незразумелую мову“ рабіў (чыталі, пэўне ж?). Дальбог, рукі сьвярбяць, ах, як сьвярбяць!

А што ў Ліманоўскага[125] цяжкая рука — дык мусіць, калі навет „Рамэо“ (?) — такая рэч — але, як з-пад ягонай рукі, дык зусім у Вас ня ідзе. Чытаў я нядаўна тое, што ён „тлумачыў“ на нейкім сходзе пра „Тараса на Парнасе“. Божа, якая ўбогасьць — яшчэ большая, як у Езавіта. А як вычытаў там, што пісьменьнік Лявон Крывічанін[126] мае зрабіць лібрэта да „Тараса на Парнасе“, дык зусім сьвіснуў — чакай Пятра! Напэўне будзе не раней, як „Чужанінаў“ скончыцца, а той жа ў самой ідэі сваёй несканчальны.

[124] Размова пра пісьменьніка Гальляша Леўчыка (1880—1944).

[125] Пісьменьнік Янка Ліманоўскі (1896—1989) у часе нямецкай акупацыі быў загадчыкам літаратурнаю часткаю Менскага тэатру. Падрабязьней пра яго гл. адмысловы артыкул у гэтым нумары „Запісаў БІНіМ“.

[126] Лявон Крывічанін — псэўданім Лявона Савёнка.





Між іншага, ці працуе драма? І як з маім „Рэвізорам“? Тут меліся друкаваць на рататары, як і Ваш „Звон“, але цяпер крыху заціхла. Што да „Звона“, дык Караленка, прачытаўшы, што будзе друкавацца ў „Узвышшы“, зусім быў зрэзыгнаваў, нагэтулькі, наколькі раней запаліўся. Цяпер буду наварочваць яго зноў, калі даведаўся ад Вас, што толькі ўрыўкі ў „Узвышшы“ будуць. Наагул, Караленка займеў тут сабе моцнага ворага ў васобе Жукоўскай[127], зь якой жыве на аднэй кватэры. Рыкашэтам празь яго з аднаго боку, а такім самым рыкашэтам праз С. Хізму з другога (*„по православной линии“*) маю гэтага ворага і я. Нядаўна яна, даведаўшыся, што друкуецца на рататары Жылкаў „Тэстамэнт“, сапсавала гэтую справу так грунтоўна, што цяпер няма ведама, што зь яе будзе. Нагаварыла Бакачу, што гэта справа Караленкі й мая, што трэба правіць мову ад майго ўплыву і пачалі правіць Жылкаў „Тэстамэнт“ — той „Тэстамэнт“, у якім я не наважыўся зьмяніць ні коскі! Добра Караленка злавіў гэтую справу й спыніў, а цяпер мае надзею зноў пачаць усё ад пачатку.

Жукоўская прыцягнула на свой бок свайго начальніка Пятроўскага[128], і той таксама сьмярдзіць. Людзі, якія даўно адарваліся ад беларускай моўнай стыхіі (а мо й ніколі прырваўшыся да яе ня былі), хочуць нешта камандаваць у мове. І навет у літаратуры, аб якой ні наагул, ці аб беларускай паняцьця ня маюць. Даўно ўжо мае выдавацца бібліятэчка для ўсходніх работнікаў. Яшчэ Тумаш падрыхтаваў першыя зборнікі, і добра зрабіў[129]. Адзін зь іх ужо прайшоў праз маю рэцэнзію (па лініі службы). Цяпер я падрэкамэндаваў гэтую справу Караленку, і яна ў ягоных руках. Дык гэны Пятроўскі ўжо напісаў данос на тую, падрыхтаваную яшчэ Тумашам, кніжку, напырскаў навет на апавяданьне Ядвігіна Ш.[130], ня кажучы ўжо пра Зарэчнага, і гэтак хоча тармазіць гэтую справу, каб канчальна перабраць яе ў свае няўмелыя, але заграбушчыя

[127] Размова пра Валянціну Жукоўскую (на эміграцыі Пашкевіч, 1916—2004), якая працавала ў Бэрліне ў перакладніцкім бюро „Вінэта“, выкладала на настаўніцкіх курсах. Пазьнейшая аўтарка чытанак для дзяцей і „Ангельска-беларускага слоўніка“.

[128] Ян Пятроўскі (1905—?) у 1944 г. быў кіраўніком беларускай рэдакцыі выдавецтва „Вінэты“. Разам з Васілём Камароўскім і Аляксандрам Калошам апрацаваў „Нямецка-беларускі слоўнік“ (27 тыс. словаў), які так і ня быў выдадзены.

[129] Выданьне таго зборніку было ажыцьцёўлена з прыездам у Бэрлін Хведара Ільляшэвіча. Усяго сьвет пабачылі сем кніжачак.

[130] Згаданае апавяданьне ўвайшло ў зборнік „Дудар“.

рукі. Мы з Караленкам змагаемся і пэўныя, што пераможам. Але ўсе гэтыя інтрыгі, як бачыце, яшчэ куды больш драбнейшыя за ўсялякія менскія калішнія й сучасныя, часта псуюць настрой, асабліва Караленку, які, да таго ж, мусіць жыць у бэрлінскім пекле (апошнія дні там па два налёты — удзень і ўначы, і гэта жудасна; ад гораду засталося дай божа каб працэнтаў 15).

Між іншага, у гэтай бібліятэчцы мае выйсьці (калі ніхто не нашкодзіць — дык не кажэце нікому!) — Юстапчык, спачатку, здаецца, асобна „Трывога", а пасьля і яшчэ мо што. „Трывога" толькі крыху падладжаная ад некаторых дробных недаглядаў, адна толькі драбнічка дапісаная да д-ра Клікушынае (у сувязі з тым „Сьценькам Разіным"). Цешыць, што хоць у якім выглядзе, а пачне друкавацца ў Вас „Каханы горад". А прызнайцеся, што навет ня „структуры", а мо Кіпеля крышку шкада? Бо з „структурнага", кампазыцыйнага гледзішча тыя мясьціны зусім (і навет сьведама) апраўданыя. Мо яны выдаюцца Вам іншымі проста з такое няпрывычкі, як некаторым — т. зв. „перабоі рытму" ў вершах (роля іх зусім падобная), якія тымчасам у беларускай навет паэзіі маюць поўнае грамадзянства (і ў Вашай таксама) і толькі тыя „незразумельшчыкі" супраць іх. Ну, але няхай гэтым разам маё пяройдзе, а там будзе відаць — можа й Вашая рацыя. Хацелася б толькі мець „Бел. газ." з тымі нумарамі (на атрыманьне яе я ўжо наагул страціў надзею) і абавязкава праз Стася — мой рукапіс і, калі можна, — копію на машынцы (аб гэтым ужо, здаецца, пісаў).

Даведаўся з газэты, што ў „Узвышшы" мае друкавацца нешта Альгердзіча, але што? І чаму без усялякага паразуменьня з аўтарам? Відаць „Узвышэнства як беларуская нацыянальная ідэалёгія"[131]. А ў ёй якраз патрэбныя былі б сякія-такія папраўкі. І каб крый божа не друкавалі з таею „папраўкаю" ў дачыненьні да беларускіх нацыяналістых, якую некалі быў выдурыў у мяне нябожчык Казлоўскі — цяпер у ёй няма ніякае патрэбы, трэба друкаваць так, як адразу было („памылка" была выдуманая „задняй датаю" на просьбу Казлоўскага).

Дзіўлюся я на гэтага Віцьбіча. Нядаўна чытаў ягоны такі антырасейскі нарыс (перадрукавала „Раніца", ці „Работнік"), і калі гэта шчыра, дык чаму гаворыць па-расейску? Калі ж „на заказ" (хоць „на заказ часу", як „даніна часу") — тады проста подла й пагана. Праўда, слова

[131] Артыкул „Узвышэнства як беларуская нацыянальная ідэалёгія" за подпісам Г. Альгердзіча друкаваўся раней у „Беларускай Газэце" (чэрвень—верасень 1942).





„маскаль" ён баіцца, усё дылікатнічае „расейцамі", але ж дух такі антырасейскі — зусім антымаскальскі. Адным словам, *„неисповедимы пути твои, Господи"*...

І зьдзівілі, і насьмяшылі Вы мяне Шкялёнкавымі „засьцярогамі" да „Каханага гораду". Во ўжо дзе чэхаўскае *„как бы чего не вышло"*. І якраз жа з проціпаветранай абаронай там добра — бальшавікі ашукаліся й ашукалі сваіх лётнікаў, што абарона слабая — яна аказалася моцнаю. А „ідэалізацыя" — гэта поўнае непаразуменьне, бо толькі непаразуменьне, што Валік — савецкі лётнік, гэта ж увесь час падчыркваецца! Проста „сьмех із панскіх ботаў"...

А ўжо ўсіх нас Шкялёнак абурыў тым, што будучы ў Ліцманштаце[132], не паведаміў нікога. Калі ўжо гэтак баяўся пад'ехаць у Бэрлін, дык да яго маглі б пад'ехаць — Стась напэўна, а можа й я здабыўся б (туды пропуску ня трэба, а езьдзіць у Нямеччыне я ўжо навучыўся і прызнаю вялікае захапленьне нямецкім чыгункам, навет у ваенным часе).

Каб удаўся той зьезд, мой на яго прыезд і Вашае тое падарожжа, дык мо навет і я з Вамі ў яго пусьціўся б, як прыватны спадарожнік, бо якраз маюся выкарыстаць свой адпачынак на такое невялікае падарожжа па Нямеччыне.

Адно, што тымчасам для ўсякіх цывільных падарожнікаў — „шпэр", быў ён да 15-га траўня, а цяпер працягнены на няпэўны час. Ну, але, хіба ж тое Вашае — было б як бы службовае. Глебчысе, магчыма, таксама не далі дазволу з прычыны таго „шпэру" (але ці і зь іншых якіх прычынаў). Нешта ня меў ад яе лістоў аж ад Вялікадня.

З дому пісалі мне, што Шрэтэр праз Карповічанку ўзяў „на ўзор" адзін нумар „Узвышша" — і якраз, як на ліха, у чырвонай вокладцы, здаецца (а колеры ж вокладкаў у нас зьмяняліся). Яшчэ адпудзіць яго, як быка, гэты чырвоны колер (а што бык — ня бык, а бычок ён — дык напэўна, лоб, ува ўсякім разе, бычкаваты). Наагул, як бачу, у цяжкіх муках нараджаецца гэнае „Ўзвышша" — калі ўжо аб ім трубіць пачалі, а цяпер толькі пра вокладку саймуюць. Ну-ну, паглядзім, што гэта будзе за часапіс, разьлічаны на такіх чытачоў, зь якіх „Затонуты звон" ніхто чытаць ня будзе! Сьмех-сьмехам, але як прыгадаць усё гэта, і тое, што раней пісаў пра прафанацыю — б'е кроў у галаву й кулакі сьціскаюцца. Ну, быць ня можа, калі-небудзь ды спаткаюся ж з гэтымі Віцьбічамі й Цымбальскімі.

[132] Ліцманштат — сёньня Лодзь, у пачатку 1940-х там дзеяў Камітэт самапомачы.




Вокладка часопісу „Ўзвышша“. 1944

А „Звону“ хай бы ўжо й зусім ня браўся друкаваць, калі так — толькі першы акт, пачатак, а там — тпру. Выдалі б тут на рататары — дальбог, ня горш было б! А цяпер цяжэй будзе — ужо апякліся на „Рагнедзе“ (асабліва я — гэтулькі працы ўсадзіў і, дальбог, ня хвалячыся — а давёў-ткі да ладу і бадай усё тое слабое, што і Ізыдар у рэцэнзіі вытыкаў — выгладзіў, і раптам — трэ было адставіць). Ну, але неяк мо і ўдасца зноў прапхнуць.

Вось блага, што ў Менску ў Вас невясёлыя навіны. Навет у маіх старых на гародзе бункер будуюць... Але ўсё ня верыцца, ня хочацца верыць, каб ізноў Менск пайшоў у разьмен.

Агульная сытуацыя таксама вельмі цьмяная і нічым прыемным ня цешыць. Адно цяпер ясна мне, як ніколі: толькі зь немцамі для Беларусі нешта можа быць. Толькі зь імі, што б там ня было. Што нясе перамога бальшавікоў — усе ведаем. Але шмат хто яшчэ мае ілюзіі наконт Ангельшчыны. Дык вось, маючы крыху доступу да першакрыніцаў, магу цьвёрда сказаць: перамога Ангельшчыны для нас — аддача Польшчы мінімум Заходняе Беларусі. У палякаў жа цяпер у дачыненьні беларусаў настрой ані ня лепшы за той, што ў бальшавікоў: вынішчэньне й толькі вынішчэньне. Для мяне гэта цяпер ясна, як двойчы два — чатыры, і ніякіх ілюзіяў няма.

Ну, тымчасам на гэтым і скончу — ліст выйшаў хоць ужо й не такі даўжэзазны, як былі папярэднія, ды ўсё ж даўжэзазнаваты. Добра было б, каб залавіў яшчэ Стасюка. Ён Вам раскажа сёе-тое і сам. Дапільнуйце толькі, каб наведаў маіх старых сам (можа навет і завядзеце яго) і ўзяў ад іх тое, што яны будуць мець для мяне, ато ў яго вецер у галаве й забыцца можа. Празь яго, пэўна ж, і самі напішэце й нагаварэце, што цікавейшае.

А тымчасам — вітаю Вас і ўсіх Вашых. Думаю, што мае артыкулы — „Кантрабанда праўды“ і „З музыкай і бяз музыкі“ — прыдадуцца Вам, пісаныя спэцыяльна для Вас, для „Бел. газ.“ — каб хаця Стась не забыўся іх!





Ну і самі бывайце здаровенькі,

Заўсёды Ваш

А.А...

26.05.44

P.S. Толькі бацьком не кажэце, што хочу ці маю прыехаць, а найлепш наагул нікому аб гэтым.

Даражэнькая сяброўка!

Ужо два лісты Вам і два бацьком даўно чакаюць у Бэрліне на тую аказію, якая мелася быць із Стасем, а цяпер — зь іншай асобай, і ўсё адкладаецца. Таму мушу пасласць Вам гэтую кароткую пісульку разам зь некаторымі матар'яламі, баючыся, што аказія можа яшчэ зацягнуцца. Зборнік Ваш атрымаў, лісты таксама, за ўсё шчыра дзякую, падрабязьней аб усім знойдзеце ў маіх лістох, якія, спадзяюся, у рэшце рэштаў атрымаеце ж. Тут хачу толькі яшчэ напісаць аб адным, аб чым і там пісаў. На той праектаваны зьезд я ахвоча прыехаў бы, адно, калі маюцца мяне запрашаць, дык хай бы пасьпяшаліся ўжо. Мог бы навет зрабіць даклад на тэму „135 год беларускае літаратуры“ (якраз сёлета спаўняецца 135 год ад дня напісаньня Янам Баршчэўскім першага верша па-беларуску ў новыя часы — „А чым жа твая, дзеванька, галоўка занята“, 1809 г.; адначасна гэта і 135-годзьдзе нашае музыкі, бо да гэтага верша была напісаная і музыка кампазытарам Абрамовічам — хай бы Шчаглоў разьведаў аб гэтым што, можа ў Вільці, і зрабіў бы падобнае; па-мойму, увесь зьезд варта было б правесьці пад сьцягам гэтага 135-годзьдзя; я яшчэ буду пісаць аб гэтым). Зразумела, ніякіх тэзаў наперад выслаць не магу, але сьмешна было б баяцца, каб я і на такую тэму сказаў бы нешта небагавое й шкоднае ці нецэнзуральнае. Праўда, я ўсё яшчэ ня веру, што зьезд адбудзецца (колькі разоў ужо зьбіраўся ён), але хацелася б выкарыстаць гэтую нагоду, калі яна будзе. Можа з гледзішча бясьпечнасьці лепш было б, каб зьезд адбыўся ня ў Менску, а ў Рызе — гэта ж сталіца Остлянду, значыцца, і Беларусі? Але і ў Менск прыехаў бы. Толькі бацькам маім не кажыце, што хачу й зьбіраюся прыехаць. Перадайце ім, калі ласка, укладзеную тут пісульку. Тымчасам вітаю Вас і ўсіх Вашых,

Заўсёды Ваш А. Адамовіч

05.06.1944

*09.06.1944*

Даражэнькая сяброўка!

Таму, што бэрлінская аказія зацягваецца, а Саўчук у жонкі, пастанавіў я прасіць Караленку пераслаць яму тыя лісты Вашы (ужо аж два!), што ляжаць у Бэрліне, а можа й некаторыя артыкулы для „Б. Г." — для перадачы Вам, дык, магчыма, атрымаеце іх разам із гэтым. Тут хачу насамперш папярэдзіць аб тым, што мы нядаўна даведаліся наконт былога віцебскага бюргермайстра, а цяперашняга, здаецца, капітана БКА і нейкага кіраўніка моладзі[133]. Ён, аказваецца, цяпер трымае сталы кантакт зь юзікавымі, а дакладней — з Алесевымі хлопцамі[134], так што — усяго спадзявацца можна ад яго й ягоных прыхільнікаў. І гэта — не „засьцярогі" й ня паніка, а самая дакладная праўда. Пачатак яе я ведаў яшчэ ў Менску, але пазьней думаў, што Менск і ўваходжаньне ў Раду ды інш. вылячаць яго. Папярэдзьце аб гэтым абавязкава Вашага бацьку, ня шкодзіла б, каб ведала гэта адпаведная ўстанова і ці ўзяла на мушку, ці прынамся трымала б руку ў яго на пульсе. Не зьлёгкавацьце гэтымі перасьцярогамі — пасьля можна кравава шкадаваць, як ужо ці раз шкадавалі, а то й зусім галавою налажыць. — Сваіх навінаў асаблівых ня маю. „Раніцу" чытаеце, дык, пэўна ж, пазнаеце мяне. Зараз будзе памфлет С. Хізма „Не кладзеце пальца ў рот" — адказ некаторым, што пачулі сябе закранутымі рыкашэтай справаю Апанаса (між іншага, Рада такі адазвалася й прыслала „Раніцы" даволі-ткі бесталковую паперку ў вабарону Апанаса і каб царкоўных справаў безь яе не чапалі). Тады будзе далейшы працяг анты-Езавіцкае кампаніі — у шэрагу артыкулаў і між іншага, і спэцыяльне зраблю зь яго маленькага-маленькага. Бяда, што за гэтым да іншага рукі не даходзяць. Але ўжо на варштаце — рэцэнзія на „Сягоньня", хутка будзе (можа і спэцыяльны варыянт для „Б. Г."). Чыталі Дальнага ў „Новай Дарозе"? Будзе здачы і яму — троха, а то й многа. Сядура прыслаў у „Раніцу" цэлы пуд пра Сяднёва[135], але між пары трапных заўвагаў і мора глыбіннага пустаслоўя, шмат выпадаў супраць Вас, уваднэй кучы з Цымбальскім (і мяне, грэшнага, здаецца, у ваднэй мясьцінцы *„походя лягнул"* — але ўсіх — без паказаньня прозьвішчаў). Выпады, зразумела, сьвету ў „Раніцы" не пабачаць, а магчыма і ўвесь артыкул. Для цікавасьці мо як-небудзь выражу гэтыя выпады й прышлю Вам. Як із

[133] Маецца на ўвазе Ўсевалад Родзька.

[134] Відаць, маюцца на ўвазе савецкія партызаны.

[135] Пісьменьнік Масей Сяднёў (1915—2001) у 1943—1944 гг. жыў у Беластоку, быў карэктарам у „Новай дарозе", працаваў у Беларускім камітэце.





Вашым зьездам? Цяпер, калі інвазія, мусіць ізноў будзе пшык, але каб было і запрасілі — прыехаў бы. Здаецца, што на Менск бальшавікі перці ня будуць — цікавей ім на Румынію на злучаньне й напярэймы хаўрусьнікам. Але — усё можа быць. Як падумаю, што можа быць з бацькамі — за галаву бяруся, але ніякае рады няма. Надзея — на Бога і крыху на сяброў, на Вас першым чынам. Пішэце! Заўсёды Ваш ...

*12.06.44*

Даражэнькая сяброўка!

Зьезьдзіў у Бэрлін і яшчэ пішу Вам лісты, так што лістоў маіх ад Саўчука мусіце атрымаць проста кучу (4 калі ня мыляюся). Даведаўся, што артыкул мой „З музыкаю й бяз музыкі" ўжо пасланы, а „к... праўды" ня толькі не перадрукавалі, але нейдзе загубілі... Сьвінства, бо артыкул застарэць можа, а для менскага чытача можа быць якраз цікавым. У мяне засталася пісаная пад капірку копія яго, якую пасылаю тут. Машыністкам, праўда, справіць клопату — сьлепаватая, хоць я й стараўся „выясьніць". Не марынуйце ж і Вы, не загубеце! Калісь пасылалася Вам падобная копія артыкулу „Пасварыліся й прагаварыліся", але чамусь яго ў „Б. г." ня было — цікава чаму? Ён жа такі актуальны для Беларусі быў, і „Раніца" ледзь датыкалася, пакуль я нарэшце махнуў рукой, пастанавіўшы, што „Б. г." не надрукуе. Яшчэ даведаўся, што аказія ў Менск вельмі няпэўная, будзе хіба ў канцы чырвеня, але назад ён нічога ня возьме, бо будзе езьдзіць па Беларусі й дадому. Дык „Каханы горад" — рукапіс, а калі ёсьць, і машыновую копію, вышліце мне, калі ласка, поштаю заказным. Бачыў, што шчаглоўская манаграфія ў вас скончылася, і цяпер маю надзею, што, як Вы абяцаліся, пачнецца „Каханы горад". Паглядзім, ато я ўжо надзею страціў пабачыць яго калінебудзь друкаваным (ужо, дзякуй Богу, за паўгоду яму веку перавалiла... Здаецца, раней артыкулы сп. М. Шкялёнка ў „Б. г." так доўга не марынаваліся, калі я там быў...). Даведаўся яшчэ больш пра віцебскага бюргамайстра і яшчэ настойліва перасьцерагаю. Ён, аказваецца, падрадзіўшыся ўвайсьці ў кантакт з „хлопцамі" і выдаваць іх немцам, робіць — і зусім сьведама — наадварот: выдае немцаў і ўводзіць іх у ваблуду. За гэтым можа яшчэ й шмат пайсьці. Адыйграла ў гэтым ролю нейкая жанчына, быццам бы ягоная жонка цяпер, раней шофэр. Ой, не пакіньце гэтага без увагі — і мая, і караленкава просьба, паверце нам абодвум, што ведаем дакладную праўду, а не „засьцярогі" й „падозраньні", але ўсё дакладна, зразумела, можна было б выясьніць хіба ў гаворцы, а ня ў лісьце. Караленка атрымаў ліст ад сынка, дзякуе й вітае

і настойліва просіць — ужо каторы раз — пераслаць у „Раніцу“ як-небудзь камплекты менскіх газэтаў — вельмі патрэбныя. Чытайце „Бібліятэчку каліноўцаў“[136] і ня дзівіцеся — задумалі мы шырака, пакуль ідзе, няма ведама, як далей. [...] пра Вас артыкул „Паэтка нацыянальнай рэвалюцыі“, мусіць, звацца будзе. Дам здачы рэцэнзіяй і „Новай Дарозе.“ Цікава, як у Менску паглядзяць на новы артыкул „Арыентацтва — хвароба беларусаў“... І наагул — пішэце! Пакуль вітаю, заўсёды Ваш ...

Даражэнькая сяброўка!

Атрымаў ліст з „Каханым горадам“. Вялікі-вялікі дзякуй за яго! Хоць і ня ўвесь, але тое, што ёсьць — якраз, бадай, найпатрэбнейшае: пачатак якраз у мяне ў чарнавіку вельмі цяжка рашчытаць, а канец, апошні разьдзел, перапісваючы, зусім быў перайначыў, дык у чарнавіку яго зусім ня было. Ня было таксама і „Ўставак“, якія дужа добра, што захаваліся. Цяпер бяруся перапісваць яшчэ раз — і — у „Раніцу“. Адно бяда, што нешта ад Караленкі ні слуху, ні духу — ні ліста, ні „Раніцы“, ні „Работніка“ — і гэта ўжо ад 22-га — ніколі яшчэ так доўга ня было. Баюся, каб ня здарылася чаго. Сяньня шлю лісты ўва ўсе канцы, і ў Камітэт, і ў Рэдакцыю. Калі зь ім, крый Божа, што якое — для мяне гэта будзе страшэнна: ён у мяне адзіны чалавек у Бэрліне сярод усяго таго іхнага „грамадзянства“, дальбог, нічым ня лепшага, чым тое ў Вашым лягеры[137], на якое Вы жаліцеся.

Але ж, Ваш ліст, поўны жалю й тугі, так зразумелай і мне, можа навет — такой самай, як і ў мяне. І я ж тут сярод *„русского моря“* — праўда, гэта *„чисторусское“*, а ня з нашых гадаў-перакінчыкаў, як у Вас, але чым яно вельмі лепшае? І я ня раз і раней, і цяпер пачуваў зайздрасьць да ўкраінцаў. А што да нашых — у мяне часам бывае самы чорны пэсымізм. Нядаўна я перачытваў артыкул Ластоўскага пра царкоўную вунію ў „Крывічы“[138], які нейдзе выпадкова папаў і прыслаў мне Караленка. І мне здалося, што выснаў аўтара — што вунія распалася, бо была нятрывалай, як і ўсякія *„межеутки“* і *„промежутки“* — можна пашырыць і на ўсю беларушчыну. Ці ж не таксама ўсё наша — ад мовы пачынаючы — нейкая „вунія“, *„межеуток“*, *„промежуток“* між усходам і

[136] У сэрыі „Бібліятэчка каліноўцаў“, праўдападобна, выйшла толькі адна кніга — Вацлава Ластоўскага „Што трэба ведаць кажнаму беларусу“.

[137] Пасьля эвакуацыі зь Беларусі й кароткага побыту ў Кёнігсбэрзе Натальля Арсеньнева з сынам месяц правяла ў лягеры каля гораду Форст.

[138] Маецца на ўвазе часопіс „Крывіч“, што выдаваўся ў Каўнасе ў 1920-х гг.





захадам, маскальшчынай і пальшчынай — і, значыцца, таксама нятрывалае? А ў сэнсе нацыянальнага характару — такое „ні рыба, ні мяса“ — і так лёгка распушчаецца ў першым-лепшым чужым моры...

Гэта пачуваў я ня раз у жыцьці. І тую зайздрасьць да ўкраінцаў. Раней навет зьяўлялася такая думка: ці ня варта наагул цалкам перакінуцца на ўкраінскі бок? Гэта было б куды прагрэсіўней, чым тое іхнае перакінчыцтва на расейскі або польскі бок. Тут і моўная, і ўсякая блізка большая, і, заадзіночыўшы разам сілы, можа і льга было б што-небудзь вырваць? Але пазьней, як я пазнаёміўся бліжэй з украінскай масай, а не інтэлігенцыяй толькі, як пазнаў усё „харство“ ўкраінскага канвою на этапе і ўкраінскага пэрсаналу ў турме — адвярнула мяне ад іх назаўсёды. Не, ужо будзь што будзе, лепш загінуць у поўнай адзіноце супроць цэлага сьвету, чым перакідацца хоць на які бок, хоць сабе і на ўкраінскі.

Ну, але ўсё ж добра, што зрабілі даклад і прачыталі ім вершы — няхай ведаюць, што й мы ня лыкам шытыя. Даклад Шчаглова ўяўляю сабе і з боку мовы, і наагул, але ўсё ж маладзец. І што падтрымвае Вас у спрэчках, хоць і слаба (большага ад яго вымагаць цяжка, ён жа яшчэ такі „малады беларус“). А рэшта — пэўна ж, сьмецьце і паскудзтва. Пра Дэмчанку[139] Караленка ведае даўно, і ад мяне (праз Вашую інфармацыю), і пераканаўся ўжо на асабістым зь ім знаёмсьцьве (яны ж адразу былі ў Бэрліне, і Цыбулькін рэкамэндаваў свайго лепшага сябру — і пасябравалі ж нездарма). Бяда толькі, што ў Цыбулькіна ёсьць рука ў Остміністэрыюме, і мова (чаго зусім няма ў Караленкі), дык цяжка будзе даць рады. Я напісаў Караленку, каб настроіў новых радактароў (ня ведаю, ці пісаў я Вам, што ўжо Стась Станкевіч[140] і баранавіцкі Шышка[141] атрымалі прызначаньні на галоўнага рэдактара і заступніка й паехалі ў Ліцманштат уладкавацца зь сем'ямі? І наагул, з Вашага ліста ня відаць, ці атрымалі Вы мой папярэдні ліст?).

Што гэтая поскудзь лае „Беларускую газэту“ — гэта лепш. Значыцца, добрая была газэта. Як я цяпер падумаю і ўспамінаю, перабіраю ў памяці ўсе беларускія газэты, якія калі-небудзь удавалася мне чытаць — не магу ня прыйсьці да выснаву, што „Б. г.“ з усіх іх ад пачатку й да канца свайго існаваньня была найбольш беларускаю. Праўда, апошнім часам праз гэтую беларускасьць прасочвалася крышку дэм-

[139] **Дземчанка** — рэдактар „Беларускай газеты“ ў 1944 г. Увосень 1944 г. далучыўся да Камітэту вызваленьня народаў Расеі генэрала Власава.

[140] Станіслаў Станкевіч (1907—1980) увосень 1944 г. узначаліў „Раніцу“.

[141] **Шышка** — рэдактар „Баранавіцкай газэты“.

чанкаўшчыны, царкоўна-папоўскай, але ўсё ж не зашмат, беларускае сэрца заставалася. Ці ўдасца нам яшчэ калі мець такую газэту? На „Раніцу“ малая надзея. Стась Станкевіч ужо добра зужыты чалавек, а Шышка — вэгэтэрыянец. Але ўсё ж можа як наляжам усе — і мяне цешыць, што й Вас цягне да працы ў газэце (гэта, пэўна ж, не канечна, каб у Бэрліне, хоць і Бэрлін ня горшы канец — не такі ўжо жах).

Калі Вы пішаце: *„ня ведаю, ці буду яшчэ калі пісаць“* — дык для мяне — гэта толькі мера глыбіні Вашае тугі, але ў літаральнасьць гэтага — дазвольце не паверыць. Вы будзеце пісаць, Вы ня можаце ня пісаць, Вы мусіце пісаць. І ведаеце — гэта ж адзіны ратунак для ўсіх нас. Якое ж жыцьцё перад намі на бліжэйшую будучыню, апрача літаратурнага? А ў лес хадзіць плакаць — гэта можа й большае аблягчэньне дае, але ж для мяне — недаступна... І Вам — можа ня варта? Але ж — і мне так хацелася б быць дзе бліжэй да Вас. Ці доўга Вам яшчэ сядзець у тым Форсьце, у лесе плачу, у лесе гэтых перакінчыкаў — Дэмчанкаў і іншых? Здаецца, што і Рацібор — ня так ужо асабліваe што. Маю Лявонаў адрыс (яны сядзяць таксама ў лягеры), мо напісалі б яму самі, разьведалі, што як (я ўсё зьбіраюся напісаць, ды неяк не дабяруся). Вось адрыс:

*Leon Ssawionok*
*9a Lager Birau über Heydelbreck 6 o/s*
*Baracke 1640 Stube II/11*





Бацькі Антона Адамовіча:
айчым Аляксандар Івашкевіч і маці Паліна Івашкевіч





Наагул, Рацібор[142] — гэта крыху задалёка і ад мяне, і ад Бэрліну, можа крыху заблізка ад бальшавікоў (хоць, праўда, ня вельмі). Ну, але можа там спакойна (і нудна?). Ці ня зьбіраецеся Вы пад'ехаць да свае братавае (хоць на розьведкі) — мо гэта было б найлепш? Але наагул баюся што-небудзь раіць — хто яго ведае, дзе цяпер лепш.

У мяне таксама невясёла. Бацькі жывуць у гатэлі, у пакойчыку, заваленым рознымі рэчамі. Ну, але гэта яшчэ б дарма. Галоўнае, што ня хочуць іх прапісваць і ўсё пагражаюць здаць у які-небудзь лягер. Бяды, што сюды наперлі й пруць розных эвакуяваных, і кватэру, пакойчык навет знайсьці ані нельга. Яшчэ адна бяда — у багажы прапала адно месца рэчаў, дзе былі іхныя падушкі, коўдры, бацькавы порткі, крыху бялізны... Чыгунка шукае, але мала надзеі.

А тут яшчэ лётаць над намі ўзяліся. У сыботу быў над намі паветраны бой. Ссадзілі самалёты (і 8 сваіх галавой палажыла), саскоквалі зь іх парашутыстыя, адзін згарэў лятучы... Праўда, старыя ня вельмі баяцца, але трэба затое быць разам зь імі ў такім поўкэлеры — ніякае ня сховішча... Але часам як бы хоча праравацца ў іх: „Чаго ехалі? Гінуць — прасьцей і лепш на месцы было б...“ А тут яшчэ й зь ядой, пакуль да картак прывыкнуць — тугавата, малавата...

Яшчэ Вам адна рада. Можа, варта Вам зайсьці ў Бэрліне да д-ра Курца (*Propagandaministerium на Kanonierstrasse*, нумару ня памятаю, але знайсьці лёгка) і, прамацаць грунт, ато й папрасіцца да нас, у *Antikomintern* і дакладней — у *Freyburg*. Можа што й выйдзе (нумар ці 4, ці 40).

Атрымаў паштоўку ад Комара. У Позэне[143] кватэраў няма, сядзяць у нейкім лягеры *Arbeitsarnt'u*[144], блага, з працай — ніякіх пэрспэктываў. Гэта, значыцца, у Рады, зь якой Вы хацелі ехаць. На ўсякі выпадак даю ягоны адрыс — мо там што пра бацьку Вашага даведацца можна:

*Weissruthenische Vertrauensstelle*
*Posen, Raiffensenalle №2*
(за дакладнасьць ня ручаюся, сьпісваю дакладна зь яго).

Караленку напісаў, каб слаў Вам „Раніцу“, дык калі ён ёсьць і „Раніца“ выйшла, можа, атрымаеце. Як толькі даведаюся што — напішу, не чакаючы ад Вас навет. І Вы таксама пішэце. Можа як захочацца ісьці ў

---

[142] **Рацібор** — сёньня горад Рацібуж у Сылескім ваяводзтве Польшчы.

[143] **Позэн** — Познань (Польшча), тут некаторы час заставалася БЦР і прадстаўнікі іншых арганізацыяў, эвакуяваных зь Менску.

[144] *Arbeitsamt* — арганізацыя працы ў нацысцкай Нямеччыне.

лес і паплакаць — напішэце лепш, хоць і з плачам, з тугою — будзем нек трымаць адзін аднаго. І каб бліжэй як да нашых людзей старайцеся.

Цяжка на душы, Наталачка, як ніколі, здаецца, ня было. Галоўнае — хоць бы дзе прасьветлінка, хоць бы якая пэрспэктыва. Толькі чорнае наперадзе. Але часам выблісквае нейкая — дурная? — надзея (мусіць, тая, што *głupich matka*), што раптам неяк усё перакруціцца і пойдзе, хутка пойдзе на лепшае. А можа ж?

А часам думаецца — мо ўжо й лепш было б, каб тады тая міна — раз і ўсіх падмяла на той сьвет... Прынамся, гэтага ўсяго не перажывалі б, і было б адно вялікае й спакойнае, ніякае нічога...

Ды не — усё ж жыць лепей! Дык будзем жыць, *„на зайздрасьць і злосьць усялякім“* — як добра самі пісалі некалі.

Тымчасам на гэтым і скончу. Пішэце, ня сумуйце, ня тужэце, ня плачце — і што я магу больш параіць Вам, апрача гэтага „ня“? Як і Вы мне, пэўна...

Будзем трымацца! Вітайце ад мяне Шчаглова, сынка — а больш ці варта каго каля Вас? І самі мацуйцеся, трымайцеся, жывеце, пішэце —

Заўсёды Ваш А...

31.07.1944

Даражэнькая сяброўка!

Атрымаў Ваш ліст. Караленкавы лісты зусім зьбілі мяне з панталыку, і я ўжо думаў, што Вы перабраліся ў Бэрлін, дык чакаў на весткі адтуль. Цяпер высьвятляецца, што Вы толькі прыяжджалі туды, а пераезд назусім яшчэ не адбыўся. Можа стацца, што да гэтага часу Вы ўжо пераедзеце, і ліст разьмінецца з Вамі, але ўсё ж пішу на Форст. Добра было б, каб у выпадку пераезду Вы паведамілі мяне наперад, а таксама, каб датавалі лісты для лягчэйшай арыентацыі, дзе Вы. 20-га ў Бэрліне маюць ладзіць акадэмію па Луцкевічу, Караленка прасіў, і мне хочацца прыехаць, але малая надзея — дужа цяжка з гэтым цяпер. Але буду старацца, як мага. Мо і Вы пад'ехалі б, але баюся прапанаваць, бо можа стацца, што мне ня ўдасца вырвацца.

Справы мае крыху як бы пачынаюць лепшаць. Бацькоў нарэшце прыпісалі, але гэта і ўсё. Кватэры няма і няма надзеі на яе, але з гатэлю ня гоняць іх і не пагоняць — пакой быў завалены рэчамі і нікому не патрэбны, хоць для жыцьця ім зусім выгодны. Бацьку павінны ўзяць на нейкую працу — яму яшчэ няма 66 год. Пагаворваюць, што й мяне могуць змабілізаваць у армію ці ў ваенную прамысловасьць. Але, можа, адверне. Згубленае адно месца бацькоўскага багажу не знаходзіцца, і





малая надзея, каб калі-небудзь знайшлося. Бацьком тут вельмі падабаецца, каб адно людзі ветлівыя былі і... каб есьці крыху больш (гэта ж і маё пажаданьне, але што ты зробіш?).

Як бачыце, вясёлага мала, хоць ужо ня так і сумна. Чытаў ужо ў савецкіх газэтах першыя весткі пра ўзяцьце Менску. Сволачы! — даруйце за рэзкі выраз. І цешацца, і хлусяць да вар'яцтва і так подла. Зь беларусаў тымчасам адгукнуўся адзін Колас (як зазвычай, вельмі подленька). Перадавіца „Правды“ піша: *„Немцы переименовали Белоруссию в Минско-Барановичский округ, а белорусов — в белорутинов“* (гэта *Weissruthenen* так зразумелі). Аб гэтым напісаў ужо артыкулец, мо будзеце чытаць у „Раніцы“. Пішуць, што ў Менску зьнішчаныя ўсе каменіцы, і захаваліся толькі часткава Дом ураду і Дом Чырвонай арміі. А як пішуць пра леташні выбух у тэатры: *„В Минском городском театре немцы организовали торжество, шумно трубя о нем по всему городу. В театр пришли гитлеровские головорезы, офицеры-эсэсовцы, палачи и их ничтожные прихвостни. Партизаны посетили театр несколько раньше, и в самый разгар фашистского торжества взлетело на воздух более 30 негодяев и еще более 100 было ранено“*. Дык ведаеце цяпер, як гэта было? Значыцца, Ваш сын — у ліку *„негодяев“*, *„головорезов“*, *„эсэсовцев“*, *„палачей“*. Калі я чытаў гэта, ува мне закіпела страшэнная злосьць. Тым гарчэй, што бясьсільная. Але каб, здаецца, сустрэў калі гэнага *„негодяя“*-аўтара (подпіс — Мікола Садковіч, *„перевод с белорусского“*, здаецца мне, ці не Матусэвіч) — ён бы ў мяне напэўна *„взлетел на воздух“*! А вось вершыкі (цытаты, невядома, з чаго):

*Пясок нам лажыўся пад ногі,*
*Вятры завывалі, гулі,*
*Да Мінска усе нас дарогі*
*З Усход<u>а</u> на Захад вялі.*
*Час блізак святой перамогі,*
*Шчасьлівы, таварышы, пуць!*
*Праходзяць за Мінскам дарогі,*
*Дарогі на Захад ідуць*

Ах, каб гэта калі можна было ізноў чытануць ім „Шчасьлівы, таварышы, пуць“ — не на Захад, а на Ўсход, у свае бярлогі. Вунь Комар піша, што бачыў нейкага знаёмага з Цывільфэрвальтунгу[145] зь Менску, і той

[145] *Ziwilverwaltung* (ням.) — цывільная адміністрацыя.

казаў, што ў кастрычніку зноў будзем у Менску. Пэўна ж, гэта не аўтарытэтна і навет зусім дурніца, але каб жа!

Зь іншых іхных навінаў — на месца Прыляжаева выступіў з такой самай чаўпнёй ягоны сябра акадэмік Нікольскі[146] і *„доказывает в том же духе“* (мусіць, памрэ хутка таксама). Зь небеларускіх навінаў цікава пра V-1[147]. Перш нейкія іхныя „вялікія спэцыялістыя“ высьмейвалі ў спэцыяльным артыкуле, што гэта — дурніна проста. Такія ж весткі давалі і з ангельскіх газэтаў. А цяпер інакш пяюць. Найграюць, што „нягуманна“, „барбарска“. А з ангельскіх газэтаў падаюць: чытачы аднае Газэты закідаюць яе лістамі. Адзін піша: *„Трэба змусіць немцаў перажыць тыя жудасьці, якія перажываем мы ад іхнага V-1. Дзеля гэтага трэба сыстэматычна і плянава зьнішчаць усе іншыя гарады, дзе жыхарства больш за 5000. Нашая афіяцыя ў стане рабіць гэта“*. І хоць прыкра ад сьведамасьці, што яны запраўды ў стане і могуць пачаць рабіць гэта, але й нейкае задаволеньне: аказваецца, што V-1 — зусім няйнешта сабачае, як спачатку яны ўдавалі. З надзеяй і нецярплівасьцю чакаю на V-2, V-3 — толькі на іх і надзея, мо як павернуць увесь ход. Бо павярнуць яго можа толькі цуд, а такім цудам можа быць толькі нейкая магутная новая зброя. Праўда, для бальшавікоў дык можа паўтарыцца нешта падобнае да калішняга „Цуду над Віслай“, і Варшава абярнуцца ў тое, чым быў для іх ворагаў Сталінград (сытуацыя зусім падобная). Адным словам, мо яшчэ як і „загляне сонца“...

Ну, бэрлінскія навіны Вы, пэўна, лепш за мяне ведаеце. Ці чытаеце „Раніцу“? Ці чыталі маю рэцэнзію на „Сягоньня“ і як яна Вам? Ці чыталі „Нявольніка Дагамэі“ (праўда, яшчэ толькі пачатак). Усё зьбіраюся ўзяцца за „Каханы горад“, ахвота, між іншага, і Кіпелю насыпаць на хвост, але хіба вазьмуся тады, як „Нявольнік“ скончыцца. На варштаце — артыкулец пра Труса (29-га — 25 год ад сьмерці), будзе працягнена і маленькая нітачка да нашых „маладых эпігонаў“. У „Работніку“, які мае выходзіць на 6 бал., маю друкаваць артыкулы пра вершаскладаньне, каб пасьля зь іх выйшаў падручнік. З Караленкам ужо даўно абга-

[146] **Мікалай Нікольскі** (1877—1959), беларускі гісторык, дасьледнік гісторыі рэлігіі. Падчас вайны заставаўся ў акупаваным Менску, быў зьвязаны з савецкімі партызанамі, у 1943 г. выведзены ў партызанскую зону.

[147] Размова пра Фау-1 — самалёт-снарад (крылатая ракета), што быў на ўзбраеньні арміі Нямеччыны ў канцы Другой сусьветнай вайны. Назва паходзіць ад ням. *Vergeltungswaffe* (зброя адпомсты). Упершыню ўжытыя 13 чэрвеня 1944 г. для авіяўдараў па Лёндане.





ворана, першы артыкул ужо паслаў (ён некалі меўся быць у дадатку да „Бел. Газэты“ — „Жыве Беларусь“, памятаеце, можа). Ахвота брацца і за гісторыю літаратуры, і, мусіць, пачну з артыкулу пра 135-годзьдзе беларускай літаратуры ў сувязі з Баршчэўскім. Ато значыць — малапісьменныя ў літаратуры вакачы перапісваюць і апісваюць і самарэклямуюцца із сваймі „навуковымі працамі“, а я ўсё ніяк не магу дайсьці, каб вылажыць тое, над чым думаю ўсё сваё сьведамае жыцьцё. Вось гэткія мае цяпер пляны й працы.

„Жоўтую восень“ узяў у Найдзюка, забыўся Вам напісаць аб гэтым (экзэмпляр на машынцы). Каб гэта перапісаць хоць бы на машынцы „Пад сінім небам“[148].

Атрымаў цікавы ліст ад Саўчука. Піша пра Грынблата[149], што застаўся, і апошнімі днямі навет наглець пачаў. А гэтаму гаду яшчэ і „ордэн“ начапілі. Я ўжо напісаў Саўчуку, што, будучы на ягоным месцы, устрэліў бы гада. Але ёсьць надзея, што мо бальшавікі выправяць чужую памылку й павесяць (адна ўцеха, што мы ў вацэнцы гэтага прахвоста й жыдзюгі ня мыляліся, і што больш ужо зь ім ня будзем мець дачыненьня. Шкода, што зь ягоным *„покровителем“* Панінам так ня сталася — сядзіць у Кёнігсбэргу). Праехала праз Кёнігсбэрг Вержбаловіч з дачкой[150], шукаючы іншых тэатральных. Глебчыха... зьбіраецца выходзіць замуж, і гэта паважна (цікава толькі, за каго — Саўчук ня піша — і ці не палітычны гэта які фокус). Касяк[151] паехаў у Прагу і хоча назад у Кёнігсбэрг, але там так радыя, што яго пазбыліся, што і ня думаюць назад прасіць ці прыймаць навет.

А „найпрыямнейшую“ мне навіну напісаў Саўчук пра дзяўчынку. Перад самым ад'ездам яна прыходзіла і пыталася, як ён раіць — ехаць ці не. І ён параіў... застацца. *„Яна прымружыла вока. „Вы так думаеце?“ — і памаўчаўшы дадала: „Я так і зраблю“, — і адыйшла паволі з сваёй скрынкаю“*, — піша Саўчук. І мяне грызе, што яна магла прыняць Саўчукову параду, як маю — бо праз Саўчука атрымлівала заўсёды і

[148] „Пад сінім небам“ — першы зборнік твораў Натальлі Арсеньневай, выйшаў у Вільні ў 1927 г.

[149] Маецца на ўвазе беларускі савецкі гісторык Майсей Грынблат (1905—1983).

[150] Адамовіч памыляецца, артыстка менскага тэатру Барбара Вержбаловіч (1901—1967) ехала не з дачкой, а з пляменьніцай — Галінай Ганчарэнкай (Руднік), якой яна апекавалася пасьля арышту маці Галіны ў 1937 г.

[151] Іван Касяк (1909—1989) у 1941—1944 гг. быў адным з ініцыятараў аднаўленьня БАПЦ, сябра БЦР, намесьнік прэзыдэнта БЦР на Глыбоцкую акругу.

лісты, і весткі ад мяне. Вось як выйшла! І цяпер мне баліць гэта больш, як балела. Але нек учора ўздумалася, чаго мне найбольш шкода з пакінутага ў Менску? І выйшла: яе і кніжак. І тут жа дадумалася: і Яна ж у мяне кніжная, выдуманая, а рэальная яна — пэўна такая, якой Вы бачылі яе на тым банкеце, і ці варта такую шкадаваць. І тады ўспомніліся Есенінавы радкі:

*И пускай мне шепчет тихий вечер,*
*Что была ты песня и мечта,*
*Все ж, кто выдумал твой гибкий стан и плечи —*
*К светлой тайне приложил уста.*

На гэтым неяк і супакоіўся. Усё ж, ейны вобраз (без раскладу на *„гибкий стан и плечи“*, суцэльны і можа „выдуманы“ запраўды вобраз) застаецца ў мяне, і будзе яшчэ балець. Усё гэта складаецца Юстапчыку на аповесьць „Восеньскія скрыпкі“, якую ён мае пачаць увосені (сюжэт збольшага вырысаваўся яшчэ раней, а цяпер атрымаў завяршэньне).

Ну, на гэтым, мусіць, і скончу. Пішэце Вы, хоць пакрысе. Чытаў у „Раніцы“ пра той Ваш выступ перад украінцамі (А. Д. — мусіць, Дземчанка пісаў — дзе ён? З Караленкавых лістоў выглядае, што ў рэдакцыі як бы не працуе). Шчаглову перадайце прывітаньне, і за той даклад асабліва. Ці маеце якія весткі з Раціборгу? Я чуў (але збоку, не ад нашых), што там вельмі блага, наехала шмат уцекачоў, сьпяць на падлозе і зьбіраюцца ледзь ня ўсіх здаць у ваенную прамысловасьць (зрэшты, гэта ўсюды, баюся, каб і нашых бэрлінцаў не зачапіла). Што парабляе сынок і кім будзе ў „Раніцы“ працаваць? А яго ці ня могуць куды хапіць? Ды няхай яго ўсё адверне. Хоць вось сьвежыя весткі з радыё — англа-амэрыканцы высадзіліся ў Тулёні. Пагана. Няўжо давядзецца і нам так марна згінуць?

Ну, але тымчасам будзем трымацца. Ня журэцеся, пішэце і наагул, і мне хоць пару радкоў, вітайце знаёмых і бывайце здаровенькі.

Заўсёды Ваш АнтАдамовіч

15.08.44

P.S. Ваш №8 ці 2 — бо Вы і так, і так пісалі?

Даражэнькая сяброўка!

Нарэшце рукі дайшлі да ліста. Дайшлі б і раней, але гэтыя дні ўсё адбіралі шмат часу алярмы. Яшчэ як я быў у Бэрліне, быў пералёт праз нас (у панядзелак), даволі даўгі. Найгорш, што ў самым Фрэйбургу і зусім недалёка ад гатэлю, дзе жывуць бацькі, зваліўся неразарваны





снарад ад фляку, т. зв. *Blindgegner*, і выбухнуў, параніў аднаго чалавека так, што той хутка й памёр, высадзіў вокны ў двух-трох бліжэйшых дамоў, адбіў рог аднаго дому. Гэта ўсё прыемнасьці фляку[152] , якіх раней тут ня ведалі, калі ён быў далей. Але ўсё-ж гэты фляк састрэліў тады ў нашай ваколіцы 7 самалётаў. Пашкодзілі троха адну каляіну чыгуначнае лініі, дык цягнік мой спазьніўся на гадзіну. Да гэтага часу якраз падасьпеў фаралярм[153] (былі ў Вас у Бэрліне), а я рушыў у сваю 8-кілёмэтравую дарогу пры ягоных гуках, думаючы, як добра, што гэта ня ў Бэрліне, і за 3 кілёмэтры ўжо *„наслаждался“* гукамі энтварцунгу, а таксама хоць і цёмнай, але слаўнай восеньскай ноччу. Назаўтра, у аўторак, зноў быў пералёт, у сераду зноў — і пры тым вялікі, каля 2-х гадзін толькі лёталі, зноў зваліўся *Blindgegner*, толькі далей і без ахвяраў, на гарод, а другі — у суседнюю вёску, параніла двух. У нашай ваколіцы састрэлілі ўсяго 1 самалёт, хоць лёталі іх шмат. Учора, у чацьвер, чакалі іх зноў, бо звычайна яны як пачнуць, дык дзень-у-дзень, а тады адпачываюць. Але ўчора абышлося, сяньня чакаем, а можа, Бог дасьць, ізноў пранясе. Бачыце, якія бываюць у нас прыемнасьці.



Фрэйбург на паштоўцы 1940-х гг.

[152] *Flak* (ням.) — зэнітка.
[153] *Voralarm* (ням.) — папераджальная сыгналізацыя.

Адно добра, што ў мяне добра ўладзілася. Мой начальнік аддзелу дужа ўсьцешыўся, што я дастаў такую паперку, і пэўны, як і я, што Арбайтсамт, куды маю быць выкліканы хутка, ня здолее цяпер мяне „забраць“. А ў далейшым ён згодзен, каб я дзяліў свой час і працу між Фрэйбургам і Бэрлінам, г. зн. між Антыкамінтэрнам і Штабам Вашага бацькі — як я і хацеў, так што вельмі добра. Перадайце гэта Вашаму „бацьку“ разам із падзякаю за тую дапамогу, якую ён мне зрабіў, фактычна, выратаваўшы ад прыкрае рэчы. Пра далейшае разгорваньне гэтае справы буду пісаць своечасова.

Гэта весткі з майго асабістага фронту. З агульных франтоў суцяшальнай весткай — сустрэча Чэрчыля з Рузвэльтам бяз Сталіна, прычым абмяркоўваюцца пытаньні савецкага ўварваньня ў Эўропу й польскае пытаньне. У нашым гарадку парэквізоўвалі я[...], бо кажуць, што іх павезьлі некуды далей, абвесьціўшы наш раён небясьпечнай зонай №1 (гэта, мусіць, хутчэй з прычыны паветраных палётаў, бо фронт — заходні — ад нас яшчэ далекавата, кілёмэтраў 350—400 па простай лініі).

Цяпер перайду да Вашага ліста зь вершамі. Добра Вы напісалі там тое, пра што й мне няраз думалася: гаварыць у лістох лепш і лягчэй. Гэта й я адчуваю заўсёды. Гэта сьведчыць, што мы з Вамі — такія ўжо літаратурныя „пісьменныя“ людзі, можа навет — кніжныя. Ну што ж, няхай і так. Для шмат каго слова „кніжны чалавек“ гучыць зьнявагаю. Для мяне ж — ніколі. Кніжны сьвет — куды лепшы за той, што ў ім мусім жыць. Дык жывучы ў гэтым сьвеце, „акніжваць“ яго — ці ня значыць — паляпшаць?

Кажуць, што „кніжны чалавек“ пазбаўлены асалоды беспасярэдняга, пачуцьцяў сьвежых і мамэнтальных. Ці праўда? Мне здаецца — не. Усё гэта ёсьць, бывае, але апрача таго — і нейкі плюс наверх: беспасярэдняе, пачуцьці яшчэ й затрымваюцца, шліфуюцца, замацоўваюцца, могуць быць паўторна-перажытымі.

Паэта — таксама „кніжны чалавек“. Ён адчувае тое, што й звычайныя людзі, вастрэй хіба, можа. Але ён гэтае адчутае затрымвае ў сабе, шліфуе,ператварае, замацоўвае ў сваіх творах. Ня ўсім гэта даецца, і таму ня ўсім падабаецца. Найбольшыя ненавіднікі паэтаў — самі няўдалыя паэты. І ўнутры паэтавай касты менш удалыя паэты недалюбляваюць, ато й зусім ненавідзяць удалейшых. Божа мой, колькі я бачыў такіх выпадкаў у сваім жыцьці! У гэтым, здаецца мне, адказ на Вашае нездаўленьне, што некаторыя з названых Вамі „паэтаў“ Вашыя вершы *„не одобряют“*. У папярэднім, здаецца, лісьце Вы зусім правільна





пісалі, што Вас будуць чытаць і разумець па сьмерці. Гэта ж з паэтамі часта бывае, а з запраўднымі — бадай заўсёды. Сьмерць здыймае мамэнт асабістага, мёртвы — ніякі не канкурэнт жывому, яго няма як ненавідзець актыўнай ненавісьцяй спаборніка, ён ужо — скончаны, нічым у далейшым пагражаць ня можа.

Праўда, гэта не абсалютнае правіла. Бывае й наадварот — няўдалыя паэты могуць узьняцца над сваёй няўдаласьцяй і цаніць творчасьць паэтаў запраўдных. Вось сьвежы прыклад — шэф-праваднік, які нядаўна быў у мяне. Ён, хоць і сам піша вершы (навет дакляраваў мне прысылаць іх на суд) — неспадзявана аказаўся вялікім Вашым прыхільнікам. Казаў, што Вы — запраўдны паэта й навет абураўся, што „Раніца“ побач із Вамі, на адным узроўні, друкуе Генююш, яшчэ зусім „вучаніцу“, як казаў ён. Я ад яго навет не спадзяваўся такога.

Вы пішаце аб перастарэласьці паглядаў на паэзію. Калі й гаварыць аб ёй тут, дык крышку наадварот. Перастарэлыя пагляды ня ў Вас, а хутчэй у тых, што „не разумеюць“ і „асуджаюць“. Тое, што Вы даўно пачалі пісаць — ня довад: няўжо Вы самі не адчуваеце, як зьмяніліся Вашыя пагляды на паэзію ад таго часу і, асабліва, апошнім часам. Можа з абсалютнага гледзішча яны й перастарэлыя, бо адпавядаюць прыблізна стану 30-х гадоў нашага веку. Але гэты стан для беларускай паэзіі — самы навейшы, бо далей ёй не далі разьвівацца. Далей, у савецкай лініі, яна або стаяла на месцы, або йшла назад. Пэўне ж, пры ўмове ейнага разьвіцьця наперад, такія пагляды былі б перастарэлымі, але пры гэтый умове іх не было б зусім, як такіх — Вашы пагляды разьвіваліся б разам з усёй нашай паэзіяй. Ня нашая віна ў тым — ня мы спынілі гэтае разьвіцьцё. Якраз Вашая заслуга, што Вы пачынаеце цяпер ад таго найвышэйшага, што было дасягнутае беларускай паэзіяй. А ўжо толькі далей, за гадоў пару, будзе відаць, пойдзеце Вы і далей наперад, здолееце штурхнуць наперад нашую паэзію, ці не. Хоць гэта і справа не аднаго чалавека, але мне здаецца, што паплечнікі Вам знойдуцца (навет із тых, што адмаўляюць і „не разумеюць“ — яны ўжо шмат у чым, мо самі не заўважаючы, ідуць Вашымі сьлядамі), і пры ўдзеле Вашым таксама, нашая паэзія й пагляды на яе пойдуць наперад. Гэта, пэўна, будзе ў ладнай меры залежыць і ад спрыяньня ці няспрыяньня вонкавых абставінаў.

Цяпер, на жаль, вонкавыя абставіны ня спрыяюць, а Вам — навет найдрабнейшыя зь іх. Між іншага, у сувязі з чытаным у Вашым лісьце няспрыяньне Вашых хатніх Вашаму пісаньню, я ўспомніў пра адну з жонак Есеніна (у яго іх было колькі), балерыну Беніслаўскую. Калі на

яго находзіла натхненьне, яна на цэлыя гадзіны сыходзіла з хаты, каб не перашкаджаць. Вось як яна кахала яго! І ўсё ж, ён зь ёй пасварыўся й разыйшоўся. За год пасьля ягонага самагубства яна застрэлілася на ягонай магіле. Вось як бывае.

Прысланыя Вамі вершы я прачытаў колькі разоў. Цешыць ужо тое, што я меў рацыю: Вы ня можаце ня пісаць, хоць цьвердзілі наадварот. Пра „выпісваньне“ яшчэ гаварыць рана, хоць адзінае, што я мог бы закінуць гэтым вершам, гэта — некаторыя самаперапевы, паўтарэньні самое сябе. І гэта асабліва — у „вершах пра вершы“, пра паэзію, заданьні паэты, у дэклярацыйных вершах (у прысланых — такія вершы, як „Сьмела наперад“, „Уночы“). Дэкляратыйныя вершы — наогул няўдзячны жанр. Гэтыя „вершы пра вершы“ адначасна толькі вершы для паэтаў, крытыкаў, літаратараў, а не для шырокае чытацкае публікі. Павялічэньне колькасьці іх у паэты звычайна сьведчыць аб шуканьні ім выхаду, пераходу на нейкую новую ступень. Калі гэты пераход адбываецца — яны зьнікаюць, пераходзячы ў творы, дзе ўжо не гаворыцца аб тым, якімі павінны, але ня могуць быць вершы, а самі вершы стаюцца такімі, аб якіх пісалася раней у гэтых „вершаваных дэклярацыях“. Аднак мушу сказаць, што пры ўсіх „самаперапевах“, „самапаўтарэньнях“ у іх, Вы знаходзіце і нешта новае кажны раз, калі ня ў самым зьмесьце выказваньня, дык хоць у форме выражэньня. Здавалася, пасьля сказанага калісь — *„найлепшай рыфмай ртоў галодных не заткнеш“ „сталёвы войстры штык ... вершаў шмат“* — цяжка сказаць аб гэтым мацней і іначай, а Вы ўсё ж знаходзіце новыя вырашэньні таго ж, якія ў сіле не ўступаюць ранейшым (дарэчы, Вы ўжо каторы раз успамінаеце ў гэтай сувязі пра санэты, а ці пісалі самі хоць адзін? Нешта не прыпамінаецца. А часам ня шкодзіла б — гэта дысцыплінуе, калі толькі вытрымваць усе правілы. А такое, прыкладам, формы, як „вянок санэтаў“ у нашай паэзіі яшчэ няма наагул — праўда, гэта й цяжкая форма).

Цяпер канкрэтна пра паасобныя вершы. Найлепшымі мне выдаюцца, апрача друкаванага ўжо „Сьмела, наперад“, — „Імкні, паэт“, „О, шыпшына мая“ (на гэтым вершы цікава можна прааналізаваць процілежнасьць падыходу Вашага і Дубоўкавага да аднае тэмы, што можна было б умоўна абазначыць падыходам „мужчынскім“ і „жаноцкім“) і „Ня плачце“. Ня друкаваць гэтых вершаў для мяне было б дзіўным, і магло б быць вытлумачаным не літаратурнымі й не нацыянальнымі, а якімі-небудзь іншымі меркаваньнямі (найлепш было б тут сказаць парасейску *„соображениями“* ў спэцыфічным іхным значаньні гэтага слова). Цяпер пра паасобныя драбніцы.





У „Сьмела наперад“ я б ужыў лепш „на крыльлі“, як „на крылах“, тут якраз гэтая форма больш увязваецца ў вагульнае гучаньне і ў рыфму (абедзьве формы — „на крыльлі“ і „на крылах“ — роўнапраўныя, толькі „на крыльлях“ — русіцызм). Апошняя страфа выдаецца мне заслабою, як канцоўка (асабліва апошні радок), замляўкаю, тымчасам у такім вершы, пры нарастаньні заклікаў, канцоўка павінна была б быць наймацнейшаю.

У „Імкні, паэт“: 1) Трэба пісаць „разьліся“, а не „разьлійся“ — „й“ пасьля „і“ ў нас ня церпіцца, мала церпіцца і пасьля „ы“; у прыметніках яно ўсюды адпала — „добры“ і „ціхі“, а ня „добрый“ і „ціхій“, як у расейцаў і ўкраінцаў; у дзеясловах адпала пасьля „і“: пі, лі, бі, ві, а ня пій, лій, бій, вій (хоць — мый, крый, шый) 2) кажуць, што „росквіт“ — палёнізм, дык мо лепш было б „росьцьвіт“, хоць я асабіста ня пэўны ў польскасьці групы „кв“ заміж „цьв“ і супраць яе нічога ня маю 3) лепш *„хай скажа сьвет“*, як у Вас і напісалася, заміж „кажа“, як папраўлі 4) можа, наагул лепш „паэта“ замяніць на „мастака“. Гэта асабліва пасавала б да таго, дзе гаворыцца пра *„цела з гліны і пяску“*. Хоць, з другога боку, гэта адзінае месца, у іншых выразна гаворыцца пра паэтычную творчасьць, і, па-другое, слова „мастак“ нек больш празаічнае. „О, шыпшына“ 1) трэба пісаць: агенчык безь ь (як і каменчык і пад.) 2) *„што чакае ўцехаў мо сто“* выдаецца заслабым і „цыфраю“, і абмежавальным „мо“ (параўнаньне „мо сто“, „са сто“ ў жывой мове мае непаважны характар, крыху дзіцячы). „Усьмешка“ 1) „жнівенскі“ — таксама трэба пісаць бязь ь, як і ўсе прыметнікі на -скі ад назоваў месяцаў (травенскі, студзенскі), як і восенскі; 2) „нямашка“ (як і ў вершы „Ўначы“ — „цяперка“) таксама крыху зьняважнае, задзіцячае (як і ўсе падобныя з гэтым „ка“) 3) першыя радкі апошняе страфы нек недапрацаваныя („джгалам пячэ“ — і яшчэ „мёртвы зрок“ — удумаўшчыся, тут зашмат супярэчнасьцяў; павісае нек „каб-жа-ж вас“ — кантэкст не выясьняе, да чаго яно тут, як яго ўвязаць у вагульны сэнс) 4) увесь верш Сяднёву і іншым можа выдацца зродным зь ягоным „Інвалідам“ (між іншага, казалі мне ў Бэрліне, што цэнзура хапілася была пасьля: аб такіх рэчах пісаць нельга). — „Не“ 1) *„яміны бяз шыб“*. Калі кажуць „яміны“ на вочы, гэта ясна, але вокны нек не нагадваюць ямінаў 2) „пяцца“ „ступыт“ ня вяжацца: „пяцца“ выражае напружанасьць, а „ступыт“ — наадварот, мерную, павольную хаду, пазбаўленую ўсялякае напружанасьці. „Уночы“ 1) „у рукох“ вельмі ж рэжа вуха, трэба ... „у руках“ (толькі ў мужч. і ніяк. родзе — канчаткі ох, ом, у жаноцкім — ах, ам. „У рукох“ я сустракаў толькі ў тых, што ня ведаюць жывое мовы, і чамусьці найбольш у „заходнікаў“) 2) тут ужо

„сто“ больш на месцы, як у вершы „О, шыпшыне“ 3) *„плачам ... плача“* — хоць таўталёгія — і паэтычны прыём, але тут яна паслабляе ўражаньне, варта было б знайсьці іншы, больш моцны дзеяслоў. „Ня плачце“ 1) „Лёс“ — ізноў у пасыўным разуменьні („аддасьць“, „ня кіне“), тымчасам, як у іншых Вашых вершах ужо было актыўнае разуменьне яго як такога, у якога самому трэба адбіраць, які мусіць аддаць. Варта было б і тут у гэтым дусе правесьці — гэта яшчэ ўзмацніла б верш. 2) *„Крывіччыны маёй“* — частая памылка, трэба — мае. Наагул, толькі давальны, творны і месны склон маёй, тваёй, сваёй, чыёй, тэй; а родны — мае, твае, свае, чые, тае; цярпець парушэньні можна хіба з погляду на вымаганьні рыфмы, рытму, і гэта нядобра.

Ну вось, усе мае заўвагі. А наагул — яшчэ раз — вершы добрыя. Шлеце яшчэ, калі будуць! Ато проста хутка давядзецца сказаць пра сябе, як Пушча калісь — пра паэтаў Эўропы:

*Даўно ўжо паэзіі вы ня чыталі,*
*Абрыдла як вам і жыцьцё, і плянэта.*

(дый абрыдлі, што праўда) Часам толькі перачытваю Гумілёва. І вось хачу тут перапісаць і Вам адзін ягоны верш, якраз крыху каля тае тэмы, на якую мы тут гаворым — аб „разуменьні“ вершаў. Мне ён вельмі падабаецца, як і шмат якія іншыя (адзін я пераклаў у „Нявольніку Дагамэі“ — ці чыталі і як Вам? Апавяданьне друкавалася ў „Раніцы“). Мо й гэты перакладу як, але цяпер не „перакладаньніцкі“ настрой, ды аб гэтым — ніжэй.

*Шестое чувство*

*Прекрасно в нас влюбленное вино*
*И добрый хлеб, что в печь для нас садится,*
*И женщина, которою дано,*
*Сперва измучившись, нам насладиться.*

*Но что нам делать с розовой зарей*
*Над холодеющими небесами,*
*Где тишина и неземной покой, —*
*Что делать нам с бессмертными стихами?*
*Ни съесть, ни выпить, ни поцеловать.*
*Мгновение бежит неудержимо,*
*И мы ломаем руки, но опять*
*Осуждено идти все мимо, мимо,*
*Как мальчик, игры позабыв свои,*





*Следит порой за девичьим купаньем,*
*И ничего не зная о любви,*
*Все ж мучится таинственным желаньем,*
*Как некогда в разросшихся хвощах*
*Ревела от сознания бессилья*
*Тварь скользкая, почуя на плечах*
*Еще не появившиеся крылья, —*
*Так век за веком — скоро ли, Господь? —*
*Под скальпелем природы и искусства*
*Кричит наш дух, изнемогает плоть,*
*Рожая орган для шестого чувства.*

Помніцца, яшчэ ўзімку Вы мне пісалі з повaду „Каханага гораду“, што пачуваеце нейкім „шостым пачуцьцём“ лішнясьць у ім некаторых разьдзелаў і эпізодаў. Цяпер, перапісваючы яго яшчэ раз, можа тым самым пачуцьцём адчуў тое і я, але дайшоў да іншага выснаву: ня выкідаць тыя часткі, як Вы раілі (бо яны лішнія толькі мо з гледзішча таго, што напісана, як апавяданьне), а пісаць усю рэч далей да аповесьці, ато й раману. Тое, што ёсьць, толькі першая частка. А іх, як бачу, павінна быць тры. У той, што ёсьць, скончылася гісторыя толькі аднаго з герояў — Валіка, Юрка ж і Віктар засталіся. У наступных дзьвюх частках мусяць скончыцца і яны. Другую частку — Юркаву — ужо больш-менш уяўляю. Там будуць і „лясныя хлапчаняты“, якіх Вы хацелі выкінуць, і „Юзікавы хлопцы“ — партызаны — і такім чынам разьвіецца тое пра іх, што ёсьць у першай частцы і што так Вам здавалася лішнім. Вера акажацца жывой — бомба забіла толькі ейную маці, „Качка“ ня ведаў гэтага і сваёй „качкай“ няправільна паінфармаваў Юрку. Вера спаткаецца і зь Юркам, і зь Віктарам, якому давядзецца перайсьці на гэты бок і тут таксама старацца зрабіць кар’еру (у трэйцяй частцы гэта мусіць разьвіцца падрабязьней, але мне яшчэ няясна, як). Між іншага, Юрка мае наведаць менскі тэатар, і можа навет на „Лясным возеры“. Ёсьць шмат плянаў і колькі войстрых, інтрыгуючых сюжэтных палажэньняў. Як толькі скончу перапісваць тое, што ёсьць — 1-ю частку — вазьмуся за пісаньне 2-й (у канцы 1-й дам аб гэтым зноску), карціць. Ці ўдасца толькі напісаць і надрукаваць? Хацелася б даць там нейкі абраз таго, што рабілася ў Менску за апошнія 3 гады. У тым ліку і пару жывых людзей. Але ж „Каханаму гораду“ так не шанцуе, так не шанцуе, што баюся, ці выйдзе з гэтага што (дык нікому аб гэтым не кажэце, ато „рэдактары“ яшчэ спужаюцца, што „задоўга“, і абарвуць і тое, што ёсьць). Ці ж няпраўда:

1) друкуецца ў „Работніку“, які ніхто з інтэлігенцыі ня чытае 2) першы падвал надрукаваны ў такой жудаснай карэкце, што можа адбіць у кажнага ахвоту чытаць далей (як я чытаў — у мяне кроў халадзела ў жылах; між іншым, ці чытае хто, а калі чытаюць, што кажуць?).

Маю і да Вас ізноў жаль і зноў мушу зрабіць Вам прыкрасьць. Ведаеце, пэўне, самі, за што — за „лятара“. І ня так за тое, што папрасілі на „лятуна“, як за *„сопровождающие обстоятельства“ („А, гэты Адамовіч заўсёды выдумвае, пасьля адмаўляецца, няма чаго яго слухаць надта“).* Гэта для мяне, як і для Караленкі, быў запраўдны „афронт“. Тое, што я мог адмовіцца ад нечага, чаго раней трымаўся, калі мне давядуць няправільнасьць і дадуць лепшае — у маім ваччу гэта ня мінус, а якраз плюс. Тым больш неспадзяваны закід гэты ад Вас, як і ўся, выяўленая тут „нелёяльнасьць“ (я перад іншымі аб Вашых вершах не сказаў навет таго, што напісаў тут). Другое: калі я й выдумляю, дык ня з пальца, а на нейкай аснове заўсёды. Так і з гэтым лятаром. На „лятуна“ і „лятунства“ я згадзіўся ў свой час сьцяўшы зубы, толькі каб адкінуць польскасьць „лётніка“ (Ізыдар навет хацеў трымацца за яго). Бо суфікс „ун“ мае зусім спэцыфічнае й зусім непаважнае значаньне (вазьмеце ня толькі словы, што пачынаюцца на ся... або сі... або др... і канчаюцца на гэты суфікс „ун“, але й такія „прыстойныя“, як „пястун“, „смакун“, „смактун“, „лапатун“, „лізун“, „балбатун“ і г. д.). І я шукаў іншага, але знайшоў толькі ў часе палемікі з Апанасам. Тут, бязумоўна, павінен быць суфікс „ар“ — суфікс прафэсіі, як у пісар, знахар, бондар і — сьвятар, які й навёў мяне на сьлед. Дык „лятар“, „лятарства“ — гэта хоць і „выдумка“, але строга абгрунтаваная, і кажны, у каго ёсьць чуцьцё мовы, і навет толькі адно яно, павінен аддаць яму перавагу перад сьляхотна-непаважным „лятуном“ (польская „latarnia“ не павінна тут палохаць — у беларускай мове, для беларуса яе няма). Ня прыймаць гэтага слова — значыць проста толькі ненавідзець Адамовіча за ягоныя „выдумкі“, ня будучы самому ў стане здабыцца на іх (таксама, як непрыймаць вершаў Арсеньневай — ненавідзець яе за сваю собскую недалужнасьць у паэзіі)... Вось гэта ўсё я мушу выказаць хоць наапошку. Калі маяце „адводы“ — з цікавасьцю выслухаю. А ў карэкце гэтага Вашага „лятуна“ ў вадным месцы зрабілі бяз „л“ і зь нейкім „ъ“ — о, я няшчасны! — Ну, каб больш нічога не накруцілася, на гэтым скончу. Мо чулі што, калі Калубовіч мае рабіць тыя курсы[154], на якія я маю прыехаць? —

[154] Маецца на ўвазе курс беларускіх прапагандыстаў пры „Вінэце“ з дазволу БЦР.





Вітаньні бацьку й сынку ад мяне й бацькоў, і наверх толькі маё *trozdem* ўсёй „нелёяльнасьці“ — Заўсёды Ваш... АнтАд...

Даражэнькая сяброўка!

Паслаў Вам вялізны ліст на адрыс Камітэту, дзе было ўсяго — і прыкрасьці зноў таксама (яшчэ раз у дадатак да таго, што там, прашу не праймацца нічым гэтым). Цяпер пішу з аказіяй, адсылаючы ліст і матар'ялы Караленку. Даведаўся я ад яго пра апошнія падзеі ў Вашай рэдакцыі, што Вашага сынка патрон Ваш замяніў на дачушку[155] для сваё патрэбы, што і Вас зьбіраюцца тым самым сьледам, што мяне, на фабрыку пхнуць, — і сум мяне апанаваў, і яшчэ прыкрэй сталася, што і з мае ласкі зноў Вам можа няпрыемным што здацца (і яшчэ, і яшчэ раз прашу — на мяне ня крыўдуйце, бо не ад злосьці ж ці ад злосьніцтва, а па-сяброўску шчырым і той раз хацеў быць). Але ж, невясёлыя рэчы.

Як пісаў я ўжо Вам, вельмі карціць пад'ехаць у Бэрлін. З Калубовічам, відаць, ужо нічога ня выйдзе, дык хіба мо як праз Вашага бацьку, толькі асьцярожна. Хай напішуць — па-нямецку толькі, і пажадана безь вялікіх памылак (а то з тае паперкі крыху сьмяяліся тут) — выклік, але, барані Божа, ня зусім яшчэ, а на якія дні 2—3, на якую нараду, абгаварэньне, ці што — і хутчэй мне сюды заказным. Быў бы вельмі ўдзячным. Ато так хацелася б шмат аб чым перагаварыць і з Вашым бацькам, і так яшчэ із шмат кім.

А пакуль — чакаю на Ваш адказ на той даўжэзны ліст і вітаю Вас усіх ад сябе й ад бацькоў.

Заўсёды Ваш ...

3.10.44

Даражэнькая сяброўка!

Першым чынам мусіў бы прасіць дараваньня за чародную прыкрасьць. Ліха ведае, што ўжо я за чалавек, што ўмею больш рабіць прыкрасьці, як прыемнасьці. І гэта — найбліжэйшым і найдаражэйшым людзям. І гэта — зусім сьведама, ведаючы, што з гэтага будзе прыкрасьць. Гэтым разам я навет зусім хацеў перамагчы сябе і ня ўздымаць гісторыі. У Бэрліне я ж Вам ні слова не сказаў аб гэтым і, прыехаўшы, меўся ня пісаць. Навет пачаўшы пісаць ліст, хацеў ня пісаць. А пад канец усё ж ня ўцерпеў: не, лепш, хай высьвятліцца, каб пасьля ня мучыла. Ужо адаслаўшы ліст, раздумаўся: мо Караленка добра не разабраў-

[155] Магчыма, размова пра Радаслава Астроўскага й ягоную дачку Галіну Мінкевіч.

ся, мо гаворка была бязладная, ён не зразумеў, што да чаго, ня так перадаў і г. д. (як гэта выходзіць із Вашых словаў, і выйшла). Ды махнуў рукой: ліст ужо пасланы, будзь, што будзе. Аднак ня думаў, што Вы возьмеце гэта блізка да сэрца, аж да сьлёз. А я ж, здаецца, так ня ставіў пытаньне гэтае рэзка. Помніцца, навет „нелёяльнасьць“ узяў у двукосьсі, а Вы ўжо гэтае слова бяз двукосьсяў бераце.

Дык вось, яшчэ раз просячы дараваць мне і гэтае сьвінства, хацеў бы пакласьці на будучыню і аб другім: ня браць падобных рэчаў так блізка да сэрца. Разважце Самі — ну, што лепш для запраўднага сяброўства: таіцца з падобнымі весткамі пра сябра, атрыманымі ад іншых, думаць аб іх так і гэтак, мучыцца гэтым, ці — адразу гэтаму ж сябру проста й вылажыць, ні з кім іншым ня дыскутуючы. Я заўсёды маю нахіл трымацца другога. Лепш проста ў вочы! Гэтак і само сяброўства толькі ўзмацняецца.

І гэта я асабліва прашу Вас тут, бо зараз маю Вам вылажыць чародную „навіну“ ў падобным сэнсе. Вось Вам даслоўная цытата зь ліста самога адказнага рэдактара газэты „Раніца“ сп. д-ра Ст. Станкевіча: *„Памяшчаем цяпер у „Беларускім Работніку“ апавяданьне „Каханы горад“, хаця Арсеньнева страшыць мяне, што гэта вельмі даўжэзная рэч“*. Ну, што Вы на гэта скажаце? Ліст гэты я атрымаў за дзень перад Вашым. Хоць тут я адразу падумаў, што шаноўны сп. Рэдактар можа крыху згусьціць хварбы, перабольшыць, ато й перакруціць, але як-ніяк мне было прыкра. Што „рэч даўжэзная“, гэта я ведаю й сам. Але, здаецца мне, толькі ў дачыненьні колькасным, а ў якасным — у сэнсе расьцягнутасьці, размазанасьці — ці ж? Праўда, Вы пісалі мне ў свой час, што, на Ваш погляд, ёсьць разьдзелы, якія „затрымваюць дынаміку“ (паводля майго замыслу — і павінны былі затрымваць яе, „тармазіць“, як кажа лепшы тэарэтык прозы Шклоўскі). Але аб тым, што яны робяць рэч „даўжэзнаю“, Вы ня пісалі. Чаму ж цяпер „страшыце“ гэтым аж рэдактара? І цяпер, калі ведаеце, што мне вельмі хочацца пабачыць гэтую рэч у друку, калі я Вас прасіў навет не казаць нічога, калі б навет Вам што не падабалася? І „страшыце“ рэдактара, а не мяне?

І тут у мяне варухнулася навет такая думка: „А мо Вы наагул уважаеце гэтую рэч за дрэнь, і таму і ў „Бел. газэце“ яна не друкавалася дзеля гэтага? Толькі Вы ў вочы мне не хацелі сказаць, а звальвалі ўсё на іншыя абставіны й людзей?“

Ізноў прашу ня браць да сэрца гэтых маіх падазрэньняў. І разам з тым прашу яшчэ аб адным, і толькі аб адным: калі запраўды рэч здаецца Вам заслабою, дрэннаю, „даўжэзнаю“, бязвартаснаю — скажэце мне





проста. І, калі можаце сфармуляваць (а ня толькі „шостым пачуцьцём“) — дык чаму, дзе, у чым? Паверце, што ад гэтага я ані не пакрыўджуся. Я ніколі ня думаў, і тут ня думаю, што ўсё, што я пішу — добра і наскрозь добра. Наадварот, я схільны да зусім процілеглага погляду на ўсё, напісанае мною апошнімі трыма гадамі. А тут, як я пісаў Вам у вапошнім лісьце, я надумаўся пашырыць „Каханы горад“ аж да раману, зрабіць яго яшчэ „даўжэзьнейшым“. Таму я і асабліва прашу быць зусім шчырай у гэтым. Цікава было б і яшчэ ведаць думкі іншых, звычайных чытачоў, скажам, Вашага бацькі (хоць я й ня думаю, каб ён траціў сваю ўвагу на чытаньне падобных рэчаў), навет сынка і проста звычайных чытачоў. Толькі зусім шчыра, не таючыся зрабіць мне прыкрасьць, пакрыўдзіць ці што падобнае. А мне нагвалт хочацца ведаць розныя погляды розных людзей, каб наважыць — варта брацца за гэта ці не, *„стоит-ли овчинка выделки“*. Варта намагацца зрабіць з гэтага мастацкі твор ці здаволіцца тым, што зроблена, пастаўленай мною адразу праграмай-мінімумам: даць дакумэнт эпохі, у якім крышачку і ад некаторых людзей, падсадзіць шпілечку некаторым (асабліва хочацца Кіпелю).

Што ж да падобных магчымых прыкрасьцяў між намі, на будучыню трэба мець на ўвазе яшчэ вось што. Я ўжо вычуваю добра, што шмат каму стаю ўпоперак дарогі, хоць гэта ад мяне зусім не залежыць. Гэта асобныя людзі, а можа і групы, ува ўсялякім разе — плыні. Яны хочуць мяне, натуральна, усунуць, „убрать“ із свае дарогі. Першы крок у гэтым кірунку — ізаляваць мяне, паслабіць сувязі мае зь іншымі людзьмі, мне блізкімі. Прасьцейшы спосаб — перасварыць зь імі. Прасьцейшыя прыёмы — плёткі, інсынуацыі, правакацыі. Вельмі магчыма, што ўсе нашыя ўзаемныя прыкрасьці такога паходжаньня. Нас із Вамі хочуць пасварыць. Мне навет здаецца, што палітыка Ільляшэвіча ў дачыненьні да Вашых вершаў — гэта Вам „кара“ за аднамысьніцтва са мною. Іначай яе трудна вытлумачыць.

Дарэчы, пару словаў пра Ільляшэвіча. Да таго, як мы зь ім пазнаёміліся, мы ў „Раніцы“ ж, на ейных балонках пасварыліся. Першы раз — за пачынаючых паэтаў (ягонае „Аглобляй па галаве“, маё — „Пугай па вадзе“), другі — грунтоўны — за Апанаса. Хоць у вацэнках я заўсёды гатовы аддаваць перавагу іншым перад сабою, усё ж мушу прызнаць: у вабодвух разох верх быў мой. Навет больш, і на магчымую будучыню я зусім пэўны: верх заўсёды будзе мой. Ільляшэвіч, свайго часу неблагі паэта (наколькі мне ведамыя ягоныя вершы), у іншым — занадта лёгкі, павярхоўны, каб быць мне паважным супраціўнікам. Гэта, здаецца,

адчувае і сам ён. Але, як натура дробненькая, ня мае мужнасьці зрабіць з гэтага належных высноваў: або ўмацоўвацца і ўмацавацца для запраўднага паважнага змаганьня (зрэшты, гэта, бадай, ці магчыма: няма паважных прынцыповых асноваў, трэ было б перайсьці на прынцыпова іншыя, небеларускія навет пазыцыі), або здацца, ці падаць руку згоды й саюзу без фармальнае здачы хаця. Тым жа часам, ён, заміж гэтага, проста баіцца мяне, як і шмат хто зь іншых. Караленка проста кажа аб гэтым (калі Караленка сказаў яму, што трэба мяне запрасіць прыехаць, як мы яшчэ ня былі знаёмыя, ён проста, спужаўшыся, папрасіў: „А можа лепш ня трэба?"). Гэта ж я адчуў пры першым знаёмстве і далейшых сустрэчах. Ён ні разу не глянуў мне ў вочы, вочы ягоныя заўсёды бегаюць (між іншага, яны заўсёды нагадваюць мне Блокавы радкі: *„И пьяницы с глазами кроликов „in vino veritas" кричат"*. А ён жа такі і ёсьць, формены алькаголік, і вочкі тыпова трусіныя). Я стараўся яго падбадзёрыць: няма чаго баяцца. Крышку ён як бы абадзёрыўся, але толькі крышку. Аднак на мой бок не перайшоў і не пяройдзе. З тае ўспамінанае свае дробнасьці натуры стараецца і будзе старацца выпесьціць сваю практычную пераможанасьць ня толькі на мне, але й на іншых, што са мною, — у тым ліку і на Вас.

Да Вас у яго яшчэ можа быць і іншае, аб чым я пісаў у папярэднім лісьце. Хоць ягоныя вершы, па-мойму, былі й неблагія, але, відаць, ён у нечым вычарпаўся тут, адчуў немагчымасьць далейшае творчасьці (у чым — я не магу сказаць, ня ведаючы бліжэй ягонае творчасьці) і кінуў. Таму і ён, можа, належыць да няўдалых паэтаў — дакладней, да паэтаў, якія не ўдаліся. Адсюль і ў яго можа быць тая самая зайздрасьць няўдалых паэтаў да паэтаў запраўдных. Бо інакш запраўды трэба ўмець выбраць із кучы вершаў той, які ён выбраў, і забракаваць іншыя, куды лепшыя (каб мне трэ было б выбіраць із тых Вашых вершаў і выбраць толькі адзін, я б выбраў, бадай, кажны зь іншых, хоць бы сабе й „Ня плачце", але ня выбраны ім). Што да гэтага выбару, у мяне яшчэ зьявілася думка. Ён і ў сваёй рэцэнзіі хацеў падчыркнуць, што Вы цяпер пішаце змушана, што Вам хочацца і Вы павінны будзеце ў будучыні зьвярнуцца назад, да „прыроды" і „эстэтызму", як ён называе, ня можаце не зьвярнуцца, ня можаце пісаць іначай. Выбраны ім верш „Уночы" ўскосна можа як бы пацьвярджаць гэтую думку, і таму ён яго выбраў. Магчыма, што ён сама якраз на гэтым скруціў сабе галаву, хацеў, ды ня здолеў зыйсьці з таго „эстэтызму" да нечага іншага, і таму думае, што гэта наагул немагчыма, калі яму не ўдалося, і сабатуе тыя творы, якія даводзяць, што гэта магчыма, а таму — і ўсю Вашую паэзію сучаснага





этапу. (Слова „эстэтызм" і падобнае разуменьне гэтага слова, разуменьне павярхоўнае, плыткае.)

Цяпер яшчэ крыху пра тую „боязь" мяне. Здаецца, я пісаў ужо Вам пра гэта, пісаў пра магчымую сваю „цяжкасьць". Цяпер я канчальна прыйшоў да выснаву: так, шмат хто баіцца мяне, як „цяжкога чалавека". Але гэтая „цяжкасьць" мая — толькі мена іхнае „лёгкасьці". Я „цяжкі" не сваёй абсалютнай вагою, так сказаць, а толькі ў параўнаньні да іхнае лёгкасьці, „цяжкі", таму што яны ўсе лёгкія, як алавянныя лыжкі. І яны баяцца таму, што добра ведаюць: пры іхнай неасьведамленасьці, нястачы эрудыцыі, няглыбокасьці падыходу, павярхоўнасьці ў кажным, бадай, пытаньні я магу іх „прыцiснуць", як цяжарам, тым, што ведаю больш фактаў і магу разглядаць іх глыбей і грунтоўней.

Але гэта толькі цяпер, пры наяўных людзях. Як на бязрыб'і рак рыба, так я „цяжкі на бязьцяжкасьці". У іншых абставінах — калі былі ці каб былі цяпер мае старэйшыя сябры й правадыры, хоць бы два — Дубоўка, Бабарэка — мая вага была б зусім нармальнай, сярэдняю. Аднак я не магу ўспомніць, каб калі-небудзь баяўся каго-небудзь з гэтых сяброў. Мы заўсёды станавілі адно цэлае й дзеялі агульнай сваёй вагою. Я заўсёды цешыўся кажным новым дасягненьнем, адкрыцьцём іхным, і рады быў, калі й мае тры грошы падалі ў вагульную скарбніцу, прыплюсоўваліся да агульнае сумы. Як гэта далёка ад таго, што ёсьць цяпер!

Дальбог, без самахвальства ці *„самомнения"*: сярод нашых людзей я ня бачу нікога, хто мог бы быць мне паважным супраціўнікам у пытаннях літаратуры ці беларушчыны наагул. Можа хіба крышку — Тумаш, але мы зь ім стаімо на аднолькавых пазыцыях і аб супраціўніцтве ня можа быць і мовы — у асноўных пытаньнях прынамся. Усе ж іншыя — такая *„легочь"*, кажучы па-расейску, што проста насьмех. Ізноў успомню калішнія ўзвышэнскія часы. У нас і тады ня было паважных супраціўнікаў. „Маладнякоўцы", пазьнейшыя „белапаўцы" „перамагалі" нас адміністрацыйнай сілаю, ЦК, нарэшце НКВД, а не ў баі чэсным і адкрытым. У тым баі і я, пры тэй сваёй нармальнай вазе лёгка даваў зь імі рады. Але ўсё ж сярод іх былі людзі, зь якімі цяжэй было даць рады, як з кім-небудзь зь цяперашніх Глыбінных, Ільляшэвічаў, Станкевічаў, Калубовічаў, Тамашчыкаў *et tutti quanti* (скажам, такі Гародня, або навет М. Аляхновіч, Шарахоўскі, навет Бэндэ — папярэднік і „благаславіцель" Айзіка Кучара. Дальбог, навет Айзік Кучар — і той перад імі „атлет цяжкое вагі", мо таму якому-небудзь беднаму Салаўю ягоныя радыё-перадачы здаюцца „добрымі й моцнымі", як Вы пішаце).

Вось яшчэ адзін прыклад — паважаны сп. рэдактар Ст. Станкевіч. Доктар літаратуры. Прызнаюся, я меў пэўны час пашану да гэтага тытулу. Дужа шкадую, што не пасьпеў прачытаць ягонае доктарскае дысэртацыі — купіў быў у Вільні й яна на мяне справіла ўражаньне сваёй таўшчынёю. Але ў мяне да тытулу „доктара літаратуры“ было навет поўнае *„благоговение“*. Я ведаў і знаў аднаго толькі прафэсара, калішняга прафэсара Варшаўскага ўнівэрсытэту яшчэ царскіх часоў Замоціна (аб ім крыху маглі чуць). Праўда, мы стаялі зь ім на розных мэтадалягічных пазыцыях, ягоны мэтад здаваўся нам ужо запрымітыўным. Але мы добра ведалі, што для свайго часу, для таго часу, калі Замоцін стаўся доктарам літаратуры, ягоны мэтад быў найперадавейшым у навуцы. І, ува ўсялякім разе, гэта быў мэтад, і гэтым мэтадам прафэсар валодаў бліскуча. А эрудыцыя! А стыль! Здавалася б, гэткім павінен быў бы быць доктар літаратуры. Аднак і гучнасьць тытулу, і таўшчыня дысэртацыі аказаліся гэткімі зманнымі. Калі я пачуў выступленьне гэтага „доктара“ з поваду таго вершу Аратага (?) — дык ані ўседзець ня мог. І гэта „доктар“! Дык ён жа ў вапошнія „фэльчары“, санітары навет ня варты із сваймі паняцьцямі аб літаратуры, із сваім „мэтадам“ без усялякага мэтаду, із эрудыцыяй і з усім-усякім.

І тая самая боязь, і тая самая дробнасьць натуры. Калі Караленка перадаў яму мае матар’ялы, прысланыя для друку ў „Раніцу“, ён, навет ня чытаўшы іх, аўтарытэтна-дакторска заявіў: „Дрэнь“. Калі ж я ў лістох даў яму аналіз ягонага „мэтаду“ ў справе вершаў Аратага і папрасіў расшыфраваць канкрэтна ягоную ацэнку маіх матар’ялаў, ён мне напісаў ліст, поўны камплімэнтамі. Яму заўсёды ўсё маё так падабаецца, ён так высока цэніць і г. д. і г. д. Вось бяда толькі з гэтым „Арсеньнева страшыць“, але ён усё ж гэраічна і мужна друкуе. Другое зноў застарэла. Трэйцяе задаўгое. Чацьвертае — паводля расейскае прыказкі *„Когда другая дочь родится — я буду Вас иметь ввиду“*. Пятае — запраўды, недалёкае ад азначэньня „дрэнь“ — і надрукаваў, і навет, няма ведама навошта — аддаў перакладаць у нямецкую мову. Аб шостым — маўчок, і г. д., і г. д.

Навошта гэтая ўся камэдыя? *„Страха ради иудейска?“* Чаго тут баяцца доктару — нейкага навет і ня „фэльчара“, і наагул „нікога“, *„годного, но необученного“*, заўтра — „евентуельне“ — простага дабрачыннага работніка?

Ну, ужо досыць было б аб гэтым — і так гэтулькі сьпісаў. Але яшчэ не магу кінуць. Ведаеце, у сваёй натуры я чалавек неспакойны. І толькі тады адчуваю, што я жыву, калі неспакойны, калі змагаюся, спрачаюся, крытыкую. Гэта мая стыхія. І калі бальшавікі пачалі зацiскаць свабоду змаганьня, яны зразу ж мяне пасадзілі, і я перастаў жыць. Як прагналі бальшавікоў, я спадзяваўся аджыць. І аджываў. Але тут ізноў зьявіліся Сівіцы зь іхнымі *veto* на ўсялякую крытыку. Для мяне гэта — *veto* на жыцьцё. Я ня зношу дэспатызму догмы без магчымасьці крытыкі. Мне здаецца, што толькі змаганьне, крытыка, адмаўленьне рухаюць жыцьцё наперад. Як можна бяз гэтага? У спрэчках нараджаецца ісьціна, добра ведама, дык як можна бяз спрэчак? Між іншага, нядаўна, у Бэрліне, *„витязь в тигровой шкуре“* Скурат сказаў мне „камплімэнт“, у якім былі ўсялякія пахвалы, пры заключным „але“: „але сварлівы“. Тады я падумаў: змаганьне, крытыка, спрэчка мешчаніну заўсёды выдаюцца „сваркаю“, калатнечаю. Я цяпер думаю — мо ён і мае рацыю: змаганьне з драбязой, *„легочью“* лёгка абарачаецца ў сварку. Дык і магчыма, што мая асноўная асаблівасьць ня толькі ў ваччу мяшчанаў тыпу Скурата, але й аб’ектыўна выраджаецца ў сварлівасьць: *„с кем поведешься — от того и наберешься“*.

Але калі мяне лаюць — дальбог, люблю. Люблю і тады, калі гавораць проста ў вочы, *„нелицеприятно“*, аб’ектыўна. Ня зношу, як хваляць, „камплімэнтуюць“.

Успамінаючы, як, бывала, хто-небудзь з нашых маладзейшых узвышэнцаў — Глебка, ці Лужанін, Дарожны, Кляшторны — прыходзіў і здаволены апавядаў, як яго пахваліў які-небудзь член ЦК ці іншы *„вельможа“*. У такім выпадку Дубоўка насьцярожваўся: „Прызнайся, што зблытаў?“ І так мы прывыклі, што калі хваляць — дрэнь, нешта зрабіў ня так, як трэба на дабро справы, а на дабро ворагаў. Калі ж ганяць, лаюць — значыцца, добра дапёк. Вось чаму я вельмі здаволены, што Айзік Кучар лае Вас і іншых. Значыцца — малайцы ўсе, навет Дудзіцкі! Каб хвалілі — было б дрэнь, значыцца, на іхны млын ваду лілі. Каб маўчалі — небясьпечна няпэўнасьцю, — бо гэта можа быць як перад ганеньнем, так і перад пахвалой, або, найгорш — мера дробнасьці (такое дробнае, што й гаварыць ня варта).

Цікава толькі, ці Салавей паважна кажа пра „добрую й моцную“ перадачу? Можа і на яго „таварышы“ пачынаюць уражаньне рабіць, і ён пачынае *„перестраиваться“*?

Салаўёў зборнік няроўны[156]. Побач із добрымі рэчамі ёсьць і слабое перайманьне. Наагул, ён яшчэ цалкам у вучнёўстве, але ягоная ўпорыстасьць у вучэньні пры пэўных (хоць, здаецца, ня бліскучых) здольнась-

[156] Размова пра зборнік Алеся Салаўя „Мае песьні“ (Рыга, 1944).

цях гавораць за тое, што зь яго можа быць толк. Я меўся пісаць рэцэнзію, але Ільляшэвіч забег і ціснуў сваю *„стряпню“*, надзіва павярхоўную (таксама было і з Трусом: мой артыкул для „Раніцы“ не пайшоў, бо Ільляшэвіч забег, пайшла толькі папулярная зацемка ў „Работніку“[157]. Пры ўсёй сваёй самакрытычнасьці, дальбог, не магу параўнаць навет Ільляшэвічаву мазьню з сваім, таксама абеглым, газэтным артыкулам, але ўсё ж хоць із сякой-такой характарыстыкай творчасьці й месца ў гісторыі літаратуры).

Караленка пераказваў, што Ільляшэвіч і пра Салаўя казаў, што ягоных вершаў ня любіць, не прызнае і навет не заўсёды разумее. Сяднёў цяпер, здаецца, таксама ў яго не ў вялікай ласцы. Каго ж любіць, прызнае і разумее Ваш „літаратурны *Pan i Władca*“, як Вы пішаце? Хіба мо крышку Дудзіцкага — казаў мне апошнім разам, як пісаў пра яго ў „Работнік“ (прачытаў усе ягоныя „шпаргалкі“ пра пісьменьнікаў у „Работніку“ і задумаўся: што гэта можа даць простаму работніку? І наагул каму-небудзь? А ў шпаргалцы пра Вас — толькі цытаты з Вашага ж аўтабіяграфічнага артыкулу. Ці не прасьцей было б даць гэты артыкул?), што *„ў Дудзіцкага ёсьць моцныя рэчы“*. А найбольш, відаць, ягоны ўзор паэта — беластоцкі нейкі „Малы Шэршань“[158]. Памер мае рэцэнзіі на Ваш зборнік не дазволіў мне вы[…]ніць яго, як я хацеў. Калі-небудзь прывязу Вам паказаць, ато й самі зьвярнеце ўвагу ў „Новай дарозе“: На адной балоне з рэцэнзіяй Дальнага, відаць, як узор, як трэба пісаць *„безь пераўвялічанай вобразнасьці й залішняй мэтафарычнасьці“* — буйным шрыфтам — даўгая кілбаса няпісьменнага, недалужнага вершаплёцтва (няпісьменнага ў самым рэальнейшым сэнсе) — нейкага „Малога Шэршаня“.

Ды, нарэшце, запраўды досыць аб гэтым. Пагаворым цяпер аб Вашых вершах.

Із прысланых гэтым разам мне найлепш падабаюцца: „Зьвіняць мядзянымі званамі“, „Бязь песьні жураўлінай“ (да яго дык навет і заўваг ня маю ніякіх), „Сустрэча“ і „Асеньні холад“. Гэтыя, па-мойму, найлепшыя, але ўсе вершы зусім неблагія, як і тым разам, і, бязумоўна, усе да друку. Цяпер — паасобныя дробязі.

„Зьвініць“… 1) *„заменіш ты яшчэ ў дзень“*. „У дзень“ нядобра, бо можа ўспрымацца, як „удзень“, г. зн. „днём“. Нядобра і „на дзень“, хоць гэта было б правільней (але можа ўспрымацца, як „на адзін дзень“). Добра было б замяніць нек так, каб разьдзяліць „у“ і „дзень“, як-небудзь „у ясны дзень“, „у новы дзень“, „у сьветлы дзень“ ці як падобна. 2) *„пал да чыну“*. Слова „пал“ я наагул нек не далюблюю, апрача таго, яно выдаецца запразаічным. І, нарэшце, у вабставінах дадзеных радкоў усё гэта зьліваецца ў нейкую „палдачыну“.

Яшчэ крыху 1) нек нядобра гучыць (мо толькі для мяне) „у вачко“. Гэта нейкая занадта „карцёжніцкая“, а мо навет і зусім жулікаўская гульня. 2) „спацыруе“ наагул барбарызм (германізм пры дапамозе пальшчыны), хоць замяніць яго на „пахаджае“ — аслабіць („спацыруе“ і гучыць, і выражае добра) 3) „зсябраваліся“ трэба пісаць „сьсябраваліся“ паводля ўсялякае граматыкі (навет паводля савецкае — „ссябраваліся“, але не „з“) 4) „сяньня ж“, „толькі ж“, — неяк гэтыя „ж“ бражджаць — як бы й ня пры тых словах яны, што трэба, і як бы залішне іх, ці што 5) *„І параім сьмерці мы й загонім у кут бяду“*. Здаецца, трэ было б „парадзім“, „зарадзім“, бо „параім“ — па-расейску *„посоветуем“*, а не *„справимся“*, як у Вас паводля сэнсу. І другое — здаецца, заміж „мы й“ лепш было б проста „І“. „Мы“ тут, перанесенае ў другі радок, нек шурпаціць, „й“ гэта яшчэ пабольшвае. І наагул, „мы“ — ці ня лішняе. А „І“, як другое, паўторнае — узмоцніць.

Бацькаўшчыне 1) *„за студзённым жоравам“* — пэўна ж, жораў ад студні, дык павінна было б быць *„за студніным жоравам“*. Праўда, націск на „сту“ дасьць некаторы перабой, але гэта дарма. Горш, што ўся канструкцыя крышку цяжкаватая. Але „студзённы“ зусім ня йдзе; ёсьць „сьцюдзёны“ ад „сьцюжа“, „студнёвы“ ці „студзенскі“ ад „студзень“ і магчымы „студнін“ ад „студні“, хоць, здаецца, таксама ня ўжываецца. 2) *„побач — па пяцёх“*. Нек аддае прыгнутасьцю для рыфмы. Чаму якраз „па пяцёх“? А можа гэта не канвой, а арыштанты „па пяцёх“? 3) *„Мой расьпяты ворагам на асіне край“* — цяжка гучыць інвэрсіяй (перанесенасьцю) „мой“, і „асіна“ асацыюецца больш із павешаньнем, як із расьпінаньнем. Наагул, хоць у вершы ёсьць паасобныя добрыя вобразы й гучаньні, і думка добрая, і ейнае вырашэньне ў заключных радках — у цэлым ён мне нек не падабаецца. Ня люблю я такога гатунку — трохстопнага харэю, і ўсё выдаецца мне занадта вялым, мляўкім.

[157] Маецца на ўвазе артыкул за подпісам Г. А. „Каб так любілі Беларусь (Да пятнаццатых угодкаў сьмерці Паўлюка Труса)“, апублікаваны ў „Беларускім работніку“ (№36 (198). 3 верасьня 1944).

[158] Пад псэўданімам Малы Шэршань у беластоцкай „Новай дарозе“ пісаў мясцовы паэт Вацлаў Асіповіч, пазьнейшы аўтар „Нівы“. Падрабязьней пра яго можна знайсьці: Лукша, Міра. На пасадзе паэта // Ніва. №29. 16 ліпеня 2006.

Сустрэча — адзін із лепшых, добры сваёй маленькай сюжэтнасьцю, ці мо лепш — жанравасьцю (сцэнка, а не адна толькі асабістая лірыка). Толькі чаму — *„на станцыі смуга“*? Калі б яна й была, дык нехарактэрная для станцыі, як і „авечкі“ крыху далей (адкуль яны, на якой гэта станцыі — у Бэрліне?). Далей — трэба „расказаваем“, калі ўжо рытм патрабуе поўнай формы заміж звычайнай сьцягнутай „расказваем“ (толькі не „расказываем“). Ці добра — *„сум кусае вейкі“*? „Вейкі“ — рас. „ресницы“ — хутчэй мог бы „шчыпаць“ сум, ці што падобнае. І нарэшце — *„дзяўчаты сьпяць“*. Дзе? У вагоне? Ці ўжо так хутка да месца дабрацца пасьпелі? І наагул — захутка заснулі.

Асеньні холад — наагул верш добры, якраз пераклікаецца з тым Гумілёўскім, што я Вам той раз перапісаў. Праўда, крыху зноў тых самых перапеваў (дзе гаворыцца пра „актавы, тэрцыны...“). У вапошніх радкох трэба яшчэ адну коску, каб было так: *„Сінеюць пальцы, і ў душы такі асеньні, золкі холад“*. Інакш выйдзе — *„сінеюць пальцы і ў душы“*, і яшчэ дзе? Успамінаю, як п'яны Лебяда кпіў калісьці зь мяне, што я „стаўлю коскі“. А вось тут добра відаць, што можа значыць коска. Дарэчы, хочацца мне вывесьці крышку гэтага Лебяды ў магчымым працягу „Каханага гораду“ (меў бы быць паэта Пётра Пырнік).

„Няхай жыве“. 1) Апіска — *„мы йкнём“* заміж *„мы ймкнём“* мяне крыху пасьмяшыла (у Вас напісана: *„Мы йкнём, каб долю ўзяць за грудзі“*. Хай жа ёй здарова ікнецца, долі гэтай!). А ў цэлым верш змусіў задумацца над большым пытаньнем. Вось і Вы пісалі: *„із торбамі блукаць мы больш ня пойдзем“*, *„мінулі... дні даўніны цяжкой і паднявольнай“*. А ці так яно выйшла? Якраз наадварот. І гэта ўжо ў нас каторы раз так выходзіць! І калісь нашы, на зманлівай зары „беларусізацыі“ пісалі падобна (навет і той жа Дубоўка), што ўжо ўсё благое мінулася, а як выйшла? Дык ці ня варта з гэтага выцягнуць навуку на будучыню? Не казаць „гоп“, не пераскочыўшы... Наагул, здаецца — настрой суму, жалобы, традыцыйны ў нашай паэзіі, ці не й найбольш для яе заканамерны? Пэўне ж, ня тэй багушэвіцкай, пазьней — коласаўскай нуды, „сьлёзнага тону“, а таго суму Гаруна

*Прашу цябе, мой брат, сьпявай аб горы песьнь адну ты*
*Каб наш гаротны лёс зрабіць яшчэ цяжэй,*
*Тады — пабачыш сам — парвуцца духу путы*
*І будзе ясны дзень да нас тады бліжэй.*

ці пазьней — Дубоўкі:

*Смутак родзіць радасьць, родзіць весялосьць*





ці

*А калі хто не каштаваў тугі —*
*Адкуль ён смак пазнае ў весялосьці?*

У гэтым дусе, бадай, вылучна й пісаў Язэп Пушча, за што яго найбольш і лаялі бальшавікі.

Лепш гэтак сумаваць перад магчымай радасьцяй, чым радавацца, чапурыцца, „пятушыцца“, як дзесь у Вас сказана, перад сумам пры нязьдзейсьненьні скорасьпелых прароцтваў.

Цяпер — пра папярэдня прысланыя вершы. Прапанаваныя Вамі папраўкі ў „Ня плачце“ выдаюцца мне нездавальняючымі. Нек выходзіць нейкае разьдзяленьне між „вы“ („ня плачце“) і „мы“ („змусім лёс“, „змаганьня ня кінем“). Што ж гэта за такія гэройскія „мы“, што „змусім“, і што за такія пасыўныя „вы“, якіх „мы“ суцяшаем? Гэта мусіла б быць адно нешта, як і было ў першай рэдакцыі. Па-мойму, трэ было б абыйсьці гэта неяк больш безасабова (як-небудзь — *„лёс будзе змушаны нам аддаць, калі мы змаганьня ня кінем“*). Нешта, здавалася б, павінна было б быць у гэткім сэнсе. Але навет, каб і засталася першая рэдакцыя — яна з мастацкага боку нічым не слабая, папраўка, як Вамі прапанаваная ці мною, мела б чыста ідэялёгічны характар. Тым больш цікава, што таму *„Рапи“* вершы выдаюцца *„мала мастацкімі і зь вялікімі хібамі з гледзішча паэзіі“*. Я, перачытаўшы іх яшчэ раз, мог дагледзець толькі тыя паасобныя дробязі (нат ня хібы — бо гэта нешта большае — а дробязі, недагляды, недапрацаванасьці), аб якіх пісаў Вам. Будучы на Вашым месцы, я б прыступіў цяпер да таго *„Рапа і Władcy“* проста з нажом да горла: а ну, пакажы, пане, канкрэтна, дзе тыя „вялікія хібы“, у чым тая „малая мастацкасьць“ — я ж хачу ўзяць гэта на ўвагу, каб паправіцца, вучыцца — на старасьці паэтычных год — як заправды трэба пісаць, каб дасягнуць высокага ўзроўня якога-небудзь „Малога Шэршня“ й зарабіць на пачэснае права друкавацца на балонках „Раніцы“ — гэтага працягу „Новае Дарогі“ цяпер — *„новае дарогі ў старое балота“*, як сказаў-быў я яму ў вадным лісьце ад імя С. Хізмы. Цікава было б, што б ён на гэта мог *„изобразить“*.

Ну, здаецца, *„пора и честь знать“* — пара канчаць. Толькі ўжо ня плачце, калі навет ізноў што прыкрае будзе. Хіба ж я гэтае „прыкрае“ калі й раблю, дык із злою мэтаю? Ці хіба не памятаю, што *„ў Менску й тут Вы мусіце цярпець за мяне“*, як Вы пішаце? І памятаю, і ведаю, і цаню. Але „лёяльнасьць“ я ўважаю ня ў тым, каб Вы сьлепа трымаліся ўсяго таго, на чым я стаю, аж да падобных драбніцаў, як той няшчасны „лятун“ — тут у нас могуць быць і разыходжаньні, і спрэчкі, і ўзаемныя

ўступкі, як гэта ўжо ці раз і было — а ў тым, каб гэтыя пытаньні перш за ўсё разьвязваліся між намі, а навонкі захоўвалася адзіная лінія перад тымі, каму мы абое — бяльмом на воку. Бо да гэтага адзінства нас жа прыводзіць ня толькі сваяцтва думак, але й гэтая агульнасьць паладжэньня перад бальшынёю г. зв. „грамадзянства“: Вы ж таксама „бяльмом на воку“ гэтаму „грамадзянству“ із „сваімі“ вершамі, як я — із „сваёй“ моваю. Дык патрэбен нам адзіны фронт — хоць сабе й перад цэлым сьветам. А тады пачнуць да нас і іншыя пакрысе далучацца зноў, і нарэшце драбяза, хоць яе і шмат, і бальшыня, а будзе пераможаная.

Мне карціць прыехаць у Бэрлін і „даць бой“ усім ім як у мове, так і ў літаратуры. Ня ведаю толькі, як гэта зрабіць? Хіба, каб пры „Раніцы“, ці пры Калубовічу якія нарады склікалі. Усё роўна ж ім рабіць няма чаго — хай бы крыху мазгі прачысьцілі, ато надта ж ужо заскаруплі.

Нешта ня кліча Калубовіч на тыя курсы — папытайцеся ў яго як пры нагодзе.

Ну, і буду ўжо канчальна канчаць. Вітаюць Вас мае бацькі. Вітайце й ад мяне Вашага бацьку і сынка. Прывітаньне Салаўю, Сяднёву. Караленку нагадайце, што чакаю ад яго ліста — пара б ужо даўно, а таксама й газэтаў.

А тымчасам — бывайце здаравенькі, даруйце за ўсё-ўсё „вольнае і нявольнае“, заўсёды Ваш А. Ада...

25.10.44.

Даражэнькая сяброўка!

Атрымаў ліст зь вершамі. Пра вершы тымчасам пісаць ня буду, бо якраз у гэты мамэнт няма часу, і за складаньне зборніка ды зазначэньне на магчымыя папраўкі ў вершах вазьмуся бадай за які тыдзень, бо цяпер навала ўсяго ўсякага, а тут яшчэ й сьвятла вечарамі часта ня бывае, бо паветраныя госьці ўнадзіліся наведваць нас тут што 2—3 дні й за кожным разам псаваць Ляйпцыгскую электрацэнтралю, адкуль нам даюць сьвятло. Што да газэтаў 1943—44 году, дык „Новага Шляху“, дзе былі Вашыя вершы, таксама ня ведаю, дзе іх можна было б знайсьці. У мяне нічога няма — усё ў Менску (гэта найбольш жудасна: упершыню ў жыцьці я ня толькі без мае бібліятэкі й магчымасьці зьвязацца зь ёю, але й наагул без кніжок). Ну, пакуль больш аб гэтым і пісаць ня буду — як дойдуць рукі, тады напішу ўжо хіба падрабязна ўсё. Пра назоў зборніка ня думалі? І як — з разьдзеламі ці без, з эпіграфамі ці без?

Аб дзейнасьці Сяднёва даведаўся прыехаўшы зь ліста Станкевіча. Калі гаварыў зь ім у Бэрліне — ніяк ня думаў, што справа стане на такі





„паважны“ й навет „навуковы“ грунт. Бо вось Вам дакладная цытата з таго ліста (калі й справіць Вам ізноў прыкрасьць, дык ужо ж хіба ня я віною буду — можа толькі, што перадаў Вам, але гэта заўсёды ўважаю за свой сяброўскі абавязак): *„Арсеньнева, якой гэтая справа (г. зн. мова, стыль, карэкта) была даручана, справіцца ў гэтым ня можа: 1) ня мае ніякіх навуковых падставаў да гэтага, 2) ня мае добрага вычуцьця ў справе беларускае мовы, бо не вынесла яе з хаты, зь сям'і, 3) за мала мае цярплівасьці ў гэтай рабоце. Цяпер робім новую спробу: ад заўтра карэкту друкарскую й напраўку рукапісаў будзе ў нас рабіць Сяднёў“* (цікавыя мясьціны ў правапісе падчыркнуў я).

Ну, дык як Вам гэта падабаецца? Проста зарэзаў. І *„навуковых падставаў“* ня маеце (а вось Сяднёў — пэўне ж мае?), і „вычуцьця“, бо *„ня вынесьлі з хаты“* (тут добра падышоў бы калішні адказ Горкага Будзённаму, што кухар, каб зварыць што, не патрабуе сам улазіць у кацёл і адтуль „выносіць“ „вычуцьцё“ стравы), і цярплівасьці (у гэтым — ня буду таіцца — мо крыху й пацэліў у сук? Памятаеце нашае калішняе пікіраваньне наконт „нецярплівых мужчынаў“ і „цярплівых жанчынаў“?). От як толькі рукі дойдуць — зьбіраюся напісаць яму цэлае пасланьне на ўсё гэта, а галоўна — на тэму „аўтарытэтаў“. Выдам порцыю далікатна, але каб да печанцоў дацяло і яго, і ўсе ягоныя „правезарычныя кашары“ і крэатуры.

Цяпер хачу коротка адказаць на Вашыя правапісныя пытаньні. З таго, што ў Вас „ідуць строчкі“ пра такія, прыкладам, рэчы, як „францускі“ — бачу, што ніхто з Вас (але ж, і Вы, даражэнькая сяброўачка, у тым ліку — даруйце ўжо мне за гэта) або ніводнае беларускае граматыкі ніколі ў руках не трымаў, або трымаў ды дужа даўно, або трымаў ды толькі трымаў, дабранька прааналізаваць паленаваўшыся. Бо адразу ж Тарашкевічам устаноўленае было правіла, якое нікім — навет Саветамі — не зьмянілася (апошнія толькі перад вайною хацелі зрабіць замах на яго): злучэньні жс, зс даюць у вымове й на пісьме адно с, і тут жа прыклады даюцца: боскі замест божскі, францускі замест французскі. Усё гэта лёгка можна знайсьці хоць бы ў вапошнім, менскім выданьні граматыкі Тарашкевіча (яго лёгка і ў Бэрліне знайсьці), у разьдзеле „Правапіс“ §88 на бал. 91. Ну й скандальчык із такой „спрэчкай“!

Нашая старая й пазьнейшая мова знае толькі ратушу, ратуша; „ратуш“ — пэўны палёнізм.

„Прастары“ — я добра не разабраў, што гэта. У сэнсе „найстары“, „самы стары“, „надта стары“ ці не? Калі так, дык гэта такі самы палёнізм, як і русіцызм (престарый).

„Філёзофія“ бязумоўна празь „ё“ паводля ўсякіх правапісаў, у тым ліку й бальшавіцкага, каб ён прызнаваў тут „л“ мяккое, бо ў чужаземных словах толькі о замяняецца на а (і то раньні Тарашкевіч, Яз. Лёсік і сп. Наўчоны й цяпер не дапушчалі гэтага), але ні э на а (рэдактар, а не радактар), ні е ці ё на я — не замяняюцца (таксама ў таго ж Тарашкевіча лёгка знайсьці можна).

Пішыце заўсёды, калі што будзе. Заўсёды пастараюся знайсьці спасылку на аўтарытэты, што ня могуць жа на іх ня дзеіць.

Цяпер — пару навінаў. Дэмчанка ў уласаўскай вайсковай газэце „За родину“ напісаў такі паганы артыкул, што каб стрэў бы яго цяпер пад гарачую руку — усю храпу расквасіў бы (пасылаю гэты № Караленку, добра было б, каб Рада, а можа й прэса, зарэагавала). Ну, у „Воле народа“[159] чыталі пэўна перадавіцу ў №8, дзе ўсіх нашых „пратэстантаў“ і „*непонимающих*“ проста дурнямі абзываюць (ім гэта можна, а паспрабуй іх!), а на другой балоне ў прывітаньні нейкіх „*русских и белорусских военных помощниц*“ так міла — „*Живе Беларусь! За Россию!*“ (*вот-вот именно*). Вясёла!

Наш стары знаёмы *Сергей Александрович Панин* аб’явіўся й ведаеце ў якасьці каго? Перакладчыка ў беларускую мову! Да мяне зьвярнулася адно партыйна-школьнае выдавецтва ў гэтай справе, я сваю згоду даў, але заявіў катэгарычны адвод Паніну („*пока он у нас один переводчик на белорусский язык и справиться не может*“). А ягоная Ачыцовіч (?) сьпявала на адным уласаўскім канцэрце...

А я, ведаеце, зусім у царкоўныя людзі падаўся. То з Вамі Караленчаня хрысьціў, то, прыехаўшы, мусіў за дзяка на хаўтурах быць (памёр адзін наш супрацоўнік раптоўна ад разрыву сэрца на працы). Дык і папу кадзіла ладзіў, і падаваў, і кніжку трымаў, і хорам пяяў, і навет тэксты чытаў. Ну і ну, аж сам дзіўлюся. Цяпер хіба трэба куды на вясельле лучыць, каб памагаць Ісайю лікаваць...

Ну, тымчасам мушу на гэтым канчаць. Пішэце, адпішу зараз жа (пішэце не чакаючы, пакуль той ліст пра вершы прышлю, бо можа задоўжыцца). Вітайце сваіх хатніх, мае бацькі вітаюць Вас,

і я, пэўна ж, заўсёды Ваш А. Адамовіч

14.12.1944

P. S. А Вы й ня ведаеце, што я быў „страшэнны дзённы налёт“ у Бэрліне з Караленкамі выседзеў, толькі нічога страшнога ня было (бо мусіў застацца яшчэ на дзень у Бэрліне). А заехаў зусім добра.

[159] „Воля народа“ — газэта Камітэту вызваленьня народаў Расеі.





Даражэнькая сяброўка!

Атрымаў Ваш ліст, і хоць усё ўсякае насядае, хачу ўсё ж хаця б павіншаваць Вас з Калядамі (хоць, пэўна і запозна) і з Новым Годам (хоць мо й зарана, але ўжо лепш зарана, як запозна) ды пажадаць усяго-ўсяго, што мы ўсе жадаем Бацькаўшчыне і сабе.

Да зборніка ўсё яшчэ рукі не дайшлі, дойдуць хіба на сьвятах, якіх буду мець шмат — ад заўтрага аж да 2-га. Думаю, за гэты час сёе-тое зрабіць. Тады падумаю і пра загаловак, і пра разьдзелы (мо льга будзе зрабіць так, як я хачу ў зборніку Сяднёва[160] — што яны як бы і будуць і як бы ня будуць). Але аб гэтым падрабязьней пасьля.

Да Вас будзе просьба падштурхнуць, а мо, калі можна, і дапільнаваць, каб мне выслалі ўсе нумары „Раніцы“ па 2 экз. Кожны, дзе былі мае „Эмблемы“. Ваш Галоўны дакляраваў, навет запісаў, але толькі я гэта й бачыў... Таксама ня прыйшоў мне №54 „Раніцы“, дык мо даслалі б мне яго.

Ну, што цытата зь ліста Галоўнага Вас не расстроіць — я гэта ведаў і пісаў гранічна (як і пра Вашую „нецярплівасьць“ у духу калішніх нашых пікіраваньняў, а Вы на паважнае прынялі. А што пры „шэрай рабоце“ я Вас бачыў — дык гэта Вы забыліся хіба, бо й даваў жа Вам часам такую „шэрую работу“, хоць і стараўся як мага менш напрошвацца Вам гэтым).

Ну, на „Раніцу“ й я махнуў рукой. Але ж, чым горш, тым лепш — наагул, усё роўна, як няхай робяць „наўчоныя“, „аўтарытэтныя“, няхай „выносяць з хаты“ — няшмат ужо й засталося чаго выносіць. Папраўдзе ж, з дурнямі малая рада, хоць бы сабе й дактарскія ці магістроўскія „аўтарытэтна-вучоныя“ тытулы мелі. Ну, пісаць усё ж буду для іх — нічога ня зробіш, хай псуюць, усё ж хоць які % дойдзе несапсаваным.

Хто гэта ў „Раніцы“ Н., піша нарысы зь вершаванымі ўстаўкамі — ці ня Імасьць?

Пра ўласаўскія справы больш-менш ведаю. Вартаснага там, бадай, нікога няма — усё або Русь, або гнусь. Шкадаваў Салаўя, але, як даведаўся цяпер ад Караленкі, ён застаўся, і я вельмі рады. Шкода, што цэнзура там цісьне даць ім здачы — а я ох і даў бы, проста быў бы дый палку ў пэўнае месца ўставіў.

Ну, пакуль — віншуючы яшчэ раз ад сябе й ад бацькоў — скончу, заўсёды Ваш...

22.12.44

[160] Маецца на ўвазе зборнік вершаў Масея Сяднёва „Ад сына твайго, Беларусь“, які так і ня выйшаў.

P. S. Віншуйце ад мяне бацьку й сынка, а пры выпадку — Астроўскага й Шкялёнка (Галоўнага таксама, мо газэты вышле).

Даражэнькая сяброўка!

Хоць яшчэ ня маю Вашага ліста на мой апошні (які, як ведаю ад Караленкі, Вам перададзены), але пішу як казаў той „без чаргі“, бо прачытаў Вашыя вершы й думаў крыху аб зборніку.

Дык вось, зборнік я назваў бы „Станься!“ (дужа люблю гэтую формулу, ужываў яе нярaз у прамовах вусных і пісьмовых), а першым вершам паставіў бы той (здаецца, „Не астыць нам“), дзе яна ўспамінаецца (ён і наагул зусім добры для ўступнага вершу). Той жа, што ў Вас стаіць першым — „Сьмела наперад“ — я паставіў бы апошнім, на разьвітаньне. Больш пакуль аб зборніку наагул меркаваць не магу, бо ня маю ўсіх, прызначаных у яго вершаў, як тых, што былі ў „Беларускай газэце“ і „Новым Шляху“, так навет і тых, што былі ў „Беларускім Работніку“, бо апошніх нумароў гэтае газэты (навет яшчэ з маім „Каханым горадам“!) ня маю. Добра было б, каб Вы падабралі ўсе вершы і, не пасылаючы мне, мелі нагатове, бо я маюся днямі быць у Бэрліне, дык маглі б утрэсьці ўсю гэтую справу разам. Тут жа высьветлілася б і пытаньне пра разьдзелы (мне здаецца, што яны ўсё ж маглі б быць, хоць і не такія, як у „Сягоньня“, без эпіграфаў, азагалоўленыя й названыя першымі вершамі разьдзелаў, як я гэта зрабіў у зборніку Сяднёва).

Між іншага, ці не надасца да гэтага зборніку верш пра палонных, які Вы, памятаеце, пабаяліся зьмясьціць у „Сягоньня“? Ці ёсьць ён у Вас? Бо недзе ж ды трэ было б яго зьмясьціць (я ўжо добра ня памятаю яго).

Пра некаторыя папраўкі яшчэ будзем гаварыць. Ня ўсё яшчэ папраўлена і ў тых вершах, што былі ў мяне, я рабіў пэўныя папраўкі, і пасьля ўжо яны друкаваліся. Таксама і ў тых, што не друкаваліся, але былі ў мяне й крыху папраўленыя, а крыху не, прысланыя Вамі ў вапошняй „порцыі“. Так, у вершы „Ўсьмешка“, наагул „папраўленым“ і закончаным цяпер вельмі добра, усё ж засталося „нямашка“, якое нек выпірае, здаецца прыцягнутым для рыфмы ці рытму, выпадае з стылю (хоць, можа, зрэшты й нічога).

Найбольш із прысланых мне спадабалася „Сівой вярбой“. Зусім у дусе таго зьліцьця з прыродай, што было і ў Багдановіча (*„Заварожаны вячэрнай цішынёй я ня цямлю, дзе рука, дзе галава, бачу толькі, як з прыродай зьліўшыся душой, як дрыжаць ад ветру зоркі нада мной, чую ў цішы, як расьце трава“*) і ў Дубоўкі (*„разьліюся струною дажджоў дайгазвонных і прыкленчу едлянцовым куп'ём“*) і ў Пушчы (*„Мы блізкія сяньня людзям і прыродзе, у нас пульсы крывёю зьвярынаю б'юцца“*) і наагул выдаецца мне глыбака-нацыянальным, узрослым з пантэістычна-анімістычнага нацыянальнага сьветагляду, ці, лепш, сьветаадчуваньня нашага народу. Дый іншыя вершы добрыя, чыталіся яшчэ пад настроем і перажываліся, як даўно ўжо ніякія іншыя вершы не перажываліся. Не, ткі жыве яшчэ беларуская паэзія (а, значыцца, і Беларусь — бо ці ж ня сынонімы гэта?), што б там хто ня казаў і ня сіпеў.

У вершы „Дадзела мне“ замест „захлёставала“ трэба „захлістовала“.

У вершы „Жыцьцё“ мне крыху незразумелы сказ у дужках: *„Калі піць — і ўпівацца“*. Можа — *„Калі піць — то ўпівацца“*? Тамсама — *„прынадаў із дваццаць“*. Што гэта Вас усё цягне на такія арытмэтычна-рахунковыя прастагаворныя параўнаньні — то было *„уцехаў із сто“*, цяпер — *„прынадаў із дваццаць“* (хіба што толькі норму крыху апусьцілі — з 100 на 20). Тамсама нек нядобра *„завываньне гарматаў“*. Мо што іншае знайшлі б, але яскравае?

Больш тымчасам заўвагаў ня маю.

Затое маю вялікую просьбу, зь якой Караленка прасіў да Вас зьвярнуцца: падабраць мне ўсе N „Бел. Работніка“, пачынаючы ад пачатку „Каханага гораду“ да канца гэтае „газэты“, бо гэтага ў мяне няма (нумары з „Каханым горадам“ пажадана па 2, ато, калі можна, дык і 3 экз.), і яшчэ тыя N „Раніцы“, дзе друкаваліся мае „Эмблемы“ (таксама пажадана па 2 экз.). Пасылаць ня трэба, але каб было ў такім стане, што, прыкладам цяпер, я адразу мог бы забраць із сабой. Быў бы за гэта вельмі ўдзячны. Між іншага, атрымаў той N „Раніцы“, які быў ня прыйшоўшы сваечасова, ужо аб якім, здаецца, пісаў Вам — дык дзякуй і за гэта, калі ў гэтым Вашая рука.

Ну, тымчасам, гэта было б усё. Сьвяты правёў так сабе, нічога асаблівага не зрабіў, на што спадзяваўся — проста кажучы, змарнаваў час.

Спадар Наўчоны пісаў, што *Arbeitsamt* арыштаваў Сядуру і пад канвоем адправіў у Вену — гэта штука Малевіча ... — шчыры ўласавец, лае нагвалт Раду й беларусаў наагул.

Атрымаў ліст ад Геніюшыхі — „бабскі“, як яна піша сама, усяго пакрысе. Нешта ніяк не зьбяруся адпісаць — цяжка на такія лісты й адпісваць.

Атрымаў „Крывіцкае Камарыня“ вялікага бэрлінскага вынаходніка Барткевіча, дзе Імасьць расьпісаная й размаляваная ў портках. Наагул кажучы, „саматэшчы“, хоць іскрынкі нейкія ў яго ёсьць, але б... гэтага.

Дык — тымчасам — да хуткага, спадзяюся, пабачаньня. Вітаньне ад маіх бацькоў. Вітайце ад мяне сваіх хатніх і іншых, каго варта, і бывайце здаровенькі.

Заўсёды Ваш ...

2.01.45

*Падрыхтоўка да друку й камэнтары*
*Натальлі й Алега Гардзіенкаў*



*Тэма нумару: эпісталярыі*

***Янка Запруднік***
*Самэрсэт*

# МАЁ ЛІСТАВАНЬНЕ ЗЬ МІКОЛАМ АБРАМЧЫКАМ, СТАРШЫНЁМ РАДЫ БНР (1953—1969)

Ніжэй публікуюцца 56 маіх лістоў да старшыні Рады БНР Міколы Абрамчыка і 31 ягоны ліст да мяне. Ліставаньне было вынікам нашага супрацоўніцтва на грамадзкай і палітычнай глебе. Пры частай немагчымасьці абладжваць справы тэлефанічна, камунікавацца даводзілася паштовым шляхам.

У лістах закранаюцца справы:

- працаўладкаваньня выпускнікоў Лювэнскага ўнівэрсытэту;
- асобаў а. Робэрта ван Каўэлярта, біскупа Баляслава Слосканса;
- Рады БНР і беларускай дыяспары ў Заходняй Эўропе, ЗША і Канадзе;
- супрацоўніцтва Рады БНР з Амэрыканскім камітэтам вызваленьня народаў СССР;
- Лігі вызваленьня народаў СССР, г. зв. Парыскага блёку;
- працы й пэрсаналу Беларускае сэкцыі радыё „Вызваленьне / Свабода“;
- грашовай дапамогі радыётрансьляцыі на Беларусь з Мадрыду;
- сувязі зь беларусамі ў Польшчы;
- заснаваньня фундацыі імя Пётры Крэчэўскага;
- дачыненьняў Рады БНР і Беларуска-амэрыканскага задзіночаньня;
- выдавецкіх праектаў;
- іншага.

У тэксьце лістоў, дзеля паўнейшай інфармацыі, дадаюцца ў дужках [...] паясьняльныя словы: імёны, прозьвішчы ды іншае. Нешматлікія пропускі ў лістах пазначаюцца шматкроп’ем. Даведкі пра асобаў у ну-

мараваных спасылках адлюстроўваюць стан з пазыцыяў апісванага часу, а не з сучаснай рэтраспэктывы. Лісты Міколы Абрамчыка й копіі маіх лістоў захоўваюцца ў архіве аўтара.

* * *

Мае дачыненьні з прэзыдэнтам[1] Рады БНР Міколам Абрамчыкам пачаліся ў 1949 г., калі мы, „дванаццаткаўцы"[2], працавалі шахцёрамі ў Англіі й мроілі пра далейшую ўнівэрсытэцкую навуку. Бальшыня з нас мела дыплёмы выпускнікоў Беларускае гімназіі імя Янкі Купалы ў Заходняй Нямеччыне. На працу ў Вялікабрытанію мы паехалі з намерам шукаць там магчымасьцяў працягваць сваю навуку. У красавіку 1949 г. Мікола Абрамчык, адведваючы беларусаў Вялікабрытаніі, прывёз нам абнадзейвальную вестку пра ягоныя намаганьні знайсьці нам студэнцкія стыпэндыі для навукі ў Лювэнскім унівэрсытэце ў Бэльгіі. Якая радасьць! Я дзяліўся ёю ў адным зь лістоў да сяброўкі ў Нямеччыне: *„Заяжджаў да нас сп. Прэзыдэнт. Мы зь ім правялі каля чатырох гадзінаў. Акрамя гэтага, я езьдзіў суправаджаць яго зь Лідсу да нас і гутарыў зь ім усю дарогу. Шмат цікавых рэчаў, шмат пацяшаючай інфармацыі даведаліся мы ад яго. Чалавек пачынае быць больш аптымістычным і верыць, што ўсё будзе окей"*[3].

Наш аптымізм базаваўся на аповедзе старшыні Рады БНР пра ягоныя захады, супольна з Барысом Рагулем і а. Робэртам ван Каўэл744ртам[4], здабыць дадатковыя стыпэндыі для беларускае студэнцкае грамады ў Лювэне. Абрамчык, дарэчы, быў першы, хто праклаў сьцежку да кіраўніцтва Лювэнскага ўнівэрсытэту й знайшоў там патрэбную падтрымку[5]. Калі мы ўжо вучыліся ў Лювэне, ён прыяжджаў туды, выступаў з дакладамі пра свае аб'езды беларускіх асяродкаў ды пра нацыя-

[1] Паводле Статуту Рады БНР, на чале яе стаяў старшыня. Але ў практыцы ўсе (за выняткам палітычных апанэнтаў) называлі Міколу Абрамчыка прэзыдэнтам.

[2] Пра Дванаццатку гл. маю кнігу: Запруднік, Янка. Дванаццатка. Дакумэнтальная аповесьць пра дванаццацёх беларускіх хлапцоў у Нямеччыне, Вялікабрытаніі й Бэльгіі (1946—1954 гг.). Нью-Ёрк: БІНіМ, 2002. — 510 с.

[3] Ліст да Вольгі Харытончык. Захоўваецца ў архіве аўтара.

[4] **Робэрт ван Каўэлярт дэ Ўільс**, манах-бэнэдыктынец, які апекаваўся беларускімі студэнтамі Лювэнскага ўнівэрсытэту ад імя бэльгійскага Камітэту дапамогі беларускім студэнтам. Артыкул пра ягонае жыцьцё гл. у: Беларус. №330. Верасень 1986.

[5] Падрабязьней пра гэта гл. у: Запруднік, Янка. Дванаццатка... С. 189—190.







**БЕЛАРУСКАЯ НАРОДНАЯ РЭСПУБЛІКА**
УРАД БЕЛАРУСКАЙ НАРОДНАЙ РЭСПУБЛІКІ
REPUBLIQUE DEMOCRATIQUE BIELORUSSIENNE
GOUVERNEMENT DE LA REPUBLIQUE DEMOCRATIQUE BIELORUSSIENNE

№ 723/52 Гаспода . 19. X. 1952

CERTIFICAT

Nous, Président de la Rada de la République Démocratique Biélorussienne, certifions par le présent que Monsieur ZAPRUDNIK Jean résident à Louvain (Belgique) est chargé par nous de remplir la fonction d'agent financier de notre Gouvernement pour la Belgique, France et l'Allemagne.

N.ABRAMTCHIK
Président de la Rada de la République Démocratique Biélorussienne.

Пасьведчаньне Янкі Запрудніка, жыхара Лювэну (Бэльгія), упаўнаважанага выконваць абавязкі фінансавага прадстаўніка ўраду БНР на Францыю й Нямеччыну

нальныя й міжнародныя праблемы. Рабіў ён гэта, пэўна ж, з думкай пра будучых грамадзкіх дзеячаў з нашага студэнцкага асяродзьдзя. І вось у 1952 г., два гады да заканчэньня мае ўнівэрсытэцкае навукі, ён даручыў мне функцыю фінансавага прадстаўніка Рады БНР на Францыю й Нямеччыну. З таго часу й аж да канца ягонага жыцьця я быў менш-больш у рэгулярным кантакце зь ім, наведваў яго некалькі разоў у ягоным Вільпэнце ля Парыжу. Пасьля майго ад'езду зь Мюнхэну ў ЗША ў сакавіку 1957 г. лучнасьць гэтая набыла лістоўны характар — у дадатак да асабістых размоваў, калі ён наведваўся ў Нью-Ёрк.

Мікола Абрамчык быў ахвочым суразмоўцам. Ён вызначаўся спакойнай цярплівасьцяй у выслухоўваньні інфармацыі й аргумэнтаў, заўсёды быў гатовы дэтальна выкласьці свае думкі й прапановы. Пад усёй вонкавай вытрыманасьцю, аднак, адчуваўся ў ім цьвёрды ідэйны грунт і станоўкасьць у абароне ідэі незалежнасьці Беларусі ды правоў і прэрагатываў Рады БНР.

У палітычнай актыўнасьці паваеннага пэрыяду Абрамчык захаваў шмат са свайго рэвалюцыйнага імпэту гадоў маладосьці, калі ён удзельнічаў у падпольнай працы за Польшчай і *„зь місіямі ад Ц.К. Вызвалень-*

*ня Заходняй Беларусі быў нелегальна ў праф. Ігнатоўскага [у Менску] аж 29 разоў*"[6]. З намерам уплываць беспасярэдне на працэсы ў Беларусі Мікола Абрамчык пераканаў Раду БНР пайсьці на супрацоўніцтва з Амэрыканскім камітэтам вызваленьня[7], у тым ліку з радыё „Вызваленьне / Свабода"[8] ды Інстытутам вывучэньня СССР. Супрацоўніцтва гэтае, на якое ён аддаў шмат часу (часта коштам сямейных і бацькоўскіх абавязкаў), не абыходзілася без канфліктаў. У адным моманце дайшло нават да пагрозы зрыву дачыненьняў Рады БНР з радыё „Свабода". Разам з тым, ён рабіў роспачныя намаганьні ўтрымаць беларускія радыёпраграмы з Мадрыду, якія вяліся пры поўнай рэдакцыйнай незалежнасьці.

Інтэнсіўнасьць, зь якою дзейнічаў старшыня Рады БНР Мікола Абрамчык, прасьвечваецца ў вонкавым аспэкце ягоных лістоў. Пісаліся яны заўсёды ў сьпешцы, без належнай увагі да стылю й правапісных правілаў. Адсюль у іх і некаторыя ягоныя маладачанскія дыялектызмы. Правапісныя і стылістычныя асаблівасьці лістоў у гэтай публікацыі захоўваюцца.

[6] Рыдлеўскі, Лявон. З жыцьця й дзейнасьці Мікалая Абрамчыка // Бацькаўшчына. №36—37 (115—116). 7—14 верасьня 1952.

[7] Першапачатковая назва гэтай арганізацыі пры заснаваньні яе 18 студзеня 1951 г. была „Амэрыканскі камітэт вызваленьня народаў СССР". У траўні таго ж году, на дамаганьне дзеячаў расейскай эміграцыі, якія не прызнавалі Савецкага Саюзу, назву зьмянілі на „Амэрыканскі камітэт вызваленьня народаў Расеі", а пазьней, 25 сакавіка 1953 г., у выніку пратэстаў з боку лідэраў нацыянальных суполак, установе далі назву „Амэрыканскі камітэт вызваленьня ад бальшавізму". У 1956 г. „ад бальшавізму" адкінулі, у ангельскамоўным скароце атрымаўся *Amcomlib* (*American Committee for Liberation*). Гэтая назва пратрымалася да 1964 г., калі яе ператварылі ў *Radio Liberty Committee* — Камітэт радыё „Свабода" (гл.: Sosin, Gene. Sparks of Liberty. An Insider's Memoir of Radio Liberty. University Park, PA: The Pennsylvania State University Press, 1999. P. 2).

[8] Назву „Вызваленьне" ў траўні 1959 г. замяніла „Свабода". Да гэтага спрычынілася здушэньне Савецкім Саюзам паўстаньняў у Польшчы й Вугоршчыне ў 1956 г. Амэрыканская палітыка, накіраваная на „вызваленьне", з часам перайшла да палітыкі „свабоды".





## ***Мікола Абрамчык***

(Біяграфічная даведка)[9]

*Мікола Абрамчык, сын незаможных сялянаў, Сымона й Тацьцяны Абрамчыкаў, нарадзіўся 6 жніўня 1902 г. у вёсцы Сычавічы Радашкаўскае валасьці на Віленшчыне. Дзяды й прадзеды Міколы належалі яшчэ да служылага стану — інтэлігенцыі, затрымаўшы ў сабе моцна той „літоўскі сэпаратызм", за які былі потым Абрамчыкі зрэдукаваныя да пралетарска-сялянскага стану.*

*Прадзед Міколы, Базыль Абрамчык, быў адміністратарам у маёнтку Кальсбэрг пад Радашкавічамі (у магната Сьніткі). Сваім трынаццацём сынам ён даў досыць высокую на той час асьвету — двое зь іх займалі пасады лясных аб'ездчыкаў, іншыя былі вышэйшымі паштовымі ўрадоўцамі.*

*Паўстаньне 1863 г., у якім прымалі той ці іншы ўдзел сыны Базыля, скончылася для Абрамчыкаў вельмі трагічна: адзін з сыноў Базыля быў павешаны, іншыя сасланыя ў Сібір або ў „отдалённые места России". Дзед жа Міколы, Янка, які яшчэ вучыўся ў духоўнай сэмінарыі, быў зь яе выгнаны й пазбаўлены грамадзянскіх правоў.*

*Янка Абрамчык пасьля ўладзіўся мельнікам у в. Сычавічы, ажаніўся зь мясцовай сялянкай Тацьцянай Рудзь і, атрымаўшы пасагу восем дзесяцін зямлі, пачаў гаспадарыць. Але зь невядомых прычынаў чамусь у 1890 г. Янка з усёй сям'ёй, разам і з бацькамі Міколы, апынуўся ў Сібіры.*

*Сымон Абрамчык (бацька Міколы), аднак, за пару гадоў павяртае назад у Сычавічы з мэтай асесьці на пасажнай зямлі сваёй маткі. Царскія ўлады перадалі гэтую справу валасному сходу, які пастанавіў аднагалосна прыняць Сымона Абрамчыка пад „парукі" ў сваё „обчэства", а сычаўцы талакой памаглі Сымону паставіць хату.*

*Сымон Абрамчык хутка абжыўся і заваяваў пашану ў сычаўцаў. Няўпынна потым выбіраецца на розныя пасады свайго „обчэства" (чатырох сёлаў), як старасты, магазынэра, потым валаснога*

[9] Цытуецца артыкул Лявона Рыдлеўскага „З жыцьця й дзейнасьці Мікалая Абрамчыка". Пра Абрамчыка Рыдлеўскі кажа: *„Зьвязаны зь ім амаль што неразлучным жыцьцём, пачынаючы з вучыцельскіх курсаў 1920 г., пяць год потым супольных студыяў у Празе, супольнае затым „падарожжа па сьвеце" ды эміграцыя — Парыж, — і гэтых больш дваццаці год неразлучнага жыцьця з Абрамчыкам дае мне магчымасьць гаварыць аб ім з такім знаньнем ягонага мінулага, як свайго собскага*" (Бацькаўшчына. №36—37 (115—116). 7—14 верасьня 1952).

*судзьдзі, войта, а ў 1917 г. быў выбраны дэпутатам на Першы Ўсебеларускі Кангрэс.*

*Будучы малапісьменным, Сымон Абрамчык заўсёды моцна адчуваў недахоп асьветы, дзеля чаго ён потым намагаўся з усёй сілы даць як найбольшую адукацыю сваім тром сыном і дачцэ.*

*У пачатковую школу свае вёскі Мікола пайшоў, калі яму споўнілася сем год. Сярэднюю асьвету здабываў спачатку ў Радашкаўскім чатырохгадовым гарадзкім вучылішчы, а потым у Менску. Увосень 1920 г., маючы падгатоўку за 6 клясаў рэальнай гімназіі, вытрымвае конкурсны экзамен у новаарганізаваны праф. Ігнатоўскім політэхнічны інстытут (на мэханічны аддзел). Рыскі мір, адрэзаўшы бацькоў Міколы ад Менску, змусіў яго пакінуць навуку і пераехаць у Сычавічы (Заходняя Беларусь).*

*Паехаўшы ў Вільню, Мікола паступае на экстраныя настаўніцкія курсы ды перад Калядамі 1920 г. выяжджае на прызначанае яму месца настаўніка беларускай пачаткавай школы ў вёску Ленкаўшчына Ашмянскага павету. Там ён адчыняе адначасна вячэрнія курсы для дарослых, на якія шугнула ўся перарослая школьны век моладзь і нават бацькі дзяцей, што хадзілі ў польскую школу.*

*Падчас летніх канікулаў 1921 г., будучы на вучыцельскіх дапаўняючых курсах у Вільні, Абрамчык увайшоў у кантакт зь беларускім нацыянальна-рэвалюцыйным рухам.... На працягу трох гадоў ён працуе ў рэвалюцыйным падпольлі, галоўна ў галіне школьніцтва, няўпынна разьяжджае па ўсёй Заходняй Беларусі, падушкоўвае пэўных настаўнікаў, закладае тайныя школы, арганізоўвае пашырэньне нелегальнае літаратуры. Зь місіямі ад Цэнтральнага Камітэту вызваленьня Заходняй Беларусі наведвае шмат разоў нелегальна праф. Усевалада Ігнатоўскага, камісара асьветы БССР.*

*У чэрвені 1924 г. М. Абрамчык закончыў фармальна сярэднюю асьвету. Увосень таго ж году ён накіраваўся на навуку ў Прагу. Там ён упершыню спаткаўся так блізка за адным сталом з прэзыдэнтам Крэчэўскім і Захаркам, а праведзены вечар у доўгіх размовах часта ўспамінае, як найшчасьлівейшы момант у ягоным жыцьці. Падчас сваіх студыяў Абрамчык быў увесь час у кантакце з сваім „духовым бацькам“ (як ён сам зваў) праф. Ігнатоўскім. Ужо пад канец 3-га курсу Абрамчык меў падрыхтаваную да друку працу „Эканамічная геаграфія Беларусі“, якая Ігнатоўскаму вельмі спадабалася й на падставе якой Ігнатоўскі прапанаваў Абрамчыку па заканчэньні навукі лектарат эканамічнай геаграфіі Беларусі на менскім унівэрсытэце.*







Прэзыдыюм і Сакратарыят Рады Беларускай Народнай Рэспублікі з прэзыдэнтам Міколам Абрамчыкам. Сядзяць (зьлева направа): Мікола Кунцэвіч, Аляксандар Стагановіч, Мікола Абрамчык, Антон Адамовіч, Натальля Кушаль (Арсеньнева), Вітаўт Тумаш; стаяць (зьлева направа): Віталь Кажан, Кастусь Мерляк, Янка Запруднік, Францішак Кушаль, Антон Шукелайць, Барыс Данілюк, Міхась Тулейка. Нью-Ёрк, заля нованабытага царкоўнага будынку на 401 Атлянтык-авэню ў Брукліне, 1957 г.

*За пяць гадоў Абрамчык скончыў два факультэты: у Ўкраінскай Акадэміі эканамічны, а на чэскім Карлавым унівэрсытэце гісторыі й сацыялёгіі.*

*Ведаючы так зблізка Абрамчыка, яго, мне здаецца, ніяк нельга інакш ахарактарызаваць, як рэвалюцыянэра беларускага вызвольнага руху, зь няўтомнай энэргіяй чалавека, які ўсё сваё жыцьцё пасьвяціў змаганьню за волю беларускага народу. Не дарма прэзыдэнт Захарка, ведаючы так зблізка Абрамчыка, перад сваёй сьмерцю нікому іншаму не хацеў перадаць сваіх паўнамоцтваў, як М. Абрамчыку*[10].

[10] Дадатковыя біяграфічныя зьвесткі: Каранеўскі, Язэп. На службе нацыянальна-вызвольнай ідэі // Бацькаўшчына. №36—37 (115—116). 7—14 верасьня 1952; Пяцьдзясят год ахвярнага жыцьця // Беларус. №10 (16). 6 верасьня 1952.

## Лісты

### №1. Міколу Абрамчыку ў Амэрыцы пра некаторых эміграцыйных дзеячаў у Злучаных Штатах і Канадзе

*Лювэн, 18 травеня 1953*

*Дарагі Спадар Прэзыдэнт!*

*Урэшце магу напісаць Вам колькі слоў аб справах у Таронта й Манрэалі.*

*Вось жа ў Таронта, як і ўсюды зрэштай, нецярпліва чакаюць на Ваш прыезд. Затрымаўся я быў у сп. Грышкевіча [Вінцэнта Жук-Грышкевіча], зь якім і правёў бальшыню часу ў гутарках ды дыскусіях. У першую чаргу гаварыў зь ім адносна ягонага пераезду ў Эўропу*[11] *, накрэсьліўшы яму нашае сучаснае становішча. Ён ня мае нічога асаблівага супраць гэткага кроку, але... І вось тут пачыналіся гэтыя „але“, аб якіх Вы калісьці мне казалі: „А якія ўмовы ды якія гваранцыі? Я ўжо ў гадох. Ненармальнае жыцьцё. Дыета. Старасьць“ і г. д., і т. п. Аднак найбольшае „але“ я бачу ў ягоным сур'ёзным намеры адносна Раісы Ж. [Жукоўскай] ды сямейнага жыцьця, аб чым ён мне сам даволі абшырна расказваў. Яна мае яшчэ год студыяў і, як Вы самі ведаеце, матар'яльна маецца даволі цяжка. Выяжджаць цяпер у Эўропу — гэта значыць адмовіцца ад гэтых плянаў, на якія, бязумоўна, сп. Ж.-Гр. мае поўнае права, хоць і сам яшчэ ня можа нічога канкрэтнага сказаць, як пойдуць ягоныя асабістыя справы. Адсюль і йдуць, часткава прынамся, гэныя „але“ адносна ягонага эвэнтуальнага пераезду. Аб усім гэтым ён хацеў бы пагутарыць з Вамі асабіста.*

*Цікава выглядае справа з залажэньнем у Таронта прыходу Бел. Аўтак. Правасл. Царквы. Беларускі актыў у Таронта дабіваецца высьвячэньня ў сьвятары цераз Укр. Аўтак. Правасл. Царкву сп. Мацукевіча, якому засталося яшчэ год навукі. Зарганізаваньне свайго прыходу дапамагло б змаганьню зь „мігаеўшчынай“*[12] *. Бяда, аднак, у тым, што арх. Іларыён і дэкан духоўнае сэмінарыі, дзе вучыцца сп. Мацукевіч, супраціўляюцца зь невядомых прычынаў гэткаму высьвячэньню (сваіх студэнтаў яны, аднак, высьвечваюць, хоць яны таксама маюць незакончаныя студыі). Калі ўзяць на ўвагу, што гэтая ж Укр. Аўтак. Правасл. Царква ў Канадзе падтрымоўвае а. Мігая, даючы яму сваё памешканьне, дык тады справа набірае характару сьведамае варожае акцыі ўкраінцаў, з чым, безумоўна, і трэба будзе змагацца пасьля высьвятленьня некаторых пытаньняў.*

*Быў таксама пару дзён у Манрэалі. Затрымоўваўся ў сп. Чопчыца, якому перадаў Ваш ліст і просьбу аб удакладненьні нараканьняў на байкот.*

*Чопчыц [Павал] — гэта надта ахвярны й працавіты хлапец. Аднак у нашых палітычных справах ён вельмі слаба арыентуецца й імі зусім не цікавіцца. Ён заяўляе сябе сымпатыкам БНР-аўцаў, але каб весьці культурна-асьветную працу, ён мусіць лічыцца з існуючым станам рэчаў ды трымацца нэўтральнага грунту ў палітычным дачыненьні. Уважаю, што ён мае поўную слушнасьць.*

*Найбольш гаваркія на тэмы нашых грамадзкіх ды палітычных справаў — гэта сп.сп. Ждан і Паўловіч. Апошні ведае Вас асабіста з Парыжу й вельмі прыхільна адзываецца аб Вас, хоць сам, як і Ждан, не БНР-авец. Яны й не БЦР-аўцы, і наагул выразнага становішча не займаюць, бо гэта можа разьбіць і тую культурна-рэпрэзэнтацыйную працу, што робіцца ў Манрэалі. Аднак, калі б гэтая справа паставілася на парадак дня, і арганізацыя змушана была адкрыта выявіць свае пагляды, дык, баюся, справа стане блага, бо адчуваецца гравітацыя ў бок контра-БНР-аўскі. Прычыны: адмоўная ацэна некаторых учынкаў Барыса Р. [Рагулі], прэтэнзіі да ген. Ф. К. [Кушаля], адмоўная рэцэнзія сп. Ж.-Гр. аб канцэрце манрэальцаў у Таронта ды цэлы шэраг слушных і няслушных закідаў.*

*Чопчыц там — асноўны ініцыятар усяе культурнае дзейнасьці, і ён зусім слушна ня хоча дапусьціць да выразнага займаньня палітычнага становішча (пры гэткім складзе людзей), бо гэта можа спараліжаваць зусім канкрэтную і, магчыма, адзіную працу. Пастараюся трымацца зь ім у кантакце. Тое, што ён заве байкотам, гэта проста няхлюйства нашых людзей у адказваньні на лісты, акрамя хіба выпадку зь Белямуком, які адкрыта адмовіўся ад супрацоўніцтва зь імі. Справа ў тым, што Чопчыц зьвяртаўся з просьбай да Г. Ганчарэнкі, Б. Данілюка, Куліковіча, каб гэтыя прыслалі яму беларускіх п'есаў, песьняў і дэклямацыяў, на што апошнія не адказалі навет і словам. Безумоўна, так ня робіцца зь людзьмі, на якіх мы хочам мець уплыў.*

[11] У Мюнхэн на становішча кіраўніка Беларускае сэкцыі радыё „Вызваленьне“.

[12] Сьвятар Міхась Мігай (?—1978) заснаваў у 1950 г. у Таронта беларускую парафію сьв. Эўфрасіньні Полацкай у юрысдыкцыі канстантынопальскага патрыярха й не згаджаўся на прапановы часткі парафіянаў перайсьці ў юрысдыкцыю БАПЦ. — *Рэд.*

*У Канадзе Вас вельмі чакаюць, і калі зможаце пад'ехаць туды, дык гэта падмацуе нашыя пазыцыі. У Таронта змаганьне трэба прадаўжаць далей, толькі, барані Божа, ня гэткае крыклівае, а Манрэаль трэба захаваць пакуль што нэўтральным: там яны робяць добрую работу й няхай прадаўжаюць яе, бо лепш што-небудзь, чым нічога.*

*У нас тут пакуль што ўсё добра. Барыс [Рагуля] прыехаў учора зь Нямеччыны. Чакаем з Італіі а. Робэрта. Ён дастаў там ужо пяцігадзінныя (на пачатак) беларускія [радыё]перадачы. Мы з Паўлюком [Урбанам][13] будзем старацца папасьці ў Італію, бо гэта адзіная магчымасьць напісаць узятую намі тэзу.*

*Жадаю Вам, дарагі Спадар Прэзыдэнт, усяго найлепшага.*

*Прывітаньні сп.сп. Русаком, Орсам, Кушалям і ўсім маім знаёмым.*

*З глыбокай пашанай*

*Ваш —*

*Янка Запруднік*

## №2. Пытаньне рэдагаваньня газэты „Бацькаўшчына“. Справы сэктару Рады БНР у Заходняй Нямеччыне, Беларускай сэкцыі радыё „Вызваленьне“. Будучыня выпускнікоў Лювэнскага ўнівэрсытэту

*Мюнхэн, 03.09.55*

*Вельмі Паважаны Спадар Прэзыдэнт!*

*Коратка хачу паінфармаваць Вас аб тых зьменах, якія апошнім часам зайшлі ў Мюнхэне, а таксама падзяліцца сваімі ўражаньнямі з майго падарожжа ў Лювэн.*

*Учора адбылося паседжаньне рэдкалегіі „Б-ны“ ў складзе: Ст. Ст. [Станіслаў Станкевіч], Сыч [Пётра][14], Марговіч [Алесь][15], Цьвірка [Уладзімер][16] і я. На парадку дня стаяла кардынальнае пытаньне аб далейшым рэдагаваньні газэты. Як Вам ведама, апошнія пяць нумароў газэты д-р Станкевіч не рэдагаваў — рабілі за яго часткова хлопцы, а часткова я сам. Становішча д-ра Ст. да далейшага рэдагаваньня, часткова Вам хіба ведамае, было такое, што ён хацеў адмовіцца ад гэтага, матывуючы гэта важнасьцяй працы ў Інстытуце [вывучэньня СССР], недахопам часу, патрэбай працаваць навукова, дасюлешняй некампэтэнтнасьцяй у справах фінансавых газэты і іншымі аргумэнтамі. З выслухоўваньня некаторых гэтых аргумэнтаў і пачалося ўчорашняе паседжаньне. Усе мы, пэўна ж, настойвалі на д-ра Ст., каб ён і надалей заставаўся адказным рэдактарам „Б-ны“ і ў рэшце рэшт дабіліся ягонае згоды, абяцаючы яму больш салідныя адносіны што да ўдзелу нас саміх у газэце. Словам, справа з газэтай цяпер устабілізована, і я думаю, што камплікацыяў у далейшым ніякіх ня будзе.*

*Будучы ў Лювэне, я гутарыў з а. Робэртам адносна Урбана, і мы згадзіліся на ягоны прыезд у Мюнхэн. Учора на паседжаньні рэдкалегіі асобай Урбана мы апэравалі ў сваіх далейшых плянах што да газэты, прадбачваючы затрудненьне [працу] Урбана ў газэце, а пайдня — у Інстытуце [вывучэньня СССР].*

*На радыястанцыі пакуль што ўсё йдзе добра, калі ня лічыць некаторых зьмен у „генэральнай лініі“, якія даволі выразна заўважваюцца пасьля Жэнэвы. Зьмены гэтыя далёка не на нашую карысьць, ад іх церпяць некаторыя зусім беззаганныя й добрыя скрыпты, гэта ўносіць у агульную атмасфэру крыху нэрвознасьці й канстэрнацыі, але гэта ўжо пытаньне агульнага фронту „нацыяналаў“. Стараемся ўладзіць на радыё Цімафейчыка[17]. Адносна справы Сенькоўскага[18], спадзяюся, пісаў Вам д-р Жук [Жук-Грышкевіч], аб чым я нядаўна гутарыў зь ім.*

*Пару дзён таму мы даведаліся, што паралельна з „За возврашчэніе на родзіну“ выходзіць таксама ад некаторага часу „За вяртаньне на радзіму“ на беларускай мове. Выйшла ўжо восем нумароў, тры першыя зь якіх мы маем, і ў наступным нумары „Б-ны“ будзе пісацца аб гэтым. Цікава, што на ўкраінскай мове такое газэты яшчэ ня відаць.*

[13] Паўла Урбан (нар. 27.03.1924) у той час вучыўся на гістарычным факультэце Лювэнскага ўнівэрсытэту.

[14] Пётра Сыч (1912—1964) у той час быў працаўніком Беларускай сэкцыі радыё „Вызваленьне“.

[15] Аляксандар Марговіч (1927—1967) тады скончыў сацыялягічны факультэт Лювэнскага ўнівэрсытэту.

[16] Уладзімер Цьвірка (1928—1992) тады скончыў сацыялягічны факультэт Лювэнскага ўнівэрсытэту.

[17] Тодар Цімафейчык (1924—?) тады скончыў сацыялягічны факультэт Лювэнскага ўнівэрсытэту.

[18] Юрка Сянькоўскі (1926—1995) тады скончыў эканамічны факультэт Лювэнскага ўнівэрсытэту.

*На мінулым месяцы адбылося паседжаньне Сэктару [Рады БНР]. Абмяркоўвалі справу складак, згадзіліся на сплату ўсіх залегласьцяў, і сп. Вініцкі [Аляксандар], выбраны скрабнікам, узяўся ўжо за працу. Наагул, дамовіліся на рэгулярныя паседжаньні Сэктару раз у месяц.*

*У Лювэне трэба будзе часьцей цікавіцца нашай студэнцкай групай, бо там заўважаецца крыху самапасу ў самых настроях групы. Асабліва, на маю думку, трэба зьвярнуць увагу на тое, каб студэнты, якія канчаюць студыі, рацыянальна выкарыстоўваліся ў нашым нацыянальным жыцьці. Я баюся, што там пануе тэндэнцыя шукаць працы пасьля заканчэньня, кіруючыся выключна мамэнтам асабістым і пакідаючы ў цяні нашы патрэбы грамадзка-палітычныя. Прыкладам, мы ня можам дазваляць, каб нашыя студэнты пасьля заканчэньня ехалі ў нейкае Конга ці Інданэзію, а такая небясьпека, на жаль, існуе. Я вось цяпер, будучы ў Лювэне, гутарыў з а. Робэртам на тэму Галоўкі (аграном)*[19] *, які кончыў свой факультэт і цяпер стаіць перад праблемай „дзе дзецца“. Яму прапануюць Конга. Але каб паехаць у Конга, трэба канчаць яшчэ год студыяў, так званы „колёньяль“. Пэр [а. Робэрт], ясна, згаджаецца, каб Галоўка рабіў гэтае „колёньяль“. Але я Пэру сказаў, што мы ня можам дапускаць і думкі аб пасыланьні студэнтаў у Конга. І што на гэта трэба ўплываць. І ўрэшце, ня трэба студэнтам даваць зразумець, што за іхнае ўладжаньне нехта мае быць адказны, але трэба ім цьвердзіць увесь час, што працу свабодна можна знайсьці ў Эўропе, дзе яны змогуць і пражыць самі і прынесьці нейкую карысьць беларускай нацыянальнай працы. Гутарыў я на гэтую тэму і з а. Айгенам [Смаршчком], і зь некаторымі хлапцамі. У гэтым кірунку трэба стала дзеяць, трэба падтрымоўваць надзею, што можна тут знайсьці добрую працу і адначасна весьці стараньні, каб гэткія працы знаходзіць. Урэшце, ужо лепш Амэрыка, чымся Афрыка ці Азія. Калі б я змог з Вамі пабачыцца перад тым, як Вы будзеце ў Лювэне, я вельмі хацеў бы пагутарыць з Вамі на гэтую тэму.*

*На гэтым хіба й кончу. Спадзяюся, што неўзабаве Вы будзеце ў Мюнхэне. Зычу Вам усяго найлепшага й прашу перадаць Вашай Спадарыні найшчырэйшыя прывітаньні.*

*З глыбокай пашанай*

*Ваш Я. Запруднік*

[19] Мікалай Галоўка (1926—?) тады скончыў сельскагаспадарчы факультэт Лювэнскага ўнівэрсытэту. Пазьней перабраўся ў ЗША.





## №3. Здароўе Міколы Абрамчыка пад пытаньнем. Янка Ліманоўскі займаецца дэзынфармацыяй

*Мюнхэн, 21.XII.55*

*Вельміпаважаны Спадар Прэзыдэнт!*

*Хацеў бы кораценька паведаміць Вам, што ў нас тут усё добра. Справы йдуць сваёй дарогай, хоць і не заўсёды гладка, але гэта, відаць, той зыгзыкаваты шлях, якім, як Вы самі падчыркваеце, ідзе ўсё жыцьцё. Тут ходзяць чуткі, што ў Вас із здароўем ня ўсё добра. Мо гэта прычына адкладу Вашага прыезду сюды? Нам усім хацелася б ведаць, калі Вас можна спадзявацца тут, але асабліва залежыць на гэтым мне, чаму я й пішу да Вас гэтую кароценькую просьбу паведаміць мяне пры першай нагодзе аб Вашых плянах адносна падарожжа. Калі б Вы не змаглі прыехаць сюды на працягу наступнага месяца, дык напішэце таксама, ці здароўе Вам дазваляе выяжджаць у Парыж. Ваш адзін знаёмы хацеў бы сустрэцца з Вамі, але ня ведае, ці аплочваецца яму чакаць Вас у Мюнхэне.*

*У Нью-Ёрку Ліманоўскі*[20] *займаецца дэзінфармацыяй аб нашай сэкцыі ды асабліва аб ейным дырэктары. Гэта зразумела. Толькі што яму ўдаецца там трапляць на ўраджайны грунт (як, прыкладам, Мерляк), і гэта ўносіць нездаровыя фэрмэнты ў ньюёрскую атмасфэру. Магчыма, і Вам пісалі аб гэтым. Няправільна патрактавалі там і напісаны нядаўна ад імя нашае сэкцыі ліст, копію якога Вы маеце. Я зь Мерлякам ад нядаўнага ўвайшоў у карэспандэнцыю й пастараюся напісаць яму аб усім. Прыватная карэспандэнцыя часамі бывае найлепшым сродкам уплыву. Трэба будзе таксама пісаць і іншым, бо Ліманоўскі на гэтым ня спыніцца.*

*На гэтым пакуль што кончу. Зычу Вам і сям'і ўсяго найлепшага — Вясёлых Сьвят і лепшага Новага Году.*

*З глыбокай пашанай*

*Ваш Янка З.*

[20] Янка Ліманоўскі (1896—1989) крыху больш за год працаваў у Беларускай рэдакцыі радыё „Вызваленьне“ ў Мюнхэне, пасьля чаго вярнуўся ў ЗША.

## №4. Фармальнасьці прыезду Міколы Абрамчыка з Францыі ў Мюнхэн

*Мюнхэн, 11.I.56*

*Вельміпаважаны Спадар Прэзыдэнт!*

*Ніканор*[21] *выслаў Вам, атрыманы ім у Паліцайпрэзыдыюм, апытальнік, які Вы мусіце запоўніць і пераслаць яго мне. Учора я гаварыў з Пэчам*[22] *, а пасьля зь ягонай сакратаркай, якой ён перадаў справу, ды ўрэшце сяньня з аднэй фрайлейнай тут, на радыё, якая можа штосьці дапамагчы. Вось жа некаторыя пытаньні трэба высьвятліць. Па-першае, дзеля таго, што Вы ўжо былі тут колькі разоў, дзесьці павінна быць Ваша дасье. Таму напішэце мне, дзе й якім чынам Вы атрымоўвалі папярэднія дазволы на ўезд у Нямеччыну. Зрэшты, гэткія ж пытаньні пастаўлены ў гэнай перасланай Вам анкеце. Адказвайце на ўсе зь іх, бо часам дзеля якога-небудзь глупства затрымоўваецца ўся справа. Гэная фрайлейн сказала мне, што цяпер справы гэтыя выглядаюць больш скамплікавана, чымся раней, але калі яна будзе мець патрэбныя дадзеныя, дык удасца штосьці зрабіць. Галоўна ж, каб можна было знайсьці Ваша дасье, у якім напэўна ёсьць асноўныя дадзеныя. Прышлеце адначасна „сэртыфіка дэ сівізм“ або „сэртыфіка дэ бон ві э мэрс“*[23] *(гэта, фактычна, тое самае). Я ў міжчасе яшчэ патэлефаную Пэчавай сакратарцы — можа, удасца што-небудзь спрасьціць. Трэба аднак падрыхтоўвацца да найгоршага выхаду, пры якім усё вышэй прошанае будзе патрэбнае.*

*Прыезд Ваш сюды прыпадае якраз на часе, і было б шкада, каб Вам прышлося адкладаць яго.*

*Тут нічога асаблівага. Праца йдзе. Пішу цяпер артыкул аднаму немцу, які рыхтуе кніжку пра эміграцыі. Заўтра будзем абмяркоўваць на паседжаньні філіі Інстытуту [вывучэньня СССР]. Копію вышлю Вам дзеля эвэнтуальных папаўненьняў.*

*Фрайлейн, пра якую пішу вышэй, — асоба не прыпадковая, а яна займаецца, відаць з просьбы Пэча, заладжваньнем фармальнасьцяў зь нямецкімі ўстановамі.*

*Доктар Жук перадае Вам, што тут быццам „адлігай“ павеяла*[24] *. Трэба будзе вось на наступным тыдні выпрабаваць трываласьць гэтае „пагоды“.*

*Прывітаньні сямейцы ад усіх нас!*

*З глыбокай пашанай*

*Ваш Янка З.*

[21] **Ніканор Ляўковіч**, брат жонкі Міколы Абрамчыка, паваенны эмігрант, жыў у Мюнхэне, супрацоўнічаў з выдавецтвам „Бацькаўшчына“.

[22] **Айзэк Пэтч** (*Isaac Patch*), службовец Амэрыканскага камітэту вызваленьня. У часе Другой сусьветнай вайны быў на дыпляматычнай службе ў Маскве. На радыё „Вызваленьне/Свабода“ у Нью-Ёрку загадваў аддзелам адмысловых праектаў (*Special Projects Division*), галоўным заданьнем якога было перасылаць з Захаду ў Савецкі Саюз забароненыя або недаступныя там кніжкі.

[23] *„Сэртыфіка дэ бон ві э мэрс“* (з фр. „пасьведчаньне аб добрай маралі“) — пасьведчаньне аб непадсуднасьці.





## №5. Павелічэньне беларускіх перадачаў радыё „Вызваленьне“ да 20 хвілінаў. Ад’езд Вінцэнта Жук-Грышкевіча

*Мюнхэн, 14.03.56*

*[...] З наступнага панядзелку пачынаем 20-хвілінныя перадачы. Гэта, аднак, не пабольшвае агульнае колькасьці гадзін трансьмітаваньня — 15-хвілінная праграма паўтаралася 24 разы на пару, а 20-хвілінная будзе паўтарацца 18 разоў, гэта значыць і ў тым і ў іншым выпадку мы маем у агульным 6 гадзін перадачаў на дзень. Іншыя „нацыянальныя“ рэдакцыі атрымалі ўжо гэтую падвышку дзесьці на мінулым тыдні, раней за нас з тае прычыны, што яны твораць нейкі асобны рэсорт. Поўгадзінныя праграмы, відаць, застаюцца актуальнымі, але калі будуць уваходзіць у сілу, дык дзесьці ў ліпені.*

*Ад Дудзіцкага*[25] *нічога. Д-р Жук памаленьку пакуецца. [...]*

*З глыбокай пашанай*

*Ваш Янка З.*

*П.С.*

*Паводле апошняе весткі, толькі што атрыманае, Дудзіцкі прыяжджае да нас 25 сакавіка. Гэта добра!*

[24] Маецца на ўвазе паслабленьне напружаньня паміж ЗША і СССР.

[25] Уладзімер Дудзіцкі (1911—1976 (?) жыў у той час у Вэнэсуэле, яго запрасілі на пасаду галоўнага рэдактара Беларускай службы радыё „Вызваленьне“ на месца Вінцэнта Жук-Грышкевіча.

## №6. Прыезд у Мюнхэн Уладзімера Дудзіцкага й ягоная характарыстыка

*Мюнхэн, 30.04.56*

*Вельміпаважаны Спадар Прэзыдэнт!*

*Страшна прыкра, што не паведамілі Вас аб прыезьдзе Дудзіцкага. Выяжджаючы, ён выслаў дзьве тэлеграмы — адну ў Камітэт, другую Стасю [Станкевічу], і думаў, што мы тут на месцы паведамім Вам. Стась, відаць, ня пісаў Вам нічога, бо думаў, што Вы восьвось маеце тут быць. У гэтай жа справе, часткова, піша Вам сёньня й сп. Бортнік[26].*

*Дудзіцкі аказаўся вельмі сымпатычным чалавекам, энэргічным, рэчовым і рэпрэзэнтацыйным. На другі ж дзень свае працы, на нарадзе рэдактароў, ён усім заімпанаваў сваім выступленьнем і сваёй кампэтэнцыяй. Дысцыпліна ў рэдакцыі пайшла на лепшае. Чалавек ён вельмі таварыскі й, думаю, здолее замацаваць вакол сябе нашу грамаду.*

*Зараз буду тэлефанаваць Ніканору, каб заладзіць справу білетаў. Вам і сям'і зычу ўсяго найлепшага.*

*З глыбокай пашанай*

*Ваш Янка З.*

## №7. „Як мутна разьбіраюцца расейцы ў справах савецкае Беларусі“

*Мюнхэн, 01.06.56*

*Вельміпаважаны Спадар Прэзыдэнт!*

*Пасылаю Вам аргумэнт у довад таго, як мутна разьбіраюцца расейцы ў справах савецкае Беларусі. Залучаная тут копія артыкулу ўзятая з праграмы расейскае сэкцыі „Вызваленьня“. Артыкул напісаны „новым“ эмігрантам. Ён прайшоў дарогу ад аўтара праз машыністку, рэдактара й дыктара аж да мікрафону і нідзе ня было заўважана тае вялікае няграматнасьці, якую мае ў сабе тры разы паўторанае „ЦК КПСС Белоруссіі“ („ЦК Камуністычнае Партыі Савецкага Саюзу Беларусі“!)*

[26] Уладзімер Бортнік (1910—1988) быў афіцыйным выдаўцом газэты „Бацькаўшчына“.





*Паказаў я яго сваім, а таксама Шэнклянду[27]. Спадзяюся, што гэта й Вам можа калі-небудзь прыдацца.*

*У нас тут усё добра. Камплікацыяў ніякіх няма і, думаю, ніякіх ня будзе.*

*Зычу Вам усяго найлепшага. Прывітаньні сямейцы!*

*З глыбокай пашанай*

*Ваш Янка З.*

*П.С.*

*У №35, здаецца, „За возвращение на Родину“ зьмешчаны верш М. Танка да сваіх суродзічаў за граніцай (на Захадзе).*

## №8. Міколу Абрамчыку ў ЗША: пытаньне беларускамоўных перадачаў радыё „Вызваленьне“ з Фармозы; зьмена тэматычнага профілю газэты „За вяртаньне на Радзіму“; беларускі перабежчык Аляксандар Крук

*Мюнхэн, 27.09.56*

*Вельмі Паважаны Спадар Прэзыдэнт!*

*Як Вам напэўна ведама, на Фармозе працуе філія радыё „Вызваленьне“. Адтуль перадаюцца паўгадзінныя, здаецца, праграмы — да гэтага часу толькі ў расейскай мове. Яны прызначаны для насельніцтва ўсходняе часткі СССР: канцлягеры, „вольнанаёмнікі“, цаліна й г. д.*

*Апошнім часам у гэтым пытаньні заўважваецца пэўная эвалюцыя ў пажаданым для нас кірунку. Афіцыяльна аб гэтым яшчэ нічога ня ведама, аднак ходзяць даволі верагодныя слухі аб тым, што з Фармозы плянуюцца таксама перадачы на ўкраінскай і беларускай мовах. Эвалюцыю гэтую трэба прыскорыць і замацаваць. Сяньня я гутарыў з адным рэжысэрам (украінец), які працуе тут над падрыхтоўкай далёкаўсходніх праграмаў. Ён мне казаў, што ўжо падрыхтоўваецца гутарка па-ўкраінску, якая будзе ўключана ў расейскую праграму. Ня выключана таксама, што з часам яны дагадаюцца даваць штосьці й па-беларуску. Да такое думкі яны даходзяць на аснове аналізу насельніцтва Далёкага Ўсходу.*

*На маю думку, варта было б зрабіць у Ам. Кам. у Нью-Ёрку адпаведны дэмарш (мэмарыял?) з тым, каб забясьпечыць таксама й бе-*

[27] **Робэрт Шэнкланд** (*Robert Shankland*), палітычны дараднік (цэнзар) Беларускай і Ўкраінскай рэдакцыяў радыё „Вызваленьне“ ў Мюнхэне.

*ларускамоўную частку „фармоскае“ праграмы, калі не дабівацца нагул асобных перадачаў па-беларуску. Нашая сэкцыя магла б даваць вялікую дапамогу пры ажыцьцяўленьні такога пляну.*

*Мне здаецца, што патрэбу беларускіх далёкаўсходніх перадач можна было б абгрунтоўваць наступнымі мамэнтамі:*

1) *Вялізарная маса беларускага насельніцтва дэпартавана ў Сібір і Казахстан. З 10,5 мільёнаў насельніцтва БССР абнізілася да 8, як гэта падае савецкі ж статыстычны зборнік „Народное хозяйство СССР“. На цаліне, прыкладам, існуюць цэлыя беларускія саўгасы.*
2) *Бальшавікі намагаюцца зрабіць з далёкаўсходніх раёнаў крыніцу збожжа і іншых каштоўных прадуктаў. Людзі завезеныя туды насільна і не жадаюць працаваць там.*
3) *У Савецкім Саюзе, як гэта ні стараюцца затушаваць, нуртуюць выразныя нацыяналістычныя антаганізмы. Аб гэтым расказваў нам тут гэтымі днямі адзін стары эмігрант, які вярнуўся нядаўна з Савецкага Саюзу, дзе ён працаваў у Краснадары, спачатку ў бібліятэцы, а пасьля настаўнікам. Чалавек інтэлігентны, па перакананьні больш француз, чымся расеец, ён расказваў, як там да сьмерці забіваюцца ўкраінцы ці грузіны з маскалямі. У канцлягерох сядзяць нацыянальнымі групамі. На цаліне суродзічы, зусім зразумела, намагаюцца таксама быць разам. Гэта вельмі важны мамэнт, каб аргумэнтаваць патрэбу беларускае мовы, калі мы хочам дайсьці да сьведамасьці й да пачуцьця вывезеных у Сібір людзей, на вынікі працы якіх Хрушчоў пакладае вялікія надзеі.*

*Нядаўна, між іншага, быў у нас Аляксандар Крук (прыехаў спэцыяльна наведаць беларусаў у Мюнхэне), старшы сяржант, які ў травені сёлета ўцёк у Заходні Бэрлін. Аб ім пісалася ў „Б-не“ [„Бацькаўшчыне“] 22 ліпеня, і будзе напісана яшчэ ў гэтым нумары, што сяньня ломіцца [вярстаецца]. Ён моўна поўнасьцяй зрусыфікаваны, аднак пачуцьцёва — гэта беларус, які перш за ўсё хварэе за свой край. З гэтым хлапцом у свой час „Голас Амэрыкі“ зрабіў даўгое інтэрв'ю, на аснове якога мы тут зрабілі скрыпт і яго зьмясьцілі таксама ў газэце (22 ліпеня). Вось характэрная рэфлексія гэтага хлапца, калі ён прачытаў у „Б-не“ частачку сваіх слоў, але перакладзеных ужо па-беларуску: „Як яно добра гучыць па-беларуску!“ Адносна таго надрукаванага інтэрв'ю, што ён даў „Голасу Амэрыкі“, Крук заўважыў: „Выглядае неяк, што гаварыў адно, а тут штосьці ня тое... Ні то я з-за Уралу ці зь Сібіры“. Крук выказаў жаданьне гаварыць праз радыё да беларусаў. „Яны мяне могуць зразумець, — сказаў ён, — а што я скажу расейцам?..“*

*Неўзабаве празь Нью-Ёрк будзе праяжджаць сп. Дудзіцкі (на жаль, толькі празь лётнішча), дык ён пагутарыць шырэй аб гэтым.*

*У нас тут усё добра. Сыч вярнуўся ўчора з адпачынку. Гасьціць у Мюнхэне Бакуновіч*[28] *зь Лювэну. 3-га лістапада я паеду, відаць, у Бэльгію на Пэрава сьвяткаваньне. Ён мяне забавязаў прыехаць.*

*Як выглядае, „За вяртаньне на Радзіму“ ўжо ня будзе ў сваім зьмесьце дакладнай копіяй „За возвращэніе на Родзіну“, а газэтай дыфэрэнцыяванай. Гэта яшчэ адзін аргумэнт, што да беларусаў бальшавікі шукаюць доступу іншымі шляхамі, чымся да расейцаў, прыкладам. Яго таксама можна выкарыстаць у „фармоскім“ пытаньні. [...]*

*Быў нядаўна ў „Ост-Ойропа Інстытут“ (праф. Кох). Распытваўся ў яго аб магчымасьцях раблення тут, у Мюнхэне, дактарату. Ён падтрымоўвае такія намеры. Папрабую нагаварыць іншых, бо зь Лювэнам цяжка што-небудзь рэалізаваць у гэтым кірунку. Між іншага, Кох запрапанаваў сам мне тэму для тэзы: абгрунтоўваньне незалежнасьці Беларусі ў гістарыяграфіі апошніх дзесяцігодзьдзяў. На жаль, у мяне цяпер не разьвязаная праблема выезду ў ЗША. Спадзяюся, што фармальнасьці да канца гэтага году закончацца. Я пытаўся тут аб магчымасьцях павароту назад у Мюнхэн на працу. Адказу яшчэ не атрымаў, а хацелася б ведаць, бо з гэтым зьвязаны асабістыя пляны (хоць сабе й гэны дактарат). Пагляджу, калі ня будзе іншага выхаду, дык паеду адразу ж, калі толькі будзе магчымасьць, а там будзем бачыць.*

*Выказаныя вышэй думкі адносна Фармозы супадаюць з думкамі ўсяе нашае сэкцыі.*

*Зычу ўсяго найлепшага!*

*З глыбокай пашанай*

*Янка З.*

[28] Уладзімер Бакуновіч (1926—1992) у той час быў студэнтам эканамічнага факультэту Лювэнскага ўнівэрсытэту.

**№9. Міколу Абрамчыку ў ЗША: кніга пра камуністычную экспансію ў Эўропе; нямецкі даведнік пра культурных дзеячаў Усходняй Эўропы; справа выезду Запрудніка ў Амэрыку**

*Мюнхэн, 11.10.56*

*Вельмі Паважаны Спадар Прэзыдэнт!*

*Сёньня быў на паседжаньні аддзелу навін. Між іншага, даведаўся там, што Дзяржаўны Дэпартамант ЗША рыхтуе публікацыю аб камуністычнай экспансіі ў Эўропе (другая частка; першая — аб Азіі й Афрыцы). Мне не ўдалося даведацца, калі гэтая кніжка зьявіцца ў продажы, але аб гэтым магчыма там, у Нью-Ёрку, хто-небудзь што-небудзь ведае. Пэўна ж, калі не запозна, дык варта было б паспрабаваць скантактавацца з аўтарамі гэтае кнігі, што можна зрабіць толькі будучы там, у ЗША.*

*У нас тут усё добра. Усе жывы й здаровы. Барбара Іванаўна [Вержбаловіч]*[29] *з Галінай [Ганчарэнкай]*[30] *зьбіраюцца на гэтым „вікэндзе“ наведаць Парыж (едуць аўтобусам „Амэрыканскага Экспрэсу“). Будуць таксама ў Вашае спадарыні. Калі ня ведаеце яшчэ, дык Наўмовіч*[31] *ажаніўся зь нейкай Жармэнай Лёт.*

*Тут пры Мюнхэнскім унівэрсытэце рыхтуецца да выданьня даведнік (біяграфічны) аб культуртрэгерах Усходняе Эўропы. Зьвярнуліся да нас па матэрыялы. На беларускі разьдзел адпушчана каля 25 бачынак у кніжцы (уся кніга дзесьці каля 400 бач.). Даводзіцца скакаць вышэй пупа, бо нагрузка і так вялікая. Пры гэтым ствараецца й нейкі дзіўны парадокс: дамагаемся як найбольшае колькасьці бачынак на беларускі разьдзел і адначасна скрабем патыліцу, як бы хоць мінімум запоўніць. Ну што ж, і гэта выцягнем.*

*У мяне з выездам пакуль што нічога канкрэтнага ня чуваць. Аднак ня выключана, што ўсё можа зваліцца, як сьнег на голаў. Сваё*

[29] **Барбара Вержбаловіч** (1901—1967), сьпявачка, былая актрыса, працавала машыністкай у Беларускай рэдакцыі радыё „Вызваленьне“. Цётка Галіны Ганчарэнкі.

[30] **Галіна Ганчарэнка** (пазьней — Руднік) (нар. 1930), пляменьніца Барбары Вержбаловіч, таксама працавала на радыё „Вызваленьне/Свабода“ ў Мюнхэне.

[31] Маецца на ўвазе **Міхась Наўмовіч** (1922—2004), беларускі грамадзкі й культурны дзеяч у Парыжы.





*тутэйшае начальства я паведаміў аб цэлай справе і заявіў ім, што пры патрэбе мог бы вярнуцца на пару гадоў назад на працу. Яны маўчаць. Я думаю, што пры першай жа магчымасьці выезду трэба будзе скарыстаць зь яе, а там буду бачыць.*

*На гэтым скончу. Перадайце, калі ласка, мае найшчырэйшыя вітаньні спадарству Кушалям, Тулейкам і ўсім знаёмым.*

*З глыбокай пашанай да Вас*

*Ваш Янка Запруднік*

**№10. Міколу Абрамчыку ў ЗША: юбілей а. Робэрта; пра беларусаў Польшчы; абмежаваныя магчымасьці асьвятленьня ў перадачах радыё „Вызваленьне“ Вугорскага паўстаньня**

*Мюнхэн, 31.10.56*

*Вельмі Паважаны Спадар Прэзыдэнт!*

*Учора цэлы дзень з жонкай і дзіцём прабыў у амэрыканскім кансуляце. Справа йдзе зусім добра. У гэтую пятніцу мушу ехаць у Бэльгію, каб прадоўжыць дакуманты і тады атрымаць візу. Гэта для мяне якраз вельмі добра, бо я там заладжу за раз некалькі справаў. 3-га лістапада пэр Робэрт сьвяткуе ў вельмі вузкім коле свае 25-я ўгодкі сьвятарства. Ён мяне яшчэ перад гэтым вельмі прасіў прыехаць на гэтае сьвяткаваньне, і я там рэпрэзэнтавацьму ўсіх нас.*

*Артыкул д-ра Т. [Тумаша?] пайшоў ужо ў сьвет.*

*Адносна адзначанага Вамі мамэнту непалітычнасьці ў насьвятленьні беларускага пытаньня ў Польшчы маеце рацыю. Але я ня ведаю дакладна, якое месца і зь якога артыкулу Вы маеце наўвеце. Ня ўсе бо артыкулы майго аўтарства. „Да пытаньня Беларусаў у Польшчы“ („Б-на“ №40) пісаў Ст. [Станіслаў Станкевіч]. Рэшту — я. Калі Вы маеце наўвеце №40-ы газэты, дык артыкул там я чытаў ужо ў надрукаваным выглядзе. Між іншага, мамэнт бальшавізацыі беларускага насельніцтва Польшчы даволі выразны; іншая рэч, што гаварыць (друкаваць) аб ім можна па-рознаму.*

*Пра Фармозу новага нічога. Плянаваная гутарка па-ўкраінску ў фармоскія праграмы ня была ўключана да гэтага часу — відаць, справа не разьвязаная ў прынцыпе.*

*Затое ў нас тут, на „Вызваленьні“, украінская рэдакцыя атрымала ад сяньня паўгадзінныя перадачы, г. зн., што агульны час перадачаў не мяняецца (замест паўтараць тры разы тую самую праграму на працягу гадзіны, яны будуць цяпер паўтараць даўжэйшую праграму два разы на працягу тэй жа гадзіны), але гэта выгадней прэстыжова. Як выглядае, гэта звалілася даволі неспадзявана на ўкраінцаў. Хоць, пэўна ж, адносна гэтага павінны былі рабіцца дзесьці адпаведныя захады. Для нас гэта было таксама неспадзеўкай. Дудзіцкі пагаворвае аб нейкім мэмарыяле; будзе, думаю, пісаць Вам аб гэтым. Ну, будзем бачыць.*

*(Дапісваю назаўтра.)*

*Атмасфэра ў нас тут, у сувязі з апошнімі падзеямі, вельмі напружаная. Праграму мяняем па чатыры разы на дзень. Часамі даводзілася працаваць уначы. Цяпер крыху супакойваецца. Ува ўсім гэтым ёсьць, аднак, адна вельмі няпрыемная рэч. Гэта тое, што ў насьвятляньні ўсіх падзеяў, якія адбываюцца цяпер ува Ўсходняй Эўропе, мы ня можам мець ніякага свайго аблічча. Праграмы нашага радыё складаюцца цяпер выключна з навінаў дня і некаторых фрагмэнтаў выказваньняў заходняе прэсы. А ўва ўсім гэтым столькі ж цікавых для нашага слухача мамэнтаў, аналёгіяў! Вугорская рэвалюцыя — гэта перш за ўсё нацыянальная рэвалюцыя, гэта таксама антырасейская рэвалюцыя. Аб гэтым ведае цэлы вольны сьвет, толькі мы ня можам сказаць нашым слухачом.*

*Учора было сказана (але пасьля й адклікана), што камэнтаваць усё гэта можна, але раней трэба пасылаць на зацьверджаньне ў Нью-Ёрк (значыцца, не давяраюць нават тым дараднікам, якія сядзяць тут). Келі[32], быццам, збунтаваўся супраць такое дурноты, але факт застаецца фактам, што мы вельмі зьвязаныя ўва ўсім гэтым. Трэба дзесьці рабіць адпаведныя дэмаршы і дамагацца права на собскае насьвятліваньне вугорскіх і польскіх падзеяў. У іншым выпадку, мы трацім перад нашымі слухачамі ўсякае беларускае аблічча ў гэтым напружаным часе.*

*Заўтра раненька выяжджаю ў Бэльгію. Вязу Пэру шэраг пісьмовых прывітаньняў. Акрамя гэтага, калі там будзе адпаведны мамэнт, буду яшчэ адмыслова вітаць яго. Хіба не памылюся, калі прывітаю яго й ад Вашага ймя.*

[32] **Робэрт Келі** (*Robert F. Kelley*), былы дыплямат, намесьнік дырэктара радыё „Вызваленьне“ ў Мюнхэне.





*На гэтым пакуль што кончу. Перадайце, калі ласка, мае найшчырэйшыя прывітаньні спадарству Кушалям.*

*З глыбокай пашанай*

*Ваш Янка З.*

*P.S. Перасылаю да Вашага ведама в. цікавы артыкул з польскае рэжымовае газэты. Магчыма, выкарыстаю яго ў „Б-не“.*

## №11. Міколу Абрамчыку ў ЗША: юбілей а. Робэрта; сувязь зь беларусамі Беласточчыны; выезд Запрудніка ў Амэрыку

*Мюнхэн, 10.11.56*

*Вельмі Паважаны Спадар Прэзыдэнт!*

*У сераду (сёньня субота) вярнуўся зь Лювэну. Пэрава сьвяткаваньне прайшло надзвычай памысна. Ад папярэдніх невялічкіх непаразуменьняў не засталося й сьледу. На ўрачыстым абедзе між шматлікіх прамоўцаў нашых было чатырох: а. Аўген [Смаршчок] (прачытаў ліст ад Уладыкі Васіля і сказаў некалькі слоў ад сябе — вельмі прыгожа), я (прывітаў ад Вас і прачытаў тры прывітаньні зь Мюнхэну — „Бел. Зборнік“, „Б-на“ і „Вызваленьне“), Мак[33] (ад студэнтаў) і Арэшка[34] (ад „Акадэмікуса“)[35]. Рэзюмэ Пэравых слоў падзякі дае сказанае ім жа: „Я самы шчасьлівы чалавек на сьвеце!..“*

*Быў я таксама ў монсіньёра Слосканса[36]. Ад імя рэдкалегіі [„Б-ны“] вусна прасіў яго напісаць калядное пасланьне для беларусаў-каталікоў. Казаў, што др. Станкевіч будзе яму яшчэ пісаць у гэтай справе. Сказаў яму таксама, што ў газэту прысылаюць лісты з запытаньнямі, чаму мы не зьвяртаемся да яго з падобнымі просьбамі, просяць выясьненьня. Аднак нашыя чытачы ня ведаюць, што мы ўжо некалькі раз прасілі яго напісаць штосьці для сваіх „авечак“. Сказаў*

[33] Станіслаў Мак (1922—1983) у той час быў студэнтам факультэту паліталёгіі й сацыялёгіі Лювэнскага ўнівэрсытэту.

[34] Маецца на ўвазе выпускнік Лювэнскага ўнівэрсытэту Аляксей Арэшка (нар. 1923).

[35] **„Акадэмікус“** — таварыства беларускіх выпускнікоў Лювэнскага ўнівэрсытэту.

[36] **Баляслаў Слосканс** (1896—1981), латыш паводле паходжаньня, рыма-каталіцкі біскуп, былы вязень савецкіх турмаў і лягераў, з 1953 г. — афіцыйны апякун беларускіх каталікоў на эміграцыі. Жыў у кляштары ў Лювэне.

*яму таксама, што змушаны будзем штосьці адказаць у гэтай справе нашым чытачом. Ня выключана таксама, што могуць прысылацца адкрытыя лісты на гэтую тэму. Людзі нашыя зусім лягічныя, калі дамагаюцца ад свайго япіскапа пасланьня. Яны чыталі ягоныя пастырскія словы ў расейскім рэлігійным часапісе і пераканаными, што й беларусы ў яго ня горшыя й г. д. Ён усё гэта наматаў на вус і заявіў мне, што ён адчувае „вялікую нутраную слабасьць, апатыю, нястачу энэргіі... матар'яльных сродкаў“ і да т. п. Словам, даў выразна заразумець, што, маўляў, адчапецеся вы ад мяне, зь мяне хопіць таго, што я ўжо маю тытул беларускага япіскапа...*

*Мы ўсе тут перакананыя, што і з нас хопіць гэтага гуляньня ў цюцю-бабку. Я ўжо ад даўжэйшага часу зьбіраю апінію аб усім гэтым. Гутарыў калісьці з а. Сіповічам, цяпер гаварыў з а. Чарняўскім, з а. Робэртам. Усе яны аднае й тае ж думкі: гэта няпрыхільнасьць да нас, дыскрымінацыя, варожасьць. Я ня маю змогі, на жаль, расказаць Вам аб усіх нюансах гэтае справы, аднак рэакцыя поўнасьцяй насьпела і якраз цяпер, перад Калядамі, трэба яе пачаць. На ўступ, думаю, хопіць невялічкага ліста ў рэдакцыю „Б-ны“ з лагодным запытаньнем, чаму для беларусаў-каталікоў няма ніякіх сьвяточных пасланьняў (ёсьць жа шмат сьвятароў і япіскап), і ці не магла б рэдакцыя зьвярнуцца да адпаведнае асобы (Слосканса) з просьбай у гэтай справе.*

*Мае пашпарты прадоўжаныя, і цяпер здам іх у консулят. Меў першую гутарку з кіраўнікам радыё. Яны мяне вельмі хацелі б мець тут (Дудзіцкі таксама), зрабілі мне адпаведныя прапановы, я папрасіў іх адпаведных выясьненьняў, і на гэтым пакуль што скончылася. Справа выясьніцца неўзабаве.*

*У канцы кастрычніка мы выслалі адсюль (у адказ на адпаведную абвестку ў „Ніве“) у Беласток „Раскіданае гняздо“ і „Тутэйшыя“ Купалы. Нядаўна атрымалі ліст з падзякай за прысланыя кнігі (ліст пісаны старшынём БГКТ-ва [Беларускага грамадзка-культурнага таварыства] ў Беластоку), з прапановай замацаваць сувязь і наладзіць вымену газэтамі. Яны ўжо прыслалі свой чарговы нумар „Нівы“. З пасылкай ім „Б-ны“ справа цяжэйшая. Нам фактычна гэта ніякае цяжкасьці ня робіць, але трэба думаць пра іх. Пакуль што думаем высылаць ім іншыя кніжныя выданьні „Б-ны“: „Спадчыну“, „Ля чужых берагоў“ і інш. Перад тым, аднак, як пасылаць нашую газэту, вышлем ім закрытым-заказным лістом некалькі нумароў „Б-ны“ (сакавіковы, 300-ы...), каб яны пазнаёміліся зь ёю і яшчэ раз перадумалі. Асобным лістом трэба будзе неяк сфармуляваць гэтую небясьпеку,*





*якая для іх можа, калі не цяпер, дык пасьля (цяпер, у сувязі з Вугоршчынай, яны, магчыма, зааптымістычна глядзяць на сьвет) аказацца балючай. Перасылаю тут Вам (перадасьцё, магчыма, пасьля ў БІНіМ) статут БГ-КТ, пяць экзэмпляраў якога мы атрымалі ў замен за гэныя дзьве кнігі. На залучаны тут адрас, магчыма, варта было б выслаць зь БІНіМ-у камплект „Запісаў“ і „Конадняў“?*

*З Фармозай пакуль што нічога новага. Гэную ўкраінскую гутарку, пра якую я пісаў Вам, яшчэ ў ход ня пускалі.*

*Заўтра П. Блёк*[37] *ладзіць у „Лёвэнбройлеры“ мітынг (Вугоршчына). Спадзяюся, што Бортнік напіша Вам аб прабегу. Я заўтра працую і не змагу там быць.*

*Зычу Вам усяго найлепшага!*

*Ваш*

*Янка З.*

## №12. Міколу Абрамчыку ў ЗША: думка пра беларускія радыёперадачы на Польшчу

*Мюнхэн, 11.11.56*

*Дарагі Спадар Прэзыдэнт!*

*Мне прыйшла думка, што мы маглі б дамагацца ад АК [Амэрыканскага камітэту] пакрыць нашымі радыёперадачамі таксама тэрыторыю Польшчы — на тэй аснове, што там жыве мілён зь лішнім беларусаў. Для гэтага дэмаршу можна было б падрыхтаваць адпаведны мэмарыял, выкарыстоўваючы дадзеныя зь „Беларускага Зборніка“, „Нівы“ й іншых крыніц. Я толькі што гутарыў аб гэтым з Сычом (мы працуем зь ім сяньня); ён таксама гэтае думкі. Зрэшты, карысьць тут відавочная.*

*Я цяпер моцна заняты і зборнікам скрыптаў, і сьпеўнікам Равенскага, і сотняй іншых справаў, але, пры патрэбе, мог бы падрыхта-*

[37] **Парыскі блёк** — неафіцыйная назва Лігі вызваленьня народаў СССР, заснаванай у Парыжы ў канцы сакавіка 1953 г. У яе ўвайшлі прадстаўніцтвы ад Армэніі, Азэрбайджану, Беларусі, Грузіі, Ідэль-Уралу, Паўночнага Каўказу, Туркестану й Украіны. Ліга выдавала свой часапіс „Праблемы народаў СССР“ (Мюнхэн, 1958—1966). Пра заснаваньне й мэты Лігі гл. артыкул яе старшыні Міколы Абрамчыка ў: Бацькаўшчына. №7—8 (443—444). 22.02.1959. С. 2.

*ваць адпаведную аргумэнтацыю да мэмарандуму. З Дудзіцкім трэба, пэўна ж, дамовіцца (захаваць форму), хоць канкрэтнае дапамогі ад яго цяжка спадзявацца: словы й чыны выяўляюцца ў яго ў моцнай дыспрапорцыі.*

*Усяго Вам найлепшага!*

*З глыбокай пашанай*

*Ваш Янка З.*

**№13. Міколу Абрамчыку ў ЗША:**
**справа беларускіх радыёперадачаў на Польшчу**

*Мюнхэн, 19.11.56*

*Дарагі Спадар Прэзыдэнт!*

*Хоць і спозьнена, але ўсё ж высылаю Вам копію пратаколу нашага паседжаньня, дзе абмяркоўваліся праблемы, пастаўленыя на парадак дня 8-ае сэсіі [Рады БНР]. Дзеля таго, што большая частка пытаньняў кранае нас вельмі вузкім бокам, абмяркоўваньне атрымалася надта павярхоўным. Пратакол пасылаецца для Вашага асабістага карыстаньня, а да ведама сэсіі зроблены выпісы з пратаколу, якія й просім Вас перадаць адпаведнай асобе з Прэзыдыюму сэсіі. [...]*

*Я чакаю на візу. Тут яшчэ не дамовіўся адносна майго павароту. Справа выясьніцца, як толькі атрымаю візу на рукі, і тады ж напішу Вам.*

*У справе нашых праграмаў для Польшчы сяньня напісалі Рубінштэйну*[38] *. Дудзіцкі мае пісаць Вам заўтра аб усім гэтым.*

*Рыхтуем „слуцкі“ нумар „Б-ны“. Матар’ял аб ньюёрскім мітынгу атрымалі. Робіць вельмі саліднае ўражаньне.*

*Зычу Вам усяго найлепшага й застаюся з глыбокай пашанай.*

*Ваш Янка З.*

[38] **Рубінштэйн**, функцыянэр адміністрацыі радыё „Вызваленьне“.





**№14. Міколу Абрамчыку ў ЗША:**
**справа выезду Запрудніка ў Амэрыку; стыпэндыі Фордаўскага фонду; патрэба інфармаваньня пра сэсію Рады БНР; перасьцярога перад кантактамі са сваякамі на Бацькаўшчыне; цяжкасьці з даставаньнем публікацыяў зь Беларусі**

*Мюнхэн, 27.12.56*

*Вельмі Паважаны Спадар Прэзыдэнт!*

*Шчыра дзякую Вам за ліст і за матарыялы. Адпісваю адразу ж. З маім выездам адсюль справа ня так проста выглядае. Ад мяне зажадалі цэлы шэраг нейкіх недарэчных пасьветчаньняў; я мушу цяпер залаждваць усё гэта карэспандэнцыйна праз а. Робэрта, і гэта надта камплікуе справу. Спадзяюся, што справу ўдасца давесьці да пазытыўнага канца. Усё гэта мяне нэрвуе і займае толькі лішні час. Аднак, дзеля нашае з Вамі сустрэчы, дык справа выглядае ясна: у студзені я яшчэ буду тут моцна сядзець. Калі выезд будзе, дык дзесьці ў сакавіку.*

*Сяньня атрымаў адмоўны адказ ад Фордаўскага Фонду: яны прызнаюць стыпэндыі толькі амэрыканскім грамадзянам і на канкрэтна вызначаныя мэты. Для агульных студыяў ёсьць іншыя фонды. Мне здаецца, што нашыя там ня зусім добра зразумелі гэтую справу, рассылаючы праспэкты ды падахвочваючы да складаньня заяваў. З прычыны адмовы, зразумела, я не праймаюся, бо знойдзецца штосьці іншае на гэтае месца.*

*Весткі пра беларусаў і манголаў мы яшчэ не выкарыстоўвалі, бо зусім нядаўна даведаліся. Аказваецца, аб гэтым пісала таксама й бэльгійская прэса. У наступным нумары [„Бацькаўшчыны“] трэба будзе паведаміць аб гэтым.*

*Шкада, што пра Сэсію яшчэ дасюль нічога ня чуваць. Мо б на пачатак, пакуль гэны бюлетэнь выйдзе, хоць прэсавы камунікат апублікаваць. Маўчаньне блага дзеіць на нашу публіку. Мяне Нікан*[39] *штурмуе лістамі з Мэльбурну з запытаньнямі адносна таго, што робіцца ў БНР. Сяньня я пасылаю яму інфармацыйны ліст (адначасна із справамі выдавецкімі), у якім стараюся задаволіць ягоныя слушныя запытаньні.*

[39] Маецца на ўвазе **Мікола Нікан** (1908—1999), беларускі грамадзкі й палітычны дзеяч, які на пачатку 1950-х гг. эміграваў з Ангельшчыны ў Аўстралію.

*Апошнім часам маем тут дадатковую нагрузку ў сувязі з падрыхтоўкай для нямецкага энцыкляпэдычнага слоўніка 60-ці біяграфіяў беларускіх культурных дзеячоў.*

*Пісаў Нікан, што яны там гутарылі з савецкімі спартоўцамі, ды што гэныя папераджалі — калі хто мае сваякоў дома, лепш не падаваць віду і зь імі не кантактавацца.*

*Пісаў я аб гэтым Тумашу. Там у Нью-Ёрку даволі цяжкавата даставаць беларускія савецкія кніжкі. Гарошка*[40] *выслаў быў раз, і яны былі затрыманыя на амэрыканскай мяжы. Цяперашнія магчымасьці набыцьця беларускае літаратуры трэба выкарыстоўваць, бо гэта ўсё можа аднаго дня скончыцца. Кніжкі, якія можна было купіць за часоў Бэрыі ці Сталіна, ужо цяпер не дастанеце. Аб гэтым мусяць думаць асабліва навуковыя ўстановы, як БІНіМ і іншыя. Я для эвэнтуальнае перасылкі свае бібліятэчкі выкарыстоўваю пасярэдніцтва Ам. Камітэту (дамовіўся тут на месцы), і гэта забясьпечыць мне надзейную перасылку ўсяе літаратуры, зь якою ў іншым выпадку мог бы мець цяжкасьці. Гэткі самы спосаб мусяць выкарыстаць нашыя ў Нью-Ёрку для прыдбоўваньня кніжок для сябе асабіста або для інстытуцыяў (бібліятэк). Цяпер у Беларусі публікуюцца вельмі цікавыя працы. [...]*

*На гэтым пакуль што канчаю. Зь нецярплівасьцяй чакаем на Ваш прыезд і на весткі аб Вашым падарожжы. Зычу Вам усяго найлепшага й застаюся з глыбокай пашанай.*

*Ваш Янка З.*

[40] Айцец **Леў Гарошка** (1911—1977), беларускі рэлігійны й культурны дзеяч, выдавец часопісу „Божым Шляхам“, у той час жыў у Парыжы.





## №15. Справы ў Беларускай рэдакцыі радыё „Вызваленьне“. 50-годзьдзе Станіслава Станкевіча

*Мюнхэн, 12.2.57*

*Вельмі Паважаны Спадар Прэзыдэнт!*

*Сяньня мы сьвяткавалі 1000-ю праграму Беларускае рэдакцыі „Вызваленьне“. Урачыстасьць прайшла добра. На ёй прысутнічалі Келі, Бэртрандзіс*[41] *(вельмі каратка), ну і рэшта брацііі.*

*З Дудзіцкім ня зусім добра. Пару дзён таму ў прысутнасьці Сыча, Цьвіркі й мяне ён выбухнуў, што на яго з нашага боку (а пераважна мною) робяцца нейкія даносы. Ён, праўда, не сказаў, каму, дый ня мог сказаць, бо гэта была пустасловіца, але гэта характэрна. Я з гэтага пакуль што не раблю ніякае справы, пусьціў міма вушэй, але атмасфэра нездаровая. Ён, як відаць, сам шкадуе сваіх слоў і, думаю, чакае на Ваш прыезд.*

*Справа майго павароту*[42] *ня выясьненая. Перамовы я перадаў у рукі Дудзіцкага, папрасіўшы яго, каб ён да канца гэтага тыдня сказаў мне, на чым стане. Я запраўды ня ведаю, што рабіць. Мастоў за сабою не паліў, але рана ці позна ўсё гэта мусіць разьвязацца ў тым ці іншым кірунку. Я, праўда, магу яшчэ пачакаць пару тыдняў. Перш за ўсё пагляджу, якую пазыцыю зойме Дудзіцкі.*

*Між іншага, Станкевічу 23 лютага споўніцца 50 год жыцьця і 30 год навуковае дзейнасьці. Мы тут рыхтуемся да ўрачыстасьці. Я напісаў Адамовічу й Арсеньневай, каб напісалі з гэтае нагоды што-небудзь у газэту. Самі таксама будзем пісаць. Спадзяюся, што й Барыс [Рагуля] штосьці прышле, бо я яму аб гэтым сяньня пішу. Ці не маглі б Вы нейкім чынам далучыцца (маю на ўвазе „Б-ну“) да гэтае ўрачыстасьці, на якую поўнасьцяй заслужыў у нас др. Станкевіч. Калі б у Вас былі якія-небудзь думкі з гэтае нагоды, мо б Вы напісалі нам аб гэтым. Ня ведаю, калі Вы прыяжджаеце сюды; Стась казаў, што будзеце перад 23-ім, але хацелася б ведаць дакладна. Будзем Вам удзячныя за весткі.*

*Зычу Вам і сямейцы ўсяго найлепшага. З глыбокай пашанай.*

*Ваш*

*Янка З.*

[41] Маецца на ўвазе **Рычард Бэртрандыяс** (*Richard Bertrandias*), дырэктар радыё „Вызваленьне“.

[42] Я меў намер эміграваць у ЗША й адтуль вярнуцца ў Мюнхэн на працу ў Беларускай рэдакцыі радыё „Вызваленьне“.

## №16. Справа выезду Янкі Запрудніка ў Злучаныя Штаты й кадравая сытуацыя ў Беларускай рэдакцыі радыё „Вызваленьне“

*Мюнхэн, 04.3.57*

*Дарагі Спадар Прэзыдэнт!*

*Як я Вам ужо паведаміў, мой адлёт — 20 сакавіка, а 19-га я ўжо мушу быць напагатове. У сувязі з гэтым тут узьнікае цэлы шэраг праблем, якія трэба было б разьвязаць супольна.*

*Перш за ўсё, я мушу перадаць камусьці акты, якія да гэтага часу вёў сам*[43]*. Разьвязка з гэтага зусім магчымая, але патрэбна Вашая згода. Я гэты тыдзень не працую на радыё, а прысьвяціўся ўпарадкаваньню ўсіх рэчаў для пераданьня.*

*Другая і яшчэ больш важная справа — гэта праблема радыёвае сэкцыі. Дудзіцкі і палец аб палец ня стукае. Ён заяўляе, што бяз Вас нічога ня можа рабіць. Ня ведаю, ці пісаў ён Вам аб чым-небудзь. Але сытуацыя часова выглядае не ружова. Казак*[44] *выяжджае адсюль (на колькі месяцаў — невядома) 17 сакавіка. Я — 20-га. З Дудзіцкага працаўнік ня зусім рэгулярны. Застаюцца Сыч ды Цьвірка. Найгорш аднак, што ня робіцца ніякіх стараньняў, каб латаць люку, якая ўтвараецца ў сувязі з маім ад'ездам. Камбінацыі ёсьць, і рэальныя, але ж трэба, каб нехта праводзіў іх у жыцьцё. Чакалі на Ваш прыезд, які крыху зацягнуўся. Таму вельмі важна ведаць,* <u>*калі*</u> *Вы зможаце сюды прыехаць. Калі б у Вас ня выходзіла падарожжа зь сям'ёй, дык можа б Вы самі? Шкада: так хацелася б пабачыцца зь Нінай і Альгердам*[45]*!*

*Адамовіч пісаў Станкевічу штосьці пра маю кандыдатуру ў „ГА“ [радыё „Голас Амэрыкі“]. Мне, праўда, нічога аб гэтым ня ведама. Але гэны цьвердзіць, што й без падданства справу можна ўладзіць. Я ўвесь час чакаў на пазытыўную разьвязку майго павароту, але, на жаль, ня выйшла. Тулейка*[46] *ўчора прыслаў ліст, што там ужо й кватэру знайшоў для нас. Бортнік запэўніваў мяне нядаўна, што 99,9%*

[43] Маюцца на ўвазе фінансавыя й адміністрацыйныя справы выдавецтва „Бацькаўшчына“.

[44] Рыгор Казак (паэт Рыгор Крушына, 1907—1979) працаваў тады ў Беларускай рэдакцыі радыё „Вызваленьне“ ў Мюнхэне.

[45] Маюцца на ўвазе жонка і сын Міколы Абрамчыка.

[46] Ідзецца пра Міхася Тулейку (1915—1998), беларускага грамадзкага й рэлігійнага дзеяча ў Нью-Ёрку.





*за тое, што я вярнуся сюды, разьлічваючы, відаць, на Вашу інтэрвэнцыю. Я сам ня ведаю, урэшце, дзе я. Ну, але пакавацца мушу. А калі ўгледзімся, дык я Вам падрабязна справу прадстаўлю. Галоўна — ведаць, калі Вас можна тут спадзявацца.*

*На гэтым кончу. Зычу ўсім Вашым усяго найлепшага ды застаюся да хуткае сустрэчы.*

*З глыбокай пашанай*

*Ваш Янка З.*

## №17. Выбар занятку на новым месцы ў Нью-Ёрку. Пытаньне старшынства ў БАЗА

*Бруклін, 14.5.57*

*Вельмішаноўны Спадар Прэзыдэнт!*

*Неўзабаве будзе ўжо два месяцы, як мы ў Нью-Ёрку. За гэты час я ўжо ўсьпеў разгледзецца тут што й да чаго і цяпер менш-больш ведаю, як можа выглядаць будучыня. Застаюся, зразумела, у Нью-Ёрку. Калі я прыехаў сюды, мне ў Ам. Камітэце запрапанавалі адразу рабленьне інтэрв'ю для нашых мюнхэнскіх праграмаў, за што я ўзяўся. Праца гэтая забясьпечвае мне менш-больш матар'яльны бок жыцьця, і ёсьць магчымасьць займацца ёю даўжэйшы час. Занятак для мяне надзвычай добры тым, што я не абмежаваны ніякімі гадзінамі. А на пачатак, калі трэба ўладжвацца (пошукі кватэры, мэблі, фармальнасьці, шпіталь для жонкі і цэлы шэраг іншых справаў), дык гэта дае мне вялікія выгады. Пісаньне скрыптаў, рабленьне інтэрв'ю і рэпартажаў зь беларускага жыцьця ў Амэрыцы дае мне добры кавалак часу і на іншыя патрэбы. І я вось думаю скарыстаць зь нядаўна атрыманае ад д-ра Ст. Ст. прапановы падаць заяву ў Інстытут на стыпэндыю (3-хмесячную, якую можна разлажыць на 6 месяцаў). Я гутарыў з Адамовічам і др. Я. Станкевічам на гэтую тэму. Ад іх я магу атрымаць шмат дапамогі і добрую школу. Адамовіч прапануе ўзяцца за „Вакара“ („Белораша“)*[47] *і, рэцэнзуючы яго, зрабіць фактычна новую працу з гісторыі Беларусі. Думка добрая, актуальная, і я буду падаваць заяву, адпаведна сфармуляваўшы сваю тэму (трэба ж, каб прынялі).*

[47] Маецца на ўвазе кніга: Vakar, Nicolas. Belorussia: The Making of a Nation. A Case Study. Cambridge, Mass., Harvard Univ. Press, 1956. — 297 p.

*Апошнім часам даведаўся, што маю кандыдатуру фарсуюць на старшыню БАЗА. Уважаю, што гэта зашмат. Ад грамадзкае працы я ніколі не ўцякаў, але што зашмат, то зашмат. Тут жа атмасфэра такая, што будуць вярнуць столькі, колькі прыймаць будзеш, і таму я арганізую сабе цяпер абарону. Выбары мяне на старшыню БАЗА былі б крокам вельмі нерацыянальным і неразумным. Ад грамадзкае работы я так ці йнакш нідзе ня дзенуся, але затое нехта іншы ўвільне ад яе — гэта раз. А па-другое, я магу рабіць рэчы, якіх іншы ня зробіць. Адначасна я хачу тут заняцца крыху малодшымі, у якіх справы йдуць надзвычай туга. У такім паглядзе на справу я пераканаў Адамовіча, Шукелайця, Тулейку і буду пераконваць увесь кангрэс БАЗА, калі там дойдзе да мае кандыдатуры на старшыню або ў управу (мяне ўжо ўсьпелі тут дэлегатам на гэты кангрэс выбраць). Калі не паможа пераканаць, я проста катэгарычна адмоўлюся, бо я хачу рабіць урэшце тое, што мне падабаецца і што я лічу патрэбным, а ня тое, што мне накідаюць (у Мюнхэне, прыкладам, абставіны на мяне накідалі шмат работы тэхнічна-адміністрацыйнае, але тут — ня Мюнхэн). Я ўважаю так, што калі б мне ўдалося зрабіць па лініі супрацоўніцтва з Інстытутам добрую працу з галіны нашае гісторыі (цікавіць мяне асабліва апошні пэрыяд яе — канец XIX і XX ст.), дык гэта магло б мне адкрыць дарогу, ці прынамся аблягчыць яе, у кірунку да амэрыканскіх дасьледніцкіх установаў.*

*Асабіста чуюся добра. Прыкра, што на багаж трэба аж тры месяцы чакаць. Шукаю цяпер сабе сталае кватэры і, здаецца, штосьці наклёўваецца, недалёка зусім ад кватэры Кушалёў. Знайшоў жонцы „сіты-госпітал“ і за месяцаў пару будзем мець яшчэ адну навіну. [...]*

*Зычу Вам усяго найлепшага ды застаюся з глыбокай пашанай.*

*Ваш*

*Янка З.*





## №18. Фундацыя імя Пётры Крэчэўскага. Васіль Шчэцька[48] бяз працы. Беларусы ў Польшчы. Маніфэст Рады БНР. Прыезд а. Робэрта ў ЗША

*Нью-Ёрк, 14.8.58*

*Дарагі Спадар Прэзыдэнт!*

*Справа фундацыі [імя П. Крэчэўскага] нядаўна пушчаная ў ход. Спадзяюся, што за колькі тыдняў будзе ўсё аформлена. Наладзіў цяпер сталы кантакт з д-рам Грынкевічам[49] (перапісваемся, пару разоў тэлефанаваў яму). За тыдзень-два зьбіраюся пад'ехаць у Клівэлянд пабачыцца зь ім і іншымі. Ягоны знаёмы прайшоў усе фармальнасьці, пабачымся дзесьці ў канцы верасьня. У Клівэляндзе там блага справа із Шчэцькам — сядзіць ужо даўжэйшы час бяз працы, маральна падупаў. Я хачу перацягнуць яго ў Нью-Ёрк, пісаў яму пра гэта. Тут з працай лягчэй. Пісаў Гіцкаму [Дудзіцкаму], каб дамагаўся для радыё яшчэ аднаго чалавека ў Нью-Ёрку (я ж працую [у Амэрыканскім камітэце] толькі палавіну для радыё). Калі б Шчэцьку ўладзіць палавіну для радыё, дык другую палавіну мо як-небудзь выкамбінавалі б супольна з Адамовічам па іншай лініі ў Камітэце.*

*Бачыўся нядаўна з Ул. Машанскім[50], які тры дні пабыў у Польшчы. Расказвае шмат цікавых рэчаў (большыню зь іх я падаў у „Беларуса“). Між іншага, на адну рэч нам трэба было б зьвярнуць асаблівую ўвагу. Палякі ў Польшчы (сьведама ці нясьведама) ня робяць розьніцы паміж беларусамі й расейцамі. Для іх усё, што з-за ўсходняе мяжы — расейскае. Беларусы ў Польшчы ня хочуць, каб іх называлі расейцамі, і ў імя гэтага цураюцца нат свае мовы, што, пэўна ж, прыскарае працэс паланізацыі. Калі б у нас былі магчымасьці давесьці палякам, скажам, з „Вольнае Эўропы“ (эвэнтуальна іншым радыёвым рэдакцыям, калі такія ёсьць, таксама), а таксама польскаму палітычнаму цэнтру, што рабленьне розьніцы паміж беларусам і расейцам ляжыць у інтарэсах польскае вызвольнае справы (на даўжэйшую адлегласьць) ды дамагчыся, каб палякі з-за граніцы інфармавалі ў гэтым духу свае гра-*

[48] Васіль Шчэцька (нар. 1923), выпускнік сацыялягічнага факультэту Лювэнскага ўнівэрсытэту, жыў у той час у ЗША.

[49] Маецца на ўвазе **Станіслаў Грынкевіч** (1913—1966), доктар мэдыцыны, палітычны дзеяч. Жыў у ЗША.

[50] **Уладзімер Машанскі**, былы вайсковец, сябра беларускае вэтэранскае арганізацыі ў Нью-Брансўіку (Нью-Джэрзі).

*мадзтва на бацькаўшчыне, дык гэта было б дасягненьне для нас. Пра гэта я буду гаварыць на туташнім сэктары Рады [БНР].*

*У Камітэце зацішша. Нядаўна атрымаў ад Кунігольма*[51] *для Вас адзін паасобнік брашуры з Вашай біяграфіяй, інфармацыяй пра Беларусь і маніфэстам*[52] *па-арабску, што Камітэт распаўсюдзіў у, прыблізна, 7-х тысячах экзэмпляраў на Блізкім і Далёкім Усходзе. Перасылаю яе ў „Б-ну“, каб зь яе зрабілі невялікае клішэ (разам з зацемкай пра выхад Маніфэсту ў розных мовах Захаду) ды пераслалі далей для Вашых архіваў. Ня ведаю, ці раблю правільна, бо магчыма брашура спатрэбілася б Вам безадкладна.*

*Вестку пра Вашае паўторнае старшынства ў ПБ [Парыскім блёку] тут сустрэлі зь вялікім задавальненьнем. Мы перадалі яе тут на беларускай [радыё]праграме. Ад сябе вітаю і шчыра зычу памыснасьці!*

*Радыёвыя беларускія праграмы ў Нью-Ёрку, відаць, выжывуць. Увосень будзе лягчэй з рэклямамі. Перадача гэтая адыгрывае тут вялікае маральнае значэньне, людзі ахвоча даюць ахвяры ды ўважліва слухаюць, што ім гаворыцца. Забірае яна мне крыху часу, але страчаны час аплачваецца сьведамасьцяй, што ёсьць вынікі.*

*Прыйшла мне нядаўна думка, каб зь Беласточчыны наладзіць прысыланьне ў Амэрыку (і Канаду) беларускіх ткацкіх вырабаў і мастацкіх рэчаў. Гэта падтрымала б эканамічна беластоцкіх майстроў, а тут можна было пашырыць каштоўныя з нацыянальнага гледзішча рэчы.*

[51] **Кунігольм**, службовец палітычнага аддзелу Амэрыканскага камітэту вызваленьня ў Нью-Ёрку.
Гэта пра яго (праўда, у зьмененым напісаньні прозьвішча) падала газэта „Беларуская трыбуна“ (№1—2, 1953) наступнае паведамленьне:
„У сакавіку 1953 г. прадстаўнік Ам. к-ту, Mr. Cuminholm, меў паўтарагадзінную гутарку з др. М. Шчорсам пра магчымасьць супрацоўніцтва. У дыскусіі выявіліся разыходжаньні ў поглядах на палітычную плятформу Ам. К-ту з прынцыпам ‘непредрешенства’ на чале, на мэтад тварэньня КЦАБ [Каардынацыйнага Цэнтру Антыбальшавіцкай Барацьбы] ды на генэзу й натуру бальшавізму як такога.
*Як паведаміў Mr. Cuminholt, падобнага характару канфэрэнцыі ён меў, калі ходзіць аб беларусаў, з прадстаўнікамі Абрамчыкавай групоўкі — др. В. Тумашам і др. Я. Станкевічам“.*

[52] Маецца на ўвазе Маніфэст Рады Беларускай Народнай Рэспублікі да 40-годзьдзя БНР.





*Бачыўся нядаўна з інж. Жыткам*[53]*, зрабіў нават інтэрв’ю для радыё. Радзіўся зь ім і з Кіпелем [Вітаўтам] што да Пэравага прыезду ў ЗША. Пастанавілі запрасіць Пэра сюды на першыя Каляды. Цяпер мушу брацца за арганізаваньне гэтага падарожжа.*

*Учора з адпачынку мусіў безадкладна вярнуцца назад у Нью-Ёрк у сувязі з Генэральнай Асамблеяй (рэпартаж!). На наступным тыдні выскачу да сваіх на фарму мо яшчэ на пару дзён, а там не за гарамі й амэрыканска-канадзкая сустрэча [беларусаў].*

*Вітайце Ніну й Альгерда. Усяго найлепшага.*

*Ваш*

*Янка З.*

*P. S.*

*Ад другога паўгодзьдзя атрымоўваю зь Менску газэты на сваё прозьвішча й камітэцкі адрас. Як ні дзіўна, але прысылаюць.*

## №19. Прыезд у ЗША а. Робэрта. Пытаньне беларускіх перадачаў пры Польскай рэдакцыі радыё „Вольная Эўропа“. Партнэрства Парыскага блёку з Амэрыканскім камітэтам вызваленьня народаў СССР

*19.8.58. Villepinte*

*Дарагі Янка,*

*Атрымаў Ваш ліст і мяне перадусім усьцешыла што Вы арганізуеце прыезд у ЗША а. Робэрта. Гэта вельмі важна, каб яго падтрымаць на духу. Ён цяпер пачуваецца асірацелым і было б блага, каб застаўся пры ўражаньні пакінутага, забытага. Чалавек-жа гэты будзе яшчэ нам в. патрэбны і карысны. Я камбіную яшчэ адну зь ім справу, аб якой вам разкажыць як прыедзе да вас. Цяпер ён у Рыме, за 2-ва тыдні, пры павароце; заедзе да мяне і мне будзе в. прыемна яго пацешыць вашым праектам.*

*2) У справе нашых уплываў на грамадзкую апінію палякаў. Гэта адзіны спосаб дабіцца у польскай сэкцыі „Вольнай Эўропы“ перадачаў у бел. мове прынамся 2-3 разы у тыдзень на нейкіх 15 хвілін — хоць бы. Прычым падыход да гэтай справы павінен быць у Вас зусім іншы, як*

[53] Маецца на ўвазе Янка Жытка, выпускнік інжынэрнага факультэту Лювэнскага ўнівэрсытэту, які ў тым часе жыў у Манрэалі (Канада), дзе прапала й вестка пра яго.

*гэта вы мяркуеце. Не пераконываць польскіе палітычные кругі — цэнтр іх і т. п., а дырэктара радыя В. Эўр. — Амэрыканца. Вы пагутарце ў гэтай справе з Dr. Тумашам. Калісь мы будучы зь ім у Dr. Ліхтэна*[54] *абгаварывалі гэту справу, якую між іншага падняў сам Ліхтэн. Ліхтану ж гэту ідэю падаў той сам дырэктар В. Эўр. [Вольнай Эўропы]. Гэта асабісты сябра Ліхтэна (здаецца жыд з паходжаньня). Dr. Тумаша тагды (гэта напярэдадні майго ад'езду з N.Y.) я і прасіў заняцца гэтай справай. Вось жа абрабіце усё спачатку з дырэктарам радыё В. Эўр. праз Ліхтэна (ён вам ахвотна паможа), а потым ужо можна будзе абрабляць некаторых палякаў маючых дачыненьне да Радыё.*

*Між іншага, Чэхі у свой час надавалі аўдыцыі у „карпата рускай" мове, але украінцы пратэставалі ўбачаючы у гэтым чэскі імпэрыялізм. Ня ведаю, ці Чэхі спынілі. Вы ж скажыце потым палякам, што вы пратэставаць ня будзеце, а наадварот будзеце цешыцца, калі палякі выклічуць да сябе сымпатыі беларусаў. Амэрыканцам кажыце, што ў Польшчы жыве 1.200.000 беларусаў, будуць ахвотна слухаць і беларусы БССР, ды на эміграцыі, як станцыю ня так (калі не зусім) глушаную бальшавікамі чым „Вызваленьне".*

*3) Добрая Ваша ідэя перацягнуць у N.Y. Шчэцьку, можа б яго неяк ураталі — прыдаўся б ён вам у выпадку удачы і з радыям у В. Эўр.*

*Не абярэжны Вы вельмі з знаёмым Стася Г. [Грынкевіча]. На якое ліха Вы аб гэтым*[55] *расказываеце і іншым бяз усялякай патрэбы? Тут аб гэтым ужо інфармавалася у нас на паседжаньні мюнхэнскага Сэктару [Рады БНР]! Прыміце гэта сабе добра да ведама.*

*Кажыце што вестка аб маім старшынстве у П. Б. [Парыскім блёку] сустрэта вамі з задаваленьнем. Я ж адылі усётакі каюся і, ня выключана, што недзе пад Новы год (між намі кажучы) узракуся. Прэзыдыум папоўнілі яшчэ большым баластам (Бэрдзі-Муратам)*[56]*. Пачынаем, прыступаем да выданьня нашага Рэвю — дык уяўляеце колькі лішніх клопатаў. Людзі адно лезуць „на становішча", а працаваць даводзіцца зноў вылучнааднаму мне.*

*Камплікуюцца і узаемадачыненьні з Ам. Камітэтам.*

[54] **Д-р Джозэф Ліхтэн** (*Joseph Lichten*), уплывовы дзеяч габрэйскай грамады ў Нью-Ёрку, родам з Польшчы. Спрыяў беларускай нацыянальнай справе.

[55] Аб чым, ня памятаю.

[56] **Аман Бэрдзі-Мурат**, туркестанскі палітычны дзеяч, журналіст, які працаваў у Туркестанскай рэдакцыі радыё „Вызваленьне/Свабода".





*Канфэрэнцыя прыняла рэзалюцыю, і у духу гэнай рэзалюцыі зложаны ўжо „новым" прэзыдыумам мэморандум Ам. Кам., дзе П. [Парыскі] блок дамагаецца: або падпісаньне ўмовы на базе партнёрства і саюзьнікаў між П. Б. і Ам. К. — або мы адыходзім ад супрацоўніцтва.*

*Праўда, пастава такая канфэрэнцыі выклікала як быццам з боку Ам. Кам. (прынамсі тут у Мюнхэне) відавочнае папушчэньне (зьмякчэньне у сваёй актыўнасьці) але, з другога боку, у змаганьні за такія пазыцыі „саюзьніцтва" прыходзіцца падстаўляць лоб мне, бо ж не магу я ў якасьці старшыні дзеяць так як гэта рабіў Лівіцкі*[57] *(віляць на два бакі хвастом) ды як некаторыя робяць таксама і на канфэрэнцыі, паседжаньнях выгалошываюць пагромные на А. К. прамовы, а потым лятуць праз чорны ход віляючы хвосьцікам.*

*Абрыдзеў мне і увесь гэты А. К. [Амэрыканскі камітэт] у цэлым. Вельмі несалідная публіка. З Тэрпакам*[58] *і Кун. [Кунігольмам], калі яны будуць і далей пляткарнічыць, змушаны буду або рубам паставіць справу перад Сержантам*[59] *за іх правакацыі, або проста падам у Амэрыканскі суд. У справе гэтай я пісаў дакладней сп. Мерляку, просячы яго дабіцца згоды Гласкова*[60] *выступіць сьветкам аб тым, што яму гаварылі аба мне у камітэце (падобна Тэрпак). Калі ж Гласкоў ня згодзіцца (што найбольш праўдападобна), то напішу энэргічны пратэст Сержанту. Буду Вам удзячны, калі мне напішыце, як што пачуеце падобнае ад іншых, бо ня думаю, каб Гласкоў абмежыўся перадаць гэную гутарку толькі аднаму Мерляку, ды таксама, каб Тэрпак ці Кун абмежыўся падобнай гутаркай толькі з Гласковым (што Лівіцкаму аплаціў падарожжа Ам. К. у суме 4 500 дал., а мне было аплачана зь нейкіх „іншых крыніц" (!)*

*Уяўляеце што за правакацыя — проста паўтарэньне пісаніны Камітэта Міхайлова*[61]*.*

[57] **Мікола Лівіцкі** (1907—1989), старшыня Ўкраінскай Нацыянальнай Рады на выгнаньні (1967—1989).

[58] **Майкл Тэрпак** (*Michael Terpak*), службовец палітычнага аддзелу Амэрыканскага камітэту вызваленьня ў Нью-Ёрку.

[59] **Гаўланд Сарджэнт** (*Howland H. Sargeant*), былы дыплямат, старшыня (*president*) Амэрыканскага камітэту вызваленьня.

[60] **Васіль Глазкоў**, атаман, лідэр казацкага нацыянальнага руху, жыхар Нью-Ёрку.

[61] Маецца на ўвазе савецкая агентура пад выглядам камітэту „За вяртаньне на Радзіму".



Фрагмэнт ліста Міколы Абрамчыка

*4) У справе фундацыі прэз. Крэчэўскага мне казалі тут некаторые нашы сябры, што удасца сабраць трохі больш фондаў, як мы думалі (на адну трэцю частку больш). Я прасіў іх згаварыцца лепш між сабой. Мне гэта абяцалі і абяцалі за нейкі месяц часу мне дакладней сказаць, што да магчымасьцяў.*

*Тымчасам бывайце здаровенькія.*

*Прывітаньні Вітаўту [Тумашу] і ўсёй Вашай сямейцы.*

*Ваш М. Абрамчык*

*P. S.*

*Не памятаю добра* <u>*хто*</u>*, але нехта зь лювэнцаў пазычыў у мяне, з маёй бібліятэкі манускрыпт Dr. Грыба „Асыміляцыя ці адраджэньне“ і М. Шкялёнка — канспэкт гісторыі Беларусі (прыблізна 50 бач. маш. друку).*

*Ці ня будзеце гэты Вы? Калі так то адашліце мне гэтые матэр’ялы як найхутчэй. Яны мне цяпер патрэбныя.*





## №20. Дзе дзеліся пазычаныя ў Абрамчыка кнігі? Непаразуменьне з арабскамоўнай брашурай пра беларусаў

*Paris, 15.10.1958*

*Пав. Сп. Запруднік,*

*Каля месяцу часу выслаў Вам ліст, у якім, між іншага, было да Вас і пытаньне для мне актуальнае, адносна манускрыпту Шкялёнка — па гісторыі Беларусі. На гэты ліст, на жаль, ад Вас пасёньня не атрымаў адказу. Што сталася?*

*Цікавіць мяне што гэта выйшла і за гісторыя з нашым маніфэстам у арабскай мове?*

*У апошнім сваім лісьце Вы мне пісалі, што тэкст Вам быў дадзены Кунігольмам для мяне быццам, але што гэты экз. Вы выслалі у суправаджаньні артыкулу для „Бацькаўшчыны“, па выкарыстаньні чаго казалі пераслаць з рэдакцыі мне.*

*Пытаўся у Марговіча — адказ — што нічога падобнага ад Вас не атрымалі...*

*Атрымаў затое 5 ex. „гэтага маніфэсту“ ад сп. Мерляка, што яму даў для высылкі мне Кунігольм.*

*Даў тут 1 ex. аднаму свайму знаёмаму арабісту „рэкамэндуючы“ яго як наш маніфэст і вось учора пры спатканьні гэты мой знаёмы азнаёміў мяне дакладна з тэкстам гэтага „нашага маніфэсту“. Аказалася што Кунігольм даў Мерляку нейкую брашуру па-арабску напісаную адным уцекачом з СССР нейкім казахам (ці казакам?) на тэму палітыка СССР па адношаньні нерасейскіх народаў. Аб беларусах у гэтай брашуры гаворыцца наймейш, каб ні сказаць, амаль нічога.*

*Што гэта за фокусы? Памылка Кунігольма, ня тую далі? Ці што іншае? Ды ці не такую далі былі і Вам?*

*Прашу гэта выясьніць і адказаць мне.*

*Што чуваць у Вас наогул, як з фундацыяй.*

*Прывітаньне сям’і.*

*Ваш М. Абрамчык*

### №21. Афармленьне Фундацыі Крэчэўскага. Брашура паарабску пра Беларусь і маніфэст Рады БНР. Васіль Шчэцька ў Нью-Ёрку. Прыезд а. Робэрта ў ЗША

*Нью-Ёрк, 21.10.1958*

*Дарагі Спадар Прэзыдэнт!*

*Выбачце, што зацягнуў з адказам. Грыбавага манускрыпту й Шкялёнкавага канспэкту, на вялікі жаль, у мяне няма, і я іх ніколі ня меў. Магчыма, яны будуць у Паўлюка [Урбана] ці Арэшкі, якія займаліся „ўпарадкоўваньнем“ Вашай бібліятэкі.*

*З арабскімі брашурамі выйшла простая памылка: Мерляку далі ня тое, што належалася. Залучаная тут брашура — гэта запраўдны маніфэст, на пачатку якога зьмешчана кароценькая інфармацыя пра Беларусь і Ваша кароценькая біяграфія. Нядаўна брашуру гэтую прачытаў Бурбель[62]. Казаў, што зроблена ўсё добра, толькі што інфармацыя пра Беларусь узятая зь нейкага слоўніка і ня зусім адпаведная. Я даў Бурбялю ангельскі тэкст маніфэсту і прасіў, каб ён зьверыў з арабскім перакладам. Пра вынікі напішу Вам.*

*Фундацыя Крэчэўскага афармляецца. Адвакат зрабіў першы праект статуту (чартэр), мы зрабілі дапаўненьні-заўвагі, ён іх мусіць адпаведна сфармуляваць і тады, перад тым як канчальна легалізаваць, я прышлю Вам праект статуту з просьбай адразу выказаць Вашу думку. Заснавальнікамі фундацыі будуць тыя, што мы праектавалі, апрача мяне. Я спачатку ўставіў быў сваё прозьвішча, а пасьля ўспомніў, што яно ў мяне яшчэ не легалізавана, а гэта можа закупорыць усю справу й наразіць нас на непатрэбныя кошты. На маё месца згадзіўся ўвайсьці сп. Шукелайць. Я, аднак, займаюся й далей афармленьнем фундацыі.*

*Шчэцька ўжо ў Нью-Ёрку, і мае працу. Я хачу нагаварыць яго пайсьці на бібліятэкарства. Ён згаджаецца. Калі ягоная жонка будзе працаваць, дык грашова ён выцягне.*

*Сяньня напісаў пэру Робэрту ліст-запросіны прыехаць сюды. Адначасна напісаў Жучку[63], каб ён падахвоціў Пэра да падарожжа, бо пісаў мне Цімафейчык, што ягоная жонка бачылася нядаўна з Пэрам і, быццам, ёй Пэр казаў, што ня думае ехаць у ЗША, але грашовую дапамогу ахвотна прыняў бы. Я думаю сабраць у фонд гэтага праекту тысячу даляраў, аплаціць білет і забясьпечыць яму неабходныя выдаткі тут.*

*Жытка таксама казаў, што падумоўвае пераехаць у Нью-Ёрк. Тое самае думае рабіць В. Кіпель.*

*Шмат часу забірае мне рыхтаваньне ў юбілейны зборнік артыкулу да 40-годзьдзя КПБ. Рыхтую таксама матар'ялы ў брашуру да 10-годзьдзя БАЗА. На вясну, калі не дастану стыпэндыі, пайду сваім коштам рабіць дактарат з гісторыі.*

*Зычу Вам і сям'і ўсяго найпамысьнейшага. З глыбокай пашанай*

*Янка З.*

### №22. Фундацыя Крэчэўскага. Артыкул Запрудніка пра КПБ. Станкевічы ў Нью-Ёрку. Беларусы ў савецкім канцлягеры. Смаленскі архіў у Гарвардзе. Пэр Робэрт едзе ў ЗША

*Нью-Ёрк, 19.11.58*

*Дарагі Спадар Прэзыдэнт!*

*Толькі што атрымаў для подпісу заснавальнікамі статут Фундацыі Крэчэўскага. Перасылаю тэрмакопію. Прашу пазнаёміцца з тэкстам і, калі б у Вас былі якія-небудзь праекты паправак ці дапаўненьняў,* прашу адразу ж напісаць, *бо я мушу даваць да подпісу.*

*Рыхтую цяпер у юбілейнае выданьне „Беларускага Зборніка“ артыкул (у сьціснутай форме) пра 40-годзьдзе КПБ. Тэма вельмі цяжкая, нераспрацаваная, але надзвычай цікавая. Шмат мне памагае сп. Адамовіч, сп. Гуткоўскі[64]. Хацелася б перад публікаваньнем артыкулу пазнаёміць і Вас зь ім. Ня ведаю, аднак, ці ўдасца, бо часу мала, а работы яшчэ шмат нязробленае. Быў бы рад пачуць Вашыя агульныя меркаваньні што да самое тэмы.*

*Тут цяпер Станкевічы [Станіслаў і Зінаіда]. Пасяліліся ў тым самым доме, што й Кушалі (побач з Рагулямі[65]). Стась пабудзе тут, відаць, яшчэ пару тыдняў і паедзе назад.*

---

[62] **Густаў Бурбель** (*Gustav Burbiel*), загадчык аддзелу нерасейскіх рэдакцыяў радыё „Вызваленьне/Свабода“ ў Нью-Ёрку, паліглёт.

[63] Янка Жучка (нар. 1925) пасьля заканчэньня інжынэрнага факультэту Лювэнскага ўнівэрсытэту застаўся жыць у Бэльгіі.

[64] Ізыдар Гуткоўскі (раней Плашчынскі, 1908—1986) у той час быў пазаштатным супрацоўнікам Беларускай рэдакцыі радыё „Вызваленьне“ ў Нью-Ёрку, супрацоўнічаў зь мюнхэнскім Інстытутам вывучэньня СССР, дасьледаваў гісторыю БССР і Кампартыі Беларусі.

[65] Маецца на ўвазе сям'я Міхася й Ніны Рагуляў.

*Учора папала мне ў рукі кніга аднаго латыскага аўтара пра канцлягеры ў СССР. Піша, што ў адным з лягероў Воркуты 40% украінцаў, 15% беларусаў і 2% расейцаў. Я буду пра гэта пісаць у „Б-ну“, куды высылаю цяпер рэгулярна штотыдня матар'ялы. Вось дадзеныя пра гэтую кнігу: Adolfs SILDE. The Profits of Slavery. Stockholm, 1958.*

*У Гарвардзкім унівэрсытэце апынуўся смаленскі архіў, захоплены немцамі ў 1941 годзе, вывезены ў Нямеччыну ды забраны пазьней амэрыканцамі. У архіве 200 тысяч розных партыйных актаў 1917—1938 гадоў. Прыпушчаю, што там павінны быць рэчы да гісторыі Беларусі. Буду цікавіцца гэтай справай.*

*Тыдняў пару таму напісаў Пэру аб прапанове прыехаць у Амэрыку. Адказу яшчэ не атрымаў, хоць Жучка пісаў мне, што Пэр зьбіраецца ў дарогу. Пачаў зьбіраць грошы. Хачу назьбіраць тысячу даляраў на білет і на пакрыцьцё галоўных коштаў тут. Калі б Пэр прыехаў, мы стараліся б зрабіць прыняцьце яму й запрасіць бэльгійскага консуля й іншых.*

*ЗБМА [Згуртаваньне Беларускай Моладзі Амэрыкі] бярэцца выдаваць друкаваны часапіс моладзі (20 бач.). Узяўся памагчы ім.*

*Здароўе сям'і добрае. Як Алік маецца? Галіна [Ганчарэнка] казала, што ён недамагаў крышку. Прывітаньні ад нас Ніне.*

*З глыбокай пашанай*

Ваш Янка З.

### №23. Заснаваньне ў Нью-Ёрку фундацыі імя Пётры Крэчэўскага. З князем Васілём Мірскім у Лёндане. Абставіны гібелі Янкі Купалы

25.11.58, Villepinte

*Дарагі Янка,*

*Ваш ліст з 19-га толькі што атрымаў і адразу адказваю. (Рэкамэндаваныя[66] лісты, як бачыце даўжэй ідуць — гэта майце на увеце, калі маеце штось асабліва сьпешнага).*

*Праект гэты, Certificate of incorporation, маглі мне і не пасылаць, бо ж гэта толькі фармальны бок у адносінах амэрыканскай адміністрацыі. Што ж я тут магу дадаць ці паправіць? Вы там на мейсцы лепі ў гэтым арыентуецеся.*

*Я найбольш зацікаўлены, калі будзеце укладаць Статут для нашага нутранага ужытку. Тагды забяру голас, бо я, як і усе Вы, мусім добра уплянаваць з гэтага боку каб набытая маёмасьць і усе каштоўнасьці былі намі загварантаваныя як маёмасьць БНРаўская.*

*Сяньня, у такім складзе дырэкцыя нам і без тога такую гарантыю дае, але ж мы ўсе людзі сьмертныя, і склад з часам можа мяняцца.*

*Так афармляйце пакуль што з чартарам [статутам], каб хутчэй нам атрымаць тое, што абяцанае. Дарэчы мне абяцалі трохі болей, як Вам казаў.*

*Цяпер жа паколькі мне прыслалі гэты Certificate..., то у мяне зьявілася думка ці ня лепей было б яшчэ дадаць імя Захаркі — Kreceuski — Zacharka Foundation Inc. У гэтай справе не абавязкова Вам склікаць нараду нашых усіх дырэктароў. Парайцеся з Тумашам і Адамовічам, калі яны найдуць гэта лепшым, то, думаю, папраўка не вымагацьме, ц. л. [ці лепш] ня зробіць для вас камплікацыяў. Мая думка што гэта было б шмат лепей. Чаму? — Крэчэўскі і Захарка як нашыя гістарычныя постаці у сэнсе іх эквівалентнасьці в. цяжка выдзеліць ступень аднаму перад другім. Другое — паставіўшы — Крэчэўскі-Захарка надаецца нашай фірме больш эфэктыўнасьці палітычнай, як цэласьці БНРаўскай канцэпцыі, і па-трэйцяе разам выкарыстоўваючы аказыю ушаноўваем абодвух роўна заслужаных, роўна ахвярных. Словам, па-мойму, больш справядліва і больш палітычна эфэктоўна. Пагутарце з Dr. Тумашам і сп. Адамовічам.*

*Пры аказыі пару вестак, хоць кораценька, больш напішу сп. Мерляку з Мюнхэну, бо вечарам туды еду на нейкі тыдзень часу.*

*Вось жа ад 1-га да 9-га г. м. я быў з князем Мірскім [Васілём] у Лёндане. Князь меў там добры сукцэс. Выступаў двойчы з дакладам для англічан, раз для беларускай калёніі (дарэчы, добра досыць гутарыў па-беларуску) і ў тэлевізіі. У тэлевізіі яго перакруцілі на „Рускага“ князя, але ён запратэставаў і пагразіў судам за „домаж“[67], зроблены яго палітычнай кар'еры, дык назаўтра далі доўгае выясьненьне з выбачэньнямі, што гэта беларускі, а не расейскі князь.*

*2) <u>Маю абсалютна нязьбітыя доказы</u>, што Купала не пакончыў самагубствам, а быў <u>замардаваны</u> чэкістымі. Прыбыў сюды адзін чалавек які даў гэтыя мне доказы і згадзіўся напісаць з намі прата-*

[66] Рэкамэндаваныя лісты (ад фр. *recommandés*) — заказныя лісты.

[67] ***„Домаж“*** (з фр. *domage*) — шкода.

*кол — для гісторыі — з умовай, што яго ня будзем публікаваць цяпер і у бліжэйшай будучыні, каб ня ўсыпаць там нашых людзей. У нейкай частцы гэту вестку мы ўмовіліся падаць да ведама у „Бацькаўшчыне“. Я яе апрацую сам. У Менску, як і беларускай калёніі ў Маскве, абсалютна пераканаyы, што у труну „Купалы“ паложана іншая ахвяра МВД, а <u>не Купала</u>. Купалу мёртвым <u>ніхто не бачыў</u>. Не паказалі яго нат жонцы — тлумачачы тым, што Купала так зуродаваўся — „валячыся па сходах“ — што МВД вырашыла лепш нікому не паказваць. Пакуль што аб гэтым шырока не гаварыце. Хутка прачытаеце мой артыкул у „Б“ [„Бацькаўшчыне“][68] і ў гэтым духу можаце камэнтаваць толькі. А калі будуць у вас у каго пытаньні да мяне аб гэтым, адкажу лістом, што будзе магчыма. Як бачыце лёс Купалы яшчэ жутчэйшы, чым мы дапускалі.*

*Тымчасам бывайце здаровы. Прывітаньні сп. Адамовічу, Дру. Тумашу і усім дырактарам [фармальным заснавальнікам] нашай фундацыі. Няхай Вам Бог паможа, каб найхутчэй зрэалізаваць гэту так важную для нас справу.*

*Ваш М. Абрамчык*

*P. S.*

*Перадайце к. л. сп. Адамовічу квіт ад нашай Міжнароднай Акадэміі Навук аб заплаце ім сяброўскіх узносаў (у яго аплачана цяпер ад 1951—1961) за 10 год (па аднаму даляру у год). У справе акадэміі я яму і Dr. Тумашу хутка напішу ліст. Зь Мюнхэну.*

## №24. Побыт пэра Робэрта ў ЗША. Дапамога мадрыдзкім радыёперадачам. Мікрафільм „Гоману“. Фундацыя Крэчэўскага. Выдавецкія пляны. Беларускія радыёперадачы ў Нью-Ёрку. Справа дактарату

*Нью-Ёрк, 02.03.59*

*Вельмі Паважаны Спадар Прэзыдэнт!*

*Шчыра дзякую Вам за ліст. Я даўно ўжо зьбіраўся пісаць Вам, але цяжка было справіцца з падсумаваньнем некаторых спраў, пра якія хацелася б даць Вам ужо ўсе весткі.*

[68] У „Бацькаўшчыне“ такога артыкулу не было.





- *Пэр прабыў тут дакладна два месяцы. Кватэраваўся ў мяне, маючы сабе асобны пакойчык. Даглядалі мы тут яго як маглі, і, думаю, із свайго побыту ў Амэрыцы ў яго застануцца як найлепшыя ўражаньні. Прыезд ягоны мае й будзе мець шмат карысных насьледкаў: найважнейшае з усяго — тое, што Лювэн удасца ўтрымаць коштам беларускае моладзі з Амэрыкі. Аб карысных бакох гэтага шмат пісаць ня трэба. Пэр пакінуў таксама колькі вельмі добрых кантактаў, якія цяпер стараюся выкарыстоўваць па розных лініях. Ягоная асоба на некаторых „апазыцыянэраў“ (Кахаyоўскі[69], Лапіцкі[70] з Касяком[71] і інш.) зрабіла раззбройвальны ўплыў, а таксама шмат нашых падтрымала на духу. Думаю таксама, што й сам Пэр адчуў больш кантакту з асяродзьдзем беларускім, чаго яму апошнімі часамі не стае ў Лювэне. Ён маецца адразу ж пасьля свайго прыезду (у дарозе будзе каля 11 дзён, выехаў 22.02) тэлефанаваць Вам, каб дагаварыцца на сустрэчу. З нагоды Пэравага побыту тут маю падрыхтаваны кардыналу Тысэрану ліст[72], які вышлецца з подпісамі кіраўнікоў беларускіх арганізацыяў у ЗША й Канадзе.*
- *У справе мадрыдзкага радыё я гутарыў тут зь сім-тым. Мярляк і Арсеньнева казалі, што Кажан[73] быццам ужо два разы высылаў па сто. Напішу яшчэ да Кажана. Значыцца, ня выслана толькі за люты (хоць, магчыма, і гэта ўжо зроблена). Я ведаю, што тут было крыху толкаў з прычыны таго, што на першыя сто даляраў надта доўга ня было ніякае рэакцыі, і, такім чынам, ня было пэўнасьці, ці яны гэтыя грошы атрымалі (асабліва, што высылаліся яны на нейкі іншы адрас). Я асабліва разумею цяжкасьці палажэньня нашых мадрыдзкіх сяброў, пра гэта гаварыў тут і буду гаварыць, але яны мусяць улічыць Мерлякоў*

[69] Маецца на ўвазе **Аўген Кахаyоўскі** (1912—1987), палітычны й культурны дзеяч, мовазнаўца й гісторык, былы сябра Рады БНР.

[70] Маецца на ўвазе айцец **Мікалай Лапіцкі** (1907—1976), рэлігійны дзеяч, настаяцель царквы сьв. Еўфрасіньні Полацкай (Канстантынопальскі патрыярхат) у горадзе Саўт-Рывэр (Нью-Джэрзі).

[71] Маецца на ўвазе **Іван Касяк** (1909—1989), палітычны й рэлігійны дзеяч.

[72] У справе матэрыяльнай дапамогі беларускім студэнтам Лювэнскага ўнівэрсытэту.

[73] Маецца на ўвазе **Віталь Кажан**, грамадзкі й палітычны дзеяч, сакратар фінансаў у Прэзыдыюме Рады БНР.

*фармалізм і, калі гэта ад іх залежыць, не зацягваць з рэакцыяй на пасыланую ім дапамогу. Казаў мне таксама Мярляк, што нядаўна ён атрымаў ад Стася Ст. [Станкевіча] ліст, у якім гэны піша, што дапамога зь Мюнхэну на добрай дарозе. Гаварыў я на мінулым тыдні з Мартынам*[74] *пра мадрыдзкае радыё. Ён прадбачыць (як і Вы пішаце) цяжкасьці што да дапамогі зь іхнага боку. Я буду пераконваць колькі можна будзе, але адначасна трэба нешта рабіць, каб забясьпечыць лістоўную рэакцыю на мадрыдзкія перадачы прынамся з Польшчы, адкуль лісты можна высылаць. Абяцаю Вам зрабіць максымум высілку, каб памагчы наладзіць нармальныя дачыненьні да справы нашых перадачаў з Мадрыду.*

- *Узяў на сябе выдаваньне „Беларускае Моладзі", зь якое буду старацца зрабіць часапіс беларускае моладзі на эміграцыі. Спадзяюся атрымаць грашовую дапамогу, хоць гэта яшчэ далёка няпэўна. У рыхтаваньні часапісу маю вялікую дапамогу ад Адамовіча.*
- *Быў разам з Пэрам у Кліўлэндзе. Ад Каханоўскага атрымаў дазвол зьмікрафільмаваць тры гадавікі „Гоману"*[75]*. Фатакопію гэтае газэты высылаю Стасю [Станкевічу] ў Інстытут, другую буду мець тут. У газэце шмат цікавага й няведамага матар'ялу, што можна будзе з посьпехам выкарыстаць у „Б-не", радыяперадачах і інстытутах. Мікрафільм газэты пашлю таксама хлопцам у Мадрыд.*
- *Беларускія радыёвыя перадачы ў Нью-Ёрку ідуць нармальна. Выкарыстоўваю для іх літаратурна-музычныя мантажы з „Вызваленьня", што „Вызваленьню" робіць добрую рэкляму й бароніць адначасна наш прэстыж. Матар'яльная база гэтых перадачаў ня зусім устабілізованая, але вось неўзабаве будзем адзначаць першыя ўгодкі існаваньня.*
- *Шчэцька цяпер у Нью-Ёрку. Хачу наладзіць зь ім выдаваньне „Лювэнскіх лістоў" (раз на два-тры месяцы) — абежнік для лювэнцаў, якія ўжо пачынаюць траціць сувязі між сабой. Абежнік будзе выключна для нутранога карыстаньня з навінамі асабістага характару*[76]*. Гэткім чынам, думаю, удасца замацаваць колькі дзясяткаў чалавек, якія рэпрэзэнтуюць сабой пэўны фінансавы патэнцыял, што нядаўна вось выявіў сябе зусім дзейным (Пэраў прыезд каштаваў нам больш за 800 даляраў, з чаго вялікую бальшыню пакрылі „амэрыканскія" лювэнцы). Трэба даць магчымасьць некаторым лювэнцам, якія ня могуць займацца грамадзкай работай (іх, на жаль, шмат) задавольніваць сваё грамадзкае пачуцьцё грашовымі ахвярамі. Абмяркоўваў тут з Пэрам справу выданьня лювэнскага альманаху — зборніка (па-ангельску), у якім зьбяруцца ўсе дадзеныя пра 10 гадоў дзейнасьці беларускага студэнцкага асяродку ў Лювэне. Словам, тут праектаў можа быць шмат.*
- *Некалькі чалавек (магчыма, шасьцёх) нашае моладзі (амэрыканскіх грамадзянаў) паедуць, магчыма, на венскі фэстываль, што мае адбыцца ў канцы ліпеня й пачатку жнівеня сёлета. Справа гэтая пакуль што ў маіх руках. Гэта дае мне цяпер магчымасьць шукаць грашовае дапамогі на часапіс БМ [„Беларуская Моладзь"], каб забясьпечыць беларускіх удзельнікаў належнай літаратурай.*
- *Пазнаёміўся нядаўна з асобай, пра якую пісаў калісьці С. Г. [Станіслаў Грынкевіч]. Вельмі цікавы чалавек і поўнасьцяй наш. Гэтае знаёмства можа даць нам добрыя вынікі. […]*
- *Фундацыя Крэчэўскага неспадзявана зацягнулася, але ўсе фармальнасьці дабягаюць да канца. Сяньня выслаў яшчэ біяграфічныя матар'ялы, якія здолеў знайсьці пра Крэчэўскага. Запатрабваў гэта судзьдзя перад тым, як даць канчальны дазвол. Спадзяюся, што за тыдзень-два ўсё будзе кончана.*
- *На сваёй працы я стараюся перавесьціся поўнасьцяй на радыё (да гэтага часу працаваў для Пэча*[77]*, палавіну, па лініі моладзі). Гэта мне дазволіць больш займацца беларусікай і, спадзяюся, выкамбіную крыху часу на дактарат, якога вясной пачаць не ўдалося, а які мушу за ўсякую цану пачаць на восень, прабуючы знайсьці ў міжчасе стыпэндыю (магчыма, па Пэравых сьлядох).*

*Дзеці гадуюцца памаленьку. Трэба было б зьмяніць як-небудзь кватэру, але ўсё неяк часу не магу знайсьці паважна заняцца гэтым. На лета давядзецца, відаць, выправіць сям'ю на фарму, каб ня гібець у бруклінскай духаце.*

[74] **Мартын**, амэрыканскі ўрадавы службовец.

[75] Газэта „Гоман" выходзіла ў Вільні ў 1916—1918 гг.

[76] „Лювэнскія лісты" так і засталіся ў праекце.

[77] Маецца на ўвазе праца ў Аддзеле адмысловых праектаў (*Special Projects Division*).

*Зычу Вам усяго найлепшага. Вітайце Ніну. Як Альгерд маецца? Ніначка зь Верай пасылаюць яму сваю здымку, спадзяючыся на ўзаемнасьць. Добрага здароўя ўсім вам!*

*З глыбокай пашанай Ваш*

*Янка*

### №25. Засноўваньне фундацыі імя Пётры Крэчэўскага

*9.V.59. Villepinte*

*Паважаны Сп. Запруднік,*

*Як стаіць справа у вас з фундацыяй Крэчэўскага? Адкажыце калі ласка мне да 23 траўня. Мне гэта вельмі важна ведаць.*

1) *Ці ужо аформлена усё у судзе, ц. н. [ці не] легалізавана ваша новая установа?*
2) *Ці сабралі вы запраектаваную на гэта намі суму падчас майго побыту у вас, ці большую за яе, як мне некаторыя нашыя тут сябры сугэравалі.*

*Прашу не зацягваць на гэта з адказам, бо я буду ад 25 да 31 траўня у Мюнхэне й мяне нашыя сябры заўсёды пытаюць як стаіць, і дзе мы знайходзімся у данным выпадку з гэтай фундацыяй.*

*Штосьці занатта у вас зацягнулася.*

*З пашанай Ваш М. Абрамчык*

### №26. Канчальная легалізацыя Фундацыі Пётры Крэчэўскага, падзел кіроўных функцыяў

*Нью-Ёрк, 28.05.59*

*Дарагі Спадар Прэзыдэнт!*

*Толькі што меў гутарку з адвакатам Дж. Мічэлам. Фундацыя Крэчэўскага ўрэшце легалізаваная. Цяпер засталося наладзіць яшчэ сустрэчу закладчыкаў з адвакатам, дзе адбудзецца маленькая фармальнасьць афіцыйнага заснаваньня й перадачы дакумэнтаў. Трэба будзе зрабіць гэта дзесьці на пачатку наступнага тыдня. Гэты „ўікэнд“ пойдзе на кангрэс БАЗА. З шасьцёх закладнікаў [заснавальнікаў] Фундацыі, кажа адвакат, дастаткова, калі зьбяруцца чатырох (гэта будуць, відаць, сп.сп. Адамовіч, Тумаш, Мерляк і сп-ня Арсенева або сп. Шукелайць — у залежнасьці, каму будзе лягчэй адлучыцца на абед). З закладнікаў („дырэктары“) давядзецца стварыць і кіраўніцтва Фундацыі: старшыня, заступнік, сакратар і скарбнік (магчыма, трэба будзе яшчэ пятую асобу для лішкі). Хто з закладнікаў возьме на сябе кажную з функцыяў, высьвятліцца пасьля гутарак міжсобку. Думаю, што далейшая справа Фундацыі пойдзе гэтак жа памысна, як і дасюль, за выняткам зацяжкі, што была спрычыненая не ад нас залежнымі прычынамі.*

*Зычу Вам усяго найлепшага!*

*З глыбокай пашанай*

*Я. Запруднік*





### №27. Чутнасьць беларускіх радыёперадачаў з Мадрыду. Фінансавыя цяжкасьці ўтрымоўваньня іх; адмоўная роля Кастуся Мерляка

*Villepinte, 6.07.1959*

*Дарагі Янка,*

*Справу, што Вам тут прадстаўляю, прашу заладзіць як мага хутчэй, ды іменна <u>так, як прашу</u>. Як пабачыце са зьместу 2ве справы мусілі быць ужо заладжаны пры найменшым два тыдні перад тым, на жаль, якраз перад двума тыднямі звалілася на мяне дый на жонку і Аліка нейкая хвароба што вось толькі перад пару днямі я пачынаю вычуховываць, а жонка з Алікам яшчэ хворыя (ляжаць у ложку).*

*А справы гэтыя вось такія:*

*1) <u>Мадрыцкая радыя</u>. У гэтай справе Вы часткова ў курсе. Два гады мы дабіваліся ад гішпанскага ураду нашых перадачаў, ад 8 сьнежня г. г. яны перадаюцца[78] . Я асабіста уважаю мадрыцкія перадачы аднымі з найлепшых нашых 3х перадачаў, бо калі „Вызваленьне“ мае для нас значэньне больш сымбалічнае, як і радыё Ватыканскае, дык мадрыцкае пранамсе ў нейкіх 30% — практычнае, бо нягледзячы на падобнае ж шалёнае глушэньне яго (як і Вызваленьня) ў 30—40% перадач мадрыцкага радыё — <u>чуваць</u>. У Эўропе нашы ўсе яго слухаюць. Маем весткі з Зах. Беларусі (з Польшчы), што гэта адзіныя нашы перадачы, што чуваць. Сакрэт здаецца ў тым, што бальшавікі польскіх перадач з*

[78] Гл. рэдакцыйны артыкул: Новы беларускі голас у эфіры // Бацькаўшчына. №3 (439). 18 студзеня 1959. С. 1.

*Мадрыта зусім ня глушаць, а нашыя перадачы на мілімэтр суседзяць з польскімі. Таму бывае часамі так, што нашыя перадачы амаль у цэлай праграме праскакваюць чысьцюсенька (без глушэньня), глушэньне саскаківае на польскія перадачы — часамі на нашыя.*

*2-ое, што важнае, што перадачы нашы у Мадрыце не падлягаюць ніякай цэнзуры — і зьместам таму яны больш для нас важнейшыя, як „Вызваленьне", зышоўшае цяпер на „Свабоду", — не гаворачы ужо пра Ватыканскае.*

*З матэр'яльнага боку затое справа м. [мадрыдзкіх] перадачаў прадстаўляецца так, што калі яго не падтрымаюць нашы з Амэрыкі — змушаны будзем іх ліквідаваць.*

*Пры распачацці перадачаў, з Сурвілам*[79] *і Сянкевічам*[80] *я дагаварыўся — што забесьпечым ім мінімум існаваньня. Мушу зусім аб'ектыўна сьцьвердзіць, што хлопцы гэтыя выказалі максімум ахвярнасьці, беззаганную дагэтуль паслухмянасьць у нацыянальнай дысцыпліне.*

*У маіх жа плянах я разьмяркоўваў так:*

*1) Як можна й колькі можна даўжэй уласнымі сродкамі утрымаць гэтых 2х хлопцаў.*

*2) Шукаць затым нейкай пабочнай помачы ці з боку Амэрыканцаў ці Ватыкану — і я пераканаHы, калі б мы нейкі час вытрымалі самі — то й тую б (з боку) помач з часам атрымалі б.*

*Мне удалося было дагаварыцца, што аднога супрацоўніка будуць утрымліваць нашыя беларусы зь Мюнхэну — у разьмеры 400 DM у месяц (гэта мінімум для існаваньня аднога па цяперашнім цэнам Мадрыта). Другога — нашыя з Амэрыкі 100 дал. у месяц. Удалося было атрымаць згоду й ад нашых прыяцеляў Ам. на ухваленьне бюджэта гадавой помачы у разьмеры 4 тыс. дал. Вось жа здавалася усё шчасьліва разьвязана. На жаль, прыяцелі нашыя пазьней мне заявілі, што ўхвалу сваю на помач 4.000 яны анулявалі па няведамых мне прычынах, а нашыя з Амэрыкі свае забавязаньні на памогу 100 д. месячна не выпаўняюць. Адны сродкі пакуль што засталіся — мюнхэнскія 400 DM. Той факт што беларусы N.Y. — адмаўляюцца памагаць — выклікае нэгатыўную рэакцыю і ў Мюнхэне. Зрэшты нашага аднога Мюнхэна сытуацыі зусім не разьвязвае.*

[79] Янка Сурвіла (1925—1997), у той час студэнт эканамічнага факультэту ў Мадрыдзе, працаўнік Беларускай рэдакцыі Гішпанскага радыё.

[80] Віктар Сянкевіч (нар. 1926), у той час працаўнік Беларускай рэдакцыі Гішпанскага радыё.





*Напісаў быў ліст Мерляку, каб прынамсі нейкі час выконвалі свае забавязаньні й выслалі ўсю залежнасьць па 100 д. у месяц, але ад Мерляка атрымаў такі ліст, што запраўды й адказваць яму не падымаецца рука — коратка: ён мне заяўляе: грошы няма, а няма іх па маёй віне, бо я падкуражыў „царкоўнікаў" сваімі да іх пануканьнямі — а царкоўнікі забіраюць усе сродкі эміграцыі нашай у ЗША.*

*3) Ён Мерляк — уважае што мадрыцкае радыё могуць утрымаць бел. у Эўропе — таму ён прынцыпова й катэгарычна будзе процi пасылкі грошы для Мадрыта — ня менш дзівоснага атрымаў ліста ад Уладыкі В. [Васіля]. Ён мне пішыць, што Урад БНР паставіў сабе мэтай разбурыць Б.А.П.Ц — і дамагаецца майго шчырага прызнаньня, ці гэта па маёй ініцыятыве, ці толькі з маёй згодай.*

*Абодвум, безумоўна, адкажу й зьбіраюся адказаць, як ніколі яшчэ ім не пісаў — для Вас гэта успомніў, каб Вы добра сабе ўявілі, а разам з гэтым і зразумелі чаму зьвяртаюся у справе М. Радыё да Вас іменна, а не па лініі ураду афіцыяльна.*

*Да Вас зьвяртаюся, па-першае, як асобы, якая найлепі ўсьведамляе сабе працу радыё, а па-другое, як асобы, што бліска стаіцё да Dr. V. T. [Тумаша] і Антося [Адамовіча], і з гэтымі людзьмі мо дапаможыце мне часова уратаваць справу М. Радыё. А далі — будзем глядзець.*

*Цяпер пераходжу да канкрэтнага:*

*1) Угаварыце Dr. V. T., каб ён згадзіўся пад маю гварантыю пазычыць 427 Даляраў, зь якіх папрашу Вас адразу ж (калі можна нат заўтра) выставіць чэкі на наступныя імя і пераслаць іх на наступныя адрэсы.*

*a) Чэк на 100 Дал. (звычайны чэк) на імя прафэсара Victor BUESCU. Avenida dos Estados Unidos. Lote 368, 7°D. Lisbonne, Portugal.*

*b) 3-ры чэкі па 100 дал. і адзін на 27 (можа для акругленьня на 30 дал.) як травэлс чэкі на імя J. Survilla і выслаць іх усе (гэтые 4-ры) на адрыс Сурвілы з разьлікам, што ён іх атрымае там да 12 ліпеня, а калі не зможа да гэтага часу атрымаць іх там, то тагды перашліце іх на мой адрыс.*

*Як гэтыя грошы будуць зьвернуты Dr. Тумашу паясьню у наступным лісьце, бо цяпер в. сьпішаюся ухапіць выслаць гэты ліст.*

*2) Сп. Адамовічу перадайце, калі ласка, каб ён на паседжаньні ураду — зрабіў уплыў на рэшту сяброў, каб прыабяцаную суму дапамогі, па 100 д. для Мадрыта — высылалі, і выслалі усю задоўжанасьць — бо начы мы змушаны будзем зачыніць там (у М. нашы перадачы). Зварот гэты мой да сп. Адамовіча перадайце як прыватны*

*зварот, бо афіцыяльна мусіў бы пісаць доўгі ліст — на што не маю, у зьвяску з так сьпешнасьцю справы — часу.*

*А прыватна не патрабую доўга і тлумачыць яму (А.) бо ён і бяз таго в. добра арыентуецца што да магчымасьці „тэй Эўропы“, пра якую пішыць Мерляк.*

*Ліст гэты можаце даць прачытаць Dr. V. T. і сп. А.*

*Тымчасам бывайце, і паўторываю, што б там не было, пазычайце грошы, якіх прашу, калі ня у V. T. [Вітаўта Тумаша], то у каго хочаце, на поўную маю адказнасьць і вышліце іх гэтак жа* <u>без адкладна,</u> *як прашу.*

*Ваш М. Абрамчык*

## №28. Спыненьне грашовае дапамогі газэце „Бацькаўшчына“

*Нью-Ёрк, 10.УІІ.59*

*Дарагі Спадар Прэзыдэнт!*

*Учора зусім неспадзявана пазваніў да мяне Макар*[81]*. Увечары я меў зь ім сустрэчу. Гутарка была пра „Б-ну“ [газэту „Бацькаўшчына“]. Справа выглядае вельмі блага, і трэба рыхтавацца да таго, што далей выданьне давядзецца цягнуць сваімі сіламі. Ня ведаю, ці папераджаў ён Вас аб гэтым. Як выглядае, мы апынуліся ў фазе палітыкі, дзе стаўка ставіцца на „старэйшага брата“ коштам усіх іншых. Вельмі сумна, на жаль — рэальна. Я пра гэта нікому нічога, бо мае быць афіцыйнае паведамленьне (магчыма, якраз як Вы будзеце ў Мюнхэне на канфэрэнцыі). М. казаў, што змагаўся, як мог. У панядзелак-аўторак (13—14) пытаньне мае канчальна разьвязацца (паводле М., 5% шансаў на пазытыўную разьвязку).*

*Вы, бадай, ад сябе напішаце ўжо ў Мюнхэн, каб там не рабілі ніякіх лішніх выдаткаў ды рыхтаваліся хіба да пераходу на месячнік.*

*Фундацыя Крэчэўскага афармленая (як я ўжо Вам пісаў крыху). Пераказ [грошай] яшчэ ня зроблены, але гэта, хіба, вонках усякае загрозы.*

*Зычу Вам усяго найлепшага!*

*З глыбокай пашанай*
*Я. Запруднік*

[81] **Макар**, амэрыканскі ўрадавы службовец.





## №29. Грошы на дапамогу беларускім радыёперадачам з Мадрыду

*Нью-Ёрк, 14.УІІ.59*

*Дарагі Спадар Прэзыдэнт!*

*[...] Учора бачыўся з Тумашам. Сяньня ў абед еду па фармуляры для двух подпісаў, а ўвечары йзноў буду бачыцца з Тумашам. Такім чынам, толькі заўтра здолею выслаць Вам прошаную суму.*

*Адамовіч казаў, што Кажан меўся штосьці высылаць на мадрыдзкае радыё. Гэтымі днямі буду бачыцца зь Мерляком, дык пастараюся давесьці яму аб важнасьці ўтрыманьня гэтае пазыцыі.*

*Зычу ўсім вам найлепшага здароўя!*

*З глыбокай пашанай*
*Я. Запруднік*

## №30. Дапамога Абрамчыкаваму пляменьніку, Колі Абрамчыку, пры пераезьдзе з Францыі ў Нью-Ёрк

*25.VII.59. Munchen*

*Дарагі Янка,*

*маю да Вас чыста прыватную справу.*

*21-га жніўня мой пляменьнік Коля выежджае ў Амэрыку на стала з сваёй сям'ёй (жонкай і дачкой 5 месяц.)*

*З Havr'a ён выежджае 21-га параплавам Unaited State, у N. Y. будзе дзесь каля 26 жніўня.*

*Ён прасіў мяне, каб яму прыблізна к дню прыезду знайсьці дзесь на Брукліне кватэру — зразумела памагчымасьці найтаньнейшую, вось кшталтам нешта як мелі на Jerssi Ave Данюлюкі [Данілюкі].*

*З свайго боку прасіў бы Вас дапамагчы яму знайсьці пазычку грашыма, пакуль ён знойдзе працу. За пазычку яму я паручаюся поўнасьцю, бо, як ведаеце, гэта салідны і добры хлопец. Было бы добра каб яго нехта спаткаў у порце.*

*Ваш М. Абрамчык*

*P. S.*

*Зь Мюнхэна я вярнуся у Парыж 5-га жніўня. Ваш ліст у справе мовы чытаў — будзем радзіцца з Адамовічам.*

## №31. Пераезд Абрамчыкавага пляменьніка з Францыі ў Нью-Ёрк. Пытаньне фінансавай дапамогі газэце „Бацькаўшчына“ ды беларускім радыёперадачам з Мадрыду

*Villepinte 22.VIII.59*

*Дарагі Янка,*

*20 г. м. выехаў у Амэрыку мой пляменьнік Коля — параплавам „United State“, гэтым жа параплавам будзе ехаць і сп. Адамовіч. Параплаў прыбудзе ў N. Y. дзесь у панядзелак вечарам ці аўторак. Спадзяюся, што нехта яго (пляменьніка майго) спаткае, а Вы пакуль ён знойдзе працу — яму дапаможыце заапекавацца.*

*Прашу напісаць мне як там стаяць справы у Мартына-Макара? Як Вас канчальна паінфармавалі аб „Бац.“?*

*Ці атрымалі Вы матэр'ялы ад мяне (з жыцьцёпісам Янкі [Сурвілы] і Гэнрыка[82] ) адносна мадрыцкага радыё — ці перадалі Вы іх і што Вам на гэта сказалі?*

*Тут у справе „Бац.“ маўчаць. Ідзе быццам пастарому? Не падымаў гэтага пытаньня і я будучы апошні раз у Мюнхэне (сьведама да прыезду сюды Макара).*

*З мадрыцкім радыё — блага. На аднэй помачы, што даюць нашы мюнхэнаўцы 400 DM, перадачаў нашых мы не ўтрымаем. Калі не здабудзем 300 даляраў на месяц — то перадачы змушаны будзем зьліквідаваць. Будзе гэта в. шкода, бо столькі дабіваліся, да тога перадачы мадрыцкіе 10 раз больш вартыя для нас, як гэта наша „Свабода“ — якая зусім зыходзіць на „псы“.*

*Дзе цяпер „стаіце“ з фундацыяй Крэчэўскага?*

*Будзьце ласкавы мяне аб усім гэтым паінфармаваць.*

*Ваш М. Абрамчык*

*P. S.*

*Фатаграфію сваю Альгэрд, у рэванш Вашым дочкам, хутка прышле.*

*Прывітаньне жонцы ад усіх нас.*

[82] Мікола Абрамчык памылкова напісаў „Гэнрык“, маючы на ўвазе Віктара Сянкевіча.





## №32. Фінансавы крызіс зь беларускімі радыёперадачамі з Мадрыду

*Villepinte, 08.09.1959*

*Дарагі Янка,*

*Надовячы Сенькевіч праяжджаючы з Мадрыту ў Лёндан затрымаўся быў у мяне і мы на нова перадыскутавалі сытуацыю нашых перадачаў у Мадрыце, якую я перад тыдням да таго таксама грунтоўна перадыскутаваў з сп. Сурвілам, які гасьціў тут 5 дзён у зьвязку з сваім шлюбам (ён ажаніўся з дачкой Шыманца Івонкай[83] ).*

*Сурвіла з жонкай вярнуліся ў Мадрыт, а Сенькевіч вярнуўся у Лёндан.*

*Як вам вядома сытуацыя фінансавая там такая, што дагэтуль рэгулярна і в. акуратна пасылаецца ім 400 DM зь Мюнхэну (штомесячна), а дакляраванай сумы зь Ньюёрку (100 дал месячна) яны перасталі атрымліваць ад траўня месяца (за травень імі атрымана 50 дал.)*

*Дагэтуль я увесь час настоіваў, каб яны трымаліся там за ўсялякую цану, і таму 350 дал. пазычалася пры маім пасярэдніцтве (як вам ведама), каб яны маглі сплаціць доўг за машыны. Абяцаў ім таксама ужываць усіх сілаў і гэтым самым абнадзеіваў, што Амэрыка наша урэгулюе ім сваю задоўжанасьць (згодна забавязаньня пасылаць па 100 д. месячна) ці нат што зь Нью-Ёрку ім вернуць задоўжанасьць ад паловы мая і далей будуць пасылаць рэгулярна.*

*На гэткіх умовах яны былі пагадзіліся прадоўжываць працу, хоць умовы гэтыя запраўды больш, чым скромные, каб не сказаць мізэрные. (400 н. м. гэта роўна* <u>*на аплату толькі*</u> *абодвум кватэр (*<u>*я гэта праверыў*</u>*, бо кватэры у Мадрыце шалёна дарагія* <u>*для нова*</u> *шукаючых, асабліва чужынцам), а 100 даляраў мела б ім быць для 2х на пражыцьце. Гэта безумоўна мізэрна.*

*Я рабіў на іх ціск заставацца таму, што мадрыцкае радыё зьяўляецца для нас запраўды нашым „органам“ (органам БНР нічым не абмежаваным) і дзякуючы разуменьню і патрыятызму абодвух гэтых хлапцоў — яны там заставаліся.*

*Цяпер жа мы прыходзім да скрайняга мамэнту, дзе у бліжэйшых 2х тыднях справа м. радыё мусіць канчальна вырашыцца — або яго утрымаем, або закрываем.*

[83] Пазьнейшая старшыня Рады БНР Івонка Сурвіла.

*Утрымаем, калі Нью-Ёрк прынамсі выпаўніць свае заабавязаньні (верне задоўжанась і далей будзе рэгулярна пасылаць па 100 д. м.).*

*Закрываем, калі Нью-Ёрк адмовіцца (як гэта было дэ факто дагэтуль) ад свае Мадрыту помачы.*

*Дакладней гутарачы „не закрываем“, а разваліваем гэту справу у такі спосаб, што Сенькевіч з Мадрыту*[84] *ня вернецца, бо ня будзе мець за што там жыць, таму застаецца і уладжваецца на стала у Англіі, дзе яго жонка.*

*Сурвіла, якому цяпер пакінуў на пражыцьцё на 2-ва тыдні максімум Сенькевіч сваіх грошы, пазычаных у свае жонкі з Англіі, — таксама кідае Мадрыт і пераежджае на правінцыю (у Гішпаніі), дзе яму суляць працу у нейкай эканамічна статыстычнай установе.*

*Вы можыце задаць мне пытаньне, чаму аб гэтым пішу Вам, а не адрэсуюся да нашага ураду? Вось жа найперш: да ураду пісаў у гэтай справе 2-ва разы. На першы ліст меў адказ ад сп. Мерляка, дзе ён мне адказаў — проста, што няма грошы. На другі ліст, высланы праз майго пляменьніка Колю — я шчэ не атрымаў адказу, а справа, як бачыце, больш, чым пякуча, патрабуе ратаваць нашы там перадачы.*

*Да Вас таму зьвяртаюся дадаткова як чалавека, якому найлепей зразумелы ўмовы працы ў радыё (найлепш зразумееце, што праца 2х асоб над праграмай 15 хв. штодзенна ужо вымагае ахвярнасьці ад гэтых людзей, на места якіх у нашых умовах мы ня знойдзем нікога, каб іх замяніць, а па-другое, Вам таксама, як пазьней выехаўшаму з Эўропы, больш зразумела, што на 100 ам. дал. жыць у Эўропе, гэта не заработкі — а мізэрнае існаваньне).*

*Дзеля гэтага вось і зьвяртаюся яшчэ і да Вас дадаткова з просьбай зрэфэраваць гэту справу нашаму Сакратарыяту — ураду — пераканаць іх зрабіць высілкі каб усё ж такі зьбіраць і пасылаць гэтых мізэрных хоць 100 дал. Рэгулярна, пакуль мо з часам ня знойдзецца якісь іншы выхад, і каб не дапусьціць да так скандальнага правалу безцэнзурных нашых штодзенных перадачаў, якія слухаюцца ў Беларусі і чуюцца у 80—90% прынамсі лепш, чым гэтае, здэгэнэраванае, „Свабода“.*

*Ваш*

*М. Абрамчык*

[84] Трэба чытаць: „да Мадрыду“, або „ў Мадрыд“.





*P.S.*

*Сьцісла асабіста для Вас і др. Вітаўта [Тумаша].*

*Пішучы Вам ліст гэты — я меў на ўвеце, каб яго маглі даць прачытаць і сябрам нашага ураду, таму не падымаў у ім пытаньня, аб якім будзе рэч вось тут.*

*Вось жа даражэнькія, як бачыце, сытуацыя такая, што калі за дзён 8—10 (ад сяньняшняй даты) Сурвіла не атрымае тэй задоўжанасьці зь Нью-Ёрку (350 дал.) ён пакідае Мадрыт — а Сенькевіч не вяртае зь Лёндану (бо ў разьліку на гэтую задоўжанасьць яны жылі там у крэдыт, і калі яго там не сплацяць, не дадуць ім на павер прадуктаў).*

*Я даў слова Сурвілу і Сенькевічу, што гэту задоўжанасьць 350 д. яны атрымаюць за нейкі тыдзень (што я спаганю з Нью-Ёрку).*

*З такой умовай Сурвіла цяпер чакае гэтых грошы, а Сенькевіч, атрымаўшы ад мяне такое запэўненьне — будзе таксама вяртацца зь Лёндану у Мадрыт негдзе за тыдзень часу.*

*Няма таму інакшага выхаду, як узяць яшчэ з нашага зялезнага рэзэрву 350 дал. і зараз жа выслаць чэкам на Сурвілу па наступнаму адрысу:*

*Janka Survilla (не llo, а lla; як вы раней пісалі памылкова)*
*Santa Cruz de Mercenado 4/6-A*
*Madryd*

*Між намі будзем рахаваць гэта як пазыку нашаму ураду — і будзем старацца, каб яе калісь вярнуць, але калі не удасца — то гэта не разходзіцца з мэтай нашага зялезнага фонду — бо запраўды мадрыцкія перадачы мы ліквідаваць ня можам — мусім іх утрымаць за ўсялякую цану.*

*Далей націсьніце з Dr. Вітаўтам, каб нашыя тараканы усё ж такі зьбіралі і пасылалі далей рэгулярна прынамсі гэтых дакляраваных 100 д. месячна і рэгулярна.*

*Сардэчныя прывітаньні вам абаім.*

*Ваш М. Абрамчык*

### №33. Хрушчоў у Нью-Ёрку. Грошы ў Мадрыд. Фундацыя Крэчэўскага

*Нью-Ёрк, 23.IX.59*

*Дарагі Спадар Прэзыдэнт!*

*Ад часу, як у Амэрыку прыехаў Хрушчоў, працаваць даводзіцца па 12—15 гадзінаў штодня, уключна з сыботамі й нядзелямі. Штодня мушу высылаць у Мюнхэн па два рэпартажы і дзеля гэтага вельмі мала часу меў на іншыя справы.*

*Сяньня выслаў у Мадрыд прошанае Вамі. Кораценька паведамляю аб гэтым Я. Сурвілу.*

*Сурвілаву справаздачу, што Вы мне прыслалі, я адразу ж перадаў па назначэньню. Нядаўна бачыўся з М-а [Макара] сябрам (вышэйшы), і ён казаў мне, што з „Крэчэўскім“ усё будзе зроблена, як меркавалася. [...]*

*Дайжэй напішу, калі можна будзе крыху адсапціся ад навалы працы.*

*Зычу Вам усяго найлепшага. Вітаньні цэлай сям'і.*

*З глыбокай пашанай.*

*Я. Запруднік*

### №34. Памерла маці Антона Адамовіча. Вітаўт Кіпель уладзіўся на працу ў Нью-Ёрскай публічнай бібліятэцы, Васіль Шчэцька — у бібліятэцы Калюмбійскага ўнівэрсытэту

*Нью-Ёрк, 20.X.59*

*Дарагі Спадар Прэзыдэнт!*

*Пішу вельмі кораценька, бо сьпяшаюся.*

*Пазаўчора памерла маці Адамовіча. Сяньня ўвечары а. Чарняўскі адслужыць паніхіду, заўтра паховіны. Памерла нябожчыца раптоўна, бяз болю, так, як паміраюць людзі, што пражылі сваё жыцьцё.*

*На мінулым тыдні меў ліст ад М. [Макара]. Пісаў, што справа пераказу [грошай на Фундацыю Пётры Крэчэўскага] ў дарозе і скора будзе аформлена.*

*У мяне нічога асаблівага. Рыхтую цяпер №4 „Беларускае Моладзі“.*





*Малады Кіпель уладзіўся на сталую працу ў Славянскім аддзеле Публічнае Бібліятэкі і робіць там вельмі карысную справу. Ён жа ўладзіў Шчэцьку ў бібліятэцы Калюмбійскага ўнівэрсытэту, дзе Шчэцька будзе весьці сэкцыю савецкіх пэрыядычных выданьняў.*

*Зычу Вам усяго найлепшага!*

*Ваш*

*Янка З.*

### №35. Праект адзначэньня 40-х угодкаў Слуцкага паўстаньня. Кружэлка зь беларускімі песьнямі

*Нью-Ёрк, 26.X.59*

*Дарагі Спадар Прэзыдэнт!*

*Гэтымі днямі ў нас тут насьпеў адзін праект адзначэньня ўгодкаў Слуцкага паўстаньня. Хачу падзяліцца з Вамі гэтай ідэяй.*

*Год ад лістапада 1959 да лістапада 1960 трэба было б абвесьціць „Годам Слуцкага Паўстаньня“, каб гэтым падрыхтаваць належнае сьвяткаваньне 40-х угодкаў падзеі. На працягу гэтага году трэба было б правесьці збор грошай на выданьне адмысловага альманаху, у які ўвайшло б усё, што зьвязана із Слуцкім паўстаньнем. А матар'ялу можна назьбіраць вельмі шмат і вельмі цікавага (можна было б нат зьвярнуцца да нашых паэтаў і кампазытараў з прапановай напісаць колькі песьняў на тэму гэтага геройскага чыну). Збор грошай праводзіўся б у форме продажу юбілейных марак. Акцыю гэтага збору магла б узяцца праводзіць моладзь [...]. Зроблена гэта было б такім чынам, што галоўнае кіраўніцтва ЗБМА [Згуртаваньня беларускай моладзі Амэрыкі] зьвярнулася б у галоўную кватэру беларускіх камбатантаў з мэмарыялам і прасіла б абвесьціць на сьвяткаваньні 39-х угодкаў „Год Слуцкага Паўстаньня“. Генэрал Кушаль, які будзе чытаць рэфэрат на Слуцкай акадэміі, мэмарыял гэты прачытаў бы ўголас, і аклямацыя магла б стацца свайго роду афіцыйным грамадзкім зацьверджаньнем. Усё гэта можна было б пасьля праз „Б-ну“ абвесьціць цэлай эміграцыі й заклікаць беларускае грамадзтва да збору грошай. Такім чынам, да 40-х угодкаў Паўстаньня мы маглі б мець прыгожае выданьне з дакумэнтацыяй вялікае падзеі нашае гісторыі.*

*Я гутарыў на гэтую тэму з рознымі людзьмі, і праект гэты знайшоў у іх поўнае падтрыманьне. Мяне цікавіць Ваш пагляд на гэта.*

*Нядаўна ў Нью-Ёрку, у выдавецтве „Монітор“, выйшла кружэлка з 16 беларускімі песьнямі, найгранымі на йстужку ў Менску й прывезенымі сюды аднэй камэрцыйнай фірмай. У агульным калекцыя песьняў добрая. Выданьне кружэлкі прыгожа афармленае. Фірма „Монітор“ зьвярнулася да нас з просьбай аб інфармацыі пра Беларусь, і тое, што зьмешчанае на кардоннай капэрце, у якой 1000 штук разыйдуцца на сьвеце, адпавядае аб'ектыўнай праўдзе. Правільна таксама пададзеная транскрыпцыя беларускіх прозьвішчаў і назоваў песьняў. Калі гэтая кружэлка знойдзе свайго пакупніка, буду прабаваць тады намовіць „Монітор“ выдаць лювэнскія песьні гэткім жа спосабам.*

*Др. Вярбіцкі*[85] *, які сёлета меўся ехаць у складзе ўрадавае амэрыканскае дэлегацыі наведаць СССР, нікуды ня езьдзіў, бо цэлае падарожжа адкладзенае да наступнага году.*

*Сям'я маецца добра. Дзяўчаты чакаюць на Алікаву здымку. Зычым усім вам усяго найлепшага!*

*З глыбокай пашанай*

*Янка З.*

## №36. Урад БНР адмовіўся падтрымваць грашыма беларускія радыёперадачы з Мадрыду. Пошукі выйсьця

*Villepinte, 28.X.59*

*Дарагі Янка,*

*Атрымаў толькі што Ваш ліст (праект аб 40 г. Сл. паўст. [40-я ўгодкі Слуцкага паўстаньня]) (перад тыднем меў паведам. аб сьмерці маткі Адамовіча).*

*Што да праекту — безумоўна ідэя добрая і я вітаю. Але ў данны мамэнт у мяне больш актуальнейшая справа — што набірае в. непрыемнага абароту, каб не сказаць магчымага скандальнага канца. Гэта справа нашых перадачаў у Мадрыце.*

*Вас калісь прасіў умешацца і узьдзейнічываць у справе фінансавай сталай дапамогі з Амэрыкі — аб гэтым ні ўводным лісьце Вы нічога не згадываеце.*

---

[85] Маецца на ўвазе **Аўген Вярбіцкі** (1922—1986), беларускі навуковец, грамадзкі й палітычны дзеяч.





*Затое атрыманы на днях ліст ад Кажана — што урад БНР адмаўляецца ад прынятых, калісь, на сябе абавязкаў пасылаць туды (у Мадрыд) 100 д. месячна і аб гэтым паведаміў Сурвілу.*

*Сытуацыя укладаецца таму так што 2—3.XI — мусілі б спыніць перадачы, бо Сурвіла і Сенькевіч пастаўлены ў такія ўмовы, што не заплацяць за кватэры (а кожны плаціць па 50 дал. у месяц) іх выкідаюць з кватэр, не гаворачы ўжо аб тым, што людзі не маюць з чаго жыць.*

*Я манюся таму беззапасрэдне ад свайго імя зьвярнуцца з адозвай да усіх беларускіх асяродкаў, бо то запраўды скандальна, калі чытаеш, што на цантральнае атапленьне дому-царквы на заклік а. Данілюка сабралі за адзін раз з прысутных на сходцы 750 дал., калі купляе адна нью-браўсінская [нью-брансўікаўская] калёнія могілкі за 14.000 дал. — царква у Клівэн [Кліўлэндзе] зьбірае на ўтрыманьне свайго сьвятара 500 д. у месяц — на радыёперадачы у Мадрыце (думку аб якім Вы маю ведаеце) ня могуць з цэлай Амэрыкі пасылаць рэгулярна месячна прынамсе 150 д.*

*Закрываць гэтыя перадачы гэта запраўды крымінальны учынак з нашага боку. Гэта запраўды найбольшым сукцэсам было б бальшавікоў.*

*Я напісаў Сурвілу каб неяк яшчэ затрымаўся — і пісаў яму, што я яшчэ запазычаю праз Вас 200 дал. — на тымчасовае яго ўтрыманьне зь Сенькевічам.*

*Прашу таму Вас безадкло [безадкладна] выслаць Сурвілу на яго новы адрас*

*Santa Cruz de Mercenado 4/6 A., Madrid*

*200 даляраў — з тыхсама фондаў, што высылалі яму дагэтуль —*

*Прывітаньне сямейцы.*

*М. Абарамчык*

## №37. Пра недастатковую паінфармаванасьць аб беларускіх радыёперадачах з Мадрыду. Фундацыя Крэчэўскага. Сьведчаньні перад сэнацкай камісіяй у Вашынгтоне. Сьмерць д-ра Аляксандра Орсы

*Нью-Ёрк, 10.XI.59*

*Вельмі Паважаны Спадар Прэзыдэнт!*

*На тэму беларускіх радыяперадачаў з Мадрыду я гаварыў тут шмат і шмат з кім. Важнасьць гэтае пляцоўкі я поўнасьцяй разумею і ведаю таксама, якія вялікія цяжкасьці нашыя хлопцы мусяць пера-*

*адольваць, каб гэтыя перадачы весьці. Калі гутару тут на гэтую тэму зь сябрамі Рады [БНР], кажны згаджаецца з маімі паглядамі. Ёсьць, аднак, адна вялікая цяжкасьць, што вельмі перашкаджае добраму наладжаньню справы (я ўжо не гавару пра нястачу грошай у касе БНР). Цяжкасьць гэтая — гэта тое, што ніхто ня ведае нічога дакладнейшага пра самыя перадачы. З гутарак я вычуў, што ў людзей трэба усяліць веру ў справу й тады дамагацца ад іх фінансавага падтрыманьня яе. Тымчасам гэтая свайго роду „рэкляма“ мадрыдзкім перадачам была дасюль поўнасьцяй занядбаная. У „Бацькаўшчыне“, прыкладам, апрача весткі, што перадачы пачаліся, за адзінаццаць месяцаў не зьявілася ніводнага слова. Ведама, што Янку й Віцю цяжка даводзіцца. Аднак, калі яны ўкладаюць высілак у напісаньне скрыпту (якога, дарэчы, нельга перадаць праз радыё „Свабода“), дык ужо не павінна быць цяжка копію гэтага скрыпту пасласць у „Бацькаўшчыну“ для інфармацыі грамадзтва, ад якога лягчэй тады дастаць дапамогу. Я, прыкладам, часта напісаны для радыё скрыпт перарабляю на артыкул у „Б-ну“. Нашым у Мадрыдзе ня трэба перарабляць ці дапаўняць: яны маюць поўную свабоду бараніць справу незалежнасьці Беларусі, і вельмі важна, каб эміграцыйнае грамадзтва пра гэта ведала. Я, барані Божа, не апраўдваю становішча, занятага Сакратарыятам БНР, але адчуваю адначасна, што мае аргумэнты не нагэтулькі важкія, наколькі яны маглі б быць, калі б справа прапаганды мадрыдзкіх радыяперадачаў была належна пастаўленая. Той факт, што на ацяпленьне ці пабудову царквы зьбіраюць паважныя сумы, не ратуе сытуацыі, бо звычайна людзі даюць на тое, што <u>яны</u> ўважаюць за найбольш неабходнае. А ёсьць і гэткія, якія даюць на царкоўныя справы, а ні цэнта не дадуць на палітычныя. Мадрыдзкія радыяперадачы маглі б быць падтрымваныя ня толькі з касы БНР, часткова іх можна было б пакрываць з адмыслова створанага фонду (прынамся я так думаю), але тады трэба было б больш разрэклямаваць зьмест радыяперадачаў. Я ня маю беспасярэдняга ўплыву на пастановы Сакратарыяту БНР, але й надалей буду падтрымваць наладжаньне сталай дапамогі тае вялікае й самаахвярнае працы, якую вядуць у Мадрыдзе Сянкевіч і Сурвіла. Прошаная Вамі сума высланая.*

*Зычу Вам усяго найлепшага й застаюся з глыбокай пашанай*

*Ваш Я. Запруднік*





*П.С.*

*Затрымаўся крыху з адказам на Ваш ліст, бо хацеў скантактавацца з М. [Макарам], якога пару тыдняў ня было на месцы. Учора гаварыў зь ім. Казаў ён, што з „Крэч.“ [Фундацыяй Крэчэўскага] усё добра, справа ў прынцыпе разьвязаная й чакае на апошнюю фармальнасьць. [...]*

*Учора др. Тумаш, Шукелайць і Мярляк езьдзілі ў Вашынгтон сьведчыць перад сэнацкай камісіяй у справе народагубства на Беларусі. Брашура зь іхнымі сьведчаньнямі выйдзе неўзабаве.*

*2-га лістапада памёр ад атаку сэрца др. А. Орса*[86] *. Пахавіны былі вельмі ўрачыстыя на беларускім могільніку каля Саўт-Рывэру.*

*Я зьбіраюся брацца за пісаньне нарысу гісторыі Беларусі. Пішу Вам пра гэта, бо да Вас могуць дайсьці скаргі, што я адыйшоў ад грамадзкае працы.*

*Калі ўважаеце патрэбным, вышліце ў Мадрыд копію майго ліста.*

## №38. Архіў БНР немагчыма цалкам перавезьці ў Амэрыку. Утварылася каардынацыйная камісія Парыскага Блёку й Амэрыканскага Камітэту. Скандал з Уладзімерам Гіцкім (Дудзіцкім)

*Paris, 2.I.1960*

*В. Паважаны сп. Запруднік,*

*Абодвые Вашы лісты (праз Цьвірку і дома) атрымаў, дзякую. Вашую просьбу пастараюся часткова выканаць, але ня так, як гэта Вы сабе ўяўляеце: каб узяў частку архіву з сабой. Справа гэта досыць скамплікавана. Архіў з сябе прадстаўляе цэласьць, а выбраць, што Вам патрэбна, гэта не абы якая праца. Да пэўнай меры гэта цэлая студыя. Як прыеду пагутарым, спадзяюся, што ў пэўнай меры змагу Вам дапамагчы. Арыгіналаў Вам некулькі прывязу, каб Вашыя прафэсары акцэптавалі Вашу тэзу, а далей умовімся. Бяда ў тым, што наразе не магу, у такім стане, перавесьці у Амэрыку усё.*

*Я вылету ў Амэрыку дзесь каля 16-га, а мо нат і 20 лютага. Затрымаўся з тае прычыны што Ам. камітэт згадзіўся на наш праект (праект Пар. блоку) у выніку чаго творыцца каардынацыйная камі-*

[86] **Аляксандар Орса** (1896—1959), колішні дырэктар Беларускай гімназіі імя Янкі Купалы ў Заходняй Нямеччыне, культурны й палітычны дзеяч.

*сія кантакту з 3-х прадстаўнікоў Лігі і 3-х Амэр. камітэту. Ад Лігі (П. б.) выбраны я, Цынцадзэ*[87] *і Кантэмір*[88]*, а ад амэрыканцаў: Дрэгэр, Фрыдрэксэн і Мэсі*[89]*. Першае паседжаньне гэтага новага органу вызначана на 12 лютага. Орган гэты мае каардынаваць і накіроўваць працу супольнага змаганьня з бальшавізмам. Няведама як пойдзе гэта усё, але спрабаваць „варта грэху". Зразумела калі каардынаваньне і у гэтай камісіі пойдзе так, як Ам. К-т „каардынуе" з намі справу з Гіцкім, учапіўшыся за яго полы, то тагды пойдзе ўсё тэй дарогай як пайшоў Левіцкі.*

*У справе Гіцкага я пісаў дакладней (учора) сп. Адамовічу. Агулам жа „Мюнхэн" спасылаецца, што вырашаць будзе N. York, дапускаю што N.Y. будзе спасылацца на Мюнхэн. Але як бы яны не круцілі, я тут катэгарычна і рашуча заявіў убраць гэтага авантурніка*[90] *і ўсё. Калі яны яго не убяруць, зразумела нага мая ня зможа пераступіць у далейшым парогу Ам. К-ту, а то не з маёй, як Вам ведама, віны. Трэба, каб нашы у N.Y. таксама гэта заявілі у вас — амэрыканцам. Тагды яны ня будуць круціць, адны на другіх спасылацца. Апошні тэрмін, калі яны маюць вымавіць Гіцкаму — <u>19-га лютага</u>.*

*Да Мюнхэну я еду 10-га лютага. Добра будзе, як што да гэтага часу мне чыркніце пару словаў, які поступ і што мяркуюць рабіць з Гіцкім у вас у N.Y. амэрыканцы.*

*Тымчасам бывайце здаровенькі.*

*Прывітаньні ўсей сямейцы —*

*Ваш М. Абрамчык*

*P. S.*

*Буду Вам в. удзячны, калі Вы зможыце мне дастаць і прыслаць экзэмпляр расейскай газэты „Русская Жизнь" №4420, за 1949 г. аб якой была мова ў „Бацькаўшчыне" №5. Гэта мне <u>вельмі прыдасца</u> к паседжаньню з Амэрыканцамі на якое еду 10 лютага.*

[87] **Цынцадзэ** (*N. K. Tsinsadze*), грузінскі палітык, меншавік, удзельнік рэвалюцыі 1917 г., лідэр грузінскіх незалежнікаў у эміграцыі, актыўны дзеяч Парыскага блёку.

[88] **Кантэмір**, прадстаўнік туркестанскага палітычнага цэнтру.

[89] **Дрэгэр, Фрыдрэксэн** і **Мэсі**, усе трох — на кіроўных пазыцыях у Амэрыканскім камітэце вызваленьня.

[90] Уладзімер Гіцкі (Дудзіцкі) некалькі разоў у нецьвярозым стане аскандальваўся ў публічных месцах.





## №39. Грашовы разьлік з Аляксандрам Лашуком. Авантура Ўладзімера Гіцкага. Просьба аб дакумэнтах з архіву Рады БНР

*Нью-Ёрк, 22.I.1960*

*Дарагі Спадар Прэзыдэнт!*

*Даведаўся ад дзядзькі Антося [Адамовіча], што сяньня Вы выяжджаеце ў Мюнхэн. У сувязі з тым, што Вы цяпер там, хацеў бы папрасіць Вас даведацца, як стаіць справа з разьлікам з Лашуком*[91]*. Шырэй пра гэта Вас можа паінфармаваць Цьвірка, якому я пару разоў пісаў пра гэта. Тут коратка: у 1952 годзе (калі не памыляюся) на просьбу Барыса [Рагулі] Лашук зрабіў перапіс беларускае эміграцыі ў Ангельшчыне. Гэта яму каштавала колькідзесят фунтаў собскімі грашыма, якіх ён да гэтага часу не атрымаў назад. Здарылася гэта, здаецца, па тэй прычыне, што выдатак гэты ня быў своечасова ўстаўлены ў бюджэт. Факт, аднак, застаецца, што Лашуку вінаваты грошы. Дасюль ён ніяк ня мог спагнаць іх. Ён пагражае цяпер усю гэтую справу перадаць у сяброўскі суд Рады [БНР], калі яна ня будзе заладжана пазытыўна. Цьвірка якраз меў дачыненьні з Лашуком у 1952 годзе і дзеля гэтага яму павінны быць ведамыя ўсе дэталі справы. Я ўважаю, што (калі нельга аднекуль інакш) доўг павінен быў бы быць сплачаны з фонду „Б-ны" [выдавецтва „Бацькаўшчыны"].*

*Мне вядома, што ў справе Гіцкага пісаў палітычнаму аддзелу таксама Бурбель мэмарыял, заяўляючы, што штучныя перашкоды, твораныя Гіцкім, разбурылі супрацоўніцтва радыё „Свабода" з усімі актуальнымі й патэнцыяльнымі аўтарамі скрыптаў у Амэрыцы. Заява гэтая набірае тым большага значэньня, што Мюнхэн увесь час дамагаецца больш матар'ялаў адсюль — што, аднак, ня можа быць зроблена, бо людзі ня хочуць супрацоўнічаць з рэдакцыяй, на чале якое стаіць закончаны авантурыст у сэньсе палітычным і маральным.*

*Я запісаўся на дактарат на Ньюёркаўскім ўнівэрсытэце. Канчальнага адказу што да прыняцьця яшчэ ня маю, але спадзяюся мець яго на наступным тыдні. Спадзяюся таксама, што мой будучы прафэсар-дараднік згодзіцца на тэму „Беларусь у часе Першае сусьвет-*

[91] **Аляксандар Лашук** (1909—1997), беларускі грамадзкі дзеяч, жыў у Лёндане, доўгагадовы старшыня сэктару Рады БНР у Вялікабрытаніі, вёў картатэку беларускіх эмігрантаў на Захадзе, займаўся кальпартажам беларускай прэсы.

*нае вайны“ (1914—1921). Як бачыце, у гэтыя рамкі ўваходзіць таксама пэрыяд тварэньня БНР, і ўжо цяпер мушу думаць пра дакумэнтаваньне сваіх тэзаў. Для мяне пытаньне матар’ялаў — вельмі важная справа. Сёе-тоё, пэўна ж, я буду мець тут у Нью-Ёрку, але ці ня мог бы я выкарыстаць што-небудзь з Вашых архіўных матар’ялаў, і калі так, дык ці не маглі б Вы прывезьці з сабой самае галоўнае. Узяць гэта Вы маглі б, магчыма, у асабісты багаж (той, што трымаецца пры сабе). Дакумэнты гэтыя можна было б і пакінуць тут на перахаваньне, бо як-ніяк тут хіба ж бясьпечней, чымся ў Вільпінт*[92] .

*Зычу Вам усяго найлепшага!*

*З глыбокай пашанай*
*Ваш Я. Запруднік*

### №40. Намер рабіць дактарат з гісторыі. Просьба аб дакумэнтах з архіву Рады БНР

*Нью-Ёрк, 26.I.1960*

*Дарагі Спадар Прэзыдэнт!*

*Учора быў у д-ра Ліхтэна. Магчыма, буду браць ягоны курс, што ён выкладае на Ньюёрскім унівэрсытэце. Прабую таксама пры ягонай дапамозе знайсьці дзе-небудзь стыпэндыю, безь якое мне давядзецца вельмі цяжка. Гаварыў яму, што спадзяюся атрымаць ад Вас колькі арыгінальных дакумэнтаў для свае дысэртацыі. Ён кажа, што гэта вельмі важна, бо без арыгінальных дакумэнтаў будзе цяжка дабіцца згоды прафэсара прыняць маю тэму „Беларусь у часе Першай сусьветнай вайны (1914—1921)“. Дый нат незалежна ад гэтага, трэба было б нам апублікаваць тую каштоўную гістарычную спадчыну, якую Вы перахоўваеце. Таму я яшчэ раз зварачаюся да Вас з гарачай просьбай прывезьці з сабой усё, што можна. Калі б у Вас набіралася багажу больш, чымся гэта можна браць на рахунак білету, дык кошты перавозкі вярнуліся б Вам, бо гэта ж неабходная справа. Можна было б таксама, арыгіналы пакідаючы ў Францыі, прывезьці сюды фатакопіі, але ня думаю, каб у Вас на гэта знайшлося часу. Я буду спадзявацца на Вас і, калі ў міжчасе давядзецца гутарыць з прафэсарам на тэму дысэртацыі, буду цьвердзіць, што да свае тэзы маю арыгінальныя неапублікаваныя дакумэнты.*

*Шчасьлівага падарожжа Вам і найлепшыя зычэньні сям’і.*

*З глыбокай пашанай*
*Ваш Я. Запруднік*

[92] Прывезеныя мне Міколам Абрамчыкам дакумэнты былі апублікаваныя: Запруднік, Я. Да загадкі Дзяржаўнага Архіву БНР у Міколы Абрамчыка // Запісы БІНіМ. №32. Нью-Ёрк—Менск, 2009. С. 450—475.





### №41. Абурэньне ўчынкам Мерляка. Паўторная просьба аб дакумэнтах з архіву Рады БНР

*Нью-Ёрк, 15.02.1960*

*Дарагі Спадар Прэзыдэнт!*

*Газэты для Вас мне дастаць не ўдалося. Ня ведаю, ці гэты ліст застане Вас яшчэ на месцы, але на ўсялякі выпадак пасылаю.*

*Учора быў у мяне Коля [Абрамчык, пляменьнік]. Ён так абурыўся Мерляковым выступленьнем у „Укр. Віст.“, што ня ўстрымаўся, каб ня выпіць. У бок Мерляка ён выказвае самыя рашучыя пагрозы і, як выглядае ўжо, ня ён адзін мае гэткі настрой. Ад мяне ён званіў таксама сп-ні Арсеньневай (хочучы пагутарыць з ген. Кушалем); Кушаля дома ня было, дык Коля выліў свае пачуцьці Арсеньневай. Дзеля таго, што Арсеньнева заняла абараняльную пазыцыю ў дачыненьні да Мерляка, дык дасталося крыху і ёй ад Колі. Між іншага, ён заводзіць у сябе тэлефон і купляе канапу, каб Вы маглі затрымацца ў яго (вывад, што Вы жадалі б затрымацца ў яго, ён зрабіў на аснове Вашага апошняга ліста да яго). Прасіў мяне й Адамовіча даць Вам тэлеграму пра гэта, але мне здаецца, што лепш было б аб гэтым напісаць у лісьце.*

*Яшчэ раз настойліва прашу Вас прывезьці з сабой усё, што можна з бэнэраўскіх архіваў. Калі ў іх трэба рабіць цэлую студыю, як Вы пішаце, дык я гэта зраблю. Прафэсар на маю тэму згадзіўся. Я яму сказаў, што спадзяюся мець арыгінальныя дакумэнты да праблемы нацыянальнае рэвалюцыі на Беларусі. Ён вельмі задаволены з гэтага. Такім парадкам, я буду мець магчымасьць дакумэнтальна абгрунтаваць у сваёй дысэртацыі тыя падзеі, на насьвятленьні якіх усім нам ня можа не залежаць. Спадзяюся, што Вы падтрымаеце мяне ў гэтых намерах.*

*З глыбокай пашанай*
*Ваш Я. Запруднік*

## №42. Патрэбная пільная грашовая дапамога беларускім перадачам мадрыдзкага радыё. Эпідэмія грыпу затрымала ад'езд Міколы Абрамчыка ў ЗША. Справа аскандаленага Ўладзімера Гіцкага

*27.2.60. Villepinte*

*Дарагі Янка,*

*Па атрыманьні гэтага лісту, прашу Вас безатkладна выслаць Сурвілу тэлеграфічна 100 даляраў. Учора яны мне тэлефанавалі, што хлопцаў выкінуць з кватэры, як што не заплацяць 1-га сакавіка. Хлопцы сядзяць у даўгох, бо зразумела на 400 DM, што ім шлюць зь Мюнхэну, выжыць 2ве сям'і ня могуць. Я іх прасіў трымацца за ўсякую цану да майго прыезду і пабыту у Амэрыцы. Мадрыцкае Радыё нам трэба ратаваць за ўсякую цану. Вышліце з сваіх грошы, а задоўжанасьць заладзіцца пазьней.*

*Я вярнуўся зь Мюнхэну толькі надовечы і пачаў быў спаковывацца да ад'езду ў Амэрыку. Меўся вылецець 5-га сакавіка. Затармазіла мой ад'езд раптоўна, тут пашыраная, эпідэмія грыпы, аб якой вы пэўна чулі, і ад якой не удалося ўнікнуць і мне. Мае мясцовыя лекары, аднак, лічылі, што я магу ехаць, але прыежжы доктар-прафэсар, найбольшы аўтарытэт у гэтай эпідэміі — Захараў, катэгарычна прыпісываў мяне палажыць у клініку на тыдні 3-ры. Учора якраз меў я найбольшую дыскусію з маімі лекарамі. У прынцыпе дагаварыліся мы, што я усё ж такі у клініку не паеду, хоць папраўдзе кажучы, нейкі час я вагаўся, ці не паслухацца рады маіх лекароў, бо вельмі прываблівымі былі умовы лячэньня, запраўды можна было аддыхнуць. Прапанавалі курорт 1-й клясы і т. п.... Але чорт зь імі... Валтузаніна аднак гэта затрымае мой да вас вылят на нейкія 3—4 дні, але вылету да вас напэўна, бо як ведаеце розным эпідэміям я, дзякуй Богу, не так лёгка паддаюся.*

*У справе гісторыі зь Гіцкім, валакіта ня скончана. Гіцкаму прыказана „рэгабілітавацца" ў беларусаў. Будзьце таму абярэжные і папярэдзьце сп. Адамовіча і увесь наш сакратарыят, каб ніхто яму не адказываў на яго (Гіцкага) лісты, калі б ён часам да вас зьвяртаўся, як таксама стрымацца з адказам на ліст Ам. К-ту зь Мюнхэна да Сакратарыяту Рады, у якім Ам. К-т будзе прасіць абаргумэнтаваных доказаў, чаму мы ня хочам Гіцкага. Пачакаць з усім гэтым да майго прыезду.*





*Вашы абодва лісты атрымаў, пастараюся зрабіць усё магчымае.*

*Ваш М. Абрамчык*

*Адрыс Сурвілы:*
*J. Survilla*
*Santas Cruiz de Mercenado 4/6-A*
*Madrid*

## №43. Патрэба высьветліць паходжаньне ліста з Мардовіі (перасланага Міколу Абрамчыку Кастусём Мерляком) і справу дапамогі Цімоху Вострыкаву[93], вязьню ў савецкім лягеры

*Вільпант 31.8.60*

*Дарагі Янка,*

*Пасылаю Вам тут ліст Мерляка і копію майго яму адказу. Як бачыце вестка в. цікавая. Яе аднак трэба уважна дасьледзіць ці не правакацыя гэта бальшавікоў? Цікава устанавіць, хто гэта і чый ён знаёмы, што прыслаў ліст з Мардовіі і каму ён прыслаў той ліст у Саўт-Рывэр? Гэта усё в. важна знаць Вам. Калі запраўды дадзеныя гэныя акажуцца пераконлівымі, то трэба будзе неяк уплысьці Вам, прынамсі праз Набагэса[94], каб уся гэная „пачка" улучна зь Мерляком не трапалі языкамі, а наогул пакіраваць гэтай справай так, каб Мерляк і яго кумпанія не займаліся гэтай справай. Патрэбна дзеля гэтага Вам як найхутчэй пабачыць Набагэса, даведацца ад яго найбольш дэталяў і выклікаць, як найхутчэй, да сябе тога знаёмага, што маеце ад мяне тэлефон.*

*Ваш М. Абрамчык*

[93] Цімоха Вострыкава (1922—2007), былога студэнта Лювэнскага ўнівэрсытэту, у 1952 г. у супрацоўніцтве з амэрыканцамі закінулі з самалёта ў Беларусь, дзе яго арыштавалі. Адбыў 23 гады пакараньня ў канцлягерах.

[94] Маецца на ўвазе Ўладзімер Набагез (нар. 1919), выпускнік мэдычнага факультэту Лювэнскага ўнівэрсытэту, доктар мэдыцыны, які ў той час жыў у Злучаных Штатах.

<u>*Копія лісту Мерляка да мяне.*</u>
*22 жніўня 1960*

*Вельмі Пав. сп. Старшыня:*

*Адзін із знаёмых*[95] *у Мардовіі (Сібір) прыслаў ліст і фотаздымку на якой разам з ім ёсьць сп. Міхась Вострыкаў, і ён піша пару слоў. Гэта пацьвердзіў др. Набагэс, які і напісаў пару слоў, як да калегі. Гэты ліст быў прысланы у Саўт-Рывэр.*

*У сувязі з гэтым я думаю, што трэба паведаміць тых людзей, якія займаліся справай, каб яны ведалі, гэта адно, а другое, трэба сарганізаваць яму сталую дапамогу, г. з. высылаць рэгулярна жыры і цёплую вопратку, бо у гэтым ён нуждаецца, так піша, адзеньня ім ня трэба, бо яны маюць заключонных.*

*Тутака ўжо сабралі грошы на пачатак, але гэта, я думаю, нядобра, бо людзі сталі гаварыць, а некаторыя дамагаюцца, што сталася з страхоўкай.*

*Я асабіста парыкамэндаваў, каб з дапамогай ды аб тым, што ён прыслаў ліст, былі ціха да пэўнага часу. Ані лісты, ані пасылка ня йдуць беспасрэдна, а толькі пасрэдна перш на Беларусь, а потым перасылаецца далей.*

*На маю думку, тыя людзі маюць маральны абавязак цяперака дапамагчы чалавеку у патрэбе рэгулярна, а мы тутака спосаб знойдзем нават праз Беларуска-Амэрыканскую дапамогу.*

*Зазначаю што гэта справа важная з боку палітычнага і пільная, якую трэба палагодзіць бязадкладна й належна.*

*З пашанай К. Мерляк*

*(З тону лісту Мерляка самі зразумееце, чаго яму хочацца — М. А.)*

<u>*Копія майго адказу Мерляку*</u>

*В. П. сп. Мерляк. Ваш ліст атрымаў, дзякую. Вестка в. цікавая і адносна пацешальная. Будзьце абярэжны толькі, каб не было тут нейкай правакацыі. Уся гэта справа в. далікатная, абходзіцца зь ёй трэба в. асьцярожна, не гарачыцца, асабліва не дапускаць да шырокага кругу. Вы добра зрабілі, што рэкамэндавалі <u>быць ціха</u>, разбрэшуць і ўсё пагубяць, ня помач, а немач зробяць, самі ведаеце, як разьвіта сетка бальшавіцкай агентуры.*

*Пры палітычнай жа наіўнасьці нашых людзёў гэта асабліва небясьпечна. Доказам гэтага ужо хоць бы гутаркі, як пішаце, аб „страхоўцы“ зачэрпанай з пашквілю бальшавіцкага „Квадрат 52“*[96]*.*

*Калі ж хто запраўды дабра жадае там тым хлопцам, то найлепі зробяць, калі будуць маўчаць.*

*Вам раю паінфармаваць у гэтай справе сп. Запрудніка. Ён як блізкі па школе калега Вострыкава зможа найлепі зарыентавацца ці у тым лісьце не маем якога подступу з боку бальшавікоў. Было б в. добра, каб прыслалі копію таго лісту мне. З свайго боку я прадпрыму адпаведные крокі.*

*З пашанай М. Абрамчык*

*P.S.*

*Я зьбіраюся прыехаць у N. Y. у пачатку лютага месяца.*

## №44. Просьба выдрукаваць і разаслаць дэлегацыям ААН „Апэль“ Парыскага блёку напярэдадні прамовы Нікіты Хрушчова

*Paris 15.9.60*

*Дарагі Янка,*

*Пасылаю тут Вам тэкст „Апэлю“ Лігі (П. блока) да дэлегацыяў А. Н. і прашу Вас зрабіць мне наступныя:*

*1. Адпячатаваць яго ў экзэмплярах 200.*

*2. Узяць адрэсы у Амэрыканскім Камітэце (лепш кажучы) назовы дэлегацыяў у А. Н. — асабліва новапрынятые Афро-Азыяцкіе народы і выслаць кожнай з дэлегацыяў (за выключэньнем савец. і сатэліцкіх дэлегац.) па аднаму экзампляру гэтага Апэлю. Рэшту выслаць у галаўнейшыя Ам. газэты. Частку дасьцё Мерляку, каб ён іх пашыраў ад Кантактнай Камісіі Пар. Блёку.*

[95] Паводле словаў Вітаўта Кіпеля (06.02.2009), ліст у Саўт-Рывэр прыслаў Груцько (бацька Галіны Харавец), які адбываў пакараньне за службу ў Беларускай Краёвай Абароне. Вострыкаў у Заходняй Нямеччыне быў на вясельлі Галіны, калі яна выходзіла за Хараўца. Галіна выслала бацьку здымак зь вясельля. Гэты здымак Груцько паказаў Вострыкаву, і той пазнаў на ім сябе. На гэтым грунце ў іх завязалася знаёмства.
Кастусь Мерляк Кіпелю нічога пра гэту справу не гаварыў. Яны ніколі не былі блізкія адзін з адным.

[96] **„Квадрат Б-52“**, гэтак загалоўленая савецкая аповесьць пра чатырох беларускіх дэсантнікаў, закінутых амэрыканцамі ў Беларусь у 1952 г.

*3. Надрукаваць — папрасіце ад майго імя Тэрпака (на іх рататы), калі ж бы з Камітэтам нічога ня выйшла, то тагды надрукуйце у украінскай ці амэрыканскай якойсь друкарні (звычайным друкам). Вазьміце ад іх рахунак, і рахунак пачтовых выдаткаў, прышліце мне і яго Вам аплачу (так мы тут умовіліся з Цэнцадзэ). Лепш зразумела уладзіцца неяк у Ам. Камітэту.*

*Вы пэўна на мяне будзеце гневацца, што марную Вас лішняй працай, але я выхаду інакшага ня маю. Меўся усё гэта зрабіць у Парыжу, але нічога ня выйшла. Пасылаць жа Мерляку, гэтаму „Люмумбу“, самі ведаеце, ня варта. Я ўжо раз так зрабіў быў і ён мне толькі папсуў.*

*Прашу Вас зрабіць усё гэта безадкладна, каб Апэль наш папаў прынамсі не пазьней серады дзесь у разгар дыскусіі па выступленьні Хрушчова.*

*Прышліце мне пару экзэмпляраў.*

*Ваш М. Абрамчык*

## №45. Ці быў разасланы Заклік Лігі вызваленьня народаў СССР (Парыскага блёку) дэлегацыям ААН? Канфэрэнцыя Лігі ў Мюнхэне

*Villepinte 19.10.60*

*Дарагі Янка,*

*У сваім апошнім лісьце я Вас прасіў прыслаць мне з пару экзэмпляраў перабітага Вамі нашага Заклiку (зак. Лігі) дэлегацыям А. Н. Але Вы гэтага не зрабілі, як роўна ж не адказалі, ці перадалі Вы нашым знаёмым вестку аб лісьце з Калымы?*

*24-га г. м. у нас адчыняецца канфэрэнцыя Лігі ў Мюнхэне. Я буду ў Мюнхэне ўжо 22-га. Прашу выслаць 2—3 копіі гэнага адбітку Заклiку на адрыс Галіны Ганчарэнкі. Мне гэта патрэбна да маёй справаздачы аб дзейнасьці Прэзыдыума. Цікава мне, якім спосабам Вы гэны заклік пашыралі?*

*Ці Вы далі адпаведную колькасьць „Кантактнай камісіі“ для распаўсюджваньня яго? Ад Мерляка я меў ліст, у якім ён якраз папракае, што мы (прэзыдыум Лігі) абыйшлі іх (кан. [кантактную] Камісію).*

*Ваш М. Абрамчык*





## №46. Зварот Парыскага блёку да Гамэршыльда. Віншавальная тэлеграма прэзыдэнту Айзэнгаўэру. Пытаньне савецкага каляніялізму

*Нью-Ёрк, 19.X.60*

*Дарагі Спадар Прэзыдэнт!*

*Сяньня ўвечары на вадаплаве „Кўін Элізабэт“ сп. Адамовіч выяжджае ў Мюнхэн на канфэрэнцыю. 24-га ён спадзяецца быць у Шэрбургу, а праездам праз Парыж хацеў бы спаткацца з Вамі. У Нью-Ёрк ён мае вярнуцца 8-га лістапада і ў той жа дзень прагаласуе за Ніксана.*

*Зварот Парыскага Блёку й ліст да Гамаршыльда былі высланыя своечасова, хоць заданьне гэтае звалілася на мяне ў найгоршы час, бо ў часе побыту тут Хрушчова я мусіў высылаць па два рэпартажы дзённа, а гэта значыць працаваць па 15 гадзін уключна з сыботамі й нядзелямі. Ратапарныя копіі Гамэршыльдавага ліста парассылаў таксама ўсім дэлегацыям у ЗН [Задзіночаных Нацыях] ды ў прэсавыя органы, акрэдытаваныя пры ЗН. Між іншага, абодва праекты, асабліва ангельскі, давялося выпраўляць ад памылак. Пасылаю Вам для архіву па экзэмпляры кожнага.*

*14 кастрычніка ў дзень 70-годзьдзя Айзэнгаўэра выслаў у Белы Дом тэлеграму наступнага зьместу: „Прэзыдэнту Айзэнгаўэру. Белы Дом. Вашынгтон. Урад Беларускае Народнае Рэспублікі ў эгзылі, з нагоды 70-х угодкаў Вашага жыцьця, перасылае прывітаньні ды выказвае сваё захапленьне („адмірэйшн“) Вашай непахіснай паставай у вабароне свабоды й міру із справядлівасьцяй для народаў усяго сьвету. (Подпіс) М. Абрамчык, Прэзыдэнт Рады Беларускае Народнае Рэспублікі, 65, рю дэ Гравіе, Парыж, Францыя“. Калі б Вы атрымалі зь Белага Дому адказ на гэтую тэлеграму, трэба было б падаць яго ў „Бацькаўшчыну“.*

*Нядаўна атрымаў ад Бакуновіча зь Лювэну ліст, дзе ён піша, што да іх зьвярнуліся зь Беласточчыны ў справе пасланьня ў Лювэн кандыдатаў на студыі, ды што для іх гэта была неспадзейка. Вось жа ў справе гэтай я пісаў ім яшчэ ўлетку, праўда, кароценька. З Вамі адначасна было дагаворана, што па павароце ў Эўропу Вы абмяркуеце гэтую справу з а. Робэртам, так што я крыху дзіўлюся, што яны дзівяцца... Учора казаў мне Ўладыка Васіль[97], што а. Смаршчок піша яму, што,*

[97] Маецца на ўвазе архіяпіскап Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы Васіль (Уладзімер Тамашчык, 1900—1970).

*быццам а. Робэрт робіць цяпер захады для ўладжаньня „беластоцкага“ пытаньня й што нібы ў Лювэн мае прыехаць на перагаворы Ул. Станкевіч, адзін з кіраўнікоў беларускае арганізацыі ў Польшчы.*

*Тут рыхтуюцца выслаць заходнім дэлегацыям у ЗН пералік фактаў, якія выяўляюць савецкі каляніялізм. Мне даводзіцца рабіць гэта ў пытаньні каляніялізму на Беларусі.*

*Зычу Вам і сям'і ўсяго найлепшага!*

*З глыбокай пашанай*
*Ваш Я. Запруднік*

*Папраўка да перакладу тэлеграмы:*

*Лепш сказаць па-беларуску: „...у дзень 70-х угодкаў Вашага нараджаньня перасылае Вам...“*

## №47. Рассылка Звароту Лігі вызваленьня народаў СССР. Канфлікт з Кастусём Мерляком

*Нью-Ёрк, 6.XII.1960*

*Вельмі Паважаны Спадар Прэзыдэнт!*

*Учора атрымаў Ваш ліст з копіямі „Звароту (апэлю) Лігі да народаў Амэрыкі й Азіі“ й „Заявы Лігі пра міжнароднае палажэньне“.*

*На мінулым тыдні ў чацьвер сп. Кунігольм атрымаў тэлеграфічна ад сп. Дрээра[98] тэкст (па-француску) „Звароту“, які ў пятніцу й быў разасланы розным дэлегацыям, прэсавым органам і палітычным установам — прыблізна 500 экз. у ангельскай мове й каля 300 у францускай.*

*Аб існаваньні ж „Заявы пра міжнароднае палажэньне“ тут даведаліся толькі ўчора, пасьля атрыманьня мною Вашага ліста.*

*Копію „Заявы“ я перадаў сп-ру Тэрпаку, як рабіў гэта й папярэднімі разамі ў падобных выпадках — пэўна ж, зрабіў гэта ў якасьці прыватнае асобы й камітэцкага працаўніка, а не афіцыйнага прадстаўніка Лігі.*

*„Заяву“ Лігі сп. Тэрпак праглядае із сп. Кунігольмам, але ў іх, аднак, узбуджае засьцярогі той мамэнт, што „Заява“ гэтая была затрыманая сп-ром Дрэерам безь ніякіх камэнтароў пра яе. Безумоўна, з боку Палітычнага аддзелу Камітэту, як Вы, зрэшты, ведаеце самі, Ліга мае поўную сымпатыю й гатовасьць да дапамогі, і лішнім, хіба, тут будзе спамінаць, што Палітычны аддзел пакідае за сабой права ацэньваць карыснасьць і эфэктыўнасьць таго ці іншага заходу, на які ён дае сваё падтрыманьне. Канчальнага выніку ў справе „Заявы“ я пакуль што ня ведаю.*

*Між іншага, што да Вашага звароту праз Дрэера да нашага з Султаном[99] начальства, каб нас звальнялі ад нашых абавязкаў у выпадках сьпешнае работы для Парыскага Блёку, мушу сказаць Вам, што ў сілу спэцыфікі радыёвае работы, якая вымагае абсалютнае рэгулярнасьці, нельга й гаварыць пра ніякае звальненьне, бо гэта проста немагчыма. Кіраўніцтва радыё ня згодзіцца (я гэта ведаю) коштам зрыву праграмаў дазваляць сваім працаўнікам займацца пабочнымі справамі. Дзеля гэтага такія заданьні, як, прыкладам, рассыланьне зваротаў і заяваў Лігі робяцца мною, пэўна ж, ахвоча, але выключна коштам дадатковага высілку, на які тут можна здабыцца, пры поўным выконваньні ўсіх іншых абавязкаў пры радыё й па-за радыё (а іх, як Вы самі ведаеце, тут хоць адбаўляй).*

*На мінулым тыдні сп. Шукелайць казаў сп. Адамовічу, што „Люмумба“ [Кастусь Мерляк] рыхтуе матар'ялы для абвінавачаньня Адамовіча й мяне ў фальсыфікаваньні афіцыйных заяваў Парыскага Блёку (і, праўдападобна, тых матар'ялаў, што прысылаюцца беларускімі арганізацыямі для выкарыстаньня ў радыё „Свабода“). Бязумоўна, усё гэта будзе (калі будзе) чародная выдумка, перакручваньне й нацягваньне фактаў.*

*На нашую з Адамовічам думку, Стась [Станкевіч] зрабіў абсалютна правільна, апублікаваўшы ў „Б-не“ граматычна й палітычна непісьменную мярлячыну, закрываючы Мерляку рот да далейшага голасу. Ніякіх паседжаньняў вакол гэтага тут ніхто не зьбіраецца рабіць, бо справа ясная кажнаму, а ў тым ліку й самому аўтару „карэспандэнцыі“, які пакуль што сядзіць ціха, адчуваючы, магчыма, ня добры пах калюжыны, якую сам сабе прырыхтаваў. Наагул жа ўся гэтая справа кіруецца да свае канчальнае разьвязкі, да якое яна няўхільна мусіць прыйсьці ў выніку ўпартасьці й выразных прызнакаў маніі велічы нашага патрыёта — да канчальнага адмежаваньня яго ад афіцыйнага дачыненьня з радыё і ўрадам БНР.*

*З найлепшымі зычэньнямі й глыбокай пашанай*

*Ваш Я. Запруднік*

---

[98] **Робэрт Дрэер** (*Robert Dreher*), службовец ЦРУ, які працаваў у Мюнхэне.

[99] **Гарып Султан**, працаўнік Татарскае рэдакцыі радыё „Свабода“, журналіст, палітычны дзеяч.

*П.С.: Залучаю па адным экзэмпляры ангельскае й францускае вэрсіі „Звароту Лігі да Народаў Афрыкі й Азіі“.*

**№48. Пратакол Рады БНР з папраўкамі. Справы Фундацыі Крэчэўскага. Запросіны на ўкраінскі „Круглы стол“**

*Нью-Ёрк, 08.02.61*

*Вельмі Паважаны Спадар Прэзыдэнт!*

*Перасылаю Вам пратакол апошняга паседжаньня Прэзыдыюму й Сакратарыяту Рады БНР (29.01.61), а таксама заяву да пратаколу старшыні паседжаньня сп. А. Адамовіча. Заява гэтая напісаная з думкай, каб далучыць яе да афіцыйных актаў, хоць копія яе сп-ні Арсеньневай яшчэ не перададзеная. Гэты крок мы хочам узгодніць з Вамі, адкладаючы адасланьне заявы да Вашага адказу. Заява сп. Адамовіча ў значнай меры дапаўняе абраз паседжаньня, няпраўдзіва прадстаўленага ў пратаколе сп-ні Арсеньневай.*

*29 студзеня адбылося таксама паседжаньне ўправы фундацыі Крэчэўскага. Было пастаноўлена: 1) зьвярнуць доўг у касу БНР (419 дал.), зробленый ў сувязі з выдаткамі легалізацыі фундацыі; 2) надрукаваць бляанкі для афіцыйнага ліставаньня ад імя фундацыі; 3) шукаць аб'екту для архіваў і бібліятэкі, а ў міжчасе пацікавіцца тым, каб грошы, што ляжаць цяпер у адным месцы, былі раскладзеныя ў чатыры розныя банкі з мэтай большага забесьпячэньня іх ды павольшаньня працэнтаў.*

*Прадстаўнік украінскага таварыства „Круглага стала“ (дыскусійнае, панадпартыйнае) сп. Стахів пытаўся ў мяне, калі Вы будзеце ў Амэрыцы. Яны хацелі б запрасіць Вас у якасьці галоўнага госьця на дыскусію аб беларуска-ўкраінскіх дачыненьнях (ці аб чым-небудзь іншым: тэмы не накідаецца). Я адказаў яму, што мы спадзяёмся Вас тут дзесьці на другую палавіну сакавіка ды што Вы, хіба што, ня мелі б нічога супраць гэткае дыскусіі.*

*Зычу Вам усяго найлепшага.*

*З глыбокай пашанай*

*Ваш Я. Запруднік*





**№49. Стан здароўя Міколы Абрамчыка паляпшаецца, але нэрвы „зусім расшатаны“. Прыезд у Амэрыку адкладаецца да восені.**

*Villepinte 10.4.61*

*Дарагі Янка,*

*У зьвязку з аднэй справай, што нядаўна тут узьнікла, мне патрэбна ведаць дакладна, які стан нашай гэтай касы, што мы звалі „рэзэрвовай“. Будзьце ласкавы мяне аб гэтым як хутчэй паведаміць. Было б ня блага пры гэтым мне накідаць каму і колькі было выдаткавана, а колькі маецца.*

*Здароўям я папраўляюся і, дзякуючы выняткова цёпламу і сухому у гэтым годзе красавіку, — чуюся што раз то лепі.*

*Пачынаю брацца за працу, на жаль, накапілася шмат справаў, а найгорш, што ў бальшыні ўсе прыкрыя, непрыемныя. Нэрвы ж у мяне зусім расшатаны.*

*Стась [Станкевіч] і рэшта ў Мюнхэне гоняць мяне на поўдзень дзесь Францыі. Магчыма ў маі, або раней трохі выеду.*

*Прыкра мне вельмі, што ў Амэрыку раней восені не змагу прыехаць, хачу за лета ўнармовацца зусім, бо да вас ехаць ведаеце здароўя трэба не абы якога яшчэ.*

*Тымчасам бывайце. Прывітаньне сямейцы і ўсім знаёмым.*

*Ваш А. Абрамчык*

*P. S. Што робіце з фундацыяй Крэчэўскага?*

**№50. Стан грашовага фонду Рады БНР. Справы Фундацыі Крэчэўскага. Набліжаецца кангрэс БАЗА**

*Нью-Ёрк, 14.IV.61*

*Дарагі Спадар Прэзыдэнт!*

*Учора атрымаў Ваш ліст. Адказваю.*

*На кніжцы ляжыць цяпер 4.554,53. Да гэтага дойдзе яшчэ каля сотні даляраў працэнтаў, якіх я ня ўпісваў больш за паўгода. Грошы былі пакладзеныя ў травені 58 г. У міжчасе былі гэткія выдаткі:*

| | | |
|---|---|---|
| *Радыё Мадрыд:* | *VII/59* | *427* |
| | *IX/59* | *350* |
| | *XI/59* | *200* |

| | | |
|---|---|---|
| | III/60 | 100 |
| | IV/60 | 200 |
| | IV/60 | 150 |
| | V/60 | 100 |
| | VI/60 | 150 |
| | VIII/60 | 200 |
| | | 1877 |
| Маркі БНР | VI/60 | 85 |
| | | 1962 |

*У Фундацыі Крэчэўскага пакуль што нічога новага. Др. Тумаш займаецца цяпер раскладам фонду ў чатыры розныя месцы — з тым, што там мы будзем мець большы працэнт, чымся ў дасюлешнім банку. Дзесьці празь месяц будзем мець гадавы сход. Тымчасам наглядаецца будынак. Др. Тумаш казаў, што бачыў ужо аб'ектаў з 20, але ўсё гэта ня тое, што нам падыходзіла б. Наагул справа гэтая не такая лёгкая. Пэўна ж, калі б што-небудзь канкрэтнага знайшлося, тады паведамілася б Вам.*

*Даглядайце пакуль што свайго здароўя. Тут Вас заўсёды радыя бачыць, дый справаў ёсьць (калі іх не бывала!), але ўсё гэта ўляжацца неяк. Галоўнай падзеяй тут мае быць базаўскі кангрэс, вынік якога цяжка прадбачыць цяпер, але катастрафальнага на ім нічога ня здарыцца. Мерляк бунтуецца далей у сваёй шклянцы вады, а справы йдуць сваім чарадом.*

*Мне ўдалося атрымаць на Ньюёркаўскім Унівэрсытэце стыпэндыю (600 дал. на год), што пакрые выдаткі навукі й аблягчыць крыху бюджэт. Стыпэндыя прызнаецца на год часу, а ейнае аднаўленьне будзе залежаць да пэўнае ступені ад пасьпяховасьці, таму цяпер мушу зьвярнуць больш увагі на навуку.*

*Найлепшыя пажаданьні Ніне й Альгерду! Бывайце здаровы!*

*З глыбокай пашанай*

*Янка Запруднік*

## №51. Інструкцыя аб сьпешнай перасылцы грошай у Парыж

*10.5.61. Villepinte*

*Дарагі Янка,*

*Ваш ліст з 14.IV атрымаў, дзякую. Я ужо, можна сказаць, зусім станаўлюся на ногі. Не магу яшчэ выходзіць з хаты зарана раніцай*





*(калі сыраватае паветра), але так пад 10-ю — 11-ю гадзіну ужо рухаюся і нат часта бываю у Парыжу. На 20-га траўня еду з Цынцадзе ў Мюнхэн.*

*Цяпер асноўнае:*

*Пакіньце на конце толькі 54 даляры + тые процэнты, што ня ўпісаны (абы засталося конта), а рэшту усе 4.500 дал. безадкладна перакажыце на маё імя праз American Express*

*11, Rue Scribe, Paris.*

*Чаму гэта? — скажу як прыеду у Амэрыку. Мне патрэбна канешне, каб гэтыя грошы прыйшлі ў Парыж за якіясь хоць 2-ва дні да майго выезду у Мюнхэн.*

*Тымчасам бывайце здыровы — правітаньне Вітаўту [Тумашу], Адамовічу і сям'і.*

*Ваш М. Абрамчык*

*P. S.*

*Не зрабіце толькі памылкі у прозьвішчы пры перасылцы грошай, дакладна пішыце так Nicolas Abramtchik.*

## №52. Грошы высланыя. На кангрэсе БАЗА, як выглядае, выберуць старшынём арганізацыі зноў Кастуся Мерляка

*Нью-Ёрк, 15.V.61*

*Дарагі Спадар Прэзыдэнт!*

*Ліст Ваш атрымаў у сыботу (13-га). Сяньня быў у банку. Выслаў прошанае (мінус кошты перасылкі). Спадзяюся, што ў чацьвер атрымаеце (прынамсі, так мне казалі ў банку). Сяньня ўвечары вышлю Вам тэлеграму-паведамленьне, бо гэты ліст можа спазьніцца.*

*Я цяпер у экзаменацыйнай „гарачцы“ (да 24-га).*

*На кангрэсе БАЗА, куды я выбраны дэлегатам, думаю запрапанаваць кангрэсу (не абавязкава ў форме фармальнае рэзалюцыі) заняць становішча што да БНР — у сувязі з апошнім умешваньнем базаўскага старшыні ў пытаньні, якія павінны разглядацца на форуме БНР. Таксама трэба будзе запрапанаваць, каб кангрэс зрабіў папраўку да тае рэзалюцыі, што была прынятая на сакавіковым сьвяткаваньні і якая „забылася“ спомніць Беларусаў. Гэта, магчыма, ацьвярэзіць крыху Мерляка, які, як выглядае, застанецца старшынём надалей (сяньня меў гутарку з Уладыкам [архіяпіскапам БАПЦ Васілём], якая*

*пацьвердзіла гэтае прыпушчэньне). Найгорш тут гэта тое, што няма нікога больш адпаведнага на старшыню, чымся Мерляк, які, паводле Ўладыкі, быццам паразумнеў апошнім часам.*

*Зычу Вам усяго найлепшага!*

*Ваш Янка З.*

## №53. Інфармацыя пра кангрэс БАЗА

*Нью-Ёрк, 29.V.61*

*Дарагі Спадар Прэзыдэнт!*

*Учора кангрэс БАЗА закончыў сваю двухдзённую работу. Я быў дэлегатам на кангрэсе й браў удзел, як сябра, у мандатнай і рэзалюцыйнай камісіях. Справы прайшлі памысна нагэтулькі, наколькі яны наагул могуць быць памыснымі пры дадзеных людзкіх рэсурсах.*

*На наступную кадэнцыю выбраная ўся старая галоўная ўправа з дадаткам да яе двух чалавек: Несьцяровіча*[100] *й Галіны Орсы*[101]*. На кангрэсе было шмат рэчовых і часамі вострых выказваньняў з крытыкай займанае БАЗАй пазыцыі што да БНР. Ад Прэзыдыюму Рады БНР кангрэсу былі пададзены пісьмовы зварот выясьніць дачыненьні БАЗА да БНР. Спадарыня Арсеньнева папярэдзіла паданьне гэтага звароту таксама пісьмовай заявай ад свайго й Шчэцькавага імя (у форме выпіскі з пратаколу паседжаньня галоўнае ўправы БАЗА), прапануючы кангрэсу БАЗА выказаць сваю ляяльнасьць да Рады БНР. Маё сяброўства ў рэзалюцыйнай камісіі выявілася ключавым, бо Мерляк панадаваў праектаў рэзалюцыяў дзікіх да немагчымасьці. Двума іншымі сябрамі рэз. камісіі былі сп.сп. Кунцэвіч*[102] *і Пляскач*[103] *(заст. старш. гал. упр. БАЗА). Апэрацыя перакройваньня Мерляковых праектаў прайшла бяз болю, і ўсе рэзалюцыі былі прынятыя аднагалосна й беззасьцярожна. Падаю Вам тут галоўную зь іх.*

*РЭЗАЛЮЦЫЯ адносна нацыянальна-ідэалягічнага становішча БАЗА.*

[100] **Аўген Несьцяровіч** (Нестар, *Nestor*), актывіст беларускага грамадзкага жыцьця ў Нью-Ёрку.

[101] **Галіна Орса**, старэйшая дачка Аляксандра й Натальлі Орсаў.

[102] Маецца на ўвазе **Мікола Кунцэвіч** (1909—1985), беларускі грамадзкі дзеяч, былы юрыст.

[103] Маецца на ўвазе **Васіль Пляскач**, беларускі грамадзкі дзеяч, былы юрыст.





*9-ы кангрэс БАЗА сьцьвярджае:*

*1. БАЗА, як у мінулым гэтак і ў будучым, будзе праводзіць нацыянальна-грамадзкую дзейнасьць, верна падтрымваючы ідэалы Беларускае Народнае Рэспублікі й прынцыпы Рады БНР.*

*2. БАЗА, як незалежная арганізацыя амэрыканскіх грамадзянаў беларускага паходжаньня й Беларусаў-эмігрантаў у ЗША, пакідае за сабой права наладжваць усе патрэбныя ёй сувязі й супрацоўнічаць з усімі дэмакратычнымі іншанацыянальнымі арганізацыямі, што дзеюць на дабро Амэрыкі й Беларусі.*

*На аснове гэтай рэзалюцыі, а таксама ў сілу выпрацаванае традыцыі, Прэзыдэнту Рады БНР было прынятае прывітаньне наступнага зьместу:*

*Прэзыдэнту Рады БНР сп. М. Абрамчыку.*

*9-ы кангрэс БАЗА перасылае Вам найлепшыя пажаданьні ў Вашай дзейнасьці на карысьць адбудовы сувэрэннай і непадзельнай Беларускай Народнай Рэспублікі й выказвае сваю салідарнасьць і падтрыманьне ў гэтым вялікім нацыянальным высілку ды зычыць як найлепшага здароўя.*

*А вось Мерлякоў праект першае рэзалюцыі:*

*Рэзалюцыя адносна <u>палітычна-</u>грамадзкага становішча БАЗА.*

*У сувязі з тым, што ад нейкага часу беларуская прэса выдаваная за межамі ЗША ды некаторыя ўстановы беларускія й амэрыканскія намагаюцца зьвясьці БАЗА з займанага палітычнага кірунку, 9-ы кангрэс БАЗА сьцьвярджае:*

*1. БАЗА, як у прошлым, так і ў будучым будзе прадаўжаць палітычна-грамадзкую дзейнасьць моцна прытрымваючыся прынцыпаў Рады БНР, выказаных у трох Устаўных Граматах БНР.*

*2. БАЗА ёсьць незалежнай арганізацыяй амэрыканскіх грамадзянаў беларускага паходжаньня й беларускіх эмігрантаў у Амэрыцы й можа наладжваць усе патрэбныя ёй кантакты ці супрацоўнічаць з усімі дэмакратычнымі амэрыканскімі ды эміграцыйнымі арганізацыямі, якія дзеяць на дабро Амэрыкі й Беларусі.*

*3. БАЗА падтрымоўвае й будзе падтрымоўваць кажную акцыю, як амэрыканскіх, гэтак і беларускіх арганізацыяў ці ўстановаў, што дзеюць на карысьць Амэрыкі й Беларусі. У выпадку ж, калі згаданыя арганізацыі (пасярэдна або непасярэдна) дзейнічаюць на шкоду Амэрыцы й Беларусі, яны губляюць, у выніку, падтрыманьне БАЗА.*

*Я перакананы, што калі б гэткая рэзалюцыя была запрапанаваная кангрэсу, дык яна ніколі не прайшла б, але, на шчасьце, усё гэта ўпарадкавалася ў самой рэз. камісіі.*

*Пры выбары старшыні былі выстаўленыя кандыдатуры, апрача Мерлякове, д-ра Тумаша й мая. Мы абодва адмовіліся дзеля занятасьці іншымі справамі, і нашыя прозьвішчы фігуравалі на дошцы дзеля дэкарацыі, каб скрыць прыкры для кажнага факт, што кангрэс ня мае ніякага выбару. Пры галасаваньні на Тумаша пала 5 галасоў, на мяне — 3.*

*На гэтым тыдні вышлю карэспандэнцыю ў „Б-ну" пра ўвесь прабег кангрэсу, дык тады будзеце мець дэталі да пададзеных тут асноўных мамэнтаў*[104].

*Зычу Вам усяго найлепшага!*

*Сп. Адамовіч вельмі заняты цяпер рыхтаваньнем свайго дакладу на канфэрэнцыі Інстытуту [вывучэньня СССР] у Мюнхэне і напіша Вам пры першай нагодзе, перасылаючы пакуль што Вам свае найлепшыя пажаданьні.*

*З глыбокай пашанай*
*Ваш Янка Запруднік*

## №54. У Нью-Ёрку ў пляменьніка Міколы Абрамчыка гатовая кватэра да прыезду

*Нью-Ёрк, 12.XII.61*

*Дарагі Спадар Прэзыдэнт!*

*Мы вельмі цешымся тут, што неўзабаве Вы будзеце ў Нью-Ёрку й здолееце расказаць нам апошнія навіны з Францыі, Нямеччыны й з Рыму.*

*Нядаўна бачыўся з Колем [Абрамчыкавым пляменьнікам]. У яго ўсё добра. З працай ён цяпер устабілізаваўся і моцна стаў на ногі. Прырыхтаваў ён, між іншага, Вам добрае месца ў сваёй кватэры: тры пакоі з тэлефонам, асобнай спальняй і гасьцінным пакоем. Жыве ён цяпер на новым месцы, але недалёка ад колішняй кватэры.*

*Бывайце здаровыя! Да хуткае сустрэчы! Шчасьлівае дарогі!*

*З глыбокай пашанай*
*Ваш Я. Запруднік*

[104] Гл.: Бацькаўшчына. №24—25. 25 чэрвеня 1961.





## №55. Канец наведваньня ўнівэрсытэту й набыцьцё сваёй хаты

*Нью-Ёрк, 20.XII.61*

*Дарагі Спадар Прэзыдэнт!*

*Учора атрымаў Ваш ліст. Сяньня званіў. На жаль, ніхто не адказвае. Дзеля пэўнасьці прышлеце мне прозьвішча й нумар тэл., каб зьверыць з маімі. У міжчасе я ня меў зь нікім ніякае лучнасьці.*

*Месяцаў паўтара таму пераехаў на новае месца. Пазычыў грошай і купіў сабе хату, бо там у Брукліне нельга было далей трываць.*

*У ліпені будучага 62-га году спадзяюся закончыць слуханьне выкладаў на ўнівэрсытэце ды ўзяцца за дысэртацыю „Беларусь у Першай сусьветнай вайне й Рэвалюцыі". Тады мо будзе лягчэй займацца й іншымі справамі.*

*Зычу Вам і сям'і Вясёлых Калядных Сьвятаў і лепшага Новага Году!*

*З глыбокай пашанай*
*Ваш Янка Запруднік*

*Мой новы адрас:*
*J.Z.*
*90-12 183 Street*
*Jamaica 32, NY*
*Tel.: AX1-0172*

## №56. Патрэба выданьня чарговага „Бюлетэню Рады БНР". Урачыстая сэсія БІНіМу. Заблякаваны ў „Беларусе" артыкул Кастуся Мерляка. Адыход Уладзімера Гіцкага (Дудзіцкага) з працы ў радыё „Свабода"

*Нью-Ёрк, 29.V.62*

*Дарагі Спадар Прэзыдэнт!*

*Трэба было б як найбарджджэй выдаць „Бюлетэнь Рады БНР". Прысьпешвае выданьне яго й просьба сп. Кушаля, якому залежыць на тым, каб падаць да ведама пра ўтварэньне новага Сакратарыяту (ураду). Ён спадзяецца, што будзе апублікаваны ў „Бюлетэні" „Дэкрэт" аб утварэньні новага ўраду. Спадзяюся, што Вы перашлеце мне яго разам зь іншымі матар'яламі, якія Вы хацелі б бачыць у „Бюлетэні".*

*На мінулым тыдні я закончыў свае экзамены. Залегласьцяў за гэты час назьбіралася шмат, а новыя падзеі й справы вымагаюць таксама свае ўвагі. На наступным тыдні Пэч склікае ў сябе на кватэры „кактэйл парты“ па лініі свайго паліт. аддзелу (так як калісьці рабіў да яго Кунігольм). З нашых запрошаныя Кушалі, Тумаш, Шукелайць і я з Адамовічам.*

*Мерляк хацеў быў выкарыстаць апошні нумар „Беларуса“, каб „разьлічыцца“ із сваімі ворагамі; „матар'ялы“ ўжо былі набраныя, але рэдкалегія агледзела й заблякавала газэту. Тумаш, быццам, прыгразіў, што калі Мерляк будзе настойваць на зьмяшчаньні сваіх „опусаў“, дык ён (Тумаш) забірае ўсе свае артыкулы. Мерляк паставіў справу на галасаваньне й усе былі супраць яго. Такім чынам вылазка не пралезла.*

*Гіцкі сяньня ў Камітэце быў ужо апошні дзень. Зьбіраўся йсьці да Сарджэнта (гаварыў таксама некаторым пра падаваньне на Камітэт у суд), але перадумаў. Спадзяецца дастаць дзе-небудзь выкладніцкую пасаду, хоць бязь веданьня ангельскае мовы гэта яму будзе цяжкавата (можа хіба толькі ў такой навучальнай установе, дзе вучаць расейскае мовы па-расейску).*

*Дзесьці ў палавіне чырвеня, ці мо крыху пазьней, мае быць наладжаная ў Нью-Ёрку ўрачыстая сэсія БІНіМу, прысьвечаная 100-годзьдзю „Мужыцкае праўды“. Галоўны дакладчык — Жук-Грышкевіч. Я маю прачытаць там судаклад пра Паўстаньне й міжнароднае палажэньне таго часу. Як там справа з гэным артыкулам пра беларусаў для канскага прафэсара?*

*Зычу Вам усяго найлепшага. Прывітаньне Спадарыні.*

*З глыбокай пашанай*

*Янка Запруднік*

**№57. Пра падарожжы Міколы Абрамчыка, канфэрэнцыю Парыскага блёку, парадак выбару ўраду БНР, Бюлетэнь Рады БНР, ліст студэнта з Індыі**

*Villepinte, 24. 6.62*

*В. Паважаны сп. Запруднік,*

*Ваш ліст з 29.05 атрымаў, дзякую. Не адказаў Вам дагэтуль, бо амаль увесь час, па сваім павароце з Амэрыкі, падарожнічыў. У Мюнхэне мяне чакалі нашы „блокаўцы“, а затым два разы езьдзіў у Бон, у*





*Бэльгію і Англію. Вось толькі заўчора вярнуўся зь Лёндану. Аб гэтых сваіх паездках падаю вам тут, збольшага, інфармацыю.*

*Вельмі цешуся, што Вы кончылі экзамены. Бярэцеся, даражэнькі за бюлетэнь, пастараюся дзе што вам падкінуць, толькі наразе, да гэтага номеру, на удачу ці ухаплю штось паважнейшага, бо 1-га ліпеня мушу быць зноў у Мюнхэне. 7-га ліпеня у нас адкрываецца канфэрэнцыя Парыжскага Блёку дык вось цяпер упарадковываю паперы за мінулыя 2-ва гады дзейнасьці прэзыдыума для справаздачы. Маю да тога амаль што дня пад'яжджаць да Парыжу: парыжская Міжнародная Акадэмія навук падрыхтовывае выданьне кніжкі аб калёніялізьме і рыхтуецца таксама да гадовай канфэрэнцыі і мяне уцягнулі таксама да працы, а у Парыжскім Блёку маем шмат клопатаў з Грузінамі і Украінцамі. Вось якраз учора прыехаў у Парыж шэф Армянскіх Дашнакоў Хатанасьян з Каіру, таксама Лівіцкі — дык будзем старацца, каб неяк дагаварыцца. Агулам канфэрэнцыя Пар. Блоку у гэтым годзе прадбачыцца быць асабліва нэрвовай і то як з пункту гледжаньня нутраной сытуацыі так і што да дачыненьняў з Ам. Камітэтам. Ня вырашыў я таму яшчэ як мне быць далей што да майго ў ім старшынства.*

*Вы кажаце, каб прыслаў вам дэкрэт аб стварэньні новага Ураду БНР, дзеля зьмешчаньня яго ў бюлетэне. Вось жа, па-мойму ніякага дэкрэту ня трэба. Урад наш тварыўся <u>нармальна</u> — канстытуцыйна, згодна з статутам, як і ўсе калісь раней, а я яго толькі <u>зацьвердзіў</u>. Таму ў бюлетэні і належыць так і падаць, як <u>зацьверджаны</u>, а не дэкрэтаваны. Фармальнасьці аб гэтай працэдуральнасьці Вы знойдзеце у генэрала Кушаля. (Яго заяву аб згодзе прыняць прэм'ерства і мой яму пісьмовы адказ аб яго зацьверджаньні).*

*З матэр'ялам аб Беларусі да энцыклёпэдыі Канскага ўнівэрсытэту — трохі камплікуецца. Увесь час перапісваюся. Праф. Miroglio завальвае мяне матэр'яламі „як узорамі“, у якіх пакуль што не разабраўся, бо ня маю часу ўсяго гэтага яшчэ перачытаць. Хіба па павароце зь Мюнхэну, па канфэрэнцыі. Найбольш праўдападобна, што буду пісаць сам, а калі не, то тады зрэфэрую ўсю гэтую справу Вам. <u>Прышліце мне</u> к. л. тыя тэзы (пытаньні), што Вам іх пакінуў, а Вы мелі сабе зрабіць копію.*

*З маіх інфармацыяў аб паездках Вы можаце зрабіць хроніку да бюлетэня, толькі зразумела <u>дэталяў</u> аб „Боне“ падаваць ня трэба. Але гэтага Вас вучыць ня трэба — ведаю.*

*Тымчасам бывайце, прывітаньне сямейцы.*

*Ваш М. Абрамчык*

*P.S.*

*Ліст студэнта з Індыі перасылаю Вам, бо як я зразумеў (?) ён хочыць мець кантакт з студэнтамі нашых народаў. Лепш таму, каб гэты кантакт мелі зь ім Вы, чым хтось іншы. Напішыце яму, калі ласка, не адкладаючы, пару слоў, што гэты ліст пераслаў я Вам, як прадстаўніку нашай моладзі. Я ж будучы ў Мюнхэне, скажу Даўгалю[105], каб выслаў на яго адрыс камплект „Problems“[106].*

*Прывітаньне спадару Адамовічу. Як ён маецца? Спытайцеся ў яго, ці ён атрымаў мой ліст? Нешта ужо праз месяц часу пісаў я яму і прасіў, каб ён мне выслаў ліст Сяргіевіча, а калі яго адаслаў ён Dr Грынкевічу, то каб узяў у Вас адрэсы швэцкіх беларусаў, што падаваліся ў лісьце Сяргіевіча, а ў зробленай Вамі копіі для мяне, адрэсы гэтыя Вамі выпушчаныя. Мне гэныя адрэсы патрэбныя. Адамовіч мне на ліст не адказаў. Гэта зь ім ніколі так не бывала. Турбуюся ці ён не хварэе.*

### №58. Няма адказаў Абрамчыку зь Нью-Ёрку. Заплянаваныя: артыкул пра Беларусь у францускую энцыкляпэдыю і паўгадавік *Problems*. Летні адпачынак

*Вільпант, 30.7.62*

*В. П. сп. Запруднік,*

*Што з Вамі сталася, што не адказваеце на мае лісты? Ні Вы, ні сп. Адамовіч! Каля месяца таму пісаў Вам паўторны ліст, у якім Вас прасіў: 1) Узяць у сп. Адамовіча ліст „Юліка“. А калі ён яго адаслаў Стасю Грынкевічу, то прыслаць мне адрэсы швэцкіх беларусаў, якія былі ў гэным лісьце. 2) Прыслаць мне плян („тэзы“) прафэсара канскага ўнівэрсытэту, што ў Вас пакінуў для праектаванага артыкулу аб Беларусі ў энцыкляпэдыю.*

*Вось жа яшчэ раз прашу выслаць гэта мне, асабліва апошняе. Артыкул гэты буду пісаць сам я, бо перадаць Вам, мусіў бы шмат чаго Вам тлумачыць (у гэтай справе маецца ў мяне з гэтым прафэсарам цэлая перапіска), а часу ўжо мала (да 15 верасьня мушу яму здаць да друку).*

[105] **Доўгаль**, прадстаўнік ад украінцаў у Лізе вызваленьня народаў СССР (Парыскі блёк).

[106] ***Problems***, часапіс Парыскага блёку.





*Ці атрымалі Вы мой другі ліст, адрасаваны да ўраду БНР (на імя Гэн. Кушаля)?*

*Зь Мюнхэна я вярнуўся толькі заўчора. Пасьля канфэрэнцыі Пар. Блоку мусіў быў там яшчэ застацца цэлых 12 дзён, дзеля наладжаньня і ўзгодненьня пляну працы П. Блоку ды суадносін з Ам. Кам. Між іншага зь верасьня-кастрычніка маем выдаваць дублікат (трохі змадыфікаваны) нашага часапісу „Problems“ у францускай мове, у Парыжы, два разы ў год.*

*„Невялічкая“ карэкта да майго, папярэдняга лісту на імя Ураду. Там я пісаў, што немцы адпусьцілі суму на пакрыцьцё зборніка БІНіМу. Аказваецца я быў ня добра зразумеў ліст нашых сяброў зь Мюнхэну. Будучы цяпер там даведаўся, што немцы згадзіліся пакрыць толькі частку выдаткаў, а ўласьне 3.000 DM. У гэтай справе пішу таму тут ліст Dr. Ст. Станкевічу. Перадайце яму калі ласка.*

*Прывітаньні*

*Ваш М. Абрамчык*

*P.S.*

*Пазаўтры адвожу жонку з хлопцам на вёску і застануся там таксама тыдні 2-ва, а мо і тры. Пішыце таму мне на гэны-там адрас:*

*Mr. N. Abramtchik c/o Mr. André Ricou*
*Beaurepaire par Dolus*
*Il d’Oleron (Ch. M.) France.*

### №59. Выдаваньне „Бюлетэню Прэзыдыюму Рады БНР“, справы Парыскага блёку. Антон Адамовіч перакладае ўступ да польскага выданьня анталёгіі беларускай паэзіі

*Нью-Ёрк, 03.VIII.62*

*Вельмі Паважаны Спадар Прэзыдэнт!*

*Учора атрымаў Ваш ліст. Выбачайце, што не адказаў на папярэднія, якія таксама ўсе атрымаў. Затое Адамовіч не атрымаў ліста, у якім Вы прасілі швэдзкія адрасы. Сяргіевічаў ліст у Стася Грынк. [Грынкевіча] і я яму пісаў, каб ён Вам тыя адрасы выслаў.*

*Зь „Бюлетэнем“ меў вельмі шмат работы, бо ўсё — ад пісаньня да кальпартажу — давялося рабіць самому. Адамовіч памагаў з мовай і стылізаваньнем. Тэксты ўзгодніваў таксама з ген. Кушалем. Гэта*

*на Кушалеву прапанову інфармацыю пра Вашы падарожжы даў у першую частку замест другое[107], каб падаць яе да шырэйшага ведама. „Бюлетэнь“ і тыя „тэзы“ выслаў Вам паветранай поштай 27.VII.*

*Цяпер я маю свой трохтыднёвы „адпачынак“ — праўлю й малюю хату — „зарабляю“ гэтым каля тысячы даляраў.*

*Тэлефанаваў мне заўчора Адамовіч. Да яго прыходзіў Тэрпак і пытаўся, каго ў Мюнхэне можна было б узяць за сакратара ў „Проблемс“. Ён спомніў Марговіча, ня ведаючы, што Вы прапанавалі Бортніка. Гэта хіба Бортнікавае кандыдацтва не падрэзвае, хоць можа варта было б папрабаваць выцягнуць з балота Марговіча, які зусім ужо адыйшоў ад бел. жыцьця. Ці Вы думаеце таксама, што пасада сакратара ў „Проблемс“ дастаткова трывалая, каб Бортніка зрываць зь ягонае нямецкае працы?*

*Адамовіч хацеў бы папасьці ў Рым на экумэнічны зьезд. Перапісваецца зь Сіповічам[108] й Татарыновічам[109], якія падтрымваюць Адамовіча ў ягоным намеры. Зьезд мае пачацца ў кастрычніку. Можа й Вы там будзеце? Тады пабачыліся б там з Адам.. Калі б Вам давялося дзе-небудзь закінуць слова за Адамовічаў прыезд у Рым, зрабеце гэта — ён просіць Вас. Ён цяпер в. заняты перакладаньнем у бел. мову вершаванага ўступу Лабадоўскага[110] да польскай анталёгіі белар. паэзіі. Работа тэрміновая, таму сьпяшаецца.*

*Прышлеце, калі ласка, хоць кораценька, пра прабег канфэрэнцыі Пар. Блёку ў наст. № „Бюлетэня“, які мае выйсьці да Сустрэчы Беларусаў у Таронта (Labor Day). Падайце толькі асноўнае: хто ўвайшоў у Прэзыдыюм і якія былі прынятыя пастановы.*

*Зычу Вам і сям'і ўсяго найлепшага!*

*З глыбокай пашанай*

*Ваш Янка Запруднік*

*P. S.*

*У апошнім № „Беларуса“ ёсьць артыкул пра „свабоду“ радыё „Свабода“. Чытаў яго толькі бегла ў друкарні, але бачыў, што вытрыманы ён у стылі мерлякоўшчыны. Змагацца з гэтым найлепш праз рэгулярна выдаваны „Бюлетэнь“.*

[107] Другая частка „Бюлетэню“ прызначалася выключна для радных.

[108] Маецца на ўвазе **Часлаў Сіповіч** (1914—1981), беларускі каталіцкі біскуп, рэлігійны й культурны дзеяч.

[109] Маецца на ўвазе **Пётра Татарыновіч** (1886—1978), беларускі каталіцкі сьвятар, культурны дзеяч, выдавец.

[110] **Юзэф Лабадоўскі**, польскі эміграцыйны паэт.





## №60. Бюлетэнь Рады БНР. Беларускае старшынства ў Парыскім блёку. Экумэнічны Сабор у Рыме

*16.8.62*

*Дарагі сп. Запруднік,*

*Ваш ліст з 3.8. і бюлетэнь атрымаў, в. дзякую. Бюлетэнь між іншага, атрымаў напярэдадні самога ад'езду з Вільпанту, высланы на мой адрыс у канвэрце са штэмплем Ам. К. <u>зь Мюнхэну</u>. Чаму <u>зь Мюнхэну</u> (?) Зрэшты гэта няважна, толькі праз цікавасьць, чаму такой дарогай?*

*Бюлетэнь мне вельмі спадабаўся. Сардэчна Вас гратулюю. Тон, стыль, зьмест — усё як трэба для такога органа. Я пачну пісаць (пэўна ж галоўна для „сіняй“ часткі) дзесь толькі з кастрычніка. Цяпер ня ўдасца, бо маю аж 2ве сьпешныя працы (той артыкул для энцыкляпэдыі, ды Цынцадзе мяне цісьне з падрыхтоўкай матэр'ялу франц. выданьня „Problems“).*

*Вы просіце матэр'ялу аб канфэрэнцыі Пар. Блоку. Пэўне Вы ўжо дагэтуль атрымалі „Бацькаўшчыну“, дзе быў зьмешчаны аб ёй абшырны артыкул. Дадаць да гэтага цяжка штось, бо усё там асноўнае ўнята. Хіба што, як хочаце, мо для беларускага прэстыжу (?) зазначыць, што старшынства у Лізе (П. Б.) за беларусамі ўжо 9я <u>кадэнцыя</u>. Першы год быў Е. Гэгэчкоры — прэм'ер-міністр замеж. спр. Грузіі, а па яго сьмерці пры 9-ых (штогодніх) перавыбарах старшынства застаецца увесь час за беларусамі.*

*У справе падтрымаць кандыдатуру Адамовіча на экумэнічны Сабор у Рым — напішу сяньня ліст ул. Чаславу [Сіповічу], што і куды трэба пісаць. Я туды напэўна не паеду, бо, як ведаеце, у мяне цяпер в. цяжка з фінансамі.*

*Што да кандыдатуры сп. Марговіча на сакратара „Problems“, дык в. блага, што Тэрпак і тут суне нос не ў сваё. Па-першае, Марговіч ужо даўно паданы быў на працу ў Радыё „Свабода“, а па-другое, кандыдатура гэта выбіралася ўсім прэзыдыюмам — які Бортніка в. добра знае, а Марговіча не. Ёсьць яшчэ і іншыя прычыны, па якіх <u>толькі</u> Бортнік (пакольки ходзіць аб белар. канд.) можа быць на такой „функцыі“. Буду Вам вельмі ўдзячны, калі мне прышлецё адзін экз. „Беларуса“ (апошняга).*

*Тымчасам бывайце здаровенькі. Прывітаньне ад нас усіх усей Вашай сямейцы.*

*М. Абрамчык*

### №61. Сустрэча беларусаў Паўночнай Амэрыкі. Інфаркт у Вінцэнта Жук-Грышкевіча. Бюлетэнь Рады БНР

*Нью-Ёрк, 21.VIII.62*

*Дарагі Спадар Прэзыдэнт!*

*Ліст Ваш атрымаў, за што шчыра дзякую. Учора даведаўся ад Стася [Станкевіча], што Вы будзеце на вёсцы яшчэ на пачатку верасьня. Учора ж выслаў на Ваш вільпінтаўскі адрыс кароценькую карэспандэнцыю. Дзеля таго, што яна сьпешная, паўтараю яшчэ раз тое самае.*

*У гэтым лісьце залучаю Вам праект рэзалюцыі, які мы выслалі на Акулаву*[111] *просьбу ў Таронта, дзе гэтая рэзалюцыя мае быць прынятая ў часе Сустрэчы беларусаў Паўночнае Амэрыкі. Яна будзе таксама перакладзеная ў ангельскую мову. Рэзалюцыю пісаў я. Адамовіч рабіў папраўкі й дапаўненьні.*

*У Жука-Грышкевіча была нядаўна атака сэрца [інфаркт], і ён цяпер у шпіталі зусім бязьдзейны. Паводле Тумаша й Рагулі*[112] *— справа паважная й можа блага скончыцца. На дакладчыка на Сустрэчу (на месца Жука) запрошаны Ст. Станкевіч (наўсуперак Мерляку). Было б добра, калі б Вы паслалі на Сустрэчу свае прывітаньні. Сустрэча мае адбыцца 1—2 верасьня.*

*Думаў выдаць да Сустрэчы яшчэ адзін нумар „Бюлетэню", але, баюся, будзе цяжка, бо маю яшчэ крыху залегласьцяў на ўнівэрсытэце, якія мушу палагодзіць да канца гэтага месяца. Застаўся яшчэ адзін курс, які вазьму на восень. Гэта ўжо будзе меншая нагрузка й таму больш часу здолею прысьвяціць інфармацыі. Пляную зрабіць яшчэ ў гэтым годзе праграму па-ангельску (на 15 часінаў) зь інфармацыяй пра Беларусь і беларускую эміграцыю ды парассылаць яе ў амэрыканскія каледжы й радыястанцы. Маю колькі іншых праектаў на пазьнейшы час. На „Бюлетэнь" зьбіраецца шмат цікавага матар'ялу. Вельмі спрыяе ягонаму выдаваньню сп. Тэрпак. Экзэмпляр зь Мюнхэну Вы атрымалі таму, што ён прыпадкова заблудзіўся ў пачок мюнхэнскае карэспандэнцыі ў нашым паштовым аддзеле.*

*„Бюлетэнь", між іншага, мае вельмі добрыя водгукі адусюль. Ягоная форма (з другой „зялёнай" часткай) дае магчымасьць пашыраць*

[111] Маецца на ўвазе **Кастусь Акула** (1925—2007), беларускі грамадзкі й культурны дзеяч, журналіст, пісьменьнік, выдавец.

[112] Вітаўт Тумаш і Барыс Рагуля былі дактары мэдыцыны.





*весткі, якія ня можа пашыраць ні „Б-на", ні „Беларус", і гэта можа стацца моцным козырам для прыдбаньня ўвагі да яго з боку радных. Марговіч, як бачу па праграмах „Свабоды", працуе ўжо ў рэдакцыі. Зычу Вам і сям'і ўсяго найлепшага.*

*З глыбокай пашанай*
*Ваш Янка Запруднік*

### №62. Амэрыканскі камітэт вызваленьня адмовіўся фінансаваць выданьне францускамоўнага нумару *Problems*. Парыскі блёк мае намер выдаць яго сваімі сіламі. Мэмарандум Блёку генэральнаму сакратару ААН У Тану

*Villepinte, 20.11.62*

*Дарагі Сп. Запруднік,*

*атрымаў толькі што 2—3 № Бюлетэня. Ён робіць добрае ураажаньне, як і першы, як самай формай радагаваньня, так вонкава-рэпрэзэнтатыўна, хоць зьмест і ня ўносіць асабліва чагось новага. Бязпрэчна віна тут у гэтым сэнсе і мая, бо дагэтуль ня даў вам ніводнага артыкулу, які б, як гэта праектавалася, паставіў бы на дзенны парадак нашы праблемы — нутрана-арганізацыйнага жыцьця Рады (у „зялёнай" частцы). Да наступнага № пастараюся гэта зрабіць абавязкова. Было б добра, каб наступны № Вы падрыхтавалі да новага году — як навагодні №. Сп. Адамовіча я прасіў, каб ён вас усіх (Урад у цэлым) паінфармаваў аб усім тым, што зь ім мы тут абгаварывалі, таму ня буду тут на нічым затрымлівацца, ды дадам хіба аб тым, што у нас (Пар. блоку) было вырашана ў Münchenie па ад'езду сп. Адамовіча.*

*Вось жа на астатнім паседжаньні Кантактнай Камісіі выясьнілася, што Ам. Кам. адмаўляецца ад праекту нашага выданьня „у францускай мове" (хоць не зусім фармальна, але адкладаньне „in Kalendas Grekas"). Прэзыдыюм Пар. блоку таму, выходзячы з цэлага раду меркаваньняў, а галоўнае, з узгляду на эўрапейскія пэўныя колы — пастанавіў за ўсялякую цану выдаць 1-шы № гэтага часапісу сваімі ўласнымі сіламі. Дык вось цяпер мы тут, з Цынцадзэ і заняліся ў Парыжы падрыхтоўкай гэтага першага №, у які ўвойдзе 50% матэр'ялу (як „сэлексіон") з „Problems" ангельскай мовы, 50% матэр'ялу дамо новых, на актуальныя праблемы. Спадзяемся выпусьціць яго*

*к канцу студзеня. Ад Амэрыканцаў, пакуль што, трымаем гэта ў сакрэце.*

*Далучаю тут вам копію нашага мэмарандума гэнэральнаму сакратару Thant'у. Мелі намер Вас прасіць размножыць яго на ратататары і пашырыць сярод іншых дэлегацыяў ААН, але цяпер думаю ужо было б запозна. Хіба Вы, на месцы, знойдзеце яшчэ не страціўшым актуальнасьць яго? Калі так, то былі б Вам в. удзячны.*

*Ваш М. Абрамчык*

## №63. Просьба падаць інфармацыю аб пратэстах расейцаў супраць брашуры Парыскага блёку

*Villepinte, 08.I.63*

*Дарагі Сп. Запруднік,*

*Сяньня я атрымаў 82-гі каляндны № „Беларуса“, дзе маецца рэцэнзыйная зацемка на брашуру П. Блоку „Captive Nations“, якой між іншага гаворыцца: „…на выданьне гэтае ўжо накінулася расейская 'едзіна-недзелімая' белая эміграцыя ды засыпае Вашынгтон сваімі абурэньнямі й пратэстамі“.*

*Нам вельмі важна ведаць, зь якіх крыніцаў стала ведама аўтару гэтага артыкулу аб пратэстах і абурэньнях Расейцаў? Быў бы Вам вельмі ўдзячны, каб доўга не адкладаючы Вы ўвайшлі ў кантакт з аўтарам гэтага артыкулу, а магчыма Вам і без таго самому ведама, і паінфармавалі мяне дакладней аб гэтым. Ці лепш кажучы канкрэтна мне падалі:*

*1) Якія сама расейцы, (хто) іменна і ў якія ўстановы яны падавалі тыя свае пратэсты, і калі магчыма самы тэкст іхняга таго пратэсту.*

*2) Калі было ў друку штось з гэтай нагоды ў расейскім, ці англійскім, то прысляць мне выразкі іх.*

*Прашу гэта абавязкова зрабіць для мяне.*

*З пашанай Ваш*

*М. Абрамчык*





## №64. Незадаволенасьць Цынцадзэ. Пленарнае паседжаньне камітэту Парыскага блёку

*Villepinte, 18.6.63*

*Дарагі Янка,*

*Атрымаў з копіі нашага Appela. Дзякую. Вельмі прыгожа выкананы тэхнічна. Шкода толькі, што паслухалі кагось і падалі другі адрыс. Цынцадзэ мне выказаў за гэта моцнае незадавальненьне, пабачыўшы ў гэтым тэндэнцыю Вашых дараднікаў (г. з. А. К. [Амэрыканскага Камітэту]) кантраляваць нас, г. з. беспасярэдне даведацца аб рэакцыі адрэсатаў на наш апэль.*

*Прашу Вас выслаць мне яшчэ ех 30, бо некаторыя нашы цэнтры просяць гэтага ў мяне апэлю па некалькі экзэмпляраў.*

*Апошнія два тыдні быў у Мюнхэне. Адбылося пленарнае паседжаньне Камітэту П. Блоку. Удалося правесьці (хоць зь вялікімі „болямі“) Аўтарханава[113] ў кантрольную камісію і ў рэдакцыю „Problems“. Да ўсей гэтай работы ён (Аўтарханаў) бярэцца з інтузыязмам. Мелі ўжо першае паседжаньне з Кэлі і Клумпам[114]. Аўтарханаў зрабіў на гэтым паседжаньні в. цікавую заяву: чаму і што яго прывяло ў „Пар. Блок“. Маю ўражаньне, што амэрыканцы не спадзяваліся такіх пазыцыяў ад Аўтара. Такой салідарнасьці з пазыцыямі, якія прадстаўляліі ўвесь час я з Цынцадзе. Прывітаньні сям'і і пр. Адамовічу ад мяне.*

*М. Абр.*

## №65. Даручэньне разаслаць дэлегацыям ААН брашуру й заклік Парыскага блёку

*28.9.63 — Villepinte*

*Дарагі Сп. Запруднік,*

*На днёх Вы атрымалі зь Мюнхэну 100 ех брашуры народаў „Парыскага Блёку“. Брашура (гэных 100 ех) прызначана для раздачы дэ-*

[113] **Абдурахман Аўтарханаў**, чэчэнец, былы савецкі прафэсар, выдатны саветоляг, працаўнік Інстытуту вывучэньня СССР, аўтар вядомага аналізу савецкай сыстэмы ў кнізе „Тэхналёгія ўлады“.

[114] **Ўілі Кламп** (*William (Willie) Klump*), службовец Амэрыканскага камітэту вызваленьня.

*легацыям Асамблеі Аб. Нац. Выслалі Вам 100 ех, бо рэшта яшчэ не зброшуравана.*

*За два — 3 дні высылаю на Ваша імя мэморандум — „appele“ да дэлегатаў Асамблеі. Ад імя Прэзыдыюма Лігі і ад сябе асабіста вельмі Вас прашу гэты appele ў залучаньні да яго па ех. брашуры раздаць (разам) ці разаслаць кожнай дэлегацыі (за выняткам, зразумела, савецкім і сатэліцкім).*

*На помач сабе заангажуйце Султана і яшчэ кагосьці (калі такія там у Вас пад рукамі маюцца) з кантактнай камісіі Парыскага Блёку. Будзем вам усім за гэта в. удзячныя.*

*Ваш М. Абрамчык*

**№66. Просьба разаслаць брашуру й мэмарандум Лігі. Цяжкасьці са старшынствам у Лізе і ў дачыненьнях з Амэрыканскім камітэтам**

*17.10.63 Villepinte*

*В. Паважаны й дарагі сп. Запруднік,*

*Ад мяне асабіста і Прэзыдыюму Лігі да Вас вялікая просьба. Вам ужо пісаў, што выслана 100 ех. нашай брашуры, і што маем выслаць мэмарандум як далучнік да кожнага ех. гэтай брашуры. З узгодненьнем тэксту, асабліва зь перакладам яго на ангельскую мову справа трохі зацягнулася. Меў яго я потым выдрукаваць тут і Вам прыслаць усё гатовае, але цэлы шэраг перашкодаў змусілі мяне зьвярнуцца да Вас з гэтай просьбай, каб Вы зрабілі так, як калісь ужо нам зрабілі — адбіць на ратататары ў камітэце, а потым заангажаваць сабе Султана і яшчэ кагосьці і раздаць яго дэлегатам А.Н.*

*Чуў я, што сп. Т. [Тэрпак] Вам в. „цікава“ выказаў свае меркаваньні аб „Бортніку“, шкода, што не магу гэта выкарыстаць, каб не было Вам прыкрасьцяў (а мо магу, напішыце мне). 22-га еду з Цынцадзе ў Мюнхэн, будзе ў нас сур'ёзная размова з Ам. Кам. У мяне амаль рашучая пастанова кінуць гэта старшынства — бо да ўсіх маіх цяжкасьцяў чыста асабістага парадку не абыякі яшчэ мяшок пяску на плячах з гэтым камітэтам ды блокам.*

*У справе маей просьбы пазыкі — Вам раскажа сп. Адамовіч — яе я адклікаю.*

*Прывітаньні жонцы і дзеткам.*





*Напішыце мне як маецеся. Наш Альгэрд ідзе в. добра з вучобай. Па-нашаму ён ужо у І-й клясе гімназіі.*

*Ваш М. Абрамчык*

**№67. Адваротны адрас пры рассылцы звароту Лігі да дэлегацыяў у ААН**

*Villepinte, 24.10.63*

*Дарагі Сп. Запруднік,*

*Толькі што атрымаў Ваш ліст. Вельмі дзякую, што ўзяліся за выконваньне нашае просьбы. Што датычыцца адрыса, то гэта абсалютна нічога не камплікуе, калі ад якойсьць фірмы выступае з камісьёнам яе агэнцыя, ці прадстаўнік, а адрыс падаецца цэнтралі фірмы. І наадварот, было б вельмі нязручна, калі б у даным выпадку Ліга выступаючы з апэлям падала ня свой адрыс. Султанова ж сугэстыя дык зусім ужо не на мейсцы. Падавайце таму адрыс Лігі — Парыж, 65, Rue des Gravilliers. Так мы заўсёды рабілі, калі я падаваў розныя мэморандумы з Вашынгтону, ці Рыму. Вяртаўся дадому і адказы атрымліваў часам за пару месяцаў, часам нат за паўгоду. Зь нікім таму ў гэтым пытаньні не радзьцеся, і нікога ня слухайце.*

*Прывітаньне сямейцы і сп. Адамовічу. У наступную суботу (26-га) еду у Мюнхэн на нейкі тыдзень, назад вяртаючыся манюся затрымацца на пару дзён у Боне.*

*У Мюнхэне буду жыць у Галіны [Ганчарэнкі].*

*Ваш М. Абрамчык*

*P.S.*

*Вітайце ад мяне Колю зь сям'ёй. Калі маеце ў сябе тасьму з Альгердавага інтэрв'ю (Цьвірка мне казаў, што копію гэтай тасьмы, як узор для дзіцячых інтэрв'ю, ён выслаў у Нью-Ёрк, Лёндан і а. Смаршчку), то дайце Колю, хай ён пачуе голас Аліка.*

## №68. Рассылка апэлю Парыскага блёку. Запачаткаваньне выхаду бюлетэню „Навіны зь Беларусі“

*Нью-Ёрк, 25.X.63*

*Вельмі Паважаны Спадар Прэзыдэнт!*

*Пару тыдняў таму атрымаў вялікі пакет кніжак, а ў канцы мінулага тыдня — апэль. Стараюся наладзіць цяпер рассылку іх пры дапамозе Пэчавага аддзелу. Паўстала тут пытаньне, як вытлумачыць факт, што адваротны адрыс Парыскага Блёку на апэлі — Парыж, а апэль рассылаецца зь Нью-Ёрку. Які адваротны адрыс паставіць на капэртах? Радзіўся толькі што з Султаном. Ён кажа, што трэба даць нейкі прыватны адрыс, бо ж не паставіш А. К-ту. Трэба таксама будзе дастаць сьвежыя адрасы дэлегацыяў ЗН [ААН], бо тыя, што ў мяне былі, застарэлыя, а ў міжчасе я такімі справамі не займаўся. Словам, за тыдзень ці два, думаю, разашлецца.*

*Па вавароце зь Мюнхэну маю вельмі шмат працы з паўгадзіннымі праграмамі, на якія цяпер трэба пераходзіць. Гэта значыць, што раз на тыдзень мушу рабіць закончаную паўгадзінную праграму, і яна будзе перасылацца нядзелямі з гішпанскае базы. Гэта мае быць праграма на беларускія тэмы, а таму шукаю цяпер карэспандэнтаў у Аўстраліі, Аргентыне, Канадзе, якія б маглі прысылаць інфармацыі зь беларускага жыцьця гэтых краёў. Прэсы ў нас няшмат, а таму хроніку зьбіраць вельмі цяжка, а гэткімі весткамі якраз вельмі цікавіцца наш слухач. З Таронта будзе пісаць Акула. У Аргентыну напісаў Цяўлоўскаму (навагрудзкі „паляк“), у Аўстралію — Нікану.*

*На прапанову Пэчавага аддзелу, падтрыманую Сарджантам, пачаў рыхтаваць цяпер невялічкі пэрыядычны бюлетэньчык „Навіны зь Беларусі“ на матар'яле з савецкага друку. Гэта падборка выпісак з савецкае прэсы, якія даюцца без камэнтароў. Да іх далучаецца нейкі матар'ял з радыё „Свабода“ на тэму беларускіх падзеяў. Задумана гэта для палепшаньня ўражаньня сярод эміграцыі пра АК [Амэрыканскі камітэт]. Першы выпуск „Навінаў“ мае быць гатовы дзесьці ў канцы наступнага тыдня. Прышлю Вам.*

*Казаў мне нядаўна Коля [пляменьнік Міколы Абрамчыка], што атрымаў ліст ад сястры. Піша, каб не прысылаў ёй больш пасылак, бо яны ўжо там неяк даюць сабе рады, а каб лепш сам купіў сабе ў запас мукі й крупаў. Паніка там, відаць, даходзіць да крайнасьці.*

*Сям'я ў мяне маецца добра. Абедзьве малыя ўжо школьніцы.*





*Чуў у Мюнхэне інтэрвію з Вашым Алікам. Слухаў і захапляўся.*
*[Канцоўка ліста не захавалася.]*

## №69. Пытаньне адваротнага адрасу пры рыссыланьні бюлетэню Парыскага блёку. Інтэрвію з сынам Міколы Абрамчыка

*Нью-Ёрк, 02.XII.63*

*Вельмі Паважаны Спадар Прэзыдэнт!*

*Пасылаю Вам тое, што маю — 10 экз. апэлю. Рэшта разасланая. На жаль, я зрабіў толькі 120 штук. Дармо Вы кажаце, што я падаў „другі адрас“. Як самі бачыце, на першай балонцы стаіць у самым цэнтры адрас парыскі. Мой пададзены, калі б хто-небудзь зажадаў дадатковае інфармацыі. Калі хто-небудзь будзе адказваць на атрыманы апэль і кнігу, дык, зразумела, будзе пісаць у Парыж. Калі б здарылася, што такая карэспандэнцыя была прысланая на мой адрас — у што я ня веру — дык я Вам безадкладна перашлю яе.*

*Выяжджаючы зь Мюнхэну, я прасіў прыслаць мне копію інтэрвію з Алікам. Галіна [Ганчарэнка] абяцала зрабіць гэта. На жаль, дагэтуль нічога не атрымаў. Колі я казаў пра гэтае інтэрвію, і ён прасіў мяне, як атрымаю, даць яму паслухаць. Мо прыйдзе яшчэ?*

*Зычу Вам і сям'і ўсяго найлепшага. Вітаньні ад сп. Адамовіча.*

*З глыбокай пашанай*
*Ваш Я. Запруднік*

## №70. Натальля Арсеньнева пачне працу на радыё „Свабода“. Справы ў Беларускай рэдакцыі радыё „Свабода“ ў Мюнхэне палепшалі

*Нью-Ёрк, 20.XII.63*

*Дарагі Спадар Прэзыдэнт!*

*Хоць кораценька:*

*Ад пачатку наступнага году на штаце Беларускае рэдакцыі радыё „Свабода“ ў Нью-Ёрку мае працаваць сп-ня Арсеньнева. Удалося ўладзіць яе дзякуючы таму, што я маю зашмат радыёвае работы. Арсеньнева будзе займацца рознымі справамі, зьвязанымі з рыхта-*

*ваньнем праграмаў. Часткава гэта будзе сакратарская работа, часткава рэдактарская, хоць дакладна сказаць пакуль што цяжка.*

*Спачатку я думаў адмовіцца ад сваіх тыднёвых рэпартажоў, каб разгрузіцца крыху, але выявілася, што гэтымі рэпартажамі карыстаюцца ў Мюнхэне іншыя рэдакцыі, у тым ліку й расейская. І дзеля гэтага тут пайшлі мне на дапамогу. Арсеньнева, пэўна ж, задаволеная з такога павароту.*

*Нядаўна быў тут Робэрт Так*[115] *, палітычны дараднік радыё „Свабода“. Казаў мне, а таксама й іншым, што Цьвірка апошнім часам вельмі падцягнуўся, і справы ў Беларускай мюнхэнскай рэдакцыі стаяць куды лепш. Трэба спадзявацца, што ў гэтым кірунку яны пойдуць і далей.*

*Зычу Вам і сям'і Вясёлых Сьвятаў і шчасьлівага Новага Году.*

*Вітаньні ад сп. Адамовіча.*

*Шчыра Ваш*

*Янка Запруднік*

## №71. Вітаўт Тумаш пра адмоўную рэцэнзію на публікацыю Парыскага блёку. Натальля Арсеньнева на працы ў радыё „Свабода“

*Нью-Ёрк, 23.I.64*

*Дарагі Спадар Прэзыдэнт!*

*Выбачайце, што затрымаўся крыху з адказам на Ваш апошнім ліст. Хацеў пабачыцца з Тумашам, аўтарам „рэцэнзіі“ на кніжку аб паняволеных народах СССР. Зразумела, на Вашы пытаньні — хто й што й калі з расейцаў пісаў у Вашынгтон? — Тумаш нічога канкрэтнага ня мог адказаць. Ён кажа, што калісьці дзесьці штосьці бачыў (у нейкай украінскай газэце), але што — не прыгадвае. Гэтага яму хапіла, аднак, каб пісаць пра „абураныя пратэсты“. Казаў мне пры гэтым, што ён не хацеў нападаць на выданьне, а хацеў памагчы, каб „пры другім выданьні ўлічылі памылкі“. [...]*

*Арсеньнева з работай спраўляецца вельмі добра. Сядзім мы пакуль што за адным сталом. Цесна, але мо з часам уладзімся неяк.*

[115] **Робэрт Так** (*Robert L. Tuck*), службовец Амэрыканскага камітэту вызваленьня, пэўны час быў дырэктарам праграмнага аддзелу радыё „Свабода“.





*Залучаю Вам тут копію ліста ад прафэсара Бакуса*[116] *. Ён шэфам Славянскага дэпартаманту ў сваім унівэрсытэце. Як бачыце, вельмі цікавы чалавек для беларускае гісторыі. Я буду трымаць зь ім лучнасьць.*

*За два месяцы ў мяне канчальныя экзамены.*

*[Канцоўка ліста не захавалася.]*

## №72. Антон Адамовіч — лектар Калюмбійскага ўнівэрсытэту. Уплыў Абрамчыкавага артыкулу на прамовы сэнатараў у Кангрэсе. Канцэпцыя беларускай аўтаноміі ў ЗША

*Нью-Ёрк, 30.IV.64*

*Дарагі Спадар Прэзыдэнт!*

*Падхадзіўся я крыху із сваімі экзаменамі: на пачатку гэтага месяца здаў чатыры пісьмовыя. Засталіся яшчэ дзьве замежныя мовы (расейская й француская) ды вусны адзін. Цяпер буду брацца за мовы, а вусны давядзецца здаваць у канцы году. Бяруся пакрысе й за дысэртацыю (тая ж тэма: палітычная гісторыя БССР).*

*Крыху апошніх вестак:*

*На гэтым тыдні Адамовіч атрымаў назначэньне ад Калюмбійскага ў-ту на лектара: у першай палавіне наступнага году ён будзе выкладаць там гісторыю савецкае літаратуры дваццатых гадоў. Гэта, бясспрэчна, вельмі памысная падзея.*

*Казаў мне пазаўчора Тумаш, што ён, пераглядаючы „Конгрэшэнал Рэкорд“ (сёлета ў Кангрэсе было 25 заяваў на Сакавік [угодкі БНР]), устанавіў, што Ваш артыкул зрабіў вялікі ўплыў на заявы кангрэсмэнаў. Я Тумашу сказаў, што паколькі ў „Беларусе“ кніжку Парыскага Блёку лаялі, дык цяпер трэба было б пахваліць. Тумаш даводзіў мне, што гэта была ня лаянка, а „сяброўская крытыка“. [...]*

*Казаў я Арсеньневай гэтымі днямі, каб з усіх скрыптаў, якія маюць у сабе грамадзкія ці палітычная навіны (часамі бываюць цікавыя й сьвежыя) высылала Вам адразу копію. Спадзяюся, што Вам некаторыя весткі будуць новымі.*

*Зьявілася ў мяне вось думка, што нам варта было б сфармуляваць канцэпцыю беларускае нацыянальна-культурнае аўтаноміі ў*

[116] **Освальд Бакус** (*Oswald P. Backus III*), прафэсар Канзаскага ўнівэрсытэту, аўтар працы пра беларускіх дваранаў Вялікага Княства Літоўскага.

*Амэрыцы — як супрацьлежнасьць да неіснуючае бэзсэсэраўскае сувэрэннасьці, а таксама да савецкага тэрытарыяльнага прынцыпу аўтаноміі, у сілу якога беларусы вонках БССР ня могуць мець ані сваіх школаў, ані выдавецтваў, ані тэатраў. Я думаю, што можна было б знайсьці сэнатара, які выступіў бы ў Кангрэсе з такой канцэпцыяй беларускае аўтаноміі ў Амэрыцы, дзе беларусы ў форме аўтаноміі перахоўваюць ідэю незалежнае БНР. Гаварыў сёньня із Ст. Ст. [Станіславам Станкевічам] на гэтую тэму. Ён кажа, што на Шостай сустрэчы Беларусаў Паўночнае Амэрыкі, што мае адбыцца сёлета, можна было б правесьці адпаведную рэзалюцыю ў гэтым сэнсе.*

*Будзем бачыць.*

*З найлепшымі пажаданьнямі Вам і сям'і.*

*Янка Запруднік*

## №73. Справа прыняцьця Ўладзімера Бортніка на працу ў радыё „Свабода“ і канфлікт вакол асобы Міколы Гэруса

*Villepinte, 12.12.66*

*Дарагі Янка,*

*Толькішто атрымаў Ваш ліст і адразу ж перадаў яго зьмест Цьвірку. Разам з гэтым вылаяў яга (Цьвірку), што не трымаў Вас у курсе аб сытуацыі у бел. рэдакцыі вытваранай якраз гэтым хуліганам Гэрусам*[117]*. Бо тое, што Вы мне кажаце аб „сьлёзах“ Дабранскага*[118]*, дык нашы там (у бел. сэкц.) удвойчы больш плачуць за Дабранскага. Ад сьлёз жа гора потым заліваюць бедакі. Агулам гісторыя з Гэрусам гэта беспадобная дагэтуль, скандальная гісторыя у сыстэме „амэрыканскіх дарадчыкаў“. Гэрус зусім не надаецца да такой сур'ёзнай функцыі. Ён найперш і не мае на гэта адпаведнай палітычнай падгатоўкі, а па характару гэта ня толькі з „дыктатарскімі“ замашкамі... я сказаў бы напроста, нявыхаваны вясковы хуліган, прымітыўны, самазаўзяты... Вельм шкода, што паяўленьне гэтага „гэроя“ на мюнхэнскім тэрэне супала з паяўленьнем новага дырэктара радыё, а ў зьвязку з гэтым, пераменай шмат якіх іншых „дырэктароў“. У гэты пэрыяд якраз у нас праводзілася папаўненьне (на месца памерлага в.п. П. Сыча) пэрсанала у рэдакцыі. Мы падалі сп. Бортніка, якога ўсе мы тут лічылі поўнасьцю адпаведнага для вымогаў працы ў рэдакцыі (бел. секц.). Гэрус праводзіў „акзамен“. Бортнік напісаў 7 скрыптаў, з якіх 5 было прынята Гэрусам і перадана. Адзін быў адкінуты зусім беспадстаўна, і адзін адкінуты, як прызнаўся сам Гэрус, таму што Цьвірка пахваліў гэны скрыпт а „я (Гэрус) хацеў паказаць, што ня Цьвірка тут гаспадар, а я“ (гэтыя словы Гэруса, сказаныя самому Бортніку).*

*Я з Лівіцкім рабілі дэмарш у Скота*[119]*. Вылічылі ўсе хлапчукоўскія і хуліганскія замашкі Гэруса (на падставе як сваіх собскіх назіраньняў, так і заяваў-асьветчаньняў Дабранскага і Цьвіркі) і дамагаліся яго (Гэруса) убраць з гэтага так адказнага становішча. Я матываваў адкіненьне ім кандыдатуры Бортніка, як сабатаж працы ў бел. рэдакцыі і т. п. — Скот абяцаў гэта разгледзець, але, як выглядае, у справе канд. Бортніка Гэруса падтрымаў Дзякоўскі*[120] *(гэты мала чым адскочыў ад Гэруса, бо пасябравалі) ды не завіднае таксама і гэты Скот. Зрэшты, гэта зусім новы чалавек у радыёвых справах, лепш кажучы, у гэтым усім спэцыфічна-мяшчанскім склумку.*

*Цяпер зьбіраюся яшчэ раз адведаць Мюнхэн перад сваім выездам да вас, і яшчэ больш рубам паставіць Скоту справу замены гэнага „дарадчыка“ якімсь прынамсі нармальным чалавекам, а калі нічога у гэнага Скота не даб'юся — паставіць тады гэту справу Саржанту, што ў такой „кумпаніі“ запраўды мы ня можам удзельнічаць у працы.*

*Да вас у Амэрыку нарэшце усё ж такі еду. Меўся прыехаць нат на сьвяты. Адклаў затым на 4—6 сьцюдзеня. Магчыма гэта паездка ў Мюнхэн яшчэ затрымае на некалькі дзён, але між 10—15 сьцюдзеня буду ў вас напэўна.*

*Жадаю Вам і ўсёй Вашай сямейцы вясёлых Сьвят Калядаў і шчасьлівага Новага Году.*

*М. Абрамчык*

[117] **Мікола Гэрус** (ранейшае прозьвішча Дончанка), украінец, які працаваў рэпартэрам у Нью-Ёрку ва Ўкраінскай рэдакцыі радыё „Свабода“ й адначасна заступнікам Густава Бурбеля, загадчыка аддзелу нерасейскіх рэдакцыяў. Недзе ў першай палове 1960-х яго перавялі ў Мюнхэн на пасаду дарадніка Украінскай і Беларускай рэдакцыяў радыё „Свабода“. Там ён выявіў сваю крутую самаволю ў дачыненьні падначаленых.

[118] **Дабранскі,** шэф Украінскай рэдакцыі радыё „Свабода“ ў Мюнхэне.

[119] **Ўолтэр Скот** (*Walter K. Scott*), дырэктар радыё „Свабода“ ў Мюнхэне, былы дыплямат.

[120] **Морыс Дзякоўскі** (*Morris Diakowsky*), канадзец украінскага паходжаньня, палітычны дараднік Украінскай і Беларускай рэдакцыяў радыё „Свабода“ ў Мюнхэне.

## №74. Справа Гэруса й Блажэвіча ў Беларускай рэдакцыі радыё „Свабода“. Пагроза спыніць супрацоўніцтва з Амэрыканскім камітэтам

*Villepinte, 02.4. 1967*

*В Шаноўны сп. Запруднік,*

*Вашыя абодва лісты з копіямі лістоў праф. Адамовіча да Цьвіркі атрымаў, дзякую.*

*Не рэагаваў на вашыя лісты зь дзьвюх прычынаў:*

*1) што хоць я і вярнуўся са шпіталя ўжо праз 2-ва тыдні таму, але да такіх „далікатных“ справаў, зьвязаных з Ам. Кам., мне брацца не рэкамэндавалася, бо ж, як вам пэўне ведама, гэтыя „А. Камітэцкіе“ справы і прычыніліся былі галоўным чынам тога, што я папаў у шпіталь.*

*2) спадзяваўся, што нашые „мюнхэнцы“, ведаючы ў якім стане я знаходжуся, атрымліваючы ад Вас такія лісты, патрапяць самі, безь мяне, вам усё належна выясьніць і ўсё з вамі узгодніць.*

*Цяпер жа бачу, што яны якраз гэтага не зрабілі, бо ўчора атрымаў ад сп. Сенькоўскага ліст, у якім ён, ад імя ўсіх там нашых просіць мяне, каб вам напісаў я, бо маўляў, на іх лісты вы не зьвяртаеце ўвагі. Па лістох жа сп. Адамовіча да Цьвіркі і Вашым да мяне апошнім лісьце, бачу, што вы ўсе зусім не арыентуецеся ў сытуацыі, што склалася ў Мюнхэне, чаму і прапануеце такія рэчы як: „нейтралізаваньне кліна“, зварот „блуднага сына“ і т. п., у той час, калі справа зусім не ў якімсь „блудным сыне“ ці Блажэвічу-„кліне“[121], а ў Гэрусаўскім кліне. Гэрусе самым, проці якога мы тут павялі і мусім давесьці да канца змаганьне, бо справа пастаўлена так: або нам (Радзе БНР) застаюцца ўсе (хоць і так куртатыя) правы ў справах радыя-перадачаў, якімі мы карысталіся працягам 13 год на падставе нашае вербальнае ўмовы з Ам. К-м пры заснаваньні бел сэкцыі, або ўсе гэные паўнамоцтвы, уключна зь вярбоўкай супрацоўнікаў у бел. сэкцыю, перадаюцца Гэрусу, а мы г. з. Рада БНР павінны толькі быць памочнікамі Гэруса.*

*Пэўне ж лішне тут гаварыць, што гэта больш, чым абразьліва для нас. На такую формулу „супрацоўніцтва“ з Ам. К. мы ніколі ня згодзімся. Таму мы і сталі перад дылемай (як пісаў я Dr. Станкевічу з просьбай паведаміць вас усіх): або нам застаюцца і пры новым дырэктару (з. Скоту) нашыя старыя, прынамсі, правы, або мы змушаны пакінуць А. К., адмовіцца ад усякага нашага удзелу, а знача і ад нашай адказнасьці — лічучы пакінуўшы ўсю справу радыя — справай чыста Амэрыканскай.*

*Я перакананы, што справу гэту выйграць нам ужо й ня так цяжка, бо я асабіста пэўны, што сам дырэктар, які зусім новы чалавек, пакуль што не ўвайшоў у курс справы, чым гэтая лавачка — Гэруса-Дзякоўскага і карыстаецца. Але дзеля таго, што Гэрусава паводжаньне настолькі хуліганскае, што супроць яго пасяганьня на аўтаномныя правы бел. і укр. сэкцыі так салідарна выступілі з пратэстам усе рэдакцыі, уключна з расейскай, дык як і самі Вы пішаце, што проці яго і Бурбель, і Абаленскі[122] ў N. Y., выкурыць Гэруса, або прынамсі адшыць яго ад умешваньня ў нашы нутраныя справы паўтараю, і не так ужо цяжка, але пры ўмове, што і ўсе нашы супрацоўнікі (бел. Р. С.) будуць гэтак жа салідарна рэагаваць, як у мінулым разе зарэагавалі былі супраць Гіцкага, хоць нашы пазыцыі былі тады шмат слабейшыя (не хочу на гэтым затрымлівацца).*

*Тое ж, што прапануецца ў лісьце праф. Адамовіча, з чым і вы, як пішаце, згодны, гэта ніяк іначы (у такой сытуацыі) нельга трактаваць як прыпыненьне ўсяго намі распачатага змаганьня; поўнай капітуляцыі перад Гэрусам, ці лепш кажучы, падтрымаць пазыцыі Гэруса, супраць нас самых і усіх рэдакцыяў, стаўшых на наш бок.*

*Вось жа, даражэнькія, як выглядае, коратка гаворачы, уся гэтая гісторыя.*

*Пару яшчэ словаў што да самога Блажэвіча. Блажэвіча мы ня можам іначы трактаваць, як яго патрактавалі. Вельмі шкода, што сп. Бартуль памагаючы яму калісь пасылкамі, не накіраваў яго да беларусаў у Мюнхэне. Тады (а гэта добрых 10 год таму, як выглядае) маглі яму лёгка памагчы „вярнуцца“ да беларусаў. Безумоўна, не палічылі б яму за ганьбу, што ён рабіў вайсковую кар'еру ў латышоў. Рабіў вайсковую кар'еру ў расейсцаў і Манэргайм, і Жэлінгоўскі [Жэлігоўскі], і Доўбар-Мусьніцкі — але з гэтай „кар'ерай“ у патрэбны момант яны адразу ўключыліся ў свае належныя шэрангі. Блажэвіч жа падчас нямец. акупацыі дзеяў у латышскіх фармацыях. Атрымліваючы пасылкі ад сябры беларуса — рэпрэзэнтаваў у Мюнхэне ла-*

[121] **Блажэвіч**, працаўнік Беларускай рэдакцыі радыё „Свабода“.

[122] **Валерыян Абаленскі** (*Valerian Obolensky*), дырэктар праграмнага аддзелу радыё „Свабода“ ў Нью-Ёрку.

*тышоў — у міжнацыянальным камітэце побач з Бортнікам. Блажэвіча таму увесь Мюнхэн ведае як латыша, так як Бортніка беларуса. Таму і нашы супраць яго аргумэнты — што ў бел. рэдакцыю мы дамо беларуса — а латыша яны павінны ўбраць. Прыласкаваць Блажэвіча, калі ён сьведама пайшоў з Гэрусам на дывэрсыю, спачатку хіба манэўруючы супроць кандыдатуры Бортніка, а цяпер наогул стаўшыся агэнтам Гэруса, толькі таму, што ён калісь лічыў сябе беларусам — нельга. Dr. Станкевіч можа вам больш сказаць аб тых заядлых нат бел. нацыяналістых, якія ня толькі пасканчалі бел. гімназію Езавітава — А. Луцкевіча — Тарашкевіча — як Сароку і паэта Бартуля, ды што яны потым навытваралі. Адносна чэснасьці маралі яго — калі сп. Бартуль (наш у N. Y.) і не памыляўся ў мінулым, то не такім гэты Б. выглядае цяпер. Людзі, бачыце, з часам мяняюцца і сп. Бартулю (нашаму) я б не раіў зьвязвацца цяпер з Блажэвічам.*

*5—6 і 7 красавіка ў нас адбудзецца г. з. „Сэсыя“ кантактнай камісіі. Першым пунктам парадку дня пастаўлена: „Аб кампэтэнцыях адвайзэраў [дараднікаў] і правох нац. рэдакцыяў“ без скобак „аб хуліганстве Гэруса і правох нац. рэд.“ У склад кантактнай камісіі ад Пар. Блоку ўвайходзяць: Цындзадзе, Лівіцкі і я. З боку Амэрыканцаў: Сосін*[123] *, Клумп [Кламп] і Вандэррор*[124] *. Еду на гэту „Сэсыю“ ўсё ж і я, хоць не без рызыкі, бо тэрмін майго „канвалесанса“ [выздараўленьня] далёка ня скончыўся. Як будзе вырашана на „сэсыі“ справа наогул, да чаго там дагаворымся, ці не дагаворымся, вам тады напішу. Цяпер жа прасіў бы вас усіх мець на ўвеце адно і не выпускаць гэта з пад увагі: што калі б наша тут, у Мюнхэне, дырэкцыя радыя пайшла па лініі — Гэруса-Дзякоўскага і Co, г. з. як казаў вышэй, пазбаўленьне нас усіх ранейшых правоў — буду тады пісаць Сарджэнту. Мала таго, што я буду пісаць — бээнэраўскія грамадзкія і палітычныя арганізацыі павінны будуць (у выпадку супраціву Саржанта) зьвярнуцца да яго з пратэстам, што па 13-гадовым нашым супрацоўніцтве нам прапануюцца дыскрымінуючыя, зьневажаючыя формы „спаўпрацы“, што спаўпрацу з Амэрыканскім камітэтам мы разглядаем не як заработкі для 10-ка людзей, падпарадкаваньне іх чыноўнікам Ам. кам., а як прадстаўнікамі бел. грамацка-палітычных установаў, ад імя якой (гэтай грамадзкасьці) Р. С. і выступае, а ў сваіх заўсёды да нас (нат і не даўным, месяц таму) лістох Саржант запэўнівае, што без нас (Пар. бл.) як саюзьнікаў і партнераў існаваньне Ам. Кам. было б бессэнсоўным.*

*Канчаю. У нас няма іншага выхаду, як стоячы на тым грунце, на якім мы распачалі супрацоўніцтва з А. К., адстойваць свае правы. Эвэнтуальна скаардынавана дзеяць, не даць ні маленькай падставы ім зразумець, што пры маленькім на нас нат націску мы капітулюем. Сардэчна вас усіх вітаю ваш*

*М. Абрамчык*

[123] **Джын Сосын** (*Gene Sosin*), саветоляг, які працаваў у праграмным аддзеле радыё „Свабода“. Аўтар кнігі ўспамінаў (*Sparks of Liberty. An Insider's Memoir of Radio Libery. The Pennsylvania State Univerity Press, University Park, Pennsylvania, 1999. — 313 p.*).

[124] **Эдвард Ван Дэр Рор** (*Edward Van Der Rhoer*), дырэктар палітычнага аддзелу радыё „Свабода“.





## №75. Пазыцыя беларускіх працаўнікоў радыё „Свабода“ ў Нью-Ёрку ў канфлікце Рады БНР з Амэрыканскім камітэтам

*7 красавіка 1967*

*Дарагі Спадар Прэзыдэнт!*

*Шчыра дзякую за ліст і інфармацыю пра нашыя справы ў Мюнхэне. Вялікая шкода, што пра ўсё гэта даводзіцца пісаць Вам самым, хвораму й занятаму безьлічай іншых справаў. Сябры нашыя ў Мюнхэне, на правялікі жаль, адзначаюцца надзвычайнай здольнасьцяй да маўчаньня пра рэчы, што датычацца ўсіх нас. І Сянькоўскі хлусіць, калі піша Вам, што мы не зварачаем увагі на іх „лісты“. Пра мюнхэнскія камплікацыі і пра самога Блажэвіча мы тут упяршыню даведаліся зь нядаўнага Цьвіркавага ліста й тэлеграмы сьледам за ім з просьбай аб сьпешным адказе. Да гэнага часу, на працягу даўгіх месяцаў, мы ня мелі аніякае камунікацыі ад нашых у радыё. Пабежна й коратка пісаў адно Кабыш*[125] *у лістох да Адамовіча (два—тры сказы) ды рэха мюнхэнскіх пэрыпэтыяў даходзіла часамі іншымі навакольнымі дарогамі. Тым жа часам у такой сытуацыі, дзе трэба дзеіць супольна й скаардынавана, нельга не інфармавацца ўзаемна. Мы гатовыя на ўсякую салідарнасьць, толькі хочам і вымагаем канкрэтнага веданьня сытуацыі, каб ня быць змушанымі займацца дэманстрацыяй усьляпую.*

[125] Маецца на ўвазе **Сымон Кабыш (Кандыбовіч)**, працаўнік Інстытуту вывучэньня СССР, палітычны дзеяч, радны БНР, пазаштатны аўтар радыёгутарак у беларускай праграме радыё „Свабода“.

*Дарэчы, хацелася б нам тут ведаць, як разумець ідэю „супольнасьці“ фронту? З Вашага ліста выглядае, што гэтая супольнасьць пашыраецца й на нашых партнэраў у Парыскім Блёку, перш-наперш на ўкраінцаў. І, зразумела, што гэтая супольнасьць адно ўзмацняе нашыя пазыцыі. Ці ня трэба, аднак, улічваць тут і магчымасьць, што „вайна“ можа звузіцца адно да фронту беларускага? Пры гэткіх дылемах трэба браць наўвету заўсёды варыянт горшы, гэта значыцца, што нам давядзецца змагацца самым, ды змагацца да канца.*

*І тут мы мусім загадзя ўсьведаміць сабе ўсю паважнасьць сваё пагрозы зрыву, калі да яе дойдзе, ды быць гатовымі яе выканаць. А дзеля гэтага трэба цяпер жа ўзважыць усё, што пацягне для нас за сабой гэткі крок у выпадку, калі Камітэт не паддасца на наш сэпаратны ціск.*

*Як будзе тады выглядаць сытуацыя ў мюнхэнцаў, Вам відней. Я хачу сказаць пару слоў што да Нью-Ёрку.*

*У Нью-Ёрку з радыёкамітэтам зьвязаныя цяпер Адамовіч, Станкевіч, Арсеньнева, Уладыка Васіль і я. Усе мы гатовыя да салідарнасьці. Вы мусіце ведаць, аднак, што пры нашым адыходзе спыніцца ня толькі радыёвая наша работа тут. Гэта пацягне за сабой шмат больш. Бо пры Камітэце ў Нью-Ёрку робіцца куды больш, чымся беларускія радыёвыя праграмы. Мы выкарыстоўваем тут — неафіцыйна — і час, і некаторыя матар'яльныя магчымасьці дзеля шырэйшае беларускае працы — выдаваньня газэты „Беларус“, друкаваньня розных матар'ялаў і камунікатаў, інстытуцкага [БІНіМу] „Абежніка“, рэзалюцыяў, пашырэньня інфармацыі пра Беларусь у палітычных колах ЗША, нават рассыланьня магнітафонных істужак на розныя сьвяткаваньні і ўрачыстасьці па беларускіх асяродках. Усё гэта, пэўна ж, рэчы другарадныя. Частка гэтае работы будзе неяк рабіцца й пасьля нашага адыходу ад радыё. Але ці ня большая частка загрузьне ў новых, больш складаных умовах быту.*

*Наш абавязак паінфармаваць Вас пра ўсё гэта, бо правільныя крокі лягчэй рабіць тады, калі перад вачыма <u>ўся</u> рэчаіснасьць.*

*Што да самых беларускіх праграмаў радыё Свабода, дык пры нашым супольным адыходзе Камітэт іх наладзіць ня здолее. Кансэквэнцыяў гэткае магчымасьці паясьняць Вам хіба няма патрэбы.*

*Усё гэта трэба ўзважваць <u>цяпер</u> — перад тым, як ставіць ультыматум, — каб пасьля праводзіць пасьлядоўна ў жыцьцё прынятую пастанову й не выстаўляць сябе на пасьмешышча перад іншымі й перад самымі сабою.*





*З Вашага ліста відаць, што пазыцыю Вы занялі правільную — і ў сэнсе супольнасьці із сябрамі Пар. Блёку, і ў сэнсе паступовасьці ціску на Камітэт. Із свайго боку мы падтрымваем Вас і нашых сяброў у Мюнхэне ў адваёўваньні свайго права й прынцыпаў, на якіх мы згадзіліся працаваць у Камітэце. Просім адно, каб мюнхэнцы знайшлі крыху часу на трыманьне лучнасьці з намі (не раз на год, а прынамсі 1—2 на месяц) і дзеля трыманьня супольнасьці фронту, чаго вымагае ад усіх паважнасьць палажэньня.*

*З глыбокай пашанай і найлепшымі зычэньнямі*

*Ваш Янка Запруднік*

### №76. Канфлікт Рады БНР з Амэрыканскім камітэтам вакол кампэтэнцыі назначаць працаўнікоў у Беларускую рэдакцыю радыё „Свабода“

*München, 10.4.67*

*Дарагі Янка,*

*Учора атрымаў Ваш ліст. Адкажу вам на яго за пару дзен больш дакладней па усіх пунктах нашых тут намечаных і узгляднёных ходах. Перадаў Ваш ліст Цьвірку, каб і яны вам пісалі. Сяньня ж дзе што ў пару словах, бо ад учарашняга вечара я пасяліўся ў клініцы для прадоўжаньня свайго лячэньня. Першых таму пару дзён, пакуль мяне будуць выпрабовываць, ня буду так вольны.*

*Вось жа перадусім наша „сэсыя“, што адбывалася на працягу 3х дзён (5, 6-га і 7-га IV), не адолела прарабіць, лепш вычарпаць поўнасьцю павестку дня, з тае прычыны, што дзе якія справы, якія патрабавалі рашэньня дырэктара Скота, мусілі мы адкладаць таму, што ён і яго асыстэнты былі в. заняты перанясеньнем сваіх бюраў у новае памешканьне — прадоўжаньне нашае сэсыі мы перанесьлі на 17—18 і 19-га траўня.*

*Авантуру ж Гэруса па адношаньні бел. і укр. сэкцыі хоць і разглядалі, на працягу аж 2х паседжаньняў, канчальна яна не разьвязана; не атрымана адказу ад дырэктара. Пасунута яна, гэтая спра[ва], адылі значна наперад.*

*1) Прынята пастанова кансультатыўнай-каарданацыйнай камісіі, што справе набору супрацоўнікаў Р. С., як і моладзі для трэнінгу, побач з нацыянальнымі арганізацыямі (сяб. Пар. Блоку) амэрыканцы могуць рэкамэндаваць (у выпадку яны дзесь заўважаць вельмі*

*важнага кандыдата) на працу, але праз нашу камісію. Прыняцьце ж яго мусіць быць узгляднена з намі. І ні ў якім разе аднабакова вырашацца.*

*Канкрэтна ж што да Блажэвіча. Камісія аднагалосна пастанавіла: што як з Блажэвічам, і наагул у прынцыпе для іншых нац. цэнтраў, абсалютна недапушчальна, каб адвайзэр [дараднік] прыводзіў на працу па свайму толькі ўзглядненьню сваіх кандыдатаў.*

*Блажэвіча трактуецца як не беларуса, няважна, што ён этнічна бел. паходжаньня. Гэты выпадак таму ўважаецца за скандальна-недапушчальны. Але таму, што дырэктару Гэрус і Так прадставілі ўжо так справу, што ў беларускай рэдакцыі былі і ёсьць прэцэндэнты, што працавалі не беларусы (П. Сыч паляк?!), а мы адкідваючы Блажэвіча як поўнасьцю адпавядаючага для працы на места п. [пакойнай] Барбары [Вержбаловіч] (Цьвірка як рад. [рэдактар] заявіў, што ён і кваліфікацыямі не падыходзіць — то бэтрыбсрада [прафсаюз] цяпер разглядае і гэты фахавы бок Блажэвіча.*

*У справе ж дыфініяваньня, што такое „нацыянальнасьць“, заўчора Келі сам згадзіўся (в. ахвотна) пайсьці да Скота і растлумачыць яму. Келі, між іншага, сказаў нам, што гадоў 6—7 таму адзін работнік с.[севера]/-каўкаскай сэкцыі заявіў, што ён прыняўшы амэрыканскае грамадзянства страціў інтарэс да с. Каўказу, пачувае сябе поўнасьцю Амэрыканцам. На гэтай падставе тога с. [севера-каўкасца] Ам. Кам. звольніў з працы.*

*Інтарэсы Блажэвіча былі заўсёды зьвязаны з латышамі — падчас вайны ён быў у латышскіх фармацыях, па вайне аж да цяпер „прэзэнтаваў“ латышскую прэсу — належыў да лат. арганізац., дакляраваў сябе ўсюды латышом.*

*Яга кваліфікацыі будзе ацэньваць суд Бэтрыбс-рад. [прафсаюзу], на экспэрта веды ягонае бел. мовы пакліканы Урбан.*

*Справа, як бачыце, яшчэ ў працэсе. Як казаў вышэй, напішу потым больш, бо за пару хвілін мушу ісьці на Радыё.*

*Цяпер, тымчасам, Вам асабіста, сп. Запруднік, быць абярэжным у перапісцы з Гэрусам. Вашу перапіску ён выкарыстоўвае, як Ваша в. лаяльнае да яго адношаньне (казырае Вашым сяброўствам).*

*2) Не падаваць яму зьвязкоў для набору кандыдатаў для бел. сэкцыі — калі хто зь беларусаў знойдзецца ў вас, падавайце яго толькі беспасярэдне нам (Цьвірку ці мне). З Сяднёвым таму выйшла не зусім добра, бо анкеты пераслалі Гэрусу.*

*17 красавіка Гэрус едзе ў Амэрыку і, як заяўляў шмат каму, „будзе сам шукаць кандыдатаў для бел. радак[цыі]“. Хай гоняць яга вон, паскудства гэта.*





*У прынцыпе, як вам пісаў раней, тут ўсё пастаўлена так, што Гэрус мусіць быць адсунуты ад нашых справаў, і што наша ранейшая ўмова вербальная, але 13 год дзеючая, засталася і надалей так.*

*Я чуў, што экспэрт бел. мовы знайшоў абсалютна нягодным Блажэвіча. Магчыма, яны будуць шукаць „контрэкспэрта“, дык калі б папала да кога з нашых — хай аднясецца в. сур'ёзна і уважа, бо паўтораю, што ня гэта павінна дэцыдаваць. Я паставіў так пытаньне і мяне ўсе падтрымліваюць, што калі б гэта быў нат нейкі латышскі геній.*

*Іду уніз*
*бывайце*

*М.*

**№77. Міколу Абрамчыка шпіталізавалі, адклад прыезду ў ЗША**

*Munchen 25.4.67*

*Дарагі Сп. Запруднік,*

*Учора напісаў ліст Сп. Адамовічу. Сяньня магу дадаць пару словаў Вам. Пасылаю усё гэта вам у адным канвэрце, бо знайшоў яго ў сваіх паперах толькі адзін, заадрасованы яшчэ Вам калісь у Парыжу. У Галіны [Ганчарэнкі] перакапаў усё яе бюра — нічога не знайшоў. Цяпер жа якраз мне прывезла яна ад Цьвіркі копію тога перакладу Блажэвіча для экспэртызы, аб якой я згадваў у лісьце да Сп. Адамовіча. Цяпер жа Галіна сьпяшаецца на працу і згадзілася здаць гэты ліст на почце, па дарозе. Я таксама сьпяшаюся каб выехаць сягоньнечы дадому дняўным (у 1-й гадз.) цягніком.*

*У клініцы я прабыў 13 дзён. Меўся я вам усім зтуль напісаць больш, дакладней, але абставіны былі такія, што пісаць было цяжка. Найперш днём амаль заўсёды быў „заняты“ пад рознымі ці то машынамі — масажамі — або ўліваньнем (transfusion) нейкіх жытказьцяў — што як падвесяць пляшку-літроўку — дык па каплі вычыківаеш канца 4—5 гадзін. Уночы ж ад 9-й гадзіны гасяць агонь, каб спалі ўсе іншыя.*

*Чуюся адылі досыць добра. Калі б ня гэтая ўся авантура „зондэрфюрэраў“ і тупалоб'я Скота — паставіўшы нас у такое дурное становішча, каб мог дзесь хоць зь месяц спакойна аддыхнуць, дык мог бы сьмела да вас ляцець у Амэрыку, як гэта было ўплянавана. Цяпер жа хіба да восені ня ўдасца (хіба што, як настойваюць Дашнакі [армяне]*

*разам зь імі, каб, у выпадку ўпартасьці тут Скота, ехаць да Сарджанта і [ў] Вашынгтон.*

*Ваш М. А.*

*P.S. Вам пішу ўпапярок, каб не пераблыталіся лісты зь пісьмом сп. Адамовічу.*

## №78. Абставіны прыняцьця Масея Сяднёва на працу ў Беларускай рэдакцыі радыё „Свабода“ ў Мюнхэне

*Нью-Ёрк, 26.06.1967*

*Вельміпаважаны Спадар Прэзыдэнт!*

*Пачалі да нас раптам з розных канцоў даходзяць чуткі (і запытаньні) пра тое, што (цытую з аднага ліста, напісанага аж з Канады, хоць і не да мяне): Запруднік і Адамовіч быццам „дамовіліся з Гэрусам і без паразуменьня з Абрамчыкам рэкамэндавалі Сяднёва ў Мюнхэн“. Паралельна зь пераказам пра такую „змову“ — на выпадак, калі б гэтак было ў запраўднасьці, — ідзе зьвінавачаньне, што мы „топчам наш прынцып і сваймі рукамі развальваем Раду“ ды што „грамадзтва наша й гісторыя напэўна іх (значыць, мяне з Адамовічам) асудзяць“. Чуткі пра мяне й сп. Адамовіча, кажуць нам, ідуць з Эўропы, а паўтараюцца цяпер даволі шырака паважанымі ў нас людзьмі ў Амэрыцы й Канадзе. У мяне асабіста адна сымпатычная асоба пыталася нядаўна, ці гэта праўда, што я выступіў з Рады й адышоў наагул ад грамадзкай работы. А дзеля таго, што адначасна з гэтым пашыраецца й вестка пра, быццам бы, звальненьне з радыё Цьвіркі ды адыход у знак салідарнасьці зь ім Марговіча й Сяньковскага, дык выглядае, што мы з Адамовічам развальваем ня толькі Раду БНР, але й Беларускую сэкцыю радыё Свабода. У тым самым лісьце, дый у лістох іншых асобаў, робяць нас таксама адказнымі й за заняпад Вашага здароўя.*

*Мы ня выключаем магчымасьці, што сёй-той можа браць паважна гэткія несамавітыя выдумкі. Ня вылучана, што гэткая інтэрпрэтацыя палажэньня падносіцца й Вам. Уважаем затым за канечнае напісаць Вам пра свае дачыненьні да Рады й да Вас асабіста ды высьвятліць таксама справу зь Сяднёвым. Вось храналёгія й кароткая гісторыя справы:*

*1. У канцы сьнежня летась я, як ньюёркаўскі карэспандэнт радыё, зрабіў, а на пачатку студзеня выслаў у Мюнхэн для беларускае*





*праграмы, інтэрвію зь Сяднёвым, беларускім паэтам і прафэсарам амэрыканскага ўнівэрсытэту, які прыехаў на колькі дзён у Нью-Ёрк для ўдзелу ў канфэрэнцыі выкладчыкаў славянскіх дысцыплінаў у амэрыканскіх вышэйшых навучальных установах. Тады ж Сяднёў папытаўся ў нас з Адамовічам, ці была б якая магчымасьць уладзіцца на працу ў Беларускім аддзеле радыё Свабода ў Мюнхэне. Прычына ў яго да гэтага запытаньня-пажаданьня была такая, якое нельга не разумець: яму (пісьменьніку) захацелася з асяродзьдзя ўнівэрсытэту ў глухім (бязьлюдным з гледзішча на магчымасьць жывога кантакту із сваймі людзьмі) штаце Індыяна, дзе ён выкладаў чужую яму расейскую мову, трапіць у абставіны, у якіх можна было б мець ізноў цесную творчую лучнасьць зь беларушчынай. Як ён казаў: „Каб скончыць як-небудзь з гэтым падвойным выгнаньнем“.*

*Думка пра працу ў Мюнхэне, дарэчы, была ў Сяднёва й ня зусім выпадковай. Год дзесяць (а мо й больш) таму, калі Сяднёў працаваў яшчэ ў Саўт-Рывэры на хвабрыцы, да яго езьдзіў прадстаўніком ад Рады БНР сп. Шукелойць з запытаньнем, ці Сяднёў не згадзіўся б падацца ў Мюнхэн на працу ў Беларускім аддзеле радыё Свабода. Сяднёў тады даў быў сваю згоду, але на працу не папаў: заміж яго быў узяты, здаецца, Ліманоўскі, а мо й Казак. Ад Рады БНР Сяднёву было паведамлена, што, на жаль, цяпер яго ўладзіць на працу не ўдалося, але, калі ў будучыні ў Мюнхэне будуць патрабаваць людзей з Амэрыкі, дык яму будзе запрапанавана.*

*Вось жа, калі сёлета Сяднёў паставіў пытаньне свае працы ў радыё, дык сп. Адамовіч, сп-ня Арсеньнева й я, ведаючы пра пякучую нястачу ў нас творчых адзінак ды ведаючы, што вакансія па Сычы ўжо колькі год як не запоўненая, уважалі, што надарылася рэдкая нагода прыцягнуць да супрацоўніцтва з намі кваліфікаванага й ляяльнага працаўніка. Мы сказалі Сяднёву, што справе яго дамо ход.*

*2. Пра жаданьне Сяднёва ехаць на працу ў радыё я даў знаць у першую інстанцыю Цьвірку, шэфу Беларускае рэдакцыі, ведаючы, што ён з Вамі ўвесь час у цесным кантакце ды будучы ўпэўненым, што ён узгодніць гэтую справу з Вамі належным парадкам.*

*3. Неўзабаве кандыдатура Сяднёва, як мы тут зразумелі, пайшла па добрай дарозе. На самым пачатку лютага сёлета Сяднёў напісаў мне, што Цьвірка прыслаў яму „вельмі прыемны“ ліст, з чаго, зразумела, мы былі вельмі задаволеныя.*

*4. Сьледам за першым прыйшоў ад Сяднёва й другі ліст (пісаны 5-га лютага 1967 г.), у якім ён прасіў мяне (гэткая ж просьба была ад-*

*начасна ў асобным лісьце й да сп. Адамовіча), каб мы памаглі яму „зьвязацца неяк з сп. Абрамчыкам, балазе ён цяпер тут“ (г. зн. у Амэрыцы, бо, як прыгадваеце, мы чакалі тады на Ваш прыезд у Нью-Ёрк, пра што паведамілі й Сяднёву).*

*5. Калі па колькіх адкладах, дзеля прычынаў хваробы й перабываньня ў шпіталі, Вам не ўдалося прыбыць да нас, мы запрапанавалі Сяднёву скантактавацца з Вамі ў Парыжы, што ён і зрабіў быў, як мы ад яго даведаліся. Мы ня мелі ні ад Цьвіркі, ні ад Вас ніякае рэакцыі ў справе Сяднёва, але прычыны маўчаньня маглі быць самыя розныя — барджэй за ўсё, прыпушчалі мы, занятасьць бягучымі справамі. З тых жа дэталяў, што нам былі даступныя (як, прыкладам, факт прыхільнага ліста ад Цьвіркі да Сяднёва), можна было зрабіць адзіны магчымы выснаў, што маўчаньне было знакам згоды (іншае нам і ў галаву не прыходзіла).*

*6. У канцы красавіка сёлета ў Нью-Ёрк зьявіўся Гэрус, дараднік Беларускага і Ўкраінскага аддзелаў радыё. Аднэй зь першых справаў, якую Гэрус закрануў, была справа Сяднёва й пытаньні пра яго: Ці ён можа пісаць? Рэдагаваць? Які ў яго голас? Характар? Ці варта яго браць на працу? І г. д. Адказы нашыя на гэтыя пытаньні былі, зразумела, дадатныя.*

*7. У лісьце да Вас (пісаным 29 красавіка сёлета) сп. Адамовіч інфармаваў, што нам „удалося прапхнуць справу Сяднёва праз Гэруса, які заказырыўся быў, чаму ў анкеце Сяднёў паклікаўся на Цьвірку й Сянькоўскага“ (супраць якіх, як ведама, Гэрус увесь час вядзе варожую акцыю). У тым жа лісьце сп. Адамовіч дадаваў: „Сяднёў, здаецца, пісаў ужо Вам, магу адно засьветчыць, што цяпер гэты былы бэцээравец*[126] *ня меншы бээнэравец*[127]*, чымся таксама былы бэцээравец Сянькоўскі“. Дадам тут, што сп.сп. Шукелойць і Тумаш, у прыватных гутарках зь імі, выказаліся таксама прыхільна пра кандыдатуру Сяднёва на працу ў радыё.*

*8. Цяпер што да самога прынцыпу, паводле якога працаўнікі ў Беларускую сэкцыю радыё Свабода павінны прыймацца адно пры ўзгадненьні з Радай БНР. Пра нашае поўнае падтрыманьне гэтага прынцыпу (у сувязі, праўда, зь іншай справай — справай Блажэвіча) я пісаў Вам 7 красавіка сёлета наступнае: „З Вашага ліста відаць, што пазыцыю Вы занялі правільную — і ў сэнсе супольнасьці*

[126] **Бэцээравец**, прыхільнік Беларускай Цэнтральнай Рады (БЦР).

[127] **Бээнэравец**, прыхільнік Рады Беларускай Народнай Рэспублікі (БНР).





*зь сябрамі Парыскага Блёку, і ў сэнсе паступовасьці ціску на Камітэт. Із свайго боку мы падтрымваем Вас і нашых сяброў у Мюнхэне ў адваёўваньні свайго права й прынцыпаў, на якіх мы згадзіліся працаваць у Камітэце“.*

*9. 29-га красавіка сёлета сп. Адамовіч, Ваш Заступнік у Радзе БНР, у згадваным ужо лісьце да Вас заняў такое ж самае становішча, пішучы Вам: „Думаю, што Вашая пазыцыя, занятая ў справе Блажэвіча, пазыцыя* прынцыпу (падчыркнена ў арыгінале. — ***Я. З.****), пра якую Вы пішаце — была ня толькі правільнай, але й адзіна магчымай у дадзеным выпадку“. І ў іншым месцы таго ж ліста: „Але, паўтараю, гэта была адзіная магчымая, памойму, пазыцыя“.*

*Дарагі Спадару Прэзыдэнце, нашае становішча што да прынцыпаў супрацоўніцтва з Камітэтам застаецца нязьменна такім жа, якім яно было й дагэтуль. Нязьменнымі й нашыя дачыненьні да Вас, як да Старшыні Рады БНР і як да асабістага прыяцеля. Мы ставімся да Вас з пачуцьцём глыбокай павагі й салідарнасьці. І дарэмныя будуць чыесьці намаганьні загнаць кліна ў нашыя ўзаемадачыненьні.*

*Што да Сяднёва, дык трэба спадзявацца, што тая неспрыяльная атмасфэра, якая вытварылася ў Мюнхэне ў выніку цяжкасьцяў асабістага й прынцыповага парадку, не перашкодзіць ані нашым старым мюнхэнскім сябрам у рэдакцыі, ані Сяднёву наладзіць прыязныя ўзаемадачыненьні, каб супольна трымаць далей пазыцыі, зь якіх Беларуская сэкцыя радыё ўжо чатырнаццаць год вядзе вялікую гістарычную работу.*

*З глыбокай пашанай і зычэньнямі добрага здароўя ад імя сп-ні Арсеньневай, Адамовіча й свайго*

*Заўсёды шчыра Ваш*

*Янка Запруднік*

*Копіі сп.сп.: Ф. Кушалю, А. Стагановічу*[128]*, Ул. Набагезу, В. Кендышу*[129]*, В. Жук-Грышкевічу, С. Кабышу, К. Акулу.*

[128] Васіль Кендыш (1908—2003) быў у той час сябрам прэзыдыюму Рады БНР.

[129] Аляксандар Стагановіч (1890—1988) быў у той час першым заступнікам старшыні Рады БНР.

### №79. Хто й як прапануе кандыдатаў на працу ў Беларускай рэдакцыі радыё „Свабода“?

*St Jean de Mont, 11.7.67*
*Адрыс да 18-га ліпеня:*
*Mr. Abramtchik*
*chez Mme Millicent Denise La Championniere*
*85 St. Jean-des-Monts, France*

*В. Шаноўныя, дарагія*[130] *,*

*Перад ад'ездам з дому выслаў кароценькі ліст для праф. Адамовіча, абяцаючы адказаць дакладней па прыезьдзе на мейсца, але як пакупаўся ў халоднай, акіянскай, вадзе дык, як калісь казаў пакойны Уласаў, так усе турботы выскачылі з галавы, што ня толькі ня хочацца за штосьць брацца рукамі, але й думаць аб нічым ня хочацца...*

*Тут такое зацішша, што толькі вось здаецца і блытаўся б па хвойніку, або купаўся, ці спаў... Усе ж гэтые „радыёвые“ ды „камітэцкіе“ справы здаюцца здалёку напроста недарэчнымі. Учора адылі пасварыўшыся з жонкай і сынам (як сказаў ім, што мушу павяртаць дахаты, каб спаткаць Адамовіча) пачынаю прыходзіць да „нармальнага“ стану. Дык вось узяўся за пісаніну, якую якраз адкладаў і вам, і ў Канаду.*

*У Мюнхэне ў нас запраўды стварылася такое „стаўпатварэньне“, што разабрацца ўва ўсім ня так лёгка. Кожны вініць другога, а другі той першага і г. д. У запраўднасьці ж вінаваты мы ўсе, а самае галоўнае і крыўдна, што такі прымітыўны і паскудненькі Гэрусік аб'явіўшы вайну беларусам, патрапіў усіх нас між сабой пасварыць ды, да пэўнай меры, паставіць, як кажуць, усё на сваім. У васноўным бяда была ў тым, што я ня мог у свой час выехаць у Амэрыку, а ў „фінале“ вы (у Нью-Ёрку) не паслухалі маёй рады (у маім апошнім лісьце) як вам я пісаў „Ганіце ад сябе, як прыедзе, гэтага хулігана-Гэруса“. Вы гэта не прынялі пад увагу і па прыезьдзе яго ў Нью-Ёрк заняліся зь ім справай укамплектаваньня бел. рэдакцыі. У Мюнхэне таму й стварылася такое ўражаньне, што толькі з Абрамчыкам нельга дагаварыцца, але ў Нью-Ёрку з „тэй самай Радай БНР — можа ісьці ўсё гладка“... і з новымі кандыдатамі і нат з тэй так „нікчэмнай“ справай як Блажэвічус. Гэрус жа і паехаў дзеля*

[130] Ліст пісаны да Антона Адамовіча й Янкі Запрудніка.





*гэтага спэцыяльна ў Амэрыку, каб даказаць, што можна абыйсьціся без Абрамчыка, што ён найдзе людзёў сам — і так да пэўнай меры выйшла. Абрамчык жа, тут, ставіў справу* <u>*прынцыпова*</u>*; ці у справе набору і звальненьня персаналу ў Бел. сэкцыю мы застанемся пры ранейшых умовах, ці гэтыя цяпер правы-кампэтэнцыі перадаюцца Амэрыканскай адміністрацыі — эвэнтуальна Гэрусу — Таку.*

*Ня буду больш разводзіць тут палемікі на гэту тэму, ці затрымлівацца на гісторыі з кандыдатурай сп. Сяднёва. Проці кандыдатуры Сяднёва я таксама нічога ня меў проці* <u>*ў прынцыпе*</u>*, але прыкра атрымалася, што дадзеная яму сп. Запруднікам анкета — была запоўнена і перасланa* <u>*не нам*</u> *(хоць бы у бел рэдакцыю), а ў пэрсанальны адзьдзел камітэту — такім чынам нам было заяўлена (і то ў час самога гострага змаганьня з гэным хуліганам Гэрусам), што мы не даём кандыдатаў, а Гэрус іх сам знаходзіць, што яны да Гэруса зьяўляюцца міма „Абрамчыка“. Выходзіла што ў падаваньні кандыдатаў мы цяпер адыгрываем толькі успамагаўчую ролю. „Роль індыкатараў“, а не ўзглядніваем, як раней. Такое ўражаньне стварылі і абвесткі ў бюлетэні, рэдагаваным сп. Запруднікам, дзе падаваўся адрэс на зглошаньне кандыдатаў на курсы не* <u>*наш беларускі*</u>*, а проста адрас пэрсанальнага адзьдзелу камітэту, значыць зноў беспасярэдне ў рукі Гэруса. Пастаўлю на гэтым пакуль што пункт. Я прывык усё ж такі думаць палітычна; не трымацца зубамі за тое, чыя ў тым большая віна, хто больш вінаваты, ці не вінаваты. Палітычна ж трэба шукаць спосабу як паправіць справу. Таму пару словаў, што я ўжо зрабіў, і што ды як трэба рабіць далей. Вось жа:*

*1) Як толькі да нас (у Мюнхэн) дайшла вестка, што Вы ўпарадкавалі з Гэрусам справу кандыдатуры Сяднёва (а гэта было якраз падчас паседжаньня нашай кансультатыўнай камісіі, дзе стаяў адзін з пунктаў справа бел. рэдакцыі), я заявіў (на тым жа паседжаньні), што з справай кандыдатуры Сяднёва ўсё ў парадку. Што у зьвязку з цэлым шэрагам абставінаў (маёй хваробы ў тым ліку) я паручыў справу набору кандыдатаў прэзыдыюму Рады ў Нью-Ёрку — які, відавочна, даручыў гэту справу сп.сп. Адамовічу і Запрудніку. Гэтыя людзі карыстаюцца поўным даверам Рады БНР і маім асабіста ў тым ліку. Таму і ў далейшым* <u>*справай пэрсаналу*</u> *супрацоўнікаў для бел. рэд. як у Мюнхэне, так і N.Y. — будуць займацца сп. Адамовіч і Запруднік. Я ж, пакуль зьяўляюся Старшынёй Пар. блоку — эвэнтуальна і сябрай Кантактнай Камісіі — бяру далей удзел у паседжаньнях (у гэтай мешанай з Амэр. камісіі) і буду забіраць слова толькі ў*

*абароне правой бел. рэдакцыі, як і іншых (не беларускіх), што ж да ўзгляднeньня кандыдатаў — персаналу — амэрыканцы павінны мець справу з Адамовічам—Запруднікам.*

*Зрабіў я такую заяву таму, што быў пастаўлены перад дылемай: або запратэставаць на камісіі супраць беспраўнага дзеяньня Гэруса, або згадзіцца с тым, што кампэтэнцыі гэтыя перадаем Гэрусу. Як адно, так і другое было б непалітычна. Я заявіў таму гэтак вось, бо яно „дэ факто“, так і ўтварылася было. Прэстыжова таму (я так думаю) мы не аскандаліліся, і пытаньне далейшага нашага супрацоўніцтва з камітэтам яшчэ не настолькі скампрамітавана, каб яго нельга было не наладзіць, не ўпарадкаваць.*

*Гэта вось 2-е і мусім супольна з вамі сп. прафэсар і зрабіць. Мусім з Вамі ў двух зрабіць візыту Скоту. Дамовіцца, як надалей усё будзем праводзіць, як яны (амэр.) павінны адносіцца да нашай Рэдакцыі (абавязкова мусяць забраць сабе на яго старое месца тога латыша Блажэвіча) і т. д. аб гэтым, але, будзем гутарыць пры спатканьні папярэдзьце мяне, калі едзеце праз Парыж і колькі затрымаецесе ў Мюнхэне. […]*

## №80. Пазыцыя Рады БНР у рэкамэндаваньні працаўнікоў Беларускай рэдакцыі радыё „Свабода“

*28.У.68*

*Пав. Сп. Запруднік*

*Прачытайце гэту пісульку да Сп. Адамовіча. Трымайцеся гэтай лініі, бо інача нельга.*

*Сп. Сяд. рэкамэндавалі мы. Кандыдат ён зн. Рады БНР. Калі вы пачніцё зь ім вайну — яе ня выйграеце, бо й як жа тады амэрыканцы маюць разглядаць усіх іншых наступных нашых кандыдатаў — „толькі што прывязуць, а назаўтра (амаль даслоўна) адклікаюць“ ды яшчэ як!*

*Выбачце вельмі сьпяшаюся, едучы ў таксі на аэрадром.*

*Ваш М. Абрамчык*

*[Тэкст пісулькі]*





*Мюнхэн 28.V.68*

*Дарагі Прафэсар,*

*Сяньня, перад ад’ездам у Парыж гутарыў з сп. Сяднёвым. Мы дагаварыліся: што пакуль ня спыніцца ў нас змаганьне за ўсуненьне Гэруса з Такам, за іх разбойную „працу“ — ён (з. Сяднёў) ніколі ня згодзіцца прыняць становішча шэфа — галоўнага рэдактара бел. сэкцыі. Гэтае становішча ён згодзіцца прыняць толькі тады, калі яго кандыдатура на гэта становішча будзе падана намі — Радай БНР.*

*1) Ён будзе выпаўняць роль шэфа бел. рэд. часова не як такі, а як заступнік галоўнага рэдактара, на становішча якога ён і быў прыняты (на месца пакойнага Сыча).*

*2) Папаўненьні бел. рэдакцыі ён не падасьць ніводанага кандыдата амэрыканцам раней, чым гэта будзе ўзгоднена з праф. Адамовічам і Запруднікам, якім даручана мной гэтай справай займацца.*

*Прашу вас гэтай умовы зь ім і трымацца, інакшага выхаду пакуль што няма.*

*Ваш М. Абрамчык*

## №81. Нешчасьлівы выпадак зь Міколам Абрамчыкам. Працяг валтузьні з Гэрусам

*Нью-Ёрк, 27.IX.1968*

*Дарагі Спадар Прэзыдэнт!*

*З жахам даведаліся пра нешчасьлівы выпадак з Вамі. Былі навет розныя варыянты весткі: у лісьце да мяне Лашук пісаў нядаўна, што ніякага паломy касьці ў Вас, на шчасьце, ня выявілася, ды што за тыдняў тры станеце йзноў на ногі. Галіна ж Ганчарэнка пісала нядаўна сп-ні Каханоўскай[131] (якую ўзялі ўжо на штат у Беларускі аддзел), што бядро ў Вас зламанае. Як бы там ні было, выпадкам гэтым мы ўсе глыбака пранятыя й спадзяёмся адно, што паважных камплікацыяў ён ня выкліча.*

*Жыцьцё ў нас тут памаленьку йдзе наперад, ці мо ня гэтулькі наперад, і ня гэтулькі йдзе, як круціцца вакол розных праблемаў і балячак. Цьвіркава справа, як быццам бы, улеглася ў сваёй новай стадыі. Галі-*

[131] Яніна Каханоўская (1909—2005) стала працаўніцай Беларускай рэдакцыі радыё „Свабода“ ў Нью-Ёрку на месцы Натальлі Арсеньневай.

*на піша, што ён задаволены цяпер на новым месцы. А др. Пэнар [Ян], дараднік Інстытуту, які нядаўна вярнуўся зь Мюнхэну, казаў, што й зь Цьвіркі задаволеныя. Зарабляе ён, праўда, цяпер на сотню менш, але гэта, быццам, выраўняецца з часам. Ад Сяднёва ні гу-гу. Ад Гэруса цяпер — таксама. Пасьля побыту Абаленскага ў Мюнхэне, гэрусаўская бамбёжка суцішылася. Ці не накруцілі яму крыху носа там. Нядаўна тут з укр. рэдакцыі падаўся ў дымісію Рубчак [Багдан], поўнасьцяй абгрунтаваўшы свой адыход Гэрусавай шыканэрыяй. Рубчак тут патрэбен быў, і зь ягонай стратай пацярпела ўкр. праграма. Зрэшты, праймацца ўсім гэтым Вам, думаю, няма патрэбы. Як я Вам казаў ужо колькі разоў тут, гэта ўсё рэчы параўнальна дробныя, перажывуццаперамелюцца. Галоўны Ваш клопат цяпер — сваё здароўе й сям'я.*

*Быў тут нядаўна М. Лівіцкі. Меў сустрэчу з „блёкаўцамі“. Ст. Ст. „хварэў“, дык хадзіў туды сп. Адамовіч. Лівіцкі казаў, што будзе ў Мюнхэне на канфэрэнцыі Блёку. Выказаў шкадаваньне з нагоды выпадку з Вамі. Між іншага, вельмі прыхільна адклікаўся пра дырэктара В. Скота. Адамовіч паінфармаваў яго пра нашую валтузьню з Гэрусам.*

*Зычу Вам хуткае папраўкі й добрага здароўя.*

*З глыбокай пашанай ды найлепшымі зычэньнямі Вам і сям'і.*

*Ваш Янка Запруднік*

### №82. Запруднікава занятасьць дысэртацыяй. Стан здароўя Міколы Абрамчыка

*Нью-Ёрк, 12.II.69*

*Дарагі Спадар Прэзыдэнт!*

*Ліст Ваш дастаў у сыботу 01.II, а ў аўторак аддаў праф. Адамовічу. Панядзелкамі й пятніцамі ён цяпер не працуе, адседжвае дома частку сваіх вакацыяў (зь ягоным бацькам — ніякіх новых вестак, наагул нічога няведама)*[132]*. Ён званіў ужо да Лаянса*[133]*, але таго ня было ў бюро. Спадзяюся, што ён зь ім пабачыцца ўсё ж ды адразу напіша Вам.*

*Я ад пачатку гэтага году сяджу ў сябе ў пакоі й пішу дысэртацыю. Скончыў ужо чатыры разьдзелы. Засталося яшчэ два. Трэба будзе таксама перабіваць самому ўсё на машынцы, бо калі аддаць набіваць, будзе каштаваць задорага (400—500 дал.). На дысэртацыю я аддаў свае вакацыі 68-га году. Апрача гэтага, давядзецца йшчэ звольніцца з працы на месяца паўтара, каб давесьці справу да канца. Калі будзе абарона, ня ведаю, бо мой прафэсар цэлы год будзе ў Ангельшчыне. Мо абыдзецца як-небудзь і безь яго.*

*Цешымся мы ўсе, што із здароўем у Вас справа лепш. Сюды Вам ехаць у сакавіку ці не зарана па здароўю? Трэба было б таксама да Вашага прыезду добра прамацаць магчымасьці ў Вашынгтоне, чым яшчэ тут, бадай, замала займаліся. У справе Вашага старшынства ў П. Б., дык я асабіста думаю, што Вы ўжо даволі ўлажылі свае працы ў яго. Няхай бы ачоліў хто іншы. У Вас жа аблогам ляжыць архіўная мінуўшчына наша, апрацаваньне якое й выданьне, мне думаецца, становіцца цяпер <u>найважнейшым Вашым палітычным</u> заданьнем. Скончыўшы дысэртацыю, я прапаную Вам свае паслугі й супрацоўніцтва.*

*З найлепшымі зычэньнямі Вам і сям'і,*

*у глыбокай пашане —*
*Янка Запруднік*

### №83. Дысэртацыя напісана. Усходняя палітыка Вашынгтону

*Нью-Ёрк, 04.IV.69*

*Дарагі Спадар Прэзыдэнт!*

*Сакратара маеце добрага й надзейнага. Увесь Алікаў пераклад дакладны за выняткам трэцяга сказу, які гучыць наступна: „Выбары Ніксана, як відаць дасюль, прынесьлі вельмі мала памыснага гэткім 'стойкім (ці цьвярдым) антыкамуністам', як я“. Але навет і ў Алікавым перакладзе далейшы сказ перадае асноўны сэнс і затушоўвае недакладнасьць папярэдняга. Словам, Алік — маладзец.*

*Ад гэтага аўторку, па трохмесячным перапынку, я йзноў на працы. Дысэртацыю напісаў, Цяпер засталося адно перадрукаваць на машынцы другую палавіну яе. Абарона будзе, відаць, у верасьні, бо*

[132] Адамовічаў бацька, Аляксандар Івашкевіч, выйшаў аднаго дня з дому й не вярнуўся. Пошукі яго ніякіх вынікаў не далі.

[133] **Юджын Лаянз** (*Eugene Lyons*), першы старшыня Амэрыканскага камітэту вызваленьня, уплывовы журналіст, які ў 1930-х гг. наведаў Савецкі Саюз, але пасьля, расчараваўшыся, стаўся зацятым антыкамуністам. Працуючы ў Нью-Ёрку, трымаў сталую лучнасьць з Амэрыканскім камітэтам.

*мой прафэсар падарожнічае цяпер па Эўропе. Уступ і высновы дысэртацыі прышлю Вам у беларускім перакладзе для азнаямленьня. Казаў мне Васіль Русак[134], што 17-га г. м. тут мае быць др. Грышкевіч [Вінцэнт].*

*Сьвяткаваньні ў нас (Нью-Ёрк, Н.-Брансвік, Чыкага, Кліўлэнд) прайшлі вельмі добра. Лаенсава ўражаньне пра сучасны Вашынгтон правільнае: Джонсанава будаваньне „мастоў на Ўсход“ працягваецца.*

*Найлепшыя пажаданьні Вашай сям'і.*

*Янка*

## №84. Др. Жук-Грышкевіч у Сарджэнта. „Дывэрсія Гэруса зь Сяднёвым“

*Нью-Ёрк, 28.IV.1969*

*Дарагі Спадар Прэзыдэнт!*

*Усе Вашыя лісты да нас дайшлі. Дзякуем за інфармацыю. На мінулым тыдні Прэзыдыюм з Сакратарыятам правялі два паседжаньні: абмяняліся думкамі, удакладнілі функцыі. Неўзабаве, магчыма, удасца наладзіць выпуск інфармацыйных лісткоў для нутраное інфармацыі. Думаем пакрысе й пра месячнае выданьне галоўных навінаў зь беларускага жыцьця па-ангельску для англамоўнага друку й заходніх палітычных установаў. Гэта, відаць, дзесьці пад восень.*

*Тут цяпер др. Жук[-Грышкевіч] з жонкай. Быў ён на мінулым тыдні ў Сарджэнта, гутарыў зь ім на тэму тае дывэрсіі, якую вядуць Гэрус зь Сяднёвым (запрашэньне на працу ў радыё Касяка, Галяка ды іншых крытыкаў радыё Свабода, якія дасюль не зьмянілі свайго адмоўнага стаўленьня да А. К. ды якія цяпер адно сьмяюцца з гэрусаўска-сяднёўскага папрашайніцтва дый далей плююць і на А. К., і на нас усіх). С. [Сарджэнт] параіў Ж. [Жуку], каб ён даў яму эд-мэмуар у гэтай справе, што цяпер і робіцца.*

*Што да гісторыі зь лістом Нікшы[135], дык на нашую думку тут (Ад., Ж., Шук., Ст. Ст. [Адамовіч, Жук-Грышкевіч, Шукелойць, С. Станкевіч] і я), націск трэба класьці не на факт пераданьня яго, а*

[134] **Васіль Русак** (1923—2000), беларускі грамадзкі, палітычны й царкоўны дзеяч.

[135] Маецца на ўвазе ліст зь Беларусі з крытыкай праграмаў радыё „Свабода“.





*на тое, што не было фактычна дадзена ніякага камэнтару і гэтым як-бы выказаная салідарнасьць зь Нікшавымі зьвінавачаньнямі. Дарэчы, у расейскай праграме „Свабоды“ ёсьць адмысловая сэрыя гутарак „Сустрэчы із слухачамі“. У гэтай сэрыі цытуюцца часамі даўжэйшыя ці карацейшыя выпады супраць нас, а тады даюцца грунтоўныя камэнтары — тое, чаго не зрабіў С. [Сяднёў] з Гэрусам і ў чым іхны промах. Да гэтага промаху трэба дадаць яшчэ адну запраўды ўжо на вялікі маштаб скандальную справу: пытаньне сяднёўскае сэрыі скрыптаў (усіх 8) пра гэтак званую „гісторыю“ БССР. Сэрыя гэтая была перададзеная паміж 19.XII.68 а 28.XII.68. Вы пісалі, што копіі праграмаў у Вас ёсьць, дык перачытайце гэтыя гутаркі — у іх куды важнейшае, чымся ў Нікшы.*

*Сяднёў падае сваю „гісторыю“ „з вышыні залатога юбілею“ БССР, і падае ня толькі з гэткімі „фактамі“, як „Беларуская Народная Рада“ (19.XII), „што выдавала сябе за прадстаўніцтва беларускага народу“ (20.XII), але пераймае бальшавіцкія ідэалягічныя ўстаноўкі, што мяжуюць ня гэтулькі з дурнотай аўтара скрыптаў, колькі з падсьведамай дывэрсіяй і аб'ектыўным пераходам на бальшавіцкія пазыцыі. Вось што кажа слухачу на бацькаўшчыне радыё Свабода:*

*„Беларуская нацыяналістычная контррэвалюцыя спрабавала скарыстаць пралікі ў нацыянальным пытаньні ў Заходняй вобласьці ў сваіх антысавецкіх мэтах. Дзеячы зь Беларускай Рады крычалі аб тым, што нібыта рускія бальшавікі супраць нацыянальнай свабоды, супраць самавызначэньня беларускага народу, што Чырвоная армія ідзе ў Беларусь, каб заняволіць яе і гэтак далей“ (28.XII).*

*Тут цяпер Вандэрораў супрацоўнік Нісман. Гэтае пятніцы ў нас будзе паседжаньне ў пытаньнях палітычнае лініі перадачаў, і я стаўлю гэтую справу ўва ўсёй ейнай несамавітай вастрыні. Думаю, што справа гэтая мусіла б стаць і ў цэнтры Вашых гутарак на сустрэчы з П.* [? — ***Я. З.***] *і іншымі. Мала таго, што Сяднёў пайшоў на гэткую ідэалягічную авантуру, дык на давяршэньне свае плявузганіны вядзе яе ў дзьвюх мовах: беларускай і расейскай, мэханічна ўстаўляючы ў беларускі тэкст свае гутаркі даўжэйшыя й карацейшыя расейскія цытаты, безь ніякае патрэбы робячы з праграмы беларускае сэкцыі двумоўную праграму — штосьці наводля двумоўнае газэцінкі „Голас Радзімы“ („для тех, кто не понимает по-белорусски“). Гэта таксама пытаньне моўнай палітыкі і яго нельга пакідаць незакранутым. У васьмёх гутарках Сяднёў ужыў найменш 27 цытатаў па-расейску. Гэтага ня робяць нат у сав. выданьнях.*

*Тымчасам канчаю, каб барджджэй выслаць Вам гэты ліст. Усяго найлепшага Вам і сям'і.*

*З прывітаньнем ад усіх нас.*

*Ваш Янка Запруднік*

### №85. Мэмарандум Др. Жук-Грышкевіча Сарджэнту. Публікацыйныя пляны

*Нью-Ёрк, 29.V.1969*

*Дарагі Спадар Прэзыдэнт!*

*Пасылаю Вам копію эд-мэмуару й суправаджальнага ліста, якія др. Жук[-Грышкевіч] выслаў Сарджэнту пасьля сустрэчы зь ім у Нью-Ёрку. У эд-мэмуары кажацца пра варожае стаўленьне Касякоў-Галякоў ды іншых гэрусаўска-сяднёўскіх кандыдатаў да Рады БНР і да А. К., ды што прапанова ім цяпер супрацоўнічаць з радыё выклікае засьцярогі з боку прыхільнікаў БНР што да супрацоўніцтва з А. К. Кажацца таксама, што сваімі інтрыгамі Гэрус і Сяднёў выжываюць з рэдакцыі Сенькоўскага й Казака ды спрычыняюцца гэтак да далейшага развалу калектыву Бел. сэкцыі радыё. Кажацца таксама й пра гэную скандальную сэрыю скрыптаў пра гісторыю БССР, у якой радыё Свабода поўнасьцяй перайшло на пазыцыі савецкай прапаганды. Хацеў, але, на жаль, ня ўправіўся зрабіць поўны пераклад у бел. мову эд-мэмуару.*

*Заўтра пачынаецца кангрэс БАЗА. Еду ў Нью-Брансьвік дэлегатам ад ньюёркаўскага аддзелу. Усе тры дні пойдуць на кангрэс.*

*Дысэртацыю сваю скончыў пісаць. Абарона ў верасьні. На восень думаю пачаць беларусаведны сэмінар з нашымі студэнтамі тут. Трэба таксама пачынаць справу хоць бы месячнага выданьня ў ангельскай мове бюлетэню пра бягучыя актуальныя пытаньні беларускага руху. Мы маем шмат сымпатыкаў, але яны нам не дапамогуць, калі ім ня будзе дадзены матар'ял.*

*Спадзяюся, што Вам стане здароўя й часу зрабіць неабходнае, каб вывесьці на сьвет архівы БНР.*

*Зычу ўсяго найлепшага Вам і сям'і.*

*Шчыра Ваш*

*Янка Запруднік*





### №86. Цяжкі стан здароўя Міколы Абрамчыка й абяцаньне дапамогі ягонай жонцы

*Нью-Ёрк, 18.VII.1969*

*Вельмішаноўная й Дарагая Спадарыня Абрамчык!*

*Зь вялікім болем даведваемся мы тут у Нью-Ёрку пра цяжкі стан здароўя сп. Прэзыдэнта. Я ў сталым кантакце з др. Грышкевічам, Набагезам ды іншымі: ці даведваюся ад іх што, ці ім паведамляю ў справе здароўя сп. Прэзыдэнта. Усе мы спадзяёмся й чакаем, што ён выздаравее ды вернецца да нармальнага жыцьця.*

*Пішу Вам гэтых пару словаў, каб выказаць ня толькі сваю асабістую ўстурбаванасьць цяжкасьцямі, у якіх цяпер Вашая сям'я, але таксама запэўніць Вас у сваёй гатовасьці да ўсякае магчымае дапамогі. Першае, што мы тут робім — і, думаю, галоўнае, што ў дадзенай сытуацыі можам зрабіць — гэта арганізаваць грашовую дапамогу. У Вас аднак могуць паўстаць іншыя праблемы й патрэбы. Калі б я быў у стане дапамагчы Вам у іх, буду рады пачуць ад Вас і зрабіць усё, што ў маіх сілах.*

*Перадайце, калі ласка, мае найшчырэйшыя пажаданьні сп. Прэзыдэнту добрага выздараўленьня. Прывітаньне Аліку.*

*З глыбокай пашанай і найлепшымі зычэньнямі*

*Шчыра Ваш*

*Янка Запруднік*

### №87. Пытаньне кандыдатуры Янкі Юхнаўца[136] на працу ў Беларускай рэдакцыі радыё „Свабода"

*Нью-Ёрк, 27.VIII.69*

*Дарагі Спадар Прэзыдэнт!*

*Сёньня прыйшоў Ваш ліст, пісаны 22-га. Адпісваю адразу ж. Юхнаўца мы з Ад. [Адамовічам] на працу ў радыё не рэкамэндавалі. Нашыя прозьвішчы ён паставіў адно на сваёй анкеце-заяве (якую падаў у Камітэт), як асобаў, што яго ведаюць. Але да нас ніхто зь ніякімі пытаньнямі не зварачаўся. Дый наагул усю справу сваю ён вядзе беспасярэдне зь Мюнхэнам, зь Сяднёвам. Сяднёў жа, будучы нядаўна 6*

[136] **Янка Юхнавец** (1921—2004), паэт, літаратар.

*тыдняў у ЗША, у Камітэт навет і не заглянуў. Мы з Адамовічам уважаем, што ў Юхнаўца няма адпаведнае кваліфікацыі для працы ў радыё. Апрача гэтага, нявыразны ён і з палітычнага гледзішча. Сянкевічава [Віктара] кандыдатура, бязумоўна, куды больш адпаведная, чымся Юхнаўцова. З год таму я падаваў ягоную кандыдатуру на працу ў Бел. рэдакцыі ў Нью-Ёрку, але мне сказалі ў Камітэце, што ягоная кандыдатура навет і разглядацца ня можа (без паданьня прычыны). Пра нястачу кваліфікацыі ў Юхнаўца сп. Адамовіч казаў таксама В. Васільевічу [Клампу], калі нядаўна быў у Мюнхэне. Цягнуць яго праз галаву ўсіх у Нью-Ёрку заправілы зь Мюнхэну (Так, Гэрус, Сяднёў).*

*Быў у нас гэтымі днямі Нікан. Шмат чаго цікавага расказваў. Ад яго даведаўся й пра ягоную сустрэчу з Вамі.*

*Нас усіх вельмі цешыць тое, што стан Вашага здароўя палепшыўся. Не перапрацоўвайцеся адно. Едзьце адпачыць, набрацца сілаў.*

*Найлепшыя пажаданьні Вам і сям'і ад усіх нас.*

*З глыбокай пашанай*
*Ваш Янка Запруднік*



*Тэма нумару: эпісталярыі*

***Лявон Юрэвіч***
*Нью-Ёрк*

# „...ДА ПРЫЧЫН ГЭТАГА ЦАРКОЎНАГА ЗАКАЛОТУ...“

## Выбраныя лісты Міхася Міцкевіча[1] да Міхася Тулейкі[2]

*„Постаць Сьв. памяці Міхася Міцкевіча, якога мы сёньня праважалі на вечны спачынак на беларускім магільніку ў Іст Брансьвіку,*

[1] **Міхась Міцкевіч** (1897—1991), брат Якуба Коласа, рэлігійна-грамадзкі дзеяч беларускай эміграцыі.

[2] **Міхась Тулейка** (1915—1998) нарадзіўся ў Нясьвіжы. Пачатковую адукацыю здабыў у мясцовай польскай школцы, а пасьля — тамсама — у настаўніцкай сэмінарыі, якую скончыў у 1936 г. і адкуль адразу яго забралі ў польскае войска на падрыхтоўчыя афіцэрскія курсы. Працаваць настаўнікам пачаў у 1937 г. у Нясьвіжы, пазьней — у Снове. У 1939 г. быў зноў мабілізаваны, пад Варшаваю паранены. І пры саветах, і пры немцах працаваў у Нясьвіжы — спачатку настаўнікам, а пасьля заступнікам дырэктара настаўніцкай сэмінарыі. Быў дэлегатам Другога Ўсебеларускага кангрэсу. Пакінуўшы жонку зь дзіцем, эміграваў у Нямеччыну. У Бэрліне ў 1944 г. у рангу афіцэра быў далучаны да кадравага батальёну, што фармаваўся ў школе на *Lychenerstrasse*. У сфармаваны ў пачатку 1945 г. у Баварыі батальён, аднак, яго не паслалі. Замест таго з калькімі іншымі падзеленымі на двойкі афіцэрамі выправілі вэрбаваць добраахвотнікаў у беларускае войска. Студыяваў у Мюнхэнскім унівэрсытэце *UNRRA* і Ўкраінскім вольным унівэрсытэце ў Рэгенсбурзе. Заснавальнік Беларускага студэнскага зуртаваньня. У 1949 г. выехаў у ЗША. Быў абраны першым старшынём Згуртаваньня беларускае моладзі, уваходзіў у рэдакцыйную калегію часопісу „Віці“. Зарганізаваў першы беларускі скаўтынгавы атрад у Амэрыцы. Найбольш часу аддаваў працы на пасадзе старшыні парафіяльнай рады БАПЦ у Брукліне, быў рэгентам хору. Пазьней, пераехаўшы ў Нью-Джэрзі, працягваў сваю грамадзка-рэлігійную дзейнасьць у Гайлэнд-Парку. У сярэдзіне 1950-х ажаніўся другі раз. На пачатку 1990-х гг. у ЗША прыехала дачка⇨

*шы, бо мне не даюць пакою, каб дастаў падпісаны Статут КНБ*[3] *і наагул нейкую запаруку аб тым, ці падаваць Тваё прозьвішча як аднаго з закладчыкаў у Бюлетэні КНБ, які мае выйсьці ў канцы сакавіка. Але гэта меншае. Маюцца больш важныя справы, якія вымагаюць Твае парады. Агулам што да КНБ, дык пасьля нашай кароткай сустрэчы й бягучай гутаркі я троху адсунуўся ад справаў КНБ і цяпер падаў паведамленьне, а калі паступіць Твая апрабата, дык і зусім адмоўлюся. Прызнацца шчыра, не падабаецца мне тая кампанія (Сабалеўскі й Касяк асабліва). Апрача ўсяго, як на маю думку, дык КНБ зусім не патрэбнае (дублюе БНЦ). Масавай КНБ яны рабіць баяцца (бо тады іх ня выбяруць да Ўправы), а папяровая дыплёматыя, хоць і добрая справа, не па маім характары.*

*Другое. Тут надумаліся й рыхтуюцца закласьці ці, як яны кажуць, аднавіць дзейнасьць Інбелкульту на эміграцыі пад назовам Вольны Інстытут Беларускай Культуры, каб супрацьставіцца кліке*[4] *. Хоць гэта не мая ініцыятыва, але свой голас я там пакуль маю й толькі ня ведаю, ці рабіць гэта, ці не. На маю думку, варта зрабіць, бо хай сабе й ня будзе слаўным ІБК, але будзе працягнута традыцыя, будзе й коска, за якую магчымасьць даецца зачапіцца ў будучыні ды, нарэшце, будзе й аплявуха бахвальнае кліке. Сілы нашы невялікія, безумоўна, але зрабіць зможам ня менш за абрамчыкаву прыбудоўку. Будзе й свой часапіс, хай сабе й ратatарны, але не прадажны й таму маючы немалую вагу. Закладчыкамі яго былі б (праэктавана): Л. Савёнак, Я. Ліманоўскі, Ю. Віцьбіч, С. Хмара, ну й я. Так выглядалі б закладзіны. Да працы далучыліся б, калі запрасілі б, таксама іншыя, як М. Шчорс, Я. Гуткоўскі ды інш. Прабаваў сюды ўціснуцца й гаспадзін Сядуро, але я адвёў ягоную кандыдатуру й думаю, што скурнікам і кар'ерыстам у ім мейсца ня можа быць. Хай сабе працуюць для маскалёў (чырвоных ці белых, для нас абыякава, а ў нашыя нацыянальныя справы ня лезе). Пасьля майго ліста згадзіўся з гэтым нат ягоны найбольшы абаронца Віцьбіч і піша, што я маю рацыю, ды без заслужэньня ня мог ён дастацца ў Менск пасьля ссылкі ды яшчэ вучыцца ў ВНУ. Прабуе тут быць і М. Цэляш*[5] *. Лічу яго дзіваком і хутчэй адміністратарам, чым літаратарам, але бліжэй яго ня ведаю й таму прашу Цябе выказацца аб усім і як найхутчэй напісаць. Спадзяюся, што цяпер маеш крыху больш часу й можаш нейкую гадзінку выдзяліць.*

*На 25 сакавіка будзе тут прамаўляць Абрамчык. Даўжэйшы час падрыхтоўвала грунт для яго прыезду Г. Ганчарэнка, якая тут ужо ад пачатку лютага. Шкода, што БНЦ ня выдаў ніякага звароту да 25 сакавіка. Цяпер, праўда, позна, але наперад мусім гэта ўзяць пад увагу й падаваць голас аб сваім існаваньні. Я ж прасіў адказаць на мой праэкт арганізаваньня штогодняе пераклічкі сакавіковай нацыянальна думаючых недзе ў лістападзе мінулага году, але Ты не адказаў, а перагаманіць ня мелі магчымасьці. Так яно й засталося.*

*Асаблівых навінаў тут пакуль няма, а дробныя, я думаю, Ты сам ведаеш ня хужэй ад мяне, дык іх і ня буду кранаць. Не магу абмінуць толькі ўзмоцненых (прычыны пакуль не дазнаўся) завугольных нашэптаў на БНЦ і Тваю асобу. Як мне перадавалі, дык пераважна карыстаюцца гэткім аргумэнтам (чуў ад трох асобаў ды чацьвёртага Ізыдара*[6] *): „Савёнак цяпер памёр на фарме, і БНЦ ня мае галавы. Панькова слухаць ня трэба, бо ён вывышае Савёнка" й пад. Мне крыху больна за гэта й не хацелася пісаць, але хаваць далей лічу несумленным. Можа й сам чуў, хоць і далёка. Прыехаў сюды Яцэвіч (Змагар)*[7] *і асеў у Клiўлэндзе. Можам і яго прыцягнуць да сябе. Слуцкі паўстанец і патрыёта. Здаецца, знаеш ягонае змаганьне з Абрамчыкам у Францыі. Як трэба, падам дакладней.*

*Яшчэ толькі адну справу й дам спакой. Прыблізна год таму, без Твае згоды й апрабаты, зрабілі мы па згамону з Хмарам маленькую вылазку, бо лічылі, што яна анікому не пашкодзіць. (Я не пытаў Твае апрабаты, бо тут ня было палітыкі ці зьвязанага з БНЦ). Хмара дабыў умоўны адрыс у Канадзе на адну краму, і мы напісалі ліст П. Пестраку*[8] *:*

---

[3] **Камітэт незалежнай Беларусі (КНБ)**, арганізацыя, заснаваная ў ЗША ў 1955 г. У склад яе кіраўніцтва ўваходзілі Юры Сабалеўскі, Леанід Галяк, Лявон Савёнак, Анатоль Плескачэўскі, Мікола Панькоў.

[4] Маецца на ўвазе заснаваны ў 1951 г. Беларускі інстытут навукі й мастацтва.

[5] Маецца на ўвазе пісьменьнік Мікола Целеш (1900 — каля 1976).

[6] Маецца на ўвазе Ізыдар Плашчынскі (Язэп Гуткоўскі).

[7] **Аляксандар Яцэвіч** (1903—1995), беларускі паэт, празаік, перакладчык, драматург. Удзельнік Слуцкага збройнага чыну. У міжваенны час і ў гады вайны настаўнічаў. З 1944 г. — на эміграцыі. Выдаваў газэту „Незалежная Беларусь". Друкаваўся пад псэўданімам Алесь Змагар.

[8] **Піліп Пястрак** (1903—1978), заходнебеларускі й савецкі паэт і празаік. Сябра БСРГ, КПЗБ. У 1929—1939 гг. амаль увесь час знаходзіўся ў польскіх турмах. У 1964 г. — лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі. Самы знакаміты твор — раман „Сустрэнемся на барыкадах".

*„Дарагі Зямляк! У аднэй з расейскіх газэтаў Амэрыкі натпакаў кавалак твайго раману „На барыкадах“. Вельмі хацелася б прачытаць яго цалкам і ў арыгінале, па-беларуску, але тут яго нельга тымчасам дастаць. Калі Ты той самы Пястрак, які сядзеў у 1927 г. у Горадзенскай турме і пісаў тады вершы, дык буду Цябе прасіць надаслаць мне Тваю кнігу. Я ня маю магчымасьці, яе ў мяне адабралі, быць на радзіме, але і ў далёкай Амэрыцы я застаюся беларусам. Мяне Ты хіба памятаеш. З прывітаньнем Іван Бакач“.*

*Для яснасьці скажу, што Іван Бакач быў такі, Пястрак яго ведаў добра, як ведае, бяз сумліву, што Бакача бальшавікі захапілі ў Бэрліне й павесілі пасьля вайны ў Менску разам з М. Шкялёнкам*[9]*. І. Бакач былы Хмараў і мой сябра*[10]*.*

*Прыблізна праз паўгоду (на паданы ўмоўны адрыс) надыйшла кніжка Пестрака з прысьвятай:*

*„На ўспамін аб Беларусі тав. І. Бакачу! Памятаючы П. Пястрак“.*

*У кнізе быў укладзены лісток, на якім па-расейску было напісана:*

*„Так, дорогой Земляк! Вы не ошибаетесь, я тот самый Пестрак, который сидел в Гродненской белопольской тюрьме и все хорошо помню. Посылаю Вам книгу. Читайте! Ф. Пестрак“.*

[9] **Мікола Шкялёнак** (1899—1946), беларускі палітык, гісторык, юрыст, аўтар шэрагу працаў па гісторыі Беларусі. Скончыў юрыдычны факультэт Віленскага ўнівэрсытэту. У 1936—1939 гг. разам з ксяндзом Вінцэнтам Гадлеўскім быў адным з выдаўцоў газэты „Беларускі Фронт“. Першы віцэ-прэзыдэнт БЦР. Арыштаваны ў 1946 г. і пазьней расстраляны.

[10] Магчыма, маецца на ўвазе **Пётра Бакач** (каля 1910 — ?), былы вучань Віленскай беларускай гімназіі, асуджаны ў 1932 г. на чатыры гады зьняволеньня. Пасьля вызваленьня жыў у Празе, дасьледаваў гісторыю беларускай літаратуры. З канца 1943 г. узначальваў бэрлінскі філіял Беларускага камітэту самапомачы, са студзеня 1945 г. быў сябрам Беларускай Цэнтральнай Рады. Быў арыштаваны органамі СМЕРШ. Пакараньне адбываў на Магадане. Далейшы лёс невядомы.

[11] **Валянцін Таўлай** (1914—1947), заходнебеларускі паэт. Вучань Віленскай беларускай гімназіі. Актывіст КСМЗБ і КПЗБ, адбываў шматгадовае зьняволеньне ў польскіх турмах. У гады Другой сусьветнай вайны ўдзельнічаў у анфашысцкім руху на Наваградчыне. Пасьля вайны жыў у Менску, працаваў над стварэньнем мэмарыяльнага музэю Янкі Купалы.





*На гэта мы адказалі кароткай падзякай і папыталіся аб долі паэты (таксама нашага агульнага знаёмага) В. Таўлая*[11]*. Цяпер падыйшоў адказ: 12 нумар „Полымя“ за 1955 г., і ў ім пісулька: „Чытайце верш „Мастак“ як адказ“.*

*Ні подпісу, нічога болей не было. (Верш дадаю перабітым, бо дастаць больш гэтага нумару „Полымя“ мне пакуль не ўдалося). Прашу Цябе, Лявон, прачытай і перачытай уважна верш ды напішы свой пагляд. Я губляюся ў здагадках, але потым падам і сваё меркаваньне. Агульна бяручы, адказ прызнаю адважным і не па-бальшавіцку шчырым. Наводзіць ён мяне на розныя думкі, асабліва, як Пястрак зазначае, ягоная „адзінота“, „узрушэньні душы“, „трывога агнявая“ (аж два разы), „крананьне душы“ й ягонае „Ня можа кат зрабіць яго калекай“ ды і ўся апошняя строфка — гаворыць нямала. Тут няма з кім разгледзіць гэтага, а з Адамовічам*[12] *няма нат ахвоты гаварыць. Дык чакаю!*

*Дарэчы, аб Адамовічу, да Твайго ведама. Прабуюць яны ўцягнуць мяне з паваротам да БІНіМу, але дарэмна. Не пайду. Даволі пакарысталіся і зарабілі з мае працы на Купале, каб потым зацерці ды адгуляць сьвіньню ў адношаньні да Твае асобы, які вельмі памог мне асабіста і фатаграфіяй (аб гэтым іншым разам). Дык справа дайшла да таго, што Адамовіч у асысьце свайго неадменнага ад'ютанта Шукелойця прынёс мне свае працы друкаваныя з прысьвятай на кажнай, хоць добра ведаў, што апрача твораў Жылкі я адмоўна выказаўся аб іх нат публічна на сходзе і закідаў нявыкарыстаньне ўсіх крыніцаў, тэндэнцыйнасьць і нат фальшыўку ў некаторых мясцох (прыводзіў прыклады). Дзеля характэрнасьці падаю гэтыя прысьвяты літаральна:*

*На кнігах „Ул. Жылка. Творы“: „Міколу Крывічу на ўспамін пра вялікага крывіцкага паэту, малога крывіцкага рэдактара й нягоднага, хоць, на жаль, таксама крывіцкага выдаўца“.*

*„Ант. Адамовіч. Якуб Колас у супраціве саветызацыі“: „Найвышэйшаму Бібліёграфу Беларусі“.*

*„Н. Недасек. Большевизм на путях к установлению контроля над Белоруссией“: „Міколу Вольнаму — на волю вольную — рабі, што хочаш — дасякай ці не дасякай...“.*

*Я прыняў і сказаў, прачытаўшы: „Калі шчыра думана, дык шчыра дзякую“. Мне ўсё ж такі здаюцца ўсе яны (прысьвяты) няшчырымі. Што за імі крыецца — ня ведаю, але напэўна адзін з крокаў,*

[12] Маецца на ўвазе Антон Адамовіч (1909—1998).

*каб павярнуць у іхны інстытут, дзе суляць нат пасаду сакратара неадменнага ад наступнага сходу. Пэўне ж, глупства, бо ім няма куды і на што папхнуць іхнюю...[13] Аднак, дарма. Нічым ня купяць. Думаю, што так будзе правільней. Што Ты скажаш на ўсё гэта?*

*Цяпер канчаю, бо трэба бегчы на работу, а разам і ўкінуць ліст. Бывай і пішы, калі ласка, каб не нарабіць памылак на самоце.*

*З шчырым прывітаньнем Спадарыні ад усіх нас і найлепшымі пажаданьнямі ўдачы.*

*Той самы заўсёды Мікола Панькоў.*

*Піліп Пястрак*

*Мастак*

*Пастукаўшы мне, нечая рука*
*Парушыла ў поўнач ціш пакою.*
*Я падышоў да дзьвернага замка,*
*Узрушаны прыгодаю такою.*
*Бо хто-ж, адкуль у нечаканы час*
*Прыйшоў маю парушыць адзіноту?*
*І з чым мне госьця позьняга страчаць —*
*Ці з дружбаю, ці, можа, з неахвотай?*
*Госьць увайшоў, нясьмела, ціха стаў,*
*Як нейкі пілігрым, здарожаны, стамлёны,*
*Ён капялюш, вітаючыся, зьняў*
*І паглядзеў мне ў вочы пранікнёна.*
*Высокае чало і сівізна валос;*
*На твары чулае, закрэплае натхненьне.*
*І думу строгую над бровамі зьвяло*
*Ў маршчыны найвялікшае цярпеньне.*
*З трывогаю гляджу на гэтай думы знак,*
*Руку я падаю з душэўным трапятаньнем:*
*— Я пазнаю... Я пазнаю цябе, мастак,*
*Сядай, мой друг, хачу тваіх прызнаньняў!..*
*Мастак прысеў і позіркам ва ўпор*
*Ізноў крануў душу мне пранікнёна...*
*— Мяне сюды прывёў, — сказаў ён — подых зор (??)*
*І бляск агнёў у горадзе замглёным. (???)*

[13] Маецца на ўвазе Натальля Арсеньнева (1903—1997), тагачасная сакратарка БІНіМу.





*Зноў сілай творчасьці гарыць мая душа...*
*Схапіў-ба кісьць.. Здаецца, без адрыву*
*На палатне я б думы ўваскрашаў,*
*Што ў сьвет імкнуць паводкаю шумлівай.*
*Ды што зраблю?.. Скажы, скажы, мой брат, (??)*
*Як назапашаныя вызваліць мне дзівы? — (!?!?!?!?)*
*Мне правую руку адсек фашысцкі кат, (бальшавіцкі?)*
*Каб я не маляваў прыгожасьці Радзімы...*
*Замоўк мастак... панікнуў галавою...*
*А Млечны шлях за вокнамі — нібы рака...*
*І я, ахоплены трывогай агнявою,*
*Загаварыў да сэрца мастака:*
*— Вялік твой боль, бо тужаць па табе,*
*Як ты і сам, прасторы нашых даляў,*
*Вялік твой боль, а ў нашай барацьбе*
*Мы пішам сьвету новыя скрыжалі.*
*Павер, мастак ня можа не тварыць,*
*Ня можа кат зрабіць яго калекай, —*
*Мне ёсьць аб чым з табой пагаварыць,*
*Мой друг, я веру ў сілу чалавека!*

*Полымя, №12 за 1955, бач. 65—66.*

*Падчыркненьні мае“.*

***Сымон Брага***

# НА ЗАХАД І ЎСХОД
# (Пра беларускую культурную экспансію)

*Доктар мэдыцыны, вядомы скарыназнаўца, адзін з заснавальнікаў і доўгагадовы кіраўнік Беларускага інстытуту навукі й мастацтва Вітаўт Тумаш (1910—1998) зьяўляецца знакавай постацьцю для беларусаў на Захадзе. Аўтар дзясяткаў навуковых публікацыяў, ён змагаўся з фальшаваньнямі беларускай гісторыі й культуры ў БССР, быў выдатным прадстаўніком беларускай навукі на эміграцыі. Сёлета спаўняецца 100 гадоў з дня нараджэньня Вітаўта Тумаша, аднак і ягоны жыцьцёвы шлях, і інтэлектуальная спадчына так і застаюцца малавывучанымі.*

*Пададзеная тут праца „На Захад і Ўсход“, напісаная ў 1940-х пад псэўданімам Сымон Брага, ніколі не друкавалася цалкам. Асобныя кавалкі яе аўтар публікаваў у беларускіх пэрыёдыках канца 1940—1950-х гг.[1] Машынапіс асноўных частак (магчыма, ня цалкам) захаваўся ў архіве БІНіМу, і на яго падставе паўстала гэтая публікацыя.*

*Праца ствралася ў той час, калі ішоў працэс своеасаблівага пераасэнсаваньня беларускай гісторыі, стварэньне несавецізаванага яе варыянту. Менавіта тады — у першай палове 1940-х — паўстала неабходнасьць ацаніць і абгрунтаваць самабытнасьць і моц беларускай культуры, каб каторы раз даказаць яе самастойнасьць і самакаштоўнасьць, а таксама пачэснае месца ў шэрагу іншых культураў. Ідэю паказаць „беларускую культурную экспансію“ Вітаўт Тумаш зрэалізаваў на даступным на той час матэрыяле. Сёньня некаторыя тэзы прэзэнтаванай працы могуць выглядаць наіўна, часам малаабгрунтавана або занадта безапэляцыйна. Тым ня менш, само зьяўленьне такога дасьледаваньня яшчэ ў 1940-х немагчыма ігнараваць, тым больш што згаданая праблематыка застаецца актуальнай і да сёньня. Такім чынам, гэтая публікацыя мае на мэце своеасаблівае „вяртаньне“ ў беларускую гістарыяграфію яшчэ аднаго твору Вітаўта Тумаша, а таксама прыцягненьне ўвагі дасьледнікаў да неабходнасьці адмысловага вывучэньня даробку беларускай эміграцыйнай навукі.*

[1] Асобныя кавалкі ці сюжэты працы друкаваліся ў наступным выглядзе: Уплывы нашае мовы на польскую // Сакавік. №1 (2). 1948; Ягайлавічы й музыка // Запісы БІНіМ. №1 (5). 1954; Важнейшыя мамэнты культурных працэсаў Беларусі // Запісы БІНіМ. №2 (6). 1954 (пачатак) і Конадні. Кн. 3. 1955 (заканчэньне); Міцкевіч і беларуская плынь польскае літаратуры // Конадні. Кн. 3. 1955.







Вітаўт Тумаш

### Ад аўтара[2]

Працу гэтую давялося пісаць у самы неспакойны ваенны час. Рукапісы й зацемкі, зьбіраныя выпіскі й матэрыялы ня раз гарэлі й гінулі. Гарэлі й руйнаваліся таксама бібліятэкі, зь якіх прыходзілася карыс-

[2] У публікацыі захоўваюцца асаблівасьці мовы й стылю арыгіналу.

таць. Некалькі разоў даводзілася зьбіраць нанава й з трудом ужо гатовае ды разгубленае.

Таму выходзіць яна сёньня не ў такой шырыні й форме, у якой была пачатна задуманая, асабліва не з такой колькасьцю арыгінальных цытатаў і ссылак на жаролы.

Ды думаю, што і ў гэтым выглядзе праца споўніць у вялікай меры асноўную пастаўленую ёй задачу: зьверне ўвагу на выдатную экспансіўнасьць высока ў сваю пару разьвітай старабеларускай культуры й на адвечную, палонячую сваіх і чужых, стыхійную пругкасьць нашай арыгінальнай і багатай культуры народнай, а праз гэта пашырыць у сьвядомасьці і ўмацуе веду й веру ў немалыя духовыя творчыя здольнасьці беларускага народу.

Так цікавае й шырокае пытаньне ў часох спакайнейшых і больш спагадлівых для беларускай навукі распрацуюць хіба нашыя вучоныя-адмыслоўцы ўжо не на некалькі аркушох, а ў многіх тамох. У некаторых галінах зробленыя нават ужо добрыя ў гэтым пачаткі, хаця тэмы, як цэласьці, ніхто глыбей яшчэ неяк не асьмельваўся крануць.

Заахвоціць да такой грунтоўнай далейшай апрацоўкі пытаньня, даць зь некаторага гледзішча ў рукі й першыя арыентацыйныя ніткі, паказаць некаторыя жаролы й некаторыя магчымыя кірункі такой працы — другая яе мэта.

## На Захад і Ўсход

У апошнія вякі наш край, што некалі нёс сьветач культуры ня толькі на Ўсход, але й на Захад, край, дзе некалі паўсталі выдатныя й шматлікія культурныя вартасьці й памяткі, быў сапханы суседзямі ў бок зь вялікага сусьветнага культурнага шляху. І толькі руіны замкаў, толькі нямногія яшчэ астачы старасьвецкай архітэктуры, рэдкія кнігі й рукапісы па старасховах, асталіся да сёньня сьведкамі мінулых слаўных дзён.

Перадусім двое з нашых суседзяў — расейцы й палякі — шмат і часта гавораць аб сваіх культурных багацьцях, якімі яны быццам увесь час абдзялялі наш народ, хаця — як пабачым — доўгімі вякамі было проста наадварот. Мы іх вякамі кармілі сваімі культурнымі вартасьцямі. Толькі ў вялікай меры дзякуючы нам змаглі яны пасьля падняцца на сваю сёньняшнюю культурную роўню. А нашай нацыянальнай культуры затое пазьней прыносілі яны сьмерць, былі для яе атрутным забіваючым ядам.





Польскія ўплывы ў вякох XVII і XVIII спаралізавалі далейшае разьвіцьцё беларускай нацыянальнай культуры. Расейскія й польскія ўплывы ды палітычная сіла глушылі ўсімі спосабамі адраджэньне беларускай культуры пазьней.

Вось тутака падаецца жменя навуковых фактаў аб сіле нашай культуры ў даўнія вякі, а таксама аб стыхійнай палонячай моцы нашай культуры народнай. Каб у некага не паўстала думка аб аднастароннасьці дзеля нейкай звычайнай прапаганды — прыведзеныя тутака погляды галоўна самых расейскіх і польскіх вучоных. Хай гавораць, хай прызнаюцца самі, што ад нас скарысталі, пазычылі ці проста прысабечылі.

Не трэба забывацца — гэта толькі жменя фактаў зь незьлічонай іх колькасьці. Памінаецца тут дакладнейшае абгаварваньне нашых культурных уплываў на іншых суседзяў — на ўкраінскі, літоўскі й латыскі народы. А яны былі таксама вельмі выдатныя.

Культурнае ўзьдзеяньне Беларусі на Ўкраіну было значнае ў многія вякі, але асабліва моцныя нашыя там уплывы ў XIV—XVII стагодзьдзях. Гэта беларускія, галоўна, культурныя дзеячы, што пераняслiся ў Кіеў, прычыняюцца да ўкраінскага культурна-асьветнага рэнэсансу ў палавіне XVII стагодзьдзя (пара Магілянскай акадэміі), калі пасьля доўгагадовага заглушэньня татарскаю няволяю высокай некалі культуры Кіеўшчыны пачынаецца новае культурнае адраджэньне Ўкраіны.

Культурнае ўзьдзеяньне на ліцьвіноў (жмудзінаў) і латышоў ідзе зь вельмі старой, дагістарычнай пары. Уплывы гэтыя даюцца заўважыць на ўсім ладзе й складзе іхнага жыцьця. Асабліва значны беларускі сьлед знаходзім на вуснай народнай творчасьці, песьнях і мове гэтых народаў.

Пад уплывам беларускай мовы ў ліцьвіноў паўстаў нават асобны дзекуючы дыялект „дзукаў“. Дзекуючыя дзукі жывуць на асобнай паласе, сумежнай зь беларускім нацыянальным прасторам. Дзукі кажуць, напр., „дзена“, „дзевас“ (дзень, Бог), хаця нармальна па-літоўску гаворыцца „дена“, „девас“ і падобна[3].

Першую навуковую працу аб нашых — як і славянскіх наогул — уплывах на літоўскую мову апублікаваў па-нямецку гадоў ужо семдзесят таму польскі вучоны А. Брукнэр[4]. Пазьней паявілася іх і болей. Уплывы беларускай мовы на латыскую ня менш значныя.

Зусім для многіх хіба нечакана знаходзім некаторыя беларускія ўплывы нават і ў эстонскай мове. Напрыклад, словы для азначэньня птушкі вераб'я ў народнай эстонскай гутарцы гучыць: „верб“ (*värb*).

[3] Аб гэтым глядзі ў працах літоўскага філёляга Саліса.

[4] Brückner, A. Die slavischen Fremdwörter im Litauischen. Weimar, 1877.

З таго, што ў гэтым слове ёсьць корань нашага „вераб-ей“, а не расейскага „вороб-ей“, відаць ясна, што эстонцы гэты назоў птушкі пераняли ад нас, а не ад расейцаў[5].

Ды гэта зусім ня будзе так ужо й дзіўным, калі прыпомнім сабе факт, што суседзі эстонцаў з паўднёвага ўсходу, гэта беларускія пскоўскія крывічы, гістарычным лёсам за апошнія вякі ўжо значна абрусельныя й таму залічаныя сёньня некаторымі да расейцаў.

Вельмі выдатны ўплыў і беларускай народнай песьні на латыскую, а асабліва на літоўскую. Сёньня існуе шмат літоўскіх народных песьняў, у якіх чуюцца выразныя беларускія матывы, а ў некаторых зь іх уся мэлёдыя ў поўнасьці перанятая ад нас, і толькі словы літоўскія.

Цалкам зразумела, што пад асабліва моцны наш уплыў падпалі народы, што жывуць здаўна расьцярушаныя сярод нас, як нашыя мусульмане (татары) і часткова жыды.

Татары, пераселеныя ў Беларусь ад часоў вялікага князя Вітаўта[6] хутка забыліся зусім сваю мову й сёньня гавораць толькі па-беларуску. Захавалі яны дагэтуль толькі рэлігійную і ў некаторай меры сваю расавую апрычонасьць. Сваю ж ранейшую мову нашыя татары пачалі закідаць ужо ад пачатку XVI ст. Ужо тады сталі яны пісаць свае сьвятыя кнігі па-беларуску.

Кнігі такія захаваліся й да нашай пары. Найбольш зь іх ведамая й дасьледаваная, гэта „Аль-Кітаб“, знойдзены ў 1915 г. у Сорак Татарах пад Вільняю, у Малны Палтаракевіча, нашым зьбіральнікам старасьвеччыны й выдатным грамадзкім дзеячам Іванам Луцкевічам (1881—1919). Перахоўваўся ён да гэтай вайны ў Беларускім музэі ў Вільні[7].

„Аль-Кітаб“ пісаны арабскімі літарамі, але па-беларуску. Гэты факт навукова вельмі важны, бо пры гэтым пісаньні аддадзеныя некаторыя фанэтычныя асаблівасьці беларускай мовы, якія не адбівала тады кірыліца з сваім традыцыйна чужым, выводзячымся ад царкоўна-славянскага пісьма, правапісам. Дзеля гэтага „Аль-Кітаб“ мае надзвычайна вялікую вагу для выясьненьня шматлікіх пытаньняў ня толькі ў беларускай філялёгіі, але і ў славянскай наогул.

[5] Інакш гучыць гэтае слова ў паўсталай пазьней літаратурнай эстонскай мове. Там кажыцца „варбляне“ („*varblane*“).

[6] У Іпацьеўскім летапісе пішацца: *„У лета 6905 (1397) Вітаўт, князь літоўскі, пойдзе на татараў і паразі іх; прыгна адну арду да Літвы з жонамі і зь дзяцьмі і пасадзі іх акола Вільня, і дзе-жа і да ныня сваю веру махаметаву дзержаць“* (Полное собрание русских летописей, Т. II—III. Ипатевская летопись. Пецябург, 1843. С. 352).

[7] Дасьледаваны галоўна нашым філёлягам др. Я. Станкевічам. Частка гэтага „Аль-Кітабу“ ў кірылічнай транскрыпцыі перадрукаваная ў Праскай „Slavia“ і ў „Гісторыі беларускай (крыўскай) кнігі“ В. Ластоўскага (Коўна, 1926).





Пазьней падобных „Аль-Кітабаў“ і іншых беларускіх кнігаў нашых мусульманаў пісаных арабскімі літарамі знойдзена яшчэ некалькі дзясяткаў у бібліятэцы Пецярбурскага ўнівэрсытэту, у бібліятэцы духоўнай сэмінарыі ў Пскове, у татарскім муфціяце ў Вільні, у Слонімскім музэі й г. д.[8]

Гэта ўсё толькі малая астача з багатай некалі беларускай пісьменнасьці арабскімі літарамі. Яшчэ ў 1858 г. А. Мухлінскі пісаў, што тады ў мячэцях Беларусі было шмат беларускіх мусульманскіх рукапісаў[9]. Пазьней, на жаль, бальшыня загінула.

Беларускі культурны ўплыў на нашых татараў не абмежаваўся толькі поўным пераняцьцем беларускай ад нас мовы. Як сьцьвярджаецца, і іхныя пахоўныя песьні, розьнячыся ад песьняў казанскіх і крымскіх татараў, сваёй мэлёдыяй вельмі блізкія да беларускіх народных песьняў[10].

І жыды, нягледзячы на сваю нацыянальна-рэлігійную й гандлёва-каставую замкнёнасьць, і, з другой стараны, на моцнае адмежаваньне іх ад жыхарства Беларусі й старымі нашымі законамі (напр., у другім Літоўскім Статуце з 1566 г. былі адмысловыя параграфы, якія загадвалі ім насіць спэцыяльную, адрозьніваючую ад іншых грамадзян Вялікага княства, вопратку), а таксама не ўсьцераглісь ад беларускіх уплываў.

Ужо з XV ст. вядомыя пераклады жыдоўскіх кнігаў на беларускую мову. У Віленскай публічнай бібліятэцы захаваўся рукапісны пераклад Бібліі на беларускую мову з гэбрайскай, роблены для мэтаў сынагальнай практыкі не пазьней, як на пачатку XV ст. Таксама перакладаліся на беларускую мову жыдоўскія малітвы й песьні. Некалькі дзясяткаў такіх жыдоўскіх песьняў па-беларуску запісана этнографамі ў XIX і нашым стагодзьдзях[11].

[8] Дакладней аб гэтай літаратуры ў працы др. Я. Станкевіча „Беларускія мусульмане й беларуская літаратура арабскім пісьмом“, надрукаванай у „Гадавіку Беларускага Навуковага Таварыства“ (кн. 1, Вільня, 1933). Выйшла яна й асобнай адбіткай. Там жа зьмешчаныя й адрыўкі з розных „Аль-Кітабаў“ у кірылічнай транскрыпцыі.

[9] Muchlinski, A. Zdanie sprawy o tatarach litewskich. Teka Wilenska, 1858. T. 4.

[10] Talko-Hryncewicz, J. Muslimowie, czyli tak zwani Tatarzy litewscy. Krakow, 1924.

[11] Для прыкладу, адна такая песьня з словамі й нотамі, запісаная др. Я. Станкевічам і В. Багдановічам, надрукаваная ў „Гадавіку Беларускага Навуковага Таварыства“. Кн. 1. Вільня, 1933. Там жа выдадзеная й літаратура па гэтым пытаньні.

Толькі ў пазьнейшых вякох, калі ў Беларусі запанавала чужая палітычная сіла, верхнія грамадзкія пласты татараў і жыдоў пачалі ўжо больш культурна арыентавацца на пануючыя нацыі, чакаючы стуль большых для сябе карысьцяў.

Ды гэта зусім нармальнае зьявішча, што ўсе вышэй успомненыя народы малыя — як ліцьвіны й латышы — будучы ў суседзтве з намі, або — як татары й жыды — жывучы нават пасярод куды большага лікам і некалі высокакультурна стаўленага народу беларускага, падпалі пад ягоны ўплыў. Таму ня будзем тут даўжэй над гэтым затрымлівацца.

Куды цікавейшымі, важнейшымі й, на жаль, малазнанымі будуць нашыя выдатныя культурныя ўплывы ў мінулым на палякаў і расейцаў. Да іх тут і пяройдзем.

### Народзіны польскай літаратурнай мовы

У XIII і XIV стагодзьдзях, калі беларускі народ разьвівае ўжо багатае пісьменства, калі дзяржаўныя й судовыя акты, летапісы, розная рэлігійная й галоўна сьвецкая літаратура пішуцца ў нас па-беларуску — пісьменнасьць у сваёй мове ў суседняй Польшчы тады яшчэ зусім не існуе.

Польшча тады яшчэ й ня думала аб сваім вызваленьні з дутай мёртвай сярэднявечнай лаціны. Рэлігійныя кніжкі, каралеўскія граматы, законы, пісаліся там толькі па-лацінску. Самі палякі лічылі тады яшчэ, што польская мова запростая й малакультурная, каб ёй можна было пісаць акты ці кнігі. Зразумела, што дзеля гэтага й тагачасная пісьменнасьць у Польшчы была даступная толькі для абмежаванай колькасьці людзей, што зналі лацінскую мову. Было гэта духавенства й вельмі невялікая частка шляхты.

Як ведама, была пара, калі і ўва ўсёй сярэднявечнай Эўропе лічылася, што для пісаньня ёсьць годнаю толькі мова лацінская. Гэты погляд доўга цяжкім каменем ляжаў на парозе разьвіцьця нацыянальнага пісьменства народаў Заходняй Эўропы. Толькі пазьней, з увядзеньнем родных моваў у пісьменнасьць, пачалося там буйное разьвіцьцё нацыянальных літаратураў. Найперш гэта прыйшло ў Італіі, у пару гуманізму, праз творы Дантэ, Пятраркі, Бакача.

І вось у такі момант гісторыі Польшчы даходзіць у канцы XIV ст. да вуніі паміж ёю й Вялікім княствам. У Кракаў, сталіцу тагачаснай польскай дзяржавы, пераяжджае ў 1386 г. вялікакняскі двор нашага гаспадара Ягайлы, цяпер ужо адначасна й караля Польшчы. Двор гэты





ў канцылярыі, у дыпляматычных зносінах па справах Княства, як у штодзённым жыцьці, ужывае тагачасную ўрадавую беларускую мову.

І вось палякі пабачылі тады, што можна пісаць і той мовай, якою гаворыцца, і зусім не абавязкова зварочвацца для гэтага да мовы чужой. Тады пачынае ў Польшчы сьвітаць і сьвядомасьць таго, што ўсе выгады пісьма могуць быць выкарыстаныя перадусім пад умоваю ўжываньня мовы агульнадаступнай, усім зразумелай. І толькі тады — у канцы XIV і пачатку XV вякоў — пачынаюцца ў палякаў пробы, першыя скромныя, нясьмелыя пробы сваёй пісьменнасьці ды паяўляюцца першыя пісаныя па-польску памяткі.

Ды справа гэтая не магла пайсьці так лёгка — праламаць першыя ляды традыцыйнага недаверу да сваёй собскай мовы было вельмі трудна — і паўстае тады на кароткі час цікавае й вельмі характэрнае зьявішча: законы Польшчы перакладаюцца спачатку з мовы лацінскай не на польскую народную мову (літаратурная польская тады яшчэ не існавала), а на беларускую. Сваю польскую мову, відаць, лічылі тады яшчэ за бедную, каб на яе можна было перакладаць, ці пісаць ёй свае законы. Прыпушчалася, відаць, з другой стараны, што польская шляхта куды лягчэй зразумее законы ў адносна блізкай ёй (асабліва тады) таксама славянскай мове беларусаў, чым у мове лацінскай.

І так, між іншым, былі тады перакладзеныя на беларускую мову:

1. Вартскі Статут, перакладзены ў 1420 г.
2. Статут караля Ягайлы — у 1423 г.
3. Вісьліцкі Статут — у XV ст. Гэты статут быў выдадзены польскім каралём Казімірам у 1347 г. па-лацінску. Пераклад на беларускую мову з лацінскага арыгіналу зроблены ў пачатку XV ст., не пазьней 1423 г.

Беларуская мова гэтых перакладаў, асабліва Статуту караля Ягайлы, мае значную колькасьць палянізмаў (магчыма, сьвядома, каб лепш было лепш зразумела польскаму чытачу)[12] .

Таксама выразныя беларускія сьляды ў мове першых польскіх памятак пісьменнасьці з канца XIV і XV ст., як, напрыклад, у Флёр’янскім Псалтыры, Бібліі каралевы Сонькі (чацьвёртай Ягайлавай жонкі, беларускай князёўны з роду князёў Гальшанскіх), малітвеньніку Вацлава, казаньнях і інш., сьведчыць аб тым, што яны паўсталі не без уплыву пісьменнасьці беларускай.

[12] Дакладнейшыя дадзеныя аб беларускіх перакладах польскіх статутаў знаходзяцца ў „Гісторыі беларускай (крыўскай) кнігі“ В. Ластоўскага. Коўна, 1926.

Гэта вельмі характэрны й шматгаворачы факт, што першыя пачаткі польскага пісьма прыходзяць акурат тады, калі праз вунію адбываецца бліжэйшы сутык з тагачаснай беларускай культурай, зь беларускім пісьменствам. Перад гэтым жа гісторыя польскай літаратуры ня ведае ніводнай пісанай па-польску памяткі.

Толькі фактычна ў XV ст. пачынае паволі й спачатку вельмі нясьмела фармавацца польская літаратурная мова. Да належнага, аднак, разьвіцьця яна пайшла пазьней каля палавіны XVI ст., калі наш язык меў ужо за сабой вякі пісьменнага існаваньня й пакінуў шмат пісаных памятак.

Ды яшчэ ў першай палавіне XVI ст. Мікалай Рэй, адзін зь першых польскіх пісьменьнікаў, мусіў падмацоўваць неабходнасьць пісаньня па-польску такой характэрнай пагаворкай: *„Niechaj narody wżdy postronne znają, iż polacy nie gęsi, ze swój język mają“* („Хай суседнія народы знаюць, што палякі ня гусі, што язык свой маюць“).

Усё вышэй пададзенае бясспорна сьцьвярджае важны нам гістарычны факт: беларуская пісьменнасьць была тым штуршком, што прысьпешыў народзіны польскага літаратурнага языка й польскай літаратуры наогул. Яна стаяла ўжо пры іхнай калысцы, яна была іх хроснай маткай.

### Беларускія ўплывы на польскую мову

Як паказалі досьледы польскіх вучоных навейшых гадоў, беларуская мова ня толькі прычынілася да паўстаньня літаратурнай мовы польскай, але мела значны ўплыў і на яе далейшае разьвіцьцё, яна пакінула свой трывалы сьлед на ейны сучасны выгляд.

Ужо ў 1847 г. польскі пісьменьнік і вучоны Крашэўскі пісаў аб тым (*Nowe studja literacki*), што ў гісторыі польскага языка важным часам ёсьць пара злучэньня з Польшчаю Вялікага княства за Ягайлы, бо з гэтым мамэнтам амаль цалкам затрымаўся беспасярэдні ўплыў на мову польскага народу немцаў і чэхаў, а пачынаецца беларускі. На Ўсходзе адкрываецца тады для Польшчы шырокія палітычныя й дыпляматычныя сувязі, двор гаворыць па-беларуску, язык гэты стаецца пасярэднікам паміж Літвой (Беларусяй) і Польшчай. На думку Крашэўскага, бліжэйшыя адносіны зь беларускімі землямі ўтрымалі польскі язык у формах больш славянскіх, мяшаючы яго часта з „братняй“ гутаркай *„менш заходняй культурай здэнатуралізаванай“* Беларусі. Прычынялецца да гэтага й частая бытнасьць у Беларусі польскіх паноў і польскага каралеўскага двара.





Выказаная ўжо сто гадоў таму, яшчэ толькі як агульная гіпотэза, думка Крашэўскага аб уплыве нашай мовы на польскую, пазьней была пацьверджаная фактамі. Пазьнейшыя навуковыя досьледы, хаця яшчэ далёка ня поўныя й не закончаныя ды ведзеныя дагэтуль толькі польскімі вучонымі, паказалі ўжо дакладней, на чым гэты ўплыў беларускай мовы на польскую палягаў.

Першы ў сваіх навуковых працах закрануў гэтае пытаньне яшчэ перад Першай сусьветнай вайной праф. Нітч (*Nitch*), польскі філёляг, вядомы пазьней як аўтар рэформы польскага правапісу. Сьледам за ім зьвярнулі на гэта сваю ўвагу й іншыя польскія філёлягі. Хутка каля пастаўленых — як тады здавалася, вельмі сьмелых — тэзаў прафэсара Нітча аб месцы нарадзін польскага літаратурнага языка й дзейніках, якія складаліся на справу сфармаваньня ягонага сучаснага характару, разгарэўся моцны спор.

Галоўным праціўнікам поглядаў Нітча стаў прафэсар А. Брукнэр, які, між іншым, адкідаў і ўсялякі ўплыў старабеларускага языка на язык польскі. Гэты філялягічны спор цягнуўся гадоў з дваццаць. За гэты час прафэсар Нітч і ягоныя староньнікі награмаджалі ўсё больш і больш пераконваючых аргумэнтаў на доказ правільнасьці пастаўленай раней гіпотэзы.

У выніку гэтага, у сваіх апошніх працах і Брукнэр быў ужо схільны прыняць погляды прафэсара Нітча за даведзеныя. І так спор ужо перад апошняй вайной быў скончаны й сярод польскіх вучоных-філёлягаў у гэтай справе вытварыўся адналіты погляд.

Вельмі для нас цікавыя вынікі досьледаў прафэсара Нітча й некаторых іншых польскіх дасьледнікаў у асноўным такія[13]:

Бальшыня польскіх плямёнаў у народнай гутарцы ня знае гукаў „ч“, „ш“, „ж“. Яны, так як мазуры, кажаць „цапка“, „сыя“, „заба“, заміж „чапка“, „шыя“, „жаба“, гэта значыць — мазураць. Так гаворыць у Польшчы ня толькі ўсё „мазовшэ“ (мазуры), але амаль уся Малая Польшча й частка палякаў, што жыве на Сьлёнску. Толькі г. зв. *Wielkopolska*, паўднёвая частка Сьлёнску й палякі Памор'я (фактычна, нават не палякі, а кашубы), разрозьніваюць гукі „ч“, „ш“, „ж“ ад „ц“, „с“, „з“.

І вось нягледзячы на гэта, што ў бальшыні польскіх народных гутарак выступае мазурэньне — у польскай літаратурнай мове існуе поў-

[13] Падаецца галоўна паводле рэфэрату аб гэтай справе польскага філёляга Легр-Сплавінскага, друкаванага зборніку ягоных працаў перад апошняй вайной у Львове.

*нае разрозьніваньне гукаў „ч“, „ш“, „ж“ і „ц“, „с“, „з“. Яшчэ дзіўней, што ў пару паўставаньня польскай літаратурнай мовы культурны й дзяржаўны цэнтар тагачаснай Польшчы — Кракаў — знаходзіўся акурат на землях, дзе скрозь мазурацъ. А ведамым ёсьць з гісторы многіх народаў фактам, што гутарка пануючага палітычна абшару, асабліва цэнтру, бывае звычайна й асноваю паўстаючага ў гэты момант літаратурнага языка дадзенага народу*.

У палякаў, дзеля незразумелых раней прычынаў, сталася неяк зусім наадварот: у мазурачым традыцыйна Кракаве ў XV—XVI стст. паўстае й разьвіваецца тады ж немазурачая літаратурная мова асьвечаных і палітычна вядучых слаёў грамадзянства.

Згодна з прафэсарам Нітчам, гэта паўстала акурат у вялікай меры дзякуючы моцнаму ў свой час уплыву на польскую мову нашай старой мовы беларускай. Дзеілі, аднак, у гэтым кірунку й некаторыя іншыя фактары (чэская, нямецкая мовы).

У канцы XIV ст., пасьля вуніі Вялікага княства з Польшчаю, калі ў Кракаў пераехаў кароль Ягайла з сваім гаворачым толькі па-беларуску дваром, мазурачая частка польскай шляхты, спатыкаючыся часта пры двары ці на соймах зь беларускім баярствам, вучыцца ад яго дакладна адрозьніваць гукі „ч“, „ш“, „ж“ і наогул паступова пераймае некаторыя іншыя беларускія асаблівасьці. Меў тут, вядома, свой магутны ўплыў і сам аўтарытэт каралеўскага двара. І вось гэта, паводле польскіх вучоных, прывяло да перамогі польскай немазурачай гутаркі ў літаратурнай мове, над мазурачай.

Гэтая перамога не прыйшла, аднак, лёгка й скора. Яшчэ ў пачатку XVI ст. у польскай літаратурнай мове адбываецца быццам барацьба розных вымоваў. Яшчэ ў творах такіх першарадных пісьменьнікаў, як Каханоўскі, Гурніцкі, браты Зімаровічы й таксама іншых, часта сустракаем зусім выразнае мазурэньне. Толькі яшчэ пазьней поўная вымова „ч“, „ш“, „ж“, запанавала цалкам.

Ды ўплыў беларускай мовы сягнуў яшчэ глыбей. Ён праявіўся й там, дзе ўжо ўва ўсіх польскіх народных гутарках выступае аднолькавасьць. І так, напрыклад, палякі пачалі пісаць і выгаварваць падобна да беларусаў *Piotrowicz*, *Antonowicz*, *Adamowicz* і інш., хаця даўней у старой польскай мове, гаварылася — і гэта ёсьць тыповым для польскай мовы — *Piotrowic*, *Antonowic*, *Adamowic*, аналягічна як і сёньня гаворыцца *starościc*, *kasztelaniec*, *dziedzic*, *szlachcic*. Таксама раней палякі казалі *królewic*, *panic*, пад уплывам нашага ж — *паніч*, *каралевіч* (слова ж „шляхціч“ у навейшых часох у нас наадварот, паддалося ўплыву й





месцамі яго выгаварваюць з польскага *szlachcic*, хаця ва ўсіх старых нашых актах і граматах ёсьць толькі „шляхціч“).

Пад тым жа беларускім уплывам ужо ад пачатку XVIII ст. у польскай мове пачынаюць паяўляцца такія формы цяперашняга часу, як *depčę*, *plačę* (пад уплывам аналягічных нашых „тапчу“, „хаджу“, „лячу“ й г. д.) заміж адзінна правільнага з гледзішча польскай мовы *depce*, *place* і г. д. Сюды таксама трэба залічыць сёньняшнія польскія *ochoczy*, *raboczy*, хаця б правільна было б казаць *ochocy*, *robocy*.

Былі паважныя ўплывы й на слоўнік польскай мовы. *Hodować*, *hreczka*, *puhacz*, *czerep*, *žubr* і шмат іншых словаў ёсьць беларусізмамі ў польскай мове. На жаль, гэтая справа яшчэ дакладней не дасьледаваная. Польскімі філёлягамі пералічаюцца й іншыя, цікавыя больш адмыслоўцам вучоным, вынікі ўплыву нашай мовы на польскую.

Уплыў гэты, які спачатку пашыраўся праз каралеўскі двор і нашае баярства, пасьля, калі сам двор пачаў гаварыць ужо па-польску, ішоў далей праз нашую спалячэлую шляхту (XVII ст. і пазьней), якая хаця й гаварыла ўжо тады па-польску, але заўсёды з сваімі беларускімі асаблівасьцямі ў вымове й слоўніку. Шляхта ж нашая, як вядома, брала важны ўдзел у палітычным і культурным жыцьці супольнай Рэчы Паспалітай і мела на яго вялікі ўплыў, а ў пазьнейшых вякох нават дамінуючы ўплыў. Падобнае моўнае ўзьдзеяньне ішло й ад шляхты ўкраінскіх земляў, і калі ходзіць аб асаблівасьцях супольнае беларускай і ўкраінскай моваў, уносіліся яны тады з поўначы, так часткова й з поўдня.

Чытаючыя польскія працы да гэтага пытаньня зацемяць, што прафэсар Нітч, Легр-Сплавінскі й іншыя польскія філёлягі, амаль заўсёды старабеларускі язык, якім некалі гаварылі наш старабеларускі двор, нашае баярства, якім пісаліся тады ў нас усе дзяржаўныя акты, граматы, законы, сьвецкая й рэлігійная літаратура, — завуць языком „рускім“.

Гэтак, фактычна, некалі называлі яго найчасьцей і самыя нашыя прашчуры. Францішак Скарына, перакладчык Бібліі на беларускую мову, кажа, што ён яе *„на рускі язык вылажыў“* (1517). У „Аль-Кітабе“, пісаным ужо вельмі чыстаю беларускаю мовай у пачатку XVII ст., кажацца: *„...калі па-татарску ня ўмее, то па-руску няхай абракаецца“* („Аль-Кітаб“, бачыны 86б, 17, 87а, 1). У Статуце Вялікага княства Літоўскага (1588) гаворыцца: *„а пісар земскі маець па-руску літарамі і словы рускімі ўсе лісты, выпісы і позвы пісаці“*.

Тэрмін „беларускі“ пашырыўся значна пазьней. Што гэная „руская“ мова, аднак, мова ані расейская, ані ўкраінская, а толькі беларуская, як

гэта пацьвердзілі ўжо многія вучоныя-адмыслоўцы й не беларусы, якія яе дасьледвалі (найлепш і найгрунтоўней гэта выясніў акадэмік Карскі ў сваёй працы „Белорусы“[14]).

Ды ў сучаснай польскай мове слова „рускі“ мае й другое, цалкам іншае значэньне — яно ўжываецца часта раўназначна з словам „украінскі“ („русін“ — „украінец“). Стуль у некаторых палякаў паўстае непатрэбная путаніца — утажсамленьне старабеларускай дзяржаўнай мовы Вялікага княства з сучаснай мовай „рускай“ — украінскай. Карыстаючым з польскай навуковай літаратуры трэба заўсёды мець на ўвеце гэтую недакладнасьць паняцьцяў польскай тэрміналёгіі.

З усяго вышэй пададзенага бачны той усёстароньні ўплыў беларускай мовы на польскую літаратурную, які трываў ад яе нарадзінаў аж да апошніх дзён. Абапіраючыся на нашую, тады ўжо разьвітую літаратурную мову, літаратурная мова польская й пісьменнасьць пачалі стаўляць свае першыя крокі, пачалі разьвівацца. Дзякуючы людзям нашай зямлі — як пабачым далей — яна асягнула пазьней узвышшы свайго разьвіцьця.

І гэта ня будзе нам дзіўным, калі ўсьвядомім сабе тую высокую культурную роўню беларускага народу ў гэныя мінулыя вякі, калі ўсьвядомім сабе, што была доўгая пара, калі на ўсім прасторы ад Прыпяці да Дзьвіны, і ад Буга да Смаленска й далёка за гэты абшар у глыб чужых краін, пісьменны язык беларускі быў адзіны блізкі, зразумелы для народу[15].

Па-за ім у пісьменнасьці існавала або чужая й незразумелая лаціна, або нежывая, закасьцянелая й таксама малазразумелая царкоўнаславяншчына.

### „Беларуская школа“ ў польскай літаратуры

Вельмі характэрна, што калі ў пачатку XIX ст. польскі рамантызм, адраджаючы сваю літаратуру, шукаў жыцьцёвых сокаў у творчасьці народнай, дык зьвярнуўся не да сваёй польскай вуснай творчасьці, а перадусім да нашай.

Нашыя землі сталіся буйнаю калыскаю польскага рамантызму. Тут віленскія філяматы й філярэты зьбіралі скарбы беларускага народнага мастацтва, каб іх выкарыстаць у сваёй літаратурнай творчасьці. Міцкевіч пяяў для Марылі Верашчакі — першага каханьня сваёй маладосьці — сэнтымэнтальную песьню беларускага народу:

*Ды цераз мой сад,*
*Ды цераз мой двор*
*Цяцера ляцела*
*Ой' ня даў мне Бог,*
*Ня судзіў мне Бог*
*Каго я хацела.*

Блізкі прыяцель Міцкевіча, наваградчанін Чачот (1797—1847) быў старанным зьбіральнікам беларускай народнай творчасьці й менш удалым яе падражальнікам. Ён напісаў некалькі дзясяткаў арыгінальных беларускіх песень-вершаў. Зьбіраў ён і беларускі слоўнікавы матэрыял, нашыя прыказкі, пагаворкі.

Спалячэлы шляхціч з Наваградчыны Антон Язэп Глінскі (1818—1866) сабраў нават вялікі зборнік прыгожых беларускіх народных казак і выдаў іх у польскім пераказе пад нечаканым назовам *Bajarz Polski — basni, powiesci, gawędy budowy*.

Гэты зборнік нашых казак праз увесь XIX век рэпрэзэнтаваў перад асьвечаным грамадзянствам Эўропы *„польскую народную творчасьць“* і быў перакладзены на шматлікія эўрапейскія мовы. Сам жа Глінскі, хаця назваў свой зборнік „польскім“, так у прадмове да зборніка гавора аб паходжаньні гэтых казак: *„...сьпісаныя намі казкі паходзяць у бальшыні з Наваградзкага павету, а менавіта Шчорсаў і Нягневічаў...“* Дый каб Глінскі нічога не сказаў нам, скуль узяў свае „польскія“ казкі, лёгка гэта пазнаць зь іхнай мовы. Яна густа перасыпаная беларускімі словамі, цэлымі зваротамі, нашымі прыказкамі, пагаворкамі.

Далей у той жа прадмове да казак Глінскі падчырквае й важны ўплыў, які мела нашая народная творчасьць на польскую рамантычную літаратуру. Вось ягоныя цікавыя словы аб гэтым:

*„Вусная народная літаратура нашай зямлі, што складаецца зь песьняў, казак, апавяданьняў, гутарак, лягендаў, прыказак і загадак, прыгожая й багатая, перад сотнямі, перад тысячамі нават гадоў паўсталая, пераходзячы праз усю гэтую плынь часу з пакаленьня ў пакаленьне нашых прадзедаў, нашых прабабак і нас самых пры калысцы й пры ўлоньні няняк забаўляючы, — дзякуючы жывой памяці працавітых, а гаманіць любячых мужычкоў, праз із вусны дайшла да нашых часоў у сваёй поўнай сьвяжыні й моцы згубіўшы мала з сваёй*

[14] Навейшая цікавая праца да гэтага пытаньня ёсьць нарвэскага вучонага Ch. S. Stang Skrifter Utgitt av Det Norske Videnskaps-Akademii Oslo. II. Hist.-Filos. Klasse. 1935. №2. Oslo, 1935.

[15] Безсонов, П. Белорусские песни. LXII. Moskva, 1871.

*першабытнай калярытнасьці, бо ў нязьменныя тоны гукаў дагэтуль неўнятая, як ручэй плывучэй вады мусіла й мусіць заўсёды адбіваць у сабе тыя краскі й тыя ваколіцы, празь якія цяпер цячэ“.*

*„Толькі ў нашых, наканец, часох мы пабачылі вялікага аматара-любіцеля народных памятак, натхнёнага пеюна* (гавора гэта Глінскі аб Міцкевічу) *каторы першы раз заглянуў у скарбніцу лягендаў і песьняў народу, пакахаў іх як прыгожыя краскі радзімай зямлі, перасадзіў на поле польскай літаратуры… і вось на гэтай ураджайнай ніве паявіліся працаўнікі… Бродзіньскі, Залескі, Одынец, Мальчэўскі, Кандратовіч, Ленартовіч і іншыя“.*

*„Такі ўплыў на нашу нацыянальную літаратуру мелі песьні й лягенды народу…“*

Тое, што вобразна сказаў Глінскі аб Міцкевічу, які нашыя народныя лягенды й песьні *„пакахаў, як прыгожыя краскі радзімай зямлі ды перасадзіў на поле польскай літаратуры“*, можна аднесьці й да ўсіх беларускага паходжаньня польскіх рамантыкаў XIX ст. У творах усіх іх знойдзем сьляды нашай народнай творчасьці, як і мастацкія адбіткі прыроды й красы нашай зямлі, ды праявы асаблівасьцяў нашай народнай душы.

Некаторыя зь іх былі так прасякнутыя беларускімі асаблівасьцямі, што нягледзячы на тое, што яны пісалі свае творы польскаю моваю, па сваім духу ды пачуцьцях яны асталіся незразумелымі й для сапраўдных этнічных палякаў — так яны былі чужыя й далёкія па ўсім сваім уроджаным духовым комплексе. Паляк прафэсар М. Зьдзехоўскі ў вадной з сваіх працаў аб творчасьці паэты беларускага паходжаньня Кандратовіча-Сыракомлі кажа, што толькі там пачынаюцца сапраўдная этнаграфічная польская зямля, дзе перастаюць чытаць, цаніць і разумець гэтага таленавітага пісьменьніка.

На незразумеласьць для Польшчы пісьменьнікаў „Літвы“ (Беларусі) з групы т. зв. віленскіх „шубраўцаў“ так наракалі варшаўскія палякі ў 1819 г.: *„…вы для Літвы, а не для Кароны пішыце… менш дбаеце пра тое, ці вас у Варшаве будуць разумець, абы ў Вільні ды Ліцьве вас разумелі“.*

Калі глянем, для прыкладу, дакладней на творчасьць Адама Міцкевіча (1798—1855), найбольшага паэты польскай літаратуры, дык лёгка заўважым галоўную крыніцу ўсёй ягонай паэтычнай стыхіі. Ужо ў першым зборніку маладога Міцкевіча — *Balady i romance* — апяянае прыгаство роднай паэту беларускай Наваградчыны, перададзеныя ў паэтычным афармленьні тагачасныя народныя лягенды аб азёрах, пушчах





і старых местах (баляды *To liube*, *Tukaj*, *Lilje*, *Rybka*, *Switez*, *Switezianka*).

Міцкевіча вершаваная драма „Дзяды“, заснаваная на адвечным беларускім асеньнім сьвяце Дзядох (званага месцамі таксама Асяпінамі), народнай урачыстасьці, прысьвечанай памяці памерлых продкаў. Нават і будучы далёка ад сваёй Бацькаўшчыны, на Крыме, на Акерманскім сьцяпох, пясьняр слухае голасу ня з Польшчы, а з сваёй роднай Літвы (*Sonety krymskie*). Ён хаця й спалячэў ды цярпеў душою за польскую нацыянальную справу, аднак тужыць сэрцам мог толькі за сваёй „Літвой“ (Беларусяй).

Увесь „Пан Тадэвуш“ — найбольшы й найважнейшы твор Міцкевіча — ператканы высокамастацкімі апісаньнямі беларускай прыроды з дарагой паэтаву сэрцу наваградзкай наднямонскай зямлі.

І з боку мовы творчасьць Міцкевіча, ды і ўсіх польскіх пісьменьнікаў зь Беларусі, перасыпаная беларускімі словамі й зваротамі. У фанэтыцы, марфалёгіі, сынтаксісе, у слоўніку Міцкевіча шмат беларускага. Калі возьмем толькі „Пана Тадэвуша“, там сустрэнем такія чыста беларускія словы: *poruczyc*, *cholodziec*, *derkacz*, *czereda*, *uszak*, *rozhowory*, *krobeczka*, *bruśnice*, *pokucie*, *kułak*, *ranniejszy*, *skowrody*, *surpaty*, *kaban*, *plik*, *hołota*, *bizun*, *niże*, *lulka*, *sklut*, *kotuch*, *umurzany*[16].

Вось гэтых толькі пару дзясяткаў прыкладаў зь незьлічонай іх колькасьці сьведчаць нам ясна аб тым, зь якой моўнай стыхіі й зь якога народу вырас талент Міцкевіча.

Край Нёмна й Вяльлі, а ня Віслы ці Варты, быў невычэрпнаю крыніцаю Міцкевічава паэтычнага натхненьня. Ува ўсёй пясьнярскай творчасьці Міцкевіча няшмат знойдзем бачынаў, прысьвечаных самой сапраўднай Польшчы. Польшча для яго існавала толькі як палонячая яго ідэя, як палітычная абстракцыя, а не як жывая рэальнасьць, якую ён мог бы ўсімі фібрамі свайго „я“ бачыць у сваёй паэтычнай вобразнасьці на чужыне, ды тужыць за ёю. Ён усім сваім талентам цалкам і назаўсёды быў урослы ў жывую беларускую сапраўднасьць, у родную беларускую зямлю, зь якой роўнымі прыгаршнямі й сіляў адвечныя народныя багацьці.

[16] Дакладнейшыя слоўнікі беларускіх словаў у польскіх рамантыкаў з нашых земляў знойдзем у працы *Stankiewicz, St. Pierwastki białoruskie w polskej poezji romantycznej. Vilnia, 1936*. Аб уплыве на польскую мову праз польскіх пісьменьнікаў нашага паходжаньня пісаў у сваіх філялягічных працах Легр-Сплавінскі. Дакладней аб гэтым глядзі ў разьдзеле „Беларускія ўплывы на польсую мову“.

Калі ў пазьнейшыя гады на эміграцыі ён апынуўся ў яшчэ большым палоне польскай палітычнай думкі і ў сваёй пясьнярскай працы пробаваў адарвацца ад радзімай сабе беларускай стыхіі, дык адначасна пераставаў быць і вялікім паэтаю, слабеў, бы Антэй, адарваны ад сваёй маці-зямлі, пападаў у хвараблівы польскі мэсіянізм ды ставаўся толькі звычайным публіцыстам.

Аб „дзьвёх душах" у Міцкевіча вось што кажа польскі вучоны, літаратурны крытык і гісторык, прафэсар Ст. Пігонь: *„Трэба сказаць гэта сабе ясна, што Міцкевіч, пры ўсёй сваёй гарачыні й шырыні польскага патрыятызму, заўсёды меў, і нават знарок культываваў у сабе, сьвядомасьць некаторай плямённай асобнасьці. Ён пачуцьцёва якнайцясьней быў зьвязаны з радзімай зямлёй, быў літоўскім палякам, „ліцьвіном", ніколі ня чуўся за нешта адно з koroniarzem (этнаграфічным палякам)"*[17].

Нягледзячы на вядучую ролю ў польскай літаратуры рамантычнай пары Міцкевіча й на ягоную палітычную асыміляцыю, у польскай літаратуры ён астаецца рэпрэзэнтантам чужога для Польшчы нацыянальна-этнаграфічнага прастору й чужой народнай стыхіі. З гэтага гледзішча ён у польскай літаратуры займае асобную пазіцыю, як украінец з паходжаньня Гогаль у літаратуры расейскай.

І Гогаль быў у палоне расейскай палітычнай думкі, хаця цэлым сэрцам і душой любіў ды адбіваў у сваёй мастацкай творчасьці не Расею, а Ўкраіну, ейную прошласьць, ейныя звычаі й быт, красу ейнай прыроды.

Неабходна тут затрымацца яшчэ над адной справаю, якую некаторыя сьвядома ці несьвядома путаюць. Міцкевіч, як і ягоныя сучасьнікі, родныя сабе беларускія землі называў „Літвою", а сябе „ліцьвінам". Гэта, як вядома, адзін з нашых нацыянальных гістарычных назоваў побач з назовамі „крывічы" ды „беларусы".

Праз многія вякі ад XIII ст. нашыя прадзеды самі сябе называлі часта „Літвой", „ліцьвінамі". Называлі нас тады й чужынцы. У кнізе, выдадзенай у 1533 г. у Базэлі, па-лацінску[18] ў разьдзеле „Аб Ліцьве й жыцьці ліцьвінаў", кажацца так:

*„У Ліцьве гарады рэдкія, сёлы ня людныя, дзярлівых зьвяроў шмат... яна багатая мёдам і воскам... народ трымае статку й дзеля гэтага ў яго ў вялікім ужытку малочная страва. Мова гэтага*

[17] Pigon, St. Pan Tadeusz. Wzrost, Wielkość i Sila. Warszawa, 1934. Bač. 224.

[18] Boemi, Joannis. De gentium moribus. Lit. III. Cap. VII. Bazel, 1538. P. 81.





*народу славянская, падобная да польскай. У Ліцьве галоўнае места Вільня, якое абшарам роўнае Кракаву разам з усімі ягонымі слабодамі..."* З сказу аб славянскай мове „ліцьвіноў" нам дастаткова ясна, да каго аўтар адносіць гэты назоў.

Паляк А. Брукнер у адной з сваіх працаў так кажа аб гэтай справе: *„мы ўвесь час гаворым „літоўскі, ліцьвін", дык гэта толькі замест „беларус, беларускі", бо ў 1510 г. ніхто аб сапраўднай этнаграфічнай „Ліцьве" й ня сьніў. Яшчэ Рэй у 1562 г. ліцьвіном называў беларуса, а ў Маскве і ў XVII ст. „літовскій", тое ж што і «беларускі»"*[19].

Ды яшчэ й сёньня на Палесьсі ці ў Чарнігаўшчыне старэйшыя завуць сябе часта „ліцьвінамі". Сярод палякаў такі назоў для беларускіх земляў быў папулярны яшчэ да Першай сусьветнай вайны, а часткова захаваўся яшчэ й пазьней. Палякі з Варшавы ці Познані выбіраючыся, напрыклад, у нашу Наваградчыну ці Палесьсе, звычайна, казалі *„jadę da Litwe"*. Калі ж нехта гаварыў аб Летуве (Жамойці) — ды каб адрозьніць яе ад Беларусі гаварылі аб ёй, як аб „ковенскай Літве".

Радзіная Міцкевічу „літоўская" Наваградчына была й за ягоных часоў ня менш беларуская, як і цяпер, і народ тады гаварыў там таксама па-беларуску, як і сёньня. Дык чытаючы ў польскіх рамантыкаў аб „Ліцьве", трэба добра сабе ўсьведамляць значэньне гэтага гістарычнага тэрміну, каб належна зразумець усю нацыянальную сутнасьць той народнай стыхіі, з каторай яны ўсе выйшлі, да каторай так былі душой прывязаныя.

Нягледзячы на гэта, сучасныя ковенскія „ліцьвіны", прыняўшы назоў „Летувы" для цяперашняй Жамойці й Аўкштоты, маюць тэндэнцыю прысабечваць усё ў гісторыі, над чым стаіць надпіс „Літва", „літоўскі". Так ёсьць, між іншым, і з Міцкевічам.

Гэтая палітычная „анэксія" ня мае ніякіх фактычных асноваў, бо Міцкевіч не паходзіў ані з Аўкштотцаў, ані тымбольш з Жамойдаў, а быў зь беларускага апалячанага шляхоцкага роду. Дык зь перакананьня ён быў палякам і таму тварыў для Польшчы, а з паходжаньня й крыві беларусам і таму любіў сваю беларускую бацькаўшчыну. Стуль і зварот *„Litwo, ojczyzno moja"* з „Пана Тадэвуша" Міцкевіча не адносіцца ні ў якім выпадку да сучаснай Летувы. Сьцьверджана сёньня дакладна, што Міцкевіч летувіскай мовы зусім не знаў[20].

[19] Bruckner, A. Rusko-polski rękopis roku 1510. Slavia VII.I. Bač. 10—11.

[20] Brensztein, M.; Otrębski, J. Dajny litewskie zapisane przez Mickiewicza. Rozpr. i Mat. Wydz. T-wa. Przyjacioł Nauk w Wilnie. Vilnia, 1927. T. 1. Sšytok 4.

З усяго вышэй сказанага мы бачым, што ўся пясьнярская веліч Міцкевіча, увесь ягоны паэтычны геній неразлучна зьвязаныя з роднай яму беларускай зямлёю. Сам Міцкевіч падчыркнуў гэта ясна ў першых радках свайго найвыдатнейшага твору — эпапеі „Пан Тадэвуш“.

*Litwo! ojczyzno moja! ty jesteś jak zdrowie;*
*Ile cię trzeba cenić, ten tylko się dowie,*
*Kto cię stracił. Dziś piękność twą w całej ozdobie*
*Widzę i opisuję, bo tęsknię po tobie.*

Ды ня толькі Міцкевічу, але і ўсім польскім пісьменьнікам нашага паходжаньня Беларусь была „як здароўе“, якое з балючаю тугою за ёю на чужыне вычароўвалі яны сабе ў сваіх паэтычных візіях-успамінах.

Вось як пачынае свой у малярскай вобразнасьці ды беззаганнай мастацкай форме дасканалы верш *Białorus* Л. Аколаў-Падгорскі зь Меншчыны ў сваім зборніку пад такім жа назовам (друкаваным недзе каля 1923 г.).

*O, ty daleka, ty niezastępiona*
*zielona moja ziemio białoruska!*
*Gdzieś tam, jak niegdyś, równin twojich łona*
*westchnieniem sennem wiatr wiosenny muska.*

*Gdzieś tam, nad modrą łąk zalanych tonią*
*w zadumie złotej iw szeregi drzemią,*
*skowronki drążąc srebrną ciszę dzwonią*
*i szpak polsta nad zoraną ziemią.*

*Szeroko szumią sosny szmaragdowe,*
*w ogrodach miękko chwieją się jablonie,*
*i świerk w takt wiatru gnie wyniosłą głowę*
*i na tle niebios złotem szyszek płonie...*

Вось такіх вершаў у Падгорскага поўны зборнік. А падобных пісьменьнікаў з нашых земляў польская літаратура атрымала некалькі дзясяткаў. Усе гэтыя пісьменьнікі носяць на сабе й на сваёй творчасьці як „анатэму“ — гаворачы словамі *„Na kredowych skroniach pocałunek piętnem niezmytym“* — так вобразна перадае гэта ў сваім візійным вершы *Białoruś wspomnie* мадэрны ўжо польскі паэта, міжваенны „авангардыст“ Язэп Масьлінскі.

Пісьменьнікі нашага паходжаньня стварылі ў польскім пісьменстве XIX ст. цэлую своеасаблівую „беларускую школу“, якая была вядучаю ў польскай літаратуры рамантычнай пары. Аб беларускіх элемэнтах у





польскіх рамантыкаў існуе ўжо й адмысловая праца др. Ст. Станкевіча. У ёй сабраны й паважны слоўнікавы матэрыял — шматлікія беларускія словы ў польскіх рамантыкаў. Дагэтуль выйшаў толькі першы том гэтай цікавай працы, які абыймае пару да 1830 году. Другі том, які меў разглядаць перадусім творчасьць Міцкевіча, на жаль, не паказаўся з прычыны вайны[21].

Чаму так склалася, што адраджэньне польскай літаратуры ў XIX ст. ішло галоўна з нашай зямлі й абапіраючыся на нашую народную творчасьць, а не польскую?

Як падаюць самі палякі, сталася гэта праўдападобна таму, што польская народная творчасьць у прыраўнаньні да беларускай вельмі бедная[22]. Толькі нэарамантыкі „Млодэй Польскі“ на пераломе XIX—XX вякоў прабавалі на яе абаперціся, рамантыкі ж першай палавіны XIX ст. яе зганьбавалі.

Некаторыя польскія вучоныя пробуюць паясьняць беднасьць польскай народнай творчасьці цяжкім прыгонам, які пераносіў вякамі польскі селянін. Але паляк жа, прафэсар Брукнэр, кажа, што гэта ня можа быць праўдаю, бо й беларускі народ пеpажыў не лягчэйшую паншчыну пад сваім спалячэлым баярствам, якое ахвотна пераймала спосабы „панаваньня“ ад суседняй саюзнай „вольнашляхоцкай“ Польшчы.

А тымчасам прыгонная няволя ня толькі не заглушыла пачуцьця красы беларускай вёскі, але наадварот — паглыбіла мастацкую экспрэсію беларускай народнай творчасьці, дала беларускай народнай песьні так характэрную ёй задумную псыхалягічную глыбіню й павагу.

## На музычнай ніве

Беларускія ўплывы знойдзем ва ўсіх галінах польскай культуры, яны далёка не абмяжоўваюцца толькі мовай і літаратурай. Значныя яны, хаця й куды менш дасьледаваныя, і ў галіне музыкі.

З даўнейшай пары да гэтага пытаньня трэба тут адцеміць словы польскага храніста Яна Длугаша ў ягонай *Historia Polonica* аб тым, што Ягайла, калі стаў каралём Польшчы й пераехаў жыць у Кракаў, паклікаў да сябе беларускіх сьпевакоў і музыкаў (як і маляроў). Відаць з гэтага, што польскія сьпевы й польская тагачасная музыка былі не да смаку беларускай Ягайлавай душы.

[21] Stankiewicz, St. Pierwłastki białoruskie w polskej poezji romantycznej. Cześć 1 (Do roku 1830). Vilnia, 1936.

[22] Bruckner, A. Dzieje kultury polskiej. Krakow, 1938.

Аб нейкім магчымым уплыве дзейнасьці гэтых мастакоў на тагачасную старую польскую музыку й сьпеў сёньня нічога ня можна сказаць, пра гэта гісторыя нам нічога не перадала. Затое шмат матэрыялаў аб музычнай галіне прыносяць нам бліжэйшыя да нас вякі.

Станіслаў Манюшка, найвыдатнейшы польскі музыка ў XIX ст., аўтар опэры „Галька“, беларускага паходжаньня зь Меншчыны. Гэта сучасьнік, добры знаёмы й прыяцель нашага пісьменьніка В. Дунін-Марцінкевіча. У ягоных музычных творах знаходзім значныя ўплывы беларускіх народных песьняў. Ён жа, супольна з Крыжаноўскім, пісаў музыку да першай беларускай апэрэткі Дуніна-Марцінкевіча „Сялянка“, якая была пастаўленая ў Менску ў 1852 г.

Другі выдатны польскі музыка, Мячыслаў Карловіч, таксама беларускага паходжаньня. Радзіўся ён у Вішнеўскім двары Вялейскага павету. Ён там ад самага дзяцінства чуў, а пазьней і запісваў беларускія народныя песьні ў суседніх вёсках (запісы гэтыя захаваліся). Ён, апіраючыся на беларускія народныя матывы, напісаў пазьней і адзін з найбольш вартасных сваіх твораў — „Літоўскую Рапсодыю“.

Лейтматыў гэтай „Рапсодыі“ — гэта нашыя сумныя жніўныя мэлёдыі, а перадусім ведамая па ўсёй Беларусі песьня „Ды пара дамоў, пара“, у каторай народ зь незвычайнай сілай адбіў вякі перажытай прыгоннай працы й няволі. Вось гэтая, набрынялая сумам мэлёдыя й лягла ў аснову „Літоўскай Рапсодыі“.

Як некалі вялікі музыка Ф. Ліст склаў, быццам каштоўную дань сваёй радзімай Вугоршчыны, цудоўныя „Вугорскія Рапсодыі“, так за ягоным прыкладам і Карловіч хацеў зачараваць у сваім творы ўсю глыбокую красу чутых у дзяцінстве песьняў беларускага народу. Аб зьмесьце гэтай „Рапсодыі“ так кажа сам Карловіч у адным са сваіх лістоў да прыяцеляў: *„У ёй хацеў я закляць увесь сум, тугу й няволю адвечную таго народу, песьні каторага ў маім дзяцінстве зьвінелі“*.

На гэтым месцы трэба яшчэ выясьніць, што слова „літоўская“ Карловіч тут ужыў у тым жа значэньні, што ўжываў яго Міцкевіч, г. зн. „беларускай“ сёньняшняй тэрміналёгіі. Карыстаючы, аднак, з гэтага ўжытага Карловічам назову сучасныя ковенскія „ліцьвіны“ часта ўключаюць гэту „Рапсодыю“ ў праграму сваіх канцэртаў і радыёвых перадачаў, намагаючыся гэтым сугэраваць сьвету, быццам ходзіць тут сапраўды аб іхняй „Літве“ й аб матывах народных песьняў.

Сьвядомаму справы хопіць раз пачуць гэты твор, каб адразу зразумець, што ўся „Рапсодыя“ заснаваная на народных музычных матывах беларускага народу. Дакумэнтальна гэтая справа таксама выясьненая





бяз рэшты пакінутымі Карловічам запісамі беларускіх народных песьняў, зь якіх ён карыстаў, пішучы сваю „Рапсодыю“.

Уплыў нашай народнай музычнай творчасьці на музыку польскую не спыняецца й далей. Толькі нейкіх гадоў дзесяць таму кампазытар таксама беларускага паходжаньня, прафэсар Казура, піша польскую опэру *Powrót*, будаваную на элемэнтах беларускіх народных мэлёдыяў. Канчаецца гэтая опэра ўзвышаным маліцьвенным харальным сьпевам — нашай жніўнай песьняй. Беларускія матывы й калярыт сустракаюцца і ў камэрных творах сучаснага кампазытара Шыманоўскага.

Зусім для нас нечакана нават і ў *Grande fantasie sur des airs Polonais* Шапэна знаходзім матыў беларускай народнай песьні „Вясёла бяседачка, дзе муж з жонкай п'е“. Зь песьняй гэтай Шапэн сустрэўся, відаць, ці то ў шляхты зь Беларусі, што бывала ў Варшаве, ці то пазьней пачуў яе ад нашых эмігрантаў у Парыжы.

Выясьняць дакладней і паўней справу ўплыву нашай народнай песьні на польскую музыку — прыгожая задача нашым адмыслоўцам-музыколягам. Аднак і з вышэй пададзенага мы ясна бачым, што ў гэтай галіне нашыя ўплывы былі не малыя.

## Беларускае малярства ў Польшчы

Ёсьць яшчэ адна галіна культурнага жыцьця Польшчы, дзе праявіліся выдатныя беларускія ўплывы, гэта малярства. Гэтая цікавая справа дагэтуль асабліва была мала ў нас вядомая, хаця ў чужой навуковай літаратуры ўжо ня раз абгаварвалася.

Калі пасьля падпісаньня Крэўскай уніі наш вялікі князь Ягайла пераяжджае з сваім дваром у Кракаў, яму мусіла кінуцца ў вочы беднасьць малярскіх аздабленьняў у польскіх касьцёлах. Тагачаснае польскае малярства ў прыраўнаньні да беларускага стаяла нізка. Выдатны гісторык польскай культуры, кажа:

*„Польскае малярства, ці толькі малярства ў Польшчы — прыходзіцца пытацца праз усю нашую гісторыю ад да XIX ст. мы ня мелі для гэтай галіны мастацтва ані патрэбнай здольнасьці, ані таксама зацікаўленьня. У Польшчы працавалі заўсёды чужыя маляры, якія сваіх на другое месца сьпіхалі“*[23].

Другі польскі вучоны, гісторык польскага малярства Вайцяхоўскі, кажа, што польскія маляры XIV ст. умелі толькі абмалёўваць сіняй

[23] Bruckner, A. Encyklopedja staropolska...

фарбай сьцены ды пазалачваць зоры — далей гэтага іхняе малярства не ішло. Тое нешматлікае з мастацкіх твораў, што існавала галоўна па касьцёлах, было вытворам рук чужых замежных мастакоў, было малявана ў гатыцкім стылі сярэднявечнага Захаду.

Ягайлу, які да прыняцьця каталіцтва быў праваслаўным і які свой мастацкі смак гадаваў на ўзорах ужо высокаразьвітага малярства й наогул мастацтва праваслаўных цэркваў Беларусі, — яны не спадабаліся. Як сьведчыць і вядомы польскі храніст Длугаш, Ягайла *„больш смаку знаходзіў у малярстве грэцкім, чым лацінскім“*.

Аб праваслаўнай веры й культуры Ягайлы гавораць нам летапісы. У Іпацьеўскім летапісе пад 1340 г. падаецца, што Альгерд Гедымінавіч, бацька Ягайлы, узяў сабе за жонку Юльяну, дачку віцебскага князя й *„яе же ради крестися са усими баяры и людзьми, з нею же име потом сыноу шэсьць“*[24].

У 1349 г., пасьля сьмерці першай жонкі, Альгерд бярэ сабе дачку цьвярскога князя Марыю й зь ёю меў яшчэ 6 сыноў, а між імі й Ягайлу. Аб выхаваньні Ягайлы й ягоных братоў вось піша храніст Длугаш: *„Альгерд... меў 12 сыноў... Усіх юнакоў матка выгадавала па грэцкім абычаю й на асновах грэцкага вызнаньня“*[25].

І таму нічога дзіўнага, што паводле сьведчаньня таго ж Длугаша, з загаду Ягайлы зь Беларусі прывозіцца цэлы рад здольных царкоўных маляроў, якія й выконваюць малярскія работы ў выдатнейшых касьцёлах сярэдняй і заходняй Польшчы, а пайменна ў катэдрах Гнезна й Сандаміра, у Вісьліцкай калегіяце, у Опацкім касьцёле сьв. Крыжа, у кляштары бэнэдэктынаў на Лысцы, у капліцы мансіньёраў і сьв. Тройцы ў Любліне[26]. Тыя ж маляры, як відаць гэта з захаваных дворных рахункаў, дэкаравалі й каралеўскую спальню ў Кракаве[27].

Насьценныя малюнкі Ягайлавых маляроў захаваліся да сёньня, але ляжаць яшчэ цяпер закрытыя пад тынкам, у Сандаміры і ў Гнезьне. Зьнішчаныя, на жаль, цалкам малюнкі кракаўскіх капліцаў. Усе іншыя былі часткова або цалкам адкрытыя й дасьледаваныя на працягу мінулых дзесяцігодзьдзяў.

[24] ПСРЛ. Т. II—III. Ипатьевская летопись, 1843. С. 349.

[25] Dlugosz, Johannus. Opera omnia. Cracoviae, 1877. S. 385. IV. 536. Lib. Ben. II. 264.

[26] Dlugosz... IV. 536. Lib. Ben. II. 264.

[27] Piekosinski, F. Rachunki dworu króla Władysława Jagielly i królowej Jadwigi (1388—1420). Monumenta medii aevi historica. Krakow, 1896. S. 192, 197, 202, 203.





Найстарэйшымі з вышэй пералічаных фрэскаў будуць Сьвятакрыскія, распачатыя маляваць у 1393 г. (пакрытыя тынкам у 1771 г.). Люблінскія, як падае захаваны на ўсіх надпіс, былі закончаныя 15 жніўня 1418 г. Сандамірскія фрэскі паўсталі ў гадах 1423—1434. Дакладнейшы час выкананьня іншых фрэскаў пакуль што невядомы.

Такое хуткае й тэрытарыяльна велізарнае пашырэньне фрэскаў работы беларускіх майстроў было магчымым перадусім таму, што нашыя маляры мелі ўвесь час падтрыманьне каралеўскага Ягайлавага двара. З другой стараны, як думае гісторык польскага малярства, В. Валіцкі, ужо й раней мусілі быць значныя ўплывы нашага (ці візантыйскага наогул) мастацтва ў Польшчы, і гэта аблягчала іхнае прыхільнае ўспрыманьне польскім асьвечаным грамадзянствам у Ягайлавую эпоху. Апрача таго, трэба сабе ўсьвядоміць, што ў той час яшчэ не было такой рэзкай розьніцы ў формах культу паміж праваслаўем і каталіцтвам, якая існуе сёньня.

Сувязь кракаўскага каралеўскага двара з тагачаснай Беларусьсю ажывіла яшчэ й замацавала чацьвертая Ягайлава жонка, беларуская князёўна Сонька Гальшанская. Стары беларускі род князёў Гальшанскіх меў за Ягайлам і князем Вітаўтам вялікія палітычныя ўплывы ў Вялікім княстве. Адзін з гэтых Гальшанскіх — Андрэй — атрымаў ад Вітаўта на ўдзел княства Вяземскае. Вось ягоная дачка Сонька й стаецца ў 1422 г. жонкаю Ягайлам, каралеваю Польшчы.

Капліца сьв. Тройцы ў кракаўскай катэдры аздаблялася адмыслова для каралевы Сонькі. У ёй княжна Гальшанская пазьней была й пахаваная, там стаяў ейны саркафаг. На жаль, саркафаг гэты не захаваўся. З усяго нагробнага памятніка астаўся толькі адзін камень зь нечытэльным надпісам. Пышныя сьценныя малюнкі былі зьнішчаныя ў 1844 г.

Маляры зь Беларусі ў Польшчы заклікаліся ня толькі самім Ягайлам, але й ягонымі патомкамі. Яшчэ й пасьля ягонай сьмерці каталіцкая Польшча доўга дыхала мастацкай творчасьцю беларускіх праваслаўных царкоўных маляроў. Як кажа той жа Валіцкі, у галіне манумэнтальнага малярства беларускае („рускае“) мастацтва дамінуе ў Польшчы праз увесь XV век. І ў гэтым ёсьць некаторая доля заслугі Сонькі Гальшанскай, каторая ўзгадавала сваіх сыноў, пазьнейшых каралёў Польшчы, у патрыятычным духу любові да ўсяго беларускага.

Ужо за Казімірам Ягайлавічам у 1478 г. беларускімі майстрамі былі размаляваныя фрэскі на сьценах капліцы сьв. Крыжа, кракаўскай замкавай катэдры. Фрэскі гэтыя захаваныя да сёньня вельмі добра.

Ужо па вялікім часе, у якім паўсталі беларускія фрэскі ў касьцёлах Польшчы (ад 1392 да 1478 году), можна судзіць ад тым, што яны не зьяўляюцца работаю нейкага аднаго, а многіх, жывучых у розную пару, маляроў. Аб гэтым сьведчыць і выступаючыя калярыстычныя й кампазыцыйныя розьніцы выкананьня й даступных для нас сёньня люблінскіх, сандамірскіх і кракаўскіх фрэсках.

Напрыклад, колеры люблінскіх фрэскаў пастэлёвыя, візійныя. Таксама колеры сандамірскіх — пераважна сонечна-зялёны, цёмна-сіні й белы — палучаныя вельмі гарманійна, прытушаныя, быццам заімглёныя кадзільнымі дымамі. У процілегласьць ім кракаўскія сьмела зьзяюць золатам і густою цынобравай чырваньню. Ды й тут не сустрэнем нейкай дысгармоніі ці лішняй крыклівасьці.

Аглядаючы фрэскі, кідаецца ў вочы, што нашыя тагачасныя царкоўныя маляры лёгка зжыліся з чужым і малаведамым для іх тады ў Беларусі стылем гатыцкай архітэктуры й змаглі зграбна выкарыстаць для сваіх малюнкаў вузкія палі паміж лукамі гатыцкага скляпеньня. З самых лукоў створаныя імі быццам багата арнамэнтаваныя рамы для абразоў з жыцьця Хрыста, Марыі, Сьвятых і Айцоў Царквы.

Паасобныя фрэскі адзначаюцца й адналітасьцяй сваёй мастацкай кампазыцыі: нягледзячы на тое, што мастакі на адной фрэсцы малявалі мноства асоб, яны ніколі не гублялі з вачэй мастацкай цэласьці.

У капліцы сьв. Крыжа на кракаўскім замку каля фігураў сьвятых захаваліся яшчэ й царкоўна-славянскія надпісы. У самым шчыце каплічнага скляпеньня, у месцы, дзе зьбягаюцца гатычныя лукі, выкананы дзяржаўны герб Вялікага Княства — Пагоня.

Судзячы па размавітым характары фрэскаў касьцёла сьв. Тройцы ў Любліне, рабілі іх тры розныя маляры, галоўным зь якіх быў нейкі майстра „Андрэй“. На адной з фрэсак ёсьць такі надпіс: „рукою Андрэевай“ — „рукою ⲁндрєева“.

Важным і цікавым ёсьць тое, што ўсе гэтыя фрэскі нашых маляроў у Польшчы, хоць твораныя ў візантыйскім стылі, то ўсё ж выразна ад яго й розьняцца, носячы на сабе асаблівасьці характэрныя акурат беларускаму царкоўнаму малярству.

Як ведама, для старога беларускага малярства, як і царкоўнай архітэктуры, характэрнай ёсьць сынтэза ў стылі мастацкіх элемэнтаў Усходу й Захаду, Візантыі й Рыму. За пару стагодзьдзяў ад пачатку ў нас хрысьціянства й прыходу сюды царкоўнага мастацтва, застылыя, закасьцянелыя фігуры сьвятых, дакрануўшыся на беларускай зямлі да нашага рэальнага жыцьця, быццам аджылі, зарухаліся, рысы іхныя





набралі жыцьця, твар жывога румянага адценку, вочы бляску. Гэтая перамена адбылася не без уплыву й больш рэалістычнага ад візантыйскага сярэднявечнага малярства Захаду.

Заходні ўплыў на наша малярства, як і мастацтва наогул, ідзе зь вельмі дальніх часоў. Жывым ён быў і ў даягайлавую пару, асабліва ад пачатку XIII ст., калі ў нашых гандлёва-гарадзкіх цэнтрах, якія мелі жывую лучнасьць праз Ганзу з тагачаснай Нямеччынай, існавалі нямецкія калёніі з каталіцкімі касьцёламі. Напрыклад, ва ўмове Смаленска з Рыгаю ў 1229 г., у т. зв. „Смаленскай гандлёвай праўдзе“, гаворыцца аб „латынескай цэркві“ ў Смаленску, дзе ляжалі ўзорныя купецкія вагі нямецкіх купцоў[28] .

Як відаць з той жа „Смаленскай праўды“ й з іншых падобных тагачасных умоваў беларускіх купцоў зь нямецкімі, беларускія гарады ў XIII ст. мелі бойкія гандлёвыя зносіны з такімі нямецкімі месцамі, як Любэк, Данцыг, Мюнстар, Зест, Брэмен, Дортмунд, Гронінг, Браўншвайг, Касель, з востравам Готланд і, вядома, з Рыгаю.

Зазнаямленьне з мастацтвам Захаду адчувалася й падчас частых войнаў з ордэнамі крыжаносцаў і мечаносцаў. Прыносілася яно да нас і нямецкімі будаўнікамі архітэктарамі, што будавалі ў нас абаронныя гатыцкія замкі.

І так Беларусь ужо адносна вельмі рана стала краінаю, дзе сустрэліся два вялікія культурныя сьветы — заходні Рым і ўсходняя Візантыя, — і дзе ў даўгавечнай сутычнасьці й змаганьні яны цесна перапляліся між сабой.

Падобныя заходнія наслаеньні на агульнай візантыйскай аснове акурат вельмі выразна праяўляюцца й ва ўсіх знаных сёньня нашых фрэсках XV ст., у касьцёлах Польшчы. У адрозьненьне ад тыповага візантыйскага малярства, у іх існуе куды большая свабода ў рысаваньні постаці, рухаў, хвалдаў вопраткі, выразу твару. Усе асобы фрэскаў выкананыя даволі індывідуальна, не схематычна, як гэта бывае звычайна ў візантыйскіх царкоўных маляроў. Не шаблённа робленыя нават і багатыя міжфрэскавыя арнамэнты.

Гэтаю асаблівасьцю яны розьняцца ня толькі ад арыгінальнага візантыйскага мастацтва, але й ад мастацтва Ноўгараду, Масквы ці Кіе-

[28] Поўны тэкст „Смаленскай гандлёвай Праўды“ з 1229 г. пададзены А. Сапуновым у „Витебской Старине“ (Витебск, 1883. Том 1. С. 15—19). Перадрукаваны ён таксама ў Вацлава Ластоўскага (Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі. Коўна, 1926). Аб каталіцкай царкве ў Смаленску ўспамінае 41 параграф гэтай умовы.

ва. Па самым характары фрэскаў адмыслоўцы адкідаюць магчымасьць паходжаньня іх аўтараў з вышэй пералічаных асяродкаў. Дзеля гэтага й тэрмін „беларускае малярства“ цалкам для іх абаснаваны й нават неабходны ня столькі дзеля месца тэрытарыяльнага паходжаньня, колькі дзеля асаблівага, адменнага свайго характару, арыгінальнага мастацкага стылю.

Мастакі, што па прыезьдзе на заклік Ягайлы ў Польшчу зь вялікай пасіяй і шырокім размахам пакрывалі манумэнтальнымі малюнкамі сьцены шматлікіх польскіх касьцёлаў, зразумела, мусілі ўжо раней працаваць у гэтай галіне і ў Беларусі. Там яны гадаваліся як мастакі, там яны вучыліся свайму майстэрству, там перад гэтым тварылі. Зь вялікай колькасьці й так вартасных фрэскаў у Польшчы трэба судзіць, што манумэнтальнае малярства ў самой Беларусі й тую пару асабліва расьцьвітала. На жаль, у нас мастацкія творы гэтай пары або зьнішчаныя войнамі, што вякамі вяліся на нашай зямлі, або пераважна дагэтуль невядомыя, ці не адкрытыя.

Да сёньня дайшлі да нас толькі скупыя весткі аб сярэдневечнай „грэцкай“ дэкарацыі колішняга Віцебскага замку, дзе, між іншым, былі намаляваныя й князь Альгерд з жонкаю[29]. Далей шкіцамі Смакоўскага (з 1822 г.) пераказана нам нешта аб паліхроміі Троцкага замку, выкананай таксама ў беларускім візантыйскім стылі. Сьляды гэтай паліхроміі можна было бачыць на сьценах Троцкага замку яшчэ перад апошняй Другой сусьветнай вайной.

Вельмі цэнныя, нягледзячы на частковую перамалёўку, захаваныя да сёньня фрэскі ў Супрасьльскай царкве. Яны робленыя ў 1557 г. Сьценныя паліхроміі з XV—XVI стст., хаця б віленскіх цэркваў, не гаворачы аб іншых гарадох Беларусі, якія мусілі ж існаваць, на жаль, не захаваліся, або прынамсі дагэтуль не адкрытыя.

У Віленскім таварыстве прыяцеляў навук да апошняй вайны існавала копія з XVII ст. партрэта Ягайлы, робленая сучасным яму беларускім мастаком, магчыма, адным з тых, што малявалі касьцёлы Польшчы. Рэпрадукцыя гэтага партрэту зьмешчаная ў *Encyklopedyi Staropolskiej* А. Брукнера, на бачыне 700.

Вось толькі такая невялікая колькасьць знаных сёньня мастацкіх твораў з пары буйнага расьцьвету ў нас манумэнтальнага малярства й малярства наогул. Дзеля гэтага ж акурат захаваныя ў большай колькасьці малюнкі нашых майстроў таго ж часу па касьцёлах Польшчы

[29] Хроніка Стрыйкоўскага. Варшава, 1776. Х. 387





маюць асабліва вялікую вагу й каштоўнасьць для гісторыі беларускага малярства.

Заносячы ў Польшчу сваё малярства, Беларусь не магла адначасна занесьці туды ў касьцёлы й сваёй разьбы, дзеля той простай прычыны, што праваслаўе, як вядома, не дапускае скульптурных вытвораў у цэрквах. Таму ж гэтая галіна мастацтва так слаба разьвілася і ў нас. Разьба ў Польшчу прыйшла з Захаду, галоўна спачатку зь Нямеччыны. Акурат у пару караляваньня таго ж Казіміра Ягайлавіча ў польскім сталічным Кракаве расьцьвітае скульптурная творчасьць вельмі выдатнага разьбяра, немца з Нюрнберга, Вайта Стоса (па-польску Віта Ствоша).

Хто ж былі тыя выдатныя мастакі, што пакінулі нам так цэнныя й шматгаворачыя доказы нашай колішняй культурнай экспансіі на Захад?

На жаль, дакладнейшага адказу на гэта тымчасам даць ня можна. Гісторыя перадала нам толькі нічога не гаворачыя імёны некаторых зь іх (напрыклад, успамінаны ўжо Андрэй, аўтар Люблінскіх фрэскаў). Прозьвішчаў іншых, ані месца паходжаньня, ані яны самі, ані іншыя не пераказалі, хаця ў захаваных да сёньня рахунках скарбніка кракаўскага замку з 1426 г. відаць, што майстроў добра аплачвалі й пры ад'езьдзе дамоў дарылі іх кажухамі й коньмі. Далей гэтых драбніц тымчасам жыцьцё іхнае невядомае. Гавораць яны да нас праз стагодзьдзі толькі каштоўнымі пладамі працы сваіх рук і мастацкай душы — захаваўшыміся шчасьліва сьценнымі малюнкамі[30].

Некаторыя аўтары думаюць, што Ягайлавы маляры былі зь Вільні (Сакалоўскі — *Malarstwo ruskie*, Макарэвіч, Т. Вайцяхоўскі й інш.). Гэта зусім магчыма, але напэўна не даказана. Маглі яны паходзіць і зь іншых тагачасных беларускіх земляў.

Нястача дакладнейшых дадзеных аб радзіме маляроў дае магчымасьць некаторым украінскім дасьледчыкам ставіць гіпотэзу аб паходжаньні зь земляў Галіччыны. На гэта, зразумела, няма ніякіх доказаў, і наадварот, ёсьць проста непраўдападобным, каб Ягайла заклікаў мастакоў, як музыкаў і сьпевакоў, з далёкага, невядомага й зусім чужога

[30] Аб беларускіх фрэсках у касьцёлах Польшчы існуе ўжо багатая навуковая літаратура ў мовах польскай, расейскай, украінскай, нямецкай і нават лацінскай. Найменш, на жаль, дагэтуль цікавіліся гэтым пытаньнем нашыя адмыслоўцы. Бібліяграфія літаратуры аб гэтых фрэсках знаходзіцца ў працы М. Валіцкага: Malowidla scienne kosciola sw. Trojcy na zamku w Lublinie. Zaklad Architektury Polskiej. Studja do dziejow sztuki w Polsce. Tom III. Warszawa, 1930. S. 5—6.

сабе культурнага асяродзьдзя. Зусім жа натуральным і лягічным ёсьць, што яны мусілі быць пакліканыя з культурных кругоў, зь якімі Ягайла быў знаёмы ад сваёй моладасьці, у якіх ён гадаваўся.

Як бачым, старыя беларускія фрэскі ў Польшчы — гэта багатая й слаўная старонка зь колішняга культурнага лучаваньня Беларусі навонкі, „на Захад і Ўсход“. Калі прыпомнім тут ізноў і абгавораны ўжо раней творчы ўплыў, які пасьля Крэўскай вуніі адчула на сабе польская мова й літаратура, тады толькі зможам вырабіць прыблізную ўяву аб тым вялікім культурным пасагу, які атрымала ад нас Польшча, абіраючы сабе за караля нашага гаспадара, вялікага князя Ягайлу.

### Вяковы экспарт талентаў і дзяржаўных мужоў

Наш культурны ўплыў на Польшчу, які пачаўся ад Крэўскай вуніі за Ягайлам, адбываўся бесьперарыўна праз усе далейшыя вякі. Калі з часам перастаў ужо гаварыць сам каралеўскі двор, дык далей гэтыя ўплывы ішлі праз нашае баярства й праз таленты нашай зямлі, што пайшлі, у выніку стварыўшагася гістарычнага палажэньня, на службу польскай культуры.

Сілу гэтага ўплыву мы зразумеем, калі сабе прыпомнім тое, колькі выдатных людзей вякамі давалі нашыя землі для польскай культуры, грамадзка-палітычнага й дзяржаўнага жыцьця.

Аб літаратуры ўжо ўспаміналася. Там, пачынаючы перадусім з канца XVIII ст. ёсьць шмат беларускіх прозьвішчаў (Нарушэвіч, Нямцэвіч, Міцкевіч, Сыракомля, Ажэшка, Родзевіч, Крашэўскі і шмат іншых). Бязь іх польская літаратура не магла б асягнуць тых узвышшаў, якія ёй прынесла хаця б рамантычная пара.

А колькі ж нашыя землі далі яшчэ вучоных, мастакоў, палітыкаў і дзяржаўных мужоў? Манюшка, Карловіч, або Сапегі, Хадкевічы, Тышкевічы, Глябовічы, Кішкі, Касьцюшка й г. д. аддалі нямала сваіх нештодзённых здольнасьцяў для славы культуры й польскага аружжа.

Як вядома, усё нашае баярства праз некалькі вякоў пасьля вуніі з Польшчай спалячэла й цалкам адыйшло ад нашага народу. Адбылося гэта перадусім у XVI—XVII вяках. Беларускі народ згубіў так незьлічоную колькасьць сваіх магнацкіх і баярскіх радоў, увесь культурна й палітычны вядучы ў тую пару слой грамадзянства. Яны пад уплывам езуіцкай рэлігійнай агітацыі спачатку пераходзілі з праваслаўя (або яшчэ часьцей з моднага тады ў нас пратэстантызму) у каталіцтва, а пасьля гінулі для нас і нацыянальна, паступова палянізаваліся.





У выдадзенай у 1610 г. у Вільні кніжцы *Frinos* (Трэнас) манаха віленскага сьвятадухаўскага манастыра Мялеція Сматрыцкага, пазьнейшага полацкага архіяпіскапа, гарачымі палкімі словамі апісаны плач тагачаснай праваслаўнай царквы пад адышоўшымі тады ўжо слаўнымі беларускімі і ўкраінскімі радамі (у кнізе гаворыцца агульна „рускімі“). Вось гэтае месца з кніжкі:

*„...Радзіла я дзяцей і выгадавала, а яны адракліся мяне й спрычыніліся да майго ўпадку. Таму сяджу адна цяпер, як удовая, у плачы. Дзень і ноч плачу й сьлёзы, як ручаіны, цякуць па абліччы маім, і няма каму пацешыць мяне — усе паўцякалі ад мяне, усе пагардзілі мной. Мае сваякі далёка ад мяне, мае прыяцелі сталі мне ворагамі...“*

*„Дзе цяпер той бясцэнны камень-карбункул, бліскучы, як сьветач, каторы я насіла ў кароне галавы маёй між іншымі пэрламі, як сонца між зорамі, — дом князёў Астрожскіх, што сьвяціў ад усімі іншымі бляскам сьветласьці старой сваёй веры? Дзе іншыя й такжа бясцэнныя камяні той кароны — слаўныя дамы рускіх князёў, бясцэнныя шафіры, бясцэнныя дыямэнты: князі Слуцкія, Заслаўскія, Збараўскія, Вішнявецкія, Сангушкі, Чартарыйскія, Пронскія, Ружынскія, Саламярэцкія, Галоўчынскія, Крошынскія, Масальскія, Горскія, Сакалінскія. Лукомскія, Пузыны й іншыя незьлічоныя, якія доўга было б пералічваць паасобку?*

*Дзе й іншыя пры іх мае клейнады? Разумею радавітыя, слаўныя, высокадумныя, сільныя й даўныя дамы, па ўсім сьвеце галосныя сваёй добраю славаю, магутнасьцю й адвагай народу рускага: Хадкевічы, Глябовічы, Кішкі, Сапегі, Дарагастайскія, Войны, Валовічы, Зяновічы, Пацы, Галецкія, Тышкевічы, Карсакі, Храптовічы, Трызны, Гарнастаі, Мышкі, Гойскія, Сямашкі, Гулевічы, Ярмалінскія, Цалганскія, Каліноўскія, Кірдзяі, Загароўскія, Мялешкі, Багавітыны, Паўловічы, Сасноўскія, Скуміны, Пацеі й іншыя“*[31].

Гэтая незьлічоная чарада нашых перадавых баярскіх радоў, якіх ужо больш 300 гадоў таму паэта-манах пералічыў і аплакаў, пазьней яшчэ значна павялічылася. Усе яны загінулі для беларускага народу,

[31] Езуіты пажаліліся на гэтую кніжку каралю, які быў тады з войскам пад Смаленскам. Кароль Зыгмунт III у выніку гэтага даносу выдаў 1 красавіка 1610 г. загад: *„...спаліць гэтыя пашквілі й падазроныя кнігі, а друкара й аўтараў тых пашквіляў і падазроных кніг пасадзіць у турму й затрымаць да далейшага нашага распараджэньня“*. Дзеля гэтай канфіскаты беларускі друкаваны арыгінал кніжкі не захаваўся, а толькі яе рукапісныя водпісы й пару экзэмпляраў друкаваных па-польску.

усе яны ўліліся ў народ польскі, кладучы аднак адначасна сваё нясьцертае беларускае кляймо на мову, культуру й нацыянальную псыхіку палякаў.

І пасьля Першай сусьветнай вайны ў новай незалежнай польскай дзяржаве часта ў міністэрскіх кабінэтах было больш міністраў з нашых зямель, чым зь зямель польскіх. І гаварылася таму ў Заходняй Беларусі з сарказмам і вельмі вялікай доляй праўды, што за аднаго дзяржаўнага мужа, якога давалі Варшаве нашыя землі, Польшча нам прысылала ўзамен для палянізацыйных мэтаў тысячы „дробнай манеты“ — малаякаснай галіцыйскай урадніцкай малюзы.

Толькі ўсьведамляючы сабе, наколькі пабяднела б польская гісторыя й культура, калі б шчыркнуць зь яе ўсё прыдбанае й зьдзеенае сынамі й талентамі нашай зямлі, можам мы дакладна зразумець тую вялікую культурна-гістарычную вагу для Польшчы нашага вяковага экспарту талентаў і дзяржаўных мужоў...

### Уплывы нашай мовы на расейскую

Уплыў мовы беларускай на расейскую велізарны, ды ішоў ён ад старадаўніх часоў. Ад тысячы гадоў адбываўся ён праз асыміляваных ды русіфікаваных паступова нашых, сумежных з расейскімі плямёнамі, вяцічаў ды севяранаў на паўдзённым усходзе й пскоўскіх крывічоў на поўначы.

У XV—XVIII стагодзьдзях расейская мова знаходзіцца пад магутным уплывам нашай старабеларускай літаратурнай мовы, і расейскі літаратурны язык зараджаецца пад выдатным яе ўплывам. У пазьнейшых часох, пасьля заняцьця беларускіх земляў і ўлучэньня іх у Расейскую імпэрыю ў канцы XVIII ст., расейская літаратурная мова карыстае як найшырэй з багацьцяў нашай мовы народнай.

Вялікае значэньне нашай мовы для слоўніка мовы расейскай. Беларускіх словаў у мову расейскую вякамі было перанята тысячамі. Бралі іх ад нас і паадзіночку, і гуртам. Так, вялікі беларускі слоўнік Насовіча з 1870 году, быў некалі ўключаны ў расейскі акадэмічны слоўнік (Імпэратарскай акадэміі навук). Так будавалася „богатство русскаго языка“.

Вялікі расейскі слоўнік Даля (каля 200 000 словаў) улучае цалкам беларускую мову Смаленшчыны, беларускай Пскоўшчыны й іншых сумежных з Расеяй губэрняў, у якіх сустракаецца шмат беларускіх словаў. Так і ў гэты расейскі слоўнік увайшлі дзясяткі тысячаў нашага слоўнікавага багацьця. Частка нашых словаў у іх слоўніку адмечана аўтарам як беларускія, бальшыня ж і гэтых зацемак ня мае.





Літаратурная расейская мова, калі паўставала некалькі вякоў пазьней за старабеларускую літаратурную мову, сіліла зь яе ўсё сабе прыгоднае поўнымі жменямі (падобна як і з мовы царкоўна-славянскай ды часткова і ўкраінскай).

Усебаковы наш языковы ўплыў на маскоўшчыну асабліва ўзмоцніўся зь вялікаю эміграцыйнаю хваляю нашай інтэлігенцыі, якая нарасла да свайго апагею ў XVII ст. і пра якую ўжо тут успаміналася ў вадным з папярэдніх разьдзелаў. Калі адцеміць тут толькі агульныя асаблівасьці, якія тады беларуская мова накінула расейскай, дык вось што гаворыць пра гэта той жа Пётра Бяссонаў:

*„Беларускі літаратурны язык увайшоў уплывовым дзейнікам у літаратуру расейскую... Беларуская гаворка нават, асабліва сваёй вымоваю й так званым аканьнем (вымоваю ўсюды „о“ бяз націску як „а“) перарадзіла сабой з палавіны XVII ст. цэнтральную маскоўскую гутарку й цяпер сталася ейнаю адрозьніваючаю асаблівасьцяй. Усё амаль паддавалася рэформе прыежджых беларусаў, а прынамсі моцнаму іх уплыву... правапіс вымова ў гутарцы й пры чытаньні кнігаў (царкоўнае мяккае „г“, заместа цьвярдога)“*[32].

Другі расейскі моваве́д, аўтар вялікага слоўніка В. Даль, яшчэ перад Бяссонавым, у прадмове да свайго слоўніка кажа: *„...моцны ўдзел беларускага чуваць у Чарнігаўскай губэрні, Арлоўскай, Калускай, Цьвярской і асабліва Пскоўскай; можна сказаць, што ён чуецца і ў Маскве, таму, што аканьне або нашая высокая гутарка, зрабіўшыся агульнаю, напэўна паходзіць зь зьмяшаньня наўгародзкай са смаленскай (гутарак)“.* У другім месцы свайго слоўніка аб аканьні ў расейскай літаратурнае мове Даль кажа: *„...корань гэтай (акаючай) гутаркі ў Беларусі, дзе чыстага „о“ няма зусім“*[33].

Трэба тут адцеміць, што калі падчыркнутая тут вышэй Бяссонавым і Далем перадача нашага акананьня для расейскай літаратурнай мовы ішло праз нашых эмігрантаў ад нашай старабеларускай мовы, дык часткова аканьне, якое мае паўдзённая расейская гутарка, пайшло не ад іх, а ад нашых вяцічаў ды севяранаў, якія некалі калянізавалі гэтыя прасторы ды пазьней стапіліся зь мясцовым расейскім жыхарствам, пакідаючы, аднак, свой моўны сьлед у мясцовай гутарцы.

[32] Бессонов, П. Белорусские песни. С. IV—VI.

[33] Даль, В. Толковый словарь. С. XX і 8.

Пры зьбіраньні ды апрацоўцы беларускіх народных песьняў многія расейскія кампазытары й палюбілі іх, як Грэчанінаў, і праз гэта не маглі ўсьцерагчыся ад іх уплываў на сваю ўжо арыгінальную музычную творчасьць. Стуль, апрача сьвядомых кампазіцыяў на аснове беларускіх народных матываў, існуюць і многія творы з сьлядамі большага ці меншага ўзьдзеяньня на іх нашай народнага песьні.

Выясьненьне ды падсумаваньне ўсіх уплываў нашай народнай творчасьці яшчэ музыкамі-адмыслоўцамі не праведзенае[34]. Але й гэты пабежны агляд дастаткова выясьняе нам іх шырыню й важнасьць для расейскай музыкі.

## Край, „забыты Богам і людзьмі“

Гутарку заходніх і ўсходніх вучоных на карысьць нашай старой культуры як і нашай народнай творчасьці мы закончылі. Быў гэта толькі паказ, парад, невялікай часткі з шматлікіх яркіх прыкладаў, якія дае нам гісторыя.

Ды іх цалкам хопіць, каб вобразна й пуката прадставіць сабе тую частую прапагандна-палітычную няпраўду чужынцаў аб малых духовых здольнасьцях беларускага народу.

Былі гэта толькі галоўна сьветчаньні чужых нам і нашай прошласьці людзей. Як жа будзе гэтая справа выглядаць, калі да падобных пытаньняў дакранецца свая вольная беларуская навука? Да гэтай пары яна ня мела магчымасьці гэта зрабіць. Навуковыя ўстановы на нашых землях былі толькі ў чужых руках. Бібліятэкі, старасховы й музэі таксама. Яны часта наогул ад нас вывозіліся як ваенная здабыча. Доступ беларусам да навукі быў цяжкі.

А прыйшлі наканец такія ўмовы, што за працу досьведы над беларускай гістарычнай прошласьцю грозяць астрог, ссылка ды катарга. Дазваляецца пісаць толькі пашквілі на гісторыю Беларусі, ніколі праўду.

Толькі з момантам, як паўстане магчымасьць, каб каля прошласьці Беларусі хадзілі любячыя яе рукі й сэрца беларускага вучонага, толькі на дзённае сьвятло зможа выплысьці сапраўдны поўны абраз нашай слаўнай мінуўшчыны.

[34] Зь беларускіх гісторыкаў музыкі на гэтае пытаньне зьвяртаў сваю ўвагу ў многіх сваіх працах Мікола Куліковіч. Гэтаму прысьвечаныя й некаторыя бачыны недрукаванай яшчэ працы „Беларуская музыка“ — кароткі нарыс гісторыі беларускага музычнага мастацтва“.





Ды й сёньня хопіць ужо й гэтага кароткага нарысу, каб зразумець сілу нашай старой культуры, як і прыцягальную моц нашай багатай народнай творчасьці. Дакладны, шырокі абраз, дапоўнены ўсімі цікавымі ды характэрнымі драбніцамі, раскрываюць нам некалі нашыя вучоныя. Але адчуць і зразумець сутнасьць справы можна й цяпер ды на аснове вучоных чужынцаў.

Ужо й сёньня можна бачыць, як доўгімі вякамі нашая нацыянальная культура зьзяла ўсімі колерамі сваёй пышнай красы, як іскры ейнага бляску сыпаліся й падалі на чужыя далёкія нівы й буйна там узышлі ды закаласілі. Яна вякамі клала сваё трывалае таўро на культуры й мовы народаў суседніх, якога не сатруць ні час, ні гістарычныя падзеі.

Беларусь, узьнімаючыся некалі культурна вышэй за сваіх усходняга й заходняга суседзяў, стаяла пры калысцы нацыянальных культураў Польшчы й Расеі. У першыя гады іхнага разьвіцьця яна карміла іх сваімі жыватворчымі сокамі.

Праўда, „гадунцы“ аказаліся вельмі няўдзячнымі. Суседзі, распрастаўшы пры нашай помачы свае сілы, з часам паняволілі наш край, фізычна й духова здушылі ў ім нацыянальна-культурнае разьвіцьцё, прысабечылі нашую гістарычную спадчыну й нашыя культурныя багацьці, а нас пусьцілі з торбамі ў сьвет, папіхаючы, як пасынкаў гісторыі.

Зямлю, што ня толькі плыла „малаком і мёдам“, але й культурна красавала ды была багатая на памяткі й здабыткі духовай творчасьці, за пару вякоў свайго панаваньня абярнулі ў „край, забыты Богам і людзьмі!“ *(„Шмат гістарычных памятак Беларусі зьнішчана часам, яшчэ болей неразуменьнем й абыякавасьцяй“*, — дакараў некалі Кіркор.

Перадусім царская Расея некалі пазбавіла беларускія землі ўсякіх вышэйшых навуковых і культурных установаў, зьвяла наш край да поўнай матэрыяльнай і духовай галіты, ператварыла яе ў эксплюатаваную да апошняга „акраіну“.

Зглелы жыхар сваёй зямлі — гаспадар колішняй асьвечанай Беларусі, што лучавала культурна як на Ўсход, так і на Захад, — быў парабкам гнаным у глыб Расеі будаваць і мацаваць сілу царскай імпэрыі. Ён карыстаўся толькі як танная нявольніцкая сіла для пракладаньня новых шляхоў, чыгунак, каналаў. Народ, што некалі нёс туды сьветач асьветы й навукі, цяпер складаў там толькі сваю прыгонную дань поту й крыві.

Якая нечуваная ў сваім гістарычным трагізьме розьніца паміж XVI—XVII і XIX стагодзьдзямі!

Расейскі пісьменьнік Някрасаў з жудаснай рэалістычнай экспрэсіяй даў нам у сваёй паэме „Железная дорога“ сымболіку долі беларуса XIX ст. у царскай імпэрыі.

Зьмест верша такі: Намечаная самаволяю цара праз самыя топкія, дрыгвяныя балоты пракладаецца першая расейская чыгунка Пецярбург—Масква. Да цяжкай працы зганяюцца туды дзясяткі тысяч народу, перадусім беларусы, якія гінуць там тысячамі ад цяжкай працы, ад недастаткаў, ад хваробаў. Калі чыгунка была ўжо пракладзеная, сумленьні едучых ночнай парою гэтай чыгункай расейскіх арыстакратаў праз аконныя шыбы вагонаў трывожаць здані загінуўшых без пары ад непасільнай працы людзей. Дваранін бацька так гавора аб гэтым у вагоне свайму сыну Вані:

*...Волосом рус,*
*Видишь, стоит, изможден лихорадкою,*
*Высокорослый, больной белорус:*

*Губы бескровные, веки упавшие,*
*Язвы на тощих руках,*
*Вечно в воде по колено стоявшие*
*Ноги опухли; колтун в волосах;*

*Ямою грудь, что на заступ старательно*
*Изо дня в день налегала весь век...*
*Ты приглядись к нему, Ваня, внимательно:*
*Трудно свой хлеб добывал человек!*

*Не разогнул свою спину горбатую*
*Он и теперь еще: тупо молчит*
*И механически ржавой лопатою*
*Мерзлую землю долбит!*

Такая ў асноўным была доля беларуса ў Маскоўскай імпэрыі XIX ст. Не зьмянілася ані сутнасьць справы й пры панаваньні на нашых землях чырвонага самадзержца Масквы. І тыя вышэйшыя школы, якія былі створаныя патугамі беларускіх вучоных у першыя пасьлярэвалюцыйныя гады, былі хутка абернутыя ў атрутныя вогнішчы прапаганды новага расейскага бальшавіцкага імпэрыялізму. Сёньняшнія навуковыя ўстановы ў Беларусі — гэта ня вольныя творчыя кузьні нацыянальнай культуры беларускага народу, гэта духовыя цьвярдыні Масквы на беларускіх землях для гадаваньня сабе памочнікаў-янычараў.

Беларускія ж пісьменьнікі, вучоныя, мастакі, тысячы студэнцкай моладзі, разам зь мільёнамі беларускага сялянства былі пагнаныя бес-





канечнымі катаржнымі шляхамі расейскай Эўразіі на нявольніцкую працу па концах Сібіры, Калымы, Салаўкоў, Казахстану. Катаржную прыгонную працу для чырвонай Маскоўскай імпэрыі адбываюць ужо ня толькі беларускія сяляне. Капаюць каналы, пракладаюць чыгункі на пустошах Сібіры, сьсякаюць лясы на паўночных тундрах нашыя акадэмікі, прафэсары, пісьменьнікі, мастакі, тысячы культурных працаўнікоў, дзясяткі тысяч нацыянальнага нашага актыву.

*Ой, пралягла*
*чыгунка за Байкалам*
*паміж узгор'яў*
*роўна, як абрус.*
*Цяпер на ёй*
*амаль пад кажнай шпалай*
*ляжыць замучаны*
*у выгнаньні беларус.*

Той самы жудасны, патрасаючы ў сваім гістарычным трагізьме, Някрасавы абраз, толькі вырас ён сёньня ў прыгнятаючым разьмеры да Дантавага пекла.

Такі крывавы, мучаніцкі шлях сучаснай беларускай навукі й культуры.

Як бачым з гэтага, нашыя прашчуры ня толькі прасьвячалі ды ўзбагачалі Маскву духова сваім інтэлектам, талентам ды ведаю, як гэта рабіў Сымон Полацкі ды тысячы падобных яму эмігрантаў-інтэлігентаў. Памагалі будаваць Маскву й другія тысячы нашых вядомых сёньня й невядомых майстроў-будаўнікоў ды мастакоў-рамесьнікаў, якія аздаблялі некалі маскоўскія цэрквы, манастыры ды палацы ўключна з царскім Крамлём, ды якія „ўсюды“ там пакінулі шматлікія ўзоры нашага тады высока стаячага мастацтва.

### Масква пазычае ад нас права

Палітычна-дзяржаўны лад Расеі — гэтай геафізічнай, як і культурна-антрапалягічнай краіны эўрапейска-азіяцкай „Эўразіі“ — заўсёды, праз усе вякі, насіў на сабе ня больш ці ня менш лібэральныя эўрапейскія, а выключна самадзяржаўна-дэспатычныя формы, што даходзяць часта да жорсткай безагляднай самаволі.

Гэта вельмі характэрны й шматгаворачы факт, што калі пачынаючы ад Вялікай француcкай рэвалюцыі праз усю Эўропу пераходзіць

хваля лібэралізму з дэмакратычнымі рэспублікамі ці наскрозь лібэральнымі манархіямі (напр., Англія), дык у Расеі ў той час і надалей магчымыя былі толькі чарадаваньні больш ці менш дэспатычнага самадзяржаўя.

Гісторыя Расеі ня знае народнага рэспубліканскага ладу, як нейкай трывалай формы гаспадарсьцьвеннага жыцьця. Там толькі чарадуюцца Іваны ці Сталіны грозныя зь меней ці болей грознымі сваімі папярэднікамі ці наступнікамі, апрычніцтва й ГПУ з царскай „ахранкай“. Нейкіх асноўных зьменаў характару палітычнага рэжыму Расея праз усю сваю гісторыю ня ведае.

*„Был Яков, а теперь Сидор, в ухо Якова, в ноги Сидору!“* — так трапна ўняў усю сутнасьць палітычных і ўсялякіх іншых пераменаў у Расеі выдатны расейскі пісьменьнік Тургенеў у сваёй аповесьці „Дым“.

Цяга Масквы да самадзяржаўя ня ёсьць толькі чужая павярхоўная форма, накінутая доўгавяковым татарскім ярмом ці толькі гістарычным прыпадкам перанятая палітычная спадчына з Азіі мангольскіх ордаў Чынгіз-хана. Абсалютызм ляжыць ужо ў крыві й псыхіцы народаў Азіі, а, як вядома, сёньняшнія расейцы недзе каля 90% мангольска-фінскага паходжаньня.

Ужо Напалеон некалі гаварыў: *„Grattez le Russe et vous trouverez le Tatare“ — „Паскрабеце расейца й вы знойдзеце татарына“*. Гэтую інтуіцыйную спасьцярогу цалкам выясьніла й пацьвердзіла сёньняшняя навука, якая кажа, што цяперашнія расейцы — гэта ў сваёй аграмаднай бальшыні аславянізаваныя мангола-фінскія плямёны.

Аб неславянскіх прашчурах сучасных расейцаў гаворыць нам і Нестар: *„А по Оцэ реке, где втечет в Волгу, язык свой Мурома, і Черемысы свой язык, і Мордва свой язык...“*[35] . Вось гэтыя плямёны ў сваёй бальшыні сёньня ўжо асыміляваліся хаця й цяпер навокал Ленінграда яшчэ жывуць старыя фінскія аўтахтоны, а недалёка ад Масквы існуюць астраўкі ў поўнасьці яшчэ не аславянізаваных мангольскіх плямёнаў.

Трэба тут, аднак, зацеміць, што да агульна сёньня навукова прызнанага факту мангола-фінскага паходжаньня не заўсёды хацелі й хочуць з розных прычынаў прызнавацца самі расейцы. Калі ўжо 200 гадоў таму афіцыйны царскі гістарыёграф І. С. Мюльлер напісаў працу аб неславянскім паходжаньні расейцаў[36] , дык ён папаў пад до-

[35] Полное собрание русских летописей. Том 1. Лаврентьевская летопись. Вып. 1. Повесть временных лет. Ленинград, 1926.

[36] Muller, J.C. Origines gentis et nominis Russorum. 1749.





пыты й мусіў зрачыся свайго становішча, а ягоная праца была зьнішчаная.

Прафэсара Трэдзьякоўскага, сакратара Пецярбурскай акадэміі, за такі ж „праступак“ секлі два разы розгамі. Кацярына Вялікая „Ўказам“ загадала, каб падобныя навуковая досьледы лічыць „скандальным блудам“.

Ды, нягледзячы на гэта, навука трымалася фактаў. У XIX ст. найбольш над выясьненьнем паходжаньня расейцаў працавала навуковая школа Душынскага, а таксама француз Дэлямар[37] . Пазьней справа знайшла сваё поўнае выясьненьне.

Пасьля Першай сусьветнай вайны й сярод расейскіх вучоных і філёзафаў паўстала цэлая школа, якая ўжо ня толькі не аспрэчвала гістарычных і антрапалягічных фактаў, але пайшла й далей гэтага: яна намагалася выцягнуць усе палітычныя кансэквэнцыі зь неславянскага й неарыйскага паходжаньня расейскага народу, творачы спэцыфічную філязафічна-палітычную канцэпцыю, т. зв. „эўразійства“. Паводле „эўразійцаў“, расейскі народ толькі тады знойдзе свой гістарычны правільны й шчасьлівы шлях, калі будзе пастулаць згодна з духам сваёй „эўразійскай“ псыхікі.

Вось стуль ідзе той нахіл да крайніх абсалютыстычных гаспадарсьцьвенных формаў, так характэрны для народаў Азіі, які праяўляецца праз усю гісторыю расейскага народу.

Цалкам адваротна выглядае справа палітычнага ладу ў гісторыі беларускага народу. Ужо ад самых пачаткаў нашага гістарычнага жыцьця ў палітычным кіраўніцтве гаспадарствам прыймае дзейны ўдзел сам народ. Першы наш выдатнейшы дзяржаўны арганізм — Полацкае княства крывічоў — кіраваўся не неабмежаванай воляй князя, а пастановамі народнага веча.

І ў пазьнейшыя вякі (у пару Вялікага княства), улада вялікага князя ў нас ніколі не прымае формы нейкага дэспатычнага самадзяржаўя. У Беларусі, як і ва ўсёй Эўропе, адносіны валадара з падданымі заўсёды нармалізуюцца адпаведнымі законамі, якія з адной стараны, гарантуюць правы грамадзяніна дзяржавы, а з другой, адначасна кладуць і межы эвэнтуальнай самаволі валадара.

Праз усю сваю гісторыю беларускі народ праяўляе глыбокую нутраную сьвядомасьць таго, што дабравольна сарганізаваная й законамі здысцыплінаваная грамада заўсёды стаіць вышэй за масу, задзіночаную толькі жорсткаю воляю дэспата.

[37] Dellamarre, C. Les peuples Slaves et les Moscovites, d’apres Viquesnel. Bull. Soc. De Geogr. Paris, 1871.

Вось у гэтым ляжыць і выясьненьне таго зьявішча, што ў нас заўсёды клаўся вялікі націск на справу магчыма яснага праўнага ўнармаваньня дзяржаўна-палітычнага й грамадзкага ладу, на належную распрацоўку законаў і ўклад сістэматычных кодэксаў. Дзеля гэтага ж права ў нас разьвіваецца куды раней, чым у Маскоўшчыне, і можа ўжо адносна рана асягнуць такую дасканаласьць, якой Масква тады зусім ня ведала.

У XVI ст. беларускае права даходзіць да найвышэйшай ступені свайго разьвіцьця, а дасканалым завяршэньнем яго быў слаўны збор законаў Вялікага княства, т. зв. Літоўскі Статут у сваёй друкаванай апошняй трэцяй рэдакцыі з 1588 г.

Калі пазьней Масква, ужо разросшыся ў вялікую дзяржаву, адчула патрэбу ва ўпарадкаваным кодэксе законаў, яна зьвярнулася за пазыкаю ў гэтай галіне да нас. Як і ў якой меры было гэта зроблена, хай раскажа расейскі вучоны, гісторык права, праф. Дзьяканаў. Ягоны погляд на гэтую справу падаём тут у скарачэньні[38].

Калі ў 1649 г. Масква ўзялася за падрыхтаваньне свайго першага збору законаў, т. зв. „Уложения“ цара Аляксея Міхайлавіча, дык большую частку зьмешчаных там параграфаў сьпісала зь Літоўскага Статуту.

З усіх 25 разьдзелаў „Уложения“, разьдзелы 2, 3, 4, 5, 7 і 9 — гэта амаль даслоўныя пераказы зь Літоўскага Статуту (з разьдзелаў I і II). У адным 10 разьдзеле найменш 55 параграфаў узята з розных месцаў Статуту (усіх параграфаў „Уложение“ мела 967). Разьдзел 22 амаль цалкам узяты з разьдзелу XI.

Частка параграфаў перакладзеная й даслоўна сьпісаная, частка ж прытарнаваная да варункаў маскоўскага „самодержавія“. Ёсьць прыпадкі, дзе сьпісаны параграф, не разумеючы добра ягонага сэнсу.

Разам зь перакладам узятыя з старой беларускай мовы й жыўцом перанесеныя ў расейскую й розныя праўныя тэрміны, якіх менш тады разьвітая расейская мова ня мела. Словы, якімі пачынаецца амаль што кажны параграф „Уложения“: *„А будет кто?“* — зьяўляецца простай перадачай звычайнай пачатковай формулы Статуту — *„Кды бы хто“* (*„Khdy by chto“*).

З пазычаньнем праўнай тэрміналёгіі было падобна, як пяцьдзясят прыблізна гадоў раней здарылася гэта пры перакладаньні гэтага ж Статуту на польскую мову, калі шмат нашых праўных тэрмінаў было

[38] Пададзеныя тут погляды прафэсара Дзьяканава ўзятыя зь ягонага артыкулу аб „Уложении“ цара Аляксея Міхайлавіча, зьмешчанага ў *Энциклопедическом словаре Брокгауза и Эфрона* (Том 68. С. 682—686).





перанята ў польскую праўную мову. Наш вялікі канцлер Леў Сапега, які сам узяўся за такі пераклад, меў вялікія клопаты пры гэтым дзеля беднасьці тагачаснай праўнай тэрміналёгіі. Таму прыйшлося рабіць запазычаньні зь беларускага. Аб гэтым ён сам успамінае ў адным з сваіх лістоў да князя Радзівіла Чорнага.

Ды, нягледзячы на тое, што Масква мела перад сабою адзін з найлепшых як на гэныя часы збораў законаў, роўных якому тады не было ня толькі ва ўсходняй, але і ў многіх краінах заходняй Эўропы, — „Уложение“ выпала з праўнага гледзішча куды горш за Статут. Той жа прафэсар Дзьяканаў піша, што *„образец оказался много выше снимка“*.

Далей ён кажа: *„Беручы пад увагу пазычкі са Статуту... неабходна значна абмежаваць пагляд аб „Уложении“, як аб строга нацыянальным зборніку маскоўскага права, абыймаючым сабою гістарычна выпрацаваныя ў гармоніі з народным перакана080ньнем усіх абшараў і ўсіх клясаў дзяржавы нормы права... На ім з асаблівай яснасьцю можна даказаць справядлівасьць сьцьверджаньня, што й маскоўскі закон (указ) разыходзіўся з маскоўскім правам“*.

Чаму — пасьля ўсяго вышэй сказанага для нас ясна — бо ён быў празь Літоўскі Статут аснаваны на старым праве беларускім.

Хоць „Уложение“ старалася пераймаць нават і ўсю сістэму ўкладу Статуту, то ўсё ж такі самага галоўнага — унармалізаваных праўных адносінаў паміж валадаром і падданымі — у ім не было. Галоўны рэдактар нашага трэцяга Статуту, канцлер Леў Сапега, у прадмове да Статуту кажа, што законы патрэбныя ня толькі для падданых, для грамадзян, але й для гаспадара, Вялікага Князя, каб той справядліва гаспадарыў і не надужываў сваёй улады, бо наш народ яго будзе называць не гаспадаром, а тыранам.

„Уложение“, ясна, цалкам аб нечым падобным не гаворыць, пакідаючы й далей у адносінах цара да баярства й народу, і наадварот, самадзяржаўныя нормы, накінутыя Маскве вякамі татарскага ярма. Суадносіны гэтыя ярка ілюструюць такія звароты маскоўскага баярства да свайго „цара-батюшкі“: *„Худой пёс Васька ноги твои Государевы лижет“*.

Служэньнем за ўзор пры ўкладаньні „Уложения“ Аляксея Міхайлавіча не абмежаваўся ўплыў нашага Статуту на разьвіцьцё права расейскага. Некаторыя артыкулы Статуту Вялікага княства Літоўскага трапілі пазьней і ў расейскія цывільныя законы, якія абавязвалі ў Расеі аж да рэвалюцыі 1917 г. Адносіцца гэта, напрыклад, да X тому, часткі I, *Свода законаў Российской империи*.

З паасобных артыкулаў, якія абавязвалі да рэвалюцыі толькі ў Палтаўскай і Чарнігаўскай губэрнях, і якія інакш рэгулявалі некаторыя справы з галіны спадчыннага права, чым гэта было на ўсіх іншых землях Расейскай імпэрыі, было зазначана нават, што гэтыя артыкулы паходзяць зь Літоўскага Статуту.

Ды й праўная сіла самога Статуту на землях Вялікага Княства трывала яшчэ доўга й па занятасьці Беларусі Расеяй. Толькі на прапазыцыю Мураўёва й адмысловым указам цара Мікалая I з 25 чэрвеня 1840 г. дзейнасьць Статуту на нашых землях была наканец спыненая й замененая законамі расейскімі.

*1948*



*Успаміны*

***Барыс Данілюк***

# УСПАМІНЫ

Я, Барыс Данілюк, сын ахвіцэра беларускага войска ў 1918—1921 гг. і ўдзельніка Слуцкага змаганьня 1920 г., а ў пору майго нараджэньня — сьвятара на парахвіі ў Старых Дзявяткавічах, Слонімскага павету, а. Хведара Данілюка[1], прыйшоў на сьвет 5 красавіка 1923 году. Імя мае маці было Марыя, а ейнае дзявочае прозьвішча Стальмашук.

Падрастаў я й вучыўся ў пачатковых польскіх школах у Наваельні Наваградзкага й Шчары ды Парэччы Слонімскага паветаў, дзе ў той час бацьку даводзілася быць на парахвіях.

Ад верасьня 1935 году да канца студзеня 1939 году наведваў польскія сярэднія школы ў Слоніме й Баранавічах.

Ад 1933 да 1938 году майго бацьку з-за хвальшывага палітычнага паклёпу палякі перасьледавалі й судзілі, у выніку чаго, хоць і абезьвінавачаны[2], ён быў засланы на найбяднейшую парахвію ў Гарадзенскай япархіі[3].

За мой непрыхованы беларускі патрыятызм дазнаў і я нямала непрыемнасьцяў ад шавіністычных польскіх настаўнікаў і нават паліцыі ў Слоніме й да цяпер не магу дараваць павадырам Грамады, што, замест стварыць партыю на змаганьне за веру й зямлю, пайшлі на служ-

[1] Хведар Данілюк быў высьвячаны ў сьвятары 24 кастрычніка 1921 г. гарадзенскім япіскапам Уладзімерам. Першай парафіяй былі Сынковічы Слонімскага павету (сёньня Зэльвенскі раён Гарадзенскай вобласьці), адкуль у 1922 г. яго перавялі ў Старыя Дзявяткавічы. Больш падрабязна пра гэта — ва ўспамінах Барыса Данілюка „Слова пра бацьку“, выдрукаваных у кнізе Аляксандра Адзінца „Паваенная эміграцыя: скрыжаваньні лёсаў“ (Мінск, 2007).

[2] Хведара Данілюка асудзілі на шэсьць месяцаў умоўнага зьняволеньня, што забараняла яму служыць сьвятаром. Аднак апэляцыя дазволіла абскардзіць гэты прысуд.

[3] Маецца на ўвазе парафія Гавенавічы.

бу Саветам і гэтым далі палякам магчымасьць называць усе праявы беларускасьці камунізмам.

Пасьля далучэньня Заходняе Беларусі ў БССР [верасень 1939], зразумеўшы няўхільнасьць бацькавага арышту й вывазу сям'і ў Казахстан ці Сібір за бацькавы ўдзел у незалежніцкім змаганьні ў 1920-х гадох ды за незаплату раз за разам падыйманага культавага падатку за царкву, я пакінуў навуку ў савецкай дзесяцігодцы й затаіўся ў родным бацькавым сяле, памагаючы ў вельмі малой спадчыннай гаспадарцы ды працягваючы знаёміцца з курсам сярэдняе школы з падручнікаў.

На шчасьце, нейкім чынам саветы не пасьпелі да пачатку вайны зь немцамі арыштаваць ці вывезьці каго-колечы з нашае сям'і, дык пасьля перайма ўлады нямецкім цывільным начальствам ды з пачаткам беларусізацыі мясцовае адміністрацыі, у верасьні 1941 году, я, дзякуючы добрай ведзе беларускае мовы, уладзіўся на працу сакратаром слонімскага акруговага школьнага інспэктарату.

Калі ж немцы дазволілі арганізаваць Беларускую (спачатку Нацыянальную, ці Народную) Самапомач[4], а неўзабаве зьмяніўшы назоў толькі на Беларускую Самапомач, я на пачатку 1942 году, спадзеючыся на больш актыўны ўдзел у беларусізацыі мясцовых уладаў і грамадзтва ды гэтым падрыхтоўцы да асягненьня дзяржаўнае незалежнасьці Бацькаўшчыны, перайшоў працаваць сакратаром слонімскае акруговае ўправы гэтае арганізацыі[5].

[4] Беларускую народную самапомач (БНС) арганізавалі на загад генэральнага камісара Беларусі Вільгельма Кубэ, на чале стаў Іван Ермачэнка. Рэальная праца, як то заснаваньне акруговых, павятовых і валасных упраў, пачалася са студзеня 1942 г. 30 чэрвеня 1943 г., пасьля выдаленьня ў красавіку 1943 г. зь Беларусі ў выніку палітычнага скандалу Івана Ермачэнкі, БНС афіцыйна распусьцілі й на яе аснове заснавалі Беларускую самапомач.

[5] Згодна са справаздачай кіраўніка БНС слонімскай акругі Рыгора Зыбайлы ад 10 лютага 1942 г., першы склад слонімскай управы быў наступны: старшыня — Рыгор Зыбайла, намесьнік — Аляксей Васіленя, сакратаром жа ўправы быў Сяргей Хмара-Сіняк. Аддзел беларускай культуры (з сэкцыямі пазашкольнай асьветы, драматычным гуртком, музычна-вакальным гуртком), аддзел грамадзкай апекі й самапомачы ўзначальваў Аляксандр Кіслы, прапаганды — Алена Залажук, выдавецкі — Сяргей Хмара-Сіняк, праўных парадаў — Анатоль Суравы. Барыс Данілюк узначальваў аддзел адміністрацыйнай гаспадаркі (паводле: НАРБ. Ф. 384. Воп. 1. Спр. 5. Арк. 15).
Цікава, што ва ўспамінах, выдрукаваных у кнізе А. Адзінца, Данілюк піша, што яго абралі скарбнікам раённай управы (Адзінец, А. Паваенная эміграцыя... С. 221).





Разам з гэтым я стаў і ўдзельнікам мастацкае самадзейнасьці ў Слонімскім народным доме, сьпярша сьпяваючы ў хоры кампазытара Антона Валынчыка, а крыху пазьней, аж да лета 1943 году, выступаючы ў паказах драматычнага й танцавальнага гурткоў гэтае ўстановы.

На жаль, пасьля зьвярненьня цывільнай нямецкай адміністрацыяй захопленае адразу пасьля пачатку вайны палякамі ды сьмяротнае для немалое колькасьці сьвядомых беларусаў улады, месцы гэтых ворагаў у нямецкіх урадах, зь нястачы нямецкамоўных беларускіх патрыётаў, занялі ўдзельнікі савецкага падкоп'я й неўзабаве абярнулі іхных нямецкіх гаспадароў у паслухмяных выканальнікаў падкопніцкіх заданьняў.

Ня менш важным заданьнем савецкага падкоп'я, пасьля выведу, было спыненьне або запаволеньне беларусізацыі мясцовых урадавых установаў ды выкліканага праз гэта росту нацыянальнае сьвядомасьці й беларускага патрыятызму ўсяго грамадзтва.

Галоўнай перашкодай у выкананьні гэтага заданьня была якраз Беларуская самапомач, што, нягледзячы на афіцыйна дазволеную ёй ролю толькі дапамаговае арганізацыі, была няспынным пачынальнікам, рухавіком, штурхачом і абаронцам гэтага працэсу.

У выніку гэтага савецкае падкоп'е праз прыслугоўванае ім і абдуранае нямецкае начальства дамаглося „чысткі“ кіраўніцтва слонімскае Самапомачы ад бескампрамісных беларускіх патрыётаў ды іхнай паступовай замены асьцярожнымі людзьмі або й затоенымі падкопнікамі.

Першай ахвярай гэтае чысткі быў першы акруговы старшыня самапомачы інжынэр Рыгор Зыбайла, якому немцы далі „падвышэньне“, перакінуўшы на становішча апанаванае палякамі раённае ўправы ў Дзярэчыне.

Наступны прыцэл быў накіраваны супраць мяне, перш праз націск пайсьці на службу ў авалоданую палякамі слонімскую паліцыю, а калі я ўпорыста ад гэтага адмаўляўся, за, быццам, адыход зь месца працы ўва ўрадавыя гадзіны, засланьне на перакладніка ў раённую ўправу ў Быцені.

Калі ж я, паводле выстаранага загаду з Генэральнага Камісарыяту, прайшоўшы ў Менску курс спартовых інструктароў СБМ і стаўшы гэткім інструктарам у Слоніме, здавалася, ад засланьня выкруціўся, мяне пад арыштам завезьлі ў мясцовыя казармы, дзе арганізаваўся 48-мы Беларускі Стралецкі (*Schutzmanshaft*) Батальён, і пакінулі там служыць перакладнікам.

Незадоўга сьледам за мною немцы звольнілі ды выслалі назад у Прагу й доктара Янку Геніюша, што, побач з працай акруговым лекарам, узяў на сябе абавязкі старшыні акруговае ўправы Самапомачы.

На прымусовай службе ў 48-м батальёне[6] мне пашчасьціла не апынуцца з амаль цалкам загінулымі ў Рудзе Яварскай і Галынцы 2-й і 3-й ротамі ці невядома куды пасланай 2-й і конным эскадронам, а замест таго атрымаў прызначэньне на перакладніка ў батальённым штабе ў Слоніме. Трэба сказаць, што, нягледзячы на маю адмову падпісаць добраахвотніцкую дэкларацыю, немцы абыходзіліся з мною па-людзку, а дзе-якія нават па-сяброўску, ды амаль ад самага пачатку мае службы дазволілі жыць удома й толькі прыходзіць на працу ў канцылярыі ўдзень.

Дзякуючы гэтай папусклівасьці я й змог 21 лістапада 1943 году ажаніцца з Марыяй Дземідовіч. На прадвесьні 1944 году 48-мы Беларускі батальён быў зьліквідаваны, а яго парэшткі далучаныя да іншанацыянальных фармацыяў. Батальённы нямецкі штаб абняў каманду над эвакуяванымі разам зь сем'ямі ўзброенымі каўказцамі, паселенымі ў вёсках Слонімскага павету.

Мяне, аднак, немцы затрымалі надалей пры іхным штабе. Яны дазволілі мне стаць дэлегатам ад Слонімскае акругі ды ўзяць удзел ва Ўсебеларускім Кангрэсе ў Менску 28 чэрвеня 1944 году. Вярнуўшыся зь Менску цераз дзень пасьля Кангрэсу, я ўжо не застаў батальённага штабу ў Слоніме, які паводле загаду падаўся ў сяло Міжэвічы, каб зарганізаваць і ачоліць эвакуацыю каўказцаў[7]. Спозьненым самаходам забралі туды й мяне, у Слоніме засталася мая цяжарная жонка й бацькі, зь якімі я ледзь пасьпеў разьвітацца, ня маючы часу дамовіцца, што будзем рабіць у абліччы недалёкага паўторнага савецкага займу.

На наша шчасьце, мой цесьць, пазычыўшы каня й воз, зьезьдзіў у Слонім забраць дамоў дзьве малодшыя сястры мае жонкі, што вучыліся ў школе, ды разам захапіў і маю жонку, а таксама й маіх бацькоў з найболей патрэбнымі ды насьпех схопленымі рэчамі.

Мая жонка й бацькі думалі заставацца ў родных ваколіцах, але я неяк здолеў намовіць іх ехаць усім разам зь немцамі й каўказцамі на Захад ды ў будучыні спадзявацца на Божую ласку.

[6] Камандзірам батальёну быў Язэп Дакіневіч. Больш падрабязна пра батальён чытайце ў кнізе Ф. Кушаля „Спробы арганізацыі беларускага войска“ (Мінск, 1999).

[7] Відаць, маюцца ўсё ж на ўвазе казакі, якія былі раскватараваныя ў Беларусі.





Мае намовы, аднак, маглі б быць дарэмнымі, бо ехаць мы ня мелі на чым таму, што каўказцы пазабіралі ад сялянаў з шырокай ваколіцы ўсіх коней з вазамі, дык праз здабыцьцё калёсаў з пацягной жывёлінай не даводзілася нават думаць.

На шчасьце, калі ўцякацкі абоз ужо пачынаў рухацца, я ўпрасіў п'янога камандзіра батальёну адабраць ад двох нямецкіх жандармаў лішні растрэсены вазок са сьляпою на адно вока кабылкай, і мы, паўкідаўшы на той вазок, што ўлезла з нашага дабра, падаліся, найбольш пешкі, у няведамую куды дарогу на Захад, не спадзеючыся, што ўжо ня вернемся назад.

Затрымаўшыся, змораныя клопатамі з нашым растрэсеным вазком, на адпачынак у Малой ці Вялікай Бераставіцы, мы здолелі купіць у каўказцаў за мацін пярсьцёнак і дзьве залатыя царскія пяцірублёўкі моцную кабылу й вялікі воз, пасьля чаго ўжо ехалі выгадней і спакайней.

Дарога ў нас была даўгая, бо павяла ня толькі празь Беласточчыну, Мазуры. Пераехаўшы Віслу ды абмінуўшы кіпелую паўстаньнем Варшаву, праз Куявы, скончылася адно недалёка ад Каліша, каля мястэчка Здуньская Воля, на вялікім лузе пры заселеным „фольксдойчамі“ сяле Боршэвіцэ. Там мы затрымаліся на даўжэйшы пастой, відаць, з прычыны расправы нацыстаў за спробу забіць Гітлера[8]. Падчас гэтага пастою, а не ў дарозе, мая жонка нарадзіла сына, якому мы далі імя Расьціслаў.

Неўзабаве пасьля гэтага стала вядома, што каўказцаў пашлюць у Югаславію, а немцаў — у Нарвэгію, а я зразумеў, што зьявілася нагода вызваліцца ад прымусовае службы. З гэткай просьбаю зьвярнуўся да загадчыка канцылярыі штабу й, на дзіва, бяз слова пярэчаньня атрымаў згоду ды пісьмовае накіраваньне ў недалёкі ўцякацкі лягер, а адтуль на працу ў Нямеччыне. Туды нас з колькімі яшчэ беларускімі сем'ямі завезьлі чыгункай у таварных вагонах, абмінаючы большыя месцы, ажно пад галяндзкую мяжу ды памясьцілі ў бараках для остарбайтараўскіх дзяўчат з Украіны пры вялікай паперні каля месца Оснабрук[9].

Праца ў паперні не была цяжкой, але дакучаў голад, бо кармілі нас скупымі й нішчымнымі стравамі з хвабрычнае кухні, а ў нас свайго запасу харчоў зусім не было.

[8] Замах на Гітлера адбыўся 20 ліпеня 1944 г., яго арганізатараў жорстка пакаралі.

[9] Поўдзень сёньняшняй фэдэральнай зямлі Ніжняя Саксонія (цэнтральная Нямеччына).

Умовы нашага жыцьця неўзабаве, на жаль, яшчэ болей пагоршалі, бо заходнія хаўрусьнікі пачалі налёты і ў першую чаргу моцна збамбавалі сярод белага дня чыгуначную станцыю ў Оснабруку. Пасьля гэтага нас забралі з працы ў паперні ды на досьвітках пачалі ганяць на паправу чыгуначнае станцыі. Там праца была цяжкая, а ежа па-ранейшаму недастатковая. Да гэтага, часам па пары разоў на дзень над Оснабрукам ляцелі хвалі амэрыканскіх бамбавікоў, і нам даваўся загад бегчы з кілямэтар па шпалах і рэйках да цягніка, што стаяў напагатове й адвозіў даволі далёка ад станцыі.

Нязвыклыя да цяжкое ручное працы і ўвесь час згаладнелыя, ды неадпачытыя — хаўрусьніцкія самалёты лёталі над Оснабрукам удзень і ўначы — я з бацькам пачалі слабець і хіліцца да хваробы, у выпадку якое немцы нас ня надта старанна лячылі б.

Каб выратавацца ад гэткае бяды, я, здабыўшы адрас Беларускае Цэнтральнае Рады ў Бэрліне, напісаў ліст да нашага прыяцеля капітана Аляксея Васілені, што быў кіраўніком канцылярыі ачоленае генэралам Езавітавым Галоўнае вайсковае ўправы, з просьбай дапамагчы нам выратавацца зь бяды.

У адказ мы неўзабаве атрымалі пакліканьні зь нейкае высокае нямецкае ўстановы ў арганізаваную ў Бэрліне беларускую брыгаду, а ад Васілені запіску, што пазьней да нас змогуць далучыцца й нашыя сем'і.

Неадкладна пасьля гэтага мы звольніліся з паперні, што моцна пакрыўдзіла нас з зарплатай. Забраўшы з сабою частку нашага невялікага дабра, дзесь у палове лістапада пусьціліся чыгункай у сталіцу Нямеччыны. Тамака, пасьля наведу ў Цэнтральную Раду, мы былі пасланыя на часовы побыт у нядзейнай нямецкай школе, дзе зьбіраліся добраахвотнікі служыць у беларускай брыгадзе[10].

[10] Тут маецца на ўвазе перадусім 1-шы Кадравы батальён БКА, створаны 15 кастрычніка 1944 г. для перападрыхтоўкі афіцэраў і падафіцэраў БКА, а таксама для рыхтаваньня кадраў новых афіцэраў. Прыналежнасьць да гэтага батальёну гарантавала ня толькі абарону ад прымусовага рэкрутаваньня ў нямецкія збройныя сілы ці прымусовага залічэньня ў остарбайтэры, ад чаго не былі застрахаваныя нават радныя БЦР, але й гарантавала мінімальнае грашовае забесьпячэньне й харчаваньне. Капітан батальёну атрымліваў 200 марак на месяц, надлейтэнант — 170, лейтэнант — 150 [Хведару Данілюку 18 лістапада 1944 г. прысвоілі званьне лейтэнанта, а 1 сьнежня — надлейтэнанта], сьцяжны (прапаршчык) — 100... стралец (радавы) — 30 марак. Таксама выдаваліся сутачныя памерам 5 марак, незалежна ад рангу й ступені, пакуль вайсковец не атрымае вайсковага⇨





Мяне Васіленя ўзяў у ягоную канцылярыю працаваць памочнікам перакладніка, а бацька зь іншымі старэйшымі ахвіцэрамі сядзеў амаль без занятку ў той школе, адзіным бо заняткам для іх быў абыход у полудзень як найбольш нямецкіх рэстаранаў, дзе давалі бяз картачак нішчымны й рэдкі суп з лустачкай рэпы ці лістком капусты, г. зв. „штам“, і гэткім чынам заашчадзіць нешта на сьняданьне ды вячэру з тае крыхі харчу, што давалі на картачкі.

Антону Сокал-Кутылоўскаму[11] й майму бацьку стары знаёмы абодвух генэрал Езавітаў загадаў напісаць успаміны пра іхны ўдзел у змаганьні за беларускую дзяржаўную незалежнасьць у 1918—1921 гадох, што майму бацьку самому не ўдавалася, і я мусіў запісваць ды рэдагаваць ягоную дыктоўку, карыстаючыся пішучай машынкай у батальённай канцылярыі.

Адно было добра ў той час у Бэрліне — гэта спакой і магчымасьць добра адпачыць, бо хаўрусьніцкія самалёты чамусьці ў той час месца не чапалі.

Пасьля, можа, месяца разлукі нам удалося выпрасіць у нямецкіх уладаў дазвол прывезьці нашыя сем'і, што памясьціліся з намі ў гэтай жа школе. Але з-за нейкае бюракратычнае блытаніны праз тры тыдні ніяк не маглі дастаць для іх харчовыя картачкі, дык нацярпеліся галоду больш як датуль, аж покуль я ня зьездзіў сам зь лістом ад генэрала Езавітава да нейкага высокага ўрадаўца ў *Ostministerium*[12] і ня выпрасіў тыя картачкі асабіста.

Харчовыя картачкі нам і нашым сем'ям выдалі за ўсе тры мінулыя й адзін тыдзень наперад, а што гэта ўжо было перад самымі Калядамі, на іх можна было купіць харчу больш, як звычайна, а да гэтага й па пляшцы гарэлкі на сям'ю.

⇨ правіянту, да таго ж выплачвалася 150 марак сям'і вайскоўца. Камандзірам афіцэрскіх курсаў і часовым выканаўцам абавязкаў камандзіра батальёна быў прызначаны Пятро Касацкі, камандзірам падафіцэрскіх курсаў — Антон Сокал-Кутылоўскі, камандзірам вучэбнай каманды — Язэп Сажыч, камандзірам каманды аховы й гаспадаркі — Іван Кісель, намесьнікам кіраўніка падафіцэрскіх курсаў — Мікалай Дзямідаў, старшым доктарам батальёну — Баляслаў Грабінскі. Меркавалася, што на аснове батальёну ўтворыцца брыгада „Беларусь“, дазвол на арганізацыю якой атрымалі 10 студзеня 1945 г.

[11] Антон Сокал-Кутылоўскі (1892—1983) падчас паўстаньня кіраваў Слуцкай брыгадай.

[12] Беларуская Цэнтральная Рада — і, адпаведна, БКА — падпарадкоўваліся Міністэрству ўсходніх тэрыторыяў (Остміністэрыюму).

Гэткі вялікі, як на той час, запас дазволіў нам пасьля адправы на нашыя Каляды ахрысьціць нашага сыночка й справіць прызваітыя хрысьціны. Пасьля нашых Калядаў усе маладыя добраахвотнікі й малодшыя ахвіцэры з палкоўнікам Кушалем і маёрам Сокал-Кутылоўскім на чале былі выпраўленыя ў канчатковае месца прызначэньня ў Баварыі[13], і ў папярэднялюднай школе ў Бэрліне засталіся адныя вайскоўцы-перастаркі з жанчынамі й дзецьмі.

Спакой у Бэрліне трываў нядоўга: дзесь з паловы студзеня пачаліся ўсё часьцейшыя налёты хаўрусьніцкіх самалётаў, што сьпярша бамбавалі прадмесьці, а пазьней усё далей і далей углыбкі месца, пакуль урэшце ў канцы студзеня ці пачатку лютага так моцна збамбавалі сярэдзіну месца, што небясьпека заставацца ў ім надалей адразу стала відавочнай, тым больш што з усходу начамі ўжо чуўся гарматны грукат.

Пайшла таксама чутка пра эвакуацыю Беларускае Цэнтральнае Рады на захад Нямеччыны[14]. Карыстаючы з гэтага я й іншыя засталыя зь сем'ямі ў Бэрліне беларускія вайскоўцы ды ўрадоўцы выпрасілі праз Цэнтральную Раду ад нейкіх высокіх нямецкіх уладаў дазволы паадвозіць у заходнюю Нямеччыну нашыя сем'і, з умовай, што ўладзіўшы дзе ўдасца тыя сем'і, мы былі абавязаныя вярнуцца ў нашыя папярэднія вайсковыя адзінкі.

Нашая сям'я пастанавіла падацца ў мястэчка Заўльгаў, што ў паўднёва-заходняй частцы Нямеччыны, або Вюртэмбэргу (ці Швабіі), куды адразу эвакуяваліся амаль усе слонімцы[15].

[13] Маецца на ўвазе мястэчка Гіршаў, дзе пачалося фармаваньне беларускай брыгады (дывізіі) „Беларусь". Г. зв. „дывізія" складалася з трох батальёнаў пяхоты (пад камандай, адпаведна, Пятра Касацкага, Дзьмітрыя Чайкоўскага й Антона Сокал-Кутылоўскага), налічвала 1 094 чалавекі (зь іх 50 афіцэраў, 132 падафіцэры). Спачатку камандзірам дывізіі быў палкоўнік Зіглінг, 3 красавіка 1945 г. начальнікам дывізіі прызначылі Франца Кушаля. Але дывізія так і не атрымала зброі, і пры канцы красавіка яе жаўнеры здаліся амэрыканцам.

[14] У сакавіку 1945 г. частка чальцоў БЦР разам зь сем'ямі выехала ў гарадок Гёкстэр на рацэ Вэзэр (самы паўночны ўсход зямлі Паўночны Рэйн-Вэстфалія).

[15] Доктар Віктар Войтанка ў сваіх успамінах „Беларусы ў Францускай акупацыйнай зоне", напісаных у 1966 г. для кнігі Аляксея Вініцкага „Матар'ялы да гісторыі беларускай эміграцыі ў Нямеччыне ў 1939—1951 гг.", патлумачыў наступным чынам гэты факт:
*„Слонімцы прыехалі ў Сальгаў [Заўльгаў] з наступнай прычыны. Два гады перад гэтым у Сальгаў быў курс для настаўнікаў і кіраўнікоў*⇨





У дарогу, ледзь-ледзь улезшы ў цягнік, мы пусьціліся 12 лютага 1945 году, і навечар даехалі да Дрэздэну, дзе ў чаканьні далейшага цягніка заначавалі ў падмосьці чыгуначнае станцыі. У наступную ноч хаўрусьніцкія самалёты зруйнавалі Дрэздэн зь зямлёю, і на чыгуначнай станцыі, напэўна, нікога не засталося ў жывых[16].

Далей мы ехалі, абмінаючы большыя месцы й колькі разоў затрымоўваліся ў полі, пакуль урэшце не даехалі да Ульма, што як вокам кінуць ляжаў у зрыньні, сярод якога засталася непашкоджанай толькі вялікая катэдра гатычнага стылю[17].

Але чыгунка ўжо была папраўленая, і там мы пераселі на цягнік, што завёз нас у Заўльгаў, дзе месца для нашых сем'яў не знайшлося й давялося падацца ў меншае мястэчка Альтхаўзэн, зь якога нас скіравалі ў недалёкую вёсачку на працу да баўэраў. Там мяне з жонкай і сынам памясьцілі ў амаль безьзямельнага баўэра, што меў, аднак, прызваітую мураваную хатку, у якой знайшоўся для нас даволі вялікі пакой, але, як і ўва ўсіх баўэрскіх дамох, без аграваньня.

Маіх бацькоў, затое, далучылі да багатага баўэра, што ад цямна да цямна марыў іх цяжкой працай, а карміў толькі скупым харчам, што

⇨ *моладзі, арганізаваны немцамі. Слонімскі школьны інспэктар і ён жа кіраўнік моладзі СБМ [Барыс] Суравы быў на тым курсе. Яму вельмі спадабалася гэтая земляробская краіна зь невялікаю прамысловасьцю. [...] Пасьля павароту дадому апісаньне Суравым ваколіц Сальгаў вельмі спадабалася тым, хто меў сутык з слонімскім гебітскамісарам. Вось жа ў часе эвакуацыі яны папрасілі, каб выслаў іх туды..."* (Цытуецца паводле менскага выданьня (1994. С. 212).

[16] 13—15 лютага 1945 г. Каралеўскія паветраныя войскі Вялікабрытаніі й паветраныя войскі ЗША ажыцьцявілі сэрыю бамбардаваньняў, разбурыўшы каля чвэрці прамысловых прадпрыемстваў гораду й зьнішчыўшы або сур'ёзна пашкодзіўшы каля паловы астатніх будынкаў. Колькасьць скінутых бомбаў была значна меншая, чым падчас бамбардаваньняў Бэрліну, Кёльну, Гамбургу, Эсэну, Мюнхэну й Ляйпцыгу, але слабая падрыхтаванасьць гарадзкіх службаў і драўляныя перакрыцьці ды пабудовы зрабілі вынікі налётаў больш брутальнымі. На некалькі дзён у горадзе быў паралізаваны рух. Гебэльсаўская прапаганда называла колькасьць загінулых падчас бамбардаваньня ў 200 тыс. чалавек (амаль траціна даваеннага насельніцтва гораду), але ў 2008 г. камісія нямецкіх гісторыкаў, што працавалі на замову гораду Дрэздэн, ацаніла колькасьць загінулых у дыяпазоне ад 18 да 25 тыс. чалавек.

[17] Размова пра Мюнстэрскі гатычны касьцёл, які ўяўляе сабой самую высокую ў сьвеце сакральную пабудову (вышыня 161,6 м). Так, Кёльнскі касьцёл на чатыры мэтры меншы.

выдаваўся на харчовыя картачкі. Калі бацькі запратэставалі супраць гэткага нялюдзкага абыходжаньня, адабраў тыя картачкі й старым людзям давялося хадзіць на недалёкую чыгуначную станцыю, дзе можна было пасёрбаць „штам'у".

Мы ж і на харчовыя карткі амаль не атрымоўвалі нічога, і перад капітуляцыяй Нямеччыны жонка на полудзень варыла крыху забелены суп з лустачак белага хлеба, а баўэр ніколі ня зьлітаваўся пачаставаць чым-колечы зь яго запасаў.

Згаладнелыя й зьнясіленыя мы дачакаліся францускага займу[18], і жыцьцё стала шмат лягчэй ды сытней. Неўзабаве на францускі загад мы атрымалі нядрэнныя кватэры ў мястэчку Альтхаўзэн і нам пачалі выдаваць даволі харчоў, каб нядрэнна пад'есьці, хоць немцы жылі далей на скупых харчовых картачках.

У Альтхаўзэне гэтак параселяных беларусаў знайшлося больш як паўсотні, і мы з дазволу францускага камэнданта заснавалі беларускі камітэт на абарону нашых інтарэсаў.

Нейкі час пасьля гэтага ўсё ішло добра, пакуль раптам зь нейкае прычыны францускі камэндант ня ўзьеўся на старшыню нашага камітэту, доктара Віктара Войтанку, так, што той сьпехам пераехаў у недалёкі Заўльгаў.

Напалоханая прымусовай рэпатрыяцыяй большасьць сяброў камітэту прагаласавала за зьмену назову камітэту зь беларускага на камітэт польскіх грамадзянаў, пасьля чаго ўся ягоная дзейнасьць спынілася й гэткім чынам змарнавалася завязь беларускага прадстаўніцтва ў францускай акупацыйнай зоне Нямеччыны, бо яшчэ ў іншым месцы Равэнсбургу, дзе была немалая колькасьць беларусаў, нашыя былыя ўра-патрыёты й „дзеячы" абярнуліся ў шчыравальнікаў ды павадыроў польскае дзейнасьці.

Нас жа, амаль усіх беларусаў, з Альтхаўзэну ўвосень 1945 году перавезьлі ў зусім блізкае да Заўльгаў сяло Бандорф, дзе й далей мы даставалі са знарочнага складу нашыя харчы.

Ніякае заробкавае працы нідзе для нас не было[19], дык, апрача нарыхтоўкі дроваў на собскія патрэбы, не было чаго рабіць, акрамя па-

[18] Заходняя частка зямлі Бадэн-Вюртэмбэрг трапіла ў францускую зону акупацыі Нямеччыны — самую найменшую з усіх чатырох акупацыйных зонаў. У ёй у лягерах для перамешчаных асобаў жылі 35 494 чалавекі, тады як у амэрыканскай — 375 931, брытанскай — 271 088.

[19] У францускай акупацыйнай зоне для перамешчаных асобаў уводзілася абавязковая праца.





літыкаваньня й гульні ў карты. З гэтае нуды ўзварухнула мяне вестка, што ў Мюнхэне *UNRRA* неўзабаве будзе адчыняць унівэрсытэт для абязбацькаўшчаных асобаў (*DP*), і я неадкладна туды падаўся. Туды я прыехаў якраз у пору, каб здаць экзамэн на матуру[20] ды запісацца на навуку на факультэце будаўное інжынэрыі.

Стаўшы гэткім чынам студэнтам, я адразу далучыўся да Беларускага студэнцкага згуртаваньня і больш як два гады быў ягоным дзейным сябрам, двойчы прачытаўшы прынагодныя зьвесты на сьвяткаваньнях 25 Сакавіка, сьпяваючы ў студэнцкім хоры й беручы ўдзел у працы рэдакцыйнае калегіі студэнцкага часопісу „Крывіцкі Сьветач"[21], у якім было зьмешчана колькі маіх, ужо непамятных, твораў.

Заняткі на першым сэмэстры пачаліся на пачатку 1946 году й трывалі дзесь блізка да канца траўня, калі я вярнуўся ў Бандорф, якраз каб пасьпець на новы перавоз нас, гэтым разам у няводдаль ад суседняга паветавага месца Эгінген, дзе нас пасялілі ў бараках каля вялікае цэлюлёзнае хвабрыкі, у якой большасьць мужчынаў дастала працу.

З увагі на тое, што амаль усе пераехалыя былі праваслаўныя, мой бацька спадзяваўся служыць там сьвятаром і з гэткай просьбаю зьвярнуўся па прызначэньне да архіяпіскапа Апанаса[22]. На жаль, як і на Бацькаўшчыне, Апанас меў большую ўпадобу й ахвоту дагаджаць русафілам, як шчырым беларусам, і на парахвію з добрай дзяржаўнай заплатай прызначыў безгалосага няўтоенага русафіла а. Кузьму Місуна. Бацька ж пасьля гэтага пайшоў на працу падмятайлам на цэлюлёзнай хвабрыцы.

У гэтым самым часе й мая жонка пайшла на працу ў канцылярыі адмысловага аддзелу францускае адміністрацыі, называнага *PDR* (ад

[20] Маецца на ўвазе іспыт на атрыманьне пасьведчаньня аб заканчэньні сярэдняй адукацыі.

[21] **„Крывіцкі сьветач"**, месячнік, які афіцыйна выдаваўся са студзеня 1946 г. да сакавіка 1947 г. (выйшла 14 нумароў, рэдактар — Аляксей Арэшка), але быў прадаўжальнікам часопісу „Студэнцкія весткі", два нумары якога выйшлі ў лістападзе й сьнежні 1945 г., адпаведна. У жніўні 1947 г. „Крывіцкі сьветач" зьмяніў назву на „Студэнцкі кліч" (выйшла тры нумары).

[22] Магчыма, нейкая блытаніна. Апанас (Афанасій) Мартас у той час быў вікарным япіскапам РЗПЦ у Гамбурзе (Брытанская зона акупацыі) і ня меў юрысдыкцыі над францускай (або амэрыканскай) акупацыйнымі зонамі. Але ў францускай акупацыйнай зоне праваслаўным жыцьцём на той час кіраваў япіскап Украінскай аўтакефальнай праваслаўнай царквы Сяргей (Ахатэнка) — будучы кіраўнік БАПЦ.

*Prisonniers, Déporté, Réfugiés*[23]), што займалася харчаваньнем ды іншым забясьпечаньнем абязбацькаўшчаных асобаў (*DP*), і нашае матэрыяльнае становішча значна палепшала. Другі сэмэстар на *UNRRA*'ўскім унівэрсытэце трываў дзесь ад лета амаль да Калядаў новага стылю 1946 году. І, калі я вярнуўся дамоў на зімовы перапынак, здарылася неспадзеўка — да нас нечакана прыехаў дагэтуль незнаёмы нам прэзыдэнт Рады БНР[24] Мікола Абрамчык. Прыехаў ён зь нейкім афіцыйным францускім даручэньнем, быццам, вэрбаваць *DP* на работу ў Францыі, а ў сапраўднасьці — павялічыць колькасьць сяброў Рады й актывізаваць ейную дзейнасьць.

З гэтай мэтай я паслаў поштай пару запросінаў на нараду ў гэтай справе годным увагі беларусам у бліжэйшых уцяклецкіх асяродках, з чаго выйшла немалая непрыемнасьць. Нашыя людзі ў Заўльгаў чамусьці зразумелі, што рыхтуецца вялікая і ўрачыстая сустрэча зь беларускім прэзыдэнтам ды, наняўшы ў найбліжэйшую нядзелю аўтобус, лікам каля 40 чалавек прыехалі пад барак, дзе ў нашай кватэры затрымаўся прэзыдэнт Абрамчык.

Была гэта пара, калі заходнія хаўрусьнікі, асабліва французы, далей цацкаліся й дагаджалі Саветам, дык і іхняе начальства палічыла той зьезд за антысавецкую дэманстрацыю ды ўпала ў паніку, бо гэткі недагляд пагражаў іхным цёплым становішчам. З гэтае прычыны прэзыдэнту Абрамчыку давялося ісьці да таго начальства й з успомненым дакумэнтам заспакойваць ягоныя нэрвы тлумачэньнем, што гэта толькі выяў зацікаўленасьці *DP* магчымасьцямі пераезду на працу ў Францыю. Французы ўзялі пад увагу тлумачэньні й супакоіліся, але з нашае плянаванае нарады нічога ня выйшла, і прэзыдэнт Абрамчык назаўтра паехаў ад нас у Данію, ратаваць ад прымусовае рэпатрыяцыі групу беларусаў, што апынулася там пасьля вайны.

Трэці сэмэстар, што пачаўся ў канцы студзеня 1947 году, быў апошні, бо адразу пасьля павароту з калядняга адпачынку стала вядома, што *UNRRA*, а зь ёю й ейны ўнівэрсытэт, спыняць дзейнасьць 30 траўня таго году, і ніякія просьбы, ні студэнцкія дэманстрацыі гэтае падзеі ні спынілі, ні адлажылі.

[23] *Prisonniers, Déporté, Réfugiés* (*франц.*) — палонныя, дэпартаваныя, уцекачы.

[24] Афіцыйна Рада БНР была адноўленая толькі праз год, пры канцы 1947 г., але сапраўды, Мікола Абрамчык называўся ўсім прэзыдэнтам БНР, апэлююючы да тастамэнту Васіля Захаркі.





Наш факультэт неафіцыйна працягваў заняткі яшчэ адзін сэмэстар у іншым нанятым ужо будынку, але адзіным довадам ягонага сканчэньня было асабовае пасьветчаньне дэкана прафэсара Белавусава, што я наведваў тыя заняткі.

Акупацыйныя хаўрусьніцкія ўлады не зрабілі нічога, каб дапамагчы былым студэнтам *UNRRA*'ўскага ўнівэрсытэту працягваць навуку ў нямецкіх, ці іншых замежных унівэрсытэтах, і зь нястачы грошай ды падрыхтоўкі да магчымае эміграцыі ў заморскія краіны для бальшыні зь іх, у тым ліку й для мяне, на гэтым дзьверы да здабыцьця вышэйшае адукацыі зачыніліся.

Пасьля гэтага я яшчэ разоў тры зьезьдзіў у амэрыканскую акупацыйную зону: першы раз на зьезд Цэнтралі беларускіх студэнцкіх арганізацый у Марбургу ў кастрычніку 1947 году; на сэсію Рады БНР, у якую я тады быў прыняты, у беларускім лягеры *DP* у Остэргофэне ў чэрвені 1948 году, ды ўрэшце, каб разьвітацца зь сябрамі-студэнтамі й знаёмымі беларусамі ў лягеры *DP* Шляйсгайм каля Мюнхэну ўлетку 1949 году.

Згадаўшы тую, здаецца, першую й людную сэсію Рады БНР, нельга моўчкі абысьці палітычнае сытуацыі, ці настрояў, што склаліся ў той час сярод беларускіх уцекачоў у Нямеччыне.

Пасьля прывітанае ўсімі самаліквідацыі ў верасьні 1945 году Беларускае Цэнтральнае Рады нашая эміграцыя дазнала жахлівы выцень, а было ім далучэньне праваслаўнае Беларускае аўтакефальнае царквы да Расейскае зарубежнае царквы й гэтым самым самаліквідацыя рэлігійнага павадырства нацыі.

Адразу пасьля гэтага эміграцыя раскалолася на дзьве часткі — адну, што з Радай БНР і Беларускім нацыянальным камітэтам пачала старацца ўзнавіць сваю Царкву, і другую, што, верачы абяцаньням здраднікаў-япіскапаў вярнуцца да аўтакефаліі, калі на гэта „прыйдзе адпаведны час“, ня ведала, што ёй тымчасам рабіць, але не была прыхільнай да ўзнаўленьня.

Гэтая розьніца ў думках, як і кожны раскол у грамадзтве, не засталася без павадыроў — у першай былі імі Рада БНР і Беларускі Нацыянальны Камітэт, у другой захапіў гэтае месца сьвятар Мікалай Лапіцкі. Зь ягонага падцкоўваньня[25] пачаліся закалоты ў беларускіх

[25] Мікалай Лапіцкі быў стваральнікам адной зь першых беларускіх парафіяў на эміграцыі, і гэта быў першы прыход, які меў уласны будынак царквы. Апроч таго, Лапіцкі быў старшынём зьезду беларускіх праваслаўных⇨

уцяклецкіх лягерах, у выніку чаго дайшло да іхнага падзелу на „крывіцкія“, г. зн. БНРаўскія, й „зарубежніцкія“, падпарадкаваныя Лапіцкаму[26]. Адзінай дзейнасьцю апошніх было паглыбленьне варожасьці паміж рознадумнымі часткамі эміграцыі й паводка лаянкі ды паклёпаў на крывічоў[27].

За ўсім гэтым сачылі савецкія выведныя ворганы, што адразу зразумелі беспэрспэктыўнасьць, хай і з палітычным водарам, але папоўскага сэктанцтва як палітычнае дзейнасьці на іхную карысьць. Каб асягнуць іхную мэту, яны замест запатрабаваньня выдаць ім галоўнага беларускага калябаранта й ваеннага злачынцу, празь іхных агентаў у брытанскім і амэрыканскім выведзе[28] знайшлі Астроўскага й пад пагрозай прымусовае рэпатрыяцыі ды сьмяротнага прысуду прымусілі яго згадзіцца ўзнавіць ды ачоліць Беларускую Цэнтральную Раду[29].

⇨вернікаў (5 траўня 1946 г.) у Рэгенсбурзе, на якім беларускіх япіскапаў прасілі не далучацца да РЗПЦ. Мікалай Лапіцкі адзін зь нешматлкіх, хто быў зазнаў рэпрэсіі з боку беларускіх ярархаў: яму забаранілі выконваць сьвятарскія абавязкі. Ужо потым ён, не прыняўшы пасьпешлівых захадаў у аднаўленьні БАПЦ, ня маючы на гэта ні сьвятароў, ні духоўных кандыдатаў у япіскапы, палічыў за мэтазгоднае часова падтрымаць беларускіх ярархаў.

26 Данілюк кажа пра раскол у беларускім лягеры ў Міхэльсдорфе, які здарыўся летам 1948 г., гэта значыць пасьля канчатковага афармленьня палітычнага расколу эміграцыі (зіма—вясна 1948 г.) на прыхільнікаў Рады БНР і БЦР. Сам жа падзел пачаўся акурат з высьвятленьня прыхільнікаў Астроўскага паплечнікамі Абрамчыка зь Беларускага нацыянальнага камітэту й Беларускага нацыянальнага цэнтру ў 1945—1946 гг.

27 Лаянка й паклёпы былі двухбаковай зьявай, і ў гэтым аднолькава вінаватыя як прыхільнікі Астроўскага, так і прыхільнікі Абрамчыка.

28 Маецца на ўвазе савецкі разьведчык Кім Філбі, які працаваў у брытанскай разьведцы.

29 Тут зблытана храналёгія. БЦР аднавілася вясной 1948 г., а Астроўскі наладзіў кантакты з брытанскай разьведкай яшчэ ў 1946 г., калі канфлікт у беларускай грамадзе толькі афармляўся. Таксама не адпавядае рэчаіснасьці тэзіс пра змушэньне Астроўскага заходнімі разьведкамі аднавіць БЦР. Радаслаў Астроўскі сам жадаў вярнуцца на палітычную сцэну, чакаючы зручнага моманту. Ня выключана, што склікаючы Другі Ўсебеларускі кангрэс у чэрвені 1944 г. у Менску, ён разглядаў гэты сход як трамплін для ачоленьня беларускай эміграцыі на Захадзе.





Кіравацьгэтым агентурным творам Астроўскі — хоць яго й пусьцілі на пасяленьне сьпярша ў Англіі, а пасьля ў Амэрыцы[30] — аднак, ужо ня быў здольны, і гэтую ролю захавалі за сабою сьвятар Лапіцкі зь яго шваграм Іванам Касяком[31].

Гэтая ж роля зводзілася да перашкодаў або спробаў перахапіць ці зглуміць карысныя для беларускай справы ініцыятывы БНР[32] і супрацоўных зь ёю арганізацыяў ды лаяньня й паклёпніцтва на „крывічоў“, асабліва тых, што спрычыняліся да ўзнаўленьня БАПЦ.

Нам у францускай акупацыйнай зоне гэта хоць і не падабалася, але вялікай шкоды не рабіла, бо ў ёй беларусаў аднаго ці другога кірунку было ня больш, як пальцаў на дзьвюх руках.

Рэшту ж часу пасьля ўспомненых падарожжаў, а гэта амаль тры гады, я, можна сказаць, адпачываў, бо ніякае заработнае працы было не знайсьці. Таму я чытаў газэту „Бацькаўшчына“ ды нямецкія й польскія газэты, слухаў радыёперадачы зь Менску, а вечарамі ня раз гуляў з старэйшымі ў карты ў прэфэранс.

30 У 1948 г., на момант аднаўленьня Беларускай Цэнтральнай Рады, Астроўскі жыў у Нямеччыне, адкуль разам з дачкой і зяцем — Галінай і Мікалаем Мінкевічам — перабраўся ў Аргентыну. У 1950 г. ён вярнуўся ў Нямеччыну, у 1954 г. выехаў у Лёндан (Англія), з увагі на стан здароўя, да сына Віктара. У ЗША Астроўскі перабраўся ў 1962 г., прыехаўшы пад нагляд да дачкі й зяця, якія займаліся лекарскай практыкай.

31 Пасьля пераезду ў ЗША ў 1962 г. Астроўскі зьняў зь сябе абавязкі прэзыдэнта БЦР (як патлумачыў, з прычыны сталага веку й кепскага стану здароўя), і вярнуўся на пасаду ў 1974 г. Увесь гэты час БЦР не існавала. Іван Касяк дыстанцыяваўся ад БЦР пасьля Пленуму 1954 г., пазьней цалкам сканцэнтраваўшыся на грамадзкай дзейнасьці: з 1957 г. ён кіраваў Беларускім кангрэсавым камітэтам Амэрыкі. Па сьмерці Астроўскага (1976), на Пленуме БЦР у 1977 г. Касяка вылучылі на пасаду прэзыдэнта, але ён узяў самаадвод. Мікалай Лапіцкі быў цалкам заняты заснаваньнем і разьвіцьцём парафіі сьв. Эўфрасіньні Полацкай у Саўт-Рывэры й стварэньнем асяродку вакол яго. Фактычна прадстаўніцтвам БЦР у Амэрыцы займалася грамадзкая арганізацыя „Амэрыканскія прыхільнікі БЦР“, але там былі іншыя кіраўнікі: Эмануіл Ясюк, Анатоль Плескачэўскі ды інш.

32 Кіраўнікі БЦР сваё права на лідэрства на беларускай эміграцыі абгрунтоўвалі тым, што Рада і ўрад БНР перасталі існаваць у 1925 г., паводле рашэньня Бэрлінскай канфэрэнцыі, і ў 1944 г. на рашэньне Другога Ўсебеларускага кангрэсу ўрадам і галоўным прадстаўніцтвам беларускага народу лічылася Беларуская Цэнтральная Рада як урад Беларускай Народнай Рэспублікі.

На 5 чэрвеня 1948 году, у дзень успаміну сьв. Эўфрасіньні Полацкай, пасьля двухгадовых стараньняў доктара Віктара Войтанкі ў Канстанцы на мяжы з Швайцарыяй быў скліканы сабор[33] з заданьнем узнавіць нашую Аўтакефальную праваслаўную царкву з украінскім япіскапам Сергіем Охотэнкам на чале[34], на які былі запрошаныя мой бацька ды я. Бацька, ня бачачы сярод нашае эміграцыі царкоўных людзей і ўважаючы доктара Войтанку за фантазёра ды даведаўшыся, што на саборы будзе мець значную ролю здаўна неўпадабалы яму хвалько Мікалай Дзямідаў[35], паехаць на той сабор не схацеў, а безь яго не паехаў і я. Толькі пасьля таго сабору даведаўшыся, што на ім замест Дзямідава галоўную ролю выконваў аўтарытэтны ў бацькавых думках а. Ананій Сагайдаківській, бацька пашкадаваў, што не скарыстаў з нагоды зь ім сустрэцца, але ўжо было запозна.

Неўзабаве пасьля гэтага наведаў нас і сам Мікалай Дзямідаў і, пачаставаўшы прывезенай з сабою гарэлкай, якое тады мы ніяк не маглі дастаць, безвынікова прабаваў намовіць майго асьцярожнага бацьку далучыцца да ўзноўленае пад новым назовам Беларускае аўтакефальнае праваслаўнае царквы[36].

Далучыцца да яе бацьку пераканаў адно былы інжынэр Уладзімер Тамашчык, а тады ўжо, здаецца, ераманах Васіль[37], што заехаў да нас

[33] Саборык склікалі на ініцыятыву Беларускага часовага праваслаўнага рэлігійнага камітэту ў Нямеччыне, які ўзначальваў бацька Віктара Войтанкі, протаярэй Сьцяпан Войтанка. Але Віктар Войтанка сапраўды праводзіў вялікую арганізацыйную працу.

[34] Саборык пастанавіў *„працягваць дзейнасьць БАПЦ на эміграцыі пад часовым кіраўніцтвам япіскапа УАПЦ Сяргея (Ахатэнкі) да моманту зьяўленьня двух япіскапаў-беларусаў“.*

[35] Жанаты Дзямідаў прэтэндаваў таксама на высьвячэньне ў япіскапы БАПЦ, але ягоную кандыдатуру своечасова адхілілі.

[36] Канчаткова БАПЦ атрымала незалежнасьць ад УАПЦ 4 лістапада 1949 г., калі Сяргей (Ахатэнка) атрымаў адпускную грамату ад мітрапаліта УАПЦ Палікарпа й на рэкамэндацыю Кансісторыі БАПЦ намінальна ўзяў пад апеку Берасьцейска-Пінскую япархію.

[37] У ераманахі Ўладзімера Тамашчыка пасвяцілі роўна праз год, 5 чэрвеня 1949 г. Прычым рашэньне пра высьвячэньне Тамашчыка ў япіскапы прынялі на паседжаньні прэзыдыюму Рады БНР 14 сакавіка 1949 г. На паседжаньні ў будучыя япіскапы БАПЦ запрапанавалі кандыдатуры трох сьвецкіх дзеячаў: кіраўніка Беларускага нацыянальнага камітэту, намесьніка старшыні Сусьветнага аб'яднаньня беларускай эміграцыі Ўладзімера Тамашчыка, журналіста Ўладзімера Бортніка й грамадзка-вайсковага⇨





пазьней. Але гэта была толькі фармальнасьць, бо, каб заснаваць парахвію БАПЦ, не было дастатковай колькасьці беларусаў. Таму бацька атрымаў толькі пачэсны тытул дэкана (благачыннага) на француcкую акупацыйную зону.

З увагі на гэтае пачэснае становішча ўлетку 1949 году бацьку давялося разам зь япіскапам Сергіем узяць удзел у зарганізаванай францускімі ўладамі ці нейкай міжнароднай хрысьціянскай арганізацыяй надзіва людной канфэрэнцыі праваслаўнага духавенства францускае зоны, а ў сьнежні таго ж году ва ўсьвячэньні архімандрыта Васіля (Тамашчыка) у япіскапскую годнасьць, што адбылося ў беларускім лягеры *DP* у Розэнгайме ў Баварыі. Я ж, прыдбаўшы пішучую машынку, выконваў абавязкі бацькавага сакратара.

Улетку ці пад восень таго ж году раптам адчынілася магчымасьць эміграцыі ў Аўстралію, і колькі сем'яў сьвядомых ды больш яшчэ „тоже белоруссов“ і ўкраінцаў падалося ў тую далёкую й ня вельмі гасьцінную краіну[38]. Ахвотніцай ехаць туды была й мая жонка, але я ўпёрся й намовіў сям'ю чакаць магчымасьці эміграцыі ў Амэрыку або Канаду.

Мне здавалася й здаецца да цяпер, што сьпех да выезду ў далёкую, а ў міжнароднай палітыцы нязначную дзяржаву быў не на карысьць беларускай справе, а пачаткі жыцьця там не былі вельмі лёгкія й прыемныя. Калі б тая грамада патрыятычных і дзейных беларусаў, што пасьпяшаліся падацца ў Аўстралію, апынулася ў Амэрыцы й Канадзе, мы былі б там мацнейшыя й больш узьдзейныя на тамашных палітыкаў. Але ніхто тады пра гэта не падумаў і нікога не папярэдзіў.

Нам, на жаль, магчымасьць эміграцыі ў Амэрыку ў форме г. зв. „афідавіту“, ці запатрабаваньня на працу, ніяк не зьяўлялася, хоць мы зьвярталіся па дапамогу ў гэтай справе да Беларускае нацыянальнае рады ў Чыкага, а праз яе й да пары знойдзеных праз яе бацькавых аднагодкаў [1887] зь ягонага роднага сяла [Сурынка], што выехалі ў Амэрыку перад першай вайной.

На нашыя просьбы адгукнуўся, будзь яму вечны дзякуй, адно доктар Янка Станкевіч, выстараўшыся нам пры дапамозе ўкраінскага сьвятара а. Весялоўскага патрэбныя дакументы.

⇨ дзеяча Міколы Дзямідава. Усе яны былі сябрамі Рады БНР. Бортнік узяў самаадвод, Дзямідаў „быў дыскваліфікаваны“ з той прычыны, што быў жанаты.

[38] Таксама ў Аўстралію пераехаў япіскап Сяргей (Ахатэнка) і большасьць наяўных сьвятароў, што падтрымалі аднаўленьне БАПЦ: Анатоль Кунцэвіч, Аляксандар Казлоўскі, Міхась Шчурко.

Недзе на пачатку 1950 году тых, хто не паехаў у Аўстралію, у тым ліку й нас, французы зьвезьлі ў вялікі лягер у былых вайсковых бараках у мястэчку Мюнсінген, дзе рыхтаваліся патрэбныя да разгляду амэрыканскае допытавае іміграцыйнае камісіі паперы. Гэтым, дарэчы, займалася й мая жонка зь іншымі працаўнікамі канцылярыі *PDR*.

Пакуль жа дайшло да нашае чаргі на гэта, а. Сьцяпан Войтанка пачаў адпраўляць у нядзелі й сьвяты асобна ад расейскае парахвіі божыя службы, у якіх памагалі яму ягоная й нашая сем'і ды крыху беларускіх й украінскіх маленьнікаў. Бацька там кіраваў хорам.

Урэшце ці не навесну паклікалі й нас на прыймовую камісію ў Раштаце, дзе ўсё пайшло добра, за выняткам майго лекарскага агляду, які, хоць мы й далі рэнтгенатэхніку хабар, з-за ягонае няўвагі выкрыў нейкую плямку на маіх лёгкіх, і маю з жонкай ды сынам справу адклалі на шэсьць месяцаў. Затое бацькам прызначылі дату ад'езду на жнівень, і хоць яны баяліся й не хацелі ехаць бяз нас, мы, маючы заруку ўдачы ад таго рэнтгенатэхніка, намовілі іх ехаць асобна наперад, каб не змарнаваць адзінае для іх магчымасьці эміграцыі.

Бацькі ўрэшце адважыліся й паехалі дзесь у жніўні 1950 году, а мы, пачакаўшы шэсьць месяцаў, удала прайшлі паўторную камісію, але на транспарт, перавезеныя ўвосені зноў у яшчэ адзін лягер *DP*, мусілі чакаць яшчэ колькі месяцаў. У тым лягеры мы наведвалі ўкраінскую праваслаўную царкву, у якой служыў выдатны прапаведнік а. Анані Сагайдаківській.

Урэшце, у сярэдзіне лютага 1951 году падышла й нашая чарга ехаць у Амэрыку. Нас чыгункай завезьлі ў порт Брэмэрхафэн, дзе праз пару дзён мы ўзышлі на вайсковае транспартнае плыўно *General Blatchford* ды назаўсёды разьвіталіся з Эўропай.

На жаль, ужо на другі дзень амаль уся тысяча пасажыраў, у тым ліку й я ды мая жонка з сынам, пахварэлі на марскую хваробу й ляжалі ў гамаках (ложкаў не было) і ўставалі толькі, каб выблеваць.

На трэці дзень падарожжа мне абрыдзела ляжаць у гамаку сярод енкаў ды блёвінаў, і я таму, што быў загад *DP* абслугоўваць самых сябе й чысьціць плыўно, пайшоў ахвотнікам працаваць на кухню, дзе мыў посуд, падаваў іншым пасажырам ежу ды чысьціў іхныя блёвіны — палова першага дня гэтай працы была вельмі цяжкая, але пасьля поўдня хвароба палягчэла, а навечар і зусім адышла так, што я пачаў адчуваць сябе амаль марскім ваўком. Затое мая жонка з сынам хварэлі ўсе дзесяць дзён падарожжа й лепш, як пабачыць Амэрыку, жадалі сабе сьмерці.





Урэшце мінуўшы статую Свабоды, мы раніцай, здаецца, 26 лютага 1951 году прыбылі да берагу ў Нью-Ёрку, адкуль нас бацька забраў на найманую ў найгоршай частцы гораду — Гарлеме — цесную паўтарапакаёвую з мыцельняй кватэру, дзе нас чакаў нязвычна багаты полудзень: было ўдоваль мяса, было й поўна незнаходнае ў гэтую пору ў Эўропе сьвежае гароднiны, а таксама, здаецца, нейкі дэсэрт.

Мой бацька тады працаваў на начной зьмене на серніковай хвабрыцы, собсьнікам якой быў багаты „белы“ расеец, што ахвоча прыймаў на працу ўцякльцоў з Савецкага Саюзу, плоцячы ім дазволены правам мінімум 75 цэнтаў за гадзіну.

Я, крыху разгледзеўшыся, пасьля трох тыдняў знайшоў працу ў майстэрні, што рабіла ці складала невялікія рэклямныя выдумы, і на пачатак дастаў 80 цэнтаў за гадзіну. Мая жонка, выпытаўшы ў старых эмігрантак, выбрала сабе працу ў шыцельнай майстэрні жаночае адзежы, дзе плацілі ад пашытае штукі. Але час ад часу здараліся перапынкі паміж замовамі або зьменамі стылю ці моды, падчас якіх можна было атрымоўваць дзяржаўную дапамогу для безработных. Мая маці, ня здолеўшы навучыцца нават і пачаткаў ангельскае мовы, не працавала.

Згадаўшы старых эмігрантак, трэба сказаць, што амаль усе да аднаго нашыя старыя праваслаўныя эмігранты былі перапробленыя ў расейскай царкве й „обществах“ сьпярша на расейскіх, а ў вайну на савецкіх патрыётаў. Яны ставіліся да нас, як да „ізменніков родіны“, варожа, таму дачыненьняў зь імі ў нас не было, а пагатове й зь іхнымі ўжо цалкам замэрыканізаванымі ды абыякавымі да бацькоўскае зямлі дзецьмі. Каталікі-эмігранты з нашага краю ўсе чыста сталі ня толькі гарачымі й ахвярнымі вернікамі польскіх касьцёлаў, але й палкімі польскімі патрыётамі.

Нашай найгоршай дакукай у той час была нашая кватэра. Хоць нашых трох заробкаў было даволі на невялікія патрэбы, а таксама хапіла б на аплату за наймо большае й лепшае кватэры, аднак у той час у Нью-Ёрку была такая вострая іхная нястача, што нават за хабары дагляднікам дамоў нельга было нічога знайсьці. Таму мы яшчэ дзесяць месяцаў ціснуліся ў кішэлых прусакамі ды дзесяцігодзьдзямі немалёваных каморках.

У тым самым будынку, у гэткіх жа ўмовах, як і мы, жылі яшчэ й іншыя беларускія сем'і, а гэта: Каханоўскія, Кажаны, Чыгіровічы, Адамовіч з бацькамі й Пыпіны з Латвіі ды, нягледзячы на ўсе невыгоды, усе былі ўдзячныя доктару Янку Станкевічу, што дамовіўся са знаёмым аднекуль собсьнікам-жыдам даваць у наймы прытулкі для беларусаў.

З усіх невыгодаў найгоршай ці нават найнебясьпечнай было тое, што камяніца, у якой мы жылі, а таксама суседнія, былі ў большасьці занятыя наехалымі з паўднёвых штатаў чорнымі, што нідзе не працавалі, а атрымоўвалі невялікую дзяржаўную дапамогу, да якое частка зь іх „прызарабляла“ рабункамі. Нам жа найбольш дакучала тое, што ўдзень яны спалі, а як цямнела, з грукатам выкідалі праз вокны ў надворкі сьмецьце, дзе ўсьлед раскладалі вогнішчы ды пілі й гаманілі да раніцы.

Нам не было адпачынку, і ў нядзелі, а то і ў сьвяточныя дні трэба было валачы на станцыю мясцовае чыгункі цяжкі чамадан з царкоўным уладжаньнем і сьвятарскім адзеньнем[39], каля гадзіны ехаць у канец Брукліну й там цягнуць той чамадан у нанятую новаствораным Беларуска-амэрыканскім задзіночаньнем[40] краму, якую назвалі Беларускай хаткай[41], і дзе трэба было ўсё належна парасстаўляць і прыгатаваць да адправы. Царкоўным хорам кіраваў кампазытар Мікола Куліковіч, што жыў адзін у пакойчыку пры Хатцы, у якім стаяла яго піяніна.

Пасьля адправаў амаль кожнае нядзелі былі нейкія найменш парагадзінныя паседжаньні, дык варочаліся дамоў, цягнучы зноў той чамадан, звычайна калі ўжо вечарэла або й сьцямнела.

З тых збораў ці сходаў мне ў памяці засталося адно з паседжаньняў Сэктару Рады БНР, на якім было абвешчана, што Фордаўская фундацыя[42] пастанавіла даць новаэміграцкім арганізацыям крыху грошай на іхную дзейнасьць, у тым ліку й 10 000 даляраў беларусам.

На жаль, замест узрадавацца і ўзважыць, што з тымі грашыма зрабіць, на паседжаньні ўзьнялася спрэчка, ці браць іх, ці не, бо за іхнае атрыманьне, можа, трэба будзе адрачыся ад змаганьня за дзяржаўную незалежнасьць Беларусі[43].

---

[39] Маецца на ўвазе парафія Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы сьв. Кірылы Тураўскага.

[40] Беларуска-амэрыканскае задзіночаньне (БАЗА) заснаванае 31 ліпеня 1949 г.

[41] Першая „Беларуская хатка“ з 1950 да 1954 г. знаходзілася на адрасе *505 Sutter Avenue, Brooklyn*.

[42] Паводле іншых сьведчаньняў, грошы на дзейнасьць БАЗА й газэту „Беларус“ выдаткаваў Фонд вольнай Расеі праз Амэрыканскі камітэт барацьбы з бальшавізмам.

[43] Аўтар мае на ўвазе супрацу з Амэрыканскім камітэтам барацьбы з бальшавізмам, галоўнай дактрынай якога была супольная барацьба народаў СССР супраць бальшавізму й, адпаведна, канцэпцыя „непрадрашэнства“ — г. зн. адмаўленьне асобнымі нацыянальнымі арганізацыямі, ад прынцыпаў барацьбы за незалежнасьць да поўнай перамогі над СССР.⇨





Урэшце нічога не пастанавіўшы й моцна перасварыўшыся, разышліся. Рада БНР ці Галоўная Ўправа БАЗ'ы ўсё роўна тыя грошы ўзяла й за іх нейкі час выдавала газэту „Беларус“, плоцячы нешта Натальлі Арсеньневай за рэдактарства[44] і падтрымоўваючы, як ейнага памочніка, прыехалага безграшовага ўладыку Васіля[45]. Ня ўсім гэта спадабалася, і паміж колькіма асобамі, як выглядала, з зайздрасьці стварылася дасьмяротная непрыязьнь[46].

На тым паседжаньні[47], здаецца, Аўген Каханоўскі ўзяў мяне ў ягоны ўрад рэлігійным, а не вайсковым, як у кнізе пра В. Жук-Грышкевіча[48] напісана, рэфэрэнтам у ягоны ўрад.

Была зробленая прапанова й майму бацьку ды ўладыку Васілю ўвайсьці ў Раду БНР, але мой бацька як духоўная асоба ад гэтае годнасьці адмовіўся, а ўладыка Васіль, насуперак бацькавае парады, стаў радным БНР, што ня думаю каб павялічыла яго аўтарытэт ці пайшло на карысьць нашае Царквы і ўсяе эміграцыі, а мяне неўзабаве прымусіла сысьці з майго становішча ва ўрадзе.

Уладыка Васіль прыехаў і затрымаўся ў Брукліне ўлетку 1951 году й правіў божыя службы з маім бацькам[49] у Беларускай хатцы. Але таму, што гэта было непрэстыжна яму й нашай Царкве, ён адразу спрабаваў назьбіраць грошай на куплю собскага будынку, а калі гэта, з-за беднасьці вернікаў, не пайшло, пачаў шукаць царквы, у якой можна было б маліцца на правох падсуседаў.

---

⇨Супраца Рады БНР з Амэрыканскім камітэтам выклікала шмат спрэчак. Першы крызіс у Радзе БНР справакавала адмаўленьне ад правоў на Вільню.

[44] Натальля Арсеньнева была рэдактаркаю „Беларуса“, які лічыўся галоўным органам БАЗА, з 30 траўня 1952 г. да красавіка 1954 г. (выйшла 38 нумароў — газэта выдавалася два разы на месяц). Ейнае рэдактарства супала са старшынёўствам у БАЗА ейнага мужа Францa Кушаля (1952—1954 гг.). У красавіку 1954 г. новым кіраўніком БАЗА быў абраны Міхась Тулейка, а рэдактарам „Беларуса“ стаў Міхась Міцкевіч.

[45] Васіль Тамашчык быў зацьверджаны афіцыйна намесьнікам рэдактара „Беларуса“.

[46] Данілюк мае на ўвазе першага рэдактара „Беларуса“ Леаніда Галяка й Аляксандра Махноўскага, якія прэтэндавалі на пасаду рэдактара „Беларуса“ ў супрацьвагу Натальлі Арсеньневай.

[47] Відаць, маецца на ўвазе паседжаньне Рады БНР ад 16 сакавіка 1952 г.

[48] Размова пра кнігу Раісы Жук-Грышкевіч „Вінцэнт Жук-Грышкевіч“ (Таронта, 1993).

[49] Хведар Данілюк быў заснавальнікам беларускай парафіі ў Нью-Ёрку (Бруклін).

Нейкім чынам ён пазнаёміўся са сьвятаром Карпата-рускае парахвіі на 4-й вуліцы ў Манхэтане[50], што была ўжо амаль вымершы, і на карысьць абодвум дый са згодай архіяпіскапа канстанцінопальскае юрысдыкцыі дамовіўся служыць разам.

У выніку Беларуская хатка ў Брукліне стала непатрэбная, і яе перасталі наймаць, хадзіўшы на адправы ў Карпата-рускую царкву. Там у падмостнай зальцы адбываліся й грамадзкія сходы ды паседжаньні. Мой бацька рэдка браў удзел у адправах, бо не хацеў быць лішнім пры сьвятары, што быў і гаспадаром.

Тут варта ўспомніць, што на пачатку 1950-х гадоў Куліковіч стварыў з 6-х ці 8-х дзяўчат вельмі добры дзявочы ансамбль[51], і ягонымі прыгожымі сьпевамі ўхарошваліся беларускія ўрачыстасьці ў Нью-Ёрку. Пасьля Куліковічавага адыходу[52] вялікі й выдатны мяшаны хор, з удзелам нават колькіх асобаў зь Нью-Брансьвіку й Канэктыкуту, зарганізавала й кіравала ім Галіна Ганчарэнка. Хор таксама выступаў на нашых сьвяткаваньнях і нават на міжнародным канцэрце ў *Town Hall* у Манхэтане, зьбіраючы штораз заслужаныя густыя воплескі. Пасьля выезду Галіны Ганчарэнкі на працу на радыё „Вызваленьне"[53], хор, хоць і ў іншым складзе, працягваў існаваць звыш дзесяцігодзьдзя пад кіраўніцтвам Андрэя Каптуровіча й Міхася Тулейкі.

Пад восень 1951 году майго бацьку звольнілі зь сернікавае хвабрыкі, але ён зараз жа з дапамогай ужо вышэй успомненага а. Весялоўскага знайшоў працу дзённым прыбіральнікам у канцылярыі кантралёра прыватных пэнсійных плянаў. Неўзабаве ў той самай фірме знайшлася праца й для мяне пры мікрафільмавай машыне, што рабіла фільмы важнейшых дакумэнтаў, якія зараз жа пасылалі ў сховішча ад атамавых бомбаў недзе ў гарах, далёка ад Нью-Ёрку.

Як мой бацька, гэтак і я дасталі ў сапраўднасьці новыя й лепш платныя працы дзякуючы маладому, ужо ў Амэрыцы народжанаму й вайноваму вэтэрану, але ўзгадаванаму ў палкім патрыятызьме да краю паходжаньня ягоных бацькоў украінцу.

У гэтым самым часе нам урэшце пашчасьціла й знайсьці ў Брукліне 4-х-пакаёвую з кухняй кватэру — жыць пасвабаднела. Праўда, была тая

[50] *East 4th str.*

[51] Гаворка, відаць, пра Беларускі хор у Нью-Ёрку. Барыс Данілюк быў адным зь яго далейшых кіраўнікоў.

[52] Мікола [Шчаглоў-]Куліковіч выехаў у Кліўлэнд.

[53] Галіна Ганчарэнка пераехала ў Мюнхэн на працу на радыё „Вызваленьне" ў чэрвені 1954 г.





невыгода, што ў ніводным з пакояў не было ніякага аграваньня, і адзіным цёплым кутком была вялікая кухня, што грэлася ад пліты. На ёй варыліся розныя стравы, але дух зь яе ў іншыя пакоі мала або й зусім не даходзіў, дык мы й амаль увесь час там сядзелі, а ў іншыя пакоі ішлі адно добра акрыўшыся спаць. Улетку дакучала гарачыня, ад якое не памагалі й ветракі, а неабходных у амэрыканскім клімаце кандыцыянэраў яшчэ не было.

Я, пэўна ж, улучыўся ў беларускую грамадзкую працу, няўдала спрабаваў у неспрыяльных абставінах узнавіць дзейнасьць студэнцкае арганізацыі[54] ды ўрэшце памагаў у рэдакцыйнай калегіі моладзевага часапісу „Віці"[55], у які я таксама й нешта цяпер непамятнае пісаў. Сьпяваў я і ў хорах пад кіраўніцтвам розных рэгентаў ды браў удзел зь імі ва ўсіх беларускіх урачыстасьцях.

У самым пачатку лета 1952 году[56] БАЗА й Згуртаваньне беларускае моладзі зарганізавалі экскурсію беларусаў зь Нью-Ёрку й Нью-Джэрзі на вадаспад Ніягару, дзе, паводле папярэдняй дамоўленасьці, на канадзкім баку адбылася й сустрэча з групай канадзкіх беларусаў, што ўвайшла ў гісторыю нашае эміграцыі як 1-я з Сустрэчаў беларусаў Паўночнае Амэрыкі, што зьбіраюцца кожны другі год у беларускіх асяродках на зьмену ў ЗША або Канадзе[57]. Год пазьней, калі не мыляюся, была зладжаная экскурсія ў Вашынгтон.

На пачатку 1950-х гадоў зьбіралася яшчэ ў Беларускай хатцы ў Брукліне й хлапцоўская скаўцкая дружына пад кіраўніцтвам Міхася Тулейкі, што ўлетку, здаецца, 1953-га выяжджала нават на тыднёвы летні лягер, недзе на поўнач ад Нью-Ёрку. Моладзь таксама зьбіралася там на сходкі, на якіх колькі разоў Антон Адамовіч выкладаў тэорыю паэзіі, а мастак (імя ня памятаю) вучыў ахвочых рысаваць.

Ці не ад 1951 году нью-ёрская й часткова нью-джэрзійская беларускія грамады бралі ўдзел у г. зв. *Loyalty Parade*, які штогод у дзень успа-

[54] Рэч у тым, што Беларускае студэнцкае згуртаваньне было створана ў ЗША за паўгода да прыезду Барыса Данілюка ў ЗША, 27 жніўня 1950 на сходзе ў Нью-Ёрку. У 1957 г. яго перайменавалі ў Беларуска-амэрыканскае акадэміцкае таварыства.

[55] Часопіс „Віці" выдаваўся з падзагалоўкам „Часопіс маладога пакаленьня" з чэрвеня 1952 г. да лютага 1957 г. Выйшла 10 нумароў.

[56] Сустрэча адбылася 4—6 ліпеня 1952 г.

[57] 2-я Сустрэча беларусаў Паўночнай Амэрыкі таксама прайшла ў Канадзе (Таронта, 1956), 3-я і 4-я — у ЗША (Нью-Ёрк, 1958, Кліўлэнд, 1960), 5-я — у Канадзе (Таронта, 1962), 6-я і 7-я — у ЗША. Такім чынам, прынцып правадзіць адну сустрэчу ў Канадзе, адну ў ЗША не вытрымліваўся.

міну загінулых у войнах за Амэрыку вайскоўцаў ладзілі амэрыканскія вэтэраны[58].

Беларуская калёна з нашымі вэтэранамі ва ўніформах і пад беларускімі й амэрыканскімі сьцягамі наперадзе ды з моладзьдзю ў народнай вопратцы ўсьлед, а далей і немалой колькасьцю некаторых таксама ў такой жа вопратцы сталых людзей, маршыруючы па 5-й авэню, рабіла вельмі добрае ўражаньне. Раз ці больш быў запрошаны на трыбуну знатных прымальнікаў парадаў і ўладыка Васіль. Гэтыя парады адбываліся, мабыць, праз два дзесяцігодзьдзі, пакуль недзе, ці не пад канец 1960-х гадоў, іх самыя вэтэраны спынілі[59].

У канцы ліпеня 1954 году ў Нью-Ёрк прыехаў з Аргентыны, услаўлены там беларускі дзеяч наваградчанін Канстанцін Мерляк[60], які адразу ўпрогся ў дзейнасьць нашае эміграцыі, трэба сказаць, што з даволі хуткімі асягненьнямі ў дачыненьнях з амэрыканскімі палітыкамі. Асабліва з увагі на гэтыя ягоныя асягненьні, але таксама й з здавяленьня зь ягонае ахвоты браць і выконваць усялякія грамадзкія абавязкі, на якія іншым не ставала часу або ўпадабаньня, яму гэтых абавязкаў даручылі ўволю, і Мерляк уявіў сябе непамыльным, як рымскі папа, павадыром ды пачаў адпаведна дзеяць ды абыходзіцца з сваімі супрацоўнікамі, аб чым будзе нямала сказана тут далей.

Увосень 1954 году мяне выбралі сакратаром і скарбнікам у адной асобе парахвіяльнае рады прыходу сьв. Кірылы Тураўскага, і я адразу запрапанаваў выдаваць парахвіяльны бюлетэнь, з чаго ўсе ўсьцешыліся, але скарыстаў уладыка Васіль, бо на назьбіраныя на гэта грошы пачаў выдаваць не парахвіяльны, а агульнацаркоўны часапіс „Голас Царквы“.

Мне той часапіс, як з прычыны няўдалае беларускае мовы, гэтак і дзеля часам дзяцiннага аўтарскага, г. зн. уладыкавага стылю пісьма й самахвальнага зьместу ад пачатку не падабаўся, але выдаваць другі не было як і за што.

[58] Аўтар блытае два розныя шэсьці: Парад ляяльнасьці (*Loyalty Parade*), які быў заснаваны як супрацьвага адзначэньню Першамаю (праводзіўся ў апошні тыдзень красавіка ці першы тыдзень траўня) і Парад памяці (*Memorial Day*), што адбываецца звычайна 30 траўня (ці ў апошні панядзелак траўня) у памяць усіх палеглых у амэрыканскіх войнах (напрыклад, Грамадзянскай вайны), ці войнах, што вялі ЗША.

[59] Відаць, тут маецца на ўвазе акурат Парад ляяльнасьці.

[60] Мерляк заснаваў у Аргентыне антыкамуністычнае (у гэтай краіне былі дзясяткі прасавецкіх беларускіх арганізацыяў) Згуртаваньне беларусаў.





Апрача таго з тае пары мы пачалі з уладыкам абыходзіць пасьля Вадохрышчаў з асьвячонаю вадою кватэры парахвіянаў, здабываючы гэткім чынам крыху грошай у парахвіяльную касу й самому ўладыку.

Здаецца, увесну ці ўлетку 1956 году нечакана памёр сьвятар Карпата-рускае царквы, у якой мы маліліся, і яго сям'я, што ў сапраўднасьці была собсьнікам царкоўнага будынку, замест падарыць нам або танна прадаць яго, як спадзяваўся ўладыка Васіль, спытала цану 55 000 даляраў, якіх у нас і дзясятае часткі не было. Але расейцы не таргуючыся зараз жа няварты тых грошай будынак купілі, і мы апынуліся на вуліцы.

Дзякуй Богу, аднак, тую вялікую царкву на 14-й вуліцы ў Манхэтане, дзе раней служыў а. Весялоўскі, украінцы прадалі тады ўжо нейкай амэрыканскай сэкце, што ахвоча давала ў карыстаньне нядзелямі за невялікую заплату зальку, у якой нашая парахвія правіла нялюдна наведваныя божыя службы болей, як год.

Зразумелая рэч, што ў выніку нялікага наведваньня ранейшымі парахвіянамі адправаў пацярпела й парахвіяльная каса так, што ўжо станавілася цяжка заплаціць уладыку, як было дамоўлена, нават 40 даляраў у тыдзень. З Божае ласкі ад голаду й бяздомнасьці выратавала, аднак, нашага архіпастыра радыё „Вызваленьне“, беларуская рэдакцыя якога запрасіла яго ў другой палове 1950-х за нейкую невысокую заплату чытаць кожны тыдзень перадаваныя на Бацькаўшчыну пропаведзі.

Нарэшце дзесь улетку 1957 году ненайпрыямнейшы чалавек, але ў той час высока шанаваны „дзеяч“ Мерляк пазнаёміўся з бруклінскім кангрэсмэнам Дорнам, што быў адвакатам і гандляром нерухомасьцю, і той знайшоў нам царкоўны будынак, што прадаваўся за цану на ўмовах, на якія мы маглі здабыцца. Будынак, праўда, быў у жахлівым стане, і аднаўляць яго не ўзялася б ніякая, апрача нашае роспачнае царквы, бо й ваколіца з-за наезду чорных з паўдзённых штатаў ды пуэртарыканцаў была ці не найгоршая ў Брукліне, зь якога белыя, хто мог пазволіць, уцякалі ў паніцы. У беларускай грамадзе купля таго будынку выклікала нябывалы энтузіязм і шчадрэйшую ахвярнасьць, як грашыма, гэтак і добраахвотнай працай. Я сам, хоць і было цяжка, ахвяраваў адразу на гэтую справу 500 даляраў[61], а пасьля ня раз дадаваў і меншыя сумы.

Разам з тым энтузіязмам зьявіліся й першыя непрыемнасьці, бо нашыя людзі ўлучна з інтэлігенцыяй уяўлялі, што ў двухпавярховым будынку, там, дзе наверсе была сьвятыня, яны зробяць залю ў наймы на ігрышчы, вясельлі й застольлі, на якія тады была мода, і з заробкаў

[61] Па тых часах амаль два месячныя заробкі.

за гэта будуць утрымоўваць будынак царквы ў залі падсподам ды атрымоўваць сабе прыбытак за іхныя ўклады.

Толькі востры й безумоўны пратэст майго бацькі спыніў гэтае асаром’е й магчымыя падатковыя цяжкасьці. На гэтым, на жаль, ня скончылася, бо нейкі шкоднік пусьціў чутку, што ўладыка Васіль, купляючы будынак, запісаў яго на сябе. І хоць уладыка запэўніваў, што гэтак не было, купчае дамовы ён, каб ня выкрылася, што кангрэсмэн Дорн за ягоныя паслугі ўзяў „камісію“ 5 000 даляраў, не паказаў.

Гэтая „камісія“ ці хабар неўзабаве адчыніў уладыку Васілю, а зь ім і прадстаўнікам БАЗА, доступ да кангрэсу й сэнату ды нават віцэ-прэзыдэнтаў ЗША, а купчую дамову кожны ахвочы мог пабачыць ці дастаць і копію ў недалёкім павятовым[62] урадзе.

Затое доступ да сэнату ЗША, дзе ўладыка штогод на 25 сакавіка чытаў прынагодныя малітвы перад адкрыцьцём паседжаньняў, а пасьля сустракаўся з тойчаснымі віцэ-прэзыдэнтамі[63] або важнейшымі сэнатарамі, што пазнаёміла высокіх амэрыканскіх палітыкаў зь Беларусяй і ўсьвядоміла іх пра нашыя незалежніцкія імкненьні, быў вялікім асягненьнем. Гэтыя візыты адбываліся штогод, аж да ўладыкавае сьмерці [у 1970 г.], пасьля якое рабіў гэта ў Гасподзе Прадстаўнікоў а. Васіль Кендыш і апошні раз у Гасподзе Прадстаўнікоў у 1982-м годзе ўладыка Ізяслаў. Удавалася гэта рабіць і а. Мікалаю Лапіцкаму.

Успомненыя абодвы непаразуменьні ў Бруклінскай парахвіі даволі хутка ўляглiся, і 3 лістапада 1957 году ў Саборы, названым на маю прапанову імём сьв. Кірылы Тураўскага, хоць яшчэ й без іканастасу, адбылася першая Божая Служба пры вялікім зборы маленьнікаў.

Пабудова іканастасу, за якую ўзяўся прафэсійны тэхнік Уладзімер Русак, стала трэцяй непрыемнасьцяй у парахвіі, бо выканавец паставіў гэткую брыдоту, што ўсе жахнуліся й, пастанавіўшы яе раскідаць, зьвярнуліся да мяне здумаць нешта гажэйшае.

Я не адмовіўся й спраектаваў хоць і просты, але лепшы, на маю думку, і больш дэкарацыйны ды падыходны пад новагатыцкія кроквы будынку іканастас, што не каштаваў дорага й стаіць у Саборы да сёньняшняга дня, хоць малазнайныя маляры і „ўхарашальнікі“ раз за разам псуюць ягоны прадбачаны выгляд.

[62] Павет — тут *county* (акруга), адміністрацыйны падзел штату.

[63] У 1953—1961 гг. за часамі прэзыдэнцтва Дўайта Эйзэнгаўэра віцэ-прэзідэнтам быў Рычард Ніксан, у 1961—1963 гг. за прэзыдэнцтвам Джона Кенэдзі (1961— лістапад 1963) — Ліндан Джонсан, пасьля таго, як Л. Джонсан па забойстве Кенэдзі заняў пасаду прэзыдэнта, месца віцэ-прэзыдэнта было вакантнае. У 1965—1969 гг. віцэ-прэзыдэнтам быў Г’юбэрт Гамфры, у 1969—1973 — Сьпіра Агню.





Русак мне тае „абразы“ не дараваў і пажаліўся доктару Стасю Грынкевічу, а той, хоць быў знаёмы са мною, ня ўверыўшыся ў праўдзе, грымнуў па мне артыкулам „Адзнакі маскоўскага сэрвілізму“ на бачынах газэты „Бацькаўшчына“.

Пасьля куплі будынку, калі бацька пачаў ізноў служыць з уладыкам Васілём і яму пастанавілі нешта плаціць, я на чарговым парахвіяльным сходзе адмовіўся ўвайсьці ў парахвіяльную раду, і на маё месца скарбнікам стаў Уладзімер Русак, а замест інжынэра Мікалая Гарошкі на старшыню быў выбраны Міхась Тулейка. Неўзабаве пасьля гэтага скончыліся неабходныя рамонты, і парахвія пачала жыць нармальным жыцьцём, адправы ішлі рэгулярна кожнае нядзелі, падчас іх сьпяваў нядрэнны хор пад кіраўніцтвам Андрэя Каптуровіча, працавала й суботняя школка для дзяцей. Спахапіліся былі прыкупіць або развалены драўляны дамок зь вялікім пляцам уперадзе царквы, або трохпавярховую мураванку з боку царквы, што прадаваліся за вельмі нізкую цану, але без уладыкавага падбадзёраньня на пазьней непапраўную невыгоду й шкоду для парахвіі на гэтую патрэбу забыліся.

Затое парахвіяне тады яшчэ ньюбрансьвіцкае парахвіі ў Нью-Джэрзі [парафіі Жыровіцкай Божай Маці ў Гайлэнд-Парку], хоць і перасварыўшыся, усё ж купілі ўлетку 1959 году ў недалёкім Іст-Брансьвіку 3,5 акра зямлі на могілкі, якраз у пору, каб пахаваць на іх двох першых нябожчыкаў[64].

Перад гэтым, аднак, зьявіўся новы клопат — выехалы ў Аўстралію й аселы ў Пэрце галава БАПЦ архіяпіскап Сергій апынуўся ў жахлівым становішчы — на жыльлё ў сьпякотным клімаце ён атрымаў нейкую паўразваленую буду, а платы амаль ніякае, бо нашыя нялікія там імігранты толькі пачыналі станавіцца на ногі й мала маглі дапамагчы. Наш першаярарх пачаў пісаць роспачныя лісты, у тым ліку й да майго бацькі, з просьбай дапамагчы яму хоць крыху грашыма на харчаваньне ды забраць яго ў Амэрыку. Пакуль я быў скарбнікам парахвіяльнае рады, мы зрабілі збор грошай і паслалі яму невялікую суму, а ў справе ягонага пераезду ў Амэрыку, здаецца, ніхто нічога не зрабіў.

[64] Аўтар выпусьціў зь віду, што рэлігійныя апанэнты з парафіі сьв. Эўфрасіньні Полацкай у Саўт-Рывэры яшчэ ў 1956 г. купілі пляц пад парафіяльныя могілкі, першае пахаваньне там фіксуецца 1956 годам: у гэтым годзе там пахавалі Сьцяпана Прыдыбайлу.

Ад жабрацкага жыцьця выратаваў яго пазьней раскол у грэцкай праваслаўнай царкве ў Аўстраліі, калі 13 іхных парахвіяў адракліся ад іхнага япіскапа й запрасілі нашага ўладыку пераехаць у Адэляйду й ачоліць іхную юрысдыкцыю. Рэшту свайго жыцьця наш Першаярарх пражыў у манаскім дастатку й асабліва высокай пашане ад ягоных грэцкіх вернікаў, што нават пасьля яго сьмерці ў 1971-м годзе ўрачыста пахавалі яго седзячы ў адмысловай дамавіне ды, як паказваюць нядаўнія здымкі, дасюль утрымоўваюць ягоную магілу ва ўзорным стане. Грэкі пасьля пагадзіліся й зноў задзініліся, але Канстанцінопальскі патрыярхат за ўмяшаньне ў іхны раскол заварагаваў на БАПЦ ды дасюль, мабыць, не адпусьціўся. Аднак па гневе нашчадкаў зьніклае Бізантыйскае Імпэрыі такое бяды, бо як паказала згода Канстанцінопалю ў 1924-м годзе на аўтакефалію Польскае праваслаўнае царквы, у якой не было ніводнага праваслаўнага паляка, за грошы можна купіць ад тае імпэрыі й прызнаньне царкоўнае незалежнасьці, абы ўперш была дзяржаўная.

Разам з парахвіяльным жыцьцём пасьля прыдбаньня ў Брукліне собскага будынку ажывілася й дзейнасьць БАЗА ды Згуртаваньня беларускае моладзі, довадам чаго стала сустрэча новага 1959-га ці 1960-га году, на якой у грамадзкай залі не хапіла месца ахвочым узяць удзел. Таксама ад пачатку 1960-х пачалі для прэстыжу ладзіць сьвяткаваньні 25 Сакавіка замест найманай школьнай залі ў Манхэтане, там у гатэлі Білтмор на 43-й вуліцы з кактэйлам для гасьцей. У мастацкай частцы сьвяткаваньняў няраз сьпявала пад матчын акампанэмэнт дачка кампазытаркі Эльзы Зубковіч, сапрана Ліза Маркоўская, а таксама выступаў і моладзевы танцавальны гурток.

Тымчасам гаспадар дому, у якім мы жылі, прадаў яго, і мы, не знайшоўшы большае, мусілі — бацькі сабе, а мы сабе — наняць дзьве асобныя меншыя, хоць і блізкія адна ад аднае кватэры. Частка Брукліну, куды мы перасяліліся, у тую пору была яшчэ даволі добрая й амаль цалкам заселеная эмігрантамі з Эўропы, найбольш жыдамі-„літвакамі“, а таксама „палякамі“ й „рюсскімі“ з нашага краю, што маліліся кожны ў сваёй сынагозе, касьцёле ці царкве. Пагоднымі летнімі надвячоркамі пэнсіянэры з гэтых і крыху новых эміграртаў зьбіраліся ў блізкім невялікім парку, г. зв. „брахалаўцы“, каб папалітыкаваць.

Я, здаецца, у 1956 годзе купіў на сплату самаход, каб даязджаць усюды, куды здаралася патрэба ехаць, незалежна ад публічнага транспарту. На пачатку 1958 году ў нас сталася бяда — бацька, выціраючы на працы лямпы, упаў з драбінкі й, выцяўшыся аб край стала, паламаў





дзьве ці тры рабрыны ды апынуўся ў лячэўні, дзе яго пратрымалі колькі дзён, а пасьля забаранілі ісьці назад на работу ды загадалі даволі часта прыходзіць на агляды. Бацьку, урэшце, гэтая валакіта гэтак надакучыла, што ён кінуў працу й пайшоў на невялікую дзяржаўную пэнсію, якой, аднак, было даволі, каб плаціць за наймы кватэры й купляць харчы.

На жаль, пад канец 1950-х і гэтае спакойнае жыцьцё пачало псавацца, бо й да тае часткі месца, дзе мы тады жылі, дакацілася хваля чорных перасяленцаў з паўдзённых штатаў ды пуэртарыканцаў. Нам, апрача заняпаду навакольля, насьпявала патрэба на большае жыльлё з цэнтральным аграваньнем і ў нядрэнным месцы, бо спадзяваліся недалёкага прыбытку ў сям'і.

Той прыбытак — нашая дачушка, якой мы выбралі імя Ліда, прыйшла на сьвет якраз на Вадохрышча 1959 году. Мая гаспадарная жонка да тае пары здолела заашчадзіць колькі тысячаў даляраў — якраз даволі на задатак за дом, які мы нарэшце наважыліся купіць.

Аднак ажыцьцявіць нашую навагу не было так лёгка, бо купіўшы танна там, дзе мы жылі, мы толькі змарнавалі б нялёгка здабытыя грошы, а ў лепшых месцах, колькі я ня езьдзіў, дамоў на продаж, асабліва патрэбных нам з увагі на бацькоў — найменш двохсямейных — не было. Нарэшце пасьля пары месяцаў дарэмных пошукаў адзін гандляр нерухомасьцямі намовіў мяне падзівіцца на дом вонках Нью-Ёрку, але пры самай мяжы зь месцам і з даволі выгодным даездам чыгункай ды аўтобусам.

Драўляны двохспаловыпавярховы дом, што ён мне паказаў, быў стары й занядбаны, ды да таго стаяў на малым пляцы, але ў спакойнай і прыгожай частцы мястэчка Флорал Парк, з абсаджанымі старымі дрэвамі вуліцамі-алеямі, блізкімі школамі й, хоць афіцыйна ў ім былі дзьве кватэры, у сапраўднасьці іх было тры — якраз тое, што нам было патрэбнае й чаго мы шукалі.

Агледзеўшы будынак цэлай сям'ёй, мы, даўшы колькі тысячаў задатку, а на рэшту ўзяўшы ў банку на 20 год пазыку, купілі й на прадвесьні 1959-га году туды перабраліся. Мы занялі чатыры пакоі з кухняй на другім паверсе ды яшчэ пакой на падстрэшшы, а бацькі палову першага, пакідаючы другую на наймы. Давялося амаль усе пакоі перамалёўваць і нямала чаго паправіць, у тым ліку й апырскаць атрутай ад пад'елага падлогу й хатнюю падрубіну пад пярэднім прыменам шашаля. Што я й зрабіў, улезшы праз цеснае ваконца. Але жыць стала раскашней самім, і зараз жа знайшлася маладая пара з двойгам дзяцей, што наняла трэцяе памяшканьне.

Злажыўшы іхную плату за наймы зь невялікімі грашыма, што плацілі бацькі, нам абоім працуючым сплачваць пазыку не было дужа цяжка, заставалася й на іншыя патрэбы.

Аднак я з мае працы ня быў задаволены, бо ўважаў, што плацілі мне мала, вышэйшага становішча без праходжаньня адмысловых курсаў і экзамэнаў спадзявацца не было як, а падвышкі, хоць фірма й давала рэгулярна, былі вельмі скупыя.

Таму не разгледзеўшыся, я паслухаў інжынэра Мікалая Гарошку, што быў заняты будовай дамоў, і наважыўся таксама пайсьці ягонай дарогай, скарыстоўваючы колькі тысяч даляраў, што ў нас яшчэ засталіся ад куплі дому, на куплю зямлі й матэрыялаў на будову.

З гэтага неразважнага надуму я зрабіў, мабыць, найбольшую дурніцу ў маім жыцьці, бо ўлетку 1959-га пакінуў датулешнюю працу й пайшоў работнікам на будову, каб прыгледзецца да будовы й навучыцца, як ёю заняцца. На новай і цяжкой працы мне хапіла аднаго месяца, каб пераканацца, што ўлез не ў сваю справу, але дарогі назад не было.

Пасьля гэтага я гадоў пяць або ніяк ня мог знайсьці якое-колечы працы, або знаходзіў малаплатныя ці зусім бясплатныя заняткі. Спачатку я спрабаваў памагаць украінцу, гандляру нерухомасьцямі, прадаваць дамы, але за два месяцы нам ледзь-ледзь удалося прадаць адзін дом, за што мне мой гаспадар нічога не заплаціў, і я ад яго пайшоў.

Усьлед за гэтым колькі месяцаў ня шчасьціла нічога знайсьці, і я, карыстаючы з таго, што жонка працавала на лепшай адзежы й нядрэнна зарабляла, аблажыў цеплавой ізаляцыяй, абабіў новай гіпсавай асьценкай, абмазаў і памаляваў пакой на падстрэшшы, зрабіўшы сабе працоўны габінэт.

Дзеля таго небясьпечнага факту, што нашая парахвія сьпярша была зарэгістраваная паводле кароценькага й невыразнага штатнага закону, што датычыў Украінскае праваслаўнае царквы, у нас, пасьля куплі царкоўнага будынку, зьявілася патрэба займець свой асобны штатны закон, каб паводле яго перарэгістраваць парахвію. Адвакатам за ўлажэньне такога, можа, невыгоднага й неўпадобнага закону трэба было б заплаціць вялікія грошы, дык здаволіць патрэбу давялося мне, што я асягнуў, зрабіўшы кампіляцыю важнейшых параграфаў з законаў аб іншых цэрквах.

Мой праект закону быў ухвалены адвакатам і, пасьля заплаты аднаму з райчых Нью-ёрскае штатнае асамблеі, прадстаўлены на разгляд гэтае ўстановы ды прыняты ёю бязь зьменаў. Гэты закон дзейны й да сёньня, а знайсьці гэты тэкст можна на сеціве пад клічам: *Religious Corporations Law of the State of New York, Article XVIII*.





На 28—29 траўня 1960 году быў скліканы 1-ы Сабор Амэрыканскае япархіі БАПЦ, што разгледзеў ейны тагачасны стан і прыняў неабходныя пастановы ды выбраў епархіяльнае кіраўніцтва. Апрача таго была выбраная камісія для перакладу богаслужбовых тэкстаў, у якую ўвайшлі Міхась Міцкевіч, доктар Янка Запруднік і я.

Мой бацька папярэдзіў камісію, што, паколькі богаслужбовыя тэксты выводзяцца з псальмаў, дык і перакласьці ўперад трэба псальмы. Ягоныя словы, на жаль, пайшлі на вецер, бо, як мне здаецца, з уладыкавае неахвоты, каб гэтым заняўся хто іншы, акрамя яго, камісія ні разу не была склікана на паседжаньне і нічога, як і сам уладыка, не зрабіла.

Да вясны 1960 году нашая дачушка ўжо пачала хадзіць ды нават крыху гаварыць, дык мой бацька так зьлюбіў яе, што апрача гульні зь ёю ў хаце ня мог дачакацца, каб павазіць у возіку па цяністых вуліцах, усё з думкай, каб не забылася яго пасьля ягонай сьмерці.

Гэтай ягонай думцы, на жаль, не давялося збыцца, бо ўвечары 28 ліпеня яго схапілі моцныя болі ў грудзёх, а ніякага леку на палёгку не было, і ён прамучыўся да раніцы, калі мы выклікалі лекара, які таксама ня змог дапамагчы. Урэшце пасьля паўдня болі, як быццам, сьціхлі, і бацька, на выгляд, задрамаў, але неўзабаве ўздыхнуў і гэткім чынам аддаў Богу душу ў пятніцу, 29 ліпеня 1960 году.

Мне да канца жыцьця ў сэрцы засталася ўдзячнасьць беларускай грамадзе ў Нью-Ёрку й Нью-Джэрзі за найбольшую з усіх паховінаў у нашых сьвятынях і могілках урачыстасьць, зь якою хавалі майго бацьку. Бацькавая дамавіна ў Саборы была густа абстаўленая вянкамі й букетамі кветак, а пасьля паніхіды пры ёй з суботняга вечара да нядзельнае раніцы цэлую ноч стаяла, зарганізаваная малодшым Міколам Абрамчыкам[65], пачэсная вэтэранская варта, ды на раніцу ў нядзелю прыехала дэлегацыя ад парахвіі ў Кліўлэндзе з рэгентам Канстанцінам Кіслым, які ўмецка пакіраваў хорам на пахавальнай адправе.

Бруклінская сьвятыня была поўная маленькікаў, і нават на могілках у Іст-Брансьвіку сышлося гэтулькі людзей, што насуперак штатным правілам давялося адчыніць дамавіну, каб усім даць магчымасьць разьвітацца зь нябожчыкам. Да гэтага яшчэ была зробленая зборка грошай, і за назьбіраныя каля 1 000 даляраў улетку 1962 году на бацькавай магіле быў пастаўлены помнік, выгляд і праект якога надумаў я сам.

---

[65] Размова пра пляменьніка прэзыдэнта БНР — Міколу Абрамчыка (1922—2005), актывіста БАЗА, старшыню Галоўнай управы Нью-ёрскага аддзелу БАЗА ў 1960-х гг.

Боль з прычыны бацькавае, хоць і прадбачанае на некалі, але ўсё роўна неспадзяванае сьмерці мучыў мяне блізка году, бо нягледзячы на тое, што я ўжо быў у сталым веку й больш кемлівы за яго ў жыцьцёвых справах і парадках на чужыне, нястача ягонае навукі й парадаў, зь якімі я хоць і не заўсёды згаджаўся, штодзённа мне дакучала й трывожыла з кожным учынкам. Палёгка прыйшла толькі пасьля таго, як пры асьвячэньні помніка, я, забыўшыся на сорам, горка расплакаўся.

Якраз у той самы дзень, калі памёр мой бацька, мяне ўзялі на працу ў паветавым аддзеле публічных работаў, быць памочнікам аднаго з каморнікаў ці мернікаў. Праца не была цяжкая, але дакучлівая, бо цэлымі днямі даводзілася цягацца зь мернай устужкай, або г. зв. латай па балотах і хмызьняках, ды плацілі скупа, але ў будучыні можна было даслужыцца павышэньня ў тым самым або іншым аддзеле ды зарабіць дадатковую да дзяржаўнае пэнсію.

На гэтай працы мне, на жаль, затрымацца не пашчасьціла, бо на прадвесьні 1961 году мая маці захварэла й зьлягла, дык давялося звольніцца, і таму, што жонка працавала ўдзень, шукаць працы ўначы. Знайсьці яе дапамог мне малодшы Мікола Абрамчык, зь якім я пачаў працаваць, чысьцячы й прыбіраючы канцылярыі, ці па-ангельску „офісы“.

Наўзьверх маіх непрыемнасьцяў з працай, у канцы вясны 1961-га сталася ў нас і яшчэ адна сямейная бяда: наш сын, скончыўшы сярэднюю школу, замест таго каб пайсьці ў каледж, запісаўся з двума ягонымі калегамі ў марскую пяхоту, ці па-амэрыканску *marines*, і, ня слухаючы нашых упрошваньняў, упёрся, каб мы падпісалі яму, як непаўналетняму, дазвол ісьці ў войска. А калі не падпісалі б, ён усё роўна пайшоў бы служыць, неўзабаве асягнуўшы 18 год.

Праз пару тыдняў пасьля ягонага ад'езду мы пачалі атрымоўваць лісты з жальбамі на нялюдзка-зьдзеклівае абыходжаньне з рэкрутамі ў марскім падрыхтоўчым асяродку на *Paris Island*, але ўжо было запозна — пастка запала, сьпярша быццам на чатыры гады, а пазьней, з прычыны вайны ў В'етнаме, яшчэ больш як на год.

На маёй новай працы жыды, гаспадары фірмы, у якой я пачаў працаваць, неўзабаве заўважылі, што я больш пісьменны за іншых работнікаў, ды паставілі мяне наглядчікам над блізка двума дзясяткамі ў большасьці чорных жанчын і мужчынаў, што чысьцілі 43-х-павярховы будынак на рагу 34-е вуліцы й 7-е авэню ў Манхэтане, а да таго прыкінулі яшчэ два меншыя будынкі на той самай авэню.

Праца, на першы погляд, здавалася быць лягчэйшай за тую, зь якое я пачаў, але неўзабаве далася ў знакі тым, што трэба было дапільноўваць стараннасьці работнікаў, а ў мяне быў замяккі характар, каб зрабіць вымову, або хоць зьвярнуць увагу за нядбайлівасьць. На дзіва, гэтая мая мяккасьць і ветлівасьць лепш аплацілася за суворасьць, бо мае работнікі ўпадабалі маё людзкае абыходжаньне зь імі й спраўляліся зь іхнымі абавязкамі сумленна.

Праўда, з самага пачатку я заўважыў, што два чорныя мужчыны няраз у працоўныя гадзіны недзе прападаюць на даволі доўгі час, і я мусіў праз гэта зь імі пагаварыць. Напалоханыя, яны адразу прызналіся, што хоць і жанатыя, але маюць у іншых будынках каханак-прыбіральніцаў, да якіх бегаюць на любошчы, і прасіліся, каб я ня выкінуў іх з работы, з удзячнасьці за што яны будуць спраўляцца лепш за іншых. Не знайшоўшы ў сабе цьвёрдасьці адразу прагнаць, я папярэдзіў іх, каб былі больш асьцярожныя й не навялі на самых сябе й на мяне вачэй вышэйшых начальнікаў. Я больш ня меў зь імі ніякага клопату.

Самая праца, хоць быццам і лягчэйшая цягліцам, была, аднак, дакучлівая й уморная тым, што за гадзіну перад ейным пачаткам я ўжо мусіў зьяўляцца ў галоўны офіс па інструкцыі на амаль заўсёдныя адмысловыя запатрабаваньні, людзкае вячэры ня еў і варочаўся дамоў а 4-й гадзіне раніцы, пасьля чаго на крыху засынаў, але перад полуднем прачынаўся, каб прыгатаваць якую страву, пасьля чаго, увіхнуўшыся з чым-колечы, што трэба было зрабіць у хаце, узноў пускаўся ў дарогу ў Нью-Ёрк.

Найгорш дапякала й трывожыла мяне тое, што кожную пятніцу я мусіў забіраць з галоўнага офісу поўны партфэль канвэрцікаў з паўкладанымі ў іх грашыма заплаты работнікам ды ісьці з тым партфэлям некалькі кварталаў, думаючы ўвесь час, што мяне раней ці пазьней аграбяць, а можа й пакалечаць. Таму, калі пад восень маці ачуняла, я пастанавіў звольніцца, але для прычыны папытаў на пару дзясяткаў даляраў вышэйшую тыднёвую заплату, якую мне адмовілі, і я з тае працы пайшоў.

На бяду, знайсьці нейкую іншую працу зноў доўга не ўдавалася, ды давялося больш паўгоду быць безработным.

Гэты час я скарыстаў на паважную перапробку нашае кватэры: перанёс кухню ў задні прымен і дадаў да яе сьняданкавы пакойчык, на месцы кухні зрабіў полудню (сталовую), а ні то полудню, ні то гасьцёўню перарабіў на прасторную гасьцёўню. Гэтая перапробка пазьней значна падняла цану на нашую хату, калі мы наважыліся яе прадаваць.

У тую пору, калі нашая парахвія купляла царкоўны будынак у Брукліне, а мы задтуль выбіраліся, занепадалі ня толькі амэрыканскія месцы, але пачыналі пусьцець і пераважна жыдоўскія лецішчы ў невысокіх

Кэтскільскіх гарах, што гадзіны дзьве-тры язды самаходам ад Нью-Ёрку. Прычынай на гэта было выміраньне й старэньне ранейшых жыдоўскіх імігрантаў, адукаваныя й пабагацелыя дзеці якіх ужо не хацелі адпачываць па-бядняцку ў Кэтскілс, а езьдзілі з гэтай мэтай у Фларыду або Каліфорнію ці нават за мяжу.

У выніку гэтага цэны на адпачынкавыя асяродкі, звычайна з колькіма будынкамі, басэйнам і немалой плошчай некранутага лесу, значна ўпалі, і на іх пачалі зьяўляцца купцы з новапрыехалых імігрантаў ці ранейшых *DP*.

Зрасейшчаныя „чырвоныя“ беларусы, каб аддзяліцца ад хоць і ня вельмі „белых“ землякоў, што мелі фарму РОВА[66] ў Нью-Джэрзі, купілі сабе іхнай прасавецкай арганізацыяй РОВА-фарму ў Кэтскілс. Украінцы таксама праз дзьве іхныя арганізацыі купілі два вялікія лецішчы ў тых самых Кэтскілс.

Сярод жменькі, раўнуючы да іншых, нашых імігрантаў таксама знайшліся адважнікі й ахвотнікі паказаць, што мы ня горшыя, і 24 чэрвеня 1961 году ў грамадзкай залі Катэдральнага сабору сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне склікалі даволі людны сход, каб заснаваць суполку для куплі беларускага лецішча, ці як пачалі па-амэрыканску называць „рэсорту“, тамсама, дзе іх ужо займелі нашыя суседзі.

Прапанова, на дзіва, амаль усім спадабалася, і сход адразу выбраў управу суполкі, у складзе Васіля Юрцэвіча, Уладзімера Пелясы й Юрыя Станкевіча, што мела пачаць збор грошай і пошук аб’екту. Я, ня маючы тады грошай, адразу да тае суполкі не далучыўся, а зрабіў гэта ці ня год пазьней, калі знайшоў працу. Праца была малаплатная, але зь няйма іншае давялося зачапіцца за яе, тым больш што была блізка хаты. Фірма, што ўзяла мяне на работу, займалася развожаньнем газэтаў па крамах і кіёсках у шырокай ваколіцы, а маё заданьне было цэлымі днямі друкаваць на адмысловай машыне лісты, на якіх іншы работнік значыў колькі й якіх газэтаў ды куды трэба было завезьці ў той дзень.

Занятак быў нудны, пасьля васьмі гадзінаў няспыннага націсканьня панажа балела правая нага, майму начальніку, друкару-італьянцу, я ніяк ня мог дагадзіць, а яшчэ вышэйшы начальнік — паўгаспадар фірмы, што займаўся гаспадарчымі справамі, меў эксплюататарскі й непрыемны характар. Усё ж я, напалоханы безрабоцьцем, вытрымаў больш як два гады гэтае пакуты, і, толькі пажаліўшыся на боль у правай назе, быў адразу звольнены ў канцы 1964 году.

[66] *РОВА — Российское общество взаимопомощи в Америке.*





Гэтым разам мне пашчасьціла быць нядоўга безработным, а неўзабаве знайсьці лепшую й больш трывалую працу. Памог мне ў гэтай справе Міхась Тулейка, што працаваў красьляром (чарцёжнікам) у інжынэрнай фірме, што займалася праектаваньнем дарогаў і мастоў, грошы на што ішлі з фонду вядомае праграмы будовы стратэгічных шляхоў, якое дамогся прэзыдэнт Айзэнгаўэр. Тулейка параіў мне прыгатаваць узор мае красьлярскае працы й зарэкамэндаваў мяне ягоным начальнікам-інжынэрам, што адразу ўзялі мяне на работу, даўшы 80 даляраў платы ў тыдзень.

Пачаўшы працаваць у той фірме ў палове студзеня 1965 году, недзе вясною я пачуў, што ў ня надта далёкім мястэчку ад таго, дзе мы жылі, ёсьць іншая інжынэрная фірма, што шукае красьляроў і плоціць ім болей. Толькі даяжджаць туды трэба было собскім самаходам. Не ўразумлены датулешнімі клопатамі з працай я, кінуўшы ўжо знойдзенае працоўнае месца, пайшоў у тую фірму за крыху вышэйшую заплату. На жаль, ужо пасьля двох тыдняў я пачаў шкадаваць, што зрабіў неразважны крок — маім непасрэдным начальнікам быў малапісьменны й хамаваты італьянец, інжынэры былі няветлівыя й пагардлівыя да красьляроў, а атмасфэра ў фірме была прыгонная, а да таго даезд самаходам у завозныя поры дня быў пакутай.

З роспачы я адважыўся пазваніць майму папярэдняму нагляднаму інжынэру й папрасіцца назад, на што той згадзіўся й даў вышэйшую заплату ажно 130 даляраў у тыдзень. У той фірме й з тым інжынэрам я адпрацаваў 25 год, пакуль не пайшоў на пэнсію.

Праз тых колькі год, калі ў мяне былі клопаты з працай, беларуская дзейнасьць у Амэрыцы, натуральна, не спынялася, і я браў у ёй удзел, улучна да сяброўства ў парахвіяльнай радзе.

Варочаючыся да месца ў часе, у якім я спыніў гутарку, трэба сказаць, што задума прыдбаць грамадзкае лецішча не была саламяным агнём, а збор грошай на гэтую мэту ішоў далей, і я даў першы ўклад на гэтую мэту, 100 даляраў. Недзе, ці не на вясну 1962 году, знайшоўся й патрэбны аб’ект — 75-акравы рэсорт Бэлэр (*Belair*) у *Glen Spey*, гадзінаў каля трох язды самаходам ад Нью-Ёрку. Былі ў ім два вялікія дамы-гатэлі й тры баракі з пакоямі ў наймы, плыўны басэйн і доступ да невялікага возера, па якім можна было паплаваць у чайцы (лодцы). Перашкодай займець гэтае лецішча была, аднак, хоць і зьніжаная, але для нас яшчэ завысокая цана, здаецца, больш-менш 75 000 даляраў. Здабыць неабходныя на задатак грошы ўсё ж спосаб знайшоўся — ад 75-акравае плошчы рэсорту адрэзалі збоку ў лесе 10 акраў і, падзяліўшы на ½ ак-

равыя рэзкі, прадалі сябрам суполкі па 1 000 даляраў кожная. Мы самыя, неяк наскробшы даволі грошай, таксама ня ведаю ўжо навошта купілі адну з гэтых рэзкаў.

Радасьці й гонару з куплі лецішча было поўна, але й працоўнай ахвярнасьці далажылася нямала, асабліва з боку нашых палешукоў. На дзіва, над якім ніхто тады не задумаўся, да справы далучыліся ды даволі шмат працавалі й г. зв. „зарубежнікі“.

Супольнымі натугамі лецішча Бэлэр-Менск да вясны 1963 году было адноўленае і ўпарадкаванае, ды на пачатку ліпеня ўрачыста адчыненае й асьвячонае. На жаль, ужо адразу тады вылезла наверх нязгода, бо „зарубежнікі“ не схацелі дапусьціць, каб лецішча асьвяціў уладыка Васіль[67], і гэты абрад выканаў а. Міхась Мацукевіч з Таронта.

Першыя два ці тры леты справы лецішча ішлі даволі добра, летнікаў хапала, каб будынкі не пуставалі, а наадварот спатрэбілася й знайшліся грошы паставіць будынак з заляй на танцы й застольлі. Пазьней, аднак, нашым людзям, асабліва зь Нью-Ёрку, надакучыла гадзінамі езьдзіць па завозных дарогах у тое самае месца, і колькасьць летнікаў або сутыднёвых наведвальнікаў пачала меншаць.

Да гэтага і ўладыка Васіль, ня маючы заступніка, ня мог пакідаць бруклінскі сабор без адправаў у нядзелі й больш іх у рэсорце, здаецца, ня правіў, што таксама пазначылася на наведваньні лецішча „крывічамі“.

Затое „зарубежны“ сьвятар Лапіцкі зь ягонымі саўт-рывэрскімі парахвіянамі й БЦРаўскімі шчыравальнікамі наяжджаў час ад часу ў Бэлэр-Менск і хітрасна вэрбаваў сабе прыхільнікаў. Ня думаю, што ў яго з гэтым былі б вялікія посьпехі, калі б у Нью-ёрскай беларускай грамадзе й парахвіі неўзабаве не зьявілася падказаная й прынесеная звонку нязгода, ды не пачаліся спрэчкі й не дайшло ўрэшце да падвойнага расколу[68].

[67] Мікалай Лапіцкі й парафія сьв. Эўфрасіньні Полацкай лічылі высьвячэньне на япіскапа ў 1949 г. Васіля незаконным і прапаноўвалі яму перайсьці ў юрысдыкцыю экзарха канстантынопальскага патрыярха ў Амэрыцы.

[68] Маецца на ўвазе: 1) сыход з парафіі Кірылы Тураўскага „групы Мерляка“ й заснаваньне парафіі сьв. Кірылы Тураўскага ў Рычманд-Гіле, якая перайшла ў юрысдыкцыю канстантынопальскага патрыярха. Дзейснае падтрыманьне ім аказала саўт-рывэрская парафія й пэрсанальна Мікалай Лапіцкі. 2) Канфлікт Мерляка — у 1963 г. старшыні БАЗА — з кіраўніцтвам Рады БНР, у тым ліку й наконт поглядаў на аб'яднаньне з крылом, прыхільным да плятформы БЦР, прывёў да выцясненьня Мерляка й ягоных⇨





Бяда пачалася, здаецца, у БАЗА й Радзе БНР, а ейнай прычынай стаў Канстанцін Мерляк. Апісваць драбніцы, як да расколу дайшло, заняло б тут шмат месца, а вынік з гэтага быў бы той самы, што й адразу можна сказаць у колькіх словах — Мерляка, за ягоную нахабнасьць, непавагу й прычэплівасьць да іншых, нават заслужаных людзей, ды самаволю сьпярша, здаецца, улетку 1964 году, адсунулі ад усялякае ўлады, а пазьней і зусім выкінулі з БАЗА й Рады БНР.

[...]

У 1962 г. была зробленая спроба ўблытаць уладыку Васіля ў бясплодныя й бясконцыя гутаркі ды перамовы пра царкоўнае „паяднаньне“ й гэтым паказаць ягоную хісткасьць у вернасьці аўтакефаліі. Сыгналам гэтае спробы быў ліст да ўладыкі Васіля ад Радаслава Астроўскага з паведамленьнем, што на Зьезьдзе беларусаў („зарубежнікаў“) Амэрыкі й Канады 2—3 верасьня ў Кліўлэндзе ў асобнай камісіі разглядалася справа Беларускае праваслаўнае царквы й таго кліна, у які завялі яе былыя ярархі. У адным з праектаў гэтае камісіі разглядалася й асоба ўладыкі Васіля, ды ў выніку гэтага разгляду Астроўскаму было даручана высьвятленьне гэтага пытаньня. З увагі на даручэньне, але дзеля цяжкасьці падарожжа з-за слабога здароўя, Астроўскі запрашаў уладыку Васіля як малодшага векам прыехаць у Кліўлэнд і сустрэцца, ды *„шчыра разважыць усе магчымасьці для аздараўленьня нашага царкоўнага жыцьця“*.

Аздараўляць гэтае жыцьцё патрэбы не было, бо гэта было асягнута праз узнаўленьне аўтакефаліі нашае Царквы на Саборы ў Канстанцы, і запрашэньне на нейкі торг у гэтай справе было нахабнаю абразай, на якую ўладыка не панізіўся адказаць.

Што да вышэй успомненых хітрыкаў, то вялікае мудрасьці, каб разлажыць і зьліквідаваць беларускую эміграцыю як палітычную сілу, патрэбы не было — хапіла б адно захапіць толькі што здабытыя асяродкі з будынкамі, а ў першую чаргу Катэдральны сабор сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне, каб разагнаная па прыватных кватэрах незалежніцкая дзейнасьць зьнемаглася й замерла. Патрэбен быў толькі чалавек, што нават не разумеючы, што робіць, стаў крыніцай інфармацыі пра жыцьцё саборнае парахвіі й беларускіх арганізацыяў, а да таго й

⇨ прыхільнікаў з БАЗА (Мерляк прайграў далёка не бездакорныя выбары старшыні БАЗА ў 1963 г.) і заснаваньне імі Беларуска-амэрыканскае аб'еднаньня ў Нью-Ёрку. Гэта, відаць, і мае на ўвазе Данілюк, кажучы пра падвойны раскол.

даволі ўзьдзейны на іншых, каб упусьціць прысланага агента. І гэткі чалавек неўзабаве знайшоўся.

Ужо на адкрыцьці рэсорту Бэлэр-Менск улетку 1963 году нявыбраны, але накідлівы павадыр групы палешукоў у нашай бруклінскай парахвіі пахваліўся мне, што быў на нейкай урачыстасьці на прасавецкай фарме АРОВА, дзе меў гутарку з амбасадарам БССР у ЗША, што выказаў ахвоту наведаць нашае лецішча, калі ніхто, у тым ліку й я, ня будзе супраць гэтага. Узяўшы гэта больш за жарт, як праўду, я на адчэпнае адказаў, што калі таму амбасадару хочацца, дык няхай прыедзе, і больш праз гэта, пакуль ня стала запозна, ня думаў.

Калі ж стала запозна, я даведаўся, што той паляшуцкі павадыр ня толькі быў на фарме АРОВ'а, але й ня раз наведваў самую амбасаду БССР у Нью-Ёрку, прабуючы ўпрасіць дазволу на прыезд ягоных дзяцей ад першае жонкі, што засталіся на Бацькаўшчыне. Зразумелая рэч, што адмыслоўцы НКУС у гутарках зь ім, безь ягонага разуменьня, выпыталі ўсю інфармацыю праз бруклінскую парахвію й беларускую эміграцыю, што ён ведаў, ды скарысталі яе на спробу авалоданьня першай і абяздомленьня другой.

А ключом, што адчыніў дзьверы для гэтае спробы, стала ня раз выказванае ўладыкам Васілём жаданьне займець да помачы й павелічэньня ўрачыстасьці адправаў дыякана. Як бы ў адказ на ягонае жаданьне перад Вялікаднем 1964 году гэты дыякан зьявіўся — быў ім Юры Абрэмскі.

Уладыка Васіль быў у сёмым небе, палешукі таксама былі радыя, што гэта быў іхны зямляк, рэшта парахвіянаў да яго прыглядалася. Я адразу займеў да яго падазрэньне, бо хоць ён, дыякан, прыехаў на дарагім самаходзе ды адразу заявіў, што працуе на высокім становішчы ў нейкай інжынэрнай фірме каля Ўол-стрыт, а да гэтага супрацоўнічае з амэрыканскай выведнай службай *FBI* [ФБР], на довад чаго махнуў мне перад носам нейкім дакумэнцікам.

[...]

Усе нашыя засьцярогі, аднак, былі дарэмныя, і ўладыка ім веры не даваў, а казаў, што Абрэмскі прынёс граматы пра ягонае высьвячэньне й службу дыяканам ад япіскапа Матэўша (Сямашкі) з Польскае праваслаўнае царквы ў Лёндане й Сьвята-Мікалаеўскага Сабору ў Нью-Ёрку, зь якога ён пайшоў без адпускное граматы з-за падпарадкаваньня парахвіі Маскоўскаму патрыярхату.

[...]





Высьвячэньне было прызначана на 14 жніўня 1964 году. З той прычыны, што кандыдата на высьвячэньне сьвятара мусіць падводзіць да япіскапа ўжо высьвячаны сьвятар, што й меўся зрабіць а. Сьцяпан Войтанка, я спрабаваў упрасіць яго сына, доктара Віктара Войтанку, каб намовіў бацьку „захварэць" і не зьявіцца на асаромнае ўсьвячэньне, але мае просьбы засталіся бяз выніку. Высьвячэньне адбылося ў вызначаны дзень і завяршылася застольлем з радаснымі віншавальнымі прамовамі, у ім узялі ўдзел ці ня ўсе парахвіяне, апрача мяне з жонкай і сем'яў Вераб'ёў ды Касьцюкевічаў, за што ўладыка загневаўся асабліва на мяне.

Пасьля гэтага парахвіяльнае жыцьцё нейкі час ішло як бы нармальным шляхам, япіскап і сьвятар служылі адправы, на выгляд, у згодзе.

[...]

Узімку ці ўвесну 1964 году Фундацыя імя Пётры Крэчэўскага купіла ў Джамэйка Гайтс у Квінсе за атрыманую прэзыдэнтам Абрамчыкам страхоўку жыцьця скінутага амэрыканцамі на Беларусь і злоўленага ды расстралянага Саветамі суму 32 000 даляраў[69] (на задатак) чатыры трохсямейныя дамы, у адным зь якіх у меншай кватэры на першым паверсе большы пакойчык быў абернены ў зальку на грамадзкія патрэбы, а ў двох меншых меліся быць канцылярыя й бібліятэка. У іншым доме малую кватэру на першым паверсе сьпярша заняў наш праўнік Мікалай Кунцэвіч, пастаўлены на даглядніка й чысьцельніка дамоў, а восем большых кватэраў былі здадзеныя ў наймы, каб з гэтага прыбытку сплачваць узятую на куплю пазыку.

Купля пасьпела якраз у патрэбную пору, бо ў БАЗА ў чэрвені таго ж 1964 году з-за Мерляковага самаўладзьдзя, дайшло да расколу — Мерляка зь невялікай колькасьцяй ягоных прыхільнікаў выкінулі з арганізацыі, у выніку чаго БАЗА мусіла перанясьці ягоную канцылярыю з пакойчыка ў саборы сьв. Кірылы Тураўскага ў Фундацыю Крэчэўскага, а той пакойчык заняло [...] Беларуска-амэрыканскае аб'еднаньне.

Тымчасам самая агентура рыхтавалася да перайма ўлады ў парахвіі Катэдральнага сабору сьв. Кірылы Тураўскага й галоўным чынам заваладаньня царкоўным будынкам, што ўзяло б за горла дзейнасьць БАПЦ і беларускіх незалежніцкіх арганізацыяў у Нью-Ёрку, а можа й ва ўсёй Амэрыцы. Незалежніцкі бок, на жаль, гэтае небясьпекі не прадбачыў і да супрацьдзеяньня не рыхтаваўся.

---

[69] Відаць, гутарка пра Янку Філістовіча.

Праўда, уладыку Васілю ўжо ня ўсё было даспадобы, але й ён цярпеў тое, што дзеялася, хутчэй як дакуку, зь якою ні ён сам, ні разам зь ягонымі прыхільнікамі ня здолеюць даць рады. У выніку замест таго, каб арганізаваць супрацiў, ён то спрачаўся, то дагаджаў ягоным і незалежніцтву ворагам, а незадаволенае ці абуранае непарадкамі ў парахвіі патрыятычнае грамадзтва абыякавела й аддалялася ад царкоўных справаў.

З гэтае разгубленасьці ды спадзеву на заспакаеньне „па-добраму" разыходжаньняў уладыка на парахвіяльным сходзе 14 лістапада 1965 году зрабіў памылку, што неўзабаве абярнулася ў бяду, выратавацца ад якое спатрэбілася шмат клопатаў і выдаткаў. Справа ў тым, што той сход быў перавыбарны, і я, ужо разумеючы насьпелую небясьпеку, згадзіўся стаць кандыдатам на старшыню парахвіяльнае рады, каб не дапусьціць да перавыбару аблытанага агентурай Івана Казьлякоўскага[70].

У выніку галасаваньня я й мой супрацень атрымалі дакладна роўную колькасьць галасоў, ды перад сходам стала пытаньне, што рабіць: зь незалежніцкага боку была прапанова перагаласаваць, але супрацiўны бок, ведаючы, што са мною на чале парахвіяльная рада агентурных заданьняў выконваць ня будзе, крэчам дамогся, каб канцавы выбар зрабіў уладыка. Уладыка, на жаль, яшчэ не прадбачачы пасткі, замест адмовіцца, згадзіўся й аддаў голас за Івана Казьлякоўскага і гэтым сам сабе зрабіў прысуд на пакуты ад зараз жа памацнелага наступу агентуры[71].

[...]

Выявам гэтае неасьцярожнасьці й разгубленасьці быў скліканы 16 лістапада 1966 году ў Таронта III Епархіяльны зьезд. З апісаньняў нарадаў гэтых сабораў самым уладыкам Васілём у „Голасе Царквы" відаць, што калі да зьяўленьня ў бруклінскай парахвіі Юрыя Абрэмскага другі Епархіяльны зьезд, як і першы, прайшоў спакойна й даволі прадуктыўна, на трэцім ужо выявіўся наяўны ў Брукліне й падрыхтаваны наездамі агентуры ў Кліўлэнд, а не ўпярэджаны належнай сувязяй уладыкі з кіраўніком парахвіі а. Аляксандрам Крытом і царкоўным актывам раскол з-за прызначэньня ўладыкам, а ня выбараў дэлегатамі кіраўнікоў аддзелаў епархіяльнае ўправы, у выніку якога 19 дэлегатаў, часткова як з Кліўлэнду, гэтак і з Брукліну, у тым ліку й а. Крыт ды рэгент Кіслы, пакінулі зьезд[72]. Гэта і дадало адвагі ды нахабнасьці мерлякоўцам, якія імкнуліся й далей намагацца захапіць Катэдральны сабор сьв. Кірылы Тураўскага, з упэўненасьцю, што іх падтрымае й будзе слухацца тады яшчэ кандыдат, а пазьней і япіскап а. Аляксандар Крыт.

Трэба сказаць, што пастанова высьвяціць яшчэ аднаго або й двох япіскапаў была прынятая на II Епархіяльным зьезьдзе ў лістападзе 1963 году з разуменьнем, што двума кандыдатамі на гэтыя годнасьці былі айцы Аляксандар Крыт й Міхась Мацукевіч, але працягам трох год пасьля, магчыма зь неахвоты ўладыкі Васіля, гэты намер заставаўся на паперы[73]. Толькі пасьля III Епархіяльнага зьезду гэты намер стаў пякучай патрэбай, бо абодва бакі пабачылі ў гэтым як падтрыманьне, гэтак і небясьпеку іхнай дзейнасьці, у выніку чаго пачаліся выперадкі ва ўстанаўленьні першаярархам БАПЦ архіяпіскапам Сергіем чарговасьці высьвячэньняў ці хіратоніяў. У гэтых выперадках праз асабістыя кантакты зь першаярархам перамог а. Аляксандар Крыт, а айцец Міхась Мацукевіч, нягледзячы на падтрымку ўладыкі Васіля й пратэсты прэзыдэнта ды Рады БНР, апынуўся ў чарзе на другім месцы.

Усьвячэньне а. Крыта ў япіскапы, з манаскім імём Андрэй, адбылося ў грэцкім катэдральным саборы ў Адэляйдзе 15 лютага 1968 году, а а. Міхаіла Мацукевіча, з манаскім імём Мікалай, тамсама 10 сакавіка таго ж году. Высьвячэньне япіскапа Андрэя не прынесла спадзяванае перамогі ці нават дапамогі мерлякоўскай групе, бо абодва новыя япіскапы салідарызаваліся з уладыкам Васілём, першым довадам чаго была іхная супольная ўтрох Божая служба ў саборы сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне 17 сакавіка 1968 году для вернікаў мясцовае й Гайлэнд-паркскае парахвіі зь людным і багатым пачастункам пасьля адправы.

[70] Таксама ў раду абралі: Кастуся Мерляка — намесьнікам, Васіля Шчэцьку — сакратаром, Данілу Клінцэвіча — скарбнікам, Васіля Захаркевіча — царкоўным старастам, Васіля Місюля, Пятра Мельяновіча, Васіля Юрцэвіча, Міхася Бразоўскага — чальцамі рады, якія ўсе былі сябрамі Беларуска-амэрыканскага аб'яднаньня ў Нью-Ёрку.

[71] 27 лютага 1966 г. уладыка Васіль абвесьціў, што не прызнае абранай 14 лістапада 1965 г. управы, самачынна сфармаваў са сваіх прыхільнікаў царкоўную раду, якую ўзначалілі Аляксандар Міцкевіч, Барыс Данілюк і Янка Ніхаёнак, а таксама зьвярнуўся па дапамогу да паліцыі, *„каб яго ахоўвалі ад людзей, апанаваных злымі духамі"* (Рэзалюцыя, прынятая на надзвычайным агульным сходзе прыхаджан парафіі Катэдральнага сабору сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне, дня 8 траўня 1966... // Беларуская думка. 1966. №9. С. 26).

[72] Дэлегаты пакінулі зьезд на знак пратэсту супраць ініцыятывы Васіля (Тамашчыка) замест выбараў прапаноўваць кандыдатаў у епархіяльную ўправу.

[73] Высьвячэньню Аляксандра Крыта (мітрапаліт Андрэй) актыўна працівілася Рада БНР.

Юры Абрэмскі ў суполцы зь Міхасём Бразоўскім і Кастусём Мерляком зарганізавалі ў парахвіі Катэдральнага сабору сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне раскол, мэтай якога было скінуць за ўсялякаю цану ўладыку Васіля й аддаць уладу над парахвіяй, а пазьней і над БАПЦ, Абрэмскаму ці некаму, хто за ім стаяў і ім кіраваў. Раскол быў гідкі, даходзіла да гвалтоўных учынкаў, і справа ўрэшце апынулася ў судзе, які пастанавіў, згодна з Артыкулам XVIII Нью-ёркскага штатнага закону аб рэлігійных карпарацыях, які я пасьпеў перад гэтым зважыць, а ўладыка здабыць ухвалу яго штатнай асамблеяй, што парахвіяльная рада мае права займацца толькі справамі, патрэбнымі на ўтрыманьне царквы, а ў справы, што належаць да кампэтэнцыі духавенства, ёй недазвольна мяшацца[74].

[74] 8 траўня 1966 г. у царкве сьв. Кірылы Тураўскага адбыўся надзвычайны сход з мэтай урэгуляваньня непаразуменьняў паміж Васілём Тамашчыкам і парафіяльнай радай. На сходзе прысутнічалі 90 з 115 парафіянаў. 86 чалавек прагаласавалі за рэзалюцыю, у якой выказваўся поўны давер абранай 14 лістапада 1965 г. парафіяльнай (царкоўнай) радзе. Васілю Тамашчыку загадвалася перадаць парафіяльнай радзе ўсе бягучыя дакумэнты. Надзвычайны сход прызнаў Юрыя Абрэмскага настаяцелем царквы сьв. Кірылы Тураўскага.
У кастрычніку 1967 г. перад выбарамі новай парафіяльнай рады ўладыка Васіль адлучыў ад царквы Кастуся Мерляка й Васіля Юрцэвіча, забараніўшы ім заходзіць у будынак царквы. Але перадвыбарчы агульны сход парафіі 29 кастрычніка 1967 г. абраў у склад царкоўнай управы наступных асобаў: Янка Казьлякоўскі — старшыня, Кастусь Мерляк — заступнік старшыні, Васіль Шчэцька — сакратар, Пятро Мельяновіч — скарбнік, Леанід Ляўковіч — стараста, Васіль Юрцэвіч, Міхась Бразоўскі, Пётра Саўчыц, Васіль Захаркевіч — радныя. Рэвізійная камісія — Леанід Галяк, Аўген Протас, Янка Юхнавец.
Уладыка Васіль ня толькі не прызнаў новай царкоўнай рады, але прызначыў часовую камісію — у складзе Барыса Данілюка, Пётры Манькоўскага, Аляксандра Міцкевіча, Міхася Тулейкі, Янкі Яновіча — да часу скліканьня новага сходу вернікаў, пазбавіў сьвятарскага сану Юр'я Абрэмскага, а сябрам царкоўнай рады забараніў уваходзіць у царкву, заявіўшы, што з 12 лістапада 1967 г. царква будзе зачыненая.
Сябры царкву адчынілі, а Юры Абрэмскі, каб захаваць сан, перайшоў у юрысдыкцыю Ўкраінскай праваслаўнай царквы. У адказ Васіль Тамашчык падаў у сьвецкі суд (суд штату Нью-Ёрк) на а. Юр'я Абрэмскага й царкоўную раду. Суд імкнуўся прымірыць абодва бакі, таму 1 жніўня 1968 г. прыняў саламонавае рашэньне: выбары царкоўнай рады ад 29 кастрычніка 1969 г. прызнаць сапраўднымі, адлучэньне ад царквы неправамерным.⇨





Уладыка Васіль, на жаль, быў даволі наіўны й даверлівы чалавек, што насуперак фактам верыў, што раскольнікаў удасца ўрахманіць і вярнуць, што абяцаў яму Абрэмскі, зь якім, як ён мне сам прызнаўся, ён далей, не зважаючы на маю асьцярогу, сустракаўся ў ягонай кватэры. Я не магу паверыць, што ўладыка Васіль, сеўшы за стол пры адчыненым вакне, адразу, ня выклікаўшы ніякае дапамогі, хоць ягоны брат працаваў кухарам у адным са шпіталёў, мамэнтальна памёр[75].

Нехта, а ім мог быць толькі Абрэмскі, выправіў яго на той сьвет. Гэтае маё дапушчэньне падтрымоўвае яшчэ й тое, што пасьля ўладыкавае сьмерці Абрэмскі зьнік бязь сьледу[76], а на маё пытаньне, што зь ім сталася, Мерляк плёў, што той згінуў у аўтамабільнай катастрофе, а ў ягонай кнізе напісаў, што япіскап Паладзі даў Абрэмскаму адразу мітру.

*Камэнтары Алега Гардзіенкі*

⇨Але суд вызначыў вярнуць у парафію Васіля Тамашчыка. Уладыка Васіль, які адмаўляўся служыць у адным будынку зь Юр'ем Абрэмскім, падаў паўторна ў суд. Паўторнае рашэньне зноў загадвала вярнуць Васіля Тамашчыка ў парафію. Тыя, хто ня бачыў сваёй будучыні зь япіскапам Васілём, на надзвычайным сходзе парафіі 12 кастрычніка 1968 г. зьвярнуліся да ўладыкі Андрэя (Крыта) з просьбай прыняць апеку над парафіяй. Але той параіў дамовіцца з уладыкам Васілём.
Вынікам трохгадовага супрацьстаяньня стаў сыход Мерляка й ягоных верных прыхільнікаў з бруклінскай парафіі на Атлянтык-авэню 401 і заснаваньне 10 лістапада 1968 г. яшчэ адной парафіі сьв. Кірылы Тураўскага на той самай вуліцы (Атлянтык-авэню), але ў іншым яе канцы, у раёне Кўінз — Рычманд-Гіл. Гэтая парафія вырашыла перайсьці ў юрысдыкцыю канстантынопальскага патрыярха.

[75] Васіль Тамашчык памёр пры загадкавых абставінах 9 чэрвеня 1970 г.

[76] У амэрыканскім каталёзе зарэгістраваных сьмерцяў пазначана, што Юры Абрэмскі памёр на шэсьць месяцаў раней за Васіля Тамашчыка — у сьнежні 1969 г.

*Айцец Міхал Камечак*

# АЙЦЕЦ АПАНАС РЭШАЦЬ

*Сярод папераў архіву Беларускага інстытуту навукі й мастацтва захоўваецца ангельскамоўны артыкул, што ўяўляе сабою жыцьцяпіс беларускага сьвятара Апанаса (Язэпа) Рэшаця. Паходжаньне тэксту, а таксама ці быў ён калісьці апублікаваны, высьветліць не ўдалося.*

*Імаверна, тэкст быў напісаны ў хуткім часе пасьля сьмерці сьвятара ў 1958 г. Аўтарам артыкулу быў айцец Міхал Камечак, хутчэй за ўсё, манах бэнэдыктынскага кляштару сьв. Пракопа ў Лайле (Lisle) недалёка ад Чыкага, дзе а. Рэшаць правёў амаль 20 гадоў свайго жыцьця. Гэты кляштар заснавалі амэрыканскія бэнэдыктынцы чэскага паходжаньня ў 1885 г. і назвалі яго ў гонар чэскага сьвятога XI ст.*

*З тэксту відаць, што аўтар не арыентаваўся ў беларускіх справах і пісаў свой артыкул на аснове аповедаў самога айца Апанаса (Язэпа) Рэшаця. Таму ён ня ведаў шмат цікавых для беларусаў дэталяў. Напрыклад, што Рэшаць паступіў у Віленскую духоўную сэмінарыю ў 1910 г. адначасна з Адамам Станкевічам, і што будучыя сьвятары Язэп Гэрмановіч (паэт Вінцук Адважны), Канстанцін Стэповіч (Казімер Сваяк) і Віктар Шутовіч прыйшлі туды ж годам раней.*

*Нягледзячы на некаторыя хібы гэтага артыкулу, яго зьяўленьне ў беларускім перакладзе выглядае мэтазгодным і ў якасьці своеасаблівай гістарычнай крыніцы, і як матэрыял, які пашырае кола публікацыяў, прысьвечаных жыцьцю йі дзейнасьці беларускага сьвятара*[1] .

[1] Сярод іншых публікацыяў, прысьвечаных а. Апанасу (Язэпу) Рэшацю, варта адзначыць: [Tatarynovic, P., a.] Na mahiłu s. p. Ajcu prafesaru Jazepu Atanazu Reseciu, O.S.B. // Znic. №44. Rym, 1958. S. 3—5; Карасевіч, В. [Вацлаў Пануцэвіч]. Вялікі сын беларускага народу // Беларуская царква. №25. Чыкага, 1963. С. 33—57; Choruży, Wiesław. Ks. Dr. Józef (Atanazy) Reszeć (1890—1958) // Białoruskie Zeszyty Historyczne. №7. Białystok, 1997. S. 157—166 (той самы артыкул у беларускім перакладзе: Харужы, Вячаслаў. Ксёндз доктар Юзаф Рэшаць // Наша вера. №2 (12). Менск, 2000. С. 61—64).





Сярод беларусаў існуе паданьне, што калі Бог удыхае ў чалавека душу, ён тым самым прызначае яму пэўную колькасьць ежы. І калі чалавек вычарпае ўвесь свой дазволены ліміт, Бог заканчвае ягонае зямное жыцьцё. Такім чынам, чалавек, які есьць хутка й шмат, памрэ раней. А той, што есьць памалу й не сьпяшаючыся, пражыве даўжэй.

Дзіцёнкам айцец Апанас мусіў чуць гэтае паданьне досыць часта, бо хоць вёска Рушчаны, дзе ён нарадзіўся 26 ліпеня 1890 г., фармальна лічылася Ўсходняй Польшчай, фактычна гэтыя землі — Беласточчына — уваходзяць у тэрыторыю этнічнай Беларусі. Ягоныя бацькі мелі невялікі зямельны выдзел і гадавалі шасьцёх дзяцей — трох сыноў і трох дачок — у непасрэднай блізкасьці да прыроды.

Землякоў айца Апанаса апісваюць як выключна памяркоўных, вельмі сьціплых, вытрывалых да нягодаў і мяккіх характарам людзей, якія нячаста распаляюцца гневам, дарма што жывуць у вечных пакутах. Арыгінальныя мысьляры, яны ніколі не прызнаюцца, што ідэя ці думка належаць асабіста ім — звычайна яны распачынаюць гаворку фразай „як той казаў“.

Падчас працяглых закалотаў паміж Польшчай і Расеяй гэтую тэрыторыю, дзе правёў свае дзіцячыя гады айцец Апанас, шмат разоў ваваёўвалі й здратоўвалі. Жывучы то пад Польшчай, то пад Расеяй, мясцовыя жыхары спазналі на сваёй скуры, што такое сапраўдныя пакуты, але яны з годнасьцю перахоўвалі сваю ўласную спадчыну. Як сяляне, якіх так па-майстэрску апісаў Талстой у „Вайне й міры“, яны глыбока верылі, што ўладары прыходзяць і сыходзяць, часы зьмяняюцца, а людзі, якія ўрабляюць зямлю, застаюцца назаўсёды. Бог прывёў іх на гэтую зямлю, і ён не пакіне іх без апекі.

Такімі былі дабрадзейнасьці, засвоеныя айцом Апанасам зь дзяцінства. Гэтыя цноты сталіся пазьней часткай ягонай уласнай натуры.

Ягонае прозьвішча — Рэшаць (*Reszec*) — сьведчыць пра тое, што хтосьці з продкаў айца Апанаса вырабляў сіты для прасейваньня мукі. Але невядома, ці бацька айца Апанаса трымаўся гэтай прафэсіі.

Айцец Апанас быў узгадаваны ў рыма-каталіцкім абрадзе, хаця, як ён даведаўся пазьней, ён мусіў быць грэка-каталіком. Рушчаны знаходзіліся на тэрыторыі Віленскай дыяцэзіі.

Язэп (гэтае імя айцец Апанас атрымаў пры хросьце) здабываў пачатковую адукацыю ў вясковай школе. Ён вельмі любіў вучыцца й чытаць кнігі.

Паколькі ягоныя родныя мясьціны ў той час былі пад Расейскай імпэрыяй, у школе выкладаліся толькі царкоўнаславянская й расейская мовы. Язэп вывучыў сваю родную беларускую мову дома, у сям’і.

Сяляне тады жылі вельмі бедна, і звычайна навучаньне дзяцей заканчвалася пасьля пачатковай школы. Але бацькі паслалі Язэпа ў Беласток, у тэхнічную вучэльню, бо ён выявіў надзвычайныя здольнасьці да вучобы. Там Рэшаць студыяваў прыродазнаўчыя навукі й матэматыку.

Сьвятарства відавочна было Язэпавым пакліканьнем зь дзяцінства. Скончыўшы вучэльню, ён паступіў у сэмінарыю ў Вільні. Там ён дасканала авалодаў лацінай і грэцкай мовай, заўсёды меў добрыя адзнакі й атрымаў дыяцэзійную стыпэндыю для працягу навучаньня ў Рыме. Гэтая стыпэндыя прызначалася для сэмінарыстаў, якія хацелі добра вывучыць нямецкую мову, каб потым служыць у тых прыходах Віленскай дыяцэзіі, дзе жыло нямецкамоўнае насельніцтва.

Пасьля трох курсаў тэалёгіі Язэпа Рэшаця накіравалі ў Рым. На той час ён ужо быў дыяканам. У 1913 г., якраз напярэдадні Першай сусьветнай вайны, ён паступіў у Германікум (*Germanicum*) — Нямецкую каталіцкую калегію. Плянавалася, што юнак будзе навучацца ў Рыме да 1921 г.

Першыя два гады студыяваньня Язэп правёў у Германікуме, дзе навучыўся бегла размаўляць па-нямецку. Перабываньне ў калегіі прышчапіла яму нямецкую любоў да акуратнасьці й дакладнасьці. Язэп навучыўся кантраляваць свае эмоцыі, і, як ён казаў потым на лекцыях, *„заўсёды быць гаспадаром сытуацыі“*.

Малады дыякан наведваў заняткі ў славутым Папскім грыгарыянскім унівэрсытэце. Там пад кіраўніцтвам езуіта Бучэроні (*Bucceroni*), якога айцец Апанас потым часта будзе ўзгадваць у сваіх уласных лекцыях, ён вывучаў тэалёгію маралі.

Калі Італія ўступіла ў вайну зь Нямеччынай падчас Першай сусьветнай вайны, Германікум зачынілі (гэта здарылася ў 1915 г.). Нямецкая калегія аднавіла сваю працу толькі пасьля падпісаньня міру.

Язэп перавёўся ў Польскую калегію, дзе ён правёў наступныя чатыры гады, наведваючы лекцыі ў Грыгарыянскім унівэрсытэце. Ён атрымаў ступень ліцэнцыята філязофіі ў 1915 г. і ступень доктара тэалёгіі ў 1919 г. 2 сьнежня 1917 г. кардынал Базыль Пампілі (*Basil Pompili*) высьвяціў яго на сьвятара.

Са згоды віленскага біскупа[2] малады сьвятар застаўся ў Рыме яшчэ на два гады — з 1919 да 1921 г. Ён вярнуўся ў Германікум і наведваў лекцыі ў Папскім усходнім інстытуце. Адным зь ягоных выкладчыкаў там

[2] Маецца на ўвазе багаслаўлёны Юры Матулевіч (1871—1927), у 1918—1925 гг. біскуп Віленскі.





быў славуты бэнэдыктынец Дом Ільдэльфонса Шустэр (*Dom Ildelfonso Schuster*), будучы арцыбіскуп, кардынал Міляну. У 1921 г. айцец Язэп атрымаў ступень ліцэнцыята ўсходняй тэалёгіі.

Дапаможны біскуп дыяцэзіі ў Бамбэргу (Нямеччына) Артур Міхаэль Ляндраф (*Arthur Michael Landraf*), які быў аднакурсьнікам айца Апанаса ў Германікуме з 1919 да 1921 г., распавёў аб пілігрымцы ў Суб'яка (*Subiaco*), якую яны ўдвох зрабілі ўлетку 1920 г. Ужо ў той час айцец Апанас выяўляў вялікую адданасьць сьвятому Бэнэдыкту.

Абодва юнакі спыніліся ў летнім катэджы Сан-Пасторэ (*San Pastore*), які належаў каледжу Германікум і знаходзіўся за пятнаццаць міляў на паўночны ўсход ад Рыму, на Альбанскіх пагорках. Яны пехатою прайшлі адзінаццаць міляў да Тывалі, адтуль цягніком дабраліся да Суб'яка, а потым ізноў ішлі пешшу да кляштару сьв. Схалястыкі і ў Сакра-Спэка (*Sacro Speco*). Яны пераначавалі ў кляштары сьв. Схалястыкі, а на наступны дзень удзельнічалі ў літургіі ў Сакра-Спэка. Адтуль маладыя сьвятары пайшлі пешкі ў Алевана (*Olevano*), дзе паабедалі. Завершылі ж кола падарожжа ў Палестрыне (*Palestrina*), адкуль ізноў прайшлі шэсьць міляў да Сан-Пасторэ.

Іншыя аднакурсьнікі айца Апанаса, сярод якіх мансэньёр Кадрас, генэральны вікарый дыяцэзіі ў Клягенфурце (Аўстрыя), біскуп Люксэмбурскі Лео Лёмэль і айцец Стэфан Сакач, прафэсар Усходняга інстытуту, у адзін голас сьведчаць, што айцец Апанас быў вельмі спакойным, замкнёным у сабе чалавекам і ўзорным студэнтам. Ён выклікаў усеагульную пашану й захапленьне. Адразу кідалася ў вочы, што гэта вельмі дабрачынны чалавек, які імкнецца да сьвятасьці ў жыцьці. Ён трымаўся з усімі па-таварыску, і ўсе сьцьвярджаюць, што ня быць ягоным сябрам было проста немагчыма.

Неяк раз, а было гэта пасьля Першай сусьветнай вайны, айцец Апанас, мансэньёр Кадрас і яшчэ адзін сьвятар, былы вайсковы капэлян, размаўлялі падчас перапынку ў дворыку Германікуму. Падчас размовы вайсковы капэлян ужыў некаторыя словы, якія нельга было назваць непрыстойнымі, але якія мелі пэўнае вайсковае афарбоўваньне („коўзкія жарты“, як айцец Апанас пазьней назаве іх у сваёй працы „Мараль“, частка 2). Гэтыя словы абразілі айца Апанаса, і ён мякка даў зразумець тое суразмоўцу.

Тыя, хто ведаў айца Апанаса, кажуць, што ва ўсім, што ні рабіў, яго найлепш можна ахарактарызаваць як міласэрнага.

Магчыма, якраз падчас двухгадовага навучаньня ва Ўсходнім інстытуце айцец Апанас запаліўся ідэяй працаваць дзеля ўзьяднаньня праваслаўных хрысьціянаў з Каталіцкім касьцёлам.

У сваім дакладзе на Першым Юніяністкім кангрэсе, што адбыўся ў верасьні 1956 г., айцец сцьвярджаў: *„Расейская імпэрыя магла яшчэ талераваць рыма-каталіцкі абрад, але ніколі — грэка-каталіцкі. Такім чынам, пасьля 1839 г. (калі імпэрыялістычная Расея гвалтам адарвала Беларускі касьцёл ад Рыму), на беларускіх тэрыторыях пачало насаджацца праваслаўе. Расейскі ўрад адмыслова паклапаціўся пра тое, каб па былым каталіцкім абрадзе не засталося й знаку. Сьвятарам цалкам забаранілі прамаўляць казані на роднай мове прыхаджанаў. У такі спосаб сынадальны абрад Расейскай праваслаўнай царквы зрабіўся магутным чыньнікам для прапаганды расейскага нацыяналізму“*[3].

Відавочна, што продкі айца Апанаса ў свой час перайшлі з грэка-каталіцызму ў рыма-каталіцкі абрад, каб толькі не зрабіцца праваслаўнымі расейцамі.

Пасьля вайны, у 1919 г., у Польшчу вярнулася ідэя фэдэралізму. Частка беларускай тэрыторыі, на якой знаходзілася малая радзіма айца Апанаса, апынулася пад Польшчай. Хваля нацыянальнага абуджэньня ўзьняла беларусаў і літоўцаў, якія памкнуліся да стварэньня сваіх уласных рэспублік. Для айца Апанаса гэта азначала магчымасьць вярнуць усіх беларускіх праваслаўных хрысьціянаў пад апеку Каталіцкага касьцёлу.

Айцец Апанас вярнуўся ў віленскую дыяцэзію ў 1921 г. Яго прызначылі выкладаць філязофію ў той самай Віленскай сэмінарыі, дзе ён сам калісьці навучаўся. Філязофія была ягоным найулюбёнейшым прадметам, хаця ён мог аднолькава добра выкладаць і тэалёгію. Айцец Апанас быў выдатным прафэсарам і пачуваўся б шчасьлівым, калі б яму давялося выкладаць філязофію ў сэмінарыі да канца свайго жыцьця. Усе глыбока паважалі яго як адукаванага й праведнага сьвятара. Шмат хто лічыў, што зь яго атрымаўся б надзвычайны біскуп.

(Былы прыхаджанін з парафіі айца Апанаса ў Доўнарах прысутнічаў на адным зь Дзён усходняга абраду ў кляштары сьв. Пракопа ў 1941 г. Ён пабачыў айца Апанаса апранутым адпаведна традыцыі грэка-каталіцкага абраду й памылкова вырашыў, што айцец Апанас стаў амэрыканскім біскупам. Гэты чалавек напісаў у Доўнары, што іхны былы парафіяльны сьвятар, айцец Апанас, зрабіўся біскупам, бо носіць

[3] Згаданы кангрэс адбываўся 28—30 верасьня 1956 г. у кляштары ў Лайле. Айцец Рэшаць прачытаў там даклад *The spiritual Ideals of the Russian Apostolate* (Proceedings of the First Unionistic Congress. Lisle (Illinois), 1956. P. 89—92).





клябук і нагрудны крыж. Хаця айцец Апанас спрабаваў потым зьняпраўдзіць гэтыя чуткі, некаторыя людзі ў Доўнарах дагэтуль вераць, што ён скончыў свае зямныя дні ў чыне біскупа.)

Але час быў неспакойны. Польская адміністрацыя скоса паглядала на ініцыятывы айца Апанаса. А ён імкнуўся працаваць для таго, каб вярнуць праваслаўных ва ўлоньне Каталіцкага касьцёлу, і зрабіць гэта, шануючы мову й нацыянальнасьць людзей, шляхам аднаўленьня ўсходніх каталіцкіх абрадаў, якія спрадвеку існавалі на гэтай зямлі. Аднак прапаведніцтва айца Апанаса не натхняла палякаў там, дзе справа тычылася беларусаў.

Айцец Апанас не хаваў сваіх думак і надзеяў наконт узьяднаньня праваслаўных хрысьціян з каталіцызмам. Ягоныя мары сягалі далёка й не абмяжоўваліся толькі навяртаньнем праваслаўных беларусаў — ён марыў прывесьці да каталіцызму ўсіх праваслаўных хрысьціянаў, улучна з расейцамі.

Занепакоеныя ягоным вялікім уплывам на сэмінарыстаў, дыяцэзійныя ўлады ў 1927 г. пераводзяць айца Апанаса ў Беласток — выкладаць рэлігію ў польскай школе й настаўніцкай сэмінарыі[4]. Двума гадамі раней расейскія камуністы спляжылі мару беларусаў аб свабодзе й незалежнасьці.

Усе сьцьвярджаюць, што айцец Апанас быў выдатным прапаведнікам і выкладчыкам, нават у тыя гады, калі ён быў зусім маладым сьвятаром. Ён вольна валодаў беларускай, польскай, расейскай, літоўскай, нямецкай, французскай ды італьянскай мовамі.

Айцец Апанас намагаўся выкладаць так, каб сваімі лекцыямі не даваць аніякай зачэпкі ўладам. Ён ведаў, што яго з вока не выпускаюць, бо настаўніцкі каледж быў дзяржаўнай навучальнай установай. Яго маглі звольніць альбо перавесьці кудысьці ў іншае месца толькі праз ягоную нацыянальнасьць. На сьвятароў тады глядзелі як на духоўных і адначасова палітычных лідэраў. Айцец Апанас мусіў падтрымліваць свой аўтарытэт як настаўнік і як кіраўнік. Гэтага вымагалі ад яго людзі, і яму вельмі б не хацелася перакладаць на іншых тое, за што ён лічыў сябе адказным.

Ён рабіў усё што мог дзеля ідэі ўзьяднаньня хрысьціянаў. Пісаў артыкулы ў часопіс „Хрысьціянская думка“. З радасьцю працаваў сярод

[4] Насамрэч айца Апанаса (Язэпа) Рэшаця выкінулі зь Вільні ў 1925 г., амаль адразу пасьля таго, як ягоны пратэктар, біскуп Юры Матулевіч, зрокся Віленскага пасаду.

беларусаў паўсюль, дзе ўдавалася. Але ягоная дзейнасьць ізноў сутыкнулася зь перашкодамі.

Настаўніцкая кар’ера айца Апанаса ў Беластоку скончылася ў 1931 г. Яго прызначылі сьвятаром у маленькую вясковую парафію ў Доўнарах, у Граеўскім павеце. Тут у яго не было ніякай магчымасьці кантактаваць ні зь беларусамі, ні з праваслаўнымі хрысьціянамі. Доўнары знаходзіліся на этнічна польскай тэрыторыі, у паўднёвай частцы Віленскай дыяцэзіі.

Першыя некалькі гадоў у Доўнарах мусілі быць для айца Апанаса нялёгкімі. Ягоная парафія складалася зь вёсак, раскіданых па ўсім навакольлі. Гэта было самотнае месца, асабліва для яго. Дагэтуль ён вучыўся, выкладаў і працаваў толькі ў вялікіх гарадах.

У сваю першую нядзельную службу ён паспрабаваў загаварыць з парафіянамі па-беларуску. Але прыхаджане запатрабавалі, каб ён размаўляў зь імі толькі па-польску, бо гэта была польская парафія. Ён ніколі не пярэчыў іхнай волі, але ўзяў сабе за ахмістрыню беларуску, каб магчы хоць з кімсьці размаўляць на роднай мове.

І ён не закінуў таго, што лічыў сваім апостальскім служэньнем. Жывучы ў Доўнарах, айцец Апанас уклаў для беларускага народу катэхізм на беларускай мове[5]. Ён таксама працягваў пісаць для „Хрысьціянскай думкі“, якая выдавалася ў Вільні[6], хаця наклад часопісу неаднаразова канфіскоўваўся.

У Доўнарах айцец Апанас шмат чытаў. Ён любіў клясычную прозу й паэзію, Сьвятое Пісьмо, філязофію й тэалёгію. Пушкін быў ягоным улюбёным расейскім паэтам. Яму падабаліся таксама творы Адама Міцкевіча й беларускага аўтара Янкі Купалы. Ён з задавальненьнем чытаў Гамэра па-польску сваёй маці, калі яна пазьней прыехала й пасялілася зь ім у доме пробашча.

Айцец Апанас таксама спрабаваў сябе ў драматургіі. Яшчэ ў Беластоку ён напісаў п’есу зь беларускага жыцьця — „Першыя ластаўкі“[7]. Пісаў ён пад псэўданімам Язэп Рушчанец. У Доўнарах ён напісаў таксама п’есу аб жыцьці сьвятой Жэнэўевы — для парафіяльнай моладзі. Выглядае, што ён нярэдка запрашаў мясцовых мастакоў і актораў да ўдзелу ў парафіяльных тэатральных пастаноўках.

[5] Насамрэч „Кароткі катэхізм для беларусаў-каталікоў“ выйшаў у Вільні ў 1927 г., калі Рэшаць быў яшчэ ў Беластоку.

[6] Артыкулы а. Апанаса (Язэпа) Рэшаца пра сьвятых, якія друкаваліся ў „Хрысьціянскай Думцы“, у 1937 г. у Вільні выйшлі асобнай кнігай пад назвай „Сьвятыя“. У 1937 г. а. Рэшаць уваходзіў у склад рэдкалегіі „Хрысьціянскай Думкі“ разам з айцамі Адамам Станкевічам і Язэпам Гэрмановічам.

[7] Айцец Апанас (Язэп) Рэшаць напісаў два сцэнічныя абразкі, якія выйшлі друкам у Вільні: „Першыя ластаўкі“ (1931) і „Зорка-ідэя“ (1933).





Разам з тым, айцец Апанас не выпускаў з-пад увагі й іншыя патрэбы парафіі. У 1933 г. была разбудаваная парафіяльная бажніца Маці Божай Анёльскай. Парафіяне паважалі, любілі свайго пробашча й ганарыліся ім. Ён заўсёды ставіўся да сваіх абавязкаў парафіяльнага сьвятара зь вялікай адказнасьцю, асабліва там, дзе справа тычылася казаняў і споведзі.

Ён таксама выступаў з пропаведзямі перад сьвятарамі на рэкалекцыях у сваёй касьцельнай акрузе. Адзін зь ягоных калегаў прыгадвае бліскучую казань айца Апанаса, прысьвечаную Сьвятой Тройцы. Хаця казань доўжылася больш за гадзіну, сьвятары на рэкалекцыях былі цалкам паглынутыя ёю. Айцец Апанас дасканала валодаў аратарскім майстэрствам, і ён любіў устаўляць у казань невялікія прыклады з рэальнага жыцьця, каб праілюстраваць свае ідэі.

Апроч таго, айцец Апанас адпраўляў набажэнствы ў вайсковым гарнізоне, што разьмяшчаўся на тэрыторыі ягонай парафіі — у суседняй вёсцы Асавец (*Osowiec*).

На шчасьце, акурат цяпер у Чыкага знаходзіцца адміністратар парафіі айца Апанаса ў Доўнарах. Ён кажа, што атрымаў шмат лістоў ад парафіянаў, якія высока ацанілі дзейнасьць айца Апанаса падчас ягонай сямігадовай працы на пасадзе пробашча ў Доўнарах.

Ідэя працы для ўзьяднаньня хрысьціянаў пад эгідай каталіцызму працягвала натхняць айца Апанаса. Ён дачуўся аб дзейнасьці абата Пракопа Нэўзіла (*Procopius Neuzil*) з абацтва сьвятога Пракопа. 25 сьнежня 1936 г. айцец Апанас склаў прашэньне аб тым, каб уступіць у бэнэдыктынскі кляштар сьвятога Пракопа. Словы прашэньня гавораць аб тым, што ён глыбока абдумаў гэтае няпростае рашэньне.

Аднак уступленьне айца Апанаса ў кляштар сьв. Пракопа адбылося толькі ўвесну 1938 г. Увосень 1937 г. абат Пракоп, які тады быў у Эўропе, адмыслова наведаў Доўнары, каб сустрэцца з айцом Апанасам. Абат зрабіў на пробашча надзвычай вялікае ўражаньне. Гэты візыт быў вырашальным штуршком, пасьля чаго рашэньне айца Апанаса ўступіць у кляштар сьвятога Пракопа канчаткова ўмацавалася.

Новы пэрыяд ягонага жыцьця, у якасьці манаха, даўся яму, відаць, найцяжэй за ўсе папярэднія. Айцу Апанасу было тады амаль пяцьдзясят, цягам больш як 20 гадоў ён быў сьвятаром дыяцэзіі, выбітным настаўнікам, сем гадоў адпрацаваў пробашчам парафіі й трывала стаяў

на сваёй роднай зямлі. Цяпер жа ён пачынаў усё з чыстага аркуша — паслушнікам у манастыры, у страшэннай далечыні ад дому, вырваны з каранямі з роднае глебы, бязь веданьня ангельскай мовы й амэрыканскага ладу жыцьця.

Але ў яго была мара: вярнуцца калісьці на радзіму й заснаваць там кляштар бэнэдыктынцаў, каб спрыяць вяртаньню праваслаўных хрысьціянаў у каталіцызм.

Айцец Апанас стаў паслушнікам у кляштары сьв. Пракопа ў 1938 г., яго пастрыглі ў манахі 15 жніўня 1939 г. і ўрачыста прынялі ў ордэн у 1942 г.

У абата Пракопа, айца Апанаса і айца Хрызастома былі пляны вывучыць 16 хлапцоў, каб потым пасляць іх працаваць у Беларусь. Усё ўжо было падрыхтаванае для рэалізацыі гэтай задумы. Але напад Гітлера на Польшчу 1 верасьня 1939 г. зруйнаваў усе пляны.

Сьвятар-паляк, які працаваў у той самай касьцельнай акрузе, што й айцец Апанас, і які праз год таксама пераехаў у Амэрыку, наведаў яго ў ягонай кельлі ў кляштары. Айцец Апанас, які заўсёды меў далікатнае здароўе, быў захутаны ў старое паліто, якое насіў, яшчэ калі быў пробашчам у Доўнарах. Ён быў моцна прастуджаны. Айцец Апанас вельмі ўзрадаваўся, убачыўшы земляка. Ён пачаў распытваць госьця пра навіны з жыцьця сваіх былых парафіянаў, пытаўся аб памерлых і абяцаў памаліцца за іх.

Айцец Апанас прызнаўся госьцю: ён баіцца, што зь яго ніколі не атрымаецца добрага манаха. Ён ужо застары, каб вучыцца. Ён адчувае сябе дрэвам, якое выкарчавалі зь зямлі з каранямі. Пачуўшы гэта, сьвятар-паляк пачаў дакараць айца Апанаса за маладушнасьць...

Аднак гэта была толькі хвілінная слабасьць. З уласьцівай яму рашучасьцю айцец Апанас прыняўся за вывучэньне ангельскай мовы. Ён заўсёды насіў пры сабе маленькі нататнік і, калі быў у чымсьці няпэўны, запытваўся ў іншых манахаў, як вымаўляць тое ці іншае слова й што яно значыць. Яму было ўжо за пяцьдзясят, і ён вывучаў новую й нялёгкую мову. Але й студэнты, і браты-манахі знаходзілі ягоныя казані, лекцыі й парады вельмі зьмястоўнымі.

Некаторыя кажуць, што лёс айца Апанаса склаўся трагічна. Але калі мы задумаемся пра бязьмежную адвагу гэтага чалавека, пра ягоную спакойную й нязьменную адданасьць ідэі, нягледзячы на шматлікія перашкоды, мы ўбачым, што эпітэт „трагічнае“ да такога жыцьця не пасуе. Сам айцец Апанас прызнаўся аднойчы, што прыезд у кляштар вельмі паспрыяў ягонаму духоўнаму ўдасканаленьню.





Айцец Апанас разглядаў сваю службу пробашчам у Доўнарах як вакацыі, як часовую дзейнасьць. Ён заўсёды адчуваў, што ягонае месца — у студэнцкай аўдыторыі. Ён быў прыроджаным настаўнікам. Мы ведаем, якіх вялікіх посьпехаў ён дасягнуў у якасьці настаўніка, спаведніка й духоўніка. Тэалёгія была ўсім ягоным жыцьцём; ягонае жыцьцё было тэалёгіяй.

Улетку айцец Апанас штодня працаваў у садзе — цягам гадзіны ён матычыў зямлю вакол ягадных кустоў. Толькі ў жніўні й верасьні ён стараўся радзей выходзіць з дому. Пасьля прыезду ў Лайл у яго разьвілася сянная ліхаманка, і прыступы чханьня дарэшты зьнясільвалі яго. Таму ў месяцы, калі паветра поўнілася алергенным пылком расьлінаў, айцец Апанас пераважна зачыняўся ў сваім пакоі.

Часам для адпачынку айцец Апанас падымаўся на чацьверты паверх кляштару, у музычны салён, і граў там на піяніна. Ён вырашыў заняцца ігрой на фортэпіяна пасьля таго, як стаў паслушнікам у кляштары.

Неўзабаве пасьля ўступленьня ў кляштар айцец Апанас навучыўся служыць літургію ў адпаведнасьці з расейскім сынадальным абрадам і атрымаў адмысловыя паўнамоцтвы для дзьвюхабраднасьці. Кожны дзень ён служыў набажэнства ў невялікай капліцы недалёка ад рызьніцы. Нярэдка на ягоных літургіях прысутнічалі іншыя манахі, як і ён, адданыя ідэі апостальскага служэньня. У апошнія гады жыцьця айцец Апанас дапамагаў айцу Хрызастому апекавацца групай беларусаў у Чыкага.

У верасьні мінулага году айцу Апанасу зрабілі апэрацыю й выдалілі тры чвэрці страўніка[8]. У яго быў рак, расьсеяны склероз і анэмія. Гэта быў ужо ня першы ягоны двубой з ракам. Яшчэ да ўступленьня ў кляштар айцец Апанас перанес апэрацыю праз ракавую пухліну на верхняй губе. Таму калі ён чытаў лекцыі, ён час ад часу мусіў дакранацца да роту насоўкай, каб расслабіць напятыя дзясны.

Апэрацыя на страўніку прынесла часовую палёгку. Айцец Апанас хутка ачуняў. Манахі са зьдзіўленьнем назіралі, як ён з задавальненьнем еў сытную ежу за манастырскім сталом. А ён казаў сваім вучням, што яшчэ не гатовы паміраць, бо ў яго шмат няскончаных справаў.

Са зьдзіўленьнем і расчараваньнем ён распавядаў, як аднойчы ў шпіталі, калі яму было вельмі кепска, манашка прашаптала яму на

[8] Хутка пасьля апэрацыі, 2 лістапада 1957 г., яго адведаў у кляштары сьв. Пракопа а. Часлаў Сіповіч.

вуха, што трэба маліцца Богу, і спрабавала навучыць яго малітвам. Ён адказаў ёй: „Мая мама навучыла мяне маліцца, калі мне было пяць гадоў“.

У студзені ён стаў пачувацца ўсё горш ды горш, хаця працягваў чытаць лекцыі, пакуль мог. Ён нават выставіў адзнакі за сэмэстар, каб скончыць усе надзённыя справы перад сьмерцю.

Ён напісаў лісты сваім сябрам і сваякам у Эўропе, стрыечнаму брату ў Нью-Джэрзі, што ён на парозе сьмерці, і папрасіў усіх маліцца за яго. Па абедзе ён займаўся тым, што разьбіраў свае паперы й лісты. Калі хтосьці пярэчыў, што яму ня варта выдаткоўваць сілы на прыборку пакою, ён звычайна адказваў: „Гэта ўсё непатрэбнае“. Калі ён ужо ня мог служыць літургію, ён прымаў Сьвятое прычасьце ў сваім пакоі, хаця часам мусіў адмаўляцца ад прычасьця з увагі на стан здароўя.

Ён цалкам зьмірыўся з тым, што памірае, і казаў: „Я не баюся Бога, калі Бог мой айцец“. Аднойчы яму давялося сабараваць маленькага беларускага хлопчыка, які паміраў ад сухотаў. Хлопчык сказаў яму тады: „Ойча, я зайздрошчу Богу. Я зайздрошчу Богу, бо ён нікога не баіцца“.

У апошнія дні перад сьмерцю айцец Апанас пытаўся ў брата-манаха: „Што б вы параілі мне зьесьці сёньня?“ Яму падабаўся напой „Сэвэнап“, магчыма, таму, што трохі нагадваў на смак напой зь бярозавага соку, які ён піў у Доўнарах.

Аднойчы ў суботу ён папрасіў аб апошняй Сьвятой Таямніцы. Абат кляштару зьдзейсьніў абрад алеепамазаньня ў прысутнасьці шматлікіх братоў-манахаў і сэмінарыстаў. Айцец Апанас быў спакойны й засяроджаны. Пасьля прыняцьця апошняга прычасьця ён папрасіў айца абата і ўсіх прысутных манахаў падысьці бліжэй да ягонага ложка. Ён прасіў усіх прабачыць яму крыўды, багаславіць і памаліцца за яго. Потым манахі ўкленчылі й разам з айцом Апанасам адгаварылі ружанец.

Ягоны розум заставаўся ясным да самага апошняга моманту. Памёр айцец Апанас у суботу, 15 лютага — на сьвята Стрэчаньня паводле ўсходняга абраду. Было тры гадзіны ночы. Ён вельмі сасьмяг і папрасіў брата-манаха даць яму папіць. Потым ён пакінуў гэты сьвет.

Абат Пракоп аднойчы назваў айца Апанаса „наш маленькі самародак“. Гэты камень чыстай вады ня страціў свайго бляску й да сёньня.

Памінальныя службы па айцу Апанасу адбыліся таксама ў ягоным былым парафіяльным касьцёле ў Доўнарах. Шмат лістоў, атрыманых парафіяльным адміністратарам, пераканаўча сьведчаць, што прыхаджане і ў Доўнарах ставіліся да айца Апанаса як да сьвятара-праведніка. *„Аднойчы ў спавядальні*, — напісала адна парафіянка, — *ён сказаў, што сьмерць — гэта вяршыня ўсяго нашага жыцьця. Няма сумневу, што ён сустрэў сваю ўласную сьмерць у адпаведнасьці з тым, што прапаведаваў“.*





Ягоным былым парафіянам ніколі не забыць апошніх словаў айца Апанаса, якія той сказаў, пакідаючы Доўнары: „Мы сустрэнемся з вамі ў нябёсах“.

*Пераклад з ангельскай В.К.,*
*камэнтары а. Аляксандра Надсана*

***Вячаслаў Завалішын***

# УЛАДЫСЛАЎ СТАРЭВІЧ І ЯГОНАЕ МАСТАЦТВА

*Да імя Вячаслава Завалішына дадаюць розныя азначэньні: журналіст, перакладнік, паэт, крытык, мастацтвазнаўца. Ён быў усім гэтым — і нашмат больш.*

*Вячаслаў Завалішын нарадзіўся 13 кастрычніка 1915 г. у Петраградзе. Скончыў гісторыка-філялягічны факультэт Ленінградзкага ўнівэрсытэту. У час Другой сусьветнай вайны трапіў у палон, быў вывезены ў Нямеччыну. У лягерах DP заняўся кнігадрукам, укладаньнем зборнічкаў паэзіі расейскай клясыкі, апублікаваў брашурку пра Андрэя Рублёва (Мюнхэн, 1946). Эміграваўшы ў Амэрыку, атрымаў стыпэндыю пры Калюмбійскім унівэрсытэце для напісаньня кнігі пра пачаткі савецкай літаратуры — кніга зазнала два выданьні (Early Soviet Writers. 1958, 1970), надрукаваў кнігу пра Казіміра Малевіча (NY, 1991). Пісаў вершы: зборнік „Плеск волны" выйшаў у 1980 г. Але напэўна самая вядомая ягоная праца — гэта пераклад „Цэнтурыяў" Настрадамуса, што ўпершыню пабачыў сьвет у 1974 г., а пасьля шматкроць перавыдаваўся наноў, як на Захадзе, гэтак і на постсавецкай прасторы.*

*Памёр Вячаслаў Завалішын 31 траўня 1995 г.*

*Артыкулы ягоныя друкаваліся, бадай, у кожным расейскім эміграцыйным пэрыёдыку: рэцэнзіі на кнігі, выставы, агляды фільмаў, гістарычныя артыкулы. Добрыя адносіны ўсталяваліся ў яго й з газэтаю „Беларус" — погляд аўтара на „беларускае пытаньне" моцна адрозьніваўся ад паноўнага ў асяродзьдзі расейскае эміграцыі[1]. У архіве газэты й захаваўся артыкул, які публікуецца ніжэй.*

[1] Завалішын, Вячаслаў. Неба й полымя. (Аб творчасьці Маркі Шагала) // Беларус. №339. Верасень 1987. С. 5, 7; №340. Кастрычнік 1987. С. 3; Завалішын, Вячаслаў. Несьмяротнасьць бяз знойдзенае магілы. Гароты й міласэрнасьць Рагнеды (Гараславы) // Беларус. №348. Чырвень 1988. С. 3.





У Амэрыцы перад Калядамі прынята на пацеху малышам наладжваць фэстывалі мультыплікацыйных фільмаў. Тут як рысаваны, гэтак і абыймовы фільм разглядаецца ў рэтраспэктыўным пляне, гэта значыць, на працягу ўсяе гісторыі мультыплікацыйных кампазыцыяў, пачынаючы ад вытокаў ды канчаючы на нашых днёх.

Звычайна, калі мова ідзе пра міжнародныя мультыплікацыйныя фэстывалі, дык гэткія фэстывалі адчыняюцца дэманстрацыяй абыймовага мультыплікацыйнага фільму „Авіяцыйны тыдзень кузурак". Фільм гэты, пастаўлены яшчэ да рэвалюцыі, у 1912 г., дасюль не сыходзіць з экранаў старых фільмаў у цэлым сьвеце. Маняцца яго паказаць і сёлета ў ньюёрскім музэі сучаснага мастацтва на 53-й вуліцы ў Мангатэне.

Абыймовы мультыплікацыйны фільм „Авіяцыйны тыдзень кузурак" зроблены так, быццам яго стварылі не на золку мультыплікацыі, а нашымі днямі, цяпер, калі амэрыканская й сусьветная кінэматаграфія адзначае юбілей Ўолта Дысны, неўмірушчага караля амэрыканскіх кінамультыплікацыяў. У пастаноўшчыку „Авіяцыйнага дня кузурак" бачаць папярэдніка Ўолта Дысны.

Хто ж гэты папярэднік? Ім стаўся Ўладыслаў Старэвіч — мастак, фатограф, кінарэжысэр і кінаапэратар. Старэвіч выявіўся яшчэ й кінаінжынэрам, але тады гэтая прафэсія знаходзілася яшчэ ў стадыі станаўленьня. Мастак Юры Аньненкаў, які шмат зрабіў для расейскага й францускага кіно, гэтак сказаў пра Старэвіча: *„Усё, за што толькі сумленна й па-вынаходніцку Слаўка Старэвіч ні возьмецца, выходзіць незвычайна жывое й зробленае з тэхнічным бляскам".*

Уладыслава Старэвіча называлі то расейскім, то літоўскім, то францускім, то ўкраінскім кінадзеячом. Старэвіч адказваў на гэта, што ні ў Менску, ні ў Коўні, ні ў Кіеве, ні ў Маскве, ні ў Новарасійску, дзе ён жыў і працаваў, у яго не пыталіся, якой ён нацыянальнасьці, але ставілі яму высокія прафэсіянальныя вымогі. Ён жа, Старэвіч, нязьменна ўважаў сябе за беларуса, і ня толькі ў этнічным, але і ў творчым сэнсе: Старэвіч казаў, што ён выйшаў з „батлеек", гэта значыць, з тэатру марыянэтак, зь якім хадзілі калядоўшчыкі па гарадах і мястэчках Беларусі.

Слава Старэвіч з маладых гадоў захапляўся батлейкамі й рана, выявіўшы здольнасьць да рысаваньня, рабіў замалёўкі лялек (марыянэтак). Пры гэтым яго прыцягвалі не грамадзянскія матывы рэпэртуару батлеек, а бытавыя й рэлігійныя тэмы.

Стаўшыся ў 1909 г. адным з пачынальнікаў мультыплікацыйнага фільму наагул, Старэвіч, бадай, ці ня самы першы адкрыў у 1911 г.

прынцып абыймовай мультыплікацыі ў сусьветным мастацтве. Адначасна Ўладыслаў Старэвіч удасканальніў канструкцыю рухомае кінакамэры ды дасьціпна выкарыстаў свой вынаход да здыманьня абыймовых мультыплікацыйных фільмаў, стаўшыся іхным мастаком, апэратарам і рэжысэрам адначасна.

Фільм „Авіяцыйны тыдзень кузурак“, што прынёс Старэвічу славу і ў Расеі, і па-за ейнымі межамі, быў успрыняты як сяброўскі шарж на першы ў Расеі пералёт Пецярбург—Масква. У гэтым фільме вясёла й жвава паказаныя выперадкі пчолаў, стрэлак, матылькоў, камароў, ды так, што гэтыя кузуркі імітуюць самалёты й рухі тых, хто імі кіруе.

Калі стужка „Авіятыдзень кузурак“ усё яшчэ захапляе гледача сваім дынамізмам, дык „Калядны жыхароў лесу“, другі абыймовы мультфільм Старэвіча, зачароўвае сваім лірызмам. Гэты фільм збудаваны на матэрыяле зь беларускага фальклёру.

Зь іншых раньніх абыймовых мультфільмаў Уладыслава Старэвіча вылучым таксама ўдалую экранізацыю байкі Крылова „Стрэлка й мураш“. Нястомны й невычарпальны на выдумкі Старэвіч стаецца ў тагачаснага кінапрадусара Ханжонкава памочнікам тэхнічнага кіраўніка й, адначасна, памочнікам мастацкага кіраўніка. Старэвіч экспэрымэнтуе з натурным іграваым і мультыплікацыйным здыманьнем. Гэтак ён пераносіць на экран верш Пушкіна „Нэрэіда“, здымаючы аголеную прыгажуню, што купаецца ў моры. Рухомая камэра Старэвіча паказвае дно антычнай фанагорыі, калі ў яснае надвор’е можна разрозьніць руіны калёнаў і будынак затопленага гораду.

Асабліва вылучаецца зьнятая ім бура ў Новарасійску, калі ў сьнежнай віхуры мітусяцца чалавечыя постаці. Гэта нейкі Врубэль на экране!

Мэтадам камбінаваных здымак Старэвіч ставіць два фільмы: „Ноч перад Калядамі“ (паводле Гогаля) ды „Руслан і Людміла“ (паводле Пушкіна). Казкавая чароўнасьць гэтых фільмаў захавалася да сёньня. Далей Старэвіч ставіць адзін па адным фільмы, дзе на першым пляне ігра актораў, а мультыплікацыя выконвае другарадную ролю (прыкладам, панначка ў лётаючай дамавіне ў фільме „Вій“, мерцьвякі, што ўстаюць з дамавінаў у „Страшнай помсьце“). У таго, хто бачыў гэтыя фільмы, зьнятыя Старэвічам на золку кінэматаграфіі, і цяпер мурашы прабягаюць па скуры. А ад фільму „Тамань“ (паводле Лермантава) і цяпер вее рамантычным настроем.

Тут выявілася яшчэ адная выдатная якасьць Старэвіча: кінарэжысэр, апэратар, сцэнограф, рэжысэр і актор у адной асобе, быў ён таксама надзвычайным сцэнарыстам, і ўсё, за што Старэвіч толькі ні браўся,





адзначалася высокім прафэсійным узроўнем, тэхнічным бляскам ды арыгінальным падыходам да справы.

У часе Першай сусьветнай вайны пераканаyы абаронец Старэвіч ставіць фільм „Ружы Бэльгіі“, дзе дасьціпна камбінуе ігравы матэрыял з абыймовай мультыплікацыяй.

У 1919 г. Старэвіч эмігруе ў Францыю. Ён быў пэўны, што змушаны ад’езд за мяжу ня будзе доўгім, што крывавае шаленства адных і другіх, гэта значыць, белых і чырвоных, міне, як успышка халеры ці чумы, ды зноў настане раўнуючы спакойны час. Погляды Старэвіча, які ўхіляўся ад усялякае палітыкі, агулам беручы, былі блізкія да поглядаў ягонага знаёмага паэты й мастака Максіміліяна Валошына.

Аднак на эміграцыі Старэвіч не зьбянтэжыўся. Свабодна валодаючы францускай мовай і маючы сувязі ў францускіх кінэматаграфічных колах, ён за мяжой бяз справы не сядзеў, хоць, пэўна ж, мусіў задавальняцца малым. Як-ніяк, а эміграцыя абмежавала ягоныя магчымасьці, задумкі, намеры. Лісенка, зорка расейскага нямога кіно, што памерла ў забыцьці ў доме для перастарэлых пад Парыжам, казала, што калі б не было рэвалюцыі, Старэвіч мог бы зрабіць для мастацтва расейскага кіно тое, што Дэвід Грыфіт зрабіў для амэрыканскага.

Але гэтак ня сталася: за рубяжом Старэвіча прызналі як майстра мультыплікацыі.

Ад 1921 па 1939 г. Старэвіч ставіць мультыплікацыйныя фільмы, перш за ўсё абыймовыя: „Караля й жабы“ (паводле Ляфантэна), „Каралева матылькоў“, „Салавей і алавяны жаўнерык“ (паводле Андэрсэна), „Райнэке Ліс“ (паводле папулярнае нямецкае казкі).

У часе нацыстаўскае акупацыі Старэвіч абмежаваў свой удзел у кіно кансультацыяй навуковых фільмаў ды рэклямных кароткамэтражак. Але ў 1946 г. ён варочаецца да стаўленьня мультыплікацыйных фільмаў.

У 1947 г. у Вэнэцыі Старэвіч быў узнагароджаны на міжнародным фэстывалі прэміяй Макфэрсана за абыймовы мультфільм „Занзабэль у Парыжы“.

У 1949 г. ён падцьвярджае сваё высокае майстроўства пастаноўкаю цудоўнага мультыплікацыйнага фільму „Кветка папараці“. Гэта першы каляровы мультфільм Старэвіча, усе іншыя былі чорна-белыя. Пажылы Старэвіч паўстаў перад гледачом і як выдатны калярыст.

У 1953—1954 гг. ён ставіць двухсэрыйны фільм пра маленькую птушачку газую.

Лебядзінай песьняй Старэвіча стаўся фільм „Пашча лесу“, пастаўлены ім у канцы 1950-х — пачатку 1960-х гг.

Тут трэба адзначыць, што калі вялікі нямы загаварыў, Уладыслаў Старэвіч як знавец тэхнікі кінэматаграфіі заняўся экспэрымэнтамі над удасканаленьнем гуказапісу. Гэтак, ён, бадай, адным зь першых адтварае адначасна з кінакадрамі птушыны сьпеў, шоргат лісьця, шум ветру.

Старэвіч памёр у 1965 г. у 83-гадовым веку.

Некалі паэт-эмігрант Аляксей Авэір сказаў: *„Мы пакінулі Радзіму, але затое разьнесьлі ейную культуру па цэлым сьвеце“*.

Да гэткіх людзей і належаў піянэр кінамастацтва з сусьветным імем Уладыслаў Старэвіч.

*1987*

*Падрыхтоўка да друку й прадмова Лявона Юрэвіча*



*Архівалії*

***Іван Муха***

## КАРОТКАЯ АЎТАБІЯГРАФІЯ[1]

Муха Іван (Евдокымовіч), народжаны Dec. 3, 1912. Народжаны ў мястэчку Охроміевічы Корюкоўского раену Чарнігаўскай Області. Цяпер Корюкоўскі раён перенесено ў Шчорсаўскі раён (гэта быўшае мястэчко — Сноўск, дзе радзіўся, як называюць, герой грамадзянскай вайны М. Шчорс). У сваім мястэчку скончыў сярэднюю школу і тэхнікум. Далей паступіў у Педагогічны (Настаўніцкі) 4-х гадовы інстытут у горадзе Нежын. Закончыўшы яго, працаваў настаўнікам у сярэдняй (дзесяцігадовай) школе і тэхнікуме, выкладаў матэматыку і фізыку. У цяжкія годы голаду (1932—1934) днём вучыўся ў інстытуце, а вечарамі і начамі зарабляў на пражыванне (бацькі ня мелі магчымасці забясьпечыць для мяне студыяванне).

У 1939 г. мяне забралі ў армію, і я папаў у палкавую танкавую школу ў горадзе Гомель. Закончыўшы гэту школу з тытулам капітана (запасу), чакаў восені, каб знову перайсьці на настаўніцкую працу. Выбухнула вайна — цяжкі час застаў мяне на фронце. У гадох 1942—1945 працаваў настаўнікам у Нясьвіжы — у семінарыі. У Нясьвіжы быў 2 разы арыштаваны, более як месяц праседзіў у Баранавіцкай турме.

У 1946 г. спалучыўшыся з беларусамі ў лягерох: *Rosenheim, Regensburg, Michelsdorf, Badreinhenhall і Munchen*, адтуль выехаў 1950 годзе да Амерыкі. У лягерох працаваў настаўнікам у гімназіі Янкі Купалы, выкладаючы матэматыку і кіраваў спортам.

У 1948 г. быў на курсах *IMCA—IWCA*[2] .

Ад часу набыцьця *Bel-Air—Miensk*[3] дапамагаў праводзіць спартовыя гульні[4] .

---

[1] Тэкст аўтабіяграфіі недатаваны. Захоўваецца ў архіве БІНіМу. Друкуецца правапісам арыгіналу.

[2] Маецца на ўвазе *YMCA—YWCA — Young Men's Christian Association* і *Young Women's Christian Association*.

[3] *BelAir-Miensk* — адпачынкавы цэнтар, набыты беларусамі ў штаце Нью-Джэрзі.

[4] Пра Івана Муху гл.: Сьв. памяці Іван Муха (3.12.1912, Чарнігаўшчына — 3.02.1982, Нью Ёрк) // Беларус. №297. Люты 1982. С. 5; Станкевіч, Зіна. Сьветлай памяці Іван Муха // Беларус. №298. Сакавік 1982. С. 4.

# ЯК ПАСВАРЫЎСЯ ПРАЗАІК САВЁНАК З ПАЭТАМ САЛАЎЁМ І ШТО АД ГЭТАГА ЗДАБЫЛА ЛІТАРАТУРА

*Яны пазнаёміліся ў рэдакцыі „Менскай газэты“ — вядомы даваенны фэльетаніст, сябра Янкі Купалы Лявон Савёнак і малады паэт-пачатковец Алесь Салавей. Савёнак належаў да „верхняй палаты“ газэты, а дваццацігадовы Алесь працаваў там вярстальнікам — гэткім Вэрцікам Посікам, неўдалотаю-друкаром з аднаго апавяданьня, як ахрысьціў яго гостры на язык фэльетаніст*[1].

*Ішла вайна, але мінакі ў акупаваным горадзе ня толькі выжывалі, але й жылі: кахаліся, сябравалі й крыўдзіліся, хадзілі ў тэатар, пісалі. „Менская газэта“ (зь лютага 1942 г. — „Беларуская газэта“) сталася цэнтральным органам новага этапу беларусізацыі, і надрукавацца там было немалой справаю для маладых пісьменьнікаў.*

*Адносіны рэдакцыйных „дзядоў у капелюшах“ да маладых творцаў былі, як гэта часта-густа здараецца, троху паблажлівымі, а калі-некалі, па-шчырасьці, і наўпрост нецярпімымі. Крыўда ад нетаварыскага спатканьня, сапраўднага ці ўяўнага, настолькі глыбака засела ў сэрцы Кастуся Акулы, што нават вылілася на старонкі ягонай „Гараваткі“*[2]*. Зрэшты, ён быў не адзін такі.*

*Савёнак, стары рэдакцыйны працаўнік, да місіі газэты ставіўся вельмі сур'ёзна. Нават ва ўмовах залежнасьці ад акупацыйных уладаў, да якіх ён ніколі не вычуваў сымпатыяў, лічыў, што газэта мае адыгрываць сваю адукацыйную ролю ды захоўваць на сваіх старонках беларускую літаратуру.*

*От толькі паэзіі ён не любіў.*

[1] Пазьней, у ляграх *DP*, ужо Салавей гэтак будзе клікаць Міколу Ганька.

[2] Гл.: Арсеньнева, Натальля. Ліст // Запісы БІНіМ. №28. Нью-Ёрк—Менск, 2005. С. 292—297.





*Таму ў адказ на прапанову паказаць вядомаму пісьменьніку свае вершы Салавей пачуў: „Кожны верабей будзе тут чырыкаць! У нас і так поўна паэтаў, што птушак“*[3]*.*

*З таго часу ў рэдакцыі Алеся клікалі ня толькі Вэрцікам Посікам, але й „верабейчыкам“. Неўзабаве атмасфэра ў „Менскай газэце“ для Салаўя зрабілася невыноснаю; датклівы юнак кпінаў і жартаў трываць болей ня мог, таму з радасьцю ўхапіўся за магчымасьць пераехаць у Рыгу да Ўладзімера Сядуры, дзе выдаваўся „Новы шлях“. Але на крыўду не забыўся.*

*Апавяданьне Лявона Савёнка „Зь лірай насустрач“ зьмясьцілі ў „Беларускім работніку“ ў 1944 г. Сатырычны верш Алеся Салаўя недатаваны, таму складана сказаць, які менавіта твор зьявіўся першым. Відавочна адно: гутарка фэльетаніста з паэтам займела працяг.*

***Лявон Савёнак***

### Зь лірай насустрач (кансультацыя для вершапісцаў)

Калі верыць літаратурнай статыстыцы, дык у Беларусі на трох чалавек прыпадаюць два паэты. І гэта невыпадкова, бо беларусы (гэта можна сьмела сьцьвярджаць) — першы народ у сьвеце ў дачыненьні да рыфмаванага радка. Вось і цяпер, дарма што вайна, а пішуць і старыя, і малыя. Пішуць і друкуюць, друкуюць і зноў пішуць. Проста

жах!

жах!

жах!

як пісаў той баранавіцкі паэта.

І трэба сказаць, што паэты ў нас не абы-якія, а ўсе толькі геніяльныя. Для скептыкаў можам параіць наступны мэтад перакананьня: паспрабуйце хоць трохі паганіць верш якога-небудзь паэты. Як ён на гэта зарэагуе? Што? Гэтага не спрабавалі? Я й сам ведаю, што на такое геройства ніхто не рызыкне. Бо іншы паэта за гэткія рэчы твар, як вялікоднае яйка, расфарбуе.

[3] Успамін Вітаўта Кіпеля. Захоўваецца ў прыватным архіве Лявона Юрэвіча. Гл. таксама: Скобла, Міхась. Лісты самотніка. Эпісталярная спадчына Алеся Салаўя // Асоба і час. Беларускі біяграфічны альманах. Выпуск 1. Мінск, 2009. С. 357.

Дык вось, дарагія суродзічы, паколькі вершаскладаньне ў нас набывае шырачэзнага размаху, а тымчасам у гэтай галіне гаспадарыць яшчэ поўнае саматужніцтва, то, як бачым, само жыцьцё вымагае сёньня ж рынуцца зь лірай насустрач паэту й хоць трохі дапамагчы яму ў ягонай плённай працы.

Запраўды, хлопцы, пакуль шчэ вайна скончыцца, ды пакуль выдрукуюць адмысловыя падручнікі па вершаскладаньню, дык магчыма, што шмат у каго й натхненьне выпетрыцца. А гэта была б пякучая страта ў змаганьні... Каб гэтага, крый Божа, ня здарылася, дамо некалькі жыцьцёва патрэбных парадаў паэтам. Пачнем.

Шмат каго, асабліва з маладых, цікавіць вонкавы выгляд паэты. Ну, што да вонкавага выгляду, дык зразумела, што тут ня можа быць ніякага стандарту, паколькі вершы пішуць усе. Але ўсё ж пажадана мець доўгае валасьсё й задуменныя вочы, якія ўвесь час углядаюцца ў далечыню й вышыню, а пад носам, тымчасам, нічога ня бачаць. Праўда, пры такім стане рэчаў можна на які-небудзь ражон узьбіцца й нос растаўчы, але ж ніякае змаганьне без ахвяраў не бывае. Іншыя атрыбуты — як здольнасьць, пісьменнасьць — не заслугоўваюць на ўвагу, бо ўсё гэта можа цалкам замяніць палкае імкненьне да вершу.

Цяпер самае галоўнае — як пісаць вершы.

Сьцьвярджаюць, што нашыя клясыкі пісалі свае вершы надта марудна. Спачатку ў клясыка тэма пачынала, як кажуць, унутры граць. Пасьля ён узгадоўваў яе, доўга выношваў, нібы дзіцё ў чэраве, і калі находзіла натхненьне, браўся за пяро й пісаў.

— Нам іхная тактыка нязручная, — казаў з гэтае прычыны адзін малады паэта, — нам няма часу надумваць ды выношваць... Нам трэ’ выстрэльваць радкі, каб яны як з кулямёту садзілі.

І ён мае рацыю, бо цяпер вайна, і няма чаго марудзіць. Калі ж пры такой шпаркасьці не атрымаецца сэнсу, дык ізноў жа — малы клопат.

— Навет і лепш, — кажуць некаторыя паэты, — калі напусьціць у верш як найбольш туману, дык чытач у ім і патоне.

І зусім слушна: хай паплавае, а калі нічога ня вылавіць, дык хоць учадзее.

Знацца, з боку зьместу ўсё ў парадку: пушчаць як мага больш туману.

Цяпер самая каведная рэч — рыфма. Ох, гэтая рыфма! Яна, як даводзяць паэты, самае галоўнае ў вершы:

— Як аглушыш чытача рыфмай, — кажуць яны, — дык усё і ў парадку. Але яна, падла, цяжка даецца. Праўда, з рыфмай заўсёды клопат. Як





яе ні лаві, а яна што сьлімак між пальцаў: цвырк і няма. Вось, вось, здаецца, злавіў за самы хвост: узяты, а ад яго брат і торкнуў брата ў радок. Агледзеўся, ажна паводле ходу справы ні свата, ні брата ніяк сюды ня ўцісьнеш. І вось бяры сваяка за каўнер і вон з радка, а замест яго садзі якую-небудзь злыбяду. Лёгка гэта? От жа й я кажу...

Шмат, шмат хто на гэтай злаякаснай рыфме пакалечыў і родзічаў загубіў. Кажуць, быў адзін такі люты паэта, што мог з-за рыфмы роднага бацьку забіць. Вось да чаго яна даводзіць! А тымчасам калі да рыфмы падысьці з галавою ды ўжыць адпаведную мэханізацыю, дык справа гэта зусім лёгкая. Ёсьць шмат спосабаў мэханізаванага рыфмаваньня, але мы спынімся на двух, больш дзейных, гэта — на спосабе падборкі й спосабе перамешкі.

Паводле першага спосабу бярэцца які-небудзь зборнік вершаў абыякога паэты, зь вершаў выпісваюцца ў слупок апошнія рыфмаваныя словы й да іх падбіраецца адпаведны зьмест. Вось і ўсё. Але гэты спосаб трохі марудны. Шмат прасьцей другі спосаб, так званая перамешка.

Тут ізноў жа бярэцца верш якога-небудзь паэты (пажадана ведамага) і ягоныя рыфмаваныя радкі спрытна перамешваюцца нанова з дамешкаю трохі сваіх словаў, так што атрымваецца зусім новы, сьвежы, навет з пахам, верш.

Вось гэтыя два самыя простыя й дзейныя спосабы рыфмаваньня. Калі іх ужываць спрытнымі рукамі, дык гэтая ўпартая рыфма будзе цалкам пераможаная.

Нарэшце не пашкодзіць трохі спыніцца яшчэ на адным моманце ў тэхніцы пісаньня вершаў, гэта — на радку. Бо радок, асабліва ў справе ганарару, таксама сьпявае не апошнім голасам. Некаторыя паэты пішуць поўнымі строфамі з доўгімі радкамі. Гэта хоць і музычна, але не практычна. А таму сярод некаторых паэтаў апошнім часам запанавала новая тэорыя, так званая тэорыя сечанага радка. Трэба сказаць, тэорыя надта практычная. Паводле яе, звычайны радок мэханічна разьбіваецца на некалькі радкоў. Да прыкладу, радок „Да вершу, усе, як адзін!“ можна выкласьці так:

Да<br>
    вершу!<br>
        Усе,<br>
            як<br>
              адзін!

Пры такой апэрацыі кажная страфа можа перакуліцца ў сто грамаў з коптурам. Выйгранка, як бачым, відавочная.

Можна шчэ больш удасканаліць гэтую справу й секчы ня словамі, а складамі. Прыкладам, так:

ма
ма
му
ша

А наш мастак сігануў шчэ далей і высунуў праект клішаванага вершу. Ён прапанує секчы ўжо не склады, а літары.

— Магу, — казаў, — літару, прыкладам, ш, на тры радкі расшастаць, бо й мне ж трэ капейчыну зарабіць.

Калі ў такім кірунку тэорыю сечанага радка разгарнуць ва ўсе шыркі, дык можна ўважаць, што будучыня забясьпечаная цалкам.

Вось тыя кароткія парады, з дапамогаю якіх мы патрапім больш бадзёра і ўпэўнена крочыць па дарозе парнаскай у змаганьні за лепшы свой лёс.

Дык жа сьмялей, хлопцы! Да бою, да чынаў на карысьць Бацькаўшчыны!

Рынемся ўсе на змаганьне.

Ворага вершам раструшчым, як пісаў наш выдатны паэта Піліп Асіна.

І слушна! Вораг нас куляй і вагнём, а мы яго — вершам!

Хай жыве!

Наперад!

Нам дапаможа лёс!

***Алесь Салавей***

**Пад п’яную руку**

*Прысьвячаецца „пісьменьніку“ Савёнку*

*Усе паэты — тут я не салгу —*
*Прапашчыя, прагорклыя прапіўцы.*
*Настане дзень — яны ў шынок бягуць,*
*Гатовыя ў гарэлцы і ўтапіцца.*
*А з Камароўкі да шынка народ*
*Тады як на пажар нязгасны прэцца;*
*Ёсьць ляпарнаскія пісцы, ёсьць зброд,*
*Крычаць: Гарэлкі нам не застанецца!*
*А што далей? Ня варта і пісаць.*





*Хоць не паэта — сьлед на рэбрах маю*
*Ад камароўшчыкаў. Таму, відаць,*
*Я гневу супраць іх не устрымаю.*
*Напомню зноў: я не паэта, не.*
*Ня трэба мне ні выпіўкі, ні славы...*
*Прашу, прабачце за шматслоўе мне.*
*Цяпер пара ўзяцца і за справу.*
*..........................................*
*Дык вось. На Камароўцы жыў адзін*
*Дзівак. І капялюш меў — з гліны міску.*
*У содні ля шаснаццаці гадзін*
*Ён аддаваў сябе ўсяго кілішку.*
*Яму й паэты ня былі на ўме,*
*Бязь іх — і то замала было часу.*
*Ён паражніць кілішкі добра ўмеў,*
*Ня ведаючы ліры і Парнасу.*
*Але ж, як кажуць, не заўсёды так*
*Вялося ўсё, як і заўжды вядзецца.*
*На ўсё свой час... Аднойчы наш дзівак*
*Пачуў: Гарэлкі нам не застанецца!*
*Ён, як падсмалены, пабег на крык,*
*Ён ня крычаў: „Карэту мне, карэту!“*
*Адно гукаць ягоны мог язык:*
*— Разбой! Разбой! Далоў усіх паэтаў!*
*Ад іх я учадзеў.*
*З тае пары*
*Паэтам ён праклёны шле й злавесы.*
*Ды гэта шчэ ня ўсё. Я чуў, сябры,*
*Што ён далез нядаўна і да прэсы.*
*Ён там з паўлітрам у руках знайшоў*
*Выгодны супакой, таксама й працу,*
*З усім прапітым сэрцам і душой*
*Статыстыкай паэтаў стаў займацца.*
*І у газэту танны свой тавар,*
*Што „Чужанінавым“ завецца, ціснуў.*
*Мяшчанства дохлага прапіты твар*
*У творы тым гнілотаю раскіснуў.*
*Псэўдонімам ён хітра твар прыкрыў*
*І Крывічаніным пачаў ён звацца.*

*Ды дзе ж ты, чыжык, быў, дзе піва піў,*
*Мо б сербануў яшчэ? Ці рад старацца?*
*Хіба табе паэтаў зразумець,*
*Хіба табе, бяздарнаму, уцяміць,*
*Што ім, няшчасным, каб натхненьне мець,*
*І за гарэлку ўзяцца трэ' часамі?*
*Табе паэзія — афіша, ты — каза,*
*Моль Камароўская душу табе абгрызла.*
*Адзінае магу табе сказаць:*
*„Калі ня поп, дык не ўбірайся ў рызы!“*
..............................................
*Ха-ха! Ха-ха! Ну вось і ўсё, сябры.*
*Цяпер пара й за чарку, каб ачнуцца.*
*Бо літары ўжо скачуць дагары*
*І рыфмы вельмі цяжка мне даюцца.*

*Прадмова й падрыхтоўка да друку Лявона Юрэвіча*



*Пэрсаналіі*

***Лявон Юрэвіч***
*Нью-Ёрк*

## КАРОТКАЕ ПАСЬЛЯМОЎЕ ДА ПУБЛІКАЦЫІ ЎСПАМІНАЎ ПАСЛА[1]
### (Аляксандар Стагановіч)

Успаміны Аляксандра Стагановіча (25.01.1890 — 28.12.1988), першапачаткова названыя „Пройдзены шлях майго жыцьця“, большай сваёй часткаю апавядаюць пра жыцьцё „за Польшчаю“.

Польская культура настолькі далася аўтару ўспамінаў у знакі, што калі праз гады на дзясятым паседжаньні сёмай сэсіі Рады БНР (14 лютага 1954 г.) Леанід Галяк у сваёй прамове зьвярнуўся да прысутных „паны“, Стагановіч палічыў такі зварот абразаю й на дванаццатым паседжаньні (4 красавіка 1954 г.) выступіў з прапановаю *„прыняць афіцыйнымі звароты „спадар“, „спадарыня“, „спадарышня“ й на паседжаньнях зьвяртацца толькі звароткай „спадар Рады, спадар Прэзыдэнт, спадар Міністар“* (12 радных прагаласавалі „за“, 5 — супраць, 3 — устрымаліся)[2].

Дзейнасьць у лягерах *DP* і ў Амэрыцы фактычна засталася па-за зьместам успамінаў Аляксандра Стагановіча. А распавесьці было б пра што.

Ужо 21 чэрвеня 1948 г. на другім паседжаньні Прэзыдыюму аднаўленай Рады БНР, калі былі сфармуляваныя базавыя прынцыпы дзейнасьці Рады й падтрыманьня — неафіцыйнага — БАПЦ, Аляксандра Стагановіча абралі першым заступнікам старшыні[3].

Трэба адзначыць, што актыў ашчадна ставіўся да вэтэранаў беларускага руху, цаніў супрацоўніцтва:

*„Аднаўленьне Рады БНР 28 сьнежня 1947 г. у Нямеччыне прайшло ў не зусім спрыяльных абставінах. Асноўная маса беларускай эмігра-*

---

[1] Гл.: Стагановіч, Аляксандар. Успаміны пасла // Запісы БІНіМ. №32. Нью-Ёрк—Менск, 2009. С. 225—330.

[2] Паводле дакумэнтаў з архіву Рады БНР, што захоўваюцца ў БІНіМе.

*цыі перабывала ў лягерах. Вісеў над ёй яшчэ сьцень страху рэпатрыяцыі пад прымусам, была няпэўнасьць будучыні, невыразнасьць агульна-палітычнай сытуацыі. Трэба было сьпяшацца з арганізацыяй аўтарытэтнага прадстаўніцтва.*

*Увосень 1946 г. было ўзгоднена з старэйшымі беларускімі палітычнымі дзеячамі, што пры аднаўленьні Рады БНР трэба ахапіць як мага шырэй актыў палітычных і грамадзкіх дзеячаў.*

*Паколькі ў нас не было палітычных партыяў і, апрача Францыі й Ангельшчыны, не існавалі яшчэ грамадзкія арганізацыі, якія б маглі пасьлаць у Раду сваіх прадстаўнікоў, было пастаноўлена ўлучыць у склад Рады БНР кожнага грамадзка-палітычнага дзеяча, які сваёй мінулай дзейнасьцю стварыў сабе аўтарытэт у беларускім грамадзтве ды меў адпаведныя кваліфікацыі. Актывам старэйшых і быў складзены сьпіс гэткіх людзей у ліку 72 асобаў, у якім на першым месцы стаялі паслы польскага сойму з Заходняй Беларусі, удзельнікі Ўсебеларускага Кангрэсу 1917 году, вайскавікі таго часу й старэйшыя заслужаныя грамадзкія дзеячы*[4].

*28 сьнежня 1947 г. адбылася інаўгурацыйная сэсія, на якой гэтыя 72 кандыдаты склалі ўрачыста прысягу вернасьці БНР на рукі Прэзыдэнта БНР. Тут-жа быў сфармаваны і Ўрад БНР. Дальней папаўненьне праходзіла павольней — паводле таго ж прынцыпу. Пад канец 1954 г. Рада мела 142 радных“*[5].

[3] Юрэвіч, Лявон. Архіў Рады БНР // Запісы БІНіМ. №31. Нью-Ёрк—Менск, 2008. С. 113—114.

[4] Цікава заўважыў Антон Шукелойць: „Думка, якая была ў Абрамчыка, — цалкам аднавіць дзейнасьць Рады БНР. Ён паклікаў, па-першае, старых радных, што былі, старых дзеячаў з часоў Рады БНР на Беларусі. Другая група ў яго была — гэта былыя беларускія палітычныя дзеячы ў Польшчы. Зь іх вельмі высока цэненым быў былы дэпутат Сойму Стагановіч. І цэлы шэраг беларускіх дзеячаў з Заходняй Беларусі. Трэцяя група — гэта былі людзі з савецкай Беларусі, ведамыя дзеячы, якія там баранілі нацыянальныя інтарэсы. А гэта быў, у першую чаргу, Адамовіч. Абрамчык прызначыў сваіх двух заступнікаў: гэта якраз Стагановіч — першы, і другі заступнік — Антон Адамовіч (былы ўзвышэнец і былы вязень савецкіх турмаў і ссылкі)“. (Пазьняк, Зянон. Гутаркі з Антонам Шукелойцем. Варшава—Вільня, 2003. С. 98.)

[5] Праект рэарганізацыі Рады БНР ад 14 лютага 1968 г. Захоўваецца ў архве Рады БНР, БІНіМ.





На пятым паседжаньні восьмай сэсіі Рады БНР (8 лістапада 1956 г.) адбыліся выбары новага Прэзыдыюму й Сакратарыяту Рады БНР: старшыня Рады БНР — Мікола Абрамчык, першы заступнік — Аляксандар Стагановіч, другі заступнік — Антон Адамовіч, сакратар унутраных справаў — Кастусь Мерляк, сакратар вонкавых сувязяў на ЗША — Антон Шукелойць, скарбнік — Віталь Кажан, сакратар Рады — Натальля Арсеньнева[6].

У 1957 г., калі Прэзыдыюм Рады БНР аб'ядналі з Радаю БНР, Аляксандар Стагановіч выконваў абавязкі заступніка прэзыдэнта Міколы Абрамчыка ды кіраўніка сэктару[7].

Праваслаўнаму верніку, яму нескладана было, у адпаведнасьці з прынятымі пастановамі, падтрымліваць БАПЦ і, па магчымасьці, уплываць на яе палітыку. На досьвітку царкоўнага закалоту ён як першы заступнік прэзыдэнта БНР падпісаў ліст наступнага зьместу:

*„Рада Беларускае Народнае Рэспублікі.*
*5-га кастрычніка 1967 году.*
*Яго Высока Прэасьвяшчэнству*
*Прэасьвяшчэньнейшаму Архіяпіскапу Сергію.*

*Рада Беларускай Народнай Рэспублікі паведамленая аб Вашым намеры правесьці хіратонію а. пратаярэя Аляксандра Крыта.*

*На аснове дагавору ў Канстанцы з 5-га чэрвеня 1948 году Рада Беларускай Народнай Рэспублікі забавязаная паведаміць Вас, Высока Прэасьвяшчэньнейшы Ўладыка, аб нарушэньні Вамі гэтага дагавору. Кандыдатура а. А. Крыта ў япіскапы не была Вамі ўзгоднена з Радай БНР.*

*Мы гэтым ветліва паведамляем Вас, Высока Прэасьвяшчэньнейшы Ўладыка, што паводжаньне а. прат. Аляксандра Крыта ў яго парахвіі й япархіі супярэчнае канонам праваслаўнай Царквы й варожае беларускага народу.*

*Таму Рада БНР ня можа пагадзіцца на а. прат. А. Крыта й змушаная разглядаць яго хіратонію як варожую дзейнасьць супраць беларускага народу ды дзеля гэтага пераглядзіць сваё адношаньне да ўсіх тых, хто прыложыцца да яго хіратоніі [...]“*[8].

[6] Бюлетэнь Рады Беларускай Народнай Рэспублікі. №1. Сакавік 1957. С. 6.

[7] Паводле дакумэнтаў архіву Рады БНР, БІНіМ.

[8] Збор дакумантаў Сьв. Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы (на выгнаньні). [Б. м.], 1983. С. 60 (77).

Цікава, што ў прыватным жыцці Аляксандар Стагановіч быў больш талерантным чалавекам. На хіратанізацыю будучага япіскапа Васіля ён ехаў разам з а. Уладзіславам Салаўём — дапамагаў таму адрэдагаваць тэкст выступу на ўрачыстасьці й быў надта ж раззлаваны прамоваю ўкраінскага япіскапа Платона, калі той збэсьціў каталіцтва. Нават болей, ён ня раз прыслугоўваў а. Салаўю падчас божых службаў, ды так, што Франц Кушаль аднойчы запытаўся, ці не каталік Стагановіч — настолькі спраўна ўсё выходзіла.

Расказваць было пра што.

Настойлівыя дамаганьні дачкі Тамары прывялі Аляксандра Стагановіча да думкі напісаньня ўспамінаў. Ня надта спрактыкаваны ў падобнай працы, ён зьвярнуўся па параду да Янкі Запрудніка, ад якога атрымаў такі адказ:

*„Вельмі паважаны Спадару Стагановіч!*

*Дык значыцца, я Вам пытаньні, а Вы мне адказы. Я ня ведаю, як у Вас з часам. Калі б Вы маглі дазволіць сабе прачытаць што-небудзь (скажам, гісторыю першых год незалежнай Польшчы) пра той пэрыяд, пра які Вы самі зьбіраецеся пісаць, дык гэта напэўна Вам шмат памагло б, бо гэткая лектура аднавіла б у Вашай памяці гэную агульную атмасфэру, у якой знойдуць месца й падаваныя Вамі факты.*

*Цяпер другая парада: Каб Вам лягчэй было пісаць, майце заўсёды перад сабой у думцы нейкую канкрэтную асобу. Уявіць можна, прыкладам, што Вы пішаце абшырны ліст свайму добраму сябру, зь якім Вы даўгія гады ня бачыліся, а цяпер хочаце расказаць яму пісьмова, як Вам жылося, пачынаючы ад часу Вашага расстаньня. На кожнае пытаньне адказвайце як мага абшырней. Не забывайцеся, што Вашымі чытачамі будуць часта асобы, якім абсалютна нічога невядома ні пра Вас, ні пра тыя параўнальна далёкія часы, якія Вы апісваеце. Не пераймайцеся нічым: ні правапісам, ні русіцызмамі, ні паланізмамі, ні шарахаватасьцяй стылю (першы чарнавік у найлепшага літаратара часта атрымоўваецца чэрствы з гледзішча стылю). Усе гэтыя недакладнасьці выпраўленыя будуць пазьней. Галоўнае ўва ўсім Вашым пісаньні — гэта факты, апісаньні й думкі. Ня думайце лішне й пра разьдзелы, загалоўкі й падзагалоўкі.*

*Пачаць, на маю думку, найлепш было б ад апісаньня наступных мамэнтаў:*

1. *Першыя праявы майго самастойнага палітычнага думаньня (добра было б сказаць колькі словаў пра сям'ю ды пра навакольле, у якім раслося й гадавалася).*
2. *Пры якіх абставінах адбылося нацыянальнае ўсьведамленьне (як калісьці Язэп Лёсік кажнаму вучню даваў тэму „выпрацоване": „Як я стаўся Беларусам").*
3. *Першыя знаёмствы зь людзьмі палітычна й нацыянальна думаючымі (гутаркі, спатканьні, спрэчкі, пагляды).*
4. *Апісваючы вышэй адзначаныя моманты, бясспрэчна, трэба даваць ім, як рамкі даюцца малюнку, падзеі агульнанацыянальнага значаньня (вайна, перамір'е, эвакуацыя).*
5. *Якім чынам я папаў у сойм? (У якіх умовах была выстаўленая кандыдатура; іншыя кандыдаты, дачыненьні польскай улады.)*
6. *Пасольская дзейнасьць.*
7. *„Грамада" (падаваць па магчымасьці найдрабнейшыя факты й здарэньні, бо сёньня ўсё гэта мае вялікае значаньне).*
8. *Характарыстыкі іншых беларускіх і, эвэнтуальна, небеларускіх дзеячаў [...]"*[9].

Праца над успамінамі ішла складана. Стагановіч, апісаўшы падрабязна падзеі часоў Першай сусьветнай, даваеннага пэрыяду, закрануўшы лягеры DP, пачаў пісаць успаміны наноў, з большымі дэталямі, а дайшоўшы да часу ад'езду ў ЗША — ізноў — трэці раз вярнуўся да самых пачаткаў. Так што сёньня ў дачкі Тамары захоўваюцца тры варыянты ўспамінаў. Пра дзейнасьць на эміграцыі там амаль нічога няма.

Ёсьць троху лістоў, якія даюць уяўленьне, чым займаўся ды чаму займаўся тым ці іншым Аляксандар Стагановіч.

## Лісты да Аляксандра Стагановіча[10]

*10.2.1948*

*Вельміпаважаны Калега!*

*Ад доўгага часу я наглядаю жыцьцё нашае беларускае эміграцыі. Яно ёсьць копія зь Віленскага жыцьця, калі, каб пабедзіць свайго палітычнага праціўніка, яго называюць правакатарам, агентам дэфэнзівы й г. д. Так і цяпер спрэчкі зводзяцца да асабістага абліваньня адзін другога памыямі. Час скончыць з гэтым. Трэба стаць куль-*

[9] Ліст Янкі Запрудніка да Аляксандра Стагановіча ад 20.05.1958. Захоўваецца ў архіве сям'і Стагановічаў.

[10] Пададзеныя лісты захоўваюцца ў сям'і Тамары Стагановіч-Кольбы.

*турнымі людзьмі і ўжываць культурных спосабаў барацьбы. Трэба згуртаваць усіх беларусаў добрай волі ў адну арганізацыю, у якой бы мелі ўдзел усе палітычныя кірункі, вялі б беларускую справу без правакатараў. Я й Сабалеўскі*[11] *(на жаль, я ня ведаў твайго адрэсу) прыйшлі да пераконаньня, што трэба зрабіць так, каб усе беларусы сабраліся за агульным круглым сталом і выбралі агульнае беларускае прадстаўніцтва з усіх партый і плыняў палітычных, якое кіравала б нашым жыцьцём! Калі Вы падзяляеце нашу думку, то прашу Вас падпісаць прылагаемую адозву. Памятайце, што ні агенты розных вуніяў, ні бальшавіцкія не нясуць нам незалежнасьць. Няхай жыве Незалежная Беларусь!*

*В. Рагуля*[12]

*Чэрвень 11-га, 1958 г.*

*Паважаны Спадар Стагановіч!*

*Спадзяюся, што Вы атрымалі „Ўспаміны“ сьв. памяці майго бацькі*[13]*, а таксама й рэакцыю з боку Я. Станкевіча*[14]*, які напісаў у гэтай справе артыкул, што цягнуўся аж у трох нумарох „Бацькаўшчыны“*[15]*. Не патрабую Вам выказваць свайго абурэньня й агіды з прычыны мэтадаў, якімі паслугоўваецца Янка з мэтаю, як ён кажа, „устанаўленьня праўды“.*

*У імя якраз устанаўленьня праўды (калі пакойны сьведама ці нясьведама зь ёю дзе й разьмінуўся) зьвяртаюся да Вас як сучасьніка й сьведкі падзеяў забраць у гэтай справе голас і выказацца на балонках „Бацькаўшчыны“.*

[11] Юры Сабалеўскі (1889—1957) быў пасЛом польскага сойму ў 1926—1928 гг.

[12] **Васіль Рагуля** (1879—1955), грамадзка-палітычны дзеяч. Скончыў Віленскі настаўніцкі інстытут (1900), настаўнічаў. У 1922 г. яго абралі ў польскі сойм, у 1928 г. — у сэнат. Быў зьняволены польскімі ўладамі. У 1930-х гг. працаваў на сялянскай гаспадарцы. 20 чэрвеня 1941 г. савецкія органы дзяржбясьпекі арыштавалі яго, уцёк з турмы. Падчас нямецкай акупацыі — бурмістар мястэчка Дзятлава. Зь лета 1944 г. — на эміграцыі. Жыў у Нямеччыне, Бэльгіі, ЗША.

[13] Рагуля, Васіль. Успаміны. Нью-Ёрк: Выданьне М. Рагулі, 1957. — 127 с.

[14] Янка Станкевіч (1891—1976) быў пасЛом польскага сойму ў 1928—1930 гг.

[15] Станкевіч, Я. На бакох „Успамінаў“ В. Рагулі // Бацькаўшчына. №18 (404). 4 траўня 1958. С. 2—3; №19 (405). 11 траўня 1958. С. 2—3; №20 (406). 18 травеня 1958. С. 3—4.





*Артыкул Я. Станкевіча ставіць справу наагул у плошчы беларускасьці В. Рагулі для беларускага руху ў Польшчы, а ягоныя ўспаміны акрэсьлівае як суцэльную ману ды няпраўду.*

*Прыкра, што ў ролі пракурора выступае чалавек, які якраз не адзначаецца вялікімі маральнымі якасьцямі, і ацэнка дзейнасьці якога ў „Успамінах“ пакрываецца з апініяй шмат каго з тых, хто быў сьведкам тых падзеяў.*

*Можа таму так страшна й злосна Янка падмахлёўвае ды перакручвае факты, паданыя ў „Успамінах“.*

*Лічу, што калі справа гэтая апынулася на балонках нашае газэты, яна павінна быць прадыскутавана з мэтаю ўстанаўленьня праўды. Не зрабіць гэтага грамадзтва ня мае права, бо гэта азначае скрэсьліць зусім заслугі чалавека, які ў свой час меў адвагу змагацца за правы свайго народу, ісьці ў турму, не заламацца й не пайсьці на кампрамісы да канца існаваньня Польшчы ў той час, як некаторыя патэнтаваныя незалежнікі з перад 1920 году верна пайшлі служыць польскім уладам (Кушаль*[16] *у войску, настаўнікі ў польскіх школах, Луцкевіч*[17]*, Астроўскі*[18] *і Я. Станкевіч — у палітыцы).*

*Не патрабую Вам аб гэтым пісаць, Вы гэта ведаеце лепей за мяне.*

*Уся сіла артыкулу Я. Станкевіча можа быць лёгка падарвана, калі даказаць, што пакойны напісаў аб ім праўду.*

*Было б добра, каб Вы як пасол Сойму ў той час, як і Янка быў там, выказаліся ў гэтай справе. Добра было б асьвятліць наступныя пытаньні: ці Сэнатар В. Рагуля быў русафілам і ў чым ягонае русафільства выяўлялася? Ці ягонае становішча было з пункту гледжаньня нацыянальнага правільнае? Ці праўда, што ліста Я. Станкевіча (№41) была ўгадовая? Чаму ён не далучыўся ні да воднае зь беларускіх групоўкаў у Сойме? Дзе ён сядзеў і з кім галасаваў? Ці выступаў з Соймавае трыбуны й ці праўда, што гэта ён, а не Ф. Ярэміч*[19] *правёў праз Сойм асыгнаваньне для Беларускае Навагрудзкае Гімназіі 250 000 злотых? Калі Я. Станкевіч не хацеў супрацоўнічаць з В. Ра-*

[16] Франц Кушаль (1895—1968) на службе ў польскім войску быў з 1922 г.

[17] Антона Луцкевіча (1884—1942) польскія ўлады арыштавалі ў кастрычніку 1927 г., суд апраўдаў у 1928 г., што дало падставу размовам пра супрацу Луцкевіча з палякамі.

[18] Радаслаў Астроўскі (1887—1976) у лютым 1924 г. стаўся заснавальнікам праўрадавага Польска-беларускага таварыства.

[19] Фабіян Ярэміч (1891—1958) быў пасЛом польскага сойму ў 1922—1935 гг.

*гуляю й Ярэмічам, чаму ён не далучыўся да свайго дзядзькі кс. Адама Станкевіча? Ці мае наагул права чалавек, які ніколі не прызнаваў над сабою аўтарытэту нацыянальных беларускіх арганізацыяў, судзіць чалавека, які ляяльна належаў да Беларускага Пасольскага Клюбу й нават быў ягоным старшынёю?*

*На гэтыя пытаньні мусіць быць даны публічны адказ, каб паставіць нахабнікаў на сваё мейсца. Буду вельмі ўдзячны, калі знойдзеце за магчымае нешта напісаць у „Бацькаўшчыну“ ў гэтай справе.*

*З пашанай, М. Рагуля*[20]

*Бэльгія, у чэрвені 1969 г.*

*В. П. Спадар Стагановіч.*

*Выкліканы сьпешна, дня 10 чэрвеня, прыгатаваў я духоўна Сп. Прэз. Міколу Абрамчыка да вельмі паважнай апэрацыі жывата. З огляду на перавязеньне хворага ў вялікую больніцу Сьв. Людовіка ў Парыжы, апэрацыя адбылася толькі 19 чэрвеня. Цяпер ведама, што хворы пасьля выпісаньня з больніцы мусіць прайсьці месячную курацыю ў доме дзеля рэконвалесцэнтаў.*

*Спадар Прэз. Абрамчык прасіў мяне зьвярнуцца да Вас з просьбай уключыцца актыўна ў дапамогу ў вельмі цяжкім палажэньні сям'і, ніяк не прыгатаванай на так вялікія кошты лячэньня.*

*Крытычны стан хваробы насьпеў за 10 апошніх месяцаў, пасьля нешчасьлівага выпадку злому нагі пры будове, у жнівні прошлага году. Няшчасьця гэта спрычыніла ня толькі вялікія выдаткі клінічныя, але перадусім спыніла працу й заходы дзеля матэрыяльнага забясьпечаньня, менавіта прадажы дому.*

*Прашу Вас адклікнуцца максымальнай дапамогай (уключна з пазыкай) ды зрабіць магчымы ўплыў у асяродзьдзі беларускай эміграцыі, катораму ўся беларуская эміграцыя маральна й нацыянальна забавязана ў высокай меры.*

[20] **Міхась Рагуля** (1914—2002), сын Васіля Рагулі. Вучыўся ў семінарыі ў Навагрудку, потым — у варшаўскім і львоўскім палітэхнічных інстытутах. Падчас вайны працаваў загадчыкам аддзелу культуры ў Віцебску, рэдагаваў бюлетэнь БНП (выйшла 6 нумароў). Па вайне навучаньне працягваў у Марбургу й Мюнхэне. У ЗША прыехаў у 1950 г., працаваў у галіне будаўніцтва фабрычных печаў. Паступова адышоў ад актыўнай грамадзкай дзейнасьці. У апошнія гады свайго жыцьця адмаўляўся ад якіх-небудзь інтэрвію і ўспамінаў.





*Прашу прабачэньня за эвэнтуальна памылковую транскрыпцыю Вашага прозьвішча ці недакладнасьці адрэсы, атрыманай ад Спадарыні Ніны Абрамчык*[21] *у дні цяжкіх перажываньняў.*

*Хрысьціянскае й беларускае дзякуй Вам за Ваш чулы водклік і за ўдзел у гэтай дапамогавай акцыі беларускай салідарнасьці.*

*З глыбокай пашанай і любоўю ў Хрысьце Госпадзе,*

*Ваш а. Аўген Смаршчок*[22]

### Артыкулы Аляксандра Стагановіча

**Стагановіч, А. Штэтэнгофэнскі „эрзац“** // Бацькаўшчына. №15—16 (245—246). Вялікдзень 1955. С. 8.
**Струг, Тарас. Праўда аб „Грамадзе“ й „Змаганьні“** // Бацькаўшчына. №49 (331). 2 сьнежаня 1956. С. 3—4; №50 (332). 9 сьнежаня 1956. С. 4.
**Стагановіч, А. У абарону „Успамінаў“ В. Рагулі** // Бацькаўшчына. №29—30 (415—416), 10 жнівеня 1958. С. 3—4.
**Стагановіч, А. Мой адказ Я. Станкевічу** // Бацькаўшчына. №47 (433). 7 лістапада 1958. С. 3—4.
**А.-іч. Адказ С. Прытыцкаму** // Бацькаўшчына. №6 (490). 7 лютага 1960. С. 2; №7 (491). 14 лютага 1960. С. 2.
**Стагановіч, А. Шэсьцьдзясят год таму. У вадзначэньне нашаніўскага году** // Беларус. №111—112. Ліпень—жнівень 1966. С. 5.

### Публікацыі пра Аляксандра Стагановіча

**Станкевіч, Я. Колькі зацемкаў да Стагановічавае абароны „Успамінаў“ В. Рагулі** // Бацькаўшчына. №35 (421). 14 верасьня 1958. С. 3—4.
**60-ыя ўгодкі грамадзкай дзейнасьці Аляксандра Стагановіча** // Беларус. №115. Лістапад 1966. С. 2.
**Падзяка [сп-ням Бакуновіч, Каранеўскай і Януш за гатаваньне на сьвяткаваньні 60-х угодкаў грамадзкай працы Аляксандра Стагановіча]** // Беларус. №116. Сьнежань 1966. С. 5. Подпіс: Управа БАЗА ў Нью-Джэрзі.

[21] **Ніна Абрамчык** (дзяв. Ляўковіч) (1916—2003), жонка Міколы Абрамчыка.
[22] **Аўген Смаршчок** (1914—1984), праваслаўны сьвятар, старшыня Саюзу беларусаў у Бэльгіі.

**Віншаваньне з 80-годзьдзем жыцьця Аляксандра Стагановіча** // Беларус. №153. Студзень 1970. С. 1.
**Падзяка [сям'і Стагановічаў за спачуваньні з прычыны сьмерці сьв. памяці Аляксандра Стагановіча малодшага]** // Беларус. №209. Верасень 1974. С. 4.
**Вітаем сп. Аляксандра Стагановіча зь 98-мі ўгодкамі жыцьця** // Беларус. №343. Студзень 1988. С. 4.
Подпіс: „Галоўная й мясцовая ўправы БАЗА, Рэдакцыя „Беларуса“.
**Угодкі сп. А. Стагановіча. (З жыцьця ў Гайленд-Парку)** // Беларус. №344. Люты 1988. С. 6.
**Сьв. памяці Аляксандар Стагановіч (памёр 28.12.1988 на 99-м годзе жыцьця)** // Беларус. №355. Студзень 1989. С. 7.
**Паховіны сьв. памяці А. Стагановіча** // Беларус. №355. Студзень 1989. С. 7.
**Сьв. памяці Марыя Стагановіч (1898, Касы Двор на Наваградчыне — 7.06.1995, ЗША)** // Беларус. №425. Чырвень—ліпень 1995. С. 8.
**Юрэвіч, Лявон. Забытае імя: Аляксандар Стагановіч** // Беларус. №492. Сьнежань 2003.



*Пэрсаналіі*

***Лявон Юрэвіч***
*Нью-Ёрк*

## МАЛОДШЫ БРАТ
### (Ізыдар Плашчынскі)

Факты даваеннай біяграфіі гэтага чалавека вядомыя хіба толькі таму, што ён быў малодшым братам Язэпа Пушчы. З успамінаў удавы паэта, Станіславы Плашчынскай[1], даведваемся, што Ізыдар нарадзіўся, як і ягоны брат, у в. Каралішчавічы Менскага павету. Вучыўся на філялягічным факультэце ўнівэрсытэту, па заканчэньні працаваў настаўнікам, пазьней у БелТА.

Артыкул у даведніку „Беларускія пісьменьнікі“ (аўтар Сьвятлана Сачанка)[2] нібыта ўдакладняе асобныя моманты жыцьця, але праз тое, што няма спасылак на крыніцы (што й зразумела ў такога кшталту выданьні), цяжка сказаць, наколькі ім можна верыць.

Перш-наперш трэба ўдакладніць пазначаны там год нараджэньня — 1908-ы — больш канкрэтнай датаю: гэта адбылося 24 чэрвеня.

У даведніку Ізыдару Плашчынскаму прыпісваецца псэўданім *М. Менскі*. Але вядома, што так падпісваў свае публікацыі Мікола Шчаглоў-Куліковіч, а Плашчынскі ўжываў іншы — *Я. Менскі* або *Язэп Менскі*.

Сьцьвярджаецца таксама, нібы ён належаў да „Ўзвышша“ — відаць, па аналёгіі зь Язэпам Пушчам, які быў сябрам гэтага згуртаваньня. Але засумнявацца і ў гэтым прымушаюць неаднаразовыя згадкі ў ліставаньні Юркі Віцьбіча з Антонам Адамовічам аб тым, што на эміграцыі ёсьць толькі два „ўзвышэнцы“.

Што можна цьвердзіць з пэўнасьцю: адваяваўшы зь фінамі, у час вайны ў Беларусі Ізыдар Плашчынскі разам з Натальляй Арсеньневай,

[1] Плашчынская, Станіслава. З дзён далёкіх і блізкіх // Пушча, Язэп. Збор твораў у 2 т. Т. 2. Мінск, 1994. С. 382—440.
[2] Сачанка, Святлана. Ізідар Плашчынскі // Беларускія пісьменнікі: Біябібліяграфічны даведнік у 6 т. Т. 6. Мінск, 1995. С. 652.

Лявонам Савёнкам, Антонам Адамовічам ды іншымі працаваў у рэдакцыі „Беларускай газэты“ й адначасова падпарадкоўваўся Францу Кушалю — перакладаў з польскай мовы (у тым ліку пераклаў падручнік для паліцыянтаў). У Нямеччыне хаваўся спачатку ў кляштары ў Баварыі, потым жыў у лягеры *DP* у Гановэры, супрацоўнічаў з „Вольным Словам“. Па вайне Язэп Гуткоўскі — такое абраў сабе „эміграцыйнае“ імя — быў вольным аўтарам (не належаў да штатных працаўнікоў) радыё „Вызваленьне“; у 1950-х, відаць, атрымоўваў стыпэндыі ад мюнхэнскага Інстытуту вывучэньня СССР, бо друкаваўся ў выданьнях гэтае ўстановы.

Гуткоўскі не належаў да згуртаваньня „Шыпшына“, ня быў блізкі й да пісьменьнікаў, аб'яднаных вакол „Конадняў“. Напрыканцы 1960-х гг. нібыта мела паўстаць новая літаратурная суполка, у пэўным сэнсе — маргіналаў, толькі надта ж розныя былі мэты пісьменьнікаў, каб затрымаць іх надоўга разам: Янка Юхнавец, паэт, які адбыўся й якога, нягледзячы на ўсю незвычайнасьць творчае манеры, ахвотна друкавалі пэрыёдыкі; Сяргей Хмара, чые пляны больш тычыліся палітыкі, як літаратуры; ягоны верны сябра архівіст і кніжнік Мікола Панькоў з жонкаю Нінай Змагаркай; Янка Ліманоўскі, пакрыўджаны на ўсіх за тое, што напісаную ім прадмову да Купалавай „Спадчыны“[3] ў выданьні замянілі на тэкст Станіслава Станкевіча; Мікола Цэлеш, які ўшчэнт рассварыўся зь Віцьбічам; шэраг аўтараў, што сябрамі іншых згуртаваньняў уважаліся за графаманаў: Алесь Змагар, Янка Шатун.

Найбольш прыкметным учынкам гэтага кароткатрывалага аб'яднаньня стаўся падпісаны яго ўдзельнікамі ў верасьні 1968 г. ліст да Саюзу пісьменьнікаў Чэхаславаччыны на знак салідарнасьці й пратэсту супраць дзеяньняў Масквы.

Калі Язэп Гуткоўскі памёр (25.02.1986 у Нью-Ёрку), нэкралёг у газэце „Беларус“ засьведчыў, што й яны, былыя калегі, сябры, амаль нічога ня ведалі пра ягонае даваеннае жыцьцё, мала цікавіліся паваенным — у тэксьце за выняткам году нараджэньня й даты сьмерці адно словы спачуваньня[4].

У архіве „Беларуса“ захаваўся ліст ад Лідзіі Дуржэнковай — жанчыны, зь якой Гуткоўскі жыў у Амэрыцы. Ліст, верш і ўспамін напісала, як прызнаецца аўтарка, не літаратарка. Але разам з тым гэтыя тэксты ня

[3] Купала, Янка. Спадчына. Нью Ёрк—Мюнхэн, 1955.

[4] Сьв. памяці Язэп Гуткоўскі (Ізыдар Плашчынскі) (1908, Караліёшчавічы, каля Менску — 25.02.1986, Нью Ёрк) // Беларус. №328. Студзень—сакавік 1986. С. 7.





толькі расказваюць новае пра чалавека, але й дазваляюць зразумець ягоную трагедыю, прычыны адасобленасьці ад грамады, адзіноцтва.

*„Паважаны сп. Запрудник!*

*Пробовала написать по-белорусски, но не владея хорошо языком, получилась „лабуда“, как сказал бы Изидор. Может быть это замного для вашей газеты. Я не писатель, не литератор, написала всё так от сердца. Но я понимаю, что газета не служит для изливания чувств, и у вас есть более важные вопросы. Цель моей статьи — это хоть чем-нибудь вспомнить Изидора. Ведь жил же человек, и хотя не участвовал активно в белорусской жизни, но что-то делал. Оставил после себя какой-то вклад в общее белорусское дело.*

*Попутно пересылаю мой первый и последний „вершык“. Не для печатания, конечно, а просто так, интересно Ваше мнение.*

*Чы ён чаго варты?*
*На этом остаюсь.*
*Желаю Вам всего наилучшего.*
*С уважением,*

*Лидия Дурженков*

***Вместо цветов***

*Отошел ты в могилу заснежену,*
*Никому не сказавши „Бывай“,*
*Твои очи навеки смежены,*
*Темной тенью легла в них печаль.*
*Тихо гроб опускался в холодную яму,*
*Никто слова на путь не сказал,*
*Только ветер злобно полотнище рвал,*
*Полетели комья мерзлой земли... и цветы*
*В твой новый дом.*
*Сердце верить не хочет, что это всё... Конец.*
*Спи, друг мой,*
*Образ твой я с собой унесу*
*И „прощай“ не скажу,*
*Крепко верую, что где-то,*
*Будь то осенью,*
*Летом,*
*Весною*
*Иль зимней порою*
*Ещё раз я увижусь с тобою“.*

Тэкст, які даслала Лідзія Дуржэнкова, у газэце надрукавалі, але з рэдактарскімі праўкамі[5]. Тут ён падаецца ў адпаведнасьці з арыгіналам:

*„Сумная Годовщина.*

*2.25.87 г. исполнилась первая годовщина со дня смерти Язэпа Гутковскаго (Изыдара Плашчынскага). Безжалостная смерть вырвала ещё одного из сынов Матери-Белоруссии. Вспоминается, каким он был: честный, с открытой душой, немного бунтарь, он любил свой родной край горячей любовью. Он как-то болезненно воспринимал всё, что касалось Белоруссии. Переживал за судьбу своей Родины. Возмущался тем, что на грудь Белоруссии давит всё тот же кремлевский сапог, если уже не черный, так красный. Болел за чистоту белорусского языка. Журналист незаурядных способностей, был он очень прямолинейным и иногда нетерпеливым в своих высказываниях. Резко критиковал тех, кто не совсем правильно освещал какие-нибудь события, факты. Ко всему относился критически. Но наиболее критически он относился сам к себе. Не признавал никаких компромисов. Он не мог кривить душой. У каждого из нас война, разлука с родным краем, разлука с любимыми близкими оставили свой след. Но шли годы, раны заживали, и человек начинал жить снова. Рана Изидора никогда не зажила. Она мучила его всю жизнь. В личной жизни он както сломался. Как бы разделился на две половинки. Одна жила в прошлом, ставшим милым, но невозвратным, а с другой стороны, жизнь реальная и не совсем воспринимаемая. Эта его раздвоенность, эти душевные переживания иногда вызывали конфликт. Наступал период упадка. Такое душевное состояние разрушало его здоровье. Постепенно болезнь отбирала ў него всё. Сердце слабело. Силы покидали, сябры отдалились. Чувствовал себя очень одиноко. Понимал, что уже немного осталось. Но все же держался. Ждал Весну. Единственный человек, какой до конца держал с ним живую связь, был сп. Микола Паньков, подбодрял его то какой-то новостью, то так, разговором. За что ему сердечная благодарность. Тяжело переживал смерть брата. Давно задумал выдать книгу, сборник произведений своего брата, Язэпа Пушчы. Годами кропотливо собирал нужный материал. И кажется, уже подвёл дело к итогу. Но не удалось ему закончить эту работу. Смерть оборвала всё. Здався Изыдорка!“*

Як напісала Лідзія Дуржэнкова, пасьля Язэпа Гуткоўскага, цікавага крытыка, сапраўды застаўся ўнёсак у *„агульную беларускую справу“*. Тут ён і занатоўваецца — у выглядзе невялікай бібліяграфіі.





**Бібліяграфія Язэпа Гуткоўскага (Ізыдара Плашчынскага)**

**Беразьняк, Алесь. Зьняволены Пясьняр [Янка Купала]. (Нататкі чытача)** // Бацькаўшчына. №26 (510). 3 ліпеня 1960. С. 2—3.

**Беразьняк, Алесь. Катняя літасьць** // Бацькаўшчына. №24 (358). 16 чырвеня 1957. С. 1, 3.

„Рэгабілітацыя“ беларускіх пісьменьнікаў.
Сымон Баранавых, Платон Галавач, Цішка Гартны, Янка Скрыган, Уладзімер Хадыка, Міхась Чарот, Пятрусь Броўка.

**Беразьняк, Алесь. Крыніцы ды ня тыя** // Бацькаўшчына. №28 (362). 14 ліпеня 1957. С. 3.

Водгук на раман Івана Шамякіна „Крыніцы“.

**Беразьняк, Алесь. Леташні літаратурны год у БССР** // Беларускі зборнік. №9. Мюнхэн, 1958. С. 79—121.

**Беразьняк, Алесь. Нататкі чытача: 1. Паланянка расейшчыны, 2. „У кіпцюрох ГПУ“** // Бацькаўшчына. №16 (500). Вялікдзень 1960. С. 8.

Водгук на зацемку І. Курбекі „Ці так мы гаворым?“ і ўспаміны Францішка Аляхновіча.

**Беразьняк, Алесь. „Небеларуская мова ў беларускай літаратуры“. (Нататкі чытача)** // Бацькаўшчына. №31—32 (515—516). 14 жніўня 1960. С. 2.

Пераказ артыкулу Кузьмы Чорнага.

**Беразьняк, Алесь. Падсьцёбіч. (Нататкі чытача)** // Бацькаўшчына. №43 (527). 30 кастрычніка 1960. С. 2.

Алесь Кучар.

**Беразьняк, Алесь. Пад цэнзурным наглядам. (Нататкі чытача)** // Бацькаўшчына. №15 (499). 10 красавіка 1960. С. 2—3.

Да ўспамінаў Паўліны Мядзёлкі „Сьцежкамі жыцьця“.

**Беразьняк, Алесь. Рэпліка да настаўніцкага зьезду** // Бацькаўшчына. №36—37 (520—521). 18 верасьня 1960. С. 2.

У БССР дарэшты падсякаюць беларускую мову ў школе.

**Беразьняк, Алесь. Убітым шляхам сацыялістычнага рэалізму (агляд часапісу „Полымя“ за 1956 г.)** // Беларускі зборнік. №7. Мюнхэн, 1957. С. 5—39.

**Беразьняк, Алесь. У люстры выдавецкім** // Бацькаўшчына. №21 (505). 22 травеня 1960. С. 3—4.

Беларускі друк і ягоны контрапартнэр — друк расейскі.

**Беразьняк, Алесь. У паліцыйных архівах. (Нататкі чытача)** // Бацькаўшчына. №36—37 (520—521). 18 верасьня 1960. С. 3.

Сьляды нашай культурнай мінуўшчыны ў архівах НКВД.

Францішак Багушэвіч, Аляксандар Рыпінскі, Вярыга-Дарэўскі, Канстанцін Вераніцын, праф. Піятуховіч, Сьцяпан Александровіч.

**„Векапомныя дні“ Міхася Лынькова. Гутарка зь беларускім літаратурным крытыкам Алесем Беразьняком** // Бацькаўшчына. №29—30 (415—416). 10 жнівеня 1958. С. 5.

**Менскі, Я. Жахлівы быў год** // Бацькаўшчына. №3 (233). 16 студзеня 1955. С. 1, 4.

Калектывізацыя ў Беларусі.

**Менскі, Я. Ігнат Грынявіцкі. (Да 72-годзьдзя сьмерці)** // Беларус. №5 (29) [памылкова: №4 (28)]. 7 сакавіка 1953. С. 2—4.

**Менскі, Я. Моц нацыянальнай сьведамасьці //** Беларус. №6 (30). 25 сакавіка 1953. С. 1—2.

**Менскі, Я. Уладзімер Жылка** // Конадні. №1. Нью-Ёрк, 1954. С. 69—82.

**Менскі, Я. Уладзімер Жылка — Пясьняр Змаганьня й Хараства. (З аўдыцыі радыя „Вызваленьне“ 15 чырвеня сёлета)** // Бацькаўшчына. №24—25 (206—207). 27 чырвеня 1954. С. 6.

**Менскі, Язэп. Ішлі нявольнікі... вызваляць. Урыўкі з успамінаў** // Бацькаўшчына. №47—48 (126—127). 30 лістапада 1952. С. 6; №50 (129). 14 сьнежаня 1952. С. 4; №51—52 (130—131). 25 сьнежня 1952. С. 5—6.

**Менскі, Язэп. Мае пажаданьні „Бацькаўшчыне“** // Бацькаўшчына. №6 (85). 10 лютага 1952. С. 3; №7—8 (86—87). 24 лютага 1952. С. 8.

**Менскі, Язэп. На загад нацыі** // Бацькаўшчына. №11—12 (90—91). 25 сакавіка 1952. С. 1—2.

**Менскі, Язэп. Праз унівэрсытэты ў катоўню НКВД** // Бацькаўшчына. №25—26 (104—105). 29 чырвеня 1952. С. 3; №27 (106). 6 ліпеня 1952. С. 2.

**Менскі, Язэп. Чаму ды як была ўтвораная Беларуская ССР** // Беларускі зборнік. №1. Мюнхэн, 1955. С. 3—33.

**Менскі, Язэп. Эмвэдысты ў ролі знаўцы беларускіх справаў** // Бацькаўшчына. №36—37 (218—219). 10 кастрычніка 1954. С. 3—4.





**Менскі, Язэп. Язэп Лёсік** // Бацькаўшчына. №5—6 (136—137). 8 лютага 1953. С. 6—7.

**Пісьменьнік і ягоны афіцыйны крытык. Гутарка зь літаратурным крытыкам Алесем Беразьняком** // Бацькаўшчына. №32 (418). 24 жнівеня 1958. С. 4.

**Bierazniak, Ales. Recent Soviet Belorussian Literature** // Belorussian Review. №5. Munich, 1957. P. 34—57.

**Bierazniak, Ales. Soviet Belorussian Literature in 1957** // Belorussian Review. №6. Munich, 1958. P. 60—73.

**Mienski, J. The Establishment of the Belorussian SSR** // Belorussian Review. №1. Munich, 1955. P. 5—33.

Аналягічнае ў: Беларускі зборнік. №1. Мюнхэн, 1955. P. 137—138.

**Mienski, J. Pour quelles raisons et de quelle maniere la RSS Bielorussienne fut elle cree** // Беларускі зборнік. №1. Мюнхэн, 1955. P. 152—153.

**Mienski, J. Weshalo und auf welche Weise die Weissruthenische SSR gegrьndet wurde** // Беларускі зборнік. №1. Мюнхэн, 1955. P. 144—145.

# *Пэрсаналіі*

***Лявон Юрэвіч***
*Нью-Ёрк*

## НА СКРЫЖАВАНЬНІ ВЯТРОЎ[1]
### (Янка Ліманоўскі)

Наўрад ці нехта яшчэ з паваеннай беларускай эміграцыі мог пахваліцца пэрсанальным артыкулам пра сябе ў славутай маскоўскай „Литературной Энциклопедии“. А вось Янка Ліманоўскі мог:

*„Лимановский Иван Михайлович (1896—) — современный белорусский писатель-прозаик, журналист и театральный работник. Один из основателей и руководителей БелАПП. Происходит из крестьянской семьи. Окончил реальное училище и учился затем на агрокурсах. В 1915 Л. досрочно призывается в царскую армию, в марте 1918 вступает в РСДРП(б). В Петрограде некоторое время работает в качестве уполномоченного Комитета революционной охраны Александро-Невского района. Возвратившись на родину, Лимановский принимает непосредственное участие в борьбе Красной армии против немецких, а затем и белопольских оккупантов Белоруссии, занимая ряд гражданских и военных должностей — от председателя волревкома до военкома дивизии. Этот яркий период борьбы с немецко-польским империализмом и местным контрреволюционным национализмом (Бел. нар. рада) за победу Октября в Белоруссии впоследствии и послужил основной темой творчества Лимановского. В 1925 напечатана первая его повесть „Найденный клад“, в 1926 — „Два пути“; одновременно он помещает ряд мелких произведений в лит-ом приложении к газете „Савецкая Беларусь“. Основная тема этих повестей — борьба революционных рабочих и крестьян Белоруссии. Их главный герой — интеллигент-партиец, выходец из деревни, который учится в процессе революционной борьбы преодолевать в себе остатки индивидуализма, учится подчинять личное общественному, классовому. Таковы*

[1] Вялікі дзякуй Аляксандру Адзінцу за дапамогу ў пошуках зьвестак.





*Михась Дубровка и Янка Перелеска — главные герои повестей. Основное, что заслуживает особого внимания в творчестве Л., — четкая классовая позиция писателя. В отличие от ряда националистически настроенных белорусских писателей Л. рассматривает классовую борьбу в Белоруссии в связи со всей пролетарской революцией, показывает, что его национальные герои делают общее дело всего международного пролетариата. Вместе с тем следует отметить некоторые художественные недостатки повестей Л. (элементы наивного романтизма и психологизма, приключенчества, „счастливые“ концовки и т. д.). В новом романе „Над обрывом“ [1929] Л. в более широком плане развивает тему перехода лучшей части белорусской интеллигенции на сторону пролетарской революции (образ Карпинского). Освобождаясь в этом романе от прежних недостатков, Лимановский вступает в новый этап своего творчества. В настоящее время основным для него является переход к широкому показу жизни, борьбы, трудового героизма рабоче-крестьянской массы. Это частично и удалось Л. в повести „Ветер с Востока“, к-рая противопоставляется повести того же названия нац.-дем. А. Дудара, впоследствии скатившегося к контрреволюции. Основная идея этой повести: ни литовская Тариба, ни Рада Белорусской народной республики, ни Польский нац. комитет не принесли освобождения трудящимся Советской Белоруссии; это освобождение принес только „Ветер с Востока“ — Октябрь.*

*Библиография: II. Горецкий М., 5 лет „Молодняка“, 1928; Кабаков, статья в журнале „Молодняк“, 1929, № 10; Мікулич, „Молодняк“, 1929, № 11.*

*Г. Красневский“*[2].

Нібы ўсё так добра ішло! Разам з Рыгорам Мурашкам, Пётрам Галавачом, Міхасём Лыньковым, Іларыем Барашкам уваходзіў у Сакратарыят БелАПП, у 1929 г. яго прызначылі на месца Алеся Некрашэвіча дырэктарам у Другі беларускі тэатар — выпраўляць нацыяналістычныя памылкі ў рэпэртуары, потым заняў пасаду намесьніка дырэктара Інстытута літаратуры й мастацтва, які ўзначальваў Віталь Зэйдаль-Вольскі. І пісаў палітычна правільныя рэчы: *„Беларусь нацдэм бачыць у вобразе краіны, расьпятай на крыжы. У другім месцы Я. Пушча піша, што яе расьпялі на раскрыжаваньні Ўсходня-Заходніх дарог; ён пралівае кракадзілавы сьлёзы“*[3]. І на табе…

[2] Литературная Энциклопедия. В 11 томах. Т. VI. Москва, 1932. С. [373—374].

[3] Ліманоўскі, Я. За два гады класавай барацьбы ў літаратуры // Маладняк. №6—7. 1931. С. 86.

***Алеся Сёмуха***

# ГУТАРКА З АЛЕСЯЙ КІПЕЛЬ

*Пра Алесю Кіпель я ўпершыню пачула ледзь ня ў першыя дні прыезду ў Амэрыку. Але бліжэй пазнаёміцца давялося нашмат пазьней, калі 7 гадоў таму я зь сям'ёй пераехала жыць у ваколіцы Вашынгтону. Тады сп. Вячка Станкевіч з надзеяй намякнуў, што дзьве Алесі ў Вашынгтоне — ужо гурток. Але й да гуртка беларускае жыцьцё ў Вашынгтоне існавала й віравала менавіта вакол Алесі, дзякуючы ейнай энэргіі ды арганізаванасьці. Калі-небудзь ейная вашынгтонская хата на Ўудлі-плэйс будзе гэткім жа вядомым беларускім месцам, як ньюёркская кватэра Юлі Андрусішынай. Ці ня кожны беларус, які прыяжджае ў сталіцу ЗША, бывае запрошаны на вячэру й гаворку да Алесі.*

*Нашая зь ёй гутарка пачалася з успамінаў часоў дзяцінства. Якое яно было ў сям'і эмігрантаў?*

— Добрае! — адказала Алеся не вагаючыся. — Я нарадзілася ў Балтымары, штаце Мэрылэнд. Бацькі працавалі ва ўнівэрсытэце Джонза Гопкінза. Тата быў доктарам геалёгіі й рабіў там постдоктарскую працу. Мама працавала ў хімічнай лябараторыі. Праз год ці два мы пераехалі ў штат Нью-Джэрзі. Пасяліліся ў мястэчку, дзе было шмат палякаў ад першага да чацьвертага пакаленьняў. Там жылі аж пакуль я не пайшла ў трэцюю клясу. Бацькі купілі вялікую хату ў мястэчку Ратэрфорд (*Rutherford*) у паўночным Нью-Джэрзі, і мы ізноў пераехалі. Бабка Марыя й дзед Яўхім жылі разам з намі. Там я скончыла школу й паступіла ў Прынстанскі ўнівэрсытэт на спэцыяльнасьць „гісторыя“ з дадатковай праграмай па русістыцы. Пасьля ўнівэрсытэту, у 1979 годзе, я пераехала ў Вашынгтон і паступіла на юрыдычны факультэт Джорджтаўнскага ўнівэрсытэту. Так і засталася тут пасьля вучобы. Чаму? Нью-Ёрк мне ня надта падабаўся — занадта вялікі й брудны. Але і ў маленькім мястэчку працаваць не хацелася. Да гэтага мы часта бывалі ў Вашынгтоне. Мне гэты горад заўсёды падабаўся.





*— А як ты кантактавалася зь іншымі беларусамі? Ці жылі каля вас беларускія сем'і?*

— У тым першым нью-джэрзійскім мястэчку было пару беларускіх сем'яў, але старэйшага пакаленьня. Мае бабка й дзед зь імі сябравалі. А майго ўзросту нікога не было. У Ратэрфордзе беларусаў было хіба адна-дзьве сям'і й пару ўкраінскіх. Горад быў вельмі старадаўні, з моцнымі пратэстанцкімі й рэспубліканскімі каранямі. У школе, дзе я вучылася, усе ведалі, што я беларуска. Вядома, мама й тата з акцэнтам па-ангельску гаварылі. Бабка вельмі мала па-ангельску магла сказаць. Калі пытаньне задавалі, адкуль бацькі, мы заўсёды гаварылі, што беларусы. Увесь час папраўлялі й тлумачылі, што мы не „беларашэн“, а „беларусэн“ — ня белыя расейцы. Да гэтага ўсе нармальна ставіліся. Нашы амэрыканскія сябры з намі хадзілі на ўсякія беларускія імпрэзы, на танцы, езьдзілі з намі ў Кліўлэнд на беларускія зборкі. Неяк я з маёй найбліжэйшай амэрыканскай сяброўкай, а было нам тады гадоў 15—16, вырашылі паехаць у Кліўлэнд на беларускі зьезд. Дык мой тата мусіў ейную матку пераканаць, што мы будзем увесь час пад наглядам. Разам селі ў аўтобус, а як прыехалі ў Кліўлэнд, тата сказаў: „Ну, бывайце дзяўчаты“, — і пайшоў займацца сваімі справамі, а мы самі па сабе. Убачылі яго ізноў толькі як ад'яжджалі дамоў.

Што да кантактаў зь беларусамі, дык было ў нас такое месца адпачынку — Белэйр (*BelAir*), у Катскілскіх гарах штату Нью-Ёрк. Белэйр адкрыўся, калі мне было гадоў зь пяць. Мы там летам адпачывалі, а бацька вёў дзіцячыя лягеры. Былі ў нас таксама беларускія школкі. Мы іх называлі „школкі пад царквой“, бо яны былі літаральна пад царквой. Царква на другім паверсе, а на першым — заля, і мы ў ёй займаліся. Там мы пазнаёміліся з рознымі беларускімі сем'ямі. Наша сям'я добра сябравала з Запруднікамі. У іх двое дачок. Большая Ніна была крыху старэйшая за мяне, але мы, як дзьве старэйшыя, добра сябравалі й былі ў той самай беларускай клясе. Праграму пра гэтую беларускую школку ў 1965 годзе рабіла радыё „Свабода“. Гэта было кароткае інтэрвію са мной і маім братам Юркам. Я распавядала пра школку, а Юрка дэклямаваў вершык „У куце сядзіць мядзьведзь“. Я, вядома, пра тое інтэрвію ніколі б не памятала, калі б нядаўна „Свабода“ не паўтарыла яго ў сваім цыкле праграмаў „На хвалях Свабоды“. Цікава й сьмешна было пачуць нашыя галасы з таго даўняга часу. Дый добра, што такая гісторыя пра жыцьцё беларусаў у Амэрыцы захавалася.

Было нас тады чалавек 20—30 актыўных з моладзі. Мы займаліся валейболам, хадзілі разам на розныя вечарынкі, танчылі ў гуртку. Як

я ўжо ва ўнівэрсытэце вучылася, мы кожную пятніцу зьбіраліся ў Брукліне пад царквой на рэпэтыцыі танцавальнага гуртка. Моладзь зьяжджалася адусюль, і зь Нью-Ёрку, і з Нью-Брансўіку, а пасьля рэпэтыцыяў ехалі ў які-небудзь бар каля Ратгерскага ўнівэрсытэту, часта началі ў хаце Русакоў (сьмяецца). Нашы сем'і сябравалі, дык гэта было нармальна. Былі з намі й нашы амэрыканскія сябры.

Аднойчы студэнцкім летам мы разам зь Нінай Запруднік паехалі ў канадыйскае Таронта на этнічны фэстываль „Караван". Канадыйскія беларусы арганізавалі беларускі павільён з выставай, беларускімі стравамі й танцамі, а мы памагалі. Наведвальнікі маглі купіць пашпарт і езьдзіць па розных этнічных павільёнах, раскіданых па ўсім горадзе. Мы зь Нінай таксама паезьдзілі. З тае паездкі запомніўся момант, ад якога й цяпер сьмешна. Тады з бэнзінам было цяжка. Ён быў дарагі, і не паўсюль яго можна было купіць. Але мы ня дбалі. І вось неяк у абед едзем, і якраз на перакрыжаваньні машына стала — скончыўся бэнзін. Сьвятло мянаецца, а мы стаім... Мусілі з каністрай ісьці да найбліжэйшай калёнкі, каб заправіць машыну. Пасьля гэтага ўжо больш пільныя былі...

*— На якой мове ты гаварыла з братам? Я часта бачу, як дзеці імігрантаў з бацькамі гавораць на мове, а між сабой толькі па-ангельску. Гэтак жа й мой сын. Ці ў вашай сям'і было інача, і ці змагаліся бацькі з вашай штодзённай ангельшчынай?*

— Зь Юркам мы гаварылі па-ангельску. Відаць, як былі зусім малыя, дык гаварылі па-беларуску, бо я да школы гаварыла толькі па-беларуску. Бабка й дзед у хаце гаварылі па-беларуску, маці з татам таксама. Так што я ангельскай мовы амаль ня ведала. А як пайшла ў школу, дык толькі па-ангельску. Тое самае й астатняя беларуская моладзь. А бацькі, канечне, змагаліся: скажы па-беларуску. Але мы ведалі, што яны й па-ангельску зразумеюць. Бабка й дзед не разумелі, дык трэба было па-беларуску, а бацькі разумелі.

*— Беларусы-імігранты першага пакаленьня заўсёды імкнуліся вывучыць сваіх дзяцей, каб тыя займелі прафэсію. Не абавязкова стварылі сваю справу, але менавіта займелі прафэсію інжынэра, лекара ці юрыста. Калі паглядзець на іншыя імігранцкія групы, напрыклад, на італьянцаў ці карэйцаў, дык шмат хто зь іх пачаў свае малыя бізнэсы. Беларусы ж пераважна ішлі працаваць на кагосьці й мелі за мэту вывучыць дзяцей на прафэсіяналаў. Ці ты вырашыла стаць юрыстам таму, што бацькі так скіроўвалі, ці ў цябе была цікавасьць да гэтага?*

— Так, беларусы сапраўды скіраваныя больш да набыцьця прафэсіяў, хоць юрыстаў у нас якраз няшмат. Што да мяне, дык я, можна сказаць, проста трапіла ў юрысты. Я скончыла ўнівэрсытэт у 1979 годзе з





гістарычным дыплёмам. Гісторыя мне заўсёды падабалася, але ня так, каб толькі ёй і займацца. Эканамічная сытуацыя тады была дрэнная, высокая інфляцыя, працу было цяжка знайсьці. Дык мы амаль усе плянавалі ісьці вучыцца далей. Да таго ж у маёй сям'і заўсёды быў такі настрой, што трэба ня толькі ўнівэрсытэт скончыць, але й большую адукацыю атрымаць. На якую спэцыяльнасьць — ня важна, але трэба было нешта атрымаць. Юрка, мой брат, заўсёды ведаў, што хоча быць доктарам. Я з самага дзяцінства ведала, што доктарам быць не хачу. Што заставалася з маёй гістарычнай адукацыяй? Юрыдычны факультэт. Гэтае рашэньне было таксама й досыць практычнае, бо з дактаратам па гісторыі працы не атрымаеш, а калі й атрымаеш, дык толькі выкладчыцкую. А зь юрыдычным дыплёмам быў выбар. Можна было пайсьці працаваць у юрыдычную фірму ці ў Дзяржпэпартамэнт. Я так і думала, што пайду працаваць у Дзярждэпартамэнт. Да таго ж, шмат хто з маіх сяброў па Прынстане пайшоў вучыцца далей на юрыстаў. Як я ўжо вучылася ў юрыдычнай школе, дык кожнае лета старалася знайсьці практыку, каб пасьля заканчэньня мець нейкі досьвед і лягчэй знайсьці працу. Такім чынам я трапіла працаваць у фірму, якая якраз займалася заканадаўствам міжнароднага гандлю. У гэтай спэцыялізацыі патроху ўсяго, што мне падабаецца: крыху гісторыі, матэматыкі й эканомікі ды права. Так я ў гэтай спэцыяльнасьці й засталася.

*— Ці лічыш ты сябе чалавекам, задаволеным жыцьцём і пасьпяховым, тое, што амэрыканцы называюць successful?*

— Так, я лічу сябе *successful*! Мне падабаецца мая праца. Я партнэр у адной з найбольш ведамых юрыдычных фірмаў ЗША, „Стэптоў і Джонсан". Я таксама старшыня дарадчай камісіі Суда міжнароднага гандлю ў Нью-Ёрку. Маю найвышэйшы рэйтынг сярод калегаў-юрыстаў у нацыянальнай сыстэме прафэсійнай класыфікацыі Мартындэйл-Габэл[1]. Мяне адзначыў „Чэмбэрз"[2] як адную з найлепшых юрыстаў у краіне ў галіне гандлёвага заканадаўства ў спэцыялізацыі „інтэлектуальная ўласнасьць". Я маю прафэсійныя публікацыі й раблю прамовы, так што, так, я лічу сябе *successful*.

[1] ***AV® Peer Review Rating*** — адпаведна, *Martindale-Hubbell Peer Review Ratings*. *AV®*-сэртыфікат ёсьць значным дасягненьнем у рэйтынгавай сыстэме — гэта сьведчаньне таго, што калегі юрыста надалі яму ці ёй найвышэйшы рэйтынг прафэсійнасьці. Юрыст мусіць практыкаваць права прынамсі 10 гадоў, каб атрымаць *AV®*-рэйтынг.

[2] ***Chambers*** — з 1990-га публікуе каталёгі й даведнікі па юрыдычнай тэматыцы.

*— А ці даводзілася табе калі-небудзь мець справы зь Беларусьсю як юрысту ў галіне міжнародных гандлёвых дачыненьняў?*

— Не даводзілася. У нас зь Беларусьсю мала гандлёвых адносінаў. Да таго ж калі чалавек занадта блізкі да прадмету, дык можа ўзьнікнуць канфлікт інтарэсаў. Я маю на ўвазе не тэматычную блізкасьць, а больш духоўную, як у нас да Беларусі. Таму мне прасьцей трымаць маю беларускую й маю прафэсійную дзейнасьць асобна. Праўда, у 1994 годзе я напісала разьдзел у кнізе, выдадзенай „Амэрыкан Бар Асоўшыейшн", якая прысьвячалася юрыдычным пытаньням дастасаваньня амэрыканскага заканадаўства да патрабаваньняў Міжнароднай гандлёвай арганізацыі. Мая тэма была — спэцыяльнае й прэфэрэнцыйнае стаўленьне да краінаў, што сталі на шлях разьвіцьця. Я магла выбраць любыя краіны для прыкладу, і з катэгорыі постсавецкіх краінаў абрала Беларусь. У той час беларуская сытуацыя ня надта адрозьнівалася ад сытуацыі ў іншых постсавецкіх краінах. Я ўзяла інтэрвію ў тагачаснага пасла Мартынава й ягонага эканамічнага дарадніка. Вядома, на сёньняшні погляд, мой выбар быў ня надта ўдалы *(сьмяецца)*, бо каб выбрала Эстонію ці Ўкраіну, дык сёньняшняя эканамічная й гандлёвая карцінка была б зусім іншая. Ну, але тут ролю адыграла мая блізкасьць да тэмы, мой сантымэнт. Цікава было б цяпер перачытаць, што я тады пісала.

*— А ці думала ты пра выхад на пэнсію? Ці ты маеш нейкае хобі, якім усё жыцьцё марыла займацца, ці юрыдычная кар'ера — гэта твая праца й хобі адначасова?*

— У цяперашняй эканамічнай сытуацыі — гэта цяжкае пытаньне. Калі працуеш у прыватнай фірме, дык пэнсіі ніякай няма. Маеш на пэнсію тое, што заробіш і пакладзеш у банк. Зь цяперашнім крызісам і нізкім коштам на фондавай біржы трэба доўга працаваць, каб дастаткова заашчадзіць для камфортнага жыцьця. А ўвогуле ня ведаю. Шмат хто з маіх старэйшых калегаў выходзяць на пэнсію часткова. У нашай фірме пэнсійны ўзрост — 65 гадоў, хоць гэта мяжа, відаць, хутка пасунецца да 70-ці. Тыя, хто дасягаюць гэтага веку, або выходзяць на пэнсію, або застаюцца працаваць у іншай катэгорыі — старэйшых партнэраў, каб вызваліць месца маладзейшым, якія хочуць быць партнэрамі. Напрыклад, адзін з нашых партнэраў пэнсійнага ўзросту, які раней доўгі час рэпрэзэнтоўваў Канадыйскую дрэваапрацоўчую індустрыю, вырашыў на просьбу ААН заняцца праблемай гандлю дзецьмі. Падобную дабрачынную працу робіць шмат хто, бо гэта й цікава, і добра для грамадзтва, і добра для рэпутацыі фірмы. А для сябе — я ня ведаю. Можа, буду рабіць досьледы ў галіне гісторыі, час пакажа...





*— Сярод другога пакаленьня беларусаў мала хто займаецца беларускай справай. Ты, вядома, займаесься й вельмі актыўна. Як так сталася, што ты засталася, а іншыя адышлі?*

— Я б не сказала, што шмат хто адышоў. Многія перахоўваюць беларускасьць у сем'ях. Напрыклад, у Люды й Наты Русак усе дзеці гавораць па-беларуску. Тое самае Галіна Бахар-Гайда. Ейная дачка па-беларуску размаўляе. Галіна займаецца скаўтамі, і яны часта арганізоўваюць праекты, датычныя Беларусі. У Ані Бартуль хлопцы па-беларуску добра гавораць і займаюцца беларускімі праектамі. Так што многія трымаюць беларускасьць празь сям'ю ці праз царкву. У арганізацыях удзельнічаць цяжка, калі няблізка жывеш ці калі ёсьць дзеці, як ты ведаеш. Многа хто зьехаў, каб жыць там, дзе лепшыя школы. Шмат людзей трымаюць повязь празь „Беларусан Рэўю" ці праз газэту „Беларус", ахвяруюць грошы. А мне, паколькі дзяцей няма, дык лягчэй займацца арганізацыйнай справай.

Раней, як мы былі ў Згуртаваньні беларускай моладзі, усе нашыя сходкі й справы вялі па-ангельску. А як мы з моладзі перайшлі ў катэгорыю дарослых, трэба было далучацца да старэйшых беларускіх арганізацыяў. А ў тых арганізацыях кіравалі бацькі, і ўсе справы вяліся па-беларуску. Да таго ж, хто хоча быць з бацькамі ў адной арганізацыі?.. Гэтыя два фактары былі важныя. Хоць сярод моладзі ўсе па-беларуску разумелі, але ня ўсе аж так добра мовай валодалі, каб весьці на ёй справы ды пісаць. Мая сытуацыя была трохі іншая, бо я пераехала ў Вашынгтон і была трохі далей ад штодзённага арганізацыйнага жыцьця, але магла хадзіць на розныя амэрыканскія імпрэзы, датычныя Беларусі, і рэпрэзэнтоўваць беларускія інтарэсы. Таксама, як Беларусь стала незалежнай, мне стала нашмат цікавей гэтым займацца, бо й Вашынгтонскія структуры, і погляд на Беларусь зьмяніліся. Цяпер Беларусь — гэта асобнае пытаньне. Яшчэ адзін фактар для мяне — гэта тое, што Беларусь адкрылася. Раней я нават уявіць сабе не магла, што калі-небудзь змагу быць у Беларусі. Калі мы ў 1990 годзе ўпершыню паехалі ў Беларусь, дык нават дзіўна было, што маглі хадзіць паўсюль і размаўляць па-беларуску. І што для мяне цікава, ніколі ня думала, што буду мець сяброў беларусаў, якія зь Беларусі ды майго пакаленьня, бо бальшыня новапрыбылых — маладзейшыя за нас. Тых, каму за 40 і за 50 — мала. Але ў нас у Вашынгтоне ёсьць шмат такіх людзей. Яны ўсе прафэсійныя, адукаваныя. Я зь імі сябрую, і гэта мне вельмі цікава.

*— Амэрыканцы звычайна не пытаюцца пра палітычныя ўпадабаньні, але я парушу гэту традыцыю. Чытачы „Запісаў" — усё ж бе-*

*ларусы, і, думаю, ім, як і мне, цікава было б даведацца пра твае перакананьні. Я маю ўражаньне, што амэрыканскія беларусы старэйшага пакаленьня, веку тваіх бацькоў — людзі пераважна кансэрватыўныя, прыхільнікі рэспубліканскай палітычнай дактрыны. Шмат хто з маладзейшых новапрыбылых беларусаў таксама актыўна выказваюць свае кансэрватыўныя пагляды й галасуюць з рэспубліканцамі. Гэтае маё меркаваньне, вядома, мае фактычнае падмацаваньне. Беларусы досыць актыўна ўдзельнічалі ў палітычным жыцьці Рэспубліканскай партыі; на беларускія імпрэзы ў Нью-Брансўіку заўсёды запрашаюцца кангрэсмэны-рэспубліканцы. Нарэшце, шмат якія рэспубліканскія сэнатары й кангрэсмэны добра абазнаныя ў беларускай палітычнай сытуацыі й спрыяюць прасоўваньню беларускага пытаньня на міжнароднай арэне і ў Кангрэсе. Таму спалучэньне гэтых фактараў і таго, што рэспубліканцы традыцыйна трымаюць больш жорсткую за дэмакратаў пазыцыю адносна Расеі й сацыялізму ва ўсіх яго разнастайных формах, робіць зразумелым сантымэнт старэйшых амэрыканскіх беларусаў. Якія твае погляды на гэта, і як так сталася, што ты падтрымліваеш дэмакратаў?*

— Я не зарэгістраваная як „дэмакрат“. Галасую як „незалежная“, але схіляюся на бок лібэралаў, бо я таксама прадукт свайго часу. Калі вучылася ў школе й ва ўнівэрсытэце ў 1960—1970-х гадох, бачыла розныя бунты й пратэсты. Была таксама сьведкам станаўленьня жаночага руху, які быў па-сутнасьці вельмі лібэральны. Ня ўсе ведаюць, але Прынстанскі ўнівэрсытэт, які я скончыла, толькі ў 1969 годзе пачаў прымаць на вучобу жанчын. І хоць я ніколі не была асаблівай прыхільніцай фэмінізму, тым ня менш хацела мець выбар вучобы й працы роўны з мужчынамі. Мая сям’я хоць і трымалася кансэрватыўных поглядаў, але была досыць прагрэсіўная. Мая матка атрымала вышэйшую асьвету, зрабіла тры магістарскія дыплёмы й працавала, а не сядзела ў хаце, як хатняя гаспадыня. У маіх сяброўак, якія пайшлі ў прафэсійныя школы, маткі таксама былі адукаваныя й працавалі. У тыя часы гэта была меншасьць. У нашым гарадку быў унівэрсытэт, а ўнівэрсытэты — гэта добрае асяродзьдзе для вальнадумства й лібэралізму. Мой бацька заўсёды быў прыхільнікам рэспубліканцаў, бо гэта адпавядала ягонаму антысавецкаму настрою. Але й ён, а таксама й матка ды мае дзяды былі ўсё ж прадукты савецкай сыстэмы й верылі, што ўсе мусяць мець роўны доступ і права на адукацыю, права на мэдычную страхоўку — гэта лібэральныя погляды. Вядома, яны таксама верылі, што чалавек мусіць працаваць, а не задарма гэта мець. Тым ня менш, гэтае іх перакананьне, што адукацыя й мэдыцына — гэта агульнае права, а не прывілея, што жанчыны мусяць мець роўныя правы й магчымасьці з мужчынамі, — было лібэральнае. Для тагачаснай Амэрыкі гэта гучэла, як лібэралізм. Так што кансэрватызм і рэспубліканства майго бацькі — ня надта тыповыя. Ён, вядома, з гэтым не пагодзіцца, але гэта факт *(сьмяецца)*. Я думаю, гэта прыхільнасьць да рэспубліканцаў ішла пераважна ад вонкавай палітыкі й эканамічных пытаньняў. Так што зусім натуральна, што я сфармавала лібэральныя погляды дзякуючы маёй сям’і, асяродзьдзю й часу. І сярод маіх аднагодак-беларусаў таксама многія трымаліся такіх поглядаў, хоць нашыя бацькі не любілі гэтага афішаваць.

*— А ці мае, на тваю думку, значэньне палітычнае аднадумства ці рознадумства для беларускай справы? Ці паспрыяла гэтая маналітная палітычная арыентацыя пакаленьня тваіх бацькоў захаваньню беларускасьці?*

— Я думаю, што палітычная арыентацыя для беларускай справы зусім няважная. Агульныя рэспубліканскія погляды беларускай грамады пакаленьня маіх бацькоў зусім ня мелі ніякай розьніцы, бо на тэму міжнародных адносінаў паміж Злучанымі Штатамі й Савецкім Саюзам усе былі адной думкі. І нават цяпер погляды на дачыненьні з рэжымам Лукашэнкі таксама амаль аднолькавыя. На беларускія пытаньні, ці то палітычныя, ці то чарнобыльскія, ці то эканамічныя, амаль усе маюць той самы погляд і менавіта гэта было тое, што грамаду аб’ядноўвала. А пытаньні права на мэдычную страхоўку — гэта тэма, якая ня мае дачыненьня да нашай галоўнай агульнай справы. Я думаю, палітычныя спрэчкі лепш не ўздымаць, бо гэта толькі падстава да сварак. Таксама й рэлігійнасьць мусіць быць справай прыватнай і асобнай ад нашай дзейнасьці. Зараз я бачу, што хрысьціянскія дэмакраты надта спрабуюць навярнуць іншых. Часам няёмка з такімі людзьмі, цяжка мець спакойныя дачыненьні, бо адчуваеш, што цябе заўсёды хочуць пераканаць. Рэлігія хай застаецца ў царкве, а беларуская справа — у цывільным асяродзьдзі. Тое самае я бачу і ў амэрыканскім жыцьці. Кансэрватыўныя хрысьціяне надта стараюцца ўплываць на палітычнае жыцьцё, і гэта вядзе да вялікіх непатрэбных канфліктаў. Я лічу, што падзел паміж уплывам царквы й дзяржавы мусіць заставацца. Гэта праўда, што ў Амэрыцы паўсюль шмат сымболікі Божай. Ці ёсьць яна на грошах, ці яе няма — мяне ня надта турбуе. Але гэтая сымболіка мусіць заставацца на ўзроўні сымболікі. А калі людзі хочуць, каб гэтая сымболіка пераўтварылася ў перакананьне — гэта ідзе супраць тых прынцыпаў, на якіх

Амэрыка была заснаваная. Гэтыя прынцыпы трэба трымаць, каб не навязваць веры, каб усім было месца.

*— Ці калі-небудзь ты ўяўляла сабе, што аднойчы магла б пераехаць жыць і працаваць у Беларусь? Уяві, што жыцьцё закінула цябе ў Парыж ці Шанхай. А калі б Менск?*

— Я два гады пражыла ў Нямеччыне, гэта я ўявіць магу. Для мяне адно з галоўных пытаньняў — праца. Што б я, як юрыст у галіне міжнароднага гандлю, рабіла ў Беларусі? Ня ведаю… там амэрыканскіх фірмаў і бізнэсаў няма, як у Парыжы. Жыла б, вядома, у Менску, можа б, у Горадні, але ў горадзе, не на вёсцы. Нават тут, у Амэрыцы, я б у вёсцы жыць не магла *(сьмяецца)*. На бытавым роўні жыцьцё ў Менску цяпер прыкладна падобнае на заходняга, праўда, жыць у такіх маленькіх кватэрах… *(сьмяецца)* цяжка. Хіба заможныя людзі зараз могуць сабе пабудаваць хату. Так што толькі адно пытаньне застаецца без адказу: якую б працу мела? Але да шмат якіх рэчаў давялося б прызвычаіцца. Мне Беларусь трохі нагадвае Кітай. Там цяпер таксама жыцьцё як бы заходняе. Усё можна купіць, але тавары новыя, ды сыстэма старая. Напрыклад, у краме, каб купіць любую драбязу, спачатку трэба знайсьці касірку, заплаціць, атрымаць квіток, тады з тым квітком ісьці назад — карацей, цэлы працэс. Або цікавы прыклад музэяў. Я зайшла ў музэй, дык зьвярнула ўвагу, што там пуста, людзей няма, толькі нейкія школьнікі, якіх прывезьлі аўтобусам. Проста самі па сабе, як у Амэрыцы, людзі ў музэі ня ходзяць. Ніхто мяне не чапаў, але я бачыла, што гэта для іх было дзіўна. Я паўсюль заўважала, што кітайская сыстэма падобная на беларускую — яна постсавецкая.

*— Цікава, што ты гэта заўважыла. Мне прыгадваецца мой апошні прыезд у Беларусь. Каля пераходу на перакрыжаваньні праспэкту Скарыны [Незалежнасьці] і вуліцы Леніна да прахожых зьвяртаўся малады чалавек з пытаньнем, як прайсьці да Нацыянальнага мастацкага музэю, і ніхто яму адказаць ня мог. Музэй з таго месца голым вокам відно было, а ніхто ня ведаў, бо, відаць, ніколі не былі ў ім…*

*А ці вабіць цябе Беларусь як край для вакацыяў? Звычайна першыя турысты — гэта людзі, што маюць нейкую повязь з краінай.*

— Я ў Беларусь езджу часта, але не ў традыцыйным сэнсе адпачынку. Каб там дарогі лепшыя былі, прыбіральні, гатэлі лепшыя, дык так. Але ў Беларусі шмат чаго прыгожага й гістарычнага, хоць тое гістарычнае ня надта прыстасавана да турызму. Нават мапаў і тлумачальнікаў няма. Пэрспэктыва турызму ёсьць, але яна надта далёкая. Пакуль беларускі турызм больш прыдатны для тых, хто любіць кэмпінг-стыль.





Можа, пасьля Лукашэнкі будзе нешта больш падобнае на тое, што ў балтаў. Будзе больш адкрытасьці, больш гандлю, можа, тады й мне праца будзе… *(Сьмяецца.)* Усё можа быць. Праўда, цяпер спадзяваньні меншыя, чым у пачатку дзевяностых. Але зь іншага боку, у 1970—1980-я гады зусім ня думалі, што Савецкі Саюз калі-небудзь разваліцца. Так што немагчымае магчыма. Мне ў Беларусі ўтульна.

*Чэрвень, 2009*

## „ЗЬВІНЯЦЬ ЗВАНЫ СЬВЯТОЙ САФІІ“

*Цалкам магчыма, што гэта адзінкавы выпадак, калі назоў пэрыядычнага выданьня даў назву мастацкаму твору, як тое адбылося з паэмай Алеся Салаўя „Зьвіняць Званы Сьвятой Сафіі“ (1946)*[1] .

*Часопіс з такой назвай заснаваў і выдаваў Юрка Віцьбіч у лягерах DP у Нямеччыне — спачатку у Рэгенсбурзе, потым у Міхэльсдорфе. Выходзіў ён, паводле сьведчаньня самога рэдактара, накладам ад 300 да 500 асобнікаў*[2] *. Рататарны часопіс карыстаўся попытам: у афіцыйным лісьце да камэнданта латыскага DP-лягеру, куды Віцьбіч спрабаваў перабрацца (дзеля чаго нават запісаў сябе грамадзянінам Латвіі), пісалася, што ён ня толькі вядомы пісьменьнік, але й рэдактар рэлігійнага часопісу, які за год атрымаў 268 чытацкіх водгукаў*[3] .

*5 траўня 1946 г. у Рэгенсбурзе адбыўся зьезд праваслаўных беларусаў. Трэцім пунктам у праграме ішоў рэфэрат „Праваслаўе на Беларусі“, які напісаў, як выглядае па стылю, сам Юрка Віцьбіч. Ён як рэдактар рэлігійнага часопісу таксама выступіў з справаздачаю. Таму калі на зьезьдзе было заснаванае Беларускае праваслаўнае аб’еднаньне, лягічным сталася абвешчаньне часопісу афіцыйным органам новапаўсталай арганізацыі.*

*Пад шыльдаю БПА Віцьбіч паспрабаваў заснаваць „Прэсавы Фонд імя Францішка Скарыны“ — для патрэбы сваіх абодвух часапісаў*

[1] Гісторыя паэмы няпростая. Ейны выхад прыйшоўся акурат на пік вайны „крывічоў“ з „зарубежнікамі“, што прымусіла Алеся Салаўя выступіць у друку з заяваю: *„Аўтарам назову „Зьвіняць Званы Сьвятой Сафіі“ зьяўляецца Юрка Віцьбіч, што ведама кажнаму, хто цікавіцца беларускай прэсай. Гэты назоў запазычаны мною ў Юркі Віцьбіча. Прысьвята зьяўляецца фактычна зазначэньнем таго, у каго запазычаны назоў, і дадзена на падставе пэўных правілаў у літаратуры“.* Цалкам ліст гл.: Шыпшына. №4. 1947. С. 40—41.

[2] Ліст Юркі Віцьбіча да Міколы Панькова ад 17.11.1947 г. Захоўваецца ў архіве БІНіМу (Нью-Ёрк).

[3] Архіў БІНіМу (Нью-Ёрк).





*(другім была „Шыпшына“), але беспасьпяхова. Магчыма, гэта й было падставаю зьнікненьня з вокладкі восьмага нумару пазнакі БПА.*

*Так ці інакш, але ад першага да апошняга нумару Віцьбіч, пад асноўным псэўданімам і радзей ужыванымі (А. Крыжаніч, М. Крыніцкі) ды пад ці малой колькасьцю непадпісаных артыкулаў і прадмовак да публікацыяў, выдаваў уласны літаратурна-рэлігійны часапіс (чыста рэлігійным яго было б назваць недарэчным перабольшаньнем), што адлюстроўваў найперш густы свайго талерантнага рэдактара, сярод продкаў якога былі сьвятары-уніяты, як погляды і ацэнкі эмігрантаў-беларусаў праваслаўнага веравызнаньня. Тым гэтае выданьне сёньня й цікава.*

*Пакуль што нявысьветлена, хто ў часапісе рабіў малюнкі.*

### №1. Люты 1946 г. Часопіс праваслаўных беларусаў. Рэгенсбург

(Зьмест выдрукаваны на другой старонцы вокладкі; пад зьместам выдрукаваная „Абвестка“.)

Ад Рэдакцыі. (С. 1—2)

Віцьбіч, Юрка. Зьвіняць Званы Сьвятой Сафіі. (С. 3—4)

Паводле Лукі Сьвятое Эвангельле, што чытаецца ў царкве на Стрэчаньне. Разьдзел ІІ. (С. 4—5)

„Яко видеста очи спасение твое“. (Казаньне на Стрэчаньне Госпада Ісуса Хрыста, сказанае ў Беларускай Праваслаўнай Царкве ў Рэгенсбургу пратаярэем Мікалаем Лапіцкім.) (С. 6—8)

Сьвяты Кірыла Тураўскі. „Словы Божыя раздаю“. (С. 9)

Логос. Вечнасьць навукі Хрыста. (С. 10—12)

Сяднёў, Масей. Богу. [Верш.] (С. 13)

Віцьбіч, Юрка. Сьвяты Крыж Прэпадобнай Еўфрасіньні. (С. 14—16)

Арсеньнева, Натальля. Малітва. [Верш.] (С. 17)

Крыжаніч, Алесь. Гамніца. (С. 18—19)

„У нас сёньня Масьленка“. (Народная песьня.) (Запісана П. Р. Шэйнам у с. Латыголічы на Барысаўшчыне.) (С. 19)

Багдановіч, Максім. Кніга. [Верш.] (С. 20)

Вечная памяць. [Абразок.] (С. 21)

Хроніка. [Працяг; пачатак мусіў быць на папярэдняй старонцы, аднак яна пустая.] (С. 23—24)

Каляндар падзеяў. (С. 25)

Народная мудрасьць. [Прымаўкі.] (С. 25)

Люты [„Сьвятцы на люты“ — загаловак зь зьместу.] (С. 26)

**№2. Сакавік 1946 г. Часопіс праваслаўных беларусаў. Рэгенсбург**

(Зьмест выдрукаваны на другой старонцы вокладкі; пад зьместам выдрукаваныя „Абвестка“, „Падзяка“, „Шукаю сям’ю“, адрас рэдакцыі: *Regensburg, Galgofer-Siedlung, White-Ruthenian Komitee.*)

[Віншаваньне Рэдакцыі з 25 Сакавіка.] (С. 1)
Мітрапаліт Панцялеймн. Калі магчымая гэтая радасьць. (С. 1—2)
Епіскап Афанасі. Ліст у рэдакцыю. (С. 3)
Ад рэдакцыі. (С. 3)
Сьцяпан Зізані. (С. 4)
Б. З. Аляксей — чалавек Божы. Апавяданьне. (С. 5—10)
Вялікія людзі аб Богу і рэлігіі. (С. 11)
Купала, Янка. Я ад вас далёка. [Верш.] (С. 12)
Багдановіч, Максім. Апокрыф. (С. 13—14)
Арсеньнева, Натальля. О, Родны Край! Ня плачце! [Вершы.] (С. 15)
Віцьбіч, Юрка. Б’е з-пад муру сьвятая крыніца. (С. 16)
Сяднёў, Масей. Сон. Маім бацьком. [Вершы.] (С. 17)
Віцьбіч, Юрка. Там, дзе шуміць незабытнае пола. (С. 18—19)
Крушына, Рыгор. Залом. [Верш.] (С. 20)
Л. Т. Архіярэй і разбойнік. (С. 21)
Золак, Янка. Сонцу. Сум па радзіме. Бога прашу я… [Вершы.] (С. 22)
Вясьнянкі. [Народная творчасьць.] (С. 23)
Крыжаніч, Алесь. Перагортваючы старонкі гісторыі. (С. 24—25)
Што такое УНРРА. (С. 25—26)
Шаўчэнкаўскія дні ў Рэгенсбургу. (С. 26)
Хроніка падзеяў. (С. 27)
Каляндар падзеяў. (С. 28)
Народны каляндар. Сакавік. (С. 28)
Сакавік [„Сьвятцы на сакавік“.] (С. 29)

**№3. Красавік 1946 г. Часопіс праваслаўных беларусаў. Рэгенсбург**

(Зьмест выдрукаваны на другой старонцы вокладкі; пад зьместам выдрукаваныя „Абвестка“, „Шукаюць“.)

Хрыстос Уваскрос! (Разьдзел І. Паводле Іоана сьвятое Эвангельле, што чытаецца ў царкве на Вялікдзень.) [Іоан, І, 1—14.] (С. 1)
Купала, Янка. Вялікдзень. [Верш.] (С. 2)
Палуян, Сяргей. Хрыстос Уваскрос. (С. 2—3)





Архіяпіскап Філафей. Ліст у Рэдакцыю. (С. 4)
Епіскап Грыгоры. Ліст у Рэдакцыю. (С. 4)
Ад Рэдакцыі. (С. 5)
Е. А. Бог — усемагутная Сіла, якая стварыла сьвет. (С. 5—10)
Радзівілоўскі, Антон. З слова: На в’еханіе в’ Іерусалім Госпада Нашего Ісуса Хрыста. З казаньня: На уваход у Ерусалім Госпада Нашага Ісуса Хрыста. (С. 10—11)
Вялікія людзі аб Богу і рэлігіі. (С. 11—12)
Крыніцкі, Міхась. Не дазволім абражаць нашую веру. (С. 12—13)
Віцьбіч, Юрка. Можна зьнішчыць звон, але нельга зьнішчыць звон. (С. 13—14)
Сяднёў, Масей. Пра мяне ты злога ня помні. Уступ да паэмы. (С. 15—16)
Арсеньнева, Натальля. І сьніцца мне. [Верш.] (С. 16)
Віцьбіч, Юрка. Аб чым крычыць каменьне. (С. 17—18)
Салавей, Алесь. Зямля ў агні. [Верш.] (С. 18)
Золак, Янка. Я пасею песьні. [Верш.] (С. 19)
Паўлюкоўскі, У. Вялікдзень на Беларусі. (С. 19—21)
Благавешчанійка сьвятое. Валачобная. (З народнай творчасьці.) (С. 22)
На тэму дня:
Крыжаніч, Алесь. Чаму „Беларус“. (С. 23—27)
В-а. Беларуская Праваслаўная Царква павінна быць нацыянальнай. (С. 28)
В-а. Царква і народ. (С. 29)
Хроніка. (С. 30—31)
Каляндар падзеяў. (С. 32)
Народны каляндар. Прыкметы, абрады і звычаі. (С. 32)
Красавік. [„Сьвятцы на красавік“.] (С. 33)

**№4. Травень 1946 г. Часапіс праваслаўных беларусаў. Орган Беларускага Праваслаўнага Аб’еднаньня. Рэгенсбург**

Асіпчык, Алесь. Найсьвяцейшая абароньніца беларускага народу. (С. 1—2)
Узор сапраўднага манаства. (З жыцьця прэпадобнага Серапіона, якога памяць ушаноўваецца 27 травеня.) (С. 2)
„Трымай дар Божы“. (З жыцьця сьвятога прарока Ераміі, якога памяць ушаноўваецца 14 травеня.) (С. 3)

Псалом 76. Псалом Асафа. (С. 3)
Крыніцкі, Міхась. З крыжам прэпадобнае Ефрасіньні-Прадславы. Першы Зьезд Праваслаўных Беларусаў. (С. 4—8)
Беларусы ведалі яго напамяць. „Плач“ архіяпіскапа Мілеція Сматрыцкага. Урывак з „Плачу“. (С. 9—10)
Колас, Якуб. Песьня аб званох. (З паэмы „Сымон-музыка“.) (С. 10—12)
Гарун, Алесь. Песьня-звон. [Верш.] (С. 13—14)
Арсеньнева, Натальля. Пачакай. [Верш.] (С. 14—15)
Б. З. Аляксей — чалавек Божы. (Працяг. Пачатак гл. у №2.) (С. 15—21)
Багдановіч, Максім. Цемень. [Верш.] (С. 21)
Салавей, Алесь. Ля Вострай Брамы. [Верш.] (С. 22)
Віцьбіч, Юрка. „Сьвятому Благавешчаньню чалом ударыўшы“. (С. 22—23)
Золак, Янка. Жыцьцё-Мора. [Верш.] (С. 23)
Вярба, Мікола. Ты мая, Беларусь. [Верш.] (С. 24)
Паўлюкоўскі, У. Юр'е. (С. 24—25)
Аб сьвятым Ягорыю. „Сьвяты Юры“. (З народнай творчасьці.) (С. 25—26)
„А хто Мікалая любіць“. (З валачобнае песьні.) (С. 26)
На тэму дня:
Яго Эксцэленцыі Глыбокапаважанаму Спадару Прэзыдэнту Злучаных Штатаў Паўночнай Амэрыкі Труману. [Ліст.] (С. 27)
Пастанова Беларускага Праваслаўнага Зьезду ў Рэгэнсбургу дня 5 травеня 1946 году. (С. 27)
Зварот Беларускай Грамадзкасьці да Беларускага Епіскапату. Яго Блажэнству Блажэньнейшаму Панцялейману, Мітрапаліту Беларускае Праваслаўнае Царквы. (С. 28—29)
Са справаздачы рэдактара часопісу „Зьвіняць Званы Сьвятой Сафіі“ на Першым Зьезьдзе Праваслаўных Беларусаў. (С. 29—30)
Крыжаніч, Алесь. Гара нарадзіла мыш. (С. 30—32)
Д-р Войт. Пад хруст бісквітаў. [Фэльетон.] (С. 32—34)
Хроніка. (С. 34—37)
Каляндар падзеяў. (С. 37)
Народны каляндар. Прыкметы, абрады і звычаі. (С. 38)
Травень. [„Сьвятцы на травень“.] (С. 39)
Шукаюць. (С. [40])
Зьмест. Абвестка. (С. [41])





**№5. Чэрвень 1946. Часапіс праваслаўных беларусаў. Орган Беларускага Праваслаўнага Аб'еднаньня. Рэгенсбург**

(Зьмест зьмешчаны на асобнай старонцы. Пад ім выдрукаваная „Абвестка“.)
Селянін. Прэпадобная Еўфрасіньня-Прадслава, князёўна Полацкая. [Артыкул.] (С. 1—4)
[Абвестка.] (С. 4)
Запалі сваім полымем нашае сэрца. Сьвятая Сафія і сьвятыя Вера, Надзея і Любоў. (С. 5)
Ці трэба абараняць сваю веру? (З жыцьця прэпадобнага Ісакія Далмацкага, памяць якога ўшаноўваецца 12 чэрвеня.) (С. 5—6)
Доказ Найсьвяцейшае Троіцы. (С. 6)
„Абы люде своей веры моцность держалі“. (З „Баркулабаўскай Кронікі“.) (С. 7—8)
Ідэя самабытнасьці Беларускай Праваслаўнай Царквы. [Гістарычны дакумэнт.] (С. 8—10)
Купала, Янка. Перад Сёмухай. [Верш.] (С. 10)
Жылка, Уладзімер. Сёмуха. [Верш.] (С. 10—11)
Віцьбіч, Юрка. „Божа, міласьціў будзь мне грэшнаму“. „Каменная тройца“ ў Віцебску. [Нарыс.] (С. 11—12)
Багдановіч, Максім. Ян і маці. [Верш.] (С. 13)
Золак, Янка. Малітва. [Верш.] (С. 13)
Чорнагай, В. Жагнаньне. Апавяданьне. Пераклад з украінскай. „Час“. (С. 14—16)
Геніюш, Ларыса. Нішто так ня міла. [Верш.] (С. 16—17)
Вярба, Мікола. З табой. [Верш.] (С. 17)
Шэйн, Павал. Сёмуха на Беларусі. [Нарыс.] (С. 18)
М. Ш. Царкоўнае пяяньне на Беларусі. [Артыкул.] (С. 18—20)
„Быў на Русі чорны бог“. „Із пад Слуцка, із пад Клецка“. (З народнай творчасьці.) (С. 20)
На тэму дня:
Архіяпіскап Венедзікт. Палажэньне Беларускай праваслаўнай Царквы на эміграцыі. (С. 21—23)
Беларускае Праваслаўнае Аб'еднаньне. Зьлёту Беларускіх Скаўтаў. (С. 23)
Стэллінг-Мішо, О. Ватыкан і палітыка. [Артыкул.] (С. 23—25)
Уайт, Вільям Л. Савецкая царква. (С. 25—26)
Архіяпіскап Ратміраў паведамляе. (З жыцьця Праваслаўнае Царквы ў БССР.) (С. 26)

Цытата без камэнтарыяў. (С. 27)
За зялезнай куртынай. (С. 27)
Доктар І. М. Жыве Беларусь! (Да зьмены назову нашае Бацькаўшчыны.) (С. 28)
Крыжаніч, Алесь. Колькі слоў ад шчырага сэрца. (С. 29)
Хроніка. (С. 29)
[Спачуваньне.] (С. 30)
Каляндар падзеяў на чэрвень. (С. 31)
Народны каляндар на чэрвень. (С. 31)
[Зварот.] (С. 31)
Чэрвень. [„Сьвятцы на чэрвень“.] (С. 32)
(Трэцяя старонка вокладкі: „Падзяка“, „Шукаюць“, „Шыпшына №3“.
Тамсама пазначаны адрас: *Michelsdorf bei Cham/Oberpfalz/ UNRRA, Team 187, Weissruthesches DP Lager N 4 Block 6, zim. 3.*)

**№6. [1946 г.] Часапіс праваслаўных беларусаў. Орган Беларускага Праваслаўнага Аб'еднаньня. Рэгенсбург**

[Малітва Госпадняя.] (С. 1)
Бандарчык, Мікола. Прэпадобнамучанік Афанасі, ігумен Берасьцейскі. [Артыкул.] (С. 1—2)
„Любіце адзін аднаго“. (З жыцьцья апостала Іоана Багаслова.) (С. 2—3)
„Ідзі да ўбогіх і жабракоў“. (З жыцьця прэпадобнага Паісія Вялікага.) (С. 3)
М. Крыніцкі. Доктар Францышак-Юры Скарына. З прадмовы да кнігі „Эсфір“. З кнігі „Ісход“. З прадмовы да псалтыры. З прадмовы да кнігі „Юдыф“. (С. 3—5)
Купала, Янка. Памаліся. [Верш.] (С. 5)
Зязюля, Андрэй. Божа, што калісь народы. 25-годзьдзе ад дня сьмерці паэты. Уступнае слова Алеся Крыжаніча. (С. 6—7)
Віцьбіч, Юрка. „Во блаженном успении вечный покой“. (З кнігі „Не чарнілам, а крывёю“.) (С. 7—8)
Жылка, Уладзімер. Мы любім даўнія паданьні. [Верш.] (С. 8—9)
Салавей, Алесь. Гамоніць даўняй праўды звон. [Верш.] (С. 9—10)
Франко, Іван. Чума. Урывак з апавяданьня. (С. 10—13)
Золак, Янка. Званы Сьвятой Сафіі. [Верш.] (С. 13—14)
Пяюн, Сяргей. На выгнаньні. [Верш.] Уступнае слова Пятра Залуцкага. (С. 14—15)





Вярба, Мікола. Няма таго, што сэрцу трэба. [Верш.] (С. 15)
Зарадзі, Божа, жыта (Зь песьняў пры сяўбе.) Ішоў Бог дарогаю. (З дажыначных песьняў.) (С. 16)
Народны каляндар на ліпень і жнівень. (Прыкметы, абрады і звычаі.) (С. 16)
З гадавога абраднага кола нашага народу:
Васілеўскі, Р. Купальле. [Артыкул.] (С. 17—18)
Шэйн, П. Талака. [Артыкул.] (С. 18)
Жніво. [Артыкул.]. Са зборніку М. Гарэцкага, Ул. Дзяржынскага і П. Каравая. (С. 18)
Мік. Шк. Беларусь. Геаграфічны нарыс. (С. 19—21)
Віцьбіч, Юрка. Беларусь заўсёды з намі. [Нарыс.] (С. 21—23)
К. Нёман. [Нарыс.] (С. 23)
Бароўскі, Андрэй. Белавеская пушча. [Нарыс.] (С. 24—26)
На тэму дня:
Крыжаніч, Алесь. Выхоўваючы належны такт і г. д. [Артыкул.] (С. 27—30)
„Нас чакае цяжкі адказ перад Богам і судом гісторыі“. (З адказу Праваслаўнае Замежнае Царквы патрыярху Аляксею.) (С. 30—31)
Власт. Рэлігійная вунія разьбіла Літоўскую дзяржаву. (С. 31—32)
Да моладзі. „Неділя“, №44, 1946 г. (С. 32)
Там, дзе бяжыць Нёман і шумяць Налібокі. Весткі зь Беларусі. (С. 33—34)
Ажгірэй, Зьмітро. Аргентына. [Артыкул.] (С. 34—35)
Селянін. У Беларускім Праваслаўным Аб'еднаньні. (С. 35—37)
З рэлігійна-царкоўнага жыцьця ў сьвеце. (С. 38—40)
З рэлігійна-царкоўнага жыцьця эмігрантаў. (С. 40—41)
Важнейшыя даты з гісторыі Усяленскай Праваслаўнае Царквы. (С. 41—42)
Важнейшыя даты з гісторыі Беларускай Праваслаўнае Царквы. (С. 42—44)
[Зьмест „Шыпшыны“ №4.] (С. 44)
[Шукаюць.] [Абвестка.] (С. [45])

**№7. [1947] Часапіс праваслаўных беларусаў. Орган Беларускага Праваслаўнага Аб'еднаньня. Рэгенсбург**

Павіншаваньне. (С. 1)
Паводле Лукі Сьвятое Эвангельле. Разьдзел 2. (С. 1—2)

Віцьбіч, Юрка. „Пад Тваю міласьць прыбягаем, Багародзіца Дзева“. (Абраз Божае Маці Менскае.) [Нарыс.] (С. 2—5)
Паходжаньне літургіі сьвятога Васіля Вялікага. (С. 5)
Хто даў сьвяціцелю Іоану імя Златавуснага? (С. 5—6)
Чаму разам сьвяткуюць памяць Васіля Вялікага, Грыгорыя Багаслова і Іоана Златавуснага. (С. 6)
Гарыць лямпада Данілы Паломніка. Урывак з „Хождения Данила русьския земли игумена“. Уступны артыкул М. Крыніцкага. (С. 7—8)
З мастацкае літаратуры:
Цётка. З чужыны. [Верш.] (С. 9)
Геніюш, Ларыса. Новы Год. [Верш.] (С. 9—10)
Таполя, Вольга. Ялінка. [Апавяданьне.] (С. 10—12)
Сяднёў, Масей. Пад Новы Год. [Верш.] (С. 12)
Салавей, Алесь. Каляды. [Верш.] (С. 12)
Сдуд. Юда. Фрагмэнт з аповесьці. (С. 13—16)
Крушына, Рыгор. Перад сьвятам. [Верш.] (С. 16—17)
Кавыль, Міхась. Новы Год. [Верш.] (С. 17)
Хадзілі, гулялі калядоўшчыкі. З народнае творчасьці. [Песьня.] (С. 17)
А. Гуткевіч. Каляда. З гадавога абрадавага кола. [Нарыс.] (С. 18—20)
Салавей, Алесь. Ялінка. [Верш.] (С. 20)
Мік. Шк. Беларусь. [Артыкул.] (С. 21—22)
Шабуневіч, Віктар. Зіма на Беларусі. [Нарыс.] (С. 22—24)
Караткевіч, Макар. Наваградак. [Нарыс.] (С. 24—26)
Беларускі Епіскапат і Беларускае Праваслаўнае Аб’еднаньне. (Хроніка.) (С. 26—27)
Беларускі юбілейны царкоўны каляндар на 1947 г. (С. 28)
Беларускі юбілейны гістарычны каляндар на 1947 г. (С. 28—29)
Народная мудрасьць. (С. 29)
Сьвятцы на студзень. (С. 30)
Шукаюць. (С. 30)
[Падзяка.] [Абвестка.] (С. [31])

**№8. Красавік 1947 г. Часапіс праваслаўных беларусаў**

М. Лапіцкі, пратаярэй. Хрыстос Уваскрос! (С. 1—2)
Эвангельле ад Іоана 1—14. (С. 2)
Сьвятога айца нашага Іоана Златавуснага, Архіяпіскапа Царгародзкага Навучальнае Слова на Сьвяты Дзень Вялікодні. (С. 3)
Духоўнік. Вера, Надзея, Любоў. (С. 4—5)





Хрыстос уваскрос, дарагая наша Радзіма. (С. 6)
К. Б. Апостал любові. (С. 6—7)
Купала, Янка. Хрыстос Уваскрос. [Верш.] (С. 7)
Палуян, Сяргей. Хрыстос Уваскрос. (С. 8—9)
Салавей, Алесь. Хрыстосаў лёс. [Верш.] (С. 9)
Крушына, Рыгор. Малітва выгнанца. [Верш.] (С. 9)
Вялікдзень на Беларусі. З гадавога абрадавага кола. [Нарыс.] (С. 10—11)
Валачобная. [Песьня.] (С. 11—12)
Нэкралёг. (С. 12—13)
Каляндар падзеяў. (С. 13)
Народны каляндар. (С. 13)
Сьвятцы на красавік. (С. 14)

*Падрыхтоўка да друку й прадмова Лявона Юрэвіча*

***Алег Гардзіенка***
*Менск*

# БЕЛАРУСКАЯ ЦЭНТРАЛЬНАЯ РАДА (1977—1995)

Час, што прайшоў з кастрычніка 1976 г. (ад сьмерці доўгачасовага прэзыдэнта БЦР Радаслава Астроўскага) і да наступнага Пленуму БЦР (ліпень 1977) вызначаўся развагамі пра будучыню арганізацыі.

На прыпыненьні дзейнасьці БЦР зноў (як і раней) настойваў нью-джэрзійскі асяродак, які складаў аснову арганізацыі „Амэрыканскія прыхільнікі БЦР“. За актывізацыю дзейнасьці Рады выступалі дзеячы з Аўстраліі, што прапанавалі на пасаду прэзыдэнта Дзьмітрыя Касмовіча — кіраўніка Беларускага вызвольнага фронту зь нямецкага Штутгарту. Нягледзячы на тое, што Касмовіч адмовіўся вылучацца, ён катэгарычна пратэставаў супраць магчымага спыненьня дзейнасьці БЦР[1]: *„<u>Ліквідаваць БЦР мы ня маем абсалютнага права, бо гэта будзе гістарычнае праступства</u> супраць волі беларускага народу, які ўпаўнаважыў БЦР на 2-м Усебеларускім Кангрэсе быць: <u>адзіным праўным прадстаўнікам Беларускага Народу і ягонага Краю</u>* [падкрэсьлена ў лісьце Касмовічам. — ***А. Г.***]. *Гэтага народнага мандату мы ня маем права самавольна, бяз волі народу, без 3-га Ўсебеларускага Кангрэсу, зракацца. Калі ж, у сучасны мамэнт, няма адпаведных людзей, каб ачолілі і вялі актыўна працу БЦР, дык заўтра гэтыя людзі з маладога пакаленьня знойдуцца і будуць весьці далей у вольным сьвеце вызвольнае змаганьне“*[2].

[1] БЦР прыпыняла сваю дзейнасьць ня толькі ў 1945—1948 гг., але ня дзейнічала таксама ў 1962—1974 гг. У 1962 г. Радаслаў Астроўскі склаў зь сябе паўнамоцтвы прэзыдэнта, матывавашы гэта ўзростам (яму тады споўнілася 75 гадоў), і перадаў іх кіраўніку выканаўчага органу БЦР Аркадзю Арэхву, які, аднак, неўзабаве моцна захварэў і ня здолеў прыступіць да выкананьня абавязкаў прэзыдэнта. Да 1974 г., пакуль Астроўскі не вярнуўся да актыўнай грамадзкай дзейнасьці, БЦР не вяла ніякай працы. Прынамсі, не склікалася пленумаў, не праводзілася паседжаньняў, не вялося справаводзтва.





Дзьмітры Касмовіч раіў, калі ня знойдзецца годнага кандыдата, перадаць функцыі прэзыдэнта БЦР аднаму з намесьнікаў Радаслава Астроўскага, абраных на 17-м Пленуме ў 1976 г.: Нікандру Мядзейку ці Міхасю Зую або кіраўніку апарату Пётру Саўчыцу.

18-ты Пленум БЦР прайшоў 3—4 ліпеня 1977 г. у рэсорце (доме адпачынку) „Белэйр-Менск“ (Глэн-Спэй, штат Нью-Ёрк). На яго прыехалі 43 грамадзкія дзеячы з ЗША, якія мелі мандаты-ўпаўнаважаньні ад 16 дэлегатаў: з Аўстраліі (5), Канады (5), Брытаніі (3), Нямеччыны (3)[3]. Удзельнікі Пленуму рэпрэзэнтоўвалі выканаўчы орган БЦР, дэлегатуры ў Аўстраліі, Брытаніі, Нямеччыне, Канадзе, а таксама Беларускі кангрэсавы камітэт Амэрыкі, Злучаны беларуска-амэрыканскі дапамогавы камітэт у ЗША, аддзелы БВФ (краёвыя штабы) у Нямеччыне, Брытаніі, Аўстраліі, Клііўлэндзе, Вініпэзе й Таронта, Згуртаваньне беларуска-амэрыканскіх вэтэранаў (галоўны штаб і аддзел у Саўт-Рывэры), беларускія праваслаўныя парафіі ў Саўт-Рывэры, Рычманд-Гіле (Нью-Ёрк), Таронта й Лёндане (Брытанія), Беларуска-амэрыканскі грамадзка-рэлігійны цэнтар у Саўт-Рывэры й грамадзка-рэлігійны цэнтар у Глэн-Спэй, арганізацыя „Амэрыканскія прыхільнікі БЦР“. Сваё ўпаўнаважаньне даслалі на Пленум і Ян ды Аліцыя Пятроўскія — як прадстаўнікі сямейнага Беларускага харытатыўнага фонду[4].

Старшынём пленуму абралі Нікандра Мядзейку, яго ж вылучылі й на пасаду прэзыдэнта БЦР. Таксама выставілі кандыдатуры Мікалая Мінкевіча й Івана Касяка, а дэлегат ад парафіі Кірылы Тураўскага ў Рычманд-Гіле Васіль Захаркевіч прапанаваў на пасаду прэзыдэнта Вітаўта Кіпеля. Але апошні ўзяў самаадвод, матывуючы занятасьцю ў іншых сфэрах (Вітаўт Кіпель займаўся навукова-дасьледчай дзейнасьцю, а таксама ладзіў Беларускія фэстывалі ў Нью-Джэрзі, быў заняты грамадзкаю працай у Рэспубліканскай партыі).

Зьнялі свае кандыдатуры й Мікалай Мінкевіч (на ягонай асобе настойвалі старшыня „Амэрыканскіх прыхільнікаў БЦР“ Анатоль Плескачэўскі й протагерэй Сьвятаслаў Коўш) ды старшыня БККА Іван Касяк — яго вылучылі Янка Шымчык і Аркадзь Сацэвіч з Кліўлэнду. У выніку

[2] Ліст Дзьмітрыя Касмовіча да Міхася Зуя ад 30.04.1977. Захоўваецца ў архіве Дзьмітрыя Касмовіча ў МГА „ЗБС «Бацькаўшчына»“

[3] Пратакол 18-га Пленуму БЦР, які адбыўся 3 і 4 ліпеня 1977 г. у рэсорце „Белэр-Менск“, Злучаныя Штаты Паўночнай Амэрыкі.

[4] Пратакол 18-га Пленуму БЦР...

засталася толькі адна кандыдатура — Нікандра Мядзейкі, якога й абралі прэзыдэнтам БЦР. За Мядзейку прагаласавалі 39 удзельнікаў Пленуму, супраць — аніводнага, устрымаліся — чатыры.

Першым віцэ-прэзыдэнтам абралі Мікалая Мінкевіча, другім віцэпрэзыдэнтам — Міхася Зуя. Старшынём выканаўчага органу застаўся Пётра Саўчыц, а Аляксандар Дарафейчык стаў галоўным скарбнікам выканаўчага органу. Пасаду сакратара прэзыдыюму заняў Віталь Цярпіцкі, усе дэлегатуры БЦР і краёвыя штабы засталіся бязь зьменаў. Апарат БЦР (а значыць прэзыдыюм Пленуму) з 1977 г. прыпыніў дзейнасьць.

За часамі Нікандра Мядзейкі БЦР у сваёй дзейнасьці пераважна абмяжоўвалася традыцыйнымі віншаваньнямі суайчыньнікаў з рознымі нацыянальнымі сьвятамі (25 Сакавіка, Слуцкі збройны чын), а не рэальнай палітычнай дзейнасьцю. Куды большую актыўнасьць на міжнароднай арэне праяўлялі Беларускі вызвольны фронт (Дзьмітры Касмовіч, Іван Касяк і Алесь Алехнік), а ў ЗША — Беларускі кангрэсавы камітэт Амэрыкі. Праўда, з 1980 г. „Амэрыканскія прыхільнікі БЦР“ спынілі сваю працу з-за сьмерці заснавальнікаў і асноўных кіраўнікоў Эмануіла Ясюка й Анатоля Плескачэўскага.

У канцы 1987 г. Нікандар Мядзейка захварэў, перад сьмерцю ён перадаў свае паўнамоцтвы Міхасю Зую, які й пагадзіўся ўзяць на сябе абавязкі прэзыдэнта БЦР. Але для афіцыйнага зацьверджаньня патрабавалася скліканьне Пленуму. Зуй прызначыў яго на 13—14 жніўня 1988 г. у рэсорце „Белэр-Менск“. Усе арганізацыйныя функцыі ў справе скліканьня ўзяў на сябе сакратар Віталь Цярпіцкі. Але праз сямейныя прычыны — у Цярпіцкага захварэла жонка — Пленум перанесьлі на 19 верасьня 1988 г.

19-ты Пленум БЦР стаў самым малакольkасным у гісторыі: непасрэдны ўдзел у ім узялі восем чалавек (Ігар Шчорс, Віталь Цярпіцкі, Антон Даніловіч, Язэп Лешчанка, Алег Махнюк, Мікалай Манцывода, Рыгор Арцюшэнка, Міхась Сенька). Традыцыйна не прыехалі ня толькі дэлегаты з Аўстраліі ці Эўропы ды аддаленых штатаў ЗША, але нават з шэрагу гарадоў штатаў Нью-Джэрзі й Нью-Ёрку. Упаўнаважаньні перасталі: Уладзімер Пеляса, Аркадзь Сацэвіч, Кастусь Мерляк, Валянціна Лапіцкая, Сьцяпан і Жорж Навумчыкі, Кастусь Вайцяхоўскі, Надзя Вайцяхоўская, Пётр Нягода, Аўген Занкавіч, Міхась Палюховіч, Аляксандар Банкет, Міхась Бахар, Леў Высоцкі, Міхась Грэбень, Янка Шымчык.

Такім чынам, восем чалавек — удзельнікаў Пленуму рэпрэзэнтоўвалі 28 дэлегатаў ЗША, 12 — Аўстраліі, 2 — Брытаніі, 2 — Канады, 3 — Нямеччыны. Юрыдычна лічылася, што ў Пленуме бяруць удзел 47 дэлегатаў, якія намінальна былі прадстаўнікамі ад БЦР у Аўстраліі, Брытаніі, Канадзе, Нямеччыне, аддзелаў БВФ у Нямеччыне, Аўстраліі, Брытаніі, парафіяў у Саўт-Рывэры, Рычманд-Гіле, Лёндане, Адэляйдзе, Чыкага й шэрагу іншых намінальных арганізацыяў, як Беларуска-амэрыканскае аб'яднаньне ў Нью-Ёрку, якое колькасна супадала з праваслаўнай парафіяй у Рычманд-Гіле. Так, кіраўнік гэтай арганізацыі Кастусь Мерляк чарговы й, відаць, апошні раз паставіў пытаньне аб неабходнасьці стварэньня беларускага епіскапату Беларускай праваслаўнай царквы ў юрысдыкцыі сусьветнага патрыярхату, якое так і засталося нявырашанае[5].

Удзельнікі Пленуму ўхвалілі абраньне Міхася Зуя на прэзыдэнта БЦР, а таксама прынялі рашэньне актывізаваць дзейнасьць Беларускага нацыянальнага фонду[6]. На Пленуме не абіраліся першы й другі віцэпрэзыдэнты БЦР, ужо постфактум Міхась Зуй сваім дэкрэтам прапанаваў на гэтыя пасады Віталя Цярпіцкага й Міхася Сеньку.

Наступныя гады зьмянілі сытуацыю ў сьвеце: пачаліся кардынальныя перамены ў Эўропе, быў разбураны Бэрлінскі мур, краіны пачалі пазбаўляцца камуністычнага кіраваньня. Прыйшлі перамены ў СССР і БССР. На фоне гэтага БЦР, наадварот, увайшла ў стагнацыю: з аднаго боку патрэба ў яе дзейнасьці наагул адпала (Беларусь абвесьціла сувэрэнітэт), зь іншага — моцна захварэў Міхась Зуй. І ў пачатку 1990-х дзейнасьць БЦР чарговы раз зьвялася да віншаваньняў беларускай грамады, цяпер і ў мэтраполіі, з нацыянальнымі сьвятамі.

Яшчэ ў 1989 г., аналізуючы стан эміграцыі, сакратар БЦР Віталь Цярпіцкі пісаў беларускаму дзеячу ў Аўстраліі Паўлу Гузу: *„Ня варта гуляць у саламяныя салдацікі. Трэба быць рэалістамі. Я зрабіў усё што мог па скліканьні 19-га Пленуму БЦР. Важны сам факт, што адбыўся, хоць у скромнай форме. У архіве застануцца ўсе акты. Дайшло да таго, што няма каго склікаць. Добра, што людзі цікавяцца крыху царкоўным жыцьцём. Жыцьцё паказала, што нацыянальныя асяродкі ўтрымаліся там, дзе асталася царква*[7].

23 кастрычніка 1994 г. Міхась Зуй прызначыў старшыню Беларускага кангрэсавага камітэту Амэрыкі Расьціслава Завістовіча сваім

[5] Ліст Кастуся Мерляка да Віталя Цярпіцкага ад 15.08.1988. Захоўваецца ў архіве БЦР (Саўт-Рывэр, ЗША).

[6] Пратакол 19-га Пленуму Беларускай Цэнтральнай Рады, які адбыўся 17-га верасьня 1988 г. у рэсорце Белэр—Менск, Злучаныя Штаты Паўночнай Амэрыкі.

[7] Ліст Віталя Цярпіцкага да Паўла Гуза ад 13.10.1989. Захоўваецца ў архіве БЦР (Саўт-Рывэр, ЗША).

першым намесьнікам[8], а таксама на выпадак сваёй сьмерці перадаў паўнамоцтвы й абавязкі прэзыдэнта старшыню выканаўчага органу Віталю Цярпіцкаму да скліканьня 20-га Пленуму або скліканьня 3-га Ўсебеларускага кангрэсу. Вераемна, ён усё ж спадзяваўся, што БЦР узначаліць Расьціслаў Завістовіч — як найбольш актыўны зь беларусаў у 1990-х гг. — чалавек , які асабіста сябраваў з 42-м прэзыдэнтам ЗША Білам Клінтанам (1993—2001): *„У сувязі з маім цяжкім станам здароўя, на прапанову сябраў БЦР, у выпадку маёй сьмерці, усе паўнамоцтвы і абавязкі Прэзыдэнта БЦР даручаю да выкананьня Старшыні Выканаўчага Органу сп. Віталю Цярпіцкаму да скліканьня 20-га Пленуму БЦР, або перадачы іх 3-му Ўсебеларускаму Кангрэсу ў Вольнай і Незалежнай Беларусі“*[9].

Міхась Зуй памёр 24 красавіка 1995 г. Згодна са статутам цягам 90 дзён мусілі склікаць Пленум БЦР для абраньня наступнага, 4-га прэзыдэнта БЦР, але гэтага не адбылося. Віталь Цярпіцкі — сакратар БЦР — вырашыў не склікаць Пленуму, паставіўшы кропку ў 50-гадовай гісторыі БЦР.

У 1996 г. мела месца спроба дэ-юрэ ліквідаваць палітычны раскол на эміграцыі — аб'яднаць Раду БНР і БЦР. З такой ініцыятывай на прапанову Язэпа Сажыча, старшыні Рады БНР у 1982—1996 гг., выступіў ягоны намесьнік Барыс Рагуля. Было вырашана склікаць прадстаўнікоў абедзьвюх структураў на нараду ў Нью-Брансўіку (парафія сьв. Жыровіцкай Божай Маці ў Гайлэнд-Парку, штат Нью-Джэрзі). Па дапамогу ў справе вызначэньня дэлегатаў Барыс Рагуля зьвярнуўся да старшыні БККА Расьціслава Завістовіча[10]. На нарадзе ў Нью-Брансўіку дэлегатамі ад БККА былі Міхась Бахар, Віталь Цярпіцкі, Жорж (Юрка) Навумчык.

Але нягледзячы на гучныя заявы аб супрацы афіцыйна злучыць БЦР і Раду БНР на нарадзе не ўдалося, і кантакты паміж прыхільнікамі дзьвюх палітычных групаў спыніліся на ўзроўні БНР і БЦР[11]. Аднак цяпер гэта ўжо не справакавала новага супрацьстаяньня. БЦР у 1995 г. спыніла сваё існаваньне.

[8] Дэкрэт прэзыдэнта БЦР М. Зуя ад 23.10.1994. Тым жа дэкрэтам Уладзімера Сідлярэвіча прызначылі кіраўніком Дэлегатуры БЦР у Аўстраліі.

[9] Упаўнаважаньне прэзыдэнта БЦР Міхася Зуя ад 23.10.1994. Захоўваецца ў архіве БЦР (Саўт-Рывэр, ЗША).

[10] Факс Барыса Рагулі да Расьціслава Завістовіча ад 30.03.1996. Захоўваецца ў архіве Расьціслава Завістовіча.

[11] Ліст Вітаўта Кіпеля да Алега Гардзіенкі ад 04.09.2007. Захоўваецца ў архіве аўтара артыкула.



*Кніжная паліца*

**Ціхан Чарнякевіч**
*Менск*

# ДОЙЛІД ПАВЕТРАНЫХ ЗАМКАЎ
## (Рыгор Крушына)

*Крушына, Р. Кантата самотных: вершы і паэмы / Уклад. М. Скобла; прадм. А. Сідарэвіча. — Мінск: Кнігазбор, 2007. — 308 с.*

Пэрыядызацыя нашай літаратуры збудаваная на зломах, узьлётах і падзеньнях, асабістых і агульнасусьветных. Найбольш цяжкая доля была, несумненна, у паэтаў 1920—1930-х гг. Кожны зь іх, пакінуўшы ў сваёй душы часьціну атмасфэры 1920-х, потым праходзіў свой уласны шлях. Шмат хто сышоў у сырую зямлю, нехта — дзесяцігодзьдзямі пакутаваў у лягерах, нехта застаўся пры ўладзе, хтосьці змоўк ці зьехаў за мяжу. Некалі *гуртавая* літаратура ператварылася ў супольнасьць самотнікаў, пра якіх і дагэтуль далёка ня ўсё яшчэ вядома. Прынамсі, працягвае адчыняцца брама скарбаў эміграцкай літаратуры (выданьні БІНіМу й „Бацькаўшчыны“). Сярод бясспрэчных набыткаў апошніх гадоў — вяртаньне творчасьці Рыгора Крушыны.

Пра паэзію эміграцыі ў нас пішуць рэчы цалкам супрацьлеглыя: і што гэта геніі-пакутнікі, і што гэта недалёкія правінцыялы-адраджэнцы. Старая добрая песенька, шлопнуць пячаткай і жыць без праблем. Але ж, людцы дарагія, давайце ўсё-ткі па пэрсаналіях будзем гаварыць. Бо тады адкрыецца праўда (і тое ня ўся, а толькі відочная частка яе), калі падыдзеш да кожнага творцы ўсутыч, пільна ўгледзісься ў ягоны сьвет, прааналізуеш уласна ягоны даробак, ягоную фарбу ў агульнай карціне эміграцкай лірыкі. А лірыка гэтая, насамрэч, вельмі розная, кожны з творцаў меў свае погляды на сьвет, на прызначэньне паэзіі, прайшоў свае *этапы*. Каштоўнасьць кнігі „Кантата самотных“ Рыгора Крушыны ў тым, што яна дазваляе прасачыць эвалюцыю паэтыкі Крушыны ад зборніка да зборніка, бо, як вядома, *„кожная з кніг у тэматычным і структурным пляне ўяўляе сабой цэласнае мастацкае адзінства“* (В. Жырмунскі). Папярэдні падагульняльны том „Выбра-

ныя творы“ (2005) пакліканы быў паказаць шматграннасьць асобы паэта (ён утрымлівае паэзію, прозу, публіцыстыку, лісты, дый шмат чаго яшчэ). Увогуле, усе кнігазбораўскія выданьні „залатой сэрыі“ пакліканыя паказаць традыцыю беларускага адраджэнства: сэрыя накладае свой адбітак. Тут жа маем справу выключна зь лірыкай. Выданьне прысьвяцілі 100-годзьдзю Рыгора Крушыны (1907—1979). У дадатку зьмяшчаюцца цёплыя ўспаміны фундатара выданьня Ігара Казака і Янкі Запрудніка.

Рыгор Крушына (Казак) выступіў зь вершамі ў другой палове 1920-х гг. Хоць дзяцінства правёў у расейскамоўным асяродзьдзі, адпачатку пісаў вершы выключна на беларускай мове. Але сталеньне прыпала на пару, калі, як ён пазьней пісаў ва ўспамінах пра Бядулю, *„лірыка зрабілася небясьпечнай, каля паэзіі завіхалася бяда“*[1]. Таму даводзілася пісаць „чырвонаармейскія вершы“. Дарэчы, дарма іх так адкідаюць. У вершах Казака часам таксама можна пачуць голас Крушыны:

*Лес. Смалісты водар,*
*Бы спакой начы,*
*Стомленых паходам*
*Просіць адпачыць.*
*Шчодра дзень сьпякоту*
*Па-над жытам льле...*[2]

Гэта — з калектыўнага зборніка „Разгон“ (Гомель, 1930). Вядома, сваё „Я“ Рыгору Казаку даводзілася тады праносіць у вершы, як кантрабанду. Таму ў 1930-х ён пераважна займаецца перакладамі. У гады вайны застаецца ў Беларусі, часам друкуе вершы ў „Беларускай газэце“, „Раніцы“ й інш. Але й тут ён „белая варона“, бо ўцякае ад вайны ў лірыку, ва ўспаміны. „Уцёкі“ — надзвычай істотная рыса, пасьля яна стане ляйтматывам. Адно можна сказаць пэўна: паэта Рыгора Крушыну нарадзіла вайна, паэт Рыгор Казак — зьнікае.

Напрыканцы 1940-х гг. ва ўсіх творцаў, акрамя Арсеньневай, сур'ёзную ролю працягвае адыгрываць „маладнякоўская паэтыка“: абстрактныя мастацкія вобразы, песеннасьць, шматлікія эпітэты й мэтафары, палкая патрыятычнасьць, клічная інтанацыя, дамінаваньне рытму. Усё гэта мы знаходзім і ў першым зборніку Рыгора Крушыны „Лебедзь чорная“ (1947). Ён, гэты зборнік, усё яшчэ „ў плыні“, але новы тэматычна. Зьяўляюцца асноўныя канцэпты будучай лірыкі Крушыны: каханьне, маладосьць, мары (мроі, сны, летуценьні й г. д.), Радзіма (Случчына).

*...Каб пазбыцца жыцьцёвае горычы,*
*Я ўсю ноч прасьпяваю з табой.*
*Мы — упрочкі ад явы. Ня змрочыцца*
*І ня згіне імпэт малады.*
*У міжзор'е далёкае хочацца,*
*Дзе няма ні вайны, ні бяды*[3].

*„Упрочкі ад явы“* — тут яго прынцыповае адрозьненьне ад, напрыклад, Золака, Дудзіцкага, Клішэвіча, і гэтае адрозьненьне, аддаленьне будзе расьці з кожным новым зборнікам. Мне цяжка зразумець Барыса Сачанку, які ў анталёгію „Туга па Радзіме“ ўключыў толькі „настальгічныя“ вершы Крушыны. Досыць тэндэнцыйны падыход. Тое самае можна сказаць і пра альманах „Ля чужых берагоў“ (уклад. С. Станкевіч. Мюнхэн, 1955). Укладальнікі, бясспрэчна, карысталіся вельмі дзіўнымі мэтадамі: не паказаць living... 

У 1947—1948 гг. у лягеры для перамешчаных асобаў Крушына перакладае „Песьню песьняў Саламона“ й піша паэму „Эротава скрыпка“. Вось жа, узмацняецца цікавасьць да эротыкі, першыя прыкметы якой відаць і ў „Лебедзі чорнай“ (верш „У зацішку“). Гэта — таксама наступства ўцёкаў ад рэчаіснасьці, выхад за яе межы, за межы лягеру, галечы й сьмерці. Але не ружовыя акуляры — не! Паэт хоча захаваць паэзію, пранесьці праз перашкоды часу й як бы кансэрвуе яе ў эратычнай абгортцы. Лявон Юрэвіч у артыкуле „Рыгор Крушына — апостал каханьня“[4] Эрас у творчасьці паэта ставіць „на чырвоны кут“. Зноў жа, эротыка — толькі грань паэтыкі, адно частка (хоць і не малая) ад цэлага. І нездарма найбольш праяўляецца яна ў першыя паваенныя 10—15 гадоў, калі яшчэ помныя былі дні жорсткасьці, для рамантыка Крушыны невыносныя. Зрэшты, згаданы артыкул (важны і ў нечым эпатажна-рэвалюцыйны) і не прэтэндуе на манаграфічную ўсёабдымнасьць

[1] Крушына, Р. Выбраныя творы / Уклад., прадм., камент. М. Скоблы. — Мінск: Бел. Кнігазбор, 2005. С. 311.

[2] Разгон: кніжка вершаў / С. Ракіта, В. Палескі, Р. Казак. — Гомель: Выданьне гомельскай філіі БелАПП'а, 1930. С. 73.

[3] Крушына, Р. Кантата самотных: вершы і паэмы / Уклад. М. Скобла; прадм. А. Сідарэвіча. — Мінск: Кнігазбор, 2007. С. 23.

[4] Юрэвіч, Л. Апостал каханьня: Рыгор Крушына // Юрэвіч, Л. Камэнтары: літаратуразнаўчыя артыкулы. — Менск, 1999. С. 124—129.

(кніг пра творчасьць Крушыны пакуль, на жаль, не было) і выглядае толькі накідам да аналізу творчасьці паэта, да таго ж у ім аўтар разглядае ўсяго адзін зборнік — „Выбраныя творы“ (1957), — у якім сапраўды шмат вершаў з эратычнымі матывамі („Не трывожце маю маладую спакусамі...“, „Праймаюць дрыжыкі мяне...“, „Ластаўка“ і інш.). Але тут жа Крушына распачынае й сваю форматворчасьць: удасканальваюцца рыфмы, выпростваюцца рытмы, радкі робяцца звонкімі, прыбіраюцца ўсе непатрэбныя прыгоствы. Цьвёрдых формаў вершу, праўда, пакуль няма, яны зьяўляцца пазьней. Гэтак жа пазьней ад эротыкі паэт пяройдзе да Эрасу, то бок да таго самага „апостальства каханьня“, як адцягнена-абстрактнага (краса), так і канкрэтна-пачуцьцёвага (жанчына). У кшталтаваньні цьвёрдых формаў ён зьблізіцца з творчым мэтадам Алеся Салаўя, хоць, вядома, абодва „фармалістыя“ мелі розныя сьветаадчуваньні. Крушына — гарманічны, клясычны, апалянічны, Салавей — унутрана трагічны, з падводнымі камянямі хаосу ў душы.

Наступныя зборнікі „Вячорная лірыка“ (1963) і „Хвіліна роздуму“ (1968) адкрываюць новы этап: маладосьць мінула, і паэту даводзіцца шмат з чым зьмірыцца, сьцішыцца, хоць часам праз успаміны й пачуцьцё да Музы ён вяртаецца ў гады юнацтва. Увогуле, Рыгор Крушына — пясьняр радасьці, акрыленасьці, яму заўсёды хочацца быць маладым; бадай, гэтаму паспрыяла позьняе каханьне (у 1959 г. Крушына бярэ шлюб з Галінай Гамэр — першай жонкай Яна Скрыгана). Таксама паэт прыгадвае Случчыну, разважае пра сьвет, пра свой набытак, пра вартасьць слова.

*Наш бурны век не любіць хараства,*
*Ад разбурэньня формаў песьня гіне.*
*Таму цяпер Хрыстовага Раства*
*Не бачаць людзі чэрствыя ў краіне.*
*Ня бачаць людзі любасьці зямной,*
*Матэрыя ўсьміхаецца пачварай.*
*Ізноў патоп... І прыйдзе новы Ной*
*Наш ратаваць каўчэг з красой-ахвярай*[5].

Крушына працягвае *„слова сталіць і радок“*: надае вялікае значэньне дакладнай рыфме, новым для сябе формам (у зборніку „Хвіліна роздуму“ зьяўляецца першы беларускі паліндром), бо, як бачна з вышэй працытаванага, лічыць гармонію формы, вонкавую дасканаласьць

[5] Крушына, Р. Кантата самотных: вершы і паэмы... С. 80.





твору вельмі важнымі. І гэта не гульня, а прынцып: гарманічнасьць, прыгажосьць песьні, праз якую ўпарадкуецца сьвет і людзі. То бок тут мы маем справу са своеасаблівым эстэтычным крэда пантэіста Рыгора Крушыны. Бадай што, тут ён нечакана набліжаецца да творчасьці беларускіх паэтаў-„шасьцідзясятнікаў“. У нас, як вядома, квітнела тады захапленьне Багдановічам: пісаліся эсэ, абараняліся дысэртацыі. Абараняўся, увогуле, сам Багдановіч, выстаўлены, нарэшце, — у клясыкі. Крушына адпачатку ішоў шляхам „чыстай красы“. Але ён, адарваны ад радзімы, усё-ткі не выявіўся дарэшты, замкнуўся ва ўласнай творчасьці. Магчыма, з-за таго, што крытыкі маўчалі аж занадта зацята.

Кніга „Вясна ўвосень“ (1972) — паэзія сталага чалавека. Мы бачым: лірыка не зьнікла зь юначай парой, адно перайшла ў новую сваю якасьць — паглыбілася. Даўнейшая палкасьць усё часьцей зьмяняецца на спакойны роздум. Даўнейшая форматворчасьць — на клясычныя простыя рыфмы: ня выштукаваныя, а патрэбныя ў дадзеным настроі. Тут ужо адчуваецца гармонія, якая раней дэкляравалася, але не заўсёды вытрымлівалася.

*Прыйшла, як промень на сьвітаньні.*
*Сутоньне смутку адплыло.*
*Я адчуваю ў прывітаньні*
*Тваё вясёлае цяпло.*
*І мне здаецца — сьвет сьмяецца,*
*Няма ні штормаў, ні завей.*
*І нават птушка ў цеснай клетцы*
*Сьпявае быццам весялей.*
*А гэта ўсё было б нязначным,*
*Калі б ня ты, ня голас твой.*
*Ня ведаю, як быць удзячным*
*За гэты радасны настрой*[6].

Нагадвае позьняга Пастэрнака. Дарэчы, сын паэта Ігар Казак (па сумяшчальніцтве — папулярызатар бацькавай творчасьці) узгадваў, што Рыгор Крушына вельмі шмат чытаў расейскай паэзіі, сябраваў з расейскімі пісьменьнікамі-эмігрантамі. Думаецца, што гэта прыдалося ў захаваньні некрыклівай чысьціні мовы. Цалкам адсутнічае ў Крушыны гэтая помная моўная разбэрсанасьць, ад якой эмігранцкі літаратурны дыскурс хутчэй моцна пацярпеў, чым выйграў.

[6] Крушына, Р. Кантата самотных: вершы і паэмы... С. 113.

Зборнік „Дарогі“ (1974) уяўляе сабой тыповую, на жаль, для беларускай лірыкі нізку падарожных вершаў, амаль кожны зь якіх будуецца паводле схемы: прадмет агляду — экзатычны вобраз — пераход на ўспамін аб роднай Беларусі. Цешу сябе кволай надзеяй, што калі-небудзь творы такога кшталту зьмяшчацьмуць на стракатых турфірмаўскіх рэклямках…

Падагульняльным для творчага шляху Крушыны сталася выданьне кнігі „Сны і мары“ (1975). Яна прысьвечаная цьвёрдым формам вершу, пераважна тым, якія яшчэ не асвоіла беларуская паэзія. Паказальныя самі назвы твораў: „Санэт“, „Трыялет“, „Вілянэль“, „Канцона“, „Сэкстына“, „Японскія танкі“, „Газэля“, „Тэрцыны“, „Туюгі“. „Добрая“ беларуская традыцыя — даваць імя вершу паводле яго цьвёрдай формы. Божа, мы ўсё яшчэ толькі пачынаем… Бясконцы пачатак… Магчыма, такія настойлівыя страфічныя экспэрымэнты выкліканыя, зноў жа, поўным маўчаньнем крытыкаў. Крушына пісаў Янку Запрудніку: *„Ды адно цяжка думаць: для каго я пішу? Хто чытае? Нават тутэйшыя крытыкі маўчаць, „ня маюць часу“ ня толькі напісаць рэцэнзіі, але і прачытаць вершы аўтара. У гэткіх абставінах цяжка мне пісаць“*[7]. Вось жа, паэт спадзяваўся, што хоць на такі неардынарны зборнік зьвернуць увагу крытыкі. Не зьвярнулі… Так і не зьявілася сур'ёзных досьледаў. Адзінымі працамі па творчасьці Крушыны былі рэфэраты Антона Адамовіча (1957 г.) і Янкі Запрудніка (1974 г.), якія заставаліся ў рукапісе (на Беларусі спробу апісаньня зрабіла Лідзія Савік[8].

У апошняй кнізе дасягае апагею тэма мары. Успомнім, пачатак быў зроблены ў „Лебедзі чорнай“. Куды прыходзіць паэт, сышоўшы „ўпрочкі ад явы“? Да распрацаванай мовы, клясычнасьці вершу, цьвёрдасьці сваіх перакананьняў. Відавочна, Крушына апошнім зборнікам рашуча сьцьвярджае права на ўласнае гледзішча: паэт мусіць апяваць толькі й толькі дабро, любоў і прыгажосьць. Няхай сабе гэта й супярэчыць агульнай мінорнай танальнасьці эмігранцкай лірыкі, не адпавядае „сацыяльным замовам“ і г. д. З мроі, сну выкрышталізоўваецца пазыцыя мастака:

*Багацьце паветраных замкаў*
*Ня будзе, як прывід, уяўным,*
*Бо верш — пачуцьцёвы, рэальны —*

[7] Крушына, Р. Выбраныя творы… С. 354.
[8] Савік, Л. „І ты адтуль, мая вясна…“ Рыгор Крушына // Савік, Л. Пакліканыя: літаратура беларускага замежжа — Мінск: Тэхналогія, 2001. С. 313—350.





*Людзкія халодныя душы*
*Лірычным радком саграваe.*
*Наш край, наш народ адгукнецца…*[9]

На прыкладзе Рыгора Крушыны можна ўбачыць, як бы разьвівалася нашая паэзія, калі б не было жудаснага пагрому 1930-х гг. Рамантыкі-„маладнякоўцы“ перарасьлі б сваю „буравейнасьць“ і сталіся Асобамі. На жаль, гэтага не адбылося. Маем тое, што маем: разасобленыя выспы, дзе ў поўным маўчаньні, часта — у моўнай блякадзе людзі спрабавалі ствараць беларускую паэзію. І ў іх гэта няблага атрымлівалася, трэба сказаць.

[9] Крушына, Р. Кантата самотных: вершы і паэмы… С. 178.

***Яна Славіна***

# КНІЖНЫ АГЛЯД (2008—2010)

*Апошнія гады адзначаюцца некалькімі істотнымі тэндэнцыямі ў вывучэньні беларускага замежжа. Адна зь іх зьвязаная з актыўным разьвіцьцём г. зв. усходніх дыяспараў і адпаведнай актуалізацыяй праблемаў прысутнасьці беларусаў у гісторыі й сучаснасьці суседніх „постсавецкіх“ краінаў. Так, выданьні, прысьвечаныя беларуска-малдаўскім адносінам, беларусам і расейскай Поўначы, беларускім адміралам у савецкім і расейскім войску, адлюстроўваюць працэс асэнсаваньня і легітымізацыі беларускай прысутнасьці ў прасторы той ці іншай суседняй дзяржавы.*

*Важна адзначыць, што вывучэньне беларускага ўдзелу ў тых ці іншых, найчасьцей ваенных, падзеях на савецкай (і ня толькі) прасторы стала адным з напрамкаў нашай афіцыйнай гістарычнай навукі. Толькі за апошнія тры гады пабачылі сьвет кнігі пра беларусаў у Адэсе ў пасьлярэвалюцыйны час, беларускі ўдзел у вайне ў Гішпаніі, расейска-японскай і савецка-фінскай вайне (кніга пра апошнюю пабачыла сьвет зусім нядаўна, і інфармацыя пра яе знойдзе адлюстраваньне ў наступным выпуску „Кніжнага агляду“). Разам з тым, што афіцыйная навука паступова зьвяртаецца да вывучэньня праблематыкі беларускага замежжа найперш ідэалягічна нэўтральнага ўсходняга кірунку, працягваюць зьяўляцца й працы, прысьвечаныя беларускай эміграцыі на Захадзе. Так, своеасаблівымі падзеямі 2009—2010 гг. сталі кнігі, прысьвечаныя беларусам у Аргентыне, Вялікабрытаніі, Польшчы.*

*Працягваюць вяртацца ў грамадзка-культурнае асяродзьдзе мэтраполіі й працы беларускіх эмігрантаў-інтэлектуалаў. Можна ўзгадаць ня толькі выданьне літаратуразнаўчай працы Станіслава Станкевіча, але й збор твораў Алеся Салаўя. Хочацца спадзявацца, што згаданы працэс актыўнага знаёмства Беларусі з творчай спадчынай землякоў замежжа будзе працягвацца й надалей.*





*Щавлинский Н. Б. Общественно-политическая и национально-культурная деятельность белорусских организаций в Одессе в 1917—1919 гг. Минск: Мэджик Бук, 2008. — 80 с.*

У гады Першай сусьветнай вайны ў Адэсе й яе ваколіцах жылі каля 100 тысячаў беларусаў, пераважна гэта былі працаўнікі чыгункі, вайскоўцы Румынскага фронту ды ўцекачы. У Адэскім сельскагаспадарчым інстытуце ў той час навучаўся, прыкладам, будучы наркам асьветы БССР Антон Баліцкі (1891—1937), загадчыкам беларускай сэкцыі пры губэрнскім аддзеле народнай асьветы працаваў адзін з кіраўнікоў Беларускай партыі сацыялістаў-рэвалюцыянэраў, будучы вядомы мовазнаўца Сьцяпан Некрашэвіч. Рэвалюцыйныя падзеі стварылі сытуацыю для актывізацыі нацыянальнай дзейнасьці ў раёнах відавочнай канцэнтрацыі беларускага насельніцтва, і таму падзеі ў тагачаснай Адэсе ўяўляюць несумненную цікавасьць для беларускай гістарычнай навукі.

Аўтар кнігі „Грамадзка-палітычная й нацыянальна-культурная дзейнасьць беларускіх арганізацыяў у Адэсе ў 1917—1919 гг.“, што пабачыла сьвет у Менску ў 2008 г., паставіў сабе за мэту *„распавесьці пра людзей, якія ў той далёкі час і ў чужой краіне, нягледзячы ні на якія складанасьці і ўмовы ваеннага часу, працавалі й стваралі ў інтарэсах свайго народу й Радзімы“* (с. 8).

Асноўны зьмест кнігі складаецца з трох частак. Першая зь іх прысьвячаецца перадумовам стварэньня беларускіх арганізацыяў у Адэсе й іх дзейнасьці пры канцы 1917 — на пачатку 1918 г. Тут на шырокім гістарычным фоне паказваецца працэс заснаваньня першых беларускіх структураў. Аўтар распавядае пра зьезд беларускіх вайскоўцаў Румынскага фронту, які адбыўся ў Адэсе 1—7 сьнежня 1917 г. пад кіраўніцтвам Сьцяпана Некрашэвіча і на якім абралі Беларускую вайсковую раду. А на пачатку студзеня 1918 г. пры штабе галоўнакамандуючага арміямі была заснаваная Беларуская вайсковая камісія на часе з генэралам-маёрам Пажарскім, у выніку яе дзейнасьці некалькіх вайсковых адзінак абвесьцілі беларускімі.

Яшчэ ў сьнежні 1917 г. у Адэсе паўстала таварыства „Беларускі гай“ — арганізацыя беларускай інтэлігенцыі. Да вясны 1918 г. колькасьць удзельнікаў аб'яднаньня складала каля 500 асобаў. Таварыства займалася, сярод іншага, дабрачыннай дзейнасьцю й апекай над уцекачамі. У той самы час у горадзе дзеяў Беларускі клюб, пры якім зарганізавалі літаратурны, тэатральны й харавы гурткі.

У другой частцы кнігі „Дзейнасьць беларускіх нацыянальных арганізацыяў у Адэсе ва ўмовах нямецкай акупацыі“ аўтар сьцьвярджае,

што ў той час у самім горадзе жылі каля 20 тысячаў беларусаў, а ва ўсёй Адэскай акрузе — да 200 тысячаў. Час акупацыі зьвязаны з актыўнымі падзеямі ў нацыянальным беларускім жыцьці ў рэгіёне. Так, у сакавіку 1918 г. у Адэсе ўтварылася Беларуская нацыянальная рада на чале з праф. Сапажко. Выканаўчым органам гэтай арганізацыі стаў Беларускі нацыянальны камісарыят, які прызналі правамоцным органам БНР. Беларуская рада й камісарыят займаліся шырокім спэктрам пытаньняў: выдавалі беларусам дакумэнты аб грамадзянстве БНР, даведкі, абаранялі іхныя інтарэсы, перапраўлялі ахвотных у Беларусь.

На жаль, пэрыяд актыўнай дзейнасьці беларускіх арганізацыяў у Адэсе быў непрацяглы. У трэцяй частцы кнігі апавядаецца пра апошні этап дзейнасьці нацыянальных структураў беларусаў, які прыпаў на канец 1918 — 1919 гг. Нягледзячы на тое, што ў верасьні 1918 г. у Адэсе зьявілася консульства БНР (замест Беларускай рады й камісарыяту), умовы для дзейнасьці беларускіх арганізацыяў ускладніліся ў сувязі з чарговымі зьменамі ўлады ў Беларусі і Ўкраіне. Цягам 1917—1920 гг. улада ў Адэсе зьмянялася сем разоў. Адпаведна, кожная новая ўлада ўсталёўвала свае парадкі, да якіх усё больш складана было прыстасоўвацца нацыянальным суполкам. Да таго ж, з восені 1918 г. у горадзе пачаўся голад. Пачынаючы з 1919 г. актыўныя беларускія грамадзкія дзеячы сталі пакідаць Адэсу, і беларускае жыцьцё тут хутка спынілася.

Кніга Мікалая Шчаўлінскага, напісаная пераважна паводле дакумэнтаў Нацыянальнага архіву Рэспублікі Беларусь, выглядае толькі пачаткам вывучэньня сапраўды цікавай і малавядомай старонкі гісторыі беларускага замежжа, зьвязанай з Украінай наагул і Адэсай у прыватнасьці.

*Воронкова И. Ю. Беларусь и война в Испании (1936—1939). Минск: Беларуская навука, 2009. — 159 с. (Наклад 200 ас.)*

Беларуска-гішпанскія дачыненьні яшчэ фактычна не былі аб’ектам дасьледаваньня айчынных навукоўцаў. Па-за колішнім зборнікам „Беларусь—Іспанія“, дзе, што праўда, уласна публікацыяў пра гісторыю беларускай прысутнасьці ў згаданай краіне не было, нейкія больш-менш значныя выданьні аналягічнай тэматыкі назваць складана. Выдрукаваную „Беларускай навукай“ працу Ірыны Варанковай можна назваць своеасаблівым „адкрыцьцём“ тэмы беларускай Гішпаніі. Аўтарка засярodзілася на вывучэньні адной з найбольш значных падзеяў у гішпанскай гісторыі XX ст. — грамадзянскай вайны 1936—1939 гг. — і паставіла за мэту *„на падставе дакумэнтаў і матэрыялаў айчынных архіваў, апублікаванай літаратуры й пэрыядычнага друку комплексна асьвятліць гэтую незаслужана забытую старонку нацыянальнай гісторыі, назваць імёны землякоў і вайсковыя часткі Беларускай ваеннай акругі, пасланцы якіх змагаліся ў Гішпаніі“* (с. 7).





У кнізе падаецца даволі грунтоўная бібліяграфія, дакумэнты архіваў Беларусі й Расеі, аднак па-за ўвагай аўтаркі засталіся гішпанскамоўныя крыніцы й публікацыі, як неакрэсьлены застаўся й стан уласна гішпанскай гістарыяграфіі праблемы. Гэта, у сваю чаргу, перадвызначыла саму ідэйную скіраванасьць кнігі, калі аўтарка ад самага пачатку вызначаецца ў сваіх сымпатыях пры ацэнцы ваенных падзеяў.

Згаданая скіраванасьць відавочная ўжо ў пададзеным гістарычным нарысе грамадзянскай вайны ў Гішпаніі, зробленым на падставе пераважна савецкіх публікацыяў. Пры разглядзе ваенных дзеяньняў аўтарка, між іншага, згадвае, што наш зямляк Станіслаў Булак-Балаховіч цягам 1937—1939 гг. працаваў назіральнікам, а потым кіраўніком адной з дывэрсійных групаў у штабе франкістаў (с. 32). Што праўда, згадка гэтая, у адпаведнасьці з агульнай скіраванасьцю кнігі, мае нэгатыўнае афарбоўваньне.

Шмат увагі ў кнізе „Беларусь і вайна ў Гішпаніі“ надаецца ролі БССР у гуманітарнай кампаніі салідарнасьці з Гішпанскай рэспублікай. Тут згадваюцца мітынгі ў беларускіх гарадох, збор ахвяраваньняў, прысутнасьць „гішпанскай тэмы“ ў пэрыядычным друку й творчасьці беларускіх пісьменьнікаў, мастакоў, кінэматаграфістаў і інш. Асобна разглядаецца арганізацыя аналягічнай кампаніі салідарнасьці на тэрыторыі Заходняй Беларусі.

Адну з найбольш важных сваіх задачаў аўтарка бачыць у аднаўленьні імёнаў тых беларусаў, што бралі непасрэдны ўдзел у вайне. Таму значная частка кнігі прысьвячаецца ролі асобных беларускіх лётчыкаў, танкістаў, артылерыстаў, вайсковых дарадчыкаў і іншых падчас ваенных дзеяньняў. У кнізе называюцца імёны колькіх дзясяткаў беларусаў з дакладнымі біяграфічнымі зьвесткамі. Аднак аўтарка так і не наважваецца акрэсьліць больш-менш дакладную лічбу суайчыньнікаў, што бралі ўдзел у вайне.

Апошні разьдзел кнігі крыху выбіваецца зь лёгікі тэмы й апавядае пра ўдзел ужо гішпанцаў у ваенных дзеяньнях і партызанскім руху на тэрыторыі Беларусі ў часы Другой сусьветнай вайны.

Разглядаючы кнігу Ірыны Варанковай, можна толькі спадзявацца разам з аўтаркай, што гэта адно першы крок у дасьледаваньні праблемы. Застаецца яшчэ шмат пытаньняў адносна беларускага ўдзелу ў вайне ў

Гішпаніі ды шмат імёнаў суайчыньнікаў, што мелі да яе дачыненьне з абодвух бакоў, яшчэ трэба высьветліць. Хочацца толькі пажадаць, каб былі больш шырока скарыстаныя й польскія, і ўласна гішпанскія крыніцы, а ідэалягічная скіраванасьць дасьледаваньня была менш выразная.

*Долготович Б. Адмиралы земли белорусской: биограф. справочник. Минск, Беларусь, 2009. — 9 с. (Наклад 1 500 ас.)*

Нарадзінцы беларускіх земляў за савецкім часам адыгрывалі адметныя ролі ў розных сфэрах жыцьця адзінай дзяржавы. Гэтак і ў гісторыі ваенна-марскога флёту, дзе дзясяткі нашых суайчыньнікаў даслужыліся да званьняў контр-адміралаў, займалі значныя пасады ў кіраўніцтве розных флатоў, удзельнічалі ў буйных ваенных апэрацыях, выконвалі дыпляматычныя місіі, былі канструктарамі, інжынэрамі й выкладчыкамі.

Барыс Далгатовіч, аўтар біяграфічнага даведніка „Адміралы зямлі беларускай“, што пабачыў сьвет у выдавецтве „Беларусь“, называе прозьвішчы болей за сотню савецкіх адміралаў, як ваеннага, гэтак і паваеннага часу, якія паходзілі зь Беларусі. Стандартныя энцыкляпэдычнага кшталту біяграмы з пазначэньнем асноўных момантаў жыцьця тае ці іншае асобы склалі аснову кнігі. Так, з пададзеных сухіх фактаў можна даведацца, што нарадзінец Клічаўскага раёну Пётар Дронін быў штурманам падводнай лодкі, якая ў 1957 г. упершыню ў СССР ажыцьцявіла падлёдавае плаваньне (с. 21). Гэтаксама народжаны ў Баранавічах Герой Савецкага Саюзу Георгі Халасьцякоў у 1941—1944 гг. кіраваў Новарасійскай ваенна-марскою базай і стаяў на чале апэрацыі вызваленьня згаданага гораду Новарасійску ад немцаў (с. 42). І такіх прыкладаў адметных роляў нашых суайчыньнікаў у кнізе Барыса Далгатовіча можна знайсьці дастаткова. Асобная частка прысьвячаецца тым асобам, што дзеялі ў паваенны час, у тым ліку і на мяжы XX—XXI стст. ужо ў расейскім ваенна-марскім флёце.

Варта адзначыць, што аўтар стаў адным зь першых, хто адмыслова зьвярнуўся да тэмы беларускага сьледу ў савецкім і расейскім флёце. Аднак за сьціплымі ды сухімі зьвесткамі часам вельмі хацелася б бачыць жывых асобаў. Цікава было б таксама, каб нейкі, магчыма й іншы, дасьледнік прааналізаваў гэты ўдзел беларусаў у флёце, у тым ліку й ягоным кіраўніцтве, у адмысловай працы, дзе б аценіў больш выразна, якімі шляхамі траплялі беларусы ў флёт, на якія пасады і ў якіх галінах, якую ролю адыгралі нашыя суайчыньнікі ў гісторыі ваенна-марскога флёту СССР і сучаснай Расеі.





*Ермоленко В. Белорусы и Русский Север. — Минск: Беларусь, 2009. — 390 с. (Наклад 2 000 ас.)*

Адной з задачаў беларускай гістарыяграфіі часоў незалежнасьці стала „вяртаньне“ ў нацыянальны кантэкст пэўных постацяў, асобаў, адметных як у гісторыі іншых краінаў, гэтак і на сусьветным узроўні. Так, у якасьці своеасаблівых сымбаляў беларускага ўнёску ў сусьветную гісторыю й культуру ў школьныя падручнікі ўвайшлі Тадэвуш Касьцюшка, Ігнат Дамейка й іншыя, што яшчэ ў савецкіх энцыкляпэдыях фігураваў як палякі. Згаданы працэс своеасаблівай „нацыяналізацыі“ мінуўшчыны, што мусіў бы стацца падмуркам нацыянальнай гістарычнай навукі, зь пераменным посьпехам працягваецца і ў наш час.

Кніга „Беларусы і Руская Поўнач“, што пабачыла сьвет у менскім выдавецтве „Беларусь“ у 2009 г., зьяўляецца новым прыкладам „вяртаньня“ ў айчынны навуковы й грамадзка-культурны дыскурс імёнаў беларускіх дасьледнікаў расейскай Поўначы й Сібіры. Як пазначае Валер Ярмоленка ў прадмове, усе героі кнігі, колькасьць якіх перавышае чатыры дзясяткі, яшчэ ў даведніках савецкіх часоў называліся пераважна палякамі, нягледзячы на тое, што большасьць зь іх ні польскай мовай не валодалі, ні ў Польшчы не жылі.

Сорак тры разьдзелы кнігі, напісаныя ў папулярным стылі, апавядаюць пра нарадзінцаў беларускіх земляў або іхных нашчадкаў, што адкрывалі Аляску й Курыльскія выспы, былі сярод першых дасьледнікаў Паўночнага Ледавітага акіяну й Тунгускага мэтэарыту, заснавалі горад Анадыр і шэраг партоў на ўзьбярэжжы згаданага акіяну, праводзілі першыя гідралягічныя й акіянаграфічныя дасьледаваньні ў Арктыцы, Запаляр'і, Усходняй Сібіры, „адкрылі“ золата на Калыме, асвоілі расейскую „нафтагазавую трубу“ й ажыцьцявілі шмат іншых цікавых адкрыцьцяў, што паспрыялі разьвіцьцю расейскай і сусьветнай навукі. Храналягічна нарысы ахопліваюць час ад канца XVI ст., калі *„пан литовский полоненик“* з Магілёўшчыны Юры Даўгушын першым перайшоў Надым-раку, а потым раку Таз, і да другой паловы XX ст., калі беларусы бралі ўдзел у выпрабаваньнях і паходах атамных падводных лодак пад крыгамі Арктыкі, як нарадзінец Мёршчыны Ягор Тамко (1935—2008).

Плёнам шматгадовай працы Валера Ярмоленкі стала сыстэматызаваная інфармацыя як пра раней вядомых дзеячаў (Чэрскі, Бялыніцкі-Біруля ды інш.), гэтак і пра шмат якіх дасюль малавядомых у Беларусі асобаў, у тым ліку й з савецкіх часоў. Навукова-папулярнае выданьне, „Беларусы й Руская Поўнач“ не прэтэндуе на паўнату ды вычарпаль-

насьць зьвестак, да таго ж мае й выразны ідэалягічны падтэкст: давесьці пра *„шматвяковае імкненьне беларусаў і расейцаў да збліжэньня адных з другімі“*. Аўтар сьцьвярджае: *„Для нас зьяўляецца важным, што нашыя народы сумесна працавалі, пераадольвалі вялікія складанасьці, асвойваючы непамерныя прасторы Расеі“* (с. 6). Аднак нягледзячы на згаданую ідэйную зададзенасьць выданьня й папулярны характар (што перадумовіла адсутнасьць усялякіх спасылак на крыніцы), пададзеныя ў кнізе зьвесткі безумоўна важныя й здольныя зацікавіць іншых навукоўцаў, дасьледнікаў гісторыі беларускай прысутнасьці ў Расеі й сьвеце.

*Кошалеў М., Папоўская Т. Гісторыя беларуска-малдаўскіх узаемаадносін. Мінск: Беларуская навука, 2009. — 187 с.*

Беларусам Малдовы пашанцавала больш як іншым суайчыньнікам на ўсёй астатняй постсавецкай прасторы, бо менавіта яны апынуліся ў цэнтры сыстэматычнага вывучэньня свайго жыцьця з боку мэтрапольных навукоўцаў з Інстытуту гісторыі Нацыянальнай Акадэміі навук. Так, цягам апошняга дзесяцігодзьдзя пабачылі сьвет колькі дзясяткаў артыкулаў і адмысловых зборнікаў, а пэўным абагульненьнем усяго напрацаванага выглядае выдадзеная ў 2009 г. кніга „Гісторыя беларуска-малдаўскіх узаемаадносін“.

У кнізе зроблены грунтоўны агляд гістарыяграфіі пытаньня (як беларускай, гэтак і малдаўскай), сур'ёзны нарыс гісторыі беларуска-малдаўскіх сувязяў ад старажытнасьці, часоў існаваньня Малдаўскага княства й яго дачыненьняў зь Вялікім Княствам Літоўскім і Рэччу Паспалітай, да сучаснасьці. Асаблівая ўвага зьвернутая на беларусаў і народзінцаў беларускіх земляў, што зрабілі адметны ўнёсак у гісторыю Малдовы. Сярод іх — грамадзкі дзеяч Мікалай Судзілоўскі, мастакі Ўладзімер і Расьціслаў Акушкі, пэдагог Аляксандар Шымаоўскі й інш. Апавядаецца пра народзінку мястэчка Дуброўна Магілёўскай губэрні (цяпер Віцебская вобласьць) габрэйскага паходжаньня Ганну Тумаркіну (1875—1951), што вырасла ў Кішынёве, вучылася ва ўнівэрсытэтах Нямеччыны й Швайцарыі ды стала першай у гісторыі жанчынай — прафэсарам філязофіі, аўтаркай шматлікіх публікацыяў. Імем Ганны Тумаркінай назвалі адну з вуліцаў у Бэрне (Швайцарыя), а ейны брат Лазар, народжаны таксама ў Беларусі ў 1865 г., стаў у Малдове вядомым мэдыкам, стваральнікам мэдычнага цэнтру й водалякарні.

Асобная вялікая частка кнігі прысьвячаецца беларуска-малдаўскім дачыненьням у часы СССР. Тут адзначаецца ўдзел беларусаў у вызваленьні Малдовы і ўдзел малдаванаў у ваенных дзеяньнях на тэрыторыі Беларусі, разглядаецца далейшая эканамічная, культурная й навуковая супраца. Аналягічна падаецца палітычныя, гандлёва-эканамічныя, культурныя, навуковыя й адукацыйныя дачыненьні паміж краінамі часоў незалежнасьці: ад пачатку 1990-х да сучаснасьці.





Апошняя частка кнігі прысьвячаецца беларускай дыяспары ў Малдове. Аўтары характарызуюць мясцовую грамаду так: *„Параўнальна невялікая па колькасьці, яна зьяўляецца адной з найбольш актыўных, добра структураваных і кансалідаваных сярод раскіданых па сьвеце беларускіх нацыянальных абшчын“* (с. 121). Пачаткі сталай прысутнасьці беларусаў у гэтай паўднёвай краіне магчыма прасачыць ад канца XIX ст. Так, ужо расейскі перапіс 1897 г. зафіксаваў у тагачаснай Бесарабіі 2 471 беларуса, хоць, паводле дасьледнікаў, рэальная колькасьць нашых суайчыньнікаў на згаданай тэрыторыі была значна большая. Асабліва імкліва стаў павялічвацца лік беларусаў у Малдове пасьля Другой сусьветнай вайны. Прыкладам, у 1959 г. тут стала жылі больш за 9 тысячаў беларусаў, а да 1989 г. іх ужо было ў Малдове каля 19,6 тысячы чалавек. У кнізе згадваюцца беларусы, што зрабілі адметны ўнёсак у эканоміку, сельскую гаспадарку, мэдыцыну, культуру саюзнай рэспублікі.

З разбурэньнем СССР частка нашых суайчыньнікаў вярнулася на радзіму, іншыя вырашылі аб'яднацца ў нацыянальную грамаду. Так, у 1993 г. была зарэгістраваная Беларуская грамада ў Малдове на чале з Уладзімерам Дзяржыцкім, ад якой пачалося структурнае афармленьне беларускай дыяспары ў гэтай краіне. Сёньня асобныя беларускія суполкі, у якія аб'ядналіся каля 2 300 суайчыньнікаў, дзеюць у Цірaспалі, Бэндэры, Бэлцы, Грыгарыёпалі, Рыбніцы, Камраце. У 2000 г. заснаваная Каардынацыйная нацыянальная рада кіраўнікоў беларускіх грамадаў Малдовы, што ўзгадняе пляны свае дзейнасьці з амбасадай Рэспублікі Беларусь у гэтай краіне. У Кішынёве працавала беларуская школа, дзейнічае беларуская бібліятэка імя Максіма Багдановіча, штогод адбываюцца фэстывалі беларусаў Малдовы. Відавочна, што беларуская дыяспара ў гэтай паўднёвай краіне зьяўляецца прыкладам шчыльнага ўзаемадзеяньня беларускага ўраду з суайчыньнікамі за мяжой. Якімі будуць вынікі такой супрацы — пакажа час. Але адну выснову можна зрабіць ужо сёньня, бо менавіта дзякуючы добрым стасункам малдаўскіх беларусаў з афіцыйным Менскам і стала магчымае навуковае вывучэньне гэтай дыяспары ў дзяржаўнай установе й выданьне згаданай кнігі.

У дадатку да кнігі зьмяшчаюцца некалькі дакумэнтаў з гісторыі беларуска-малдаўскіх дачыненьняў, пераважна найноўшага часу, ёсьць іменны й геаграфічны паказьнікі.

Наагул жа кніга „Гісторыя беларуска-малдаўскіх узаемаадносін" па-за некаторай зразумелай ідэалягічна адпаведнай дзяржаўніцкай рыторыкай і прыгожай статыстыкай эканамічнай супрацы пакідае ўражаньне добрасумленна выкананай дасьледніцкай працы, цікавы фактычны матэрыял зь якой можа стаць падмуркам для працягу вывучэньня беларускай прысутнасьці ў Малдове, а мэтадалягічныя падыходы — своеасаблівым узорам для вывучэньня беларускіх дыяспараў у іншых постсавецкіх краінах.

*Мальдис А. Белорусские сокровища за рубежом. Минск: Літаратура і мастацтва, 2009. 208 с. — (Беларусь: вчера и сегодня) (Наклад 200 ас.)*

Беларускае замежжа ўлучае ў сябе ня толькі арганізацыі ды эміграцыйных дзеячаў, але й тыя матэрыяльныя каштоўнасьці, якія тым ці іншым шляхам апынуліся па-за межамі мэтраполіі. Менавіта гэтым рэліквіям і рарытэтам прысьвечаная кніга прафэсара Адама Мальдзіса „Беларускія скарбы за мяжой". Выданьне ўяўляе сабою зборнік артыкулаў, друкаваных аўтарам на старонках газэты „СБ. Беларусь сегодня". Кожны тэкст мае завершаны сюжэт і прысьвечаны пэўнай каштоўнасьці ці комплексу каштоўнасьцяў (архівам, рэліквіям і г. д.) або краіне.

У кнізе аднаўляюцца цікавыя гісторыі зьнікненьня, пошукаў, а часам і вяртаньня на радзіму ў тым ці іншым выглядзе скарбаў беларускай культуры. Аўтар падае тут гісторыі Слуцкага Эвангельля, крыжу Эўфрасіньні Полацкай, слуцкіх паясоў, бібліятэкі Яўхіма Храптовіча, нясьвіскай мастацкай галерэі Радзівілаў і інш. Асобныя тэксты прысьвячаюцца беларускім каштоўнасьцям у Польшчы, Літве, Нямеччыне, Францыі, Вялікабрытаніі. На жаль, няма інфармацыі пра беларускія рарытэты ў ЗША, хоць тут, сярод іншага, у архіве Беларускага інстытуту навукі й мастацтва захоўваюцца аўтографы Янкі Купалы, Уладзімера Жылкі й інш.

Цікавай выглядае частка кнігі, прысьвечаная праблеме „дзе й што варта шукаць". Тут Адам Мальдзіс нібыта фармулюе заданьні для будучых дасьледнікаў. Пры гэтым згадваюцца магчымыя кірункі пошукавай працы ў такіх „экзатычных" краінах, як Іран, Кенія, Кітай ды інш.

Несумненна, у тэкстах газэтнага фармату, разьлічаных на шырокае кола чытачоў, могуць быць пэўныя спрашчэньні й абагульненьні. Некаторая інфармацыя патрабуе таксама і ўдакладненьня. Так, прыкладам, згаданая ў разьдзеле, прысьвечаным Францыі, Ніна Абрамчык, памерла яшчэ ў 2003 г. і таму „архівам БНР" яна распараджацца ўжо ня можа. Дый лёс самога архіву на сёньня застаецца сапраўды невядомы.





У тэкстах, што склалі кнігу „Беларускія скарбы за мяжой" няма так патрэбных навукоўцам спасылак на крыніцы, аднак ёсьць жывы, месцамі нават захапляльны аповед, здольны выклікаць у чытача цікавасьць да праблематыкі беларускага замежжа.

*Павлович Р. Русско-японская война 1904—1905 годов и Беларусь. Минск: Смэлток, 2009. — 76 с. (Наклад 110 ас.)*

Беларускі ўдзел у расейска-японскай вайне да сёньня мала прыцягваў да сябе ўвагу дасьледнікаў. Адзіным, бадай, выключэньнем можна назваць працу гарадзенскага гісторыка Сьцяпана Стурэйкі „Беларускія губэрні ў руска-японскай вайне (1904—1905)", што пабачыла сьвет у Менску ў 2007 г. І вось праз два гады ў менскім выдавецтве „Смэлтак" выйшла кніга ўжо менскага акадэмічнага гісторыка Рамана Паўловіча „Расейска-японская вайна 1904—1905 гадоў і Беларусь". Аўтар паставіў сабе на мэце *„зрабіць спробу стварэньня цэласнай карціны ўдзелу нашых землякоў у расейска-японскай вайне 1904—1905 гг."* (с. 5).

Першая частка кнігі ўяўляе сабою кароткі агляд замежнай і айчыннай гістарыяграфіі тае вайны. Раман Паўловіч разглядае як асноўныя „клясычныя" дасьледаваньні, так і найноўшыя публікацыі. Пры гэтым амаль да кожнай зь іх аўтар робіць няспынную заўвагу, што беларускі сьлед тут не разглядаецца.

Уласна беларусам у расейскай арміі й флёце прысьвячаюцца 30 старонак кнігі (яе другая частка). Праўда, і тут аўтар спачатку аддае ўвагу ўласна падзеям вайны і толькі пасьля зьвяртаецца да беларускага матэрыялу. Раман Паўловіч гаворыць пра цяжкае эканамічнае становішча на беларускіх землях і цяжар дзевяці мабілізацыйных кампаніяў, на падставе архіўных дакумэнтаў прыводзіць прыклады лёсаў землякоў, пакліканых у войска. Аднак у тэксьце нават прыблізна не акрэсьліваецца колькасьць нарадзінцаў Беларусі, мабілізаваных для ўдзелу ў ваенных дзеяньнях. Ёсьць толькі пазнака, што да студзеня 1905 г. адно з Ігуменскага ўезду забралі 4 556 чалавек.

Далей у кнізе падаюцца прыклады канкрэтных асобаў — афіцэраў і шараговых беларусаў, — а таксама цікавых ваенных падзеяў, зь імі зьвязаных, геройчных дзеяньняў нашых землякоў. На жаль, не падаецца ў кнізе й нават прыблізная колькасьць агульных стратаў беларусаў

у вайне. У сувязі з шматлікімі спасылкамі на вынікі дасьледаваньня Сьцяпана Стурэйкі, застаецца не зусім зразумела, што істотнае дадаў да зьвестак гарадзенскага гісторыка сам Раман Паўловіч.

Кніга „Расейска-японская вайна 1904—1905 гг. і Беларусь“ сталася хутчэй яшчэ адной спробай пастаноўкі праблемы й засьведчыла неабходнасьць яшчэ больш грунтоўнага вывучэньня адзначанай тэмы. Зрэшты, пра гэта згадвае напрыканцы й аўтар (с. 67—68).

*Шабельцаў, Сяргей. Беларусы ў Аргенціне: грамадская дзейнасць і рээміграцыя ў СССР (1930—1960-я гг.): зборнік дакументаў і ўспамінаў. Мінск: Медысонт, 2009. — 368 с. — (Бібліятэка Бацькаўшчыны: кн. 17).*

Аргентынская беларуская дыяспара адрозьніваецца ад дыяспараў у іншых краінах найперш сваёй ідэйнай скіраванасьцю, пракамуністычным характарам. І гэта своеасаблівы фэномэн у беларускім жыцьці на Захадзе, несумненна варты ўвагі й вывучэньня. Да сёньня былі апублікаваныя толькі асобныя ўспаміны або дакумэнты да гісторыі беларускай Аргентыны. У выдадзенай жа ў сэрыі „Бібліятэка Бацькаўшчыны“ кнізе аўтар-складальнік сабраў шмат цікавых і разнастайных матэрыялаў, якія адлюстроўваюць і спэцыфіку беларускага жыцьця ў гэтай краіне, і працэс рээміграцыі суайчыньнікаў у Беларусь, і іхныя лёсы на савецкай радзіме.

У прадмове да кнігі робіцца агляд гісторыі стварэньня беларускай дыяспары ў Аргентыне (храналягічна адной зь першых беларускіх дыяспараў у XX ст. на Захадзе). Сяргей Шабельцаў выразна прасочвае яе адметнасьці, у параўнаньні з дыяспарамі ў іншых краінах.

Кніга падзяляецца на некалькі тэматычных разьдзелаў. Першы — „Беларускія імігранты ў Аргентыне (1930 — сяр. 1950-х гг.)“ — прысьвечаны працэсу станаўленьня беларускіх арганізацыяў у краіне, працы імігрантаў дзеля падтрыманьня Савецкага Саюзу. У другім разьдзеле — „Беларускія рээмігранты (1955 — 1960-я гг.)“ — разглядаецца працэс рээміграцыі беларусаў Аргентыны ў СССР, а таксама ўплыў водгукаў рээмігрантаў пра СССР на жыцьцё беларускай дыяспары ў Аргентыне. У апошнім разьдзеле чытач знойдзе ўспаміны рээмігрантаў, у тым ліку і беларуска-іспанскага перакладніка, літаратара й праваабаронцы Карласа Шэрмана.

„Беларусы ў Аргентыне“, несумненна, не менавіта дасьледчая праца — гэта зборнік дакумэнтаў, прычым і дакумэнтальныя матэрыялы пра жыцьцё суайчыньнікаў у далёкай паўднёваамэрыканскай краіне апублікаванымі тут тэкстамі не вычэрпваюцца. Хочацца спадзявацца,





што выданьне стане важным крокам для стварэньня грунтоўнага аналітычнага дасьледаваньня гісторыі беларускай прысутнасьці ў Аргентыне.

*Shirin Akiner. Religious Language of a Belarusian Tatar Kitab. A Cultural Monument of Islam in Europe / With a Latin-Script Transliteration of the British Library Tatar Belarusian Kitab (OR 13020) on CD-ROM. Wiesbaden: Harrasowitz Verlag, 2009. — 457 p. + CD*

У кнізе брытанскай дасьледніцы Шырын Акінэр, зробленай на падставе ейнай дысэртацыі, падаецца гісторыя татараў ды іхнага зьяўленьня ў Вялікім Княстве Літоўскім, асаблівасьці іхных рэлігійных практык у розныя часы, адметнасьці мовы рэлігійнай літаратуры.

Аўтар дэталёва дасьледуе мову Кітабу, які захоўваецца ў Брытанскай бібліятэцы. Вылучае беларуска-польскія, стараславянскія, дыялектныя й арабска-пэрсыдзкія кампанэнты паходжаньня мовы гэтага гістарычнага помніку, сэмантычныя асаблівасьці й інш. У кнізе зьмяшчаюцца дадаткі з ілюстрацыямі, мапамі, вытрымкамі з тэксту. На дададзеным дыску даецца лацінкавая трансьлітарацыя ўсяго тэксту помніку культуры беларускіх татараў.

Варта таксама згадаць, што ў бібліятэцы імя Ф. Скарыны захоўваецца, відавочна, зробленае ў адзінкавым асобніку адмыслова для яе калекцыі выданьне: *Latin-Script Transliteration of the British Library Tatar Bielarusian Kitab (OR 13020) by Shirin Akiner. Presented to Francis Skaryna Belarusian Library. London, May 2009. — 241 p.*

*Гардзіенка, Наталля. Беларусы ў Вялікабрытаніі. Мінск: Медысонт, 2010. — 620 с. — (Бібліятэка Бацькаўшчыны; кн. 18). (Наклад 500 ас.)*

Да шэрагу кніг, прысьвечаных беларускай дыяспары ў асобных краінах, у 2010 г. дадалася яшчэ адна — праца Натальлі Гардзіенкі „Беларусы ў Вялікабрытаніі“, што пабачыла сьвет у сэрыі „Бібліятэка Бацькаўшчыны“. „Беларусы ў Вялікабрытаніі“ — першая агульная дасьледчая праца, прысьвечаная розным аспэктам беларускай прысутнасьці ў гэтай краіне. У выданьні разглядаецца гісторыя беларуска-брытанскіх кантактаў, шляхі й матывы прыезду нарадзінцаў беларускіх земляў у Вялікабрытанію. Найбольшая ўвага надаецца дзейнасьці пасьляваеннай хвалі беларускай іміграцыі ў гэтай краіне. Падрабязна разглядаецца гісторыя асобных арганізацыяў: Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, Хрысьціянскага аб'еднаньня беларускіх работнікаў, Англа-беларускага таварыства, Беларускай бібліятэкі імя Ф. Скарыны й інш.

Адмысловая ўвага надаецца рэлігійнаму жыцьцю беларусаў, гісторыі асобных праваслаўных парафіяў, дзейнасьці Беларускай каталіцкай місіі ўсходняга абраду.

Паводле словаў аўтаркі, ідэя стварэньня такой кнігі нарадзілася ў 2005 г. у сяброў Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі. У арганізацыі захаваўся значны архіў, што патрабаваў вывучэньня. І менавіта на падставе інфармацыі з гэтага, а таксама іншых архіваў ды фондаў Беларускай бібліятэкі імя Ф. Скарыны ў Лёндане была напісаная кніга.

„Беларусы ў Вялікабрытаніі" — своеасаблівая энцыкляпэдыя беларускага жыцьця на Туманным Альбіёне. Пры канцы кнігі зьмяшчаецца таксама адмысловы даведнік беларускіх мясьцінаў у Вялікабрытаніі. А такіх месцаў у гэтай краіне шмат. „Гэта і парлямэнт, які наведвалі і ранейшыя дыпляматы, і прадстаўнікі Рэчы Паспалітай, такія, як Станіслаў Панятоўскі, і дзе пазьней ладзіліся адмысловыя прыёмы ў гонар беларусаў і 25 Сакавіка. Гэта і Брытанскі музэй, дзе захоўваюцца выданьні Францыска Скарыны, лёнданскія кнігі Аляксандра Рыпінскага, і шмат іншага. Гэта і Альбэрт-Гол ды заля Ўэстмінстарскай катэдры, дзе выступалі беларусы, у тым ліку славуты Пётра Конюх", — піша аўтарка ў прадмове да даведніка беларускіх мясьцінаў (с. 502). Нямала ў Вялікабрытаніі і месцаў, створаных самімі беларусамі. Акрамя таго, у кнізе зьмяшчаюцца зьвесткі аб беларускіх могілках у краіне ды падаюцца біяграфіі беларускіх дзеячаў, чыё жыцьцё зьвязана зь ёй.

*Мірановіч, Яўген. Беларусы ў Польшчы (1918—1949). Вільня: Інстытут беларусістыкі; Беласток: Беларускае гістарычнае таварыства, 2010. — 191 с.*

Беларусы ў Польшчы ўяўляюць сабою ўнікальную зьяву ў беларускім замежжы. Гэта адна з найбольш колькасных і кампактных частак некалі агульнай беларускай этнічнай супольнасьці. У выніку палітычных і геапалітычных абставінаў адарваныя ад „мэтраполіі" мясцовыя беларусы маюць свой спэцыфічны досьвед гістарычнага разьвіцьця як групы, а таксама культурна-палітычнай адаптацыі як нацыянальнай меншасьці.

Нягледзячы на багацьце й разнастайнасьць матэрыялаў для вывучэньня жыцьця беларусаў Польшчы, геаграфічную блізкасьць і адносна спакойна-ляяльнае стаўленьне да вывучэньня гэтай тэмы ў Беларусі, грунтоўных абагульняльных гістарычных, культуралягічных, эканамічных і іншых працаў, прысьвечаных ёй, на сёньня амаль няма. Выдадзеная супольнымі намаганьнямі віленскага Інстытуту беларусістыкі й беластоцкага Беларускага гістарычнага таварыства кніга Яўгена Мірановіча — пераклад напісанай яшчэ пры канцы 1980-х гг. і абароненай у Варшаўскім унівэрсытэце доктарскай працы, якую апублікавалі ў польскамоўным варыянце яшчэ ў 1993 г. Для свайго часу яна, заснаваная на архіўных матэрыялах, літаратуры і ўспамінах жыхароў Беласточчыны, стала своеасаблівым адкрыцьцём беларускай тэмы ў Польшчы.

Яўген Мірановіч паспрабаваў паказаць становішча беларускага насельніцтва Беласточчыны й праблемы, якія перад ім узьніклі *„ў апошні пэрыяд ягонага існаваньня як традыцыйнай супольнасьці"* (с. 8), то бок у 1944—1949 гг. Аднак каб вытлумачыць тыя працэсы, што адбываліся ў беларускім жыцьці згаданага рэгіёну ў паваенны час, аўтар пачынае сваю працу ад агляду гісторыі нараджэньня беларускага нацыянальнага руху ў другой палове XIX ст., а далей адмыслова засяроджваецца на гісторыі беларускай прысутнасьці ў польскай дзяржаве ў 1918—1939 гг. У выніку дасьледнік прыходзіць да высновы, што *„акрэсьленьні „беларус" і „беларускі" ў беластоцкіх вёсках зьявіліся ў міжваенны час і былі прынесеныя палітычнымі арганізацыямі, не зьяўляючыся прадуктамі культуры. [...] Беларускасьць праяўлялася галоўным чынам у палітычнай пазыцыі, і толькі ў невялікай ступені — у адчуваньні прыналежнасьці да акрэсьленай нацыянальнай супольнасьці"* (с. 51).

Пэрыяд савецкай улады быў на Беласточчыне непрацяглы і ўспрымаўся насельніцтвам па-рознаму, у залежнасьці ад асабістага досьведу: рэалізоўваліся некаторыя патрабаваньні, выстаўленыя раней беларускімі партыямі, але былі й рэпрэсіі ды дэпартацыі, якія, што праўда, не набылі масавага характару (с. 59—65). У адрозьненьне ад таго часу, пэрыяд нямецкай акупацыі Яўген Мірановіч вызначае як час, які *„быў у сапраўднасьці паразай для беларускай справы. [...] Тыя, хто ў гэты пэрыяд патрабаваў разьвіцьця беларускіх палітычных, асьветніцкіх, культурных, гаспадарчых інстытутаў, а таксама духавенства, якое прамаўляла казаньні па-беларуску, атрымалі ў хуткім часе ярлык калябарантаў і нацыяналістаў. Неўзабаве кожнага, хто публічна заяўляў, што ён беларус і выказваў патрабаваньні нацыянальнага характару, акрэсьлівалі менавіта так"*. І далей: *„Нямецкая акупацыя ўмацавала пераканаsuccessfulньне насельніцтва, што толькі пасіўнасьць дае найбольшыя шанцы на выжываньне"* (с. 91).

Такім чынам, у паваенны час на тэрыторыі Польшчы апынулася вельмі спэцыфічная беларуская супольнасьць, што складала каля

200 тысячаў чалавек. І другую частку працы Яўген Мірановіч прысьвяціў вывучэньню менавіта гэтай паваеннай супольнасьці, асаблівасьцяў яе разьмяшчэньня, эканамічнага становішча, палітычных умоваў нацыянальнага жыцьця й г. д. Адмыслова аўтар зьвяртае ўвагу на магчымасьці асьветы на роднай мове й спэцыфіку нацыянальнай самасьвядомасьці. У выніку дасьледнік прыходзіць да высновы, што *„нацыянальную сьвядомасьць беларускага насельніцтва на Беласточчыне нельга акрэсьліць адназначна. Гэтай меншасьці нельга прыпісаць рысаў сфармаванага народу ці нават народнасьці і нават акрэсьліць ейную самасьвядомасьць як сьвядомасьць этнічнай групы. [...] Нацыянальна сьвядомых беларусаў можна сустрэць і сярод сялян, і сярод інтэлігенцыі, і сярод рамесьнікаў, у вясковым і гарадзкім асяродзьдзі, але сярод тых жа самых групаў шмат было „тутэйшых“, „праваслаўных“, „простых людзей“, „рускіх“. У зьмененых прапорцыях такі стан захоўваўся таксама і ў наступныя дзесяцігодзьдзі“* (с. 178).

Згаданыя ў нечым пэсымістычныя высновы Яўгена Мірановіча дазваляюць у некаторай ступені патлумачыць выказаную аўтарам заўвагу адносна беларускай сучаснасьці ў Польшчы, зробленую ў „Слове да беларускага чытача“: *„Сёньня беларусаў Беласточчыны і Рэспублікі Беларусь не аб’ядноўваюць ні мова, ні нацыянальная культура, якія вядомыя ў Польшчы толькі нешматлікім прадстаўнікам грамадзкай эліты. Аб’ядноўвае нас толькі падабенства лёсу“* (с. 7).

Праца Яўгена Мірановіча, несумненна, была й застаецца важным дасягненьнем у вывучэньні беларускага жыцьця ў Польшчы. Аднак яе можна сёньня назваць своеасаблівым першым крокам. За апошнія дзесяцігодзьдзі зьявіліся новыя матэрыялы, новыя падыходы, дый ёсьць разуменьне, што беларускае жыцьцё ў Польшчы не вычэрпваецца выключна Беласточчынай. Відавочна, што абагульняльнае дасьледаваньне па гісторыі беларускай прысутнасьці ў Польшчы, а таксама што да сучаснага стану тамтэйшай беларускай супольнасьці, яшчэ наперадзе. І выданьне беларускамоўнага варыянту працы Яўгена Мірановіча гэтаму мусіць паспрыяць.

*Скарыніч. Літаратурна-навуковы гадавік. Вып. 8—9. Масква: Советский писатель, 2010. — 287 с. (Наклад 400 ас.)*

Новы выпуск літаратурна-навуковага гадавіка „Скарыніч“, што выдаецца ў Маскве мясцовымі беларусамі, прысьвечаны найперш тысячагодзьдзю летапіснае Літвы. Першы разьдзел пэрыёдыка — „Крыўя—Русь—Літва—Беларусь“ — складаюць тэксты дакумэнтаў





(прыкладам, летапісаў), літаратурныя творы (вершы Максіма Багдановіча), а таксама публікацыі навукоўцаў розных часоў і публіцыстаў на тэму гісторыі й сучаснасьці Літвы-Беларусі. Сярод іншага, зьмяшчаецца тут ліставаньне Міколы Ермаловіча зь Міколам Улашчыкам пад красамоўнай назвай „У пошуках летапіснай Літвы“. У тым самым разьдзеле ёсьць нізка матэрыялаў пра беларусаў савецкіх часоў (прыкладам, „Незабыўнае дзесяцігодзьдзе П. Панамарэнкі (1938—1948)“ Віталя Скалабана) ды сучасныя праблемы беларускай дзяржавы й грамадзтва (сярод іншых — тэксты Зянона Пазьняка, Аляксея Марачкіна, Віктара Чайчыца, Алега Рудакова й інш.). Зварот да тэмы згаданых угодкаў летапіснае Літвы выкліканы, відаць, ня толькі ўласна юбілейнымі падзеямі, але й самой папулярнасьцю, якую набыла тэма „ліцьвінства“ ў беларускім грамадзтве ў апошнія гады, хоць сучасная канцэпцыя „ліцьвінства“ й не асабліва гучыць у альманаху. І гэта зразумела, бо ў прадмове да выданьня ўкладальнік адназначна сьцьвярджае: *„Не выпадае нам у XXI сталецьці перайначвацца на „літвінаў“ або „рускіх“ (нават „са знаком качэства“). Застаемся пры сваім — беларусамі“* (с. 7).

Літаратурны й літаратуразнаўчы разьдзел „У свойскай прасторы“ складаюць тэксты, прысьвечаныя беларускім пісьменьнікам, беларуска-расейскім літаратурным сувязям, асаблівасьцям беларускай прысутнасьці ў маскоўскай прасторы — што зьяўляецца традыцыйнай тэмай і клопатам „Скарыніча“. З гэтым зьвязаны, бадай, і яшчэ адзін разьдзел гадавіка: „Архівы. Ліставаньне“, — дзе прэзэнтоўваецца, сярод іншага, цікавая публікацыя сьведчаньняў у справе „Саюзу вызваленьня Беларусі“.

У асобны разьдзел вылучаюцца тэксты „Скарыніяны“, дзе публікуецца артыкул Мітрафана Доўнар-Запольскага, прысьвечаны беларускаму першадрукару, ды артыкул Генадзя Кісялёва „Брат“, што зьяўляецца перадрукам аднаго з разьдзелаў апошняй кнігі славутага беларускага навукоўца і таксама закранае асобу Францыска Скарыны.

Новы выпуск „Скарыніча“ сьведчыць пра захаваньне гадавіком свайго ўласнага непаўторнага твару, арыгінальнай канцэпцыі й сур’ёзнага ўзроўню публікацыяў. Выданьне маскоўскіх беларусаў хоць і трымаецца, відавочна, найперш на ахвярнай працы й аўтарытэце Аляксея Каўкі, сёньня застаецца адным з найбольш вартасных і сур’ёзных пэрыядычных выданьняў беларускага замежжа.

*Станкевіч, Станіслаў. Беларускія элементы ў польскай рамантычнай паэзіі. Вільня: Інстытут беларусістыкі; Беласток: Беларускае гістарычнае таварыства, 2010. — 212 с.*

Павольна „вяртаецца“ ў Беларусь творчая спадчына эмігрантаў-інтэлектуалаў. Чарговым крокам на гэтым шляху стала выданьне працы Станіслава Станкевіча „Беларускія элемэнты ў польскай рамантычнай паэзіі“. Кніга ёсьць перакладам з польскай мовы, працы, выдадзенай у Вільні ў 1936 г. Асноўную ўвагу ў тэксьце Станкевіч надае вывучэньню творчасьці Адама Міцкевіча. Аўтар перакладу й прадмовы Мікола Хаўстовіч адзначае, што вынікі дасьледаваньня Станкевіча былі вядомыя й выкарыстоўваліся ў БССР і сучаснай Беларусі: *„Але, скажам, калі ў 50-я гады скрыта цытуючы яе* [працу. — ***Я. С.***], *лічылі неабходным дадаць пра буржуазна-нацыяналістычную тэндэнцыйнасьць аўтара; дык сёньня, тлумачачы той ці іншы Міцкевічаў матыў, адно толькі спасылаюцца на ўказаную С. Станкевічам фальклёрную крыніцу, прыводзяць нібыта зь яе тэксты, не пераправяраючы, хоць з-за памылак друку ў С. Станкевіча гэтыя тэксты знаходзяцца на іншых старонках, а то і ў іншых выданьнях“* (с. 8).

Паводле высновы Міколы Хаўстовіча, *„Зробленае С. Станкевічам уражвае сваёй маштабнасьцю, грунтоўнасьцю. Значэньне ягонае кнігі не траціцца з часам. Менавіта дасьледаваньні такога тыпу, дасьледаваньні, якія даводзяць уплыў беларускае архаікі на сьветапогляд А. Міцкевіча, на ягоную творчасьць, даюць падставы сьцьвярджаць: паэзія Адама Міцкевіча — гэта беларуская польскамоўная паэзія“* (с. 8). Можна спадзявацца, што інтэлектуальная спадчына й Станіслава Станкевіча, і іншых беларускіх эміграцыйных дзеячаў праз сваё „вяртаньне“ ў Беларусь прыцягне да сябе адмысловую ўвагу дасьледнікаў.



# У Беларускім інстытуце навукі й мастацтва выйшлі наступныя кнігі:

*у „Бібліяграфічнай сэрыі“:*

1. **Янка Купала й Якуб Колас на Захадзе.** Нью Ёрк, 1985. — 350 с.
2. **Byelorussian Statehood.** New York. 1988. — 398 p.
3. **Пяць стагодзьдзяў Скарыніяны.** Нью Ёрк, 1989. — XXVIII+283 с.
4. **Архівы Беларускай Народнай Рэспублікі.** Том I. Кн. 1—2. Вільня—Нью Ёрк—Менск—Прага, 1998. — 1721 с.
5. **Беларускія слоўнікі й энцыкляпэдыі.** Нью Ёрк—Менск, 2002. — XXXIII+570 с.
6. **Беларускі й беларусаведны друк на Захадзе:** Асобныя выданьні. Бібліяграфія. Нью Ёрк—Менск, 2003. — XXII+582 с.
7. **Belarusian Publishing in the West:** A Bibliography — Periodicals **= Беларускі й беларусаведны друк на Захадзе:** Бібліяграфія — Часапісы, газэты. New York, 2004. —XX+152 с.
8. *Vitaut Kipel, Zora Kipel.* **Belarusian Publishing in the West:** A Bibliography / Published by Belarusian Institute of Arts and Sciences; Institute of Slavic Studies, Polish Academy of Sciences. New York — Warsaw, 2006. — XVI+841 p.

*у сэрыі „Гісторыя эміграцыі“:*

1. *Ян Максімюк.* **Беларуская гімназія імя Янкі Купалы ў Заходняй Нямеччыне (1945—1950).** Нью Ёрк—Беласток, 1994. — 196 с.

2. *Янка Запруднік*. **Дванаццатка:** Дакумэнтальная аповесьць пра дванаццацёх беларускіх хлапцоў у Нямеччыне, Вялікабрытаніі й Бэльгіі (1946—1954 гг.). Нью Ёрк, 2002. — 510 с.

3. *Лявон Юрэвіч*. **Летапісны звод сусьвету Чалавека Сьведамага: Гісторыя газэтаў „Бацькаўшчына“ й „Беларус“ (1947—2000)**. Мінск: Беларускі кнігазбор, 2006. — 256 с. — (Бібліятэка Бацькаўшчыны, кн. 8).

4. *Барыс Рагуля*. **Беларускае студэнцтва на чужыне. Выданьне другое, выпраўленае і дапоўненае.** Мінск: Беларускі кнігазбор, 2006. — 188 с. — (Бібліятэка Бацькаўшчыны; кн. 10).

5. *Алег Гардзіенка*. **Беларускі Кангрэсавы Камітэт Амэрыкі (БККА).** Смаленск, 2009. — 428 с. — (Бібліятэка Бацькаўшчыны, кн. 16).

6. *Юры Гарбінскі*. **Беларускі рэлігійны друк на Захадзе: перыёдыка, графічныя друкі 1945—2005.** Нью Ёрк—Варшава, 2009. — 884 с. + CD.

*рыхтуецца да друку:*

7. *Зьміцер Саўка*. **Гісторыя Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня (1949—1999).**

*у сэрыі „Беларускія паэты й пісьменьнікі“:*

1. *Натальля Арсеньнева*. **Між берагамі:** Выбар паэзіі. Нью Ёрк—Таронта, 1979. — XXXIX+350 с.

2. *Алесь Салавей*. **Нятускная краса:** Збор твораў. Нью Ёрк—Мэльбурн, 1982. — XVI+373 с.

3. *Аляксандра Саковіч*. **У пошуках праўды:** Апавяданьні й аповесьці. Нью Ёрк—Кліўлэнд, 1986. — 254 с.

4. *Міхась Кавыль*. **Міжагнёўе:** Выбраныя творы. Нью Ёрк, 1990. — XXI+344 с.

5. *Уладзімер Дудзіцкі*. **Напярэймы жаданьням:** Збор твораў. Нью Ёрк, 1994. — XXIX+312 с.

6. *Мікола Цэлеш*. **Хмары над Бацькаўшчынай:** Апавяданьні. Нью Ёрк, 1995. — XXXV+299 с.

7. *Юрка Віцьбіч*. **Антыбальшавіцкія паўстаньні і партызанская барацьба на Беларусі.** Нью Ёрк, 1996. — XVI+397 с.

8. **Архіўная кніга /** Аўтар-укладальнік *Лявон Юрэвіч*. Нью Ёрк, 1997. — 446 с.



9. *Лявон Крывічанін*. **Беларусізацыя пад №...** Нью Ёрк, 1998. — 164 с.

10. *Лявон Юрэвіч*. **Беларуская мэмуарыстыка на эміграцыі.** Нью Ёрк, 1999. — 360 с.

11. *Антон Адамовіч*. **Творы.** Нью Ёрк, 2003. — XXXIV+764 с.

12. **Урачыстасьць у садзе:** Драматургія беларускай эміграцыі XX стагодзьдзя / Укладаньне і прадмова *Ванкарэма Нікіфаровіча*. Менск: Медысонт, 2007. — 536 с. (Бібліятэка Бацькаўшчыны; кн. 14).

*рыхтуецца да друку:*

14. **Сусьветная літаратура па-беларуску:** Кніга перакладаў.

Макет *Вінцэсь Жынкін*

Карэктура *Настасься Мацяш*

Падпісана да друку 08.12.2010. Фармат 60х84 1/16
Друк афсэтны. Ум. друк. арк. 13,7
Наклад 299 паасобнікаў. Замова 1801



# Маркі

## Беларускія маркі часоў нямецкай акупацыі, 1941—1944







## Маркі пасьляваеннай Рады БНР






## Маркі „Пошты ЗБВБ“, 1971




## Іншая марка






## Маркі і штампы Беларускай замежнай пошты






## Значкі й мэдалі



Значак беларусаў Прагі, 1920-я



Беларускі значак Берліну 1940-я



Скаўцкі значак канца 1940-х. Надпіс „Напагатове“




Адваротны бок значка ў гонар Другой сустрэчы Згуртаваньня беларускіх скаўтаў на чужыне (8—10.08.1947)



Значак у гонар Другой сустрэчы Згуртаваньня беларускіх скаўтаў на чужыне (8—10.08.1947), са скаўцкай эмблемай




Значак Згуртаваньня беларускіх патрыётаў




Значак Беларускага вызвольнага руху, 1950-я




Значак Беларуска-амэрыканскага задзіночаньня (БАЗА)




„Беларусы за прэзыдэнта Ніксана“. Значак часоў прэзыдэнцкай кампаніі 1968




Значак з часоў кампаніі выбараў Робэрта Тафта ў сэнат ЗША, 1970-я




„Беларусы за Тафта“. Значак з часоў кампаніі выбараў Робэрта Тафта ў сэнат ЗША, 1970-я




„Беларусы за Тафта“. Значак Араў-Парку, 1973




„Беларусы за Форда“. Значак часоў прэзыдэнцкай кампаніі 1976




„Беларусы за Торнбурга“. Значак часоў кампаніі выбараў губэрнатара штату Пэнсільванія, 1978




Мэдаль да 60-х угодкаў абвешчаньня незалежнасьці БНР, 1978




Адваротны бок мэдаля да 60-х угодкаў абвешчаньня незалежнасьці БНР, 1978




Мэдаль да тысячагодзьдзя Беларусі, 1980




Адваротны бок мэдаля да тысячагодзьдзя Беларусі, 1980




Мэдаль
„Жыве Беларусь!“,
БЦР,
канец 1970-х—1980-я




Адваротны бок
мэдаля „Жыве
Беларусь!“, БЦР




Мэдаль
„Беларускія вэтэраны
на чужыне. БЦР“,
канец 1970-х—1980-я




Мэдаль,
прысьвечаны БКА,
канец 1970-х—1980-я




Адваротны бок
мэдаля,
прысьвечанага БКА




Адваротны бок мэдаля
„Беларускія вэтэраны на
чужыне. БЦР“




Значак да стагодзьдзя
ад нараджэньня Янкі
Купалы й Якуба Коласа,
1982




„Беларусы за
Рэйгана—Буша“.
Значак часоў
прэзыдэнцкай кампаніі
1984




„Беларусы за
Рэйгана—Буша“.
Значак часоў
прэзыдэнцкай кампаніі
1984




Памятны мэдаль БЦР,
канец 1970-х—
1980-я




Мэдаль да 40-х угодкаў
Другога Ўсебеларускага
кангрэсу, 1984




Адваротны бок мэдаля
да 40-х угодкаў Другога
Ўсебеларускага
кангрэсу, 1984




Значак да 18-й
сустрэчы беларусаў
Паўночнай Амэрыкі.
Таронта, 1988




Значак да 19-й
сустрэчы беларусаў
Паўночнай Амэрыкі.
Кліўлэнд, 1990




Значак „Беларуска-
амэрыканскі цэнтар у
Саўт-Рывэры“




Значак да Сустрэчы беларусаў у Саўт-Рывэры, 1990




Значак да Сустрэчы беларусаў у Саўт-Рывэры, 1990




Значак да 75-х угодкаў абвешчання незалежнасьці БНР, 1993




Значак „Беларусь. 1944—1994“




Значак „Беларускі фонд Адраджэньня“



Беларуская бірулька. Вырабіў Жорж Навумчык, Саўт-Рывэр



Беларускі пярсьцёнак, 1990-я



Значак да 25-годдзя стварэньня Беларускага аб’еднаньня ў Паўднёвай Аўстраліі, 2003



Значак да ўгодкаў Беларуска-амэрыканскага задзіночаньня




Значак раднага БНР